НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»



# МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга
## I






Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2010

УДК 94(476.1)(031)
ББК 63.3(4Беи)я2
Г20

Выданне выходзіць з 2004 года



Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І. Лакоткі

У томе змешчаны фотаздымкі А.П. Дрыбаса, А.Л. Дыбоўскага, М.Ю. Калініна, А.В. Клешчука, В.А. Коласавай, Дзяржаўнага геральдычнага рэгістра Рэспублікі Беларусь, раённых выканаўчых камітэтаў Мінскай вобласці

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Гарады і вёскі Беларусі** : энцыклапедыя. Т. 8. Мінская вобласць. Кн. 1 / рэд-
Г20 кал. : Т.У. Бялова (дырэктар) [і інш.] ; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі ; Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ; Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2010. — 736 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0520-1.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе найноўшых архіўных і іншых крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі — 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, у тым ліку тых, якія зараз перасталі існаваць. Восьмы том выдання прысвечаны населеным пунктам 4 раёнаў Мінскай вобласці і гораду Мінску.

**УДК 94(476.1)(031)**
**ББК 63.3(4Беи)я2**

**ISBN 978-985-11-0520-1 (т. 8, кн. 1)**
**ISBN 978-985-11-0302-3**
**ISBN 978-985-11-0302-0**



# МІНСК

Сталіца Рэспублікі Беларусь, горад рэсп. падпарадкавання, цэнтр Мінскай вобласці і раёна. Палітычны, адм., прам., навук. і культ. цэнтр краіны. Гал. транспартны вузел краіны і вобласці. Размешчаны на р. Свіслач (правы прыток р. Бярэзіна), на паўд.-ўсх. схіле Мінскага ўзвышша. Падзяляецца на 9 раёнаў: Заводскі, Кастрычніцкі, Ленінскі, Маскоўскі, Партызанскі, Першамайскі, Савецкі, Фрунзенскі, Цэнтральны. Уключае пас. гар. тыпу Сокал. Насельніцтва 1 829,1 тыс. чал. (2009).

Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 г. як горад Полацкага княства, які быў захоплены антыполацкай кааліцыяй у складзе кіеўскага кн. Ізяслава Яраславіча і яго братоў пераяслаўскага кн. Усевалада і чарнігаўскага кн. Святаслава. Калі войскі Яраславічаў выйшлі з разрабаванага Мінска да р. Нямігі, іх сустрэлі атрады полацкага кн. Усяслава Чарадзея. 3.3. 1067 г. на берагах ракі адбылася Нямігская бітва, якая скончылася паражэннем палачан. Летапісныя назвы горада Меньск, Менеск; да 1569 г. яго назва пісалася толькі Менск.

Некаторыя гісторыкі і археолагі на падставе археал. даследаванняў, аналізу назваў гарадскіх гідронімаў, апісання бітвы на Нямізе ў «Слове аб палку Ігаравым» робяць высновы, што першапачаткова горад узнік за 16 км на З ад Мінскага замка, на беразе цяпер амаль высахлай р. Менка, каля сучаснай в. Гарадзішча Мінскага р-на, дзе захаваўся комплекс археал. помнікаў (Малое і Вялікае гарадзішчы, неўмацаванае селішча, 3 курганныя могільнікі). Даследчыкі лічаць, што ў 10 ст. паселішча на Менцы (адсюль назва горада) з'ўлялася эканам., рамесным і ваенным цэнтрам воласці. Тут знаходзілася рэзідэнцыя прадстаўнікоў княжацкай улады, якія кіравалі воласцю і збіралі падаткі.

Менская вол. у канцы 10 — пач. 11 ст. падпарадкоўвалася Кіеву (перыяд кіравання вялікіх князёў кіеўскіх Святаслава Ігаравіча і Уладзіміра Святаславіча). Пазней, у гады княжання ў Полацку кн. Брачыслава Ізяславіча [1003—1044], яна была далучана да Полацкага княства. Да 1086 г. полацкі кн. Усяслаў Брачыславіч выдзеліў Менскі ўдзел свайму сыну Глебу, што стала пачаткам фарміравання Менскага княства ў канцы 11 ст. Месцазнаходжанне Менска ў вярхоўях Пці- чы, верагодна, перастала адпавядаць новым умовам і функцыям, якія павінен быў выконваць горад як цэнтр удзельнага княства. Пасля з'яўлення новага цэнтра воласці на р. Свіслач (у 2-й пал. 11 ст.) паселішча на Менцы прыйшло ў заняпад, а яго назва перайшла на новы горад.



*Сучасны герб Мінска.*

Заснаванне горада на р. Свіслач прыйшлося на гады княжання ў Полацку Усяслава Брачыславіча [1044—1101]. Глеб Усяславіч княжыў у Менску з 1101 па 1119 г. Новы статус Менска, яго пераўтварэнне з парубежнага горада Полацкага княства ў цэнтр удзельнага княства патрабаваў пашырэння ўмацаванай часткі паселішча, будаўніцтва новых абарончых збудаванняў. Дзяцінец (умацаваны цэнтр) стараж. горада (пазней Мінскі замак) размяшчаўся на правым беразе Свіслачы,







*Дом гродскага суда на Мінскім замчышчы.*

пры ўпадзенні ў яе р. Няміга (раён сучаснай станцыі метро «Няміга» і праспекта Пераможцаў). Пляцоўка Мінскага замка (у летапісах «град», «горад», у дакументах 15—17 ст. — «замак», пазней «Стары горад», «Старое месца», «Стары замак», «Замкавая гара», «Замчышча») была абнесена магутным валам (перабудаваны ў 12 ст., вышыня каля 8 м), на грэбені якога ўзвышаліся драўляныя сцены. З паўд. боку вала знаходзілася ўязная брама тыпу вежы. Дадаткова замак умацоўваў роў, па якім працякала р. Няміга. Агульная пл. ўмацаванай часткі Менска складала каля 3 га. Згодна з даследаваннямі археолагаў, у 12—13 ст. на тэр. замка існавалі 80—82 двары, а яго насельніцтва складала 400—500 чал. Паміж 1069 і 1073 гг. (паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, у пач. 12 ст.) на Замчышчы пачалося будаўніцтва мураванай царквы.

У 12—13 ст. на Пд, ПдЗ і ПдУ ад замчышча вырас рамесны пасад з гандл. плошчай — Нямігскі рынак (з 16 ст. называўся Ніжні рынак). Пасады ўзніклі таксама на левым беразе Свіслачы каля Троіцкай (Траецкай) гары і на ПнЗ ад замка — Пятніцкі канец (тут існавалі Пятніцкая вуліца і Пятніцкая царква).

У 1105 г. (паводле Іпацьеўскага летапісу, у 1104 г.) менскі кн. Глеб Усяславіч адбіў напад на горад аб'яднанага войска паўднёварус. князёў. Пазней Глеб Усяславіч аб'яднаў вакол Менска Оршу, Друцк і Копысь. У 1116 г. Менскі замак вытрымаў аблогу дружыны Уладзіміра Манамаха, але ў 1119 г. кіеўскі кн. Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў горад і далучыў яго да сваіх уладанняў.

З сярэдзіны 12 ст. Менск зноў быў вядомы як цэнтр удзельнага княства, адзін з буйных гарадоў Полацкай зямлі, значны рамесна-гандлёвы цэнтр. Геагр. месцазнаходжанне вызначала яго ролю як аднаго з перавалачных пунктаў на гандл. водным шляху ад Кіева да берагоў Балтыйскага мора. Сухапутныя дарогі звязвалі Менск з інш. гарадамі. Менскія князі вялі барацьбу за дамінуючае становішча горада ў Полацкай зямлі і за полацкі прастол. У 1140-я г. ў горадзе аднавілася княжанне Глебавічаў: з 1146 г. княжыў Расціслаў Глебавіч, потым яго брат Валадар. У 1159, 1160 і 1161 гг. горад беспаспяхова спрабаваў захапіць кн. полацкі [1144— 1151] і друцкі (з 1158) Рагвалод Барысавіч.

У канцы 13 ст. Менск і княства трапілі пад уплыў літоўскіх князёў, а ў 1-й чвэрці 14 ст. ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ). У 1387 г. вял. кн. ВКЛ і кароль польскі Ягайла аддаў горад свайму брату Скіргайлу; у 1392 г. Менск перайшоў да вял. кн. ВКЛ Вітаўта. З 1413 г. ўваходзіў у склад створанага Віленскага ваяв. Падчас міжусобнай вайны ў ВКЛ у 1433 г. Мінск быў заняты і спалены кн. Свідрыгайлам. З 2-й пал. 15 ст. тут правілі намеснікі вялікага князя: у 1473 г. кн. І.Заслаўскі, потым І.Красны, у канцы

*Мінскі Верхні горад. Рэканструкцыя В.Сташчанюка.*







*Від на гістарычную забудову Мінскага Траецкага прадмесця з боку плошчы 8 Сакавіка.*

15 ст. — М.Іллініч, Б.Заслаўскі (да 1525 г.). Рэзідэнцыя велікакняжацкіх намеснікаў знаходзілася ў замку, які разам з Ніжнім рынкам складаў аснову планіровачнай структуры Мінска ў 14—15 ст. Тэр. Ніжняга рынку (Стары рынак) прылягала да замка з Пд і актыўна асвайвалася. Засяленне гэтага раёна Мінска працягвалася і ў 16 ст. Тут былі пабудаваны дамы заможных гараджан (рамеснікаў і гандляроў). На працягу 15 ст. таксама працягвалася засяленне Пятніцкага канца (на ПнЗ ад замка), сфарміравалася забудова Траецкага і Ракаўскага прадмесцяў. Ракаўскае прадмесце ўзнікла ўздоўж дарогі на Ракаў і звязвалася з горадам драўляным мостам. Вакол Мінска былі ўзведзены ўмацаванні — земляныя валы і равы.

З 15 ст. горад з'яўляўся цэнтрам утворанага Мінскага павета, а з 1565—1566 гг. — цэнтрам Менскага ваяводства (першы ваявода Г.І.Гарнастай, 1566—1577 гг.). З 1580-х г. тут праз 2 гады праводзіў свае пасяджэнні Трыбунал ВКЛ. У 16—18 ст. горад адначасова з'яўляўся цэнтрам гродавага Менскага староства, якое ўваходзіла ў склад сталовых каралеўскіх маёнткаў. Староства ўключала Менск з замкам, дзе адбываліся пасяджэнні гродскага суда, і некаторыя навакольныя вёскі. У 1441 г. ў каралеўскай грамаце Менск быў названы сярод 15 буйных гарадоў ВКЛ. Гандл. шляхі звязвалі яго са Смаленскам праз Дуброўну, Оршу, Друцк, Бобр, Барысаў; з Вільняй праз Радашковічы, Маладзечна, Ашмяны; з Гроднам праз Койданава і Навагрудак; з Брэстам праз Мір, Слонім; з Гомелем, Туравам, Рагачовам, з гарадамі Украіны і г.д. У 15 ст. ў горадзе працавалі рамеснікі 20 спецыяльнасцей.

14.3.1499 г. Менск атрымаў прывілей на магдэбургскае права. Кіраванне горадам з гэтага часу ажыццяўляў магістрат на чале з войтам, якога прызначаў вялікі князь. Гараджане выбіралі 12 радцаў, якія потым разам з войтам выбіралі 2 бурмістраў на год. Каралеўскі прывілей рэгуляваў рамесную і гандл. дзейнасць у горадзе, дазваляў пабудаваць ратушу для пасяджэнняў магістрата, таварную краму, збожжавыя клеці, пастрыгальню (для збору воўны). У будынку ратушы павінны былі захоўвацца меры вагі, якімі карысталіся гараджане. Прывілей на магдэбургскае права садзейнічаў далейшаму сац.-палітычнаму і эканам. развіццю Менска. Пасля пажару 1552 г., калі разам з замкам згарэла грамата 1499 г., гараджане ў 1552, 1569 і 1591 гг. атрымоўвалі ка-

*Былы гасціны двор на плошчы Свабоды ў Мінску.*






ралеўскія прывілеі, якія пацвярджалі іх права на самакіраванне. Адначасова ў горадзе існавалі юрыдыкі (да 19 ст.) — адм. адасобленыя часткі, якія знаходзіліся пад уладай феадалаў, царквы ці манастыроў. На жыхароў юрыдык судовая ці адм. ўлада магістрата не пашыралася (у 1667 г. ва ўладанні феадалаў знаходзіліся 220 двароў, пад юрысдыкцыяй магістрата — 75). Паміж магістратам Менска і ўладальнікамі юрыдык (сярод іх былі Радзівілы, Друцкія-Горскія, Саламярэцкія і інш.) ішла жорсткая барацьба.

Развіццё Менска моцна стрымлівалі частыя войны, эпідэміі і стыхійныя бедствы. Так, у 1505 г., у час нападу войска крымскага хана Менглі Гірэя, горад быў спустошаны пажарам. Выстаяў толькі замак. У 1508 г. два тыдні менскі замак трымаў аблогу войск мяцежнага кн. М.Глінскага. У 1519 і 1534 гг. горад і яго жыхары цярпелі ад нападаў маскоўскіх войск падчас войнаў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—1522 гг. і 1534—1537 гг. Значныя страты гар. гаспадарцы нанеслі пажары 1547, 1552, 1569 гг. У 1552 г. разам з драўлянай забудовай згарэў замак (адноўлены; у пач. 17 ст. страціў сваё значэнне як адм. і планіровачны цэнтр горада). Пасля 1506 г. ў прадмесці Пятніцкі канец былі пасяленыя крымскія татары, узятыя ў палон у выніку бітвы пад Клецкам. З гэтага часу прадмесце стала называцца Татарскай слабадой; у 1599 г. тут пабудавана драўляная мячэць. У 16 ст. на суседнім з Нямігай узгорку ўзнік новы гандлёвы цэнтр — Верхні рынак (сучасная плошчы Свабоды), дзе былі ўзведзены драўляная ратуша (з 17 ст. мураваная), культавыя і жылыя будынкі. Паступова тут склаўся новы гар. цэнтр — Верхні горад. У сярэдзіне 16 ст. ў Менску налічвалася 35 вуліц і завулкаў, 300 двароў, каля 2 тыс. жыхароў. 12.1.1591 г. разам з пацвярджальным прывілеем на магдэбургскае права горад атрымаў герб: у блакітным полі постаць Дзевы Марыі паміж двума анёламі і херувімамі. У канцы 16 ст. існавалі менскія рамесныя цэхі металістаў (з 1591 г. цэх «васьмі рамёслаў»), краўцоў і ювеліраў. У 1609 г. быў створаны цэх шаўцоў, у 1622 г. — рымараў, сёдзельнікаў, партупейшчыкаў, чахольшчыкаў, у 1635 г. — лекараў-цырульнікаў, у 1636 г. — ганчароў, муляраў і цесляроў, у 1647 г. — кушняроў, капялюшнікаў, магерачнікаў і баўтушнікаў. У сярэдзіне 17 ст. ў Менску працавалі рамеснікі больш за 80 спецыяльнасцей. У канцы 16 — пач. 17 ст. дзейнічалі 3 рынкі: Ніжні (у р-не Нямігі, прылягаў да замка), Верхні і Траецкі (Троіцкі). На рынках дзейнічалі гандл. рады з крамамі і лаўкамі рамеснікаў; у серады і пятніцу праводзіліся штотыднёвыя таргі. З 1571 г. гараджане мелі дазвол на правядзенне 2 кірмашоў на год, яле яны пэўны час не праводзіліся з-за Лівонскай вайны 1558—83 гг. З 1612 г. ў замку захоўваўся гар. архіў.

Сярэдневяковы Менск разам з іншымі буйнымі бел. гарадамі з'яўляўся значным рэліг. цэнтрам. З канца 11 ст. і да пач. 17 ст. ў горадзе існавалі 16 праваслаўных цэркваў. З 13 ст. на левым беразе Свіслачы стаяў Узнясенскі манастыр, які лічыўся вельмі значным. У 15 ст. пры менскім Мікалаеўскім манастыры меўся дом кіеўскіх (літоўска-навагрудскіх) мітрапалітаў. У канцы 16 ст. ў горадзе ўзнікла евангелічная абшчына, у 1611 г. дзейнічала евангелічная місія. У 1560-я г. ў Менску існаваў так-


*Мінскі рынак з ратушай. Канец 18 — пачатак 19 ст.*





*Былы кляштар бернардзінцаў з касцёлам святога Яна ў Мінску. 1644—52 гг.*

сама кальвінскі збор, пры якім меліся шпіталь і школа. У 1570 г. вядома Вялікая (Халодная) сінагога па вуліцы Нямігскай. Першы мінскі касцёл, фундуш на будаўніцтва якога ў 1390 г. выдаў вял. кн. Ягайла, згарэў у 1409 г. Паводле пісьмовых крыніц, у 1508 г. на левым беразе Свіслачы, у Траецкім прадмесці быў пабудаваны драўляны фарны касцёл Найсвяцейшай Троіцы.

Пасля падпісання Брэсцкай царк. уніі 1596 г. ў Мінску абвастрылася барацьба паміж рознымі рэліг. плынямі ў хрысціянстве. У чэрв. 1609 г. архімандрыты мінскіх манастыроў і настаяцелі цэркваў згадзіліся далучыцца да уніі. У гэтым жа годзе гар. магістрат адмовіўся прызнаваць уніяцкіх мітрапалітаў. Да канца 1630-х г. Узнясенскі, Святадухаўскі, Касмадаміянаўскі, Мікалаеўскі праваслаўныя манастыры сталі уніяцкімі. Узнік комплекс базыльянскіх (уніяцкіх) манастыроў (засн. ў 1616 г., жаночы кляштар закладзены ў 1641 г.) з царквой Святога Духа (закладзена пасля 1636 г., не захавалася). У 17—18 ст. пры Святадухаўскім манастыры дзейнічалі школа (з 1633 г.), друкарня, б-ка. На Троіцкай гары пры драўлянай царкве (вядома з 15 ст.) у 1630 г. быў заснаваны Троіцкі манастыр базыльянак (драўляны, у 1799—1800 гг. узведзены новы будынак). У 1620 г. да уніятаў перайшла замкавая саборная царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы з Мінскім абразам Маці Божай (Мінская Адзігітрыя, адна з хрысціянскіх святынь Беларусі). Абраз перанеслі ў храм Святадухаўскага манастыра. У 1612 г. мяшчане, якія не жадалі прыняць унію, пабудавалі царкву Нараджэння Дзевы Марыі, куды перавялі манахаў з віленскага Святадухаўскага манастыра. У 1613 г. ў адказ на захоп уніятамі мінскіх праваслаўных цэркваў і манастыроў гараджане заснавалі мужчынскі праваслаўны манастыр і Петрапаўлаўскую царкву, пры якіх дзейнічалі брацтва ў імя Іаана Хрысціцеля, школа, друкарня, шпіталь (у 1795 г. царква рэканструявана, у 1870— 1871 гг. перабудавана; захавалася). У 1618 г. на зямельным участку, які ахвяравала княжна Ганна Стацкевіч, быў заснаваны яшчэ адзін праваслаўны манастыр з Праабражэнскай царквой. У 17 ст. ў Мінску дзейнічалі 7 праваслаўных брацтваў (першае было арганізавана ў 1592 г.).

З 1-й пал. 17 ст. ў горадзе пачалі дзейнічаць розныя каталіцкія манаскія ордэны. Былі пабудаваны: кляштар дамініканцаў (заснаваны ў 1605 г., паводле іншых звестак, у 1615 г.; не захаваўся) з касцёлам Тамаша Аквінскага (пабудаваны ў 1620—1640 гг. ці 1622 г., не захаваўся); кляштары і касцёлы бернардзінцаў (існаваў з 1624 г., драўляныя пабудовы, у 1638 г. ўзведзены драўляны касцёл св. Юзафа, з 1644 г. будаваліся мураваныя касцёл і кляштар) і бернардзінак (з 1633 г., у 1642 г. пачалося будаўніцтва мураванага касцёла Дабравешчання, адноўлены і асвячоны ў




*Крыжовая (Пакроўская) царква з домам архірэя ў Мінску. Справа — фрагмент будынка Земскага сельскагаспадарчага музея. З выкарыстаннем падмуркаў дома пазней пабудаваны Дом афіцэраў.*





1687 г.), бенедыкцінак (з 1633 г., мураваны касцёл св. Войцеха ўзведзены ў 1647—1649 гг., кляштар — пасля 1682 г.).

Мінск і яго жыхары моцна пацярпелі ў час войнаў 17 — пач. 18 ст. У час антыфеадальнай вайны 1648—1651 гг. у 1648 г. Мінскі замак трымаў аблогі спачатку казацка-сял. войск, потым — каралеўскіх. Гар. і замкавыя ўмацаванні былі пашкоджаны і, верагодна, не поўнасцю адноўлены да пачатку новай вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. 3.7.1655 г. горад быў заняты царскімі войскамі пад камандаваннем акольнічага Б.М.Хітраво, ваяводы Я.К. Чаркаскага і казакамі І.Залатарэнкі. Значная частка насельніцтва разам з адступаючымі войскамі пакінула Мінск. У снеж. 1655 г. рус. войскі пачалі работы па аднаўленню і будаўніцтву замкавых і гар. умацаванняў. У 1655—1658 гг. будынкі Верхняга горада (сярод якіх былі ратуша з турмой, каралеўскі двор, гандлёвыя рады, Святадухаўскі манастыр, комплексы кляштараў бернардзінак і бернардзінцаў, дамініканцаў) былі аб'яднаны адной лініяй умацаванняў, у т. л. драўлянымі сценамі паміж будынкамі. Тэр. новага астрога таксама ўмацоўваў роў.

Пасля завяршэння ваенных дзеянняў пачалося паступовае аднаўленне Мінска. Ужо ў 1661 г. Варшаўскі сейм пацвердзіў раней дараваныя гораду прывілеі і на 4 гады вызваліў гараджан ад падаткаў, за выключэннем пошлін і мыту. У 1667 г. ў Мінску налічвалася 300 двароў, каля 2 тыс. жыхароў; аднавілася дзейнасць рамесных цэхаў. У 1680 г. (паводле іншых звестак у 1676 г.) былі засн. кляштар і касцёл францысканцаў (драўляныя, не захаваліся).

Адраджэнне і далейшае развіццё горада ў пач. 18 ст. прыпыніла Паўночная вайна 1700—1721 гг., якая прынесла гараджанам новыя бедствы. У 1706 г. Мінск занялі рас. войскі пад камандаваннем Пятра І. У 1707 г. сюды ўвайшлі шведскія войскі, у 1710 г. — зноў рас. армія. Ваенныя разбурэнні і рабаванні гэтых гадоў дапоўніла эпідэмія чумы, якая лютавала сярод мінчан у 1710—1711 гг.

У 1720-я г. горад зноў паступова вяртаўся да мірнага жыцця. У 1752 г., пасля пажару 1740 г., былі перабудаваны ў стылі віленскага барока касцёл і кляштар бернардзінцаў. У 1753 г. пры кляштары заснавалі брацтва св. Ганны; дзейнічала невял. школа філасофіі (у 1753—1799 гг.; у 1819 г. тут адчынілася ланкастэрская школа). У 1-й пал. 18 ст. вялося таксама будаўніцтва мінскага езуіцкага комплексу, які ўключаў касцёл Ісуса, Дзевы Марыі і св. Барбары (узведзены ў



*Сучасны від на забудову Мінскага Верхняга горада.*



1700—1710 гг., пасля 1820 г. Марыінскі кафедральны касцёл), калегіум (пабудаваны да 1747 г.), школу, аптэку з лабараторыяй (1749), гасп. пабудовы. Чл. ордэна езуітаў разгарнулі сваю дзейнасць у Мінску яшчэ ў 1654 г. Спачатку яны адчынілі езуіцкую місію, у 1686 г. — рэзідэнцыю, а ў 1774 г. — калегіум. У 18 ст. ў горадзе таксама былі пабудаваны кляштары і касцёлы баніфратараў (1700 г., не захаваўся), кармелітаў (1703 г., не захаваўся), бенедыкцінцаў (заснаваны ў 1700 г., пабудаваны ў 1764 г., драўляны касцёл узведзены ў 1773 г., не захаваўся), марыявітак (з 1771 г., не захаваўся).

Арх.-планіровачную структуру Мінска 17—18 ст. вызначаў Верхні горад з Верхнім (Высокім) рынкам, гал. грамадскім цэнтрам горада, асн. адм. і гандл. вузлом. Будаўніцтва комплексу езуітаў завяршыла фарміраванне прыгожага архіт. ансамбля Верхняга горада, у які таксама ўваходзілі будынкі касцёлаў і кляштараў бенедыкцінак, бернардзінцаў і бернардзінак, дамініканцаў, царквы Св. Духа і манастыра базыльян і базыльянак, мінскага гасцінага двара, ратушы і інш. Верхні рынак (з 1860-х г. да 1917 г. Саборная плошча, цяпер плошча Свабоды) меў форму, блізкую да чатырохвугольніка. Ад зах. і паўд. вуглоў рынка ў паўд.-зах. напрамку адыходзілі вуліцы Койданаўская і Зборавая (цяпер на гэтым месцы знаходзяцца вуліцы Рэвалюцыйная і Інтэрнацыянальная). На ПдУ ад Верхняга рынку ішлі вуліцы Францысканская і Дамініканская (цяпер вуліцы Леніна і Энгельса). Шэраг вуліц звязваў Верхні рынак з іншымі гарадскімі раёнамі. Гал. вуліцай Мінска з 16 ст. стала Нямігская, якая адыходзіла ад набярэжнай Свіслачы ў раёне замка, дзе да яе прымыкаў Ніжні рынак. На З дасягала гар. валоў. Верхні рынак злучаўся з Нямігай вулачкамі Школьнай і Казьмадзям'янаўскай. З ПнУ Верхні горад агінала вуліца Зыбіцкая (цяпер Гандлёвая, на правым беразе Свіслачы). Верхні рынак злучаўся з ёй вуліцамі Вялікай Бернардзінскай (Кірылы і Мяфодзія), Зазыбіцкай (Малая Бернардзінская, цяпер Герцэна), Манастырскім завулкам (цяпер Музычны завулак), Валоцкай (паўн.-ўсх. частка сучаснай вуліцы Інтэрнацыянальнай). Аснову планіроўкі Троіцкага прадмесця на левым беразе Свіслачы складала пл. трохвугольнай формы (на месцы гал. корпуса 2-й клінічнай бальніцы), а таксама гал. Троіцкая вуліца, якая цягнулася з ПдЗ на ПнУ. У Ракаўскім прадмесці меліся вуліцы Юраўская, Ракаўская, Нямігская, Замкавая, Васкрасенская, Ракаўскі завулак. Гар. вуліцы брукаваліся каменем ці масціліся драўлянымі маставымі. Да канца 18 ст. асн. жылая забудова горада была драўляная.

У 1790 г. ў Мінску налічвалася 40 вуліц і завулкаў, 980 «дымоў» (у тым ліку 14 манастыроў), 89 крам; праводзіліся 2 кірмашы на год. На веснавы 2-тыднёвы мінскі кірмаш з'язджаліся купцы і шляхта з гарадоў Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі і іншых месц. У 1796 г. працавалі 12 невял. мануфактур (з іх 3 гарбарныя і 3 цагельныя). У 18 ст. дзейнічалі 4 шпіталі: Петрапаўлаўскага і Каляднага праваслаўных брацтваў, каталіцкіх ордэнаў баніфратараў (з 1700 г.) і рахітаў (з 1713 г.). У 1791 г. адчыніўся ваенны шпіталь літ. войска.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793), Мінск знаходзіўся ў складзе Рас. імперыі як горад, цэнтр Мінскай губ. (утворана 23.4.1793 г., уваходзіла ў 1793—96 гг. у Мінскае, Ізяслаўскае і Брацлаўскае генерал-губернатарства, з 3.5.1795 г. да 1796 г. складала асобнае Мінскае намесніцтва), з 1795 г. — адначасова цэнтр Мінскага павета, у 1831—34 гг. у складзе Мінскага генерал-губернатарства. У 1834—1856 гг. і 1862—1870 гг. у Віленскім генерал-губернатарстве. 29.12.1796 г. горад атрымаў новы герб: на грудзях двухгаловага рас. арла,





*Фантан «Хлопчык з лебедзем» (1847) у Цэнтральным скверы.*

на блакітным полі ў зіхаценні шчыт з выявай Прасвятой Дзевы Марыі, абкружанай 6 анёламі.

Губернскі Мінск па-ранейшаму заставаўся значным рэліг. цэнтрам рэгіёна. У крас. 1793 г. тут была створана Мінская праваслаўная епархія (з 1840 г. ёй падпарадкоўваліся толькі тыя храмы, якія знаходзіліся на тэр. Мінскай губ.). Першапачаткова рэзідэнцыя епархіі размяшчалася ў былым базыльянскім манастыры (1795—99). У 1795 г. манастырская уніяцкая царква Св. Духа была пераўтворана ў Петрапаўлаўскі сабор, які пасля пажару 1835 г. перабудаваны ў псеўдарус. стылі (узарваны ў 1936 г.). Былы манастырскі корпус пасля 1799 г. перабудавалі пад дваранскае вучылішча, з 1803 г. ў ім размяшчалася мужчынская гімназія; у 1852 г. корпус зноў перабудавалі і прыстасавалі пад прысутныя месцы. У 1799 г. для епархіі набылі каменны дом на плошчы Навамейскай (плошча Новага горада, цяпер Цэнтральны сквер каля тэатра імя Я.Купалы). Побач з ім пабудавалі Успенскую царкву і інш. будынкі. У 1799—1800 гг. на месцы драўлянага Троіцкага манастыра базыльянак быў узведзены мураваны манастырскі будынак (у 1834 г. перабудаваны пад шпіталь). 28.4.1798 г. паводле імператарскага Указа ў Мінску была засн. таксама рымска-каталіцкая епархія (Мінская дыяцэзія, у 1869 г. скасавана, у ліст. 1917 г. адноўлена, у 1991 г. заснавана Мінска-Магілёўская дыяцэзія). У 1798—1869 гг. пры дыяцэзіі дзейнічала духоўная семінарыя.

У 1797 г. горад налічваў 5797 жыхароў, тут дзейнічалі розныя створаныя губ. і пав. ўстановы, земскія суды, дваранская апека і інш. У 1797 г. таксама адчынілася Мінская губ. друкарня, дзе з 1838 г. друкаваліся «Мінскія губернскія ведамасці», пазней «Памятныя кніжкі Мінскай губерні» (1860— 1916), кнігі па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, па пытаннях адукацыі. У 1800 г. ў Мінску налічвалася 6656 жыхароў (з іх 2436 рамеснікаў, у т. л. 1157 цэхавых), 1009 дамоў (з іх 39 мураваных), 124 крамы. 24.1.1803 г. на месцы Мінскай губ. школы адчынілася 7-класная мужчынская гімназія (да 1809 г. навучанне тут вялося на польскай мове, пазней на рускай; у 1848 г. — 400 вучняў), пры якой існавала б-ка (630 назваў кніг у 1300 тамах). У гэтым жа годзе быў заснаваны Мінскі гар. аркестр.

У вайну 1812 г. з 8 ліп. да 16 ліст. горад быў заняты напалеонаўскай арміяй. 15 ліп. замест камісіі часовага кіравання Мінскай правінцыі (зацверджана французскім маршалам Л.Н.Даву) стварылі адміністрацыю Мінскага дэпартамента, якая падпарадкоўвалася арганізаванаму акупацыйным камандаваннем Часоваму ўраду ВКЛ. Асн. задачамі французскай адміністрацыі былі арганізацыя ў Мінску харчовых складоў, лазарэтаў для параненых і хворых, набор рэкрутаў у армію, а таксама збор правіянту, фуражу, пораху, медыкаментаў. Пад лазарэты было занята каля 500 памяшканняў у гар. дамах (у т. л. ў будынках астрога, гімназіі, праваслаўнага сабора і г.д.). У выніку вайны насельніцтва горада скарацілася з 11 200 чал. у 1811 г. да 3480 у канцы 1812 г. У 1827 г. — 14 591 жыхар.

У 1815 г. ў Мінску жыў будучы дзекабрыст К.Ф.Рылееў, у 1821—22 гг. — кіраўнік Паўн. т-ва М.М.Мураўёў і член гэтага т-ва А.А.Бястужаў. У 1821 г. М.М.Мураўёў напісаў тут першы вары-



янт канстытуцыі будучай рус. дзяржавы, вядомы як «Мінскі варыянт». У 1819—1822 гг. у Мінскай гімназіі дзейнічала тайнае т-ва, у якое ўваходзіла большасць вучняў і некаторыя выкладчыкі. Статут т-ва напісалі А.Міцкевіч і Т.Зан. У перыяд паўстання 1830—31 гг. Мінск і губерня былі аб'яўлены на ваенным палажэнні. З 21.5.1831 г. працавала Мінская следчая камісія. Пасля паражэння паўстання ўлады зачынілі ў горадзе кляштары: дамініканскі (у 1832 г.), баніфратараў (1838), бызыльянак і базыльян (1839).

Рэгулярныя планы забудовы горада, згодна з якімі вялося ўпарадкаванне гар. тэрыторыі, распрацоўваліся ў 1800, 1809, 1817, 1858 гг. Удасканаленне планіровачнай структуры Мінска, згодна з планам 1800 г. (распрацаваны пры актыўным удзеле мінскага губ. архітэктара Ф.Крамера), пачалося з ліквідацыі рэштках земляных умацаванняў, якія акружалі горад з З, Пд і У, з выпраўлення і прывядзення да геаметрычна выразнай сістэмы старой вулічнай сеткі. Абарончы вал у гэты перыяд знаходзіўся ў паўразбураным стане і абмяжоўваў рост горада. Новая жылая забудова размяшчалася за межамі былых умацаванняў у паўд. напрамку ўздоўж Свіслачы. У лукавіне ракі было выбрана месца для будаўніцтва казарм Растоўскага мушкецёрскага палка Смаленскай дывізіі. Жылыя кварталы гэтага раёна горада мелі прамавугольную форму і выразную геаметрычную сетку вуліц, якая стваралася за кошт падаўжэння ў паўд. напрамку вуліц Дамініканскай (сучасная Энгельса), Францысканскай (з сярэдзіны 19 ст. Губернатарская, з 1919 г. вуліца К.Маркса, з 1922 г. Леніна) і Феліцыянаўскай (у 19 ст. Багаяўленская, Багадзельная, з 1922 г. Камсамольская), траса якой была выпраўлена з некалькіх крывых завулкаў. Паралельна была пракладзена вуліца Кашарская (цяпер Чырвонаармейская), якая злучыла ваенныя казармы з запраектаванай плошчай — Новым рынкам (больш вядома як плошча Навамейская). Перпендыкулярна гэтым вуліцам прайшлі новыя — Магазінная (частка вуліцы Кірава ад вуліцы Свярдлова да Я.Купалы), Лошыцкая (вуліца К.Маркса) і Захараўская (цяпер праспект Незалежнасці ад вуліцы Камсамольскай да будынка Дзяржцырка). Захараўская, ці Захар'еўская, вуліца ў 19 ст. стала новым гал. гар. дыяметрам, злучыла Барысаўскі і Варшаўскі тракты, абумовіла перамяшчэнне ў 2-й пал.



*У мінскім доме Манюшкаў. Мастак Ч.Манюшка.*



*В.Дунін-Марцінкевіч.*


*К.Чапскі.*

19 ст. цэнтра на самае высокае месца ў горадзе — так званае Новае места (сучасная Кастрычніцкая плошча і раён тэатра імя Я.Купалы), якое ўзвышалася над Саборнай плошчай да 10 м. У 1805 г. на Захар'еўскай вуліцы быў закладзены Губернатарскі сад (цяпер Цэнтральны дзіцячы парк імя М.Горкага).

У пач. 19 ст., пасля пажараў 1809, 1813, 1822, 1835 гг. цэнтр Мінска забудоўваўся ўжо каменнымі 2-, 3-павярховымі дамамі. Пасля пажару 1809 г., які знішчыў усю левабярэжную частку горада, пачалося ўрэгуляванне планіровачнай структуры гэтага раёна Мінска згодна з планамі забудовы 1809 і 1817 гг. Цэнтрам левабярэжнага Мінска стала новая Троіцкая плошча (Троіцкі рынак, з 1919 г. плошча Парыжскай камуны каля будынка Тэатра оперы і балета), гал. вуліцай заставалася Троіцкая (з сярэдзіны 19 ст. Аляксандраўская, потым вуліца Камунальная, М.Горкага, цяпер М.Багдановіча). У гэтай частцы Мінска была створана прамавугольная сетка новых вуліц: Ягораўская (цяпер Я.Купалы), Старавіленская, Мікалаеўская (Крапоткіна), Плябанская (цяпер Куйбышава), Старасцінская слабада (з 1866 г. Старaслабадская, цяпер Старажоўская), Старажоўская (цяпер Кісялёва). З 1839 г. ў перабудаваным жаночым Троіцкім манастыры (уніяцкім) размясцілася губ. бальніца (з 1904 г. Мінская губ. земская, цяпер 2-я гарадская клінічная бальніца).

Да сярэдзіны 19 ст. тэр. Мінска ў параўнанні з 18 ст. павялічылася амаль у 2 разы. У 1835–36 гг. былі забрукаваны Захар'еўская, Койданаўская, Замкавая вуліцы, добраўпарадкавана плошча Верхняга рынку. У 19 ст. ансамбль Верхняга горада фарміравалі Дом губернатара, прысутныя месцы, кафедральны касцёл, дваранская школа, будынак тэатра, Петрапаўлаўскі кафедральны касцёл. Будынак Мінскай ратушы знеслі ў 1857 г. У Ніжнім горадзе заставалася гіст. радыяльна-веерная планіровачная структура. Гар. забудова развівалася ў паўн.-ўсх. напрамку ўздоўж асн. транспартных магістраляў: Віленскага, Лагойскага і Барысаўскага трактаў. Да 1844 г. на вуліцы Францысканскай па праекту архітэктара К.Хршчановіча быў пабудаваны новы будынак гімназіі (папярэднія пабудовы згарэлі ў 1835 г.). У 1840-я г. паводле праекта таго ж архітэктара на тэр. Новага места ўзвялі комплекс Мінскага архірэйскага падвор'я (архірэйскі дом), які ўключаў гал. будынак архіепіскапіі, 2 флігелі, Пакроўскую царкву (1883— 85), царк.-археал. музей (існаваў у 1908— 1915 гг. пры Мінскім гіст.-археал. к-це). З 1840 г. пры Мінскай праваслаўнай епархіі дзейнічала пераведзеная са Слуцка Мінская духоўная семінарыя (у 1918 г. зачынена), з 1869 г. выдаваліся «Мінскія епархіяльныя ведамасці» (да 1917 г., у 1989 г. выданне адноўлена). У 1844 г. для духоўнай семінарыі быў узведзены новы будынак (архітэктар К.Хршчановіч; цяпер Суворaўскае вучылішча).

На Новым месцы таксама ўзвялі будынак дваранскага сходу (на рагу сучасных вуліц К.Маркса і Ф.Энгельса), а ў 1872 г. стварылі Аляксандраўскі сквер (цяпер Цэнтральны сквер) з фантанам, які ўпрыгожвала дэкаратыўная скульптура «Амур з лебедзем». Побач са скверам знаходзілася лютэранская кірха (пабудавана ў 1846 г.).

З 1839 г. пачалі праводзіцца набажэнствы ў новым мураваным касцёле на кальварыйскіх могілках, які быў пабудаваны на месцы старога драўлянага ў прадмесці Кальварыя (у 1899 г. перабудаваны). На праваслаўных могілках у прадмесці Старажоўка ў 1847 г. пабудавалі мураваную царкву Марыі Магдалены. Пасля 1848 г. на зямлі, якую гар. ўлады купілі ў Ваньковічаў, былі адчынены праваслаўныя могілкі, дзе хавалі памерлых з ваеннага шпіталю (у 1898 г.



на могілках пабудавана царква Аляксандра Неўскага). У 1870 г. будынкі кляштара бернардзінак, зачыненага ў 1853 г., перадалі Мінскаму праваслаўнаму манастыру Св. Духа (цяпер у будынку б. касцёла праваслаўны кафедральны сабор).

З пач. 19 ст. ў горадзе і на яго ўскраінах вялося сядзібна-паркавае будаўніцтва. Так, у стылі класіцызму, які панаваў у архітэктуры Мінска ў канцы 18 — 1-й пал. 19 ст., пабудаваны сядзібны комплекс, дзе жыў і працаваў вядомы мастак В.Ваньковіч (сучасная вуліца Інтэрнацыянальная, 33). Яму ж належала і сядзіба на паўн.-ўсх. ускраіне горада ў прыгарадзе Вялікая Сляпянка (цяпер вуліца Парніковая, 26). У 1845 г. маёнтак Сляпянка Э.С.Ваньковіча налічваў 752 дзес. сядзібнай зямлі і ворыва, 3060 дзес. зямлі пад лесам; 77 дваровых сялян, 34 сял. двароў. Да маёнтка належалі 7 вёсак і паселішчаў, у т. л. Камароўка, Сляпянка, Зялёны Луг, Навінкі. На паўн.-зах. ускраіне Мінска знаходзілася сядзіба, вядомая пад назвай Белая Дача (пабудавана ў канцы 19 ст.), на паўд. ускраіне горада, у сутоках рэк Свіслач і Лошыца — Лошыцкі сядзібны комплекс.

З 1845 г. ў Мінску працавала гар. публічная б-ка, у 1859 г. дзейнічалі 13 навуч. устаноў (у т. л. прыватны жаночы пансіён і жаночая ніжэйшая школа, дзе ў 1848 г. займаліся 322 вучаніцы). Да гэтага часу ўжо былі зачынены школы пры каталіцкіх кляштарах і касцёлах.

Значнай з'явай у культ. жыцці Мінска 1-й пал. 19 ст. стаў тэатр. Для тэатральных паказаў да 1815 г. выкарыстоўвалася зала ў будынку гімназіі. У 1825 г. пад тэатр перабудавалі дом на плошчы Верхняга рынку (у 1815—18 гг. будынак набыў Я.Байкоў, у 1840 г. — купец Б.Саламонаў). Пасля пажараў 1835 і 1884 гг. дом аднаўляўся. У 1820-я г. сюды прыязджалі рус. тэатральныя



*Касцёл святога Роха на праспекце Незалежнасці.*

трупы. Польскія і рус. п'есы падчас гастроляў ставіла ў Мінску таксама Віленская трупа. Як драматург і акцёр у Мінску дэбютаваў В.Дунін-Марцінкевіч, які 10.10.1841 г. паставіў тут аперэту «Рэкруцкі яўрэйскі набор» і выканаў адну з гал. роляў. Гурток мясц. аматарскага калектыву пад яго кіраўніцтвам 9.2.1852 г. на мінскай сцэне паставіў оперу «Ідылія» («Сялянка») С.Манюшкі і К.Кжыжаноўскага (лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча). У 1846 г. акцёр Вяржбіцкі стварыў у Мінску трупу, якая паклала аснову мінскаму гар. тэатру. На яго падтрымку з гар. даходаў выдаткоўвалася 2 тыс. руб. у год. У 1890 г. ў Аляксандраўскім скверы для тэатра быў узведзены спец. будынак (закладзены ў 1888 г., цяпер Нац. акадэмічны тэатр імя Я.Купалы).



*35-гадовы юбілей мінскага Вольнага пажарнага таварыства. 1911 г. Будынак таварыства захаваўся па вуліцы Гарадскі Вал.*






*Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.*

На муз. жыццё Мінска 19 ст. вял. ўплыў аказалі кампазітары С.Манюшка, Ф.Міладоўскі. П.Карафа-Корбут і інш. Развіццю муз. адукацыі ў горадзе садзейнічалі браты Д. і В. Стафановічы, якія кіравалі мясц. аркестрам і муз. школай пры ім. Мінск наведвалі вядомыя музыканты, спевакі, акцёры. Тут пэўны час жылі і працавалі мастакі А.Шэмет, В.Ванькові, Ф.Рушчыц, Я.Дамель, Л.Альпяровіч, І.Яроменка і інш. У доме мастака і паэта Ч.Манюшкі (бацька кампазітара) у 1830—31 гг. праходзілі літаратурныя вечарыны.

У 1860—61 гг. ў Мінску налічвалася 26 760 жыхароў, 2119 дамоў (з іх 560 мураваных), 594 крамы, 32 дробныя прадпрыемствы (137 рабочых), 7 цэркваў, манастыр, 3 касцёлы, 3 каталіцкія капліцы, 2 кляштары, лютэранская кірха, сінагога, мячэць. Сярод гараджан у пач. 1860-х г. было каля 3160 рамеснікаў (у 1853 г. — каля 2400). У канцы 1860-х г. дзейнічалі 20 рамесных цэхаў.

У перыяд паўстання 1863—64 гг. у Мінску дзейнічала арг-цыя, якая ўзначаліла падрыхтоўку і кіраўніцтва паўстаннем у горадзе і губерні. Гал. ролю ў ёй адыгрывалі «чырвоныя»: А.Д.Трусаў, І.І.Козел, К.В.Марцінкевіч (дачка В.Дуніна-Марцінкевіча). У красавіку 1863 г. ў барацьбу супраць царызму ўступілі ўзброеныя фарміраванні арг-цыі — паўстанцкія атрады. З лета 1863 г. паў-станцкім губ. камісарам стаў доктар М.А.Аскерка. Восенню 1863 г. ў горад прыбыў памочнік К.Каліноўскага І.Ямант, у пач. 1864 г. паўстанцы былі разгромлены ўладамі. Арыштаваных трымалі ў будынках зачыненага ў 1864 г. кляштара бернардзінцаў, якія гар. ўлады прыстасавалі пад турму (пазней памяшканні перадалі ваеннаму ведамству; з 1992 г. тут знаходзяцца архіў навук.-тэхнічнай дакументацыі і архіў-музей л-ры і мастацтва Рэспублікі Беларусь). У памяшканнях ліквідаванага яшчэ ў 1853 г. кляштара бернардзінак пасля падаўлення паўстання 1863—64 гг. некаторы час працавала дзярж. следчая камісія. У 1865 г. будынкі былога кляштара перадалі Мінскаму праваслаўнаму манастыру Св. Духа (зараз у будынку былога касцёла знаходзіцца праваслаўны кафедральны сабор). У 1860-я г. быў зачынены таксама кляштар бенедыкцінак, а яго касцёл і будынкі ў 1872 г. перабудавалі пад праваслаўны Праабражэнскі манастыр (у 1960-я г. разбураны).

У 1866 г. Мінск налічваў ужо 31 251 жыхара, сярод якіх праваслаўных вернікаў было 26,3%, католікаў — 31,9%, пратэстантаў — 0,6%, яўрэяў — 39,7%, магаметан — 1,5%. Вялікі ўплыў на далейшае развіццё горада і яго прам-сць аказалі буржуазныя рэформы 1860—70-х г., будаўніцтва і ўвядзенне ў эксплуатацыю Маскоўска-Брэсцкай (у



*Мост у Гарадскім садзе (цяпер дзіцячы парк імя М.Горкага). Пачатак 20 ст.*







*Татарская мячэць у Мінску. Пачатак 20 ст. Цяпер на гэтым месцы рэстаран гасцініцы «Юбілейная».*

*Харальная (галоўная) сінагога. Цяпер будынак займае Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага. Пачатак 20 ст.*

1871 г.) і Лібава-Роменскай (у 1873—74 гг.) чыгунак, якія перакрыжоўваліся ў Мінску, ператвараючы яго ў адзін з буйных чыг. вузлоў на тэр. Беларусі. Чыгункі звязвалі горад з цэнтрам Расіі, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай. Былі пабудаваны вакзалы: Брэсцкі (цяпер ст. Мінск-Таварны) і Віленскі (Мінск-Пасажырскі, першы будынак быў драўляны, з 1890 г. мураваны). З 1871 г. на чыг. ст. Мінск дзейнічала дэпо Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (у 1879 г. працавалі 108 чал.), пазней пачалі працаваць дэпо Лібава-Роменскай чыгункі і рамонтныя майстэрні. У 1891 г. была створана метэаралагічная станцыя «Мінск-чыгунка».

Пракладка чыгунак і будаўніцтва вакзалаў на свабодных тэрыторыях за 2—3 км на ПдЗ ад гар. забудовы, а таксама ўзнікненне новых прам. прадпрыемстваў у 2-й пал. 19 ст. аказалі ўплыў на арх.-планіровачную структуру Мінска гэтага перыяду. Новыя праектныя планы забудовы горада прымаліся ў 1873, 1890, 1896 гг. Паступова ў раёне Віленскага вакзала сфарміравалася новая сетка вуліц, якія падыходзілі да Прывакзальнай плошчы: Пецярбургская (сучасная Ленінградская), Бабруйская, Магазінная (Кірава), Падгорная (К.Маркса), Каломенская (Свярдлова). Брэсцкі вакзал з горадам злучыла новая вуліца Маскоўская, якая злілася з Захар'еўскай. За чыгункай склаліся новыя жылыя р-ны Грушаўскі і Чыгуначны.

У канцы 19 — пач. 20 ст. хуткімі тэмпамі ў Мінску развіваецца прам-сць.



*Галоўная вуліца Мінска Захар'еўская ў 1914 г. (цяпер праспект Незалежнасці каля кнігарні «Цэнтральная»).*



*Музей Я.Купалы ў аднайменным парку.*

Калі ў 1879 г. ў горадзе працавалі 7 з-даў, то ў 1895 г. — 18 ф-к і з-даў, столькі ж мануфактур (1,4 тыс. рабочых), 5 тыс. рамеснікаў. На рабочай ускраіне Ляхаўка, каля Свіслачы, сфарміраваўся прам. раён, дзе выраслі будынкі з-даў Кашарскага машынабудаўнічага і чыгуна-меднаметалургічнага (засн. ў 1881 г., з 1934 г. станкабудаўнічы з-д імя С.М. Кірава), гарбарнага (засн. ў 1895 г. як гарбаныя майстэрні, з 1927 г. з-д «Бальшавік»), спіртзавода (пабудаваны ў 1891 г., з 1912 г. дрожджа-патачны, пазней дрожджавы к-т), дрожджа-патачнага (у 1893 г. дрожджа-вінакурны з-д, цяпер з-д «Крышталь»), металаапрацоўчага з-да «Гігант» (у 1907 г., з 1912 г. з-д «Энергія», потым станкабудаўнічы з-д імя Кастрычніцкай рэвалюцыі), ф-кі грэбеняў (1910) і інш. У 1873 г. на беразе Свіслачы пабудавалі насосную станцыю, у 1874 г. праклалі водаправод. На вуліцы Захар'еўскай, каля Свіслачы, у 1895 г. ўзвялі электрастанцыю. У 1900 г. ў горадзе было ўжо 58 ф-к і з-даў, на якіх працавалі 2845 рабочых (на 12 прадпрыемствах колькасць рабочых складала ад 50 да 100 чал.). У 1913 г. працавалі 77 ф-к і з-даў, 27 мануфактур, 7,2 тыс. рамеснікаў. На мінскіх прадпрыемствах выраблялі цэглу, кафлю, шпалеры, шкло, абутак, інш. тавары, таксама абсталяванне для лесапільных, гарбарных і інш. з-даў.

З 1873 г. сваю дзейнасць пачаў Мінскі камерцыйны банк. У 1881 г. ў горадзе адкрылася аддз. Дзярж. банка, пазней аддз. Азова-Данскога, Пецярбургска-Азоўскага і Віленскага прыватных камерцыйных банкаў. У 1896 г. ў Мінску налічвалася 1836 магазінаў і крам, 75 заезных дамоў; была ўстаноўлена тэлеф. сувязь. У канцы 19 ст. Мінск стаў не толькі значным прам. цэнтрам, але і самым буйным горадам Беларусі. Паводле 1-га ўсеагульнага перапісу насельніцтва Рас. імперыі 1897 г. ў горадзе налічвалася 90 912 жыхароў (для параўнання ў Брэсце ў 1897 г. было 46,6 тыс. жыхароў, у Віцебску — 65,9, у Гомелі — 36,8, Гродне — 46,9, Магілёве — 43,1 тыс.). У 1899 г. ў Мінску было 200 вуліц і завулкаў, 33 урочышчы; дзейнічалі электрастанцыя, водаправод, тэлеф. і помпавая станцыі (з 1890 г.), конка (з 1892 г.), 10 бальніц (у 1899 г. 508 ложкаў ; у 1896 г. 69 урачоў). У канцы 19 ст. ў горадзе размяшчаліся 18 культа-




*Перон Віленскага вакзала (цяпер станцыя Мінск-Пасажырскі). Пачатак 20 ст.*



*Забудова Прывакзальнай плошчы. 2009 г.*



вых установ розных канфесій. У 1870 г. працавалі 11 навуч. устаноў (1482 вучні), у 1898 г. — 23. Агульная колькасць будынкаў у Мінску вырасла з 1584 у 1861 г. да 4516 у 1887 г. і 6661 (з іх 1027 мураваныя) у 1904 г. Тэр. горада з 1861 да 1899 г. вырасла ў 10 разоў. Новыя гар. раёны забудоўваліся стыхійна, без горадабудаўнічай задумкі. Выразная лінейна-сегментная планіроўка, якая склалася ў выніку рэалізацыі ген. планаў забудовы Мінска 1-й пал. 19 ст., пачала растварацца ў крывых вуліцах і завулках новых раёнаў, спланаваных каморнікамі. Горад па-ранейшаму заставаўся пераважна драўляным. Вял. шчыльнасць забудовы прыватных пляцаў (дасягала 80%) з'яўлялася адной з прычын частых пажараў (у 1865, 1877, 1881, 1886, 1887, 1896 гг.). Толькі ў 1896 г. ў Мінску было зарэгістравана 40 выпадкаў. Водаправод абслугоўваў толькі цэнтр. раёны горада. Асн. крыніцай водазабеспячэння мінскіх ускраін былі студні, якіх у пач. 20 ст. было 413. У 1910 г. Мінск займаў 2057 дзес. зямлі, тут налічвалася 7639 пабудоў, у т. л. 1262 мураваныя, 6166 драўляных, 211 муравана-драўляных. На адну пабудову прыходзілася 13,1 чал.; 16,5% гар. вуліц былі забрукаваны. Гар. ўскраіны — слабоды Камароўка, Пярэспа, Раманава, Ляхаўка, Грушаўка — заставаліся нядобраўпарадкаванымі.

Вял. ролю ў культ. і навук. жыцці Мінска канца 19 — пач. 20 ст. адыгралі муз.-літаратурнае (узнікла ў 1880 г.) і муз. (з 1886 г.) т-вы, муз. гурток (з 1896 г.), т-вы ўрачоў (з 1862 г.), дапамогі навучэнцам (з 1875 г.), сельскай гаспадаркі (з 1876 г.), аматараў прыгожых мастацтваў (з 1898 г.), аховы жанчын (з 1901 г.), узаемадапамогі настаўнікам нар. вучылішч (з 1901 г.), гісторыі і старажытнасцяў (1919—1925 гг.), а таксама царк. гісторыка-археал. к-т (з 1908 г.), царкоўна-археал. музей (1908—15), пастэраўская станцыя (з 1911 г.), балотная



*Від з Аляксандраўскага моста ў Мінску. Злева — спадзісты схіл Замкавай гары і ўмацаваная набярэжная Свіслачы. Малюнак Я.Драздовіча. 1920-я г. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.*

доследная станцыя (з 1911 г.), публічная б-ка імя А.С.Пушкіна (з 1900 г.) і інш. ўстановы. У 1870—80-я г. дзейнічалі народніцкія гурткі, мясц. арг-цыі «Чорнага передзелу» і «Народнай волі». На развіццё рабочага руху горада таксама аказалі ўплыў створаныя ў сярэдзіне 1880-х г. першыя марксісцкія гурткі. У 1894 г. ўзніклі Мінская рабочая арг-цыя (існавала да 1897 г.) і Мінская сацыял-дэмакратычная арг-цыя (у маі 1896 г. ўвайшла ў склад Рабочага саюза Літвы). У 1898 г. ў горадзе адбыўся 1-ы з'езд РСДРП, у пач. 1900 г. на аб'яднаўчым з'ездзе створана Сацыял-



*Помнік Я.Купалу ў Купалаўскім парку (скульптары А.Анікейчык, Л.Гумілеўскі, А.Заспіцкі).*

дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы. У пач. 20 ст. дзейнічалі Мінская арг-цыя РСДРП (з 1903 г.), Мінскі сацыял-дэмакратычны к-т Бунда, гарадская арг-цыя эсэраў, Яўрэйская незалежная рабочая партыя. Працоўныя горада прынялі актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг. 31.10.1905 г. са згоды генерал-губернатара П.Р.Курлова ў Мінску царскія войскі і паліцыя расстралялі 20-тысячны мітынг гараджан. Ахвярамі Курлоўскага расстрэлу сталі каля 100 чал. (каля 300 чал. былі паранены).



*Панарама універсітэцкага гарадка ў Мінску. 1930-я г.*

У 1910 г. ў Мінску працавалі 15 друкарняў і літаграфічных прадпрыемстваў, упершыню былі заасфальтаваны некаторыя вуліцы. У 1913 г. ў горадзе налічвалася 106 673 жыхары, 305 вуліц і завулкаў, 10 300 будынкаў (з іх 15% мураваныя), 124 прадпрыемствы (5746 раб.), 62 навуч. установы (у іх атрымоўвалі адукацыю 5 тыс. чал., у 1914 г. адчыніўся настаўніцкі ін-т), 3 б-кі, 23 бальніцы, 85 урачоў і 42 фельчары. На працягу 1914—15 гг. выходзілі 24 перыяд. выданні, у т. л. газеты «Саха» і «Лучынка» на бел. мове.

У 1-ю сусветную вайну 1914—18 гг. з кастр. 1915 г. Мінск стаў прыфрантавым горадам, у якім размясціліся штаб Зах. фронту і інш. вайсковыя арг-цыі, установы, шпіталі, дзейнічалі Мінскі аддзел Беларускага т-ва дапамогі пацярпелым ад вайны, абшчына сяцёр міласэрнасці Чырвонага Крыжа, іншыя дабрачынныя арг-цыі. На У былі эвакуіраваны 20 прадпрыемстваў.

17.3.1917 г. бальшавікі горада і Зах. фронту стварылі Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў (з 15.8.1917 г. старшыня К.І.Ландар). 17.3.1917 г. была таксама арганізавана нар. міліцыя на чале з М.В.Фрунзе. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Мінск стаў адным з цэнтраў бел. нац. руху, месцам дзейнасці розных партый і грамадскіх арг-цый. Да восені 1917 г. ў горадзе сярод інш. з'ездаў і сходаў адбыліся: 7—9 крас. з'езд бел. нац. арг-цый (прынялі ўдзел 150 чал., абраны Бел. нац. к-т); 20—30 крас. — 1-ы з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Зах. фронту; 28 мая — 8 чэрв. — з'езд настаўнікаў Мінскай губ.; 4—7 чэрв. — з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Зах. вобл.; 6—7 чэрв. — з'езд бел. каталіцкага духавенства; 21—23 ліп. — з'езд бел. нац. арг-цый і партый (каля 50 дэлегатаў). Апошні быў скліканы Бел. нац. к-там (старшыня Р.А.Скірмунт) па ініцыятыве Бел. сац. грамады. На з'ездзе быў абраны Выканаўчы к-т Цэнтр. рады бел. арг-цый (У.І. Галубок, Я.Лёсік, Ядвігін Ш., А.А.Смоліч, У.С. Фальскі), які ўзначаліў бел. нац. рух. 28—6.11.1917 г. ў Мінску ўтвораны каардынацыйны к-т бел. нац.-вызв. руху — Вял. бел. рада (ВБР; кіраўнікі В.А.Адамовіч, А.У. Прушынскі, А.А.Смоліч). 31.10—6.11.1917 г. на з'ездзе вайскоўцаў-беларусаў Зах. фронту, 12-й арміі Паўн. фронту і Балтыйскага флоту ў Мінску абраны часовы выканаўчы к-т Цэнтр. бел. вайск. рады (ЦБВР). Намаганнямі кіраўніка рады С.А.Рак-Міхайлоўскага ў ліст. 1917 г. створаны бел. полк у Мінску і конны эскадрон пад Оршай. Восенню 1917 г. на аснове вучнёўскага гуртка «Вянок» навучэнцамі сярэдніх навуч. установ горада ўтворана Мінская бел. вучнёўская грамада (дзейнічала да ліп. 1920 г.).

Сав. ўлада была ўстаноўлена ў Мінску 8.11.1917 г. 13.12.1917 г. ў горадзе



ўведзена ваеннае становішча. У канцы снеж. 1917 г. ў Мінску адбыўся Усебел. з'езд (разагнаны салдатамі Мінскага гарнізона). 21.2.1918 г. горад акупіравалі войскі кайзераўскай Германіі; дзейнічаў створаны Мінскі падп. к-т РКП (б). Пасля выезду з Мінска Аблвыкамзаха і Савета Нар. камісараў Зах. вобл. і фронту (19.2.1918 г.) Выканаўчы к-т Рады Усебел. з'езда 20.2.1918 г. прыняў 1-ю ўстаўную грамату да народаў Беларусі і стварыў першы ўрад — Нар. сакратарыят Беларусі на чале з Я.Я.Варонкам. Пасля падпісання і ратыфікацыі Сав. Расіяй Брэсцкага міру 1918 г., 9.3.1918 г. Выканаўчы к-т Рады Усебел. з'езда прыняў 2-ю ўстаўную грамату да народаў Беларусі, якая абвяшчала стварэнне Бел. нар. рэспублікі (БНР). 25.3. 1918 г. Рада БНР у Мінску абвясціла Беларусь незалежнай і суверэннай. 10.12. 1918 г., калі ў горад увайшлі часці Чырвонай Арміі, Рада БНР пакінула Мінск.

Да канца 1918 г. ў горадзе былі ўтвораны Мінскія ваенны Савет і губ. ваенна-рэв. к-т, якія кіравалі працай па ўстанаўленню Сав. ўлады ў губерні. 1.1. 1919 г. Мінск стаў сталіцай утворанай Бел. Сав. Сацыяліст. Рэспублікі (БССР). Сюды ў пач. студз. са Смаленска пераехаў Часовы рабоча-сял. сав. ўрад рэспублікі на чале з З.Х.Жылуновічам





*Пракладка трамвайных ліній па вуліцы Валадарскага. 1933 г.*

(Цішка Гартны, старшыня ўрада з 1.1 да 3.2.1919 г.). 2—3.2.1919 г. ў горадзе адбыўся 1-ы Усебел. з'езд Саветаў, які прыняў 1-ю Канстытуцыю БССР. З 27.2.1919 г. да 31.7.1920 г. Мінск знаходзіўся ў складзе Літ.-Бел. Сав. Сацыяліст. Рэспублікі (Літ.-Бел. ССР, ці Літбел). З 8.8.1919 г. горад заняты польскімі войскамі. Ва ўмовах акупацыі 30.8. 1919 г. была створана Мінская бел. школьная рада, якая кіравала дзейнасцю бел. навуч. устаноў Мінскай губ. (дзейнічала да ліп. 1920 г.). З 15.9. 1919 г. на базе 3-га Мінскага пач. вучылішча пачала працаваць Мінская бел. гімназія (у жн. 1920 г. пераўтворана ў 13-ю Мінскую сярэднюю школу 2-й ступені).

11.7.1920 г. ў Мінск увайшлі часці Чырвонай Арміі. Страты горада ад акупацыі спачатку войскамі кайзераўскай Германіі, потым польскай арміяй ацэньваліся ў 5 млн. 300 тыс. руб. золатам. З-за адсутнасці сыравіны і паліва практычна не працавалі ўцалелыя гар. прадпрыемствы. Вуліцы і двары горада былі засмечаны, не дзейнічала сістэма водазабеспячэння. Да канца 1920 г. ў Мінску заставалася вял. колькасць бежанцаў, што яшчэ больш абвастрала жыллёвы і сац. крызіс. Хлеб выдаваўся па картачках. Беспрацоўе і голад прывялі да масавага адтоку гараджан у сельскую мясцовасць. Насельніцтва Мінска скарацілася з 152 600 чал. у 1917 г. да 103 008 чал. у 1921 г. (у 1920 г. — 70 тыс. жыхароў). У гэтых цяжкіх умовах пра-

*На парадзе ў гонар 20-й гадавіны Кастрычніка. Лістапад 1937 г.*


*Від на вуліцу Савецкая. 1938 г.*

цу па пераадоленню наступстваў 1-й сусветнай, грамадзянскай і савецка-польскай войн у Мінску і губерні ўзначаліў Мінскі губ. ваенна-рэв. к-т (ВРК) на чале з А.Р.Чарвяковым. Акрамя аднаўлення прам-сці горада, забеспячэння яго насельніцтва прадуктамі харчавання, стварэння сістэм нар. адукацыі і аховы здароўя, вырашэння іншых гасп. пытанняў Мінскі губ. ВРК праводзіў працу па фарміраванні гар. і губ. органаў Сав. улады. 31.7.1920 г. на сумесным пасяджэнні Мінскага губ. ВРК з кіраўніцтвам і прадстаўнікамі шэрагу палітычных партый, прафс. арг-цый губерні была прынята «Дэкларацыя аб незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі» (ССРБ, потым БССР), створаны Ваенрэўкам Беларусі — вышэйшы надзвычайны орган улады. Гэта было 2-е абвяшчэнне БССР. З гэтага часу Мінск становіцца адм. і палітычным цэнтрам Беларусі, горадам, у якім праводзіліся з'езды Саветаў БССР (вышэйшы орган дзярж. улады рэспублікі ў 1919—1938 гг.), камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі [КП(б)Б], Камуністычнага саюза моладзі Беларусі (КСМБ, з чэрвеня 1924 г. ЛКСМБ), партыйныя і прафс. канферэнцыі і г.д. Паступовае пераўтварэнне Мінска з губ. цэнтра Рас. імперыі ў сталіцу БССР стала адным з асн. фактараў, вызначыўшых развіццё горада ў 1920—30-я г. Толькі на працягу 1920—21 гг. тут адбыліся: 2-і (13—17.12.1920 г.) і 3-і (10—16.12.1921 г.) Усебел. з'езды Саветаў рабочых, сял., батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў; 3-і (22—26.11. 1920 г.), 4-ы (25.2—1.3.1921 г.) і 5-ы (15— 20.10.1921 г.) з'езды КП(б)Б; 1-ы (24—27.9.1920 г.), 2-і (20—24.4.1921 г.) і 3-і (13—17.9.1921 г.) з'езды КСМБ; 1-ы Усебел. з'езд прафсаюзаў, 1-я канферэнцыя рабочых кааператываў Беларусі (26.8.1920 г.), многія інш. сходы і нарады. У Мінску паступова фарміраваліся і разгортвалі сваю дзейнасць вышэйшыя дзярж., партыйныя і адм.-гасп. органы ўлады: Цэнтр. выканаўчы к-т БССР (ЦВК БССР, з 1939 г. Вярх. Савет БССР, пастаянны вышэйшы орган улады), Савет Нар. Камісараў (СНК, вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган дзярж. улады), Цэнтр. к-ты КП(б)Б і ЛКСМБ, Дзярж. планавая камісія (Дзяржплан БССР), розныя нар. камісарыяты, упраўленні, трэсты і г.д. Адначасова ствараліся гар. сав., парт., камсамольскія, прафс. арг-цыі, у т. л. Мінскі Савет рабочых і чырвонаармейскіх дэпутатаў (з снеж. 1936 г. Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў працоўных), Мінская павятова-гар. арг-цыя КСМБ, Мінскі гар. сакратарыят пры ЦК КП(б)Б (жн. 1920 г.). З 2-й пал. 1920 г. ў Мінску праводзіліся агульнагар. камуністычныя суботнікі па аднаўленню чыг. вузла, гар. транспарту, прадпрыемстваў, па перавозцы паліва, добраўпарадкаванню гар. вуліц і г.д. 7.8.1921 г. сваю працу аднавіла мінская конка, якая да сярэдзіны 1920-х г. заставалася асн. відам гар. транспарту (заменена трамваем у 1929 г.).

Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора з Польшчай 18.3.1921 г., стварэння СССР у снеж. 1922 г., узбуйненняў Беларусі ў 1924 і 1926 гг. роля Мінска як адм.-палітычнага цэнтра БССР і сталіцы саюзнай рэспублікі на мяжы з капіталістычным мірам значна павялічылася. Непасрэдная блізкасць дзярж. мяжы БССР і СССР, якая праходзіла ў раёне чыг. ст. Радашковічы, таксама накладвала пэўны адбітак на жыццё Мін-



ска, своеасаблівага «фарпоста сацыялізму на Захадзе». У горадзе і яго наваколлі была сканцэнтравана значная колькасць войск. Ваеннае становішча на тэр. БССР і яе сталіцы адмянілі толькі ў крас. 1922 г. З сак. 1923 г. ў Мінску дзейнічала Рэсп. камісія па барацьбе з кантрабандай. У сярэдзіне 1930-х г. нават разглядаўся праект стварэння сярод пагранічных раёнаў БССР асобнай Мінскай акругі.

Аднаўленне Мінска, як і ўсёй нар. гаспадаркі БССР, праходзіла ва ўмовах новай эканам. палітыкі (нэп), пераход да якой быў аб'яўлены на X з'ездзе РКП(б) у сакавіку 1921 г. Нерэнтабельныя дзярж. прадпрыемствы зачыняліся, павялічвалася колькасць арандаваных і прыватных прам. аб'ектаў, рамесных і кустарных майстэрняў. Замест главкаў, якія кіравалі нар. гаспадаркай, арганізоўваліся трэсты і групавыя ўпраўленні (аб'ядноўвалі прадпрыемствы аднародных галін прам-сці). З 16 групавых упраўленняў 7 размяшчаліся ў Мінску. З восені 1921 г. прадпрыемствы, якія падпарадкоўваліся Саўнаргасу БССР, пераводзіліся на гасп. разлік. Аднародныя дробныя прадпрыемствы горада аб'ядноўваліся ў больш буйныя. Напрыклад, рашэннем Прэзідыума СНГ БССР ад 11.7.1921 г. ўсе друкарні Мінска былі аб'яднаны ў 3 дзярж., дзе працавалі 415 чал. Абсталяванне і сыравіна зачыненых і ліквідаваных дробных гарбарняў былі перададзены створаным 1-му і 2-му гарбарным з-дам. Да кастр. 1921 г. 9 мінскіх прадпрыемстваў (193 чал.) перадалі ў арэнду. У кастр. 1922 г. на 58 дзярж. прадпрыемствах горада працавала 4178 рабочых. Агульная іх колькасць на прам. прадпрыемствах Мінска складала ў гэты час 6799 чал. У 1921—22 гг. сваю прадукцыю пачалі выпускаць з-ды: 1-ы дзярж. машынабудаўнічы і чыгуналіцейны «Энергія» (цяпер станкабудаўнічае вытв. аб'яднанне імя Кастрычніцкай рэвалюцыі), «Метал», лесапільны, 4 дрожджа-вінакурныя з-ды, шклозавод «Пралетарый»; ф-кі: абутковая, запалкавая «Вулкан» і інш. У чэрв. 1922 г. ў Мінску таксама працавалі 540 прыватных прадпрыемстваў. Да канца года іх колькасць складала каля 1 тыс. (1870 рабочых). У гэтым жа годзе дзейнічалі 32 рабочыя кааператывы. Да пач. 1924 г. ў горадзе налічвалася 29 буйных прадпрыемстваў. У 1925—26 гг. прам-сць Мінска перасягнула ўзровень 1913 г. па выпуску валавой прадукцыі, а сацыяліст. сектар у прам-сці склаў 97,8%.

Нягледзячы на тое, што да канца 1921 г. была адменена картачная сістэма, матэрыяльнае становішча працоўных горада заставалася цяжкім. Даваенны залаты рубель у лют. 1922 г. адпавядаў 150 тыс. сав. рублёў. Заработная плата рабочых Мінска ў студз.—кастр. 1921 г. перавышала 1 млн. рублёў (у 1913 г. 20—30 залатых рублёў). Кошт 1 фунта аржанога хлеба за перыяд з 1.1.1922 г. да 1.2.1923 г. ўзрос у Мінску з 500 да 11 тыс. сав. рублёў. У снеж. 1922 г. сярэдняя заработная плата рабочых складала ўжо 4952 тыс. рублёў. Палітыка стабілізацыі рубля і грашовая рэформа, якія пачаліся ў 1922 г., да вясны 1924 г. завяршыліся выпускам у абарачэнне забяспечанага золатам чырвонца. У снеж. 1921 г. пачала дзейнічаць Усебел. кантора дзярж. банка. З 1923 г. ў горадзе таксама працавала бел. кантора акц. т-ва «Гандлёва-прамысловы банк СССР». У сак. 1924 г. на базе Бел. т-ва с.-г. крэдыту быў створаны Белсельбанк. У пач. 1920-х г. акрамя дзярж. арганізоўваліся камерцыйныя банкі, т-ва ўзаемнага крэдыту, адчыняліся ашчадныя касы. У 1923 г. ў Мінску таксама аднавілася будаўніцтва жылля, агульны аб'ём якога да 1926 г. перавысіў сярэднегадавую даваенную норму. Але ў параўнанні з ростам гар. насельніцтва жыллёвае будаўніцтва значна адставала. Многія сем'і гараджан перасяляліся







*Цэнтральны Дом афіцэраў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.*

ў маланаселеныя кватэры ці ў памяшканні, якія вызваляліся пры ўшчыльненні арг-цый (у маі—жн. 1921 г. жыллё атрымалі 4650 чал.). Насельніцтва горада ў 1923 г. склала 110 926, а ў 1926 г. — 131 528 чал.

Пасля завяршэння перыяду аднаўлення нар. гаспадаркі (1921—25) і пачатку сацыяліст. індустрыялізацыі ў СССР і БССР Мінск да пач. 1941 г. ператварыўся ў адзін з буйнейшых індустрыяльных цэнтраў СССР. За гады 1-й пяцігодкі (1928—29 гг. і 1932— 33 гг.) тут былі пабудаваны 33 прамысловыя аб'екты агульным коштам 267,7 млн. руб., сярод якіх ф-кі: швейная «Кастрычнік», кандытарская «Камунарка», галантарэйная, люстраная і інш. Былі рэканструяваны з-ды: машынабудаўнічы «Камунар» (цяпер станкабудаўнічы імя С.М.Кірава), станкабудаўнічы (імя Кастрычніцкай рэвалюцыі), дрэваапрацоўчы, абутковая ф-ка. У 1930 г. ў горадзе было ліквідавана беспрацоўе (у 1929 г. налічвалася каля 7 тыс. беспрацоўных). На працягу 2-й пяцігодкі (1933— 1937) аб'ём прам. вытв-сці ў горадзе ўзрос у 1,7 раза (у параўнанні з 1913 г. у 23,7 раза), пабудавана 35 прам. аб'ектаў, у т.л. ЦЭЦ-2, асфальта-бетонны і клінкерны з-ды. Развіваліся металаапрацоўчая (36 прадпрыемстваў), дрэваапрацоўчая (16), паліграфічная (8), швейная (17), абутковая (7), харч. (30) і інш. галіны прам-сці. У 1931 г. ў сталіцы налічвалася 132, у 1933 г. — 172 прамысловыя прадпрыемствы. Да 1940 г. дзейнічалі ўжо 332 дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы (23,8 тыс. рабочых). На пач. Вял. Айч. вайны прадпрыемствы горада выраблялі каля 17% прам. прадукцыі БССР.

З 17.7.1924 г. Мінск з'яўляўся цэнтрам Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), а ў гар. мяжу былі ўключаны створаныя ў тым жа 1924 г. Пятроўшчынскі (з 7.4. 1927 г. Першы прыгарадны с/с) і Слянянскі сельсаветы. 17.2.1930 г. сельсаветы аб'ядналі ў адзін Мінскі прыгарадны с/с. 25.8.1930 г. горад быў выдзелены ў самастойную адм.-гасп. адзінку з падпарадкаваннем гарсавета Прэзідыуму ЦВК БССР. 18.1.1931 г. ў межы Мінска ўвайшлі 9 сельсаветаў Самахвалавіцкага (Гатаўскі, Грычынскі, Каралішчавіцкі, Навадворскі, Падгайскі, Самахвалавіцкі, Сеніцкі, Строчыцкі, Трасцянецкі), 3 сельсаветы Астрашыцка-Гарадоцкага (Каладзішчанскі, Астрашыцка-Гарадоцкі, Папернянскі), 2 сельсаветы Заслаўскага (Бораўскі і часткова Рамскі) р-наў. 20.7.1931 г. ў гар. мяжу таксама ўключылі 3 сельсаветы ліквідаванага Смілавіцкага р-на (Замастоцкі, Кайгаўскі, Абчакскі). 29.6.1934 г. ўсе названыя сельскія Саветы былі перададзены наваўтворанаму Мінскаму прыгараднаму р-ну з цэнтрам у Мінску. З 26.5.1935 г. горад — цэнтр Мінскага р-на, з 20.2.1938 г. — Мінскай вобл. 17.3.1938 г., згодна з Пастановай Прэзідыума ЦВК БССР, Мінск стаў горадам абласнога падпарадкавання, у якім у сваю чаргу ствараліся 3 раёны: Варашылаўскі (з 2.11.1961 г. Савецкі), Кагановіцкі (з 20.7.1957 г. Кастрычніцкі) і Сталінскі (з 2.11.1961 г. Заводскі). У раёнах горада былі сфарміраваны раённыя Саветы дэпутатаў працоўных.

Грамадска-палітычнае і культ. жыццё Мінска ў 1920—40 гг., развіццё нац. адносін, л-ры, навукі, выяўленчага, муз. мастацтваў, кінамастацтва, тэатра адлюстроўвалі тыя працэсы, якія адбываліся ў гэты перыяд у эканоміцы, эканам.



адносінах, палітычным жыцці ўсяго СССР і БССР. У той жа час грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі і горада, высокая ступень ідэалагізаванасці і палітызаванасці грамадства аказвалі сваё ўздзеянне на рашэнне эканам., палітычных і сац. задач, многіх пытанняў нац.-культ. будаўніцтва. У 1921 г. гар. партыйная арг-цыя падзялілася на 3 раёны, былі створаны 3 райкомы: Аляксандраўскі (пазней Кастрычніцкі), Гарадскі і Ляхаўскі. Усе райкомы падпарадкоўваліся ЦК КП(б)Б. З 22.1. 1924 г. дзейнічаў Цэнтр. партыйны клуб імя К.Маркса. На 1.5.1924 г. партыйная арг-цыя горада налічвала 2632 чалавекі (55% рабочых), у канцы 1928 г. — 8849, да пач. 1941 г. — 11 тыс. чал. У 1925—32 гг. працаваў Камуністычны ун-т Беларусі імя Леніна (пазней рэарганізаваны ў Вышэйшую камуністычную с.-г. школу Беларусі). З 1918 г. дзейнічала гар. арг-цыя ЛКСМБ (у 1919 г. 200 членаў), у маі 1921 г. на 1-м Усебел. з'ездзе прафсаюзаў у Мінску арганізацыйна аформіліся прафес. саюзы рэспублікі. Пад кіраўніцтвам партыйных, камсамольскіх, прафс. арг-цый Мінска праводзіліся масавыя святкаванні сав. і рэв. дат, прапагандавалася сацыяліст. спаборніцтва, ударніцтва (у 1930 г. колькасць ударнікаў на прам. прадпрыемствах склала 66,4% ад агульнай колькасці рабочых), стаханаўскі (у снеж. 1936 г. 8 тыс. стаханаўцаў), шматстаночнікаў і інш. рухі, якія пэўным чынам садзейнічалі эканам. развіццю горада і яго добраўпарадкаванню. У перадваенны час у Мінску ўзніклі і дзейнічалі шматлікія прафес., навук. і культ.-асв. т-вы (сярод іх: навук. т-ва ўрачоў, кніжна-выдавецкае т-ва «Культура», педагагічнае т-ва, т-ва гісторыі і старажытнасцей, навук. т-ва стаматолагаў і інш.), грамадскія арг-цыі (Асавіяхім, Аўтадор і інш.).

Нельга не адзначыць, што на працягу 1920-х г. Мінск таксама з'яўляўся цэнтрам такой важнай і значнай з'явы ў



*Цэнтр Мінска пасля фашысцкай бамбардзіроўкі. Чэрвень 1941 г.*

грамадскім жыцці і нац. адносінах у БССР, як палітыка беларусізацыі, што ўяўляла сабой усебаковую дзейнасць партыйных, дзярж. і грамадскіх арг-цый у справе нац.-дзярж. і нац.-культ. адраджэння бел. народа. У 1924— 27 гг. у Мінску працавалі Вышэйшыя курсы беларусазнаўства пры Наркампросе БССР. У 1925 г. ў рэсп. установах бел. мовай валодалі 22% супрацоўнікаў, у 1926 г. 54%, у 1927 г. 80%. Бел. мову выкладалі ў рус., яўр., польскіх школах, навуч. установах інш. нацыянальнасцей. Паступова на бел. мову пераводзілася выкладанне ў прафтэхшколах, тэхнікумах, ВНУ. У 1933 г. з 168 607 мінчан (згодна з дадзенымі паспартызацыі) беларусы складалі 44,3% (74 731 чал.), яўрэі 36,8% (62 086 чал.), рускія 5,5% (9316 чал.), палякі 2,3% (3807 чал.), украінцы 1,6% (2644 чал.), літоўцы 0,6%, татары 0,5%, латышы 0,2%, немцы 0,3%, інш. 7,4% (12 433 чал.).

У 1920—40 гг. Мінск таксама ператварыўся ў буйны цэнтр навукі і культуры рэспублікі. Адраджэнне культ. жыцця горада пачалося з 1919—20 гг., калі тут пачалі працаваць Бел. абл. музей (у 1919 г., з 1923 г. Бел. дзярж. музей) і 1-ы Бел. дзярж. тэатр (1920). З 1921 г. адчынілі свае дзверы Бел. дзярж. ун-т (БГУ), будаўнічы тэхнікум, у 1922 г. — Ін-т бел. культуры (Інбелкульт, 13.10.1928 г. рэарганізаваны ў Акадэмію навук БССР), Дзярж. б-ка імя Леніна, у 1923 г. — Дом-музей 1-га





*Мінчане на адбудове роднага горада, разбуранага нямецка-фашысцкімі захопнікамі.*

1.1.1941 г. ў Мінску налічвалася 270,4 тыс. жыхароў; 30 навук., 10 вышэйшых і 17 сярэдніх спец. навуч. устаноў, 69 агульнаадукацыйных школ, 80 дзіцячых дашкольных устаноў. Дзейнічалі: 81 б-ка, 78 дамоў культуры і клубаў, 5 тэатраў, 4 музеі, 20 кінаўстановак. У 1934 г. здадзены ў эксплуатацыю аэрапорт.

У горадабудаўніцтве Мінска пасля абвяшчэння яго сталіцай БССР таксама наступіла новая эпоха. Узнікла неабходнасць не толькі аднаўлення разбуранага ў перыяд ваенных дзеянняў, але і будаўніцтва новых будынкаў для размяшчэння ў іх дзярж., партыйных устаноў, грамадскіх арг-цый, узвядзення новых аб'ектаў нар. адукацыі, аховы здароўя, сац.-культ. прызначэння, жылля, далейшага развіцця камунальнай гаспадаркі і транспартнай сістэмы, добраўпарадкавання вуліц. У 1926 г. была распрацавана першая схема рэканструкцыі сталіцы БССР (аўтар праф. В.Сямёнаў), у якой закладзены асновы пераўтварэння радыяльнай структуры горада ў радыяльна-кальцавую з арганізацыяй у даліне р. Свіслач зялёнага дыяметра. У 1920-я г. пачалося асушэнне Камароўскага і Сляпянскага балот. Намячалася арганізацыя новага гар. цэнтра каля Мінскага вакзала. У якасці асн. напрамку горадабудаўнічага развіцця Мінска разглядаўся маскоўскі напрамак. Гэты выбар не быў выпадковым — Масква займала ў сав. ідэалогіі цэнтр. месца.

У 1920-х — пачатку 1930-х г. Мінск значна пашырыўся і ў інш. напрамках: побач з прам. аб'ектамі ўзводзіліся жылыя кварталы і рабочыя пасёлкі, такія як Бел. слабада (1925 г.; раён Ляхаўкі), пасёлкі Камінтэрн (1925—32), Грушаўскі (1930—31), раён чыг. вакзала (з 1925 г.). Пры будаўніцтве жылля выкарыстоўваліся тыпавыя праекты дамоў на 4—16 кватэр. З пач. 1930-х г. горад развіваўся і забудоўваўся ў паўн.-ўсх. і паўд. напрамках, уздоўж Маскоўскай і Магілёўскай шашы, Лагойскага тракту.

з'езда РСДРП, у 1926 г. — Музей рэвалюцыі БССР і г.д. У 1921 г. ў горадзе працавалі 108 школ па ліквідацыі непісьменнасці. У 1935 г. — 9 ВНУ (7845 студэнтаў), 7 тэхнікумаў, 5 рабочых факультэтаў, 19 навук.-даследчых ін-таў (у т. л. 17 ін-таў АН БССР), 3 дзіцячыя дамы, 83 дзіцячыя дашкольныя ўстановы (на 4400 месц), 14 клубаў, 11 бальніц; выдаваліся 10 газет і 8 часопісаў (на бел., рус., яўр., польскай, літ. мовах). На


*Адкрыццё Дома-музея I з'езда РСДРП. 1948 г.*







*Будаўніцтва ГУМа. 1949 г.*

*Будынак ГУМа на праспекце Незалежнасці. 2009 г.*

Пабудаваныя ў канцы 1920-х — пач. 1930-х г. мураваныя шматпавярховыя жылыя дамы і грамадскія будынкі значна змянілі аблічча Мінска. Сярод іх: дом энергетыкаў па вул. Кірава (1927—32), дом кааператыва «Дзяржбанкавец» па вул. Валадарскага (1928), 73-кватэрны дом Наркамлеса па вул. К.Маркса (1929—32), 112-кватэрны дом чыгуначнікаў па вул. Маскоўскай (1930—32), будынак Дзяржбанка па вул. Савецкай (1927—29), Дом селяніна на рагу вуліц Чырвонаармейскай і К.Маркса (1929), клубы харчавікоў па вул. Інтэрнацыянальнай (1927—29) і металістаў па вул. Кірава (1929—32) і інш. Вядучымі стылямі ў архітэктуры будынкаў былі канструктывізм і функцыяналізм. Даваенны Мінск упрыгожылі архітэкт. комплексы будынкаў універсітэцкага гарадка (БДУ; 1928—31 гг., архітэктары І.Запарожац, Г.Лаўроў), клінічнага гарадка (1928—31 гг., архітэктар Г.Лаўроў, сучасная 1-я гар. клінічная бальніца; у першапачатковым выглядзе захаваўся толькі невял. 2-павярховы корпус на рагу праспекта Незалежнасці і вуліцы П.Броўкі).

У пач. 1930-х г. у некалькіх кіламетрах ад горада, уздоўж маскоўскага напрамку быў пабудаваны комплекс 1-й Усебел. с.-г. і прам. выставы (архітэктары А.Воінаў, А.Крылоў, М.Гіляраў, І.Валадзько; пл. 75 га; больш за 40 павільёнаў, якія вылучаліся авангарднай архітэктурай; сад, гадавальнік пладовых дрэў). Тэр. выставы размяшчалася ў квартале паміж сучаснымі вуліцамі Калініна, Кедышкі, Валгаградскай, праспектам Незалежнасці і на тэр. парку імя Чэлюскінцаў. Сюды была праведзена трамвайная лінія, што паскорыла забудову даваеннай вуліцы Пушкіна (частка былога Барысаўскага тракту, сучасны адрэзак праспекта Незалежнасці ад плошчы Я.Коласа). З пабудоў выставы да нашага часу захаваўся толькі будынак былой машынавыпрабавальнай станцыі (знаходзіцца ў канцы вуліцы



*Панарама г. Мінск. 1950-я г.*









*Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.*

*Фае Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларуусь.*

*Беларуская дзяржаўная філармонія на праспекце Незалежнасці.*

*Рэспубліканскі палац прафсаюзаў на праспекце Незалежнасці.*

Талбухіна за будынкам Ін-та механізацыі сельскай гаспадаркі).

У стылі канструктывізму ўздоўж вуліцы Пушкіна пачалося будаўніцтва комплексаў політэхнічнага ін-та і Акадэміі навук (1932 г., архітэктар Г.Лаўроў). Ужо ў сярэдзіне 1930-х г. у сувязі са змяненнем стылістычнай накіраванасці сав. архітэктуры яны былі перабудаваны: Акадэмія навук — архітэктарам І.Лангбардам, політэхнічны ін-т — архітэктарам Н.Макляцовай. Будынкі політэхнічнага ін-та і Дом друку (пабудаваны ў 1935 г.) першапачаткова знаходзіліся некалькі ў баку ад вуліцы Пушкіна. Насупраць, праз вуліцу, у пачатку 1930-х г. свабодна размясціўся Усебел. стадыён. На ўездзе ў горад была пабудавана геадэзічная абсерваторыя (1933—34 гг., архітэктар І.Валадзько). Такім чынам, у пач. 1930-х г. уезд у горад з боку Масквы ўздоўж сучаснага пр. Незалежнасці актыўна фарміраваўся буйнымі будынкамі і комплексамі ў стылі канструктывізму. Згодна з палажэннямі гэтага стылю будынкі вольна размяшчаліся ў прасторы, не падпарадкоўваліся планіровачнай структуры на-

*Кастрычніцкая плошча.*

*Палац мастацтваў.*











*Стадыён «Дынама». 1956 г.*

*Прывакзальная плошча ў Мінску. 1950-я г.*





*Палац культуры чыгуначнікаў па вуліцы Чкалава.*

*Будынак Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра на праспекце Машэрава.*

вакольнай забудовы, самастойна фарміруючы прастору вакол сябе.

З сярэдзіны 1930-х г., калі ў сав. горадабудаўніцтва прыйшоў прынцып ансамблевасці, будынак ужо ўспрымаўся не асобна, а толькі як частка цэлага. Прыкладам фарміравання першага даваеннага ансамбля Мінска з'яўляецца адрэзак вул. Савецкай ад Круглай плошчы (сучасная плошча Перамогі) да Камароўскай (сучасная плошча Я.Коласа). Два жылыя дамы на Круглай плошчы (1940 г., архітэктар Р.Столер) задавалі шырыню і маштаб вуліцы. Далей, паводле праекта, уздоўж чырвонай лініі павінны былі выцягнуцца жылыя дамы, ствараючы адзіны фронт. Аднак архітэктура гэтых дамоў усё яшчэ не была аднастайнай. Першы 100-кватэрны дом спецыялістаў (1936 г., архітэктар Н.Макляцова) сваёй кампазіцыяй і дэкорам па-ранейшаму быў блізкі да архітэктуры канструктывізму. Інтэрнат Ін-та нар. гаспадаркі (1935 г., архітэктар Г.Якушка) таксама не адпавядаў узору ансамблевай архітэктуры.

У 1932—35 гг. супрацоўнікі Ленінградскага аддз. Дзярж. ін-та па праекта-





*Участак Сляпянскай воднай сістэмы ў раёне вуліцы А.Кашавога.*

*Плошча Перамогі.*







*Дом кіно па вуліцы Талбухіна.*

*Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі на праспекце Машэрава.*

ванню («Дзіпрагар») РСФСР распрацавалі 1-ы Ген. план сацыяліст. рэканструкцыі і развіцця Мінска. Кіраўніцтва архітэктурна-планіровачнай частткай праекта ажыццяўлялі В.Вітман і Д.Клюеў. План быў зацверджаны ў 1938 г., а ў 1939—41 гг. адкарэкціраваны ін-там «Белдзяржпраект». Ён развіваў асн. палажэнні схемы рэканструкцыі горада 1926 г. Прадугледжвалася пракладка 2 кальцавых магістраляў, дзяленне гар. тэр. на 6 р-наў: Цэнтральны, Паўднёвы, Заходні, Старажоўскі, Камароўска-Барысаўскі і Паўднёва-Усходні, стварэнне зялёных масіваў уздоўж поймы р. Свіслач. Прамысловасць, складская гаспадарка згодна з планам засяроджваліся ў 3 спецыялізаваных раёнах. Цэнтрам горада павінна была стаць плошча Леніна.

У 2-й пал. 1930-х г. партыйныя і дзярж. органы БССР і СССР разглядалі праект пераносу сталіцы рэспублікі з Мінска ў Магілёў. Гэта прыпыніла работы па выкананню Ген. плана развіцця Мінска, знізіла тэмпы будаўніцтва ў горадзе, у т. л. і жыллёвага. Спец. ўрадавая камісія па пытанню аб пераводзе сталіцы ў Магілёў (які планавалася ажыццявіць да сярэдзіны 1939 г.) кантраля-





*Стэла «Мінск—горад-герой» на праспекце Пераможцаў. 1985 г.*

*Забудова вуліцы В.Харужай.*







*Гасцініца «Беларусь».*

*Нацыянальны выставачны цэнтр БелЭкспа.*

вала працу па пачатку там будаўніцтва дзярж. устаноў (у т. л. Дома ўрада), жылых дамоў. Была нават распрацавана схема размяшчэння наркаматаў да завяршэння будаўнічых работ.

У ліст. 1939 г., калі стала ясна, што сталіцай БССР застаецца Мінск, на імя сакратара ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнкі і старшыні СНК БССР К.В.Кісялёва паступіла Запіска [падпісалі сакратар Мінскага АК КП(б)Б Мацвееў і старшыня аргкамітэта Прэзідыума Вярх. Савета БССР па Мінскай вобл. Цёмкін], у якой указвалася на неабходнасць абмеркавання пытання аб ген. рэканструкцыі Мінска на Бюро ЦК КП(б)Б. У дакуменце таксама паведамлялася, што з 11 590 мінскіх пабудоў толькі 1545 з'яўляюцца мураванымі, а астатнія – 9861 драўляныя і 184 «змяшаныя». Знос жыллёвага фонду ў горадзе ў 1939 г. складаў у сярэднім ад 41 да 60%. Шэрагу дамоў пагражалі абвалы. Норма забяспечанасці жылплошчай на 1 мінчаніна ў параўнанні з 5,5 $м^2$ у 1926 г. знізілася да 4,3 $м^2$ у 1939 г. На 30.1.1939 г. ў Мінскім гарсавеце ў чарзе на атрыманне жылля стаялі 4183 сям'і. У некаторых раёнах Мінска не мелася водаправодных магістраляў, і насель-





*Будынак Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы па вуліцы Вызвалення.*

*Скульптура «Архітэктар» каля гасцініцы «Мінск». Скульптар У.Жбанаў. 2007 г.*





*Галоўны корпус Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

*Станцыя метро «Барысаўскі тракт».*

ніцтва карысталася вадой з калодзежаў, якія знаходзіліся далёка ад жылля. У горадзе дзейнічала 1 пральня, якая задавальняла патрэбы толькі Мінскага гарнізона і часткова ўстаноў. Трамвайныя лініі сталіцы не развіваліся з 1935 г., не было пуцеправодаў, а з 14 мінскіх мастоў 13 былі драўляныя. Шэраг гар. ускраін увогуле не меў пасажырска-транспартнай сувязі з цэнтрам. Электрастанцыі Мінска не маглі поўнасцю забяспечыць горад электраэнергіяй (патрэбнасць складала 22 тыс. кВт, а электрастанцыі маглі даць толькі 12 500 кВт). Адносна добраўпарадкаванай з'яўлялася толькі цэнтр. частка Мінска.

Абгрунтаваўшы неабходнасць тэрміновага рашэння праблем сталіцы БССР, аўтары вышэйназванай Запіскі паставілі пытанне аб вылучэнні дадатковых капіталаўкладанняў па Мінску на 1940 г. у суме 34 млн. руб. Незалежна ад нар.-гасп. плана БССР на 1940 г. асобным дадатковым планам прапаноўвалася пабудаваць у Мінску: 6 мураваных дамоў на 186 кватэр, 10 – 8-кватэрных дамоў, пральню, пашырыць водаправодную і каналізацыйную сеткі, набыць аўтамеханічны транспарт для ачысткі горада, павялічыць таксаматорны парк да 40 машын і грузавы да 10, добраўпарадкаваць некаторыя кварталы ў цэнтр. частцы сталіцы (часткова вуліцы Савецкую, К.Маркса і інш.), плошчу Парыжскай Камуны (б. Троіцкая гара, Троіцкі рынак, паміж сучаснымі вуліцамі М.Багдановіча, А.Пашкевіч, Куйбышава, Я.Купалы).

У перадваенныя гады ў Мінску сярод інш. буйных адм. будынкаў, якія шмат у чым вызначылі і сучасны выгляд горада, былі пабудаваны: Дом урада (1930–34 гг., архітэктар І.Лангбард; помнік У.І.Леніну ўстаноўлены ў 1933 г., скульптар М.Манізер), будынак б-кі імя Леніна (1929–32 гг., архітэктар Г.Лаўроў), Палац піянераў і школьнікаў (1933–37 гг., архітэктары А.Воінаў, У.Вараксін), Тэатр оперы і балета

*Набярэжная ракі Свіслач.*

*Спартыўны комплекс «Алімпійскі» па вуліцы Каліноўскага.*











*Будынак выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» на вуліцы Акадэмічная. 1969 г.*

*П.М.Машэраў і Ф.Кастра ў адной з залаў Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. 1972 г.*

(1935—37 гг., архітэктар І.Лангбард), Дом Чырвонай Арміі (1934—39 гг.), пачалося ўзвядзенне будынка ЦК КП(б)Б (1939—41). На сучасным праспекце Незалежнасці з'явіліся будынак Ін-та фізкультуры (1938—39 гг., архітэктары А.Воінаў, А.Брэгман, В.Мураўёў), радыёзавод (1940 г., архітэктар Я.Мазгалеўскі), жылыя дамы насупраць парку Чэлюскінцаў (1939—40 гг., Ваенпраект), гасцініца БВА (1938—1940 гг., архітэктар Г.Якушка). У 1938 г. ў Мінску, напрыклад, ажыццяўлялася будаўніцтва больш за 1300 аб'ектаў, у т. л. прамысловых, а таксама клубаў, жылых дамоў. У горадзе выконваліся праекты рэканструкцый вуліцы і плошчы Леніна, плошчаў Свабоды, Савецкай і інш., праводзіліся работы па добраўпарадкаванню і азеляненню гар. тэрыторыі.

У Вял. Айч. вайну Мінск, які на пачатак 1941 г. налічваў 270,4 тыс. жыхароў, апынуўся на напрамку гал. ўдару ням.-фаш. групы армій «Цэнтр» і 28.6. 1941 г. быў акупіраваны. У складаных умовах кіраўніцтву горада 24 чэрв. ўдалося эвакуіраваць на У краіны больш за 10 чыг. саставаў з насельніцтвам, дакументамі, некаторымі матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Каля 27 тыс. гараджан з 23 да 28 чэрв. ўліліся ў рады Чырвонай Арміі. З першых дзён свайго панавання ў горадзе гітлераўцы ўстанавілі жорсткі акупац. рэжым. Мінск стаў цэнтрам Ген. камісарыята «Беларусь» (вышэйшы орган герм. цывільнага кіравання часткай акупіраванай тэр. Беларусі). У горадзе размяшчаліся штаб корпуса па ахове тылу групы армій «Цэнтр», ваенны гарнізон (каля 5 тыс. салдат і афіцэраў), розныя ваенныя арг-цыі і г.д. Пад апекай акупантаў былі заснаваны Бел. нар. самапомач (у кастр. 1941 г.), Саюз бел. моладзі (у чэрв. 1943 г.), Бел. цэнтр. рада (у снеж. 1943 г.). Адначасова ў горадзе і наваколлі ням.-фаш. захопнікі стварылі 9 лагераў смерці з аддзяленнямі і філіяламі, у т. л. Трасцянецкі і Масюкоўшчынскі. У пач. ліп. 1941 г. ў лагеры каля в. Дразды разам з ваеннапалоннымі было зняволена мужчынскае насельніцтва Мінска (усяго 140 тыс. чал.) ва ўзросце ад 15 да 60 гадоў. У раёне вуліц Няміга, Апанскага і інш. прылеглых да іх тэрыторый акупанты стварылі адно з самых буйных у Беларусі яўр. гета, дзе ўтрымлівалася больш за 100 тыс.



*Рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*





*Мемарыял мужнасці і смутку на Востраве слёз у Мінску, прысвечаны беларускім воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане ў 1979—89 гг.*

*Мінскі чыгуначны вакзал.*

чал. На працягу 1941—43 гг. гітлераўскія карнікі правялі шэраг аперацый па знішчэнню жыхароў Мінскага гета; канчаткова яно было ліквідавана ў кастр. 1943 г. Усяго за гады акупацыі ў Мінску і яго ваколіцах гітлераўскія карнікі знішчылі больш за 400 тыс. грамадзян, з іх больш за 70 тыс. мінчан. Фашысты разбурылі 313 дзярж. і кааператыўных прадпрыемстваў, 78 школ і тэхнікумаў, 80% гар. будынкаў, разрабавалі б-кі, музеі. Агульныя страты, нанесеныя акупантамі гар. гаспадарцы ў 1941— 44 гг., склалі 6 млрд. руб.

Супраць ням.-фаш. захопнікаў у горадзе і наваколлі ў 1941—44 гг. змагаліся Мінскае патрыят. падполле (больш за 90 падп. груп і арг-цый, 6355 чал.), Мінскія падп. абкомы і міжрайкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, падп. гаркомы КП(б)Б і ЛКСМБ, гар. падп. райкомы КП(б)Б (Варашылаўскі, Чыгуначны, Сталінскі, Кастрычніцкі, Тэльманаўскі) і ЛКСМБ (Варашылаўскі, Сталінскі, Кастрычніцкі), сельскі падп. райком КП (б)Б і ЛКСМБ. За гады акупацыі падпольшчыкі правялі больш за 1500 баявых аперацый. За гераізм і мужнасць, праяўленыя ў барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў, каля 600 чал. былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, званне Героя Сав. Саюза прысвоена У.С.Амельянюку, І.П.Казінцу, Я.У.Клумаву, І.К.Кабушкіну, М.А.Кедышку, А.Р.Мазанік, М.Б.Осіпавай, Н.В.Траян.

3.7.1944 г. горад быў вызвалены войскамі 1-га, 2 і 3-га Бел. франтоў пры садзеянні войск 1-га Прыбалтыйскага фронту і ва ўзаемадзеянні з партыз. фарміраваннямі ў ходзе Мінскай наступальнай аперацыі. На У ад горада ў акружэнне («Мінскі кацёл») трапілі 105 тыс. салдат і афіцэраў 4-й і асобных злучэнняў 9-й ням. армій групы армій «Цэнтр». Пасля ліквідацыі «катла» 16.7. 1944 г. ў гонар вызвалення сталіцы БССР на тэр. мінскага іпадрома адбыўся мітынг працоўных і партызан з удзелам дэлегацыі Чырвонай Арміі на

*Перакрыжаванне праспекта Незалежнасці і вуліцы Камсамольскай.*

*У зале археалагічнай навукова-музейнай экспазіцыі Інстытута гісторыі НАН Беларусі.*











*Будынак Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

*Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі.*

чале з камандуючым 3-м Бел. фронтам І.Д.Чарняхоўскім і дэлегацыі г. Горкага. Пасля мітынгу больш за 30 тыс. партызан Мінскага, Магілёўскага і інш. злучэнняў прайшлі парадам па разбураным горадзе. Насельніцтва вызваленага Мінска ў ліп. 1944 г. складала 103 тыс. чал.

Ужо ў кастр. 1944 г. быў распрацаваны «Эскіз планіроўкі Мінска» (архітэктары А.Шчусеў, У.Сямёнаў, А.Мардвінаў, М.Колі, Б.Рубаненка, І.Лангбард, Н.Трахтэнберг), які стаў асновай для аднаўлення і развіцця горада. Большая частка працы па разборцы гар. руін ажыццяўлялася ўручную. Не хапала электраэнергіі, інструментаў, будаўнічых матэрыялаў. Паводле рашэння Мінгарвыканкома рабочыя і служачыя штомесячна адпрацоўвалі на аднаўленні горада 30 гадз, студэнты і вучні старэйшых класаў — 15 гадз. У 1944—45 гг. у горадзе працавалі 21 пачатковая і сярэдняя школы, 3 тэхнікумы, 8 ВНУ (БДУ, педагагічны, політэхнічны, медыцынскі, юрыдычны, народнай гаспадаркі, фізічнай культуры ін-ты і кансерваторыя).

З 14.5.1946 г. Мінск стаў горадам рэсп. падпарадкавання. Аднаўленне і далейшае развіццё сталіцы Беларусі было прызнана адной з асн. задач Закона аб 4-м пяцігадовым плане аднаўлення і развіцця нар. гаспадаркі рэспублікі на 1946—50 гг., прынятага ў вер. 1946 г. Вярх. Саветам БССР. Першарадная ўвага надавалася аднаўленню электрастанцый, станкабудаўнічых з-даў імя Кірава, імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, металаапрацоўчых з-даў імя Чкалава і «Ударнік». Хуткаму аднаўленню падлягалі таксама прадпрыемствы, якія працавалі на патрэбы арміі. Ствараемая прам. інфраструктура горада з часам стала базай для развіцця новых грамадз. галін. У 1946 г. ў Мінску ўжо працавалі больш за 60 прам. прадпрыемстваў, выпрацоўка электраэнергіі дасягнула даваеннага ўзроўню. Паступова аднаўляліся прадпрыемствы лёгкай і харчовай





*Від на забудову мікраraёна Усход з боку праспекта Незалежнасці.*

*Фантан перад будынкам Нацыянальнай школы прыгажосці.*







*Помнік «Беларусь партызанская» на Партызанскім праспекце.*



*Кола агляду ў Цэнтральным дзіцячым парку імя М.Горкага.*

прам-сці: гарбарны з-д «Бальшавік», гарбарна-галантарэйная ф-ка імя Куйбышава, мясакамбінат, малаказавод і інш. Матэрыяльная база аднаўлення горада ствралася на аснове цэнтралізаваных і матэрыяльных рэсурсаў, якія выдзяляліся саюзным урадам, частковай рээвакуацыі абсталявання, сыравіны і матэрыялаў з усх. абласцей СССР, актыўнай дапамогі саюзных рэспублік. Значную ролю адыгралі рэпарацыйныя пастаўкі з Германіі і ад яе саюзнікаў. Пры аднаўленні разбураных будынкаў выкарыстоўвалася таксама праца ням. ваеннапалонных.

Адначасова з аднаўленнем даваенных з-даў і ф-к у Мінску вялося будаўніцтва новых буйных прам. прадпрыемстваў: трактарнага, аўтамабільнага, веласіпеднага з-даў, тонкасуконнага к-та. У горад прыбылі сотні кваліфікаваных рабочых і спецыялістаў з розных рэгіёнаў СССР, а таксама вял. колькасць сельскай моладзі, мабілізаванай з розных абласцей Беларусі. У 1949 г. прам-сць горада дасягнула даваеннага ўзроўню. У 1950 г. на прам. прадпрыемствах сталіцы працавалі каля 137 тыс. рабочых і служачых, каля 5 тыс. інжынерна-тэхн. работнікаў. Насельніцтва Мінска ў 1950 г. склала 273,6 тыс. чал.; дзейнічалі 14 бальніц, 86 амбулаторый, паліклінік і кансультацый, у якіх працавалі 1,5 тыс. ўрачоў. Горад ператварыўся ў адзін з буйнейшых індустр. цэнтраў СССР, твар якога сталі вызначаць новыя зборачныя вытв-сці. Прадукцыя мінскіх з-даў і ф-к пастаўлялася ва ўсе рэспублікі СССР і ў шэраг замежных краін.

Першы пасляваенны Ген. план развіцця Мінска быў распрацаваны ў 1946 г. (архітэктары М.Андросаў, Н.Трахтэнберг, інжынеры К.Іванаў, Р.Абразцова, В.Талмачоў, кансультанты У.Сямёнаў, Н.Палякоў), які прадугледжваў развіццё горада як буйнога індустр. і культ. цэнтра. Меркавалася стварэнне 2 узаемна перпендыкулярных магістраляў — гар. дыяметраў (уздоўж магістраляў Брэст—



*Плошча Незалежнасці.*



*Від на Мінск з панарамнай пляцоўкі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*





*Спартыўны комплекс «Мінск-Арэна» на праспекце Пераможцаў.*

Масква і Мінск—Магілёў). Уздоўж 1-га дыяметра прадугледжвалася фарміраванне грамадска-адм. і культ. інфраструктуры горада, закладка паркаў, пашырэнне і добраўпарадкаванне русла ракі; уздоўж 2-га дыяметра — фарміраванне прамыслова-вытв. інфраструктуры. Задачы інтэнсіўнага вырашэння жыллёвай праблемы пры магчымым захаванні існуючага фонду дыктавалі неабходнасць пошуку для новай забудовы свабодных тэрыторый і больш эфектыўнага іх выкарыстання. За 1946—50 гг. жыллёвы фонд Мінска павялічыўся ў 2,7 раза і дасягнуў 1,1 млн. $м^2$, што склала менш за 3,5 $м^2$ жылля на кожнага мінчаніна. У 1952 г. на вуліцах горада з'явіліся тралейбусы.

Генплан развіцця горада 1946 г. карэкціраваўся ў 1952 і 1958 гг. У 1959 г., згодна з дадзенымі перапісу насельніцтва, Мінск налічваў ужо 532 299 жыхароў. Тысячы гараджан па-ранейшаму пражывалі ў падвальных памяшканнях, інтэрнатах, бараках часовага тыпу, перанаселеных камунальных кватэрах, на рэштках руін. Горад развіваўся гал. чынам у паўд., паўд.-ўсх. і паўн.-ўсх. напрамках. Аптымальна вырашалася задача прыбліжэння жылля да месца працы. Асн. элементам сяліцебнай зоны стаў мікрараён. Упершыню горад з яго акружэннем у радыусе да 30 км разглядаўся як адзінае цэлае. З'явіліся дадатковыя радыяльныя магістралі, паўкальцо і вонкавае гар. кальцо. Адметнай рысай пасляваеннага будаўніцтва стала шырокае развіццё арх. ансамбляў, цэласнай забудовы вуліц, плошчаў, кварталаў. У гэты перыяд быў створаны адзін з лепшых ансамбляў Мінска — праспект Незалежнасці (раней называўся праспектам Сталіна, Леніна, Францыска Скарыны) з плошчамі Незалежнасці (да 1990-х г. плошча Леніна), Кастрычніцкай (да 1984 г. Цэнтральная плошча), Перамогі (Круглая плошча), Я.Коласа і зялёнымі масівамі ўздоўж р. Свіслач. Гал. вуліца горада забудоўвалася жылымі шматпавярховымі дамамі (сярод



*Адна з залаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*



*Мемарыяльны комплекс «Яма» ў Мінску.*









*Упарадкаваная тэрыторыя перад Камароўскім рынкам.*

*Плошча Я.Коласа.*

іх гасцініца «Мінск», Гал. паштамт, ГУМ, будынак Дзярж. банка, Палац культуры Белсаўпрофа, Мінскі цырк). Кампазіцыйным цэнтрам плошчы Перамогі стаў велічны Манумент Перамогі, устаноўлены ў 1954 г. (архітэктары Г.Заборскі, У.Кароль). На 4 гранях пастамента 40-метровага абеліска (абліцаваны шэрым гранітам і завершаны выявай ордэна Перамогі) размешчаны бронзавыя барэльефы (скульптары А.Бембель, С.Селіханаў, З.Азгур, А.Глебаў). 3.7.1961 г. каля падножжа помніка запалены Вечны агонь.

З сярэдзіны 1950-х г. разгарнулася будаўніцтва індустрыяльнымі метадамі з выкарыстаннем тыпавых праектаў. У Мінску з'явіліся кварталы па вуліцах Апанскага (цяпер Кальварыйская), Арлоўскай, В.Харужай і М.Горкага (сучасная вуліца М.Багдановіча), мікраараён па вуліцы Валгаградскай. Усяго ў 1959—65 гг. у горадзе пабудавана больш за 2400 тыс. $м^2$ жылой пл. У 1963 г. адчыніўся канцэртны зал філармоніі, у 1965 г. палацы культуры трактарнага з-да і камвольнага к-та. У 1964—65 гг. у 111 гар. агульнаадукацыйных школах атрымоўвалі адукацыю больш за 100 тыс. дзяцей, былі створаны першыя школы-інтэрнаты.

Новы пасляваенны Ген. план забудовы Мінска 1965 г. (архітэктары Н.Трахтэнберг, І.Люблінскі, А.Наканечны, Я.Заслаўскі, Н.Кудзінаў, Л.Гафо) вызначаў і ўдакладняў зоны жылога і прам. будаўніцтва і ў першую чаргу такія буйныя жылыя раёны, як Чыжоўка, Усход, Зялёны Луг, Серабранка. У 1974 г. дадаткова былі складзены праект дэталёвай планіроўкі цэнтр. часткі Мінска (архітэктары Я.Дзятлаў, Ю.Градаў, Л.Левін, Я.Заслаўскі, Г.Горына, У.Кароль і інш.), эскіз забудовы Мінскага водна-зялёнага дыяметра. Ствараліся ансамблі грамадска-дзелавых комплексаў і жылых раёнаў на асн. радыяльных напрамках: па вуліцах Няміга, М.Горкага (М.Багдановіча), Я.Коласа, Прытыцкага, праспектах Машэрава (з 2006 г. праспект Пераможцаў), Партызанскім. У 1960—70-я гг. былі пабудаваны Палац спорту (архітэктары С.Філімонаў, В.Малышаў), Палац культуры і спорту чыгуначнікаў (архітэктар Л.Анікіна), кінатэатры «Піянер» (архітэктар Г.Заборскі), «Кастрычнік» (архітэктар В.Малышаў), Гал. корпус БДУ (архітэктары М.Бакланаў, А.Духан), Рэсп. воднаспартыўны камбінат (архітэктар В.Ладыгіна), Ін-т тэхнічнай кібернетыкі АН БССР (архітэктары Ю.Грыгор'еў, А.Беразоўскі), Палац мастацтваў (архітэктары С.Мусінскі, Н.Краўкова), гасцініца «Турыст» (архітэктар Л.Пагарэлаў), комплекс жылых дамоў і прадпрыемстваў культ.-быт. абслугоўвання па вуліцы Талбухіна, інш. будынкі. Сярод прам. аб'ектаў у гэты час выраслі карпусы Мінскага гадзіннікавага з-да, з-да халадзільнікаў (цяпер ВА «Атлант»). У 1970—80-я гг. Мінск упрыгожылі адм.







*Будынак Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. 2010 г.*

*Бульвар на вуліцы Леніна.*

будынкі на праспекце Пераможцаў (былы праспект Машэрава), карпусы медыцынскага ін-та (цяпер Бел. дзярж. медыцынскі ун-т) на праспекце Газеты «Праўда» (архітэктары Э.Гальдштэйн, Ю.Бічан), гал. корпус арх. і будаўнічага ф-таў БПІ (цяпер Бел. нац. тэхн. ун-т; архітэктары І.Есьман, В.Анікін), аўтавакзал «Усходні» (архітэктары А.Пагарэлаў, Л.Кустова, В.Ягадніцкі), кінатэатр «Масква» (архітэктары В.Крамарэнка, М.Вінаградаў, У.Шчарбіна) і інш. У маі 1985 г. на праспекце Машэрава (цяпер праспект Пераможцаў), на невял. пагорку каля парку Перамогі, быў устаноўлены арх.-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой» (скульптар-архітэктар В.Занковіч, архітэктары В.Крамарэнка, В.Яўсееў, У.Раманенка).

У 1982 г. быў прыняты чарговы Ген. план забудовы Мінска, які прадугледжваў развіццё горада да 2000 г. па асн. кірунках: паўд.-зах. і зах. (кіраўнік калектыву Ю.Пурэцкі, архітэктары У.Кароль, Ю.Грыгор'еў, Я.Ліневіч, Н.Гардзіенка і інш.). У межы Мінска ўвайшлі вёскі: Азярышча (1973), Альшэва, Бараноўшчына (вёска і пасёлак; 1978), Будзілава, Веснінка (1974), Весялоўка (1970), Вількаўшчына (1959), Вялікае Сціклева (1959), Вялікая Слепня (1959), Вялікая Сляпянка (1959), Грэбелька (1967), Дворышча (1967), Дражня (1959), Дразды (1978), Зацішша (1959, 1965), Зялёны Луг (1976), Калонія (1959), Карзюкі (1972), Красная Слабада (1967), Крупцы (1972), Курасоўшчына (1965), Лошыца 2-я (1959, 1973), Малая Сляпянка (1959), Малое Сціклева (1981), Маляўкі (1967), Маляўшчына (1959), Мірны (1972), Міхалова (1978), Мядзвежына (1959, 1978), Падбалоцце (1972), Пасёлак птушкафабрыкі імя Крупскай (1974), Піянерская (1972), Пятроўшчына (1978), Сакалянка (1959), Сталовая (1959), Траскоўшчына (1978), Труд (1959), Уручча (1978), Цывалі (1967), Чыжоўка (1967) Шчатоўка (1959), Шэпічы (вёска і пасёлак; 1959), Юрэвічы (1959), Яфімава (1959).

У 1975 г. насельніцтва сталіцы БССР складала 1121,7 тыс., у 1980 г. — 1308,6 тыс., у 1989 г. — 1607 тыс. жыхароў. З 1982 г. дзейнічае Міжнародны аэрапорт. У 1984 г. пачаўся рух цягнікоў па 1-й лініі Мінскага метрапалітэна (будаўніцтва пачалося ў 1977 г.). Працяглasць яго падземнай чыгункі складала 10,6 км (ад станцыі «Інстытут культуры» да станцыі «Маскоўская»). Цяпер у Мінску дзейнічаюць 2 лініі метрапалітэна: «Маскоўская» (9 станцый) і «Аўтазаводская» (14 станцый), якія перасякаюцца на Кастрычніцкай плошчы. У 1990 г. на кожнага мінчаніна прыходзілася больш за 14 $м^2$ жылой плошчы. Працавалі 54 вытворчыя і навук.-вытв. аб'яднанні, 162 прам. прадпрыемствы (на самастойным балансе). У горадзе быў засяроджаны выпуск усіх трактароў, матацыклаў, веласіпедаў, хала-









*Будынак Беларускага дзяржаўнага цырка.*

*Гандлёвы цэнтр па вуліцы Кульман.*

дзільнікаў, радыёпрыёмнікаў, наручных гадзіннікаў, якія вырабляліся ў рэспубліцы, значная частка грузавых аўтамабіляў, станкоў, аўтаматычных ліній, электронных вылічальных машын, тэлевізараў, прybораў і інш. відаў прам. прадукцыі. У пасляваеннай сталіцы атрымала развіццё таксама вытв-сць тканін, абутку, швейных і трыкатажных вырабаў, харчовых тавараў, мелася шырокая сетка прадпрыемстваў гандлю і быт. абслугоўвання насельніцтва. Да канца 1980-х г. у Мінску налічвалася 35 дарослых, 26 дзіцячых, 16 стаматалагічных, 18 ведамасных паліклінік, 25 жаночых кансультацый, 300 здраўпунктаў і 21 санаторый-прафілакторый на прадпрыемствах і ва ўстановах, 100 аптэк і інш. ўстановы аховы здароўя. У прыгараднай зоне былі пабудаваны 8 санаторыяў і Дамоў адпачынку.

Да 1990 г. Мінск стаў цэнтрам адукацыі, культуры і навукі БССР. Тут працавалі 310 сярэдніх школ, 23 тэхнікумы, 32 ПТВ, 17 ВНУ, больш за 40 навук.-даследчых ін-таў, у т. л. ін-ты Акадэміі навук Беларусі, звыш за 100 праектна-тэхналагічных арг-цый, каля 200 канструктарскіх бюро, больш за 200 б-к, музеі. У горадзе былі сканцэнтраваны 2/3 навук. кадраў Беларусі; пражывала большасць членаў Саюза пісьменнікаў БССР (у 1979 г. 267 з 313), Саюза мастакоў БССР (у 1979 г. 338 з 423). Цэнтрамі тэатральнага жыцця сталіцы сталі Бел. тэатр імя Я.Купалы, Вял. тэатр оперы і балета, Рус. драматычны тэатр, Тэатр лялек, Тэатр юнага гледача, Тэатр музыкальнай камедыі. З пач. 1956 г. праводзіліся тэлевізійныя трансляцыі, з 1981 г. на асобным канале пачало вяшчанне Бел. тэлебачанне.

27.7.1990 г. Вярх. Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзярж. суверэнітэце БССР, якая 25.8.1991 г. атрымала статус канстытуцыйнага акта. 19.9.1991 г. на сесіі Вярх. Савета БССР дзяржава атрымала новае найменне — Рэспубліка Беларусь (РБ). Менавіта з гэтага дня Мінск з'яўляецца сталіцай суверэннай дзяржавы. З 1993 г. ў горадзе размяшчаецца Выканаўчы сакратарыят Саюза Незалежных Дзяржаў (СНД), з 1994 г. — рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У 1993 г. ў Мінску адбыўся 1-ы з'езд беларусаў свету, у 1994 г. — сустрэча бел. моладзі свету.

Статус сучаснай сталіцы Беларусі, асаблівасці яе мясц. кіравання і самакіравання вызначаны законамі «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» (1993), «Аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь — горада Мінска» (2000) і Статутам Мінска, які быў зацверджаны на сесіі Мінскага гар. Савета дэпутатаў 26.6.2001 г. Дзейнасць гар. адміністрацыі і адміністрацый раёнаў горада ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Мінск мае свае афіц. сімвалы — герб (16 ст.), сцяг і гімн (зацвер-







*Урачыстае адкрыццё ў скверы імя Сендая гадзінніка дружбы, падараванага Мінску сендайскім муніцыпалітэтам у сувязі з 30-годдзем ўстанаўлення пабрацімскіх адносін паміж Мінскам і г. Сендай (Японія).*

*Гасцініца «Еўропа».*

джаны ў 2001 г.), штогод праводзіцца свята горада (2-я субота верасня).

Сучасны Мінск — цэнтр палітычнага і грамадскага жыцця дзяржавы, буйны адм., прам., навук. і культ. цэнтр краіны. У горадзе акрамя афіц. дзярж. рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспубліка Беларусь размяшчаюцца Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь (урад), Нац. сход, Нац. банк і інш. дзярж. органы ўлады, дыпламатычныя прадстаўніцтвы, консульскія ўстановы замежных краін і прадстаўніцтвы міжнародных арганізацый у Рэспубліцы Беларусь. Ужо ў 1994 г. ў сталіцы дзейнічалі 33 пасольствы, штаб-кватэры 28 палітычных партый і 7 грамадскіх рухаў. У Мінску знаходзяцца кіруючыя органы рэсп. грамадскіх аб'яднанняў — Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (да 1990 г. Бел. рэсп. савет прафсаюзаў), Бел. кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў і інш. Працуюць прадпрыемствы (у 1998 г. налічвалася 285) машынабудаўнічай і металаапрацоўчай прам-сці (сярод іх з-ды электратэхнічны, тэхналагічных металаканструкцый, прыладабудаўнічы, аўтаматычных ліній, рысорны, «Ударнік», станкабудаўнічы імя С.Кірава, вытв. аб'яднанні «Гарызонт», «Атлант», «Інтэграл» і інш.), лёгкай (ф-кі: трыкатажная «Прагрэс», мастацкіх вырабаў «Мастра», гарбарна-галантарэйная, валюшна-лямцавая і люстраная, абутковыя, 2 швейныя; камвольны і тонкасуконны к-ты, гарбарны і фарфоравы з-ды, і інш.), паліграфічнай (Беларускі Дом друку, паліграфічны к-т, шпалерная і каляровага друку ф-кі), харчовай (мясакамбінат, малочны, кансервава-агароднінасушыльны і хлебапрадуктаў к-ты, кандытарская і тытунёвая ф-кі і інш.), будаўнічых матэрыялаў (каля 20 аб'яднанняў, к-таў і з-даў будаўнічых матэрыялаў, металаканструкцый, зборнага жалезабетону, буйнапанэльнага і аб'ёмнага домабудавання, сілікатных вырабаў, гіпсавы, цагельны і асфальтабетонны з-ды, «Мінскметрабуд»), дрэваапрацоўчай (мэблевыя прадпрыемствы, вытв-сць будаўнічых матэрыялаў), хіміка-фармацэўтычнай (аб'яднанне «Белмедпрэпараты» і інш.) прам-сці; 4 ЦЭЦ. На тэр. Мінска і Мінскага рэгіёна знаходзіцца свабодная эканамічная зона «Мінск» (агульная пл. каля 1537,3 га).

У горадзе дзейнічаюць 818 вучэбных устаноў, у т. л. 184 агульнаадукац. школы, 2 ліцэі, 2 гімназіі-каледжы, 34 гімназіі, 10 пачатковых школ, 5 школ-інтэрнатаў, 31 ВНУ, 27 сярэдніх спец. навуч. устаноў, Мінскі дзярж. палац дзяцей і моладзі, Дзярж. турысцка-экалагічны цэнтр, 7 спарт. дзіцяча-юнацкіх школ алімпійскага рэзерву; Нац. акадэмія навук Беларусі, інш. навук. арг-цыі і ўстановы; 35 музеяў (сярод іх — Нац. музей гісторыі і культуры Беларусі, Бел. дзярж. музей гісторыі Вял. Айч. вайны, Нац. мастацкі музей Рэспублікі Беларусь і яго філіялы; музеі ваеннай гісто-





*Скульптурная кампазіцыя «Архангел Міхаіл перамагае дракона» каля касцёла Сымона і Алены. Скульптар І.Голубей. 1996 г.*

*Аэрапорт Мінск-2.*

рыі Рэспублікі Беларусь, гісторыі медыцыны, гісторыі тэатральнай і музычнай культуры; літаратурныя музеі Я.Купалы, М.Багдановіча, П.Броўкі і інш.), 5 тэатраў (Нац. акадэмічны тэатр імя Я.Купалы, Нац. тэатр оперы і балета, Рус. драматычны тэатр і інш.), Дзярж. цырк, 14 архіваў (Нац. архіў РБ, Нац. гіст. архіў РБ, Бел. дзярж. архіў навук.-тэхн. дакументацыі, Дзярж. архіў Мінскай вобл. і інш.), выдавецтвы, інш. ўстановы культуры, навукі, адукацыі, аховы здароўя.

У 2003 г. пасля Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб змяненні межаў горада Мінска і Мінскага раёна» пад юрысдыкцыю Мінгарвыканкома перайшлі размешчаныя ў межах Мінскай кальцавой аўтадарогі землі Мінскага р-на агульнай пл. 3867 га з населенымі пунктамі Зара Рэвалюцыі, Кунцаўшчына, Масюкоўшчына, Ржавец, Зацень, Цнянка і Навінкі. Раней, у 1988 г., у склад горада ўключылі пас. Сцяпянка. З жн. 2003 г. Мінск займаў тэр. пл. 305,47 м$^2$. Пл. прыгараднай зоны Мінска складае больш за 750 тыс. га і дзеліцца на 3 паясы. Зоны масавага кароткачасовага адпачынку мінчан размешчаны ў першым (лесапаркавым) поясе, радыус якога дасягае 25 км. Пасля 1996 г. ў горадзе пабудаваны Палац Рэспублікі, будынкі новага чыг. вакзала, Нац. б-кі Рэспублікі Беларусь, Лядовы палац спорту і інш. буйныя спарт. пабудовы. Будаўніцтва жылля вядзецца ў мікрараёнах Малінаўка, Паўднёвы Захад, Сухарава, Лошыца, Чырвоны Бор, па вуліцы Маякоўскага, праспекце Ракасоўскага, Лагойскім тракце. Мікрараён Сляпянка забудаваны невял. катэджамі.

У 2003 г. зацверджаны новы Ген. план развіцця Мінска да 2030 г., які прадугледжвае значны тэрытарыяльны рост горада (план карэкціраваўся ў 2008 г.). У перспектыве пл. Мінска павінна скласці 542 км$^2$. У горадзе завершана рэканструкцыя плошчаў Незалежнасці (пабудаваны падземны горад з магазінамі і рэстаранамі) і Перамогі, праведзены рамонт плошчы Я.Коласа, шэрагу гар. вуліц. Працягваецца распачатая яшчэ ў 1960-я г. рэканструкцыя гіст. цэнтра Мінска, адноўлены будынкі Ратушы (плошча Свабоды) і гасцініцы «Еўропа». Пачалася праца па рэалізацыі праекта «Мінск-Сіці» (распрацаваны УП «Мінскград»), які прадугледжвае ўзвядзенне жылога раёна на 35—38 тыс. жыхароў і высотнага адм.-дзелавога цэнтра.

Нягледзячы на шматлікія войны і разбурэнні, мінчанам удалося захаваць для нашчадкаў багатую гісторыка-культ. спадчыну. У Дзярж. спіс гісторыка-культ. каштоўнасцей горада ўключана больш за 500 помнікаў археалогіі, гісторыі, архітэктуры. Мінскі гіст. цэнтр займае тэр. па берагах р. Свіслач і складаецца з 3 гісторыка-арх. зон: Верхні горад, Ракаўскае і Траецкае прадмесці. Тэр. стараж. замка — Мінскае замчы-





*Святкаванне Дня Незалежнасці ў Мінску. 3 ліпеня 2008 г.*

шча — з'яўляецца археал. запаведнікам. Да найбольш вядомых помнікаў архітэктуры горада адносяцца: цэрквы Петрапаўлаўская (вуліца Ракаўская, 4), Марыі Магдалены (вуліца Кісялёва, 42), Аляксандра Неўскага (Вайсковыя могілкі, вуліца Казлова, 11), кафедральны сабор Св. Духа (б. касцёл і кляштар бернардзінак, вуліца Кірылы і Мяфодзія, 3, 5, 7), касцёл Дзевы Марыі (плошча Свабоды), Троіцкі Залатагорскі касцёл (касцёл Св. Роха; праспект Незалежнасці, 44а), касцёл Узвышэння Святога Крыжа і брама (Кальварыйскія могілкі), касцёл Сымона і Алены (Чырвоны; вуліца Савецкая, 15), Пішчалаўскі замак (вуліца Валадарскага, 2), гасціны двор (плошча Свабоды, 2—10), сядзібны дом (плошча Свабоды, 15), гандл. рады (вуліца Герцэна, 1), будынкі мужчынскага духоўнага вучылішча (плошча Свабоды, 13/2), Марыінскай жаночай гімназіі (вул. К.Маркса, 29), духоўнай кансісторыі (19 ст.; праспект Незалежнасці, 24), жаночай гімназіі (канец 19 — пач. 20 ст.; вул. Кірава, 5), адм. будынак (1852 г.; плошча Свабоды), гарадскі тэатр (1890 г.; вуліца Энгельса, 7); помнікі сядзібна-паркавай архітэктуры — сядзібы Ваньковічаў (мяжа 18—19 ст.; вуліцы Інтэрнацыянальная, 33а і Парніковая, 26), Белая дача (канец 19 ст.; вуліца Казінца, 54) і інш. У Мінску існуе шмат помнікаў і памятных месц, звязаных з падзеямі Вял. Айч. вайны, жыццём і дзейнасцю вядомых пісьменнікаў, мастакоў, дзярж. дзеячоў. Сярод іх — Манумент Перамогі на аднайменнай плошчы, арх.-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой»; помнікі Я.Купалу, Я.Коласу, М.Багдановічу, М.Гарэцкаму, Я.Драздовічу, М.Горкаму, М.І.Калініну, Ф.Э.Дзяржынскаму і інш.; Вайсковыя могілкі; мемарыял на месцы загубы і пахавання яўр. насельніцтва «Яма»; магілы ахвяр фашызму ў Парку Чэлюскінцаў, на вуліцы Талбухіна, на 9-м км Маскоўскай шашы, на месцы былых Трасцянецкага і Масюкоўшчынскага лагераў смерці і інш. На аснове гісторыка-культ. каштоўнасцей горада створаны турысцкія зоны: «Верхні горад» (уключае Траецкае прадмесце з помнікамі культавай, сядзібнай і грамадз. архітэктуры 17 — пач. 20 ст.) і «Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс»; турысцкія маршруты «Музеі Мінска», «Мінск тэатральны 20 ст.», «Мінск археалагічны», «Помнікі забудовы горада 18 — пачатку 20 ст.» і інш.

Сталіца Рэспублікі Беларусь мае 17 гарадоў-пабрацімаў: Ноцінгем (Вялікабрытанія, з 1957 г.), Сяндай (Японія, 1973 г.), Бангалор (Індыя, 1973 г.), Ліён (Францыя, 1976 г.), Чанчунь (Кітай, 1992 г.), Лодзь (Польшча, 1992 г.), Бон (Германія, 1993 г.), Эйндховен (Нідэрланды, 1994 г.), Душанбэ (Таджыкістан, 1998 г.), Кішынёў (Малдова, 2000 г.), Гавана (Рэспубліка Куба, 2005 г.), Тэгеран (Ісламская Рэспубліка Іран, 2006 г.),





*Забудова раёна Уручча.*

Абу-Дабі (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, 2007 г.), Анкара (Турэцкая Рэспубліка, 2007 г.), Бішкек (Кыргызская Рэспубліка, 2008 г.), Хошымін, Ханой (В'етнам, 2008 г.). Званне «Ганаровы грамадзянін Мінска» маюць каля 25 чал. Сярод іх лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне фізікі за 2001 г. Ж.І.Алфёраў, чл.-кар. АН БССР, засл. ўрач БССР Т.В.Бірыч, нар. паэт Беларусі П.У. Броўка, мітрапаліт мінскі і слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт (К.В.Вахрамееў), нар. артыст СССР і БССР, лаўрэат Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь В.М.Елізар'еў, нар. мастак СССР і БССР М.А.Савіцкі.

Мінск — радзіма М.А.Аскеркі (1836—64), удзельніка паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве; А.А.Астаповіча (1896—1941 гг.), бел. графіка; М.Багуна (М.Ф.Блошкіна, 1908—38), бел. пісьменніка; І.М.Багушэвіча (1906—62), Героя Сав. Саюза; І.М.Барашкі (1905—68), бел. пісьменніка; М.А.Вігдорчыка (1874—1954), дэлегата І з'езда РСДРП, урача-гігіеніста, засл. дзеяча навукі РСФСР; А.А.Волаха (1917—43), Героя Сав. Саюза; В.Я.Галаўчынера (1905—61), нар. артыста БССР; Я.К. Глебаўскай (1901—78), нар. артысткі БССР; М.Глушневіча (1797—1862), бел. астранома; Ф.П.Ждановіча (1884—1942), бел. акцёра, рэжысёра і тэатральнага дзеяча; М.К.Каржанеўскага (1904—43), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля ў Вял. Айч. вайну; К.В.Марцінкевіч (1837—90, дачка В.Дуніна-Марцінкевіча), бел. піяністкі, кампазітара, педагога, удзельніцы рэв. руху ў Беларусі ў 1860-я г.; У.Ф. Міткевіча (1872—1951), сав. вучонага ў галіне электратэхнікі, акадэміка АН СССР; С.К.Мяржынскага (1870—1901), аднаго з першых марксістаў у Беларусі; Я.Д.Нікалаева (1913—78), бел. тэатральнага мастака, нар. мастака БССР; А.Ф.Паўловіча (1875—1951), бел. паэта, драматурга; В.К.Слуцкай (1874—1917, сапр. Берта Браніславаўна), прафес. рэвалюцыянеркі; М.А. Сяліцкага (1907—36), Героя Сав. Саюза; А.М.Тарасевіча (1922—63), Героя Сац. Працы; С.К.Туманскага (1901—73), сав. канструктара авіяцыйных рухавікоў, акадэміка Акадэміі навук СССР; М.М. Філіповіча (1896—1947), бел. жывапісца і графіка; І.П.Яўнзем (1897—1975), спявачкі, збіральніцы і прапагандысткі песеннай нар. творчасці, нар. артысткі РСФСР; бел. вучоных — акадэмікаў НАН Беларусі: Г.А.Анісовіча (1932—2003), Ю.М.Астроўскага (1925—91), І.Д.Валатоўскага (н. ў 1939), С.В.Гапоненкі (н. ў 1958), Л.Д.Герасімовіча (н. ў 1939), С.А.Жданка (н. ў 1953), Л.І. Кісялеўскага (1927—91), М.Б.Кроля (1879—1939), А.Г.Лабанка (н. ў 1938), А.В.Мацвеева (н. ў 1938), У.Г.Спрынджука (1936—87), В.І.Шэмпеля (1908—75), І.М.Ярмоленкі (1932—91); чл.-кар. НАН Беларусі: А.І.Александровіча (1906—63), Ф.А.Апейкі (1908—70),



А.П.Астапені (н. ў 1939), П.І.Бялькевіча (1907—92), Л.І.Гурскага (н. ў 1936), У.Л.Драгуна (н. ў 1946), А.Я.Залескага (н. ў 1939), А.К.Карабанава (н. ў 1952), Г.Д.Карпенкі (1949—99), Л.Р.Краснеўскага (н. ў 1938), Г.І.Лазюка (н. ў 1927), А.С.Майхровіча (1937—2004), А.Г.Мрочкі (н. ў 1953), Б.М.Смольскага (1913—82), В.Д.Ткачова (1939—85), Л.М.Тамільчыка (н. ў 1931 г.), Э.І.Тачыцкага (1935—2007), У.А.Хрыпача (н. ў 1949), С.С.Шушкевіча (н. ў 1934).

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4-п, воп. 5, спр. 1007, 2411; воп. 21, спр. 826, 827, 917, 1589, 1884, 1914; ф. 6, воп. 1, спр. 411, 1974; ф. 7, воп. 1, спр. 111; ф. 31, воп. 1, спр. 257, 796.
Бутурлин Д.П. История нашествия императора Наполеона на Россию в 1812 г.: пер. с фр. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1823; Ч. 2. 2 изд. Санкт-Петербург, 1838.
Военно-статистическое обозрение Российской империи, издаваемое по высочайшему повелению при 1-м отделении Департамента Генерального штаба. Т. 9, ч. 4. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1848.
Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855.
Памятные книжки Минской губернии и календари на 1860—1917 гг. Минск, 1860—1916.
Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1—2. Санкт-Петербург, 1864.
Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Минск, 1870.
Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (Городовое положение 16 июня 1870 г.). Т. 2. Санкт-Петербург, 1877.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.
Описание церквей и приходов Минской епархии... Вып. 5—6. Минск, 1879.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.
Список землевладений Минской губернии. Минск, 1890.
Плавский К. Минск, его прошлое и настоящее: очерк // Минские губернские ведомости. 1891. № 110, 113.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. [Т.] 22. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1904.
Справочный адресный указатель с планом Минска и календарем на 1904 г. Минск, 1904.
Города и поселения в уездах, имеющие 2000 и более жителей. Санкт-Петербург, 1905.
Города России в 1904 г. Санкт-Петербург, 1906.
Краткое историко-статистическое описание города Минска // Памятная книжка Минской губернии на 1910 г. Минск, 1909.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.
Минская старина. Вып. 1—3. Минск, 1909—13.
Урванцов С.Н. Медико-санитарный очерк г. Минска. Санкт-Петербург, 1910.
Сладкопевцев Е. Тайны города Минска. Минск, 1911.
Весь Минск. Минск, 1911.
Врачебный указатель г. Минска. Минск, 1913.
Города России в 1910 г. Санкт-Петербург, 1914.
Перепись населения г. Минска, произведенная 27—30 сентября 1917 г. Минск, 1918.
«Вся Белоруссия». Адресно-справочная книга и календарь на 1923 г. Минск, 1923.
Дружчыц В. Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. Мінск, 1926.
1863 г. на Меншчыне. Менск, 1927.
Кастрычнік на Беларусі: зб. дак. і матэрыялаў. Мінск, 1927.
Беларускі дзяржаўны універсітэт, 1921—27: да 10-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Мінск, 1927.





Алфавитный индекс населенных мест Великого Княжества Литовского. Ч. 1. Вильна, 1929.
Беларускі архіў. Т. 3. Менскія акты XV—XVIII стст. Мінск, 1930.
Некрашэвіч А. Беларускі першы дзяржаўны тэатр. 1920—1930: да дзесяцігоддзя яго існавання. Менск, 1930.
Усе раёны БССР. Мінск, 1933.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: хроніка падзей. Мінск, 1934.
Ляўданскі А., Каваленя А. Дзе знаходзіўся першапачаткова Менск ? // Звязда. 1935. 27 мая.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мінск, 1935.
Раёны БССР. Мінск, 1936.
Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 г. Минск, 1947.
Повесть временных лет. Ч. 1—2. М.; Ленинград, 1950.
Осмоловский М.С. Минск: градостроительство столицы Советской Белоруссии. Минск, 1952.
Егоров Ю.А. Градостроительство Белоруссии. М., 1954.
Ягораў Ю. Да пытання аб горадабудаўнічай гісторыі Мінска ў XVII—першай палове XIX с. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1955. № 3.
Шаціла В.У. Рэвалюцыйная барацьба ў Мінску ў гады першай рускай рэвалюцыі (1905—1907 гг.). Мінск, 1956.
Гнеўка В.Р. Да гісторыі развіцця народнай гаспадаркі і культуры Мінска ў гады першай пяцігодкі (1928/29—1932/33 гг.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1956. № 4.
Абрасимов П.А. Минск: историко-экон. очерк. Минск, 1956.
Тарасенко В.Р. Древний Минск // Материалы по археологии БССР. Минск, 1957. Т. 1.
Ивашин В.Г. Великий Октябрь в Минске. Минск, 1957.
Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: док. и материалы. Т. 1—2. Минск, 1957.
История Минска. Минск, 1957.
Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии. Минск, 1957.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 1—3. Минск, 1959—61.
О партийном подполье в Минске в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941—июль 1944 гг.). Минск, 1961.
Чантурия В.А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX в. Минск, 1962.
Лысенко А.В. Главная улица Минска (Ленинский проспект). Минск, 1963.
Загорульский Э.М. Древний Минск. Минск, 1963.
Игнатенко А.П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв. Минск, 1963.
Восстание 1863 года. Материалы и документы. М., 1965.
Немецко-фашистский оккупационный режим (1941—1944 гг.). М., 1965.
Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944. 2 изд. Минск, 1965.
Минск. Послевоенный опыт реконструкции и развития. М., 1966.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Минск, 1966.
Щеглова В.В. К вопросу о фауне Минского замчища // Белорусские древности. Минск, 1967.
Заславский Е.Л. Минск в прошлом, настоящем и будущем. Минск, 1967.
Минск: крат. хроника (нояб. 1917—1966). Минск, 1967.
Конан У.М., Шахматаў Б.М. З гісторыі перыядычнага друку ў Мінску // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1967. № 3.
Галенчик Н.И. Хроника важнейших событий г. Минска. Минск, 1967.
Мінск: фотааповесць аб 900-годдзі сталіцы Савецкай Беларусі. Мінск, 1967.
Сіленка В.М., Лазарук Т.К. Мінску — 900 год: рэкамендацыйны паказ. літ. Мінск, 1967.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг.: сб. док. и материалов. Т. 1—2. Минск, 1968—71.
Иванов В.М. Очерк быта промышленных рабочих дореволюционной Белоруссии. Минск, 1971.



Паўловіч Л.А., Малышаў А.Я. Прамысловасць Мінска: (эканоміка-геагр. нарыс). Мінск, 1972.
Линевич Я.Л., Король И.В. Основные направления развития и формирования центра Минска // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1973. № 4.
Белорусский ордена Трудового Красного Знамени политехнический институт. Минск, 1974.
Леановіч І.А. Жыллё рабочых горада Мінска ў даваенны перыяд (1917—1941 гг.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1974. № 1.
Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974.
Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974.
Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1975.
Белявина В.Н. Исследование культуры населения города Минска // Планирование социального развития городов. Минск, 1975.
Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975.
Воинов А.А. История архитектуры Белоруссии (советский период). Минск, 1975.
Воинов А.А., Самбук С.Ф. Дом правительства Белорусской ССР. Минск, 1975.
Грахоўскі С.І. Мінск: спадарожнік турыста. Мінск, 1975.
Заславский Е.Л. Опыт планировки и застройки центра Минска // В помощь проектировщику-градостроителю. Киев, 1975.
Индустриализация Белорусской ССР (1926—1941 гг.): сб. док. и материалов. Минск, 1975.
Аникин В.И., Григорьев Ю.Л. Город-герой Минск. Минск, 1976.
Польскі С.А. Дэмаграфічныя праблемы развіцця Мінска. Мінск, 1976.
Воинов А.А. И.Г.Лангбард. Минск, 1976.
Минск — город-герой: справ. Минск, 1976.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Минск, 1978.
Комплексный план экономического и социального развития Минска за 1976—1980 гг. Минск, 1978.
Академия наук Белорусской ССР. Минск, 1979.
Жучкевич В.А. Улицы помнят: история, события, люди в названиях улиц и площадей города-героя Минска. Минск, 1979.
Минск и его окрестности: справ.-путеводитель. Минск, 1979.
Грыцкевіч В.П., Мальдзіс А.І. Шляхі вялі праз Беларусь: нарыс. Мінск, 1980.
Воинов А.А. Жилищное строительство в Белорусской ССР. Минск, 1980.
Потапов Л.С. Силуэт Минска. Минск, 1980.
Восстановление народного хозяйства БССР (1921—1925 гг.): сб. док. и материалов. Минск, 1981.
Багласов С.Г. Реконструкция исторического центра Минска // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1981. № 2.
Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в. Минск, 1981.
Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982.
Багласов С.Г. Верхний город Минска: проблемы реконструкции // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1982. № 2.
Есьман Л.А. Основные этапы историко-градостроительного развития Минска // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1982. № 2.
Чернявская Т.И. Памятники архитектуры и градостроительства Минска // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1982. № 2.
Юрэвіч У. Мінск учора, сёння, заўтра: нарыс. Мінск, 1982.
Белорусский государственный университет имени В.И.Ленина. Минск, 1982.
Минск: энцикл. справ. Минск, 1983.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Минск, 1985—87.
Белоруссия в эпоху капитализма: сб. док. Т. 1—2. Минск, 1983—90.
Мінск на старых паштоўках (канец XIX — пачатак XX ст.). Мінск, 1984.

Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии 1941–1944. Минск, 1984.
Чернявская Т.И., Петросова Е.Ю. Памятники архитектуры Минска XVII – начала XX в. Минск, 1984.
Герасімовіч П. Адноўлены з руінаў // Мастацтва Беларусі. 1985. № 4.
Шибеко З.В. Минск в конце XIX – начале XX в.: очерк социально-экон. развития. Минск, 1985.
Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1 (Дооктябрьский период). Минск, 1985.
Денисов В.Н. Площадь Свободы в Минске. Минск, 1985.
Слова пра паход Ігаравы. Мінск, 1986.
Архитектура Советской Белоруссии. Минск, 1986.
Чантурия В.А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Минск, 1986.
Акалович Н.М. Они защищали Минск. 2 изд. Минск, 1987.
В непокоренном Минске: док. и материалы о подпольной борьбе советских патриотов в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 – июль 1944 ). Минск, 1987.
Гарады Беларусі: рэкамендацыйны бібліягр. паказ. Мінск, 1987.
Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987.
Багласов С.Г. Архитектурная реликвия // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1987. № 4.
Воинов А.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 2 (Советский период). 2 изд. Минск, 1987.
Денисов В.Н. Не повторять ошибок // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1987. № 4.
Белорусский государственный музей истории Великой Отечественной войны. Минск, 1987.
Белорусский ордена Трудового Красного Знамени институт физической культуры. Минск, 1987.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мінск, 1988.
Градостроительство Белоруссии. Минск, 1988.
Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов Белоруссии. Минск, 1988.
Мінск. Учора і сёння. Мінск, 1988.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінск. Мінск, 1988.
Заяц Ю.А. Мінская брама XII ст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя дасled. Мінск, 1989.
Дзянісаў У.М., Пазняк З.С. Мінскі кляштар дамініканцаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя дасled.: зб. арт. Мінск, 1989.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Минск, 1990.
Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941–1945: энцыкл. Мінск, 1990.
Шибеко З.В., Шибеко С.Ф. Минск. Страницы жизни дореволюционного города. Минск, 1990.
Етчик Е.Л. Минск от конки до метро. Минск, 1991.
Памятники Минска. Минск, 1991.
Баравы Р. Ціхія мінскія ўскраіны // Добры вечар. 1991. 30 снеж.
Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. Минск, 1992.
Русов П.А. Деревянные сооружения Менска XIII–XVII вв.: (опыт архитектурно-археол. реконструкции). Минск, 1992.
Сыракомля У. Мінск: беглы агляд сучас. стану Мінска. Мінск, 1992.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. Мінск, 1993.
Архітэктура Беларусі: энцыкл. давед. Мінск, 1993.
Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье. Репринтное воспроизведение издания 1882 года. 2 изд. Минск, 1994.
Минск: ист. очерк. Минск, 1994.
Народное хозяйство Республики Беларусь в 1993 г.: стат. ежегодник. Минск, 1994.
Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654–1667. Мінск, 1995.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941– 1944). Мінск, 1995.
Мінскае антыфашысцкае падполле. Мінск, 1995.
Скир А. Еврейская духовная культура в Беларуси: историко-литератур. очерк. Минск, 1995.
Заяц Ю.А. Оборонительные сооружения Менска XI–XIII вв. Минск, 1996.



Дзянісаў У.М. Касцёл Св. Сымона і Св. Алены. Мінск, 1996.
Гапеев В.И., Лукьянов В.А. Минское отделение Белорусской железной дороги. 1871—1996 годы: (ист. очерк). Минск, 1996.
Белорусский государственный технологический институт. Минск, 1996.
Собаль В. Менск старажытны // Бел. мінуўшчына. 1997. № 1.
Шыбека З.В. Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стст.). Мінск, 1997.
Боровой Р. Историческая топография древнего Минска: обзор источников и современное состояние проблемы // Гісторыка-археал. зб. 1997. № 12.
Алексеев Л.В. «Меньск» и Минск (К начальной истории белорусской столицы) // Культура славян и Русь. М., 1998.
Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мінск, 1998.
Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XIX). Мінск, 1998.
Цітоў А.К. Геральдыка беларускіх местаў: (XVI — пачатак XX ст.). Мінск, 1998.
Кузняева С.А. Еврейские общины Беларуси в конце XVIII — начале XIX вв. Минск, 1998.
Judenfrei! Свободно от евреев! История Минского гетто в документах. Минск, 1999.
Локотко А.И. Деревянное жилище Минска в XIX — начале XX столетия // Памятники культуры. Новые открытия. М., 2000.
Ботвинник М.Б. Памятники геноцида евреев Беларуси. Минск, 2000.
История Беларуси в документах и материалах. Минск, 2000.
Карповіч Т.А. Культурнае жыццё Мінска 1-й паловы XIX ст. Мінск, 2000.
Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі. Мінск, 2000.
Кулагін А.М. Эклектыка. Архітэктура Беларусі 2-й паловы XIX — пачатку XX ст. Мінск, 2000.
Гісторыя Беларусі. Т. 1—5. Мінск, 2000—06.
Марцынкевіч Н., Шыбека З. Перапіс нерухомай маёмасці Мінска 1910 г. // Спадчына. 2001. № 3.
Церкви и приходы Минска. Минск, 2001.
Рэлігія і царква на Беларусі: энцыкл. давед. Мінск, 2001.
Приходы и монастыри Белорусской Православной Церкви: справ. Минск, 2001.
Штыхаў Г.В. Абарончыя збудаванні гарадзішча на Менцы: да пытання аб паходжанні Менска // Беларускі горад у часе і прасторы: 500 гадоў Полацкай магдэбургіі: зб. навук. прац. Наваполацк; Мінск, 2001.
Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: сакрал. архітэктура бел. барока. Мінск, 2001.
Заяц Ю.А. Новые археологические исследования Верхнего города в Минске // Гістарычна-археал. зб. 2001. № 16.
Памяць: Мінск. Кн. 1—5. Мінск, 2001—07.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі. Мінск, 2001.
Минск в цифрах: стат. справ. Минск, 2001.
Платонаў Р.П. Старонкі гісторыі Беларусі: архівы сведчаць: з навук. спадчыны. Мінск, 2002.
Цітоў А.К. Менск — горад майстроў: рамесныя цэхі XVI—XVIII стст. Менск, 2002.
Булкин В.А., Седых В.Н. Киев—Минск—Смоленск—Москва: истоки становления столичного центра // Гісторыка-археал. зб. 2002. № 17.
Гужалоўскі А.А. Музеі Беларусі (1918—1941). Мінск, 2002.
Мінск незнаёмы, 1920—1940. Мінск, 2002.
Концепция и организационная структура управления городом Минском в современных условиях. Минск, 2002.
Основные показатели работы клубных учреждений г. Минска на период до 2002 г. Минск, 2002.
Проект стратегического плана устойчивого развития г. Минска на период до 2020 г. Минск, 2002.
Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. 1. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мінск, 2003.
Страчаная спадчына. Менск, 2003.
Устав города Минска. Минск, 2003.
Туризм и Беларусь. Минск, 2003.





Бушчык Г.П. Прамысловасць Мінска ў 1991— 2002 гг. // Бел. гіст. часоп. 2004. № 3.
Республика Беларусь. 1995—2004. Минск, 2004.
Республика Беларусь в цифрах. 2004: крат. стат. сб. Минск, 2004.
Освобожденная Беларусь: док. и материалы. Кн. 2. Январь—декабрь 1945 г. Минск, 2005.
Князева В.М. Падарожжа па Беларусі: гарады і гар. пас. Мінск, 2005.
Гісторыя Мінска. Мінск, 2006.
Морозов Е.В. Белорусская архитектура на этапе освоения архитектурного наследия (1930-е годы)// Вестн. Академии архитектуры. 2006. № 1.
Морозов Е.В. Стили и направления в белорусской архитектуре 1920—1930-х гг.: автореф. ... канд. искусствовед. ГНУ «ИИЭФ НАНБ». Минск, 2006.
Современная Беларусь: энцикл. справ. Т.3. Культура и искусство. Минск, 2007.
Шамрук А.С. Архитектура Беларуси XX — начала XXI в.: эволюция стилей и художеств. концепций. Минск, 2007.
Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 4. Warszawa, 1886.
Kowalewska Z. Obrazki minskie. Wilno, 1912.
Iwaszkiewicz J. Mińsk // Co tojest polska? Poznań, 1925.



# БАРЫСАЎСКІ РАЁН

Размешчаны на ПнУ Мінскай вобл. Цэнтр — г. Барысаў. У раёне 300 сельскіх нас. пунктаў, 17 сельсаветаў: Аздзяціцкі, Весялоўскі, Вяляціцкі, Глівінскі, Забашавіцкі, Зачысцкі, Зембінскі, Іканскі, Лошніцкі, Маісееўшчынскі, Мётчанскі, Мсціжскі, Навасёлкаўскі, Неманіцкі, Перасадскі, Прыгарадны, Траянаўскі. Пл. 3 тыс. км$^2$, лясы займаюць 60%, балоты — 13% тэр. Нас. (2009) 41,8 тыс. чал. (без г. Барысаў). Жывуць беларусы (91,1%), рускія (6,7%), украінцы (1,2%), прадстаўнікі інш. нацыянальнасцей (1%). Па тэр. раёна праходзяць аўтадарога і чыг. Мінск—Масква, аўтадарогі на Бягомль, Беразіно, Плешчаніцы.

Раён утвораны 17.7.1924, да 12.4.1927 у складзе Барысаўскай, Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Барысаве і раёне 47 862 чал., часткова ці цалкам спалілі 80 вёсак. У раёне дзейнічалі Барысаўскае антыфаш. падполле, падп. гарком-райком і міжрайком КП(б)Б, міжраённы парт. цэнтр, гарком, міжрайком, райком ЛКСМБ (з жн. 1942), партыз. брыгады 1-я Антыфашысцкая, «Дзядзькі Колі», «Стары», 2-я імя Кірава, імя Панамарэнкі, імя Шчорса, «Разгром», асобныя атрады «Артур», Васілеўскага, «Мясцовыя», «Мсцівец», імя Суворава, І.А.Яраша, інш. партыз. фарміраванні, выдавалася падп. газ. «Бальшавіцкая трыбуна». Паўн. частка Б.р. ўваходзіла ў Барысаўска-Бягомльскую партыз. зону. Раён вызвалены ў пач. ліп. 1944 г. ў ходзе Мінскай аперацыі войскамі 3-га Бел. фронту. 20.1.1960 г. да Б.р. далучана частка тэр. скасаваных Бягомльскага і Халопеніцкага р-наў.

Большая частка раёна займае паўн. частку Цэнтральнабярэзінскай раўніны і паўд. частку Верхнебярэзінскай нізіны, паміж якімі паласа Мінскага ўзвышша. Паверхня раўнінна-ўзгорыстая, пераважаюць высоты 180—220 м. Самы высокі пункт (259 м) знаходзіцца ў в. Дзедзілавічы, самы нізкі пункт (147 м) — каля зліцця рэк Бярэзіна і Бобр. Карысныя выкапні: торф, будаўнічыя пяскі, гліны. Сярэдняя тэмпература студз. -7 °С, ліп. — 17,9 °С. Самая буйная р. Бярэзіна з прытокамі Сха, Мужанка, Бобр, Гайна, Бродня, Пліса, Рова. У паўн. частцы р-на — воз. Палік. Глебы дзярнова-падзолістыя забалочаныя (41,5%), дзярнова-падзолістыя (33,2%), тарфяна-балотныя (12,2%) і інш. У паўн. частцы раёна частка Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Чарнеўскі біялагічны заказнік рэсп. значэння.

Дзейнічаюць 16 с.-г. прадпрыемстваў, 31 фермерская гаспадарка. Развіта мяса-малочная жывёлагадоўля, свінагадоўля, птушкагадоўля, льнаводства. Прадпрыемствы пераапрацоўчай прам-сці, машынабудавання і металаапрацоўкі. У раёне (2009) гімназія, агульнаадукац. ліцэй, 24 сярэднія (у т.л. 7 комплексаў школа—сад), вячэрняя школы, санаторная школа-інтэрнат, ДзЮСШ, турысцкі клуб, 18 дзіцячых дашкольных устаноў, цэнтры — сац.-пед. (у яго складзе дзіцячы сац. прытулак «Надзея») і карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Працу-







*Дзень беларускага пісьменства ў Барысаве. 2008 г.*




*Знак пры ўездзе ў г. Барысаў.*

юць 40 устаноў клубнага тыпу, 45 бібліятэк, 6 дзіцячых школ мастацтваў, Іканскі музей нар. славы (філіял Барысаўскага аб'яднанага музея), сельская карцінная галерэя ў в. Зембін (засн. франц. мастачкай Н.Лежэ). Дзейнічаюць 7 бальніц, 2 паліклінікі, 13 амбулаторый, 35 ФАПаў, 5 аптэк, рэсп. санаторый «Бярэзіна» для ветэранаў вайны, працы і інвалідаў, прафілакторый «Беліна» Барысаўскага з-да «Аўтагідраўзмацняльнік» (у в. Семяньковічы), аздараўленчы комплекс Барысаўскага з-да аўтатрактарнага абсталявання ў в. Дудзінка і лагер «Брадоўка», тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва. Зоны адпачынку мясц. значэння Дроздзіна, Пескі–Беліна, Стахава і Сха. Выдаецца газ. «Адзінства». У раёне 16 рэліг. абшчын, у т.л. 13 праваслаўных, 2 пратэстанцкія, 1 каталіцкая. 3 помнікі ў гонар рус. [в. Брылі (2) і Студзёнка] і франц. (в. Брылі) воінаў, якія загінулі ў бітвах на р. Бярэзіна ў вайну 1812 г. Помнікі архітэктуры: Успенская царква (канец 19 – пач. 20 ст.) у в. Зорычы, касцёл Дзевы Марыі (пач. 19 ст.) і царква (пач. 20 ст.) у в. Зембін, сядзібны дом (пач. 20 ст.) у в. Старабарысаў.



*Сучасны герб Барысава.*

У раёне нарадзіліся 4 Героі Сав. Саюза: П.К.Казакевіч (1904–43) у в. Забашэвічы; У.Р.Рыжоў (1914–74) у в. Маісееўшчына; А.К.Харчанка (1918–44) у в. Кішчына Слабада; С.І.Чарняк (1898–1976) у в. Чарневічы.

**БАРЫСАЎ** – горад, цэнтр раёна, за 71 км на ПнУ ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), чыг. ст. на лініі Мінск–Орша. Праз горад з ПнЗ на ПдУ цячэ р. Бярэзіна, у якую ў цэнтры горада ўпадае р. Сха. Насельніцтва 149,8 тыс. чал. (2008).

На паўн.-зах. ускраіне, на левым беразе р. Бярэзіна, захаваўся курганны могільнік (датуецца канцом 11 – пачаткам 12 ст.), які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у старажытнасці. Паводле звестак гісторыка В.М.Тацішчава, горад засн. ў 1102 г. полацкім кн. Барысам Усяславічам і атрымаў назву ад імя князя: «Борис Всеславич Полоцкий ходил на ятвягов и победя их, возвратясь, поставил град Борисов в свое имя и людьми населил». Па іншых дадзеных ён засн. ў 1032 г. кіеўскім кн. Яраславам Мудрым. Упершыню ўпамінаецца ў рукапісах пад 1125 г.: «а Всеволоду Олговичу повела ити с своею братьею на стрежев к Борисову...». Упамінаецца таксама пад 1127 г. у Лаўрэнцьеўскім летапісе і пад 1128 г. – у Іпацьеўскім летапісе. Уваходзіў у Полацкае княства. З 1128 г. ў складзе Кіеўскай Русі.

Археал. даследаванні сведчаць, што спачатку Барысаў знаходзіўся на месцы сучаснага пас. Старабарысаў, на левым беразе р. Бярэзіна. Складаўся ён з дзядзінца і вакольнага горада. У выніку пажару, які адбыўся ў 12 ст., пасяленне загінула, а яго жыхары перасяліліся ў сутоку рэк Сха і Бярэзіна, на месца сучаснага горада.

У канцы 13 ст. Барысаў увайшоў у склад ВКЛ. З 1413 г. цэнтр воласці. Быў







*Дом былога казначэйства (1807) у г. Барысаў.*

*Барысаўскі чыгуначны вакзал.*



*Герб Барысава (1792).*

разбураны ў 1431 г. ў выніку міжусобных войнаў князёў Ягайлы, Свідрыгайлы і Жыгімонта. У апісанні гэтых войнаў горад упамінаецца пад 1433 г. У 1495 г. ў рукапісах паведамляецца, што падводы мяшчан віцебскіх і раней «хажывалі да Барысава». Абазначаны на геагр. карце Еўропы, якая выдадзена ў 1506—07 гг. у Рыме. Падчас войнаў Маскоўскага княства з ВКЛ Барысаў неаднаразова быў спалены і разрабаваны (1507, 1514, 1519 і 1534). У 1542 г. падараваны вял. кн. літ. і каралём польскім Жыгімонтам II Аўгустам віленскаму ваяводзе Я.Глебавічу і ўключаны ў Віленскае ваяв. ВКЛ. У 1550 г. Жыгімонт II Аўгуст даў прывілей М.Я.Радзівілу, маршалу ВКЛ, на староства Барысаўскае. У 1563 г. ад Жыгімонта II Аўгуста горад атрымаў магдэбургскае права, якое затым некалькі разоў (у 1577, 1595, 1640, 1792) пацвярджалася і пашыралася. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. староства леннага ўладання князёў Агінскіх, потым Радзівілаў. У 16 ст. на востраве, утвораным р. Бярэзіна і яе прытокам Пралля, пабудаваны драўляны замак (не захаваўся), які быў умацаваны вежамі, валам, глыбокім ровам і звязаны з горадам перакідным драўляным мостам. У цэнтры замка знаходзіўся княжацкі палац. У 1620—1648 гг. узведзены драўляны Уваскрасенскі сабор (згарэў у 1867 г.), у 1642 г. — драўляны касцёл.

У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Барысаў быў заняты з 1655 г. да 1662 г. рас. войскамі. У 1670 г. ў горадзе было 104 дымы, заезны двор, касцёл, 4 царквы, вуліцы: Замкавая, Полацкая, Бярэзінская, Млынавая, Маставая, Аршанская, Забалоцкая і інш. У 1680 г. Барысаў меў гар. плошчу, 9 вуліц, 382 будынкі. Падчас Паўночнай вайны (1700—21) горад стаў арэнай баёў. Яго займалі то шведскія, то рас. войскі і ён быў амаль зруйнаваны. У 1776 г. кароль польскі і вял. кн. літ. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падараваў Барысаўскі замак з яго землямі кн. Радзівілу, а ў 1792 г. выдаў гораду прывілей у галіне фінансаў, суда і павіннасцей. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793)



*Помнік заснавальніку горада князю Барысу Усяславічу.*





*Барысаўскі Васкрасенскі сабор.*

*Барысаўскія гандлёвыя рады.*

Барысаў увайшоў у склад Рас. імперыі. З мая 1795 г. павятовы цэнтр Мінскай губ. У 1796 г. атрымаў герб: у сярэбраным полі брама з 2 вежамі і выява святога з ключамі ў правай руцэ. У 1800 г. складзены праект планіроўкі, паводле якога горад быў падзелены на дробныя прамавугольныя кварталы. У цэнтры — гандл. плошча з цэрквамі і крамамі.

Вял. ролю ў развіцці Барысава адыграла будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы, якая звязала праз Бярэзіну рэкі Днепр і Зах. Дзвіну ў адзіную транспартную лінію. З яе адкрыццём у 1806 г. Барысаў стаў рачным портам і важным цэнтрам судабудаўніцтва, набыў вял. значэнне ў гандлёвых сувязях. Апрача лесу, смалы і дзёгця з Барысава вывозілі лён, дубовую клёпку, а прывозілі соль, пшаніцу, муку. Прыстань на Бярэзіне, узведзеная на беразе ракі ва ўрочышчы Слабодка, злучалася з горадам у 1840 г. 4 мастамі.

Напярэдадні вайны 1812 г. на правым беразе р. Бярэзіна, перад мостам на шляху ў Барысаў, каля в. Дымкі (горад тады размяшчаўся толькі на левабярэжжы) пачалося будаўніцтва земляных умацаванняў з мэтай абароны горада ад магчымага нападзення. Тут працавалі сапёры, жыхары Барысава і навакольных вёсак. Планавалася ўстанавіць ар-





*Фрагмент помніка на «Батарэях» вайны 1812 г. ў Барысаве.*

*Барысаўская воданапорная вежа (1927).*







*Барысаўская сінагога «Хеўрэ Тылім».*

*Барысаўская царква ў гонар Раства Хрыстова. Пач. 21 ст.*

тыл. батарэі. Да пач. нашэсця арміі Напалеона іх будаўніцтва не было скончана. Аднак земляныя ўмацаванні (насыпы і равы) адыгралі важную ролю ў вайну 1812 г. Яны былі выкарыстаны спачатку напалеонаўскімі, а потым рас. войскамі ў час баёў за Барысаў у ліст. 1812 г. Зараз гэтыя земляныя збудаванні лічацца помнікам гісторыі. Былая в. Дымкі зараз у складзе горада, адна з яго вуліц.

У 1825 г. ў Барысаве было 2188 жыхароў, 319 дамоў (з іх толькі адзін мураваны), плошча, 2 царквы, рынак, шэраг крам, грамадская лазня. У 1834 г. на плошчы ўзвялі яшчэ адну драўляную царкву. У 1863 г. 5876 жыхароў, 5 гарбарных, піваварны і цагельны з-ды, 83 лаўкі, бальніца, царк.-прыходская школа, прыстань, касцёл і 2 царквы, 8 сінагог і малітоўных дамоў, больш за 50 рамеснікаў, у ліку якіх 8 булачнікаў, 15 мяснікоў, кандытар, 27 краўцоў, 4 шапачнікі, часаўшчык, мадыст, шорнік. У выніку будаўніцтва чыгункі Мінск—Масква (1871) Барысаў стаў хутка развівацца. Непадалёку ад горада, на правым беразе р. Бярэзіна, узніклі чыг. ст. (будынак станцыі ўзведзены ў пач. 20 ст. і з'яўляецца помнікам архітэктуры з элементамі стылю мадэрн) і невял. гандл.-прам. пас. Нова-Барысаў, які паступова павялічваўся. У 1874 г. на месцы былога драўлянага збудаваны мураваны Уваскрасенскі сабор (зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры з рысамі рэтраспектыўна-рус. стылю), а плошча стала горадабудаўнічым цэнтрам. У 1854 г. горад уключаў 600 дамоў, 70 крам, 2 царквы і касцёл, сінагогу, 5 малітоўных дамоў, астрог. У 1878 г. ў Барысаве ўжо было 1188 дамоў (з іх 5 мураваных), 15,1 тыс. жыхароў, 2 царквы (1 мураваная) і мураваны касцёл (збудаваны ў 1806—23 гг. на месцы драўлянага), сінагога, 5 піцейных дамоў, 2 піваварных (засн. ў 1881 і 1895 гг.) і лесапільны (засн. ў 1875 г.) з-ды, да 180 рамеснікаў, павятовае (адкрыта ў 1866 г. як двухкласнае і пераўтворана ў 1897 г. ў 4-класнае гарадское) і прыходскае (адкрыта ў 1840 г.) вучылішчы, праводзіліся 2 кірмашы ў год.

Паводле перапісу 1897 г. тут 15 063 жыхары. Да горада былі далучаны чыг. ст. Барысаў, пас. Барок, прыстань і ўрочышчы Разуваеўка, Пчэльнік, Палавуха, засценак Прудзішча. 41,7% насельніцтва было пісьменным, дзейнічалі паштова-тэлегр. кантора, 2 бальніцы, гар.



*Барысаўскі касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі.*








*Помнік савецкім танкістам Героям Савецкага Саюза П.Раку, А.Пятраеву і А.Данілаву, якія загінулі пры вызваленні Барысава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у г. Барысаў.*

*Фрагмент сучаснай забудовы Барысава.*

вучылішча, жаночы пансіён, 215 гандл. кропак, 9 з-даў. У 1898 г. пачаў даваць прадукцыю шклозавод «Барысаў» (у 1913 г. 222 рабочыя). У 1899 г. пабудаваны з-д папіросных гільз, адкрыты гарадскі банк, крэдытнае т-ва, дробнагандл. і рамеснае пазыка-ашчаднае т-вы. У гэтым жа годзе пачала дзейнічаць тэлеф. лінія. У 1900 г. засн. лесапільны з-д і паравы млын, у 1903 г. — ф-ка абгортачнай паперы, у 1908 г. — дрожджа-вінакурны з-д. Працавалі 3 дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы — ф-кі драўляных шавецкіх калодак (засн. ў 1882, 1889, 1907 гг.). На дрэваапрацоўчых прадпрыемствах, засн. Д.С.Беруанам у 1910 г., мелася ўстаноўка для электраасвятлення. Тут дзейнічалі лесапільная, бачарная, фанерная і стружачныя вытв-сці. У 1900 г. Нова-Барысаў быў злучаны з Барысавам доўгім (больш за 1 км) драўляным мостам. Барысаў часта цярпеў ад пажараў. Асабліва спусташальнымі былі пажары 10.5. 1858 г., у 1902 г., а таксама 13, 25 і 26 мая 1910 г., калі агнём была знішчана амаль ўся паўд. частка горада (186 двароў з 260 будынкамі). У 1902 г. ў маёнтку Стара-Барысаў пабудавана драўляная Александрыйская царква.

У ліп. 1895 г. на запалкавай ф-цы «Вікторыя» (засн. ў 1891 г., у 1900 г. 759 рабочых) баставалі работніцы-ўпакоўшчыцы. Іх забастоўка скончылася перамогай. У ліп. 1901 г. на гэтай жа ф-цы адбылася забастоўка з удзелам 575 рабочых, гал. патрабаваннем якой было павышэнне заработнай платы. Выступленне рабочых было падаўлена паліцыяй, 11 чалавек арыштаваны. У ліст. 1904 г. на ф-цы адбыўся пажар і 1100 рабочых на некаторы час засталіся без працы.

У 1904 г. ў горадзе налічвалася 27 вуліц і завулкаў, 2 плошчы, 1868 жылых дамоў (у тым ліку 73 мураваных), каля 17 тыс. жыхароў. Асвятляўся горад 244 газавымі ліхтарамі, працавала 11 ф-к і з-даў (1534 рабочыя), 59 рамесных майстэрняў (980 рамеснікаў), аддз. банка, 2 натарыяльныя канторы, паштова-тэлегр. кантора, 6 заезных дамоў, 11 корчмаў і харчэўняў, 10 гасцініц, 2 друкарні, б-ка-чытальня, чытальня, 8 школ (17 настаўнікаў, 404 вучні), 2 бальніцы, 2 аптэкі і 5 аптэчных магазінаў. Штогод праводзіліся 4 кірмашы і таржкі.

У 1908 г. ў цэнтры Стара-Барысава збудаваны з цэглы гандл. рады, якія

*Цэнтральная плошча Барысава.*










*Барысаўчане ўдзельнічаюць у святкаванні Дня беларускага пісьменства. 2008 г.*

*Барысаўскі гарадскі стадыён.*

складаліся з 4 карпусоў і аб'ядноўвалі 112 крам (захаваўся адзін корпус, які з'яўляецца помнікам архітэктуры).

Забастовачны рух асабліва ўзмацніўся ў час рэвалюцыі 1905—07 гг. 16—8.1.1905 г. адбыліся забастоўкі на запалкавых ф-ках «Вікторыя» і «Бярэзіна» (засн. ў 1901 г.), якімі кіравалі стачачныя к-ты. Забастоўкі на гэтых ф-ках адбыліся таксама 24.4 і 1.5.1905 г. Рабочыя, як і раней, патрабавалі павелічэння зарплаты, скарачэння рабочага дня да 8 гадз, паляпшэння медыцынскага абслугоўвання, ліквідацыі штрафаў. 1.7.1905 г. ўсеагульная гар. забастоўка была задушана паліцыяй і войскамі. У маі 1907 г. адбылася забастоўка на ганчарных ф-ках. 28.6.1905 г. ва ўрочышчы Сазонаўка, каля горада, група РСДРП правяла сходку, у якой удзельнічала каля 500 рабочых. У час сутычкі з паліцыяй 2 удзельнікі сходкі былі паранены і 11 арыштаваны.

У 1909 г. ў Барысаве было каля 19 тыс. жыхароў, больш за 1520 двароў, каля 2 тыс. жылых дамоў, 32 прам. прадпрыемствы, буйнейшыя з якіх — запалкавыя ф-кі «Вікторыя» (400 рабочых) і «Бярэзіна» (300 рабочых), 2 лесапільныя з-ды (200 і 150 рабочых), шклозавод (160 рабочых), дрожджа-вінакурны з-д (100 рабочых), папяровая ф-ка «Папірус» (100 рабочых), паравы млын (40 рабочых), ф-ка абутковых калодак (30 рабочых). Праводзіліся 2 кірмашы ў год. Працавалі 2 гарадскія 4-класныя вучылішчы, мужчынская гімназія, жаночая прагімназія, лясная, 4 царк.-прыходскія, прыватная школы, метэаралагічная ст., паштова-тэлегр. кантора, 112 крам.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. на ўсіх прадпрыемствах горада па пастанове Барысаўскага павятовага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў быў уведзены (з 19.4.1917 г.) 8-гадзінны рабочы дзень, створаны рабочыя к-ты. Насельніцтва горада ў 1917 г. дасягнула кольkасці 23 981 жыхар. 5—8 снеж. 1917 г. адбыўся I з'езд Саветаў Барысаўскага павета, на якім Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і Савет сялянскіх дэпутатаў аб'ядналіся ў адзіны орган улады — Савет рабочых, салдацкіх і сял. дэпутатаў. Узброены атрад рабочых Барысава сарваў спробу польскіх атрадаў Доўбар-Мусніцкага прарваціца праз Барысаў да Мінска. У лют. 1918 г. Барысаў акупіравалі войскі кайзераўскай Германіі. У го-




*Эмблема футбольнага клуба «БАТЭ» (Барысаў).*



*Футбольны клуб «БАТЭ» (Барысаў) чэмпіён Беларусі.*







*На занятках па хіміі ў барысаўскай беларускамоўнай гімназіі № 2.*

радзе ўзнікла падполле, якое займалася зборам звестак аб варожым гарнізоне, зброі і боепрыпасах, распаўсюджваннем падпольнай л-ры і правядзеннем палітычнай работы сярод насельніцтва і нямецкіх салдат. 2.12.1918 г. Чырвоная Армія авалодала Барысавам. З студз. 1919 г. ў БССР, з лют. 1919 г. ў Літоўска-Бел. ССР.

У вер. 1919 г. горад быў акупіраваны польскімі войскамі. 25.5.1920 г. левабярэжная частка Барысава вызвалена Чырвонай Армій, у ліп. — правабярэжная. З канца ліп. 1920 г. зноў у БССР. Пачалі дзейнічаць нар. тэатр «Чырвоная Зорка», а ў Нова-Барысаве — тэатр імя Луначарскага, што ўзнік на базе аматарскага гуртка. Былі створаны цэнтр. б-ка (у 1921 г. 527 кніг) і 1-я раённая Новабарысаўская б-ка (1680 кніг). У пач. 1921 г. ў горадзе пачала працаваць муз. школа-студыя (42 вучні). 1.5.1921 г. адкрыта аддзяленне Дзярж. выд-ва. Працавалі ветэрынарны ўчастак і амбулаторыя. У выніку пажару, які адбыўся 26.4.1921 г., у горадзе згарэла 40 дамоў. З 17.7.1924 г. Барысаў — цэнтр раёна, у 1924—27 гг. адначасова цэнтр акругі. 5.4.1924 г. арганізавана с.-г. т-ва. 22.7.1924 г. быў створаны пазыкаашчадны кааператыў. У 1925 г. працавалі 5 лесапільных і фанерных з-даў, запалкавая і папяровая ф-кі, шклозавод і іншыя прадпрыемствы. У 1927—30 гг. у Мінскай акрузе. У 1933 г. ў горадзе налічваліся каля 40 прадпрыемстваў, у тым ліку з-ды «Чырвоны металіст» і «Пралетарскі молат», шклозавод, запалкавая ф-ка «Пралетарская перамога», фанерны з-д «Чырвоная Бярэзіна», скураны з-д «Чырвоны скурнік», шкіпінарны, шпалапрапітны, крухмальны, хлебны з-ды, хімлясгас, папяровая ф-ка «Прафінтэрн», макаронная ф-ка імя У.І.Леніна, мясакамбінат, дрэваап-



*Супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» прымаюць удзел у святкаванні Дня беларускага пісьменства ў Барысаве. 2008 г.*

*А.М.Арамнай.*





рацоўчы камбінат імя Камінтэрна. У 1935 г. створаны Барысаўскі калгасна-саўгасны тэатр, які працаваў да 1938 г. (потым быў пераведзены ў г. Заслаўе Мінскага р-на). З 1939 г. Барысаў у складзе Мінскай вобл. У 1939 г. налічвалася 49 108 жыхароў. Гэта быў адзін з буйнейшых прам. цэнтраў Беларусі.

У Вял. Айч. вайну 2.7.1941 г. Барысаў быў акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Каля горада ўпартае супраціўленне аказвалі гітлераўцам курсанты Барысаўскага танкава-тэхн. вучылішча пад камандаваннем камісара корпуса І.З.Сусайкава і палкі 1-й Маскоўскай Пралетарскай мотастралковай дывізіі на чале з палкоўнікам Я.Г.Крэйзерам. Трое сутак яны стрымлівалі атакі пераўзыходзячых сіл ворага. Акупанты стварылі на тэр. Барысава 6 лагераў смерці, у якіх загубілі больш за 33 тыс. сав. грамадзян. Актыўна дзейнічалі падп. групы на чыг. ст. Барысаў, дрэваапрацоўчым к-це, у гарадской інфекцыйнай бальніцы, на фанерна-запалкавым к-це, шклозаводзе імя Ф.Э.Дзяржынскага, электрастанцыі, хлебазаводзе і ў іншых месцах. Падпольшчыкі наладжвалі канспіратыўныя яўкі, прымалі па радыё зводкі Саўінфармбюро, друкавалі і распаўсюджвалі іх, вялі вусную прапаганду сярод насельніцтва, забяспечвалі партызан і падпольшчыкаў дакументамі акупацыйных улад (пашпартамі, пропускамі, харч. картачкамі), выводзілі да партызан ваеннапалонных, выратоўвалі людзей ад вывазу на катаржныя работы ў Германію, здабывалі і перадавалі партызанам і камандаванню Чырвонай Арміі звесткі пра ваенныя ўмацаванні і сілы праціўніка, рух варожых цягнікоў, здабывалі і вывозілі да партызан зброю і боепрыпасы, прадукты харчавання, медыкаменты. Патрыёты падкладвалі ў паравозы міны, псавалі абсталяванне на прадпрыемствах, узарвалі тэлеф. калонку «Бокс», праз якую гітлераўцы трымалі сувязь з фронтам, неаднаразова выводзілі са строю электрастанцыю і іншыя аб'екты. У барацьбе з акупантамі загінулі многія падпольшчыкі.

У канцы чэрв. 1944 г. войскі 3-га Бел. фронту, паспяхова развіваючы наступленне на Мінскім напрамку, фарсіравалі р. Бярэзіну і завязалі баі за горад, якія насілі жорсткі характар. Раніцай 1.7. 1944 г. Барысаў быў вызвалены. У вызваленні горада ўдзельнічалі 5-я і 83-я гв. стралк. дывізіі 11-й гв. арміі, 31-я стралк. дывізія 31-й арміі, часці 5-й гв. танкавай арміі. Іх наступленне падтрымлівала 1-я паветр. армія. Пры вызваленні горада вызначыліся і загінулі танкісты — гв. старшы лейтэнант П.М.Рак, ст. сяржант А.А.Пятраеў, сяржант А.І.Данілаў, якім прысвоена званне Героя Сав. Саюза. 13 часцям і злучэнням прысвоены ганаровыя найменні «Барысаўскіх». У горадзе па вул. 8 Сакавіка, на могілках, знаходзяцца брацкія магілы 325 сав. воінаў, 4 танкістаў і 5 партызан; па вул. Шпітальнай — брацкая магіла 45 воінаў; на могілках Барок — брацкая магіла 24 і 4 воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Барысава. Па вул. Чапаева, у скверы каля будынка цэнтр. б-кі, у брацкай магіле пахаваны 10 тыс. сав. ваеннапалонных; па вул. 50 год БССР — магіла 4608 ахвяр фашызму; па вул. Асіпенкі, на могілках — магіла 200 вязняў Барысаўскага лагера смерці; па вул. Заводскай — магіла ахвяр лагера смерці; за 2 км на ПнУ ад горада, каля дарогі на Зембін — магіла 10 тыс. вязняў, вывезеных з Польшчы. У 1985 г. Барысаў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені.

Горад пасля вызвалення ляжаў у руінах. Разбураны былі ўсе прам. прадпрыемствы, 11 сярэдніх школ, палова жыллёвага фонду, выведзена са строю тэлегр.-тэлеф. сувязь. Аднак ён падняўся з руін і атрымаў значнае развіццё. У 1959 г. ў Барысаве ўжо было 59 280, а ў 1970 г. — 84 тыс. жыхароў. Сучасны Барысаў з'яўляецца адным з буйнейшых прам. і культ. цэнтраў Беларусі.



*П.Ф.Тоўсцікаў.*



*М.Я.Рабцаў.*



*М.І.Марозаў.*


Я.Р.Вайнруб.


М.Р.Вайнруб.


Е.С.Бялявін.

Развіваецца ён паводле генпланаў, распрацаваных ін-там «Белдзяржпраект» у 1966 г. і Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там горадабудаўніцтва ў 1981 г. 2 часткі горада — Нова-Барысаў (на Пд, кампазіцыйнае ядро горада) і Стара-Барысаў (на Пн) — звязаны паміж сабой мастамі. Шаша і чыгунка, якія праходзяць праз горад, утвараюць у Нова-Барысаве зах. раён забудовы (Лядзішча), на ПдЗ — цэнтр., залінейны, Печы, у Стара-Барысаве — паўн. і паўн.-ўсх. (Максімаўка) раёны. Архіт.-планіровачную структуру горада фарміруюць вуліцы Гагарына (гал. вось, шаша Мінск—Орша ў межах горада, забудаваная шматпавярховымі жылымі дамамі), Чапаева, праспект Рэвалюцыі. На перасячэнні вул. Чапаева і праспекта Рэвалюцыі — цэнтр. плошча, грамадска-адм. і культ.-гандл. цэнтр з грамадскімі будынкамі. Увесь цэнтр горада, а таксама вуліцы Горкага, Будаўнікоў у Нова-Барысаве, Нармандыя-Нёман, імя 3-га Інтэрнацыянала, Лапаціна ў Стара-Барысаве забудаваны шматпавяховымі дамамі. На ПдЗ, пры ўездзе ў горад з боку Мінска, створаны мікрараёны № 1, 2, 3, 4, 5 са шматпавярховымі жылымі дамамі і блокамі абслугоўвання. Аднак значную частку жылой забудовы складаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу. У 1989 г. ў горадзе 150 тыс. жыхароў. У 2001 г. зацверджаны сучасны герб Барысава: у сярэбраным полі на зялёнай зямлі сярэбраная брама, паміж 2 вежамі якой на сярэбраным воблаку выява св. Пятра з 2 ключамі ў руцэ.

Барысаў з'яўляецца адным з вядучых прам. цэнтраў Беларусі. У горадзе працуюць 42 прам. прадпрыемствы розных галін эканомікі: машынабудавання і металаапрацоўкі, прыборабудавання, хімічнай, дрэваапрацоўчай, фармацэўтычнай, буд. матэрыялаў, харч., лёгкай прамысловасці і інш. Сярод прадпрыемстваў найбольш вядомымі з'яўляюцца ААТ «Барысаўскі завод аўтатрактарнага электраабсталявання», з-д «Металіст», РУВП «Аўтагідраўзмацняльнік», навук. вытв. РУП «Экран», РУП «Барысаўскі завод агрэгатаў», Барысаўскі з-д мед. прэпаратаў, «Барысаўскі з-д палімернай тары «Паліміз», Барысаўскі з-д быт. хіміі, Барысаўскі з-д пластмасавых вырабаў, «Гуматэхніка», СП «Фрэбар», ААТ «Барысаўскае прадпрыемства музычных інструментаў» і інш. Лясную, дрэваапрацоўчую і цэлюлозна-папяровую прам-сць прадстаўляюць УП «Папяровая фабрыка Гознака», ААТ «Барысаўдрэў», дрэваапрацоўчы к-т «Лесахімік». Мастацкія вырабы ствараюцца на Барысаўскім хрустальным з-дзе і к-це дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Медыцынскае абслугоўванне насельніцтва Барысава ажыццяўляюць 3 бальніцы, ваенны шпіталь, 8 паліклінік, 8 амбулаторый, 3 дыспансеры, 31 аптэка і аптэчны пункт, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Дзейнічаюць рэсп. санаторый «Бярэзіна» для ветэранаў Вял. Айч. вайны, працы і інвалідаў, 2 санаторыі-прафілакторыі.

У Барысаве дзейнічае Ін-т кіравання і прадпрымальніцтва, 3 каледжы, 4 ліцэі, вучылішча алімпійскага рэзерву, 2 гімназіі, ПТВ, 20 сярэдніх і 1 муз. школы, 3 школы мастацтваў, 7 ДзЮСШ, школа-інтэрнат для дзяцей-сірот, 36 дашкольных устаноў, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, дзіцячы сац. прытулак. Працуюць Палац культуры, драматычны т-р «Відарыс», 10 клубаў, 4 кінатэатры, 4 цэнтры творчасці, гасцініцы, гар. парк, 8 б-к, Барысаўскі аб'яднаны музей, гарадскі стадыён. У горадзе размешчаны брацкая магіла 10 тыс. сав. ваеннапалонных, закатаваных у канцлагеры ў 1941—44 гг., 4 магілы ахвяр фашызму. Помнікі кн. Барысу, «Батарэі» вайны 1812 г., сав. танкістам, воінам-інтэрнацыяналістам. Захаваліся помнікі архітэктуры: касцёл Узнясення Дзевы



Марыі (1806—23), Уваскрасенскі сабор (1874), будынак чыг. вакзала (пач. 20 ст.), гандл. рады (1908) сінагога «Хеўрэ Тэлім» (1911). Дзейнічае барысаўская царква ў гонар Раства Хрыстова (пач. 21 ст.).

Барысаў — радзіма дзярж. дзеячаў А.І.Хацкевіча (1895—1943), А.І.Адамовіча (1896—1937), бел. рэвалюцыянера-дэмакрата, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. на Беларусі А.Д. Трусава (1835—86), бел. літаратуразнаўцы, акадэміка АН БССР В.В.Барысенкі (1904—84), Герояў Сав. Саюза Е.С.Бялявіна (1920—72), М.Р.Вайнруба (1910—1998), Я.Р.Вайнруба (1909—2003), П.Ф.Тоўсцікава (1904—85), М.І. Марозава (1922—43), М.Я.Рабцава (1923—90), бел. скульптара, нар. мастака Беларусі А.А.Анікейчыка (1932—89), бел. фізіка, акадэміка НАН Беларусі Г.П.Гурыновіча (1939—94), бел. кампазітара Р.П.Бутвілоўскага (1933—77), алімпійскага чэмпіёна па цяжкай атлетыцы А.М.Арамнава (н. 1988).

**АБЁЗ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 43 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць лясістая. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Барысаў. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з канца 18 ст. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засценак Абюз, 3 двары, 20 жыхароў, вадзяны млын, карчма, ва ўласнасці шляхціца. У першай пал. 19 ст. вёска, ва ўладанні графа Храптовіча. У 1897 г. 11 двароў, 64 жыхары, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 19 двароў, 102 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Полышчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Жартайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 103 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «10-ы з'езд Саветаў». У 1940 г. 25 двароў, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. да вызвалення вёска была ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску (25 двароў), загубілі 20 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 106 жыхароў. У 1988 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка лінейная. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЗДЗЯЦІЧЫ** — вёска, цэнтр Аздзяціцкага с/с, за 33 км на ПдУ ад Барысава, 23 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, з паніжэннем на ПдУ, дзе праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Чэрнеўка, якая праходзіць праз вёску. 291 гаспадарка, 687 жыхароў (2008).

За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна, захавалася гарадзішча ранняга перыяду культуры штрыхаванай керамікі (6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.), за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі ва ўрочышчы Пяскі — курганны могільнік (50 насыпаў), у якім у час раскопак знойдзены перапаленыя косці, ляпныя гаршкі, бронзавыя ўпрыгожванні. За 0,5 км ад вёскі размешчаны другі могільнік (45 насыпаў). 9 курганоў гэтага могільніка ў 1929—30 гг. раскапаны, былі знойдзены металічныя і шкляныя пацеркі, жал. нож. Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 ст. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб асваенні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 18 ст. У 1800 г.



*Г.П.Гурыновіч.*



*В.В.Барысенка.*



*А.А.Анікейчык.*

сяло ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 78 двароў, 777 жыхароў, млын, сукнавальня, драўляная царква Раства Багародзіцы, уладанне Радзівілаў. У 1822 г. пабудавана новая драўляная царква. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 59 хлопчыкаў. У 1897 г. сяло (209 двароў, 1522 жыхары, нар. вучылішча, магазін, піцейны дом, царква) і казённы хутар (6 двароў, 48 жыхароў), у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 232 двары, 1590 жыхароў. Працавала гарбарнаапрацоўчая майстэрня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У польска-сав. вайну з жн. 1919 г. да мая 1920 г. побач з вёскай праходзіла лінія фронту. З 31.7.1920 г. зноў у БССР. На базе ранейшай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. вучыліся 206 хлопчыкаў і дзяўчынак. 11.9.1924 г. створаны спажывецкі кааператыў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 319 двароў, 1506 жыхароў. У 1929 г. 17 гаспадарак арганізавалі калгас «Новае жыццё». У 1933 г. ў гаспадарцы з'явіўся першы трактар «Фардон». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 9 жыхароў і 42 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, 146 вяскоўцаў загінулі на фронце. На вясковых могілках у брацкай магіле пахавана 29 воінаў, якія загінулі ў наваколлі ў канцы чэрв. 1944 г. У 1967 г. пастаўлены абеліск на ўшанаванне памяці 221 земляка, што загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 1577 жыхароў. У 1988 г. 382 гаспадаркі, 917 жыхароў. У 2010 г. дзейнічаюць СВК «БарысаўСаюзАгра», дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», комплексны прыёмны пункт, б-ка, 2 магазіны. Генплан вёскі распрацаваны ў 1977 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца ўздоўж шашы. Планіровачна вёска складаецца з 3 мерыдыянальна арыентаваных вуліц, аб'яднаных 2 папярочнымі кароткімі вуліцамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Вуліца ўздоўж шашы забудавана мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**АНТАНЕВІЧЫ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Барысава, 15 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Чэрняўка—Барысаў, якая праходзіць праз вёску. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

У 19 ст. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска, 35 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. вёска (20 двароў, 150 жыхароў) і казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва (1 двор, 9 жыхароў), у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 31 двор, 197 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У польска-сав. вайну 1919—20 гг. з жн. 1919 да мая 1920 г. вёска знаходзілася побач з лініяй фронту. З 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 36 двароў, 177 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на



фронце. У 1960 г. 241 жыхар. У 1988 г. 27 гаспадарак, 62 жыхары. Планіроўка лінейная. Вуліца трасіравана з ПнУ на ПдЗ і перасякаецца шашой. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 36 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Нача (прыток р. Бобр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Вяляцічы— Прыяміна. 4 гаспадаркі, 12 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 66 жыхароў. У 1988 г. 9 гаспадарак, 20 жыхароў. Адна кароткая вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана нягцыльна, пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСКЕРКІ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Барысава, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Чэрнеўка—Барысаў, якая праходзіць побач з вёскай. 47 гаспадарак, 105 жыхароў (2008)

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. 7 двароў, 88 жыхароў, уладанне Радзівілаў. У 1897 г. казённы фальварак, 3 двары, 46 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. 31.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 40 двароў, 227 жыхароў. У чэрв. 1933 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Батрак». Працавала калгасная кузня. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 10 жыхароў і 17 чалавек вывезлі на прымусовую працу ў Германію. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1960 г. 283 жыхары. У 1988 г. 65 гаспадарак, 159 жыхароў. У аснове планіроўкі — прамавугольнік, які складаюць вуліцы шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. На ПнЗ праходзіць яшчэ адна шыротная вуліца. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**БАРАВУХА** — вёска ў Майсееўшчынскім с/с, за 42 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Барысаў. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак і хутар у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. фальварак, 4 двары, 40 жыхароў. У 1908 г. вёска (12 двароў, 80 жыхароў) і фальварак (3 двары, 24 жыхары). З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. 1919 г. ў Літ.-Бел. ССР. З 29.8. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у БССР. З 20.8. 1924 г. ў Жартайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 13 двароў, 92 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У 1930-я г. 2 вёскі: Баравуха 1 і Баравуха 2. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы





спалілі вёску Баравуха-2 (17 двароў) і пасля вайны яна не адрадзілася. У 1960 г. 134 жыхары. У 1988 г. 20 гаспадарак, 42 жыхары. Адзіная шыротная плаўна выгнутая вуліца забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРАНАЎКА** — былая вёска ў Глівінскім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Забашэвічы, якая праходзіла побач з вёскай.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак, 2 двары, 8 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 5 двароў, 31 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. хутар у Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 27 жыхароў. У 1988 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.



*Баранскі манастыр святой Ксеніі Пецярбургскай.*

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 37 км на У ад Барысава, 6 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Бярозаўка і далей па шашы Вяляцічы—Прыяміна. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак, з 1938 г. ў Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 0,6 км на Пн ад вёскі, у лесе знаходзіцца магіла 16 актывістаў Вяляціцкага с/с, расстраляных гітлераўцамі ў ліп. 1941 г. У 1960 г. 123 жыхары. У 1988 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў. Планіроўка ў адну мерыдыянальную вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы размешчана адасоблена на У.

**БАРАНЬ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 31 км на ПнУ да горада і чыг. ст. Барысаў, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць праз вёску. 61 гаспадарка, 135 жыхароў (2008).

За 1 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, знаходзіцца стараж. гарадзішча; за 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Робскае — курганны могільнік (11 насыпаў). Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1670 г. мястэчка, 24 дымы, Пакроўская царква, млын, складалася з вуліц Барысаўская, Полацкая, Лукомская, з'яўлялася ўласнасцю казны, у Барысаўскім старостве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло Барань, 32 двары, 265 жыхароў, царк.-прыходская школа (з 1870), пераўтвораная ў 1908 г. ў земскую, піцейны дом, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 65 двароў, 378 жыхароў. З



лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у БССР. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 47 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета ў Халопеніцкім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарская Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала маладзёжная падп. група, якая распаўсюджвала лістоўкі, зрывала збор харчу для ворага, збірала зброю. У жн. 1941 г. мясц. жыхары аказалі дапамогу 60 сав. ваеннаслужачым, якія ўцяклі з палону. 26.12.1942 г. партызаны брыгады імя С.М.Кірава разграмілі ў Барані варожы гарнізон, правялі сход жыхароў, пасля якога звыш 50 вяскоўцаў уліліся ў рады нар. мсціўцаў. У 1960 г. 274 жыхары. У 1967 г. ў вёсцы пачала працаваць сельская бальніца. У 1980-я г. ў вёсцы дзейнічалі базавая школа (10 настаўнікаў), клуб, бальніца, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, аддз. сувязі. У 1988 г. 73 гаспадаркі, 168 жыхароў. У 2010 г. ў вёсцы клуб, амбулаторыя, б-ка, лясніцтва, аддз. сувязі, магазін. Манастыр св. Ксеніі Пецярбургскай (2002). Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца мае блізкую да шыротнай арыентацыю і з'яўляецца працягам шашы. На Пн паралельна да яе праходзіць другая вуліца, злучаная з гал. 2 папярочнымі вуліцамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ўздоўж гал. вуліцы. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У зах. частцы ўзведзены шэраг жылых мураваных адна- і двухпавярховых будынкаў. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**БАРАЎЛЯНЫ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На З і Пн вёску агінае р. Смальніца (прыток р. Бярэзіна), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Карсакавічы, Паляны, Кімія і далей па шашы Барысаў—Ніўкі. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1771 г. вёска ў ВКЛ, 7 двароў, 23 жыхары мужчынскага полу. Побач быў аднайменны маёнтак М.Радомскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1799 г. 16 двароў, 94 жыхары, уладанне М.Слізеня. У 1897 г. 60 двароў, 397 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1910 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 79 двароў, 452 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г., на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчай. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 31.7.1920 г. зноў у БССР. Настаўнік Бараўлянскай школы Р.Сідарэнка ў час польскай акупацыі арганізаваў партыз. атрад, у які ўваходзілі жыхары вёсак Бараўляны, Карсакавічы, Лісіно. Пасля вызвалення на базе земскай пачала працаваць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 80 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 81 двор, 392 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які першапачаткова аб'ядноўваў 10, а ў лютым 1932 г. — 71 гаспадарку. У




1940 г. 109 двароў, 450 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1941 г. ў вёсцы дзейнічала падп. арг-цыя (кіраўнік Д.Ф.Капыткоў). Падпольшчыкі сабралі для партыз. атрада звыш 50 вінтовак, 4 кулямёты, 1 аўтамат, радыёпрыёмнік, каля 40 гранат. У ліп. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (109 двароў), загубілі 45 жыхароў, вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 50 вяскоўцаў. Пасля вайны адноўлена. У 1960 г. 329 жыхароў. У 1988 г. 35 гаспадарак, 62 жыхары. Планіроўка Т-падобнага тыпу. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе паўд. боку перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, месцам няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**БАРСУКІ** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 53 км на ПнУ ад Барысава, 32 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 125 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Ракаўка (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пагарэлае і далей па шашы Маісееўшчына—Крупкі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 8 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Шэмета. У 1897 г. в. Цеханава (яна ж Барсукі), 14 двароў, 82 жыхары, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 87 жыхароў. У 1988 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў. Адзіная амаль мерыдыянальная плаўна выгнутая вуліца забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАЯРЫ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 26 км на У ад Барысава, 2 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску і на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Балотніца (прыток р. Мужанка). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў— Орша, да якой ад вёскі ідзе мясцовая дарога. 62 гаспадаркі, 141 жыхар (2008).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 10 двароў, 80 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1887 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 6 хлопчыкаў), якая ў 1912 г. ператворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1897 г. вёска (39 двароў, 236 жыхароў, школа граматы, піцейны дом, царква на могілках), хутар (7 двароў, 56 жыхароў), станцыя на Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы (4 двары, 40 жыхароў, лаўка) і пасёлак, сумежны са станцыяй (3 двары, 13 жыхароў), у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 51 жыхар, 328 жыхароў, на хутары 12 двароў, 85 жыхароў. Працавала смалакурня. У лют. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. Вызвалена 5.12.1918 г. Чырвонай Арміяй. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З жн. 1919 г. да мая 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.1.1920 г. ў БССР. У 1920 г. на базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 76 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.8.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 82 двары, 405 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чыгуначнік», працавалі смалакурня (у 1935 — 6 рабочых) і кузня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 29.6.1944 г. Гітлераўцы вывезлі ў Германію на прымусовыя работы 15 жыхароў. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. У цэнтры вёскі ў 1968 г. пастаўлены скульптурны помнік у гонар 85 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 483 жыхары. У 1980 г. ў вёсцы



былі базавая школа (11 настаўнікаў), дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, амбулаторыя, магазін. У 1988 г. 101 гаспадарка, 239 жыхароў. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, трасіраваных з ПдЗ на ПнУ уздоўж абодвух бакоў меліярацыйнага канала. Жылая забудова ў асноўным драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**БЕЛАЕ** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Барысава, 106 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны, мясцовасць на З забалочаная. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Зачысце, Новае Янчына і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 49 жыхароў, уладанне Барысаўскага касцёла. У 1897 г. 8 двароў, 56 жыхароў, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 10 двароў, 71 жыхар. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 27 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 87 жыхароў. У 1988 г. 15 гаспадарак, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕЛІНА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 21 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), бераг якой забалочаны, вакол — лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і затым па шашы Барысаў—Беразіно. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з сярэдзіны 19 ст. У 1858 г. 1 двор, 3 жыхары. У 1897 г. 8 двароў, 52 жыхары, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 68 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г., у час польска-савецкай вайны — у прыфрантавой зоне. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 92 жыхары. З 31.3.1964 г. ў складзе Чарневіцкага с/с, з 8.2.2010 г. ў Глівінскім с/с. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаваную пераважна з паўднёвага боку традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы на ПнУ размешчана адасоблена.

**БЕРНЯ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 26 км на У ад Барысава, 14 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пн, У і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна і р. Нача (прыток р. Бобр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 8 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Вяляціцкага староства ў пажалаваным валоданні графа І.Тышкевіча. У 1897 г. в. Бердня, 10 двароў, 74 жыхары, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 23 двары, 121 жыхар. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г.





ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 16 двароў, 85 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 110 жыхароў. У 1988 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка ў адну крывалінейную вуліцу, трасіраваную з ПнЗ на ПдУ і забудаваную двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОРКІ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Барысава, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць забалочаная, у цэнтры вёскі знаходзіцца сажалка. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Вяляцічы, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. засценак, 1 двор, 6 жыхароў, у складзе маёнтка Вяляцічы, уласнасць казны. У 1897 г. 14 двароў, 106 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 18 двароў, 178 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 30 двароў, 183 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 28.7.1954 г. ў Вяляціцкім, з 1982 г. — зноў у Мётчанскім с/с. У 1960 г. 139 жыхароў. У 1988 г. 25 гаспадарак, 49 жыхароў. Складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, трасіраваных мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы. Забудавана пераважна з аднаго боку традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОРКІ** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Барысава, 20 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Янчына і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 46 гаспадарак, 104 жыхары (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёскі Боркі Вял. (73 жыхары мужчынскага полу) і Боркі Малыя (11 жыхароў мужчынскага полу), уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. в. Боркі (36 двароў, 206 жыхароў) і хутар казённага ведамства Боркі (ён жа Беркі, 3 двары, 5 жыхароў), у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 35 двароў, 228 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў складзе Зачысценскага с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 42 двары, 245 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Новыя Боркі». У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 вяскоўцаў, 14 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 262 жыхары. У 1988 г. 55 гаспадарак, 114 жыхароў. У 2010 г. дзейнічаюць лясніцтвы і магазін.Планіровачна ўяўляе 2 паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, трасіраваныя ўздоўж абодвух бакоў ракі, перпендыкулярна да дарогі. На З частка забудовы размешчана ўздоўж дарогі. Забудавана двухбакова, месцамі ня-



шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

**БРОДАЎКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 25 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Бродня (прыток р. Сха), на якой утвораны вадаём. На ПнЗ і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 76 гаспадарак, 220 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. тут пабудавана драўляная царква св. Тройцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 16 двароў, 165 жыхароў, царква, вадзяны млын, сукнавальня, гаспадарскі двор, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1-й пал. 19 ст. ўладанне памешчыка І.Кукевіча ў закладзе Р.Корсака. У 1868 г. пабудавана новая Святатроіцкая царква. У маёнтку памешчыка М.А.Корсака дзейнічаў вінакурны з-д, на якім у 1879 г. працавалі 6 рабочых. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. 45 двароў, 428 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, магазін. У 1917 г. сяло (55 двароў, 326 жыхароў) і пасяленне (12 двароў, 90 жыхароў), у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. Дзейнічалі вадзяны млын, ваўначоска. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 — польскімі войскамі. З 31.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. у БССР. У 1920 г. на базе царк.-прыходскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучаліся 101 хлопчык і дзяўчынка. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.8.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Па перапісу 1926 г. ў вёсцы 67 двароў, 324 жыхары, у пасёлку 15 двароў, 104 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. Працавалі вадзяны млын і кузня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. група, якая трымала сувязь з партызанамі. Гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 7 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. На фронце загінулі 44 вяскоўцы. У 1960 г. 438 жыхароў. У 1980-я г. ў вёсцы былі сярэдняя школа (17 настаўнікаў), дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 1988 г. 99 гаспадарак, 238 жыхароў. У 2010 г. дзейнічаюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіроўка Т-падобная. Праект планіроўкі забудовы распрацаваны ў 1977 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Да гал. вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі перпендыкулярна далучаецца на У другая вуліца. Паралельна да гал. праходзяць яшчэ 4 кароткія вуліцы. Жылую забудову складаюць пераважна драўляныя традыц. будынкі сядзібнага тыпу. На З і Пд — гасп. сектар.

**БРОДЫ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 69 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 140 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на З — яе прыток р. Мажніца. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 28 гаспадарак, 58 жыхароў (2008).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 11 двароў, 61 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Слізеня. У 1884 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа (у 1890 вучыліся 18 хлопчыкаў), ператвораная ў 1912 г. ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1897 г. 43 двары, 291 жыхар, капліца, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 59 двароў, 392 жыхары. З лют. да

снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Нядальскім с/с Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7.1930 г.), з 21.6.1935 г. Лепельскай акруг, з 20.1.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Мсціжскім с/с Барысаўскага р-на. У 1924 г. 58 двароў, 299 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў Барысаўска-Бягомльскую партыз. зону. У 1960 г. 372 жыхары. У 1988 г. 51 гаспадарка, 112 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і мае крывалінейны абрыс адпаведна рэльефу. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная. Жылыя дамы сядзібнага тыпу.

**БРУСЫ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 9 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэр р. Сха (прыток р. Бярэзіна). На ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць побач з вёскай. 36 гаспадарак, 91 жыхар (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска, 10 жыхароў мужчынскага полу, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 14 двароў, 120 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1913 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 168 жыхароў, на хутары 1 двор, 11 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У снеж. 1920 г. на базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 54 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 25 двароў, 149 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «VI з'езд Саветаў», які ў лютым 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У 1940 г. ў вёсцы 39 двароў, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 39 двароў, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. З 21.5.1951 г. ў Прыгарадным с/с. У 1960 г. 175 жыхароў. У 1988 г. 49 гаспадарак, 129 жыхароў. Планіроўка ў 2 паралельныя амаль шыротныя вуліцы, арыентаваныя перпендыкулярна да шашы і забудаваныя пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**БРЫЛІ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Барысаў, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 55 гаспадарак, 100 жыхароў (2008).

За 1 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, захаваўся курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 19 ст. У вайну 1812 г. каля вёскі 14—16 (26—28) ліст. рас. армія пры пераправе цераз р. Бярэзіна разграміла напалеонаўскія войскі. У 1912 г. за 200 м ад вёскі, на Брылеўскім полі, быў пастаўлены помнік, разбураны ў 1920 г. польскімі захопнікамі. Захаваўся маналітны пастамент з надпісам «Доблестным предкам 7-го, 3-го і 12-го полков, павшим в сражениях на р. Березине 14—16 ноября 1812 г. Благодарные потомки: 93-й Иркутский, 112-й Уральский, 108-й Саратовский пехотные полки». У 1992 г. помнік адноўлены. У 1962 г. да 150-годдзя гэтай бітвы тут







*Мемарыяльны комплекс (злева) і помнік-абеліск каля в. Брылі ў гонар расійскіх воінаў, якія змагаліся тут у лістападзе 1812 г.*

быў узведзены мемарыяльны комплекс (скульптар М.Рыжанкоў), пасаджаны мемарыяльны гай, у якім у 9 брацкіх магілах пахаваны рас. воіны, што загінулі ў час бітвы на Бярэзіне. У пач. 21 ст. ўстаноўлены помнік загінуўшым тут французскім салдатам. У 1816 г. ў вёсцы 3 жыхары мужчынскага полу, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1889 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 7 хлопчыкаў. У 1897 г. 40 двароў, 245 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 57 двароў, 377 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 39 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Велікастахаўскім, з 21.8.1925 г. ў Касцюкоўскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Велікастахаўскім, з 16.1.1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. Паводле перапісу 1926 г. 74 двары, 376 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «14 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі 5 жыхароў на прымусовыя работы ў Германію. На фронце загінулі 34 вяскоўцы. У 1960 г. 408 жыхароў. У 1988 г. 86 гаспадарак, 181 жыхар. Дзейнічае лясніцтва. Планіроўка ў адну працяглую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПнЗ на ПдУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы на Пд размешчана адасоблена. На ПнЗ — гасп. сектар.



*Помнік французскім салдатам каля в. Брылі.*

**БЫТЧА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд забалочаны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бя-







*Бытчанская Троіцкая царква.*

гомль, якая праходзіць праз вёску. 159 гаспадарак, 427 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1582 г. сяло, уласнасць казны, у Барысаўскай вол. Аршанскага павета ВКЛ. У 1670 г. 48 дымоў, Троіцкая царква, млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце. У 1800 г. 52 двары, 343 жыхары, драўляная Троіцкая царква, млын, уладанне кн. М.Радзівіла. У вайну 1812 г. французскія войскі спалілі царкву, абрабавалі вёску. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 40 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. У 1905—06 гг. у гэтай школе працаваў настаўнікам бел. пісьменнік Я.Маўр (І.Фёдараў). У 1891 г. пабудавана мураваная Свята-троіцкая царква. У 1897 г. 113 двароў, 700 жыхароў, цэнтр воласці Барысаўскага павета Мінскай губ., школа, магазін, піцейны дом, 2 царквы, капліца. У 1917 г. 153 двары, 879 жыхароў. Дзейнічалі смалакурня і вадзяны млын. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. у Літ.-Бел. ССР. У польска-савецкую вайну ў жн. 1919 — чэрв. 1920 г. непадалёку праходзіла лінія фронту. З 31.7.1920 г. ў БССР. У 1918 г. на базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у снеж. 1920 г. вучыліся 151 хлопчык і дзяўчынка. У 1921 г. пачала працаваць хата-чытальня, б-ка, ветэрынарны ўчастак. 19.5.1924 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва «Чырвоная праца». З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 162 двары, 889 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну 3.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 8 жыхароў, 16 чалавек вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На фронце загінуў 71 вясковец. 29.6.1944 г. воіны 1-й Маскоўскай гв. мотастралковай дывізіі вызвалілі вёску і фарсіравалі Бярэзіну. У 1960 г. 821 жыхар. З 17.8. 1963 г. ў Прыгарадным с/с. У 1980-я г. ў вёсцы былі базавая школа імя Я.Маўра (13 настаўнікаў, музей Я.Маўра), комплексны прыёмны пункт, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 1988 г. 187 гаспадарак, 513 жыхароў. У 2010 г. дзейнічаюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. Троіцкая царква (1891). Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, трасіраваныя з ПдЗ на ПнУ уздоўж берагоў ручая, перпендыкулярна да шашы, звязаныя паміж сабой кароткімі папярочнымі вуліцамі. На паўд. ускраіне паралельна да шашы праходзіць яшчэ адна вуліца. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**БУДЗЕНІЧЫ** — вёска ў Іканскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мрай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Будзяніцкая Рудня і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 13 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. Упершыню ўпамінаецца пад 1718 г. у звестках аб размежаванні маёнткаў Будзенічы і Скуплін. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім



павеце Мінскай губ., 10 двароў, 54 жыхары, у фальварку дом для аканома, капліца, карчма, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Слізеня. У 1897 г. в. Будзенічы (яна ж Дзвіняткі, 19 двароў, 138 жыхароў, царква на могілках) і маёнтак Будзенічы (3 двары, 25 жыхароў), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 27 двароў, 182 жыхары, у маёнтку 80 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 11.1.1968 г. ў Іканскім с/с. У 1924 г. 28 двароў, 177 жыхароў. Побач быў аднайменны пасёлак, у якім у 1926 г. былі 2 двары, 13 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 50 гаспадарак, дзейнічала кузня. У 1940 г. 38 двароў, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 49 жыхароў. З канца 1942 г. вёска ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. Тут знаходзілася майстэрня па рамонце партызанскай зброі. У чэрв. 1944 г. ў час блакады партызаны брыгады «Дзядзькі Колі» вялі каля вёскі цяжкія баі з гітлераўцамі. У канцы чэрв. 1944 г. наступаючыя часці Чырвонай Арміі звонку прарвалі кальцо блакады вакол партызан і 28.6.1944 г. вызвалілі вёску. За 0,1 км на ПнЗ ад вёскі знаходзяцца брацкія могілкі, дзе пахавана больш за 250 сав. воінаў і партызан. У ліку пахаваных Герой Сав. Саюза камандзір партыз. брыгады «Дзядзькі Колі» П.Р.Лапацін, начальнік штаба партыз. злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны М.К.Садоўскі, чэхаславацкія патрыёты. У лесе за 3 км на У ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны больш за 150 партызан, якія загінулі ў блакадных баях у маі—чэрв. 1944 г. У 1960 г. 118 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 90 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**БУДЗЯНІЦКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Іканскім с/с, за 47 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд і У мяжуе з лесам і цячэ р. Сасна (прыток р. Мрай). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска Рудня, 26 жыхароў мужчынскага полу, у Карсакавіцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 18 двароў, 126 жыхароў, у Зембінскай вол. У 1917 г. 24 двары, 132 жыхары. Дзейнічалі вадзяны млын, маслабойня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не Мінскай акругі (да 26.7. 1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 11.1.1968 г. ў Іканскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 105 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Трэці рашаючы». Дзейнічала кузня. У 1940 г. 36 двароў, 176 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 29.5.1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 58 жыхароў, якія пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 94 жыхары. У 1988 г. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Да гал. вуліцы шыротнай арыентацыі далуча-





юцца перпендыкулярна 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУТЭЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Барысава, 10 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Нача). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Восава і далей па шашы Барысаў—Орша. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2009).

Вядома з 18 ст. У 1778 г. вёска Буцяўшчызна ў Мінскім ваяв. ВКЛ, 6 двароў, 37 жыхароў, уладанне В.Валадкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. ва ўладанні барысаўскага касцёла. У 1897 г. 20 двароў, 129 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 28 двароў, 179 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 31 двор, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 144 жыхары. У 1988 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў. Вуліца мае шыротную, а на У змяняе кірунак на амаль мерыдыянальную арыентацыю. Забудавана пераважна двухбакова, на У няшчыльна, традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯГІ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Барысава, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Чэрнеўка. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

За 2,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарэлікі захаваўся курганны могільнік (4 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з канца 18 ст. У 1800 г. тут быў 1 двор, 5 жыхароў, у складзе маёнтка Сморкі. У 1897 г. 11 двароў, 66 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 116 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У польска-савецкую вайну з жн. 1919 г. да мая 1920 г. побач з вёскай праходзіла лінія фронту. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 16 двароў, 85 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас, дзейнічала смалакурня (6 рабочых). У 1940 г. 25 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы спалілі 24 двары, загубілі 3 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1960 г. 138 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў. Планіроўка з 2 узаемна перпендыкулярных вуліц шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, жылымі традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 34 км на У ад Барысава, 7 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска Бярэзкі, 22 жыхары, уласнасць царквы, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. З 20.8.



1924 г. ў Вяляціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 46 двароў, 220 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 38 жыхароў. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎШЧЫНА** (да 20.7.1964 г. Б о ж а д а р ы) — вёска ў Іканскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, праз вёску цячэ р. Студзёнка (прыток р. Мрай), мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Божы Дар, 2 двары, 17 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка Б.Барздынскага. У 1897 г. 14 двароў, 100 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 98 жыхароў, у Мсціжскай вол. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. было 24 вучні. З 20.8.1924 г. ў Гарэлалугскім с/с (з 21.8.1925 г. перайменаваны ў Іканскі) Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7. 1930 г. Бягомльскага р-на Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1940 г. 18 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. да вызвалення знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У маі 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 16 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 70 жыхароў. У 1988 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіроўка блізкая да Т-падобнай. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудова гал. вуліцы падзяляецца ракой на 2 часткі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. За 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Гмалярскі Бор знаходзіцца помнік прыроды — камень (выш. 1,5 м) з мясц. назвай Князь-камень.

**ВАІЛАВА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 64 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 135 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На ПнУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Макаўе, Мсціж і далей па шашы Барысаў— Бягомль. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 26 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 19 двароў, 141 жыхар, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 22 двары, 133 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. зноў у БССР. На базе земскай у 1920 г. пачала працаваць прац. школа 1-й ступені, у якой тады вучыліся 24 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Нядальскім с/с Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Барысаўскага р-на Мінскай акруг, з 26.7. 1930 г. Бягомльскага р-на, з 21.6.1935 г. таго ж раёна Лепельскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 25 двароў, 129 жыхароў. У 1940 г. 31 двор, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-





хопнікамі, знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны. У чэрв. 1941 г. ў ходзе карнай аперацыі гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 22 жыхары. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Мсціжскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1960 г. 152 жыхары. У 1988 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар. Планіроўка Г-падобная. Гал. вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна. Да яе перпендыкулярна з У далучаецца другая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЛ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Кішкурнянка (прыток р. Гайна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 19 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 4 дымы, у Зембінскім ключы графства Халопенічы ў ВКЛ, уладанне Л.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 6 двароў, 27 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. У 1897 г. 21 двор, 119 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 23 двары, 158 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Непадалёку ад вёскі ў жн. 1920 г. быў створаны саўгас «Любасей». З 20.8. 1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 27 двароў, 137 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Другая пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1960 г. 168 жыхароў. У 1988 г. 42 гаспадаркі, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з вуліцы, амаль шыротнай арыентацыі, трасіраванай перпендыкулярна да шашы і забудаванай з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ВАЛЕНЦІНОВА** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 26 км на У ад Барысава, 3 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праз вёску цячэ р. Балотніца (прыток р. Мужанка). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 17 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 15 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 2 двары, 26 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 119 жыхароў. У 1988 г. 26 гаспадарак, 60 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, гал. з якіх плаўна выгнута, арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе на Пн далучаецца крывалінейная вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЛОКІ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 57 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 128 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Бягомль, якая пра-



ходзіць паблізу вёскі. 60 гаспадарак, 114 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 35 двароў, 210 жыхароў, драўляная капліца, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Слізеня. У 1885 г. 55 двароў, 384 жыхары, цэнтр Мсціжскай вол., 3 вадзяныя млыны, вінакурны з-д, школа, царква. У 1897 г. 112 двароў, 706 жыхароў, магазін, 3 крамы, 2 піцейныя дамы, капліца, 2 разы ў год (у красавіку і чэрвені) праводзіліся таржкі. У 1915 г. на базе царк.-прыходскай створана земская школа. У 1917 г. 159 двароў, 909 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай у 1920 г. была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 118 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8. 1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. да 26.7.1930 г. Бягомльскага р-на Мінскай акругі, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 176 двароў, 791 жыхар. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Беларусь», дзейнічалі маслабойня, майстэрня па апрацоўцы скуры, 3 кузні і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з канца чэвр. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. гітлераўцы спалілі 141 двор і загубілі 313 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1960 г. 398 жыхароў. У 1988 г. 107 гаспадарак, 219 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную двухбакова, шчыльна, традыцыйнымі жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар, на зах. — сад.

**ВАРОЎСКАГА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 133 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 44 гаспадаркі, 94 жыхары (2008).



*Адна з пабудоў сядзібы Тышкевічаў у в. Вароўскага.*

Узнікла ў сярэдзіне 1920-х г. на базе саўгаса імя Вароўскага, які быў засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. Назва ў памяць аб сав. дзярж. дзеячу В.В.Вароўскім (15.10.1871—10.5. 1923). З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з пач. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 327 жыхароў. У 1988 г. 75 гаспадарак, 176 жыхароў. У 2010 г. дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік архітэктуры — сядзіба Тышкевічаў (канец 19 — пач. 20 ст.). Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ і на ПнУ і з'яўляецца працягам мясц. дарогі. Да яе перпендыкулярна далучаюцца 2 другія вуліцы. Забудова двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У цэнтры і на ПнЗ — гасп. сектар.

**ВЕРАСКІ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Струпень, Перасады і далей па шашы Бары-





саў—Мінск. 36 гаспадарак, 61 жыхар (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. вёска, 36 двароў, 202 жыхары, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 39 двароў, 231 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 11.2.1925 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва «Вераскоўскае» па правядзенні работ у пойме р. Бярэзіна. У 1926 г. 45 двароў, 240 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «13 год Кастрычніцкай рэвалюцыі», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 55 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 3 жыхароў і 13 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. На вясковых могілках пахаваны 6 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў у чэрв. 1944 г. У 1960 г. 347 жыхароў. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 117 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕСЯЛОВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 21 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць праз вёску. 142 гаспадаркі, 380 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 10 дымоў, ва ўладанні Л.Храптовіча, у Зембінскім ключы графства Халопенічы ў ВКЛ. У 1800 г. 10 двароў, 62 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага, дзейнічала карчма. У 1917 г. маёнтак, 74 жыхары, у Кішчынаслабадской вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1-ю сусв. вайну з лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, спалены амаль усе пабудовы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У 1919 г. ў маёнтку быў арганізаваны саўгас «Весялова» (пазней насіў імя А.Ф.Чарвякова), які займаўся жывёлагадоўляй і птушкагадоўляй, меў у 1922 г. 11 коней, 664 дзес. зямлі, працавалі 22 пастаянныя рабочыя, 5 служачых, 63 сезонныя рабочыя. 27.11.1922 г. ў саўгасе адкрыта прац. школа 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з саўгасаў «Весялова» і «Крычына», вёсак Забалацце, Касцюкі. У 1923 г. ў школе вучыліся 28 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. ў Касцюкоўскім с/с Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. зноў у Барысаўскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Вялікастахаўскім, з 28.7.1954 г. ў Бытчанскім, з 17.8.1963 г. ў Кішчынаслабодскім сельсаветах, з 16.1. 1969 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1926 г. 136 жыхароў. У 1935 г. саўгас «Весялова» меў 1935 га зямлі, 1315 рабочых. У канцы 1930-х г. пачаў працаваць крухмальны з-д. У 1938 г. ў вёсцы размясцілася Барысаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5.7.1941 г. група самалётаў 53-га далёкабамбардзіровачнага авіяцыйнага палка бамбіла каля вёскі пераправу праціўніка цераз Бярэзіну. Адзін самалёт быў падбіты. Экіпаж у складзе камандзіра лейтэнанта М.А.Булыгіна, штурмана лейтэнанта М.К.Калесніка, стралка-радыста мл. сяржанта П.В.Цітова і паветранага стралка ст. сяржанта Н.К.Кусянкова накіраваў ахопленую полымем машыну на пераправу. Цаною жыцця лётчыкі знішчылі пераправу і 15 варожых тан-



каў. У 1980 г. ў памяць аб гэтым подзвігу пастаўлена стэла. 26 вяскоўцаў гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію, спалілі крухмальны з-д. Вызвалена вёска 28.6.1944 г. воінамі 32-й гв. кавалерыйскай дывізіі. У баі за вызваленне вызначыўся 121-ы полк гэтай дывізіі. Разлік гарматы ст. сяржанта М.М.Наргана каля р. Бярэзіна сустрэў моцнае супраціўленне ворага. Артылерысты ўступілі ў бой і забяспечылі магчымасць асноўным сілам палка фарсіраваць раку. 24.3.1945 г. М.М.Наргану прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У цэнтры вёскі пастаўлены помнік у гонар 46 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1946 г. адноўлена работа крухмальнага з-да. У 1960 г. 288 жыхароў. У 1980-х г. у вёсцы былі пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, крухмальны з-д, аддз. сувязі, ветэрынарны ўчастак, дзіцячы сад. У 1988 г. 137 гаспадарак, 422 жыхары. У 2010 г. дзейнічаюць дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны. Працуе ААТ «Харчовы камбінат «Весялова». У планіровачнай структуры вылучаецца вуліца, якая з'яўляецца адрэзкам шашы і мае крывалінейную трасу. У цэнтры да яе паўн. боку далучаецца забудова, у аснове якой ляжыць прамавугольная сістэма планіроўкі. Грамадскія будынкі размешчаны ў розных частках вёскі. Жылая забудова пераважна традыцыйная драўляная, сядзібнага тыпу. Частку забудовы складаюць аднапавярховыя аднакватэрныя мураваныя дамы. Узведзены таксама 2 двухпавярховыя жылыя дамы. На Пн і З — вытв. сектар.

**ВІЛЬЯНАВА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 19 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Нача (прыток р. Бярэзіна), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Кішчына Слабада. 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст., калі тут быў маёнтак, дзейнічаў вінакурны з-д, на якім у 1879 г. працавала 5 рабочых. У 1897 г. 3 двары, 12 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1900 г. засн. крухмальны з-д (5 рабочых, паравая машына). У 1917 г. 51 жыхар. Працаваў паравы млын. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1922 г. каля маёнтка засн. пас. Вільянава. З 20.8.1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага (з 21.8.1925 г. да 22.9. 1927 г. Зембінскага) р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Па перапісу 1926 г. 7 двароў, 36 жыхароў. У 1931 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная зорка», які ў лют. 1932 г. налічваў 12 гаспадарак, працаваў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 175 жыхароў. Тры вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі праходзяць па розныя бакі дарогі, якая іх аб'ядноўвае. Забудавана шчыльна, драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры — сад, на ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ВІШНЁВАЯ** (да 30.7.1964 г. Клюндзеўка) — вёска ў Іканскім с/с, за 47 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць паблізу вёскі. 25 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Клюндзеўка, 5 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у скла-





дзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце ВКЛ. У 1800 г. 10 двароў, 64 жыхары. У 1897 г. 44 двары, 288 жыхароў, магазін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 49 двароў, 271 жыхар, у Мсціжскай вол. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (35 вучняў), якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Гарэлалугскім с/с (з 21.8. 1925 г. Іканскі) Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім раёнах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 10.2. 1925 г. створана меліярацыйнае т-ва «Дабрабыт». Паводле перапісу 1926 г. 51 двор, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У 1960 г. 234 жыхары. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 73 жыхары. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПнУ. Да яе ўсх. боку далучаецца кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ВОБЧА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 35 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць побач з вёскай. 23 гаспадаркі, 42 жыхары (2008).

За 0,4 км на ПдЗ ад вёскі, каля дарогі ў в. Барань, захаваўся курганны могільнік (50 насыпаў), за 1 км на ПнЗ ад вёскі — другі могільнік (6 насыпаў). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, 3 дымы, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. 33 двары, 233 жыхары, у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бараньскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 35 двароў, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лют. 1943 г. на дарозе паміж вёскамі Обча і Старына партызаны брыгады імя Кірава разграмілі гітлераўскі атрад, забілі і паранілі звыш 20 акупантаў. Ураджэнец вёскі юны партызан, разведчык брыгады імя Кірава У.Стасевіч загінуў у маі 1943 г. ў час выканання баявога задання непадалёку ад роднай вёскі. У 1960 г. 204 жыхары. У 1988 г. 40 гаспадарак, 81 жыхар. Адзіная амаль шыротная вуліца арыентавана перпендыкулярна да шашы. Забудавана з двух бакоў драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж зах. боку — гасп. сектар.

**ВОСАВА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 45 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 55 км на ПнУ ад Барысава, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 7 жыхароў, уладанне І.Храптовіча, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. вёска, у складзе маёнтка Замосце, уладанне А.Слізеня. У



1908 г. 18 двароў у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 38 двароў, 179 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Бараньскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. Барысаўскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. зноў у Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 31 жыхар. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Забудову складаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу.

**ВОСАВА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Чарневічы. 28 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 14 жыхароў, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1917 г. 22 двары, 154 жыхары. З лют. да 5.12.1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У час польска-сав. вайны з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. Непадалёку па р. Бярэзіна праходзіла лінія фронту. З 31.7.1920 г. ў БССР. 4.4. 1924 г. створана с.-г. т-ва. З 20.8.1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Працавала школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. вучыліся 58 дзяцей, дзейнічала б-ка. 21.5.1925 г. заснавана меліярацыйнае т-ва. Па перапісу 1926 г. 49 двароў, 264 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Восаў», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 7 вяскоўцаў. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 98 жыхароў. З 8.2.2010 г. ў Глівінскім с/с. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ВОСАЎ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Барысава, 21 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць меліяраваная. Меліярацыйныя каналы злучаны з р. Нача (прыток р. Бобр) і ручаём (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Берня і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска Восаў Забярэзінскі, 44 жыхары, у Аздзяціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска (17 двароў, 135 жыхароў), казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва Забярэзінскі Восаў (8 двароў, 53 жыхары) і казённы хутар Восаў (4 двары, 39 жыхароў), у Вяляціцкай воласці Барысаўскага павета. У 1917 г. ў в. Забярэзінскі Восаў, 31 двор, 186 жыхароў, на хутары Забярэзінскі Восаў 7 двароў, 50 жыхароў, на хутары Восаў пры Берне 7 двароў, 57 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 12 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 28.7. 1954 г. ў Вяляціцкім, з 3.7.1982 г. зноў у





Мётчанскім сельсаветах. У 1960 г. 69 жыхароў. У 1988 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць чыгунка, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць побач з вёскай. 138 гаспадарак, 336 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. ўрочышча, 2 двары, 12 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 6 двароў, 39 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У час польска-сав. вайны 1919—20 гг. у жн. 1919 — ліп. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў БССР. У суседнім урочышчы працавала смалакурня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 254 жыхары. У 1988 г. 146 гаспадарак, 416 жыхароў. Працуе магазін. Планіроўка прамавугольнага тыпу. Гал. вуліцы трасіраваны з ПдЗ на ПнУ да чыгункі. Іх перакрыжоўваюць кароткія вуліцы. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Невялікую частку забудовы складаюць мураваныя аднапавярховыя дамы.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 32 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хаўхоліца—Барысаў. 21 гаспадарка, 29 жыхароў (2008).

За 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Сасноўшчына, захваўся курганны могільнік (30 насыпаў), які сведчыць аб асваенні гэтых мясцін у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 38 жыхароў, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 31 двор, 203 жыхары, магазін, царква, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 45 двароў, 251 жыхар. Працаваў цагельны з-д. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у той час быў 51 вучань, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8. 1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Кішчынаслабодскім, з 17.8.1963 г. зноў у Хаўхоліцкім сельсаветах. Па перапісу 1926 г. 52 двары, 246 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Востраў», які ў лютым 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 3 жыхары вёскі, расстраляныя гітлераўцамі ў ліп. 1941 г., а таксама жыхары былой в. Задні Мост (знаходзілася за 1 км на ПдЗ ад в. Востраў, у 1942 г. акупанты спалілі вёску разам з жыхарамі, пасля вайны яна не адрадзілася), якіх у 1942 г. загубілі карнікі. У 1960 г. 161 жыхар. У 1988 г. 34 гаспадаркі, 73 жыхары. З 8.2.2010 г. ў Весялоўскім с/с. Гал. крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і з'яўляецца працягам мясц. дарогі. На ПнУ перпендыкулярна да яе далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 5 км на У ад горада і чыг. ст. Барысаў, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнін-



ны, на З цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на Пн да яе далучаюцца меліярацыйныя каналы. На Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 489 гаспадарак, 1509 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 15 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 6 двароў, 73 жыхары, у Лошніцкай вол. У 1917 г. 16 двароў, 113 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Неманіцкім, з 18.1.1931 г. ў Прыгарадным сельсаветах Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 5 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 1 вяскоўца. У цэнтры вёскі, у скверы, у 1967 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 12 земляках — воінах і партызанах, якія загінулі ў вайну. У 1960 г. 349 жыхароў. З 1968 г. працуе Барысаўскі з-д будаўнічых дэталяў. У 1988 г. 381 гаспадарка, 1127 жыхароў. Тут размешчана таксама будаўнічая арг-цыя ОАО «ПМК-16-Агра». Дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе на У далучаецца частка забудовы з прамавугольнай планіроўкай. На ПдЗ — гасп. сектар.

**ВЫСОКІ БЕРАГ** (да 30.7.1964 г. — Страшнае) — вёска ў Траянаўскім с/с, за 53 км на ПнУ ад Барысава, 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Глініца (прыток р. Сха) і мяжуе з лесам. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. На Пд цячэ р. Ракаўка (прыток р. Глініца). 20 гаспадарак, 41 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Страшнае, 3 двары, 28 жыхароў, уладанне Халопеніцкага дамініканскага касцёла. У 1897 г. 7 двароў, 50 жыхароў, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 60 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8. 1924 г. ў Бараньскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 8.7. 1931 г. Барысаўскага, з 12.2.1935 г. зноў Халопеніцкага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. Барысаўскага р-на, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Па перапісу 1926 г. 11 двароў, 63 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 115 жыхароў. У 1988 г. 29 гаспадарак, 72 жыхары. Адзіная прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСАЧАНЫ** (да 30.7.1964 г. Шопа) — вёска ў Траянаўскім с/с, за 52 км на ПнУ ад Барысава, 30 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Ракаўка (прыток р. Глініца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капачоўка і далей па шашы Маісееўшчына—Крупкі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Шопа, 4 двары, 19 жыхароў, уладанне І.Храптовіча. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 119 жыхароў, у Халопеніцкай вол. Ба-




рысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 двароў, 121 жыхар. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Па перапісу 1926 г. 18 двароў, 117 жыхароў. З пач. 1920-х г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 53 жыхары. У 1988 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў. Адзіная плаўна выгнутая вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫШНІ СТАН** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Барысава, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск— Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мясцовасць забалочаная, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лабачыха, Навасёлкі і далей па шашы Барысаў—Орша. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценкі Вышні Стан (2 двары, 17 жыхароў) і Ніжні Стан (2 двары, 18 жыхароў), уладанне Барысаўскага касцёла. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 64 жыхары, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 9 двароў, 85 жыхароў. Непадалёку знаходзіліся хутары Стан Смольны, 8 двароў, 27 жыхароў. Працавалі 2 кузні. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой навучаліся 49 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 14 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 67 жыхароў. У 1988 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў. Адзіная прамалінейная вуліца, блізкая да шыротнай арыентацыі, забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ ТРАСЦЯНІЦА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна), на З — р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць праз вёску. 81 гаспадарка, 188 жыхароў (2008).

У 16 ст. ўпамінаецца як вёска ў Барысаўскім старостве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло Трасцяніца, 14 двароў, 145 жыхароў, уладанне графа І.Храптовіча ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., дзейнічалі вадзяны млын, капліца. У 2-й пал. 19 ст. сяло Трасцяніца падзелена на два: Вялікая Трасцяніца і Малая Трасцяніца. У 1870 г. ў сяле Вялікая Трасцяніца 98 жыхароў мужчынскага полу, уваходзіла ў Кішчынаслабодскую вол. Барысаўскага павета. Побач быў маёнтак памешчыка Грыцэвіча. У 1897 г. 29 двароў, 232 жыхары, магазін. У 1912 г. адкрыта земская школа, для якой было пабудавана памяшканне. У 1917 г. ў вёсцы 47 двароў, 340 жыхароў, у маёнтку 19 жыхароў. У канцы 1917 г. былы маёнтак (131 дзес. зямлі) быў перададзены батракам. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — поль-



скімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. на базе былой земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучаліся 120 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага р-на, з 21.8.1925 г. ў Касцюкоўскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай (да 26.7. 1930 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 64 двары, 348 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дружная праца», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, працаваў млын. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. На вясковых могілках пахаваны 2 воіны, якія загінулі пры вызваленні Барысаўшчыны ў чэрв. 1944 г. Тут жа знаходзіцца магіла 8 жыхароў в. Кішчына Слабада, якія былі расстраляны акупантамі 20.1.1943 г. З 16.7.1954 г. ў Велікастахаўскім, з 28.7.1954 г. ў Бытчанскім, з 17.8.1963 г. ў Кішчынаслабодскім, з 16.1.1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. У 1960 г. 400 жыхароў. Вёска ўваходзіла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Забалацце). У 1988 г. 101 гаспадарка, 273 жыхары, працаваў магазін. Гал. вуліца арганізавана ўздоўж шашы, арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Да яе ўсх. боку перпендыкулярна далучаюцца 2 другія плаўна выгнутыя вуліцы. На З паралельна да гал. праходзіць кароткая вуліца. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ВЯЛІКАЯ УХАЛОДА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 13 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты з паніжэннем на ПдЗ, дзе цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Новая Мётча, якая праходзіць праз



*Мікалаеўская царква ў в. Вялікая Ухалода.*

вёску. 483 гаспадаркі, 1278 жыхароў (2008).

Гарадзішча, якое захавалася на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Цагельня, умацаванае двума валамі і ўзвышаецца над наваколлем, сведчыць аб тым, што гэта мясцовасць заселена людзьмі ў старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска Ухалода, 5 дымоў, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 44 двары, 316 жыхароў, драўляная капліца. У 2-й пал. 19 ст. в. Ухалода падзялілася на дзве: Вялікая Ухалода і Малая Ухалода. У 1897 г. 92 двары, 629 жыхароў, капліца на могілках. З 1912 г. дзейнічала земская школа. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. У час польска-савецкай вайны з вер. 1919 г. да ліп. 1920 г. тут па р. Бярэзіна праходзіла лінія фронту. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 1921 г. дзейнічала лаўка, земская школаператворана ў прац. школу 1-й ступені, якую наведвалі дзеці з вёсак Вялікая Ухалода і Малая Ухалода (у 1923 г. 197 вучняў). 1.1.1919 г. арганізавана спажывецка-кааператыўнае аб'яднанне «Свабодны селянін» (132 члены), якое выпускала тытунёвыя і галантарэйныя вырабы. З 20.8.1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.





1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 147 двароў, 848 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які першапачаткова аб'ядноўваў 14 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну 3.7.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Звыш 300 вяскоўцаў пайшлі на фронт, 113 з іх загінулі і ў іх памяць у скверы, каля школы, у 1969 г. пастаўлена скульптура воіна з лаўровым вянком. Гітлераўцы ў час акупацыі загубілі 26 вяскоўцаў і 9 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. 29.6.1944 г. каля вёскі вялі бой часці 3-га гв. Кацельнікаўскага танкавага корпуса, задачай якога з'яўлялася авалоданне мостам цераз р. Бярэзіна. Гітлераўцы страцілі тут 13 танкаў. Вёска была вызвалена, а 30.6.1944 г. каля вёскі фарсіравала раку 331-я стралк. дывізія 71-га стралк. корпуса 31-й арміі і інш. часці 3-га Бел. фронту. У гонар гэтай падзеі ў 1976 г. на зах. ускраіне пастаўлена стэла. Пры фарсіраванні ракі загінуў камандзір 192-й стралк. дывізіі палкоўнік А.М.Кавалеўскі. Тут жа ў час фарсіравання р. Бярэзіна знаходзіўся назіральны пункт 11-й гв. арміі. З 28.7.1954 г. ў Мётчанскім с/с, з 1966 г. цэнтр саўгаса «Гвардыя». У 1960 г. 1079 жыхароў. У 1988 г. 475 гаспадарак, 1320 жыхароў. У вёсцы ёсць сярэдняя школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, клуб, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 3 магазіны. Дзейнічае Мікалаеўская царква (1994). Планіроўка квартальная, сфарміравана працяглымі прамалінейнымі вуліцамі, якія перакрыжоўваюць шашу, арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і злучаны паміж сабой кароткімі папярочнымі вуліцамі. Праект планіроўкі забудовы распрацаваны ў 1976 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы, паводле якога сучаснае будаўніцтва вядзецца пераважна ў паўд. напрамку. Грамадскія будынкі разгрупаваны сярод жылой забудовы, якая характарызуецца пераважна традыц. драўлянымі будынкамі сядзібнага тыпу. На Пд узведзены мураваныя 5-павярховы шматкватэрны, 2-павярховы 16-кватэрны і аднапавярховыя дамы тыпу катэджаў. На У і ПнУ — вытв. зона.

**ВЯЛІКАЕ СТАХАВА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 7 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на ПдУ — яе прыток р. Бродня, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 113 гаспадарак, 230 жыхароў (2008).

На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, захавалася паселішча эпохі мезаліту, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. У 1870 г. вёска, 138 жыхароў мужчынскага полу, у Бытчанскай воласці Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 60 двароў, 461 жыхар, магазін, царква, школа граматы, у хуткім часе ператвораная ў земскую. У 1917 г. 98 двароў, 690 жыхароў. Працаваў вадзяны млын. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскім войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1921 г. працавала крама, на базе земскай была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 47 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1921 г. пачала працаваць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1930 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 107 двароў, 629 жыхароў. У 1928 г. пачаў працаваць торфазавод «Чырвоны Кастрычнік», на якім у 1933 г. былі заняты 121 рабочы. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра сацыялізму», які ў лютым 1932 г. аб'ядноўваў 17



гаспадарак, працавалі ваўначоска, кузня. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вер. 1941 г. да крас. 1942 г. ў вёсцы дзейнічала падпольная антыфаш. група (25 чалавек), кіраўнікі (С.Л.Бочак, В.П.Бальшакоў, А.І.Валагжанін). Падпольшчыкі вялі палітычную агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, збіралі зброю і боепрыпасы, у лют. 1942 г. пусцілі пад адхон варожы эшалон. У сак. 1942 г. гітлераўцы арыштавалі 13 падпольшчыкаў і 25.3. 1942 г. расстралялі. Астатнія падпольшчыкі пайшлі ў партызаны. 14 вяскоўцаў гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У цэнтры вёскі ў гонар падпольшчыкаў пастаўлены ў 1978 г. абеліск. Тут жа ў 1972 г. пастаўлены помнік на ўшанаванне 95 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. На вясковых могілках пахаваны 11 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1960 г. 778 жыхароў. З 16.1.1969 г. ў Прыгарадным с/с. У 1988 г. 183 гаспадаркі, 492 жыхары. Дзейнічаюць комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У планіровачнай структуры вылучаецца прамалінейная вул. Барысаўская, якая мае шыротную арыентацыю. Да яе ў цэнтры пад вуглом далучаецца другая вуліца, на Пн кароткія мерыдыянальныя вуліцы. Грамадскі цэнтр — у месцы злучэння асн. вуліц. Забудова шчыльная, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы на Пд размешчана адасоблена. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар, на Пд і Пн — сад.

**ВЯЛІКІЯ НЕГНАВІЧЫ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 18 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна) з забалочанымі берагамі. Транспартныя сувязі па дарозе праз в. Навасады і далей па шашы Барысаў—Орша. 80 гаспадарак, 178 жыхароў (2008).

Вядомы з 16 ст. З 1563 г. ў архіўных дакументах упамінаецца в. Негневічы ў складзе Барысаўскага староства ВКЛ. У 17 ст. 2 вёскі: Старыя Негнавічы і Новыя Негнавічы. У 1670 г. ў в. Старыя Негнавічы 12 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 31 двор, 283 жыхары, уладанне кн. Д.Радзівіла і Барысаўскай праваслаўнай плябаніі. У пач. 19 ст. па афіцыйных дакументах адна вёска Негневічы, але ў сярэдзіне 19 ст. яна зноў падзялілася на Вялікія і Малыя Негнавічы. У 1883 г. адкрыта царк.-прыходская школа,ператвораная затым у земскую. У 1897 г. 88 двароў, 591 жыхар, школа граматы, царква на могілках, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 101 двор, 634 жыхары. Працаваў вадзяны млын. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1922 г. на базе царк.-прыходскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой вучыліся 127 хлопчыкаў і дзяўчынак з в. Вялікія Негнавічы і хутара Грабло. З 20.8.1924 г. да 17.8.1963 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 116 двароў, 629 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бядняцкая перамога», у якім у лют. 1932 г. аб'ядноўваліся 64 гаспадаркі, працавалі вадзяны млын і кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 29 і 18 вяскоўцаў вывезлі на катаржныя работы ў Германію. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 2 партызаны,

якія загінулі пры падрыве чыгункі ў 1942 г. Тут жа ў брацкай магіле пахаваны 46 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёсак Вял. Негнавічы і Малыя Негнавічы, Грабло, Шыліна ў чэрв. 1944 г. З 17.8.1963 г. ў Лошніцкім с/с. У 1960 г. 641 жыхар. У 1988 г. 133 гаспадаркі, 289 жыхароў. Ёсць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін. Плаўна выгнутая працяглая вуліца трасіравана з ПдЗ на ПнУ паміж ракой і дарогай. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны ў паўн. частцы. На Пн і З — гасп. сектар.

**ВЯЛЯЦІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 40 км на У да горада і чыг. ст. Барысаў, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Нача (прыток р. Бобр), якая мае забалочаныя берагі. Транспартныя сувязі па дарозе Прыяміна—Вяляцічы і далей па шашы Барысаў—Орша. 630 гаспадарак, 1388 жыхароў (2008).

За 0,4 км на Пд ад вёскі, каля зліцця рэк Бобр і Нача, ва ўрочышчы Перавоз, захаваўся курганны могільнік (13 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтай мясцовасці ў старажытнасці. З пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1562 г. ўзгадваецца як вёска, якая належала шляхціцу. У 1641 г. ў вёсцы было 35 валок зямлі, дзейнічаў вадзяны млын, з'яўлялася ўласнасцю казны. У 1722 г. 45 гаспадарак, карчма, вадзяны млын, гаспадарскі дом, цэнтр староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 60 двароў, 599 жыхароў, 2 царквы (Праабражэнская і Пакрова Багародзіцы), вадзяны млын, сукнавальня, гаспадарскі двор, у валоданні І.Тышкевіча. У вайну 1812 г. салдаты французскай арміі абрабавалі маёнтак. У 1845 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 69 хлопчыкаў і 42 дзяўчынкі. У 1851 г. пабудавана новая драўляная Спаса-Праабражэнская царква. У 1897 г. 225 двароў, 1889 жыхароў, цэнтр воласці, школа, 2 крамы, магазін, піцейны дом, 2 царквы. Побач была аднайменная ферма, 4 двары, 19 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. для школы пабудаваны ўласны будынак. У 1917 г. ў сяле 344 двары, 2185 жыхароў, у маёнтку 18 жыхароў. Працавалі вадзяны млын, смалакурня, кузня, ваўначоска. З лют. да 22.11. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да сак. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. На базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, ператвораная ў жн. 1922 г. ў 7-гадовую. Школу ў 1923 г. наведвалі 152 вучні. Размяшчалася яна ў трох уласных памяшканнях. У 1921 г. пачала дзейнічаць хата-чытальня, ветэрынарны пункт. 3.9. 1923 г. арганізавана с.-г. т-ва «Змычка» (18 гаспадарак, 83 дзес. зямлі, 35 кароў, 20 коней). Дзейнічала лясніцтва. З 20.8. 1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.

*На тэрыторыі раённага унітарнага сельскагаспадарчага вытворчага прадпрыемства «Птушкасаўгас «Вяляцічы».*







1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 17.9.1924 г. пачало працаваць спажывецкае т-ва. Па перапісу 1926 г. 395 двароў, 2460 жыхароў, працавалі 7-гадовая школа, пошта, с.-г. т-ва. У канцы 1920-х г. вёска атрымала тэлефонную сувязь. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны Барацьбіт» і імя І.В.Сталіна, якія ў пач. 1932 г. аб'ядноўвалі адпаведна 41 і 20 гаспадарак. У сяле працавалі вадзяны млын, лесапільня, сукнавальня, 2 кузні. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 30 вяскоўцаў, частку жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У памяць аб 241 земляку, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1967 г. ў скверы каля школы пастаўлены абеліск. З 1947 г. да 1955 г. ў вёсцы працаваў дзіцячы дом, дзе выхоўваліся дзеці-сіроты. У 1988 г. 716 гаспадарак, 1878 жыхароў. Працуе РУСВП «Птушкасаўгас «Вяляцічы». Дзейнічаюць сярэдняя і муз. школы, бальніца, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 3 магазіны, гандл. цэнтр, аптэка, амбулаторыя, лясніцтва. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1986 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Планіровачна-кампазіцыйнай воссю з'яўляецца вул. Цэнтральная, трасіраваная ад берага ракі ў шыротным кірунку. На Пн амаль паралельна да яе праходзіць крывалінейная вуліца. Да іх на У далучаецца амаль мерыдыянальная прамалінейная вуліца з завулкамі. На Пд гал. вуліцы адасоблена размешчаны яшчэ 2 часткі забудовы. На У, на другім беразе ракі, праходзіць яшчэ адна працяглая, плаўна выгнутая амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліца. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Ёсць аднакватэрныя мураваныя дамы. У цэнтры пабудаваны двухпавярховыя 8-кватэрныя дамы. На Пд — вытворчая зона.

Вёска — радзіма беларускага нейрахірурга, заслужанага ўрача Беларусі М.В.Паўлаўца.

**ВЯРХОВІНА** — пасёлак у Весялоўскім с/с, за 26 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Хаўхоліца—Барысаў, з якой пасёлак звязаны прасёлачнай дарогай. 22 гаспадаркі, 59 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 177 жыхароў. У 1988 г. 34 гаспадаркі, 87 жыхароў. Адзіная прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова пераважна двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГАЛУБЫ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 27 км на У ад Барысава, 4 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Балотніца (прыток р. Мужанка), на У мяжуе з лесам, на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар Галубоўшчына, 1 двор, 15 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 2 двары, 18 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 12 двароў, 72 жыхары. Побач былі хутары Новыя Галубы, 4 двары, 16 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 90 жыхароў.

У 1988 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары. Забудова арганізавана ў 3 кароткія вуліцы розных напрамкаў, злучаных паміж сабой. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ГАНЦАВІЧЫ** — вёска ў Іканскім с/с, за 50 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Цна (прыток р. Гайна), на Пн, У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 412 гаспадарак, 916 жыхароў (2008).


*П.Р.Лапацін.*

Вядома з 18 ст. У 1778 г. вёска, 17 двароў, 98 жыхароў, фальварак і маёнтак І.Абыскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 19 ст. належала кн. І.Пузыцу. У 1897 г. вёска (44 двары, 269 жыхароў, магазін) і маёнтак (33 жыхары, капліца), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. Дзейнічала земская школа. У 1917 г. в. Ганцавічы Старыя (63 двары, 365 жыхароў), хутар Ганцавічы Новыя (14 двароў, 131 жыхар), фальварак Ганцавічы Старыя (1 двор, 6 жыхароў) і маёнтак Ганцавічы (42 жыхары). З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай кайзераўскай Германіяй, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1921 г. заснавана хата-чытальня. 22.11. 1924 г. ў в. Старыя Ганцавічы арганізавана меліярацыйнае т-ва «Іскра» (76 членаў). На базе земскай была адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1922 г. 215 вучняў), якая размяшчалася ў нацыяналізаваным двухпавярховым будынку былога маёнтка. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Плешчаніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7. 1954 г. ў Іканскім с/с Бягомльскага, з 20.1.1960 г. Барысаўскага р-наў Мінскай вобл. 14.4.1925 г. на землях урочышча Новая Грэбля (каля 500 дзес.) створана ў Новых Ганцавічах меліярацыйнае т-ва «Усход». У 1932 г. тут пачаў працаваць торфазавод. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў вёсцы і наваколлі базіраваўся штаб партыз. брыгады «Дзядзькі Колі» (камандзір П.Р.Лапацін). У 1964 г. ў гонар партызан пастаўлены абеліск. У скверы, на тэр. бальніцы ў 1969 г. пастаўлена стэла ў гонар медыцынскіх работнікаў Барысаўшчыны, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1960 г. 334 жыхары. У 1988 г. 410 гаспадарак, 1189 жыхароў. Размешчана торфабрыкетнае прадпрыемства «Ганцавіцкае». Дзейнічаюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны. Планіроўка квартальная. Гал. вуліца мае шыротную арыентацыю і з'яўляецца працягам дарогі ў в. Іканы. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Узведзены шэраг мураваных двухпавярховых дамоў. На паўд. і зах. ускраінах — гасп. сектар.

**ГАРА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мясцовасць забалочаная. Праз вёску цячэ р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць побач з вёскай. 238 гаспадарак, 630 жыхароў (2008).

Непадалёку ад вёскі, па дарозе ў в. Струпень, захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Запліссе (яна ж Гара), 13 двароў, 122 жыхары, вадзяны млын, сукнавальня, «жалезны з-д» на 1 горан і 1 молат, шляхецкая



ўласнасць. У Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні ў С.Свіды. З 1879 г. тут дзейнічала прадпрыемства па вырабе шпілек для ботаў (у 1884 г. 27 рабочых). У 1887 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі), пераўтвораная ў 1908 г. ў аднакласнае нар. земскае вучылішча, для якога ў 1913 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. 41 двор, 237 жыхароў, вадзяны млын, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 64 двары, 411 жыхароў. Дзейнічалі 2 вадзяныя млыны, кузня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай кайзераўскай Германіяй, са жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Земская школа ў 1920 г. пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 172 хлопчыкі і дзяўчынкі з вёсак Гара, Юшкавічы і навакольных хутароў. З 20.8.1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 88 двароў, 432 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоная Гара», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 78 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 8 жыхароў і 22 вяскоўцы былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. Каля в. Гара пры фарсіраванні войскамі Сав. Арміі р. Бярэзіна ў чэрв. 1944 г. вызначыўся камандзір стралковага батальёна 381-й стралк. дывізіі 31-й арміі капітан П.Ф. Клепач. Батальён паспяхова выйшаў да Бярэзіны, знішчыў агнявыя пункты ворага, фарсіраваў раку і вызваліў некалькі населеных пунктаў. Капітану П.Ф. Клепачу было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1951 г. каля вёскі на р. Пліса была пабудавана ДРЭС. У 1960 г. 684 жыхары. У 1988 г. 220 гаспадарак, 465 жыхароў. Ёсць магазін. Гал. плаўна выгнутая вуліца трасіравана з ПдУ на ПнЗ амаль паралельна да шашы з зах. яе боку. Тры кароткія папярочныя вуліцы звязваюць гал. вуліцу з шашой. Да зах. боку гал. вуліцы перпендыкулярна далучаецца яшчэ адна прамалінейная вуліца. Забудавана вёска пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Узведзена таксама некалькі двухпавярховых аднакватэрных мураваных дамоў тыпу катэджаў. На Пд — гасп. сектар.

**ГАРАВЕЦ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 65 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 36 гаспадарак, 71 жыхар (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска, уладанне памешчыка Б.Болтуца. У 1917 г. хутар, 1 двор, 9 жыхароў, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-нах, з 20.8.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. на хутары 2 двары, 7 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 242 жыхары. У 1988 г. 42 гаспадаркі, 94 жыхары. Планіровачна складаецца з трох частак. Да ўсх. боку гал. вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца крывалінейная вуліца. На Пн гал. вуліца пераходзіць у дарогу, да якой з зах. і ўсх. бакоў далучаюцца 2 другія часткі вёскі з лінейнай планіроўкай. Забудова двухбаковая, часам няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі. Узведзена таксама





некалькі аднапавярховых аднакватэрных мураваных дамоў. Вытворчы сектар размешчаны ўздоўж дарогі ў цэнтры вёскі.

**ГАРАЖАНКА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 57 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 128 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна), на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Загор'е і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 17 жыхароў, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 57 жыхароў. Працавалі кравецкая майстэрня і вадзяны млын. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 21.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 10 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў, загубілі 1 жыхара. У 1960 г. 93 жыхары. У 1988 г. 32 гаспадаркі, 64 жыхары. Планіроўка Т-падобная. Адна вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і з'яўляецца працягам дарогі, другая праходзіць перпендыкулярна да першай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу, з прысядзібнымі ўчасткамі.

**ГАРЭЛІЦА** — вёска ў Перасадскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Барысава, 71 км ад чыг. ст. Пралетарская Перамога на лініі Мінск—Орша, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Орша—Мінск, якая праходзіць побач з вёскай. 14 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 18 ст. У 1710 г. вёска Гарэлі, уладанне А.Падбярэзскага і П.Валадкевіча ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1799 г. 12 двароў, 48 жыхароў, уладанне Д.Слізеня. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Дзядзіловічы, дзейнічала вінакурня. У 1917 г. 9 двароў, 45 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 10 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 55 жыхароў. Планіроўка ў адну кароткую вуліцу, якая праходзіць паміж шашой і чыгункай і арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРЭЛЫ ЛУГ** — вёска ў Іканскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 119 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 47 гаспадарак, 65 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 24 двары, 123 жыхары, драўляная капліца, фальварак, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Слізеня. У 1897 г. вёска (55 двароў, 324 жыхары, магазін, капліца) і маёнтак (35 жыхароў), у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 61 двор,



365 жыхароў, у маёнтку 40 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, якую ў 1922 г. наведвалі 150 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Гарэлалугскім с/с (цэнтр — в. Смаляры), з 21.8.1925 г. ў Іканскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1924 г. ў вёсцы 62 двары, 361 жыхар, у пасёлку (былы маёнтак) — 10 двароў, 56 жыхароў. У снеж. 1924 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва «Гарэлалугскае» (109 членаў) для правядзення работ у пойме р. Цна. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны садавод». У 1940 г. 91 двор, 448 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 35 жыхароў. З канца 1942 г. вёска ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У крас. 1944 г. ў час варожай блакады ў лесе каля вёскі вёў цяжкія баі 5-ы партыз. атрад брыгады «Жалязняк». Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 425 жыхароў. У 1988 г. 88 гаспадарак, 182 жыхары. Гал. прамалінейная вуліца мерыдыянальна арыентавана перпендыкулярна да дарогі. На З праходзіць кароткая паралельная, звязаная з гал. папярочнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ГЛІВІН** — вёска, цэнтр сельсавета, за 7 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з Бярэзінай. На Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 224 гаспадаркі, 606 жыхароў (2008).

За 0,5 км на У ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна захавалася паселішча 2-й пал. эпохі мезаліту, за 0,2 км на У ад вёскі, на правым беразе Бярэзіны захаваліся рэшткі селішча 2—5 ст. і больш позняга часу, за 0,5 км на У ад вёскі — курганны могільнік (55 насыпаў) і за 1 км на У ад вёскі — другі курганны могільнік (4 насыпы). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло ў Мінскім павеце ВКЛ. Правілеем польскага караля і вял. кн. літоўскага Станіслава-Аўгуста Панятоўскага пацверджаны прывілей Жыгімонта І Старога ад 1508 г. на карыстанне маёнткам Глівін Я.Ратомскаму. У 1755 г. тут за кошт Мінскага езуіцкага кляштара пабудаваны драўляны касцёл. У 1773 г. ў сяле 29 дымоў, млын, у фальварку — кузня, бровар, карчма, млын, з'яўляліся ўладаннем царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 31 двор, 255 жыхароў, драўляная царква Узвіжання Крыжа і пры ёй — драўляная уніяцкая капліца, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні царквы і памешчыка С.Свіды. У 1869 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 36 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. 80 двароў, 517 жыхароў, цэнтр воласці, дзейнічалі школа, 2 магазіны, крамы, піцейны дом, царква (перабудавана ў 1866 г.). У маёнтку, што быў побач, 24 жыхары, піцейны дом. У 1917 г. ў сяле 100 двароў, 637 жыхароў, у маёнтку 195 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у




Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У канцы 1918 г. ў маёнтку быў створаны саўгас (у 1924 г. 355 дзес. зямлі), працавалі маслабойня, лесапільня. З 1918 г. ў вёсцы дзейнічала каап. спажывецкае т-ва, якое забяспечвала насельніцтва неабходнымі таварамі. 20.10.1921 г. дарэвалюц. школа была пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені імя У.І.Леніна, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку. У ліст. 1920 г. арганізавана ячэйка ЛКСМБ. У вёсцы размяшчалася і лясніцтва. 9.5.1923 г. створана с.-г. т-ва «Праца», дзейнічаў драматычны гурток імя К.Маркса (за 1922 г. пастаўлена 7 спектакляў). 11.9.1924 г. створаны спажывецкі кааператыў. З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1925 г. на базе ліквідаванага саўгаса быў засн. пладовы гадавальнік (31 га зямлі), дзе вырошчваліся саджанцы пладовых дрэў, ягадныя кусты, насенне агародніны. Паводле перапісу 1926 г. 275 двароў, 837 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 77 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ноч з 25 на 26.6.1944 г. партызаны брыгады імя Шчорса разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Перад адступленнем гітлераўцы часткова спалілі вёску. Вызвалена 30.6.1944 г. часцямі 31-й арміі. У скверы каля Дома культуры пахаваны 56 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні Барысаўшчыны ў чэрв. — ліп. 1944 г. Побач у 1967 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 187 земляках, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На вясковых могілках пахаваны камандзір партыз. атрада імя Шчорса брыгады імя Шчорса А.М.Лапін, які загінуў у баі 1944 г. У 1960 г. 711 жыхароў. У 1988 г. 212 гаспадарак, 597 жыхароў. У вёсцы размешчаны дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Праект планіроўкі забудовы вёскі распрацаваны ў 1982 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Ён захоўвае гіст. планіровачную структуру, у аснове якой — гал. працяглая плаўна выгнутая вуліца, трасіраваная ўздоўж берага ракі і арыентаваная з ПнЗ на ПдУ. На З паралельна праходзіць кароткая вуліца, якая звязана з гал. папярочнымі вуліцамі. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пд і ПдЗ.

**ГЛЫБОЧЫЦА** — былая вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 55 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Гурба (прыток р. Вялікая), вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына.

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар, 8 двароў, 61 жыхар, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай герм. войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. — у Гомельскай губ. РСФСР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў складзе Жартайскага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 8.7.1931 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с. У 1930-я г. створаны калгас імя М.І.Калініна. У 1940 г. 39 двароў, 173 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. Часткова адбудавана. Непадалёку ад вёскі, ва ўрочышчы Глыбочыца, базіравалася партыз. брыгада імя С.М.Кірава. За 0,3 км на Пд ад вёскі знаходзяцца партыз. могілкі, дзе пахаваны 55 партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. У



1960 г. 22 жыхары. У 1988 г. 2 двары, 4 жыхары.

**ГРАБЛО** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 18 км на У ад Барысава, 6 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна) з забалочаным берагам. У цэнтры — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 28 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

У 1885 г. засценак, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 74 жыхары, у 1917 г. 12 двароў, 92 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Вяліканегнавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 19 двароў, 103 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лужок», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 181 жыхар. У 1988 г. 36 гаспадарак, 90 жыхароў. З 17.8.1963 г. ў Лошніцкім с/с. Забудова размешчана па абодва бакі дарогі, паралельна і перпендыкулярна да яе, з разрывамі. Жылыя дамы традыцыйныя, драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДАБРЫЦКАЕ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 20 км на У ад Барысава, 9 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мётча—Барысаў, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 76 жыхароў, у 1917 г. 9 двароў, 70 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 1.9.1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (37 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 68 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 85 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 79 жыхароў. У 1988 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў. Планіроўка ў адну крывалінейную вуліцу, трасіраваную з ПнУ на ПдЗ уздоўж берага ракі. Забудавана аднабакова, традыцыйнымі драў- лянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЯДЗІЛАВІЧЫ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна). За 3 км на З ад вёскі знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна (260 м). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз вёскі Зарэчча і Вароўскага і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 49 гаспадарак, 117 жыхароў (2008).

За 5,7 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Цна, захавалася гарадзішча (мясц. назва Замкавая Гара), якое датуецца 1—4 ст. н.э. Побач размешчана селішча (пл. 5—6 га), адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны і датуецца 6—8 ст. н.э. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1567 г. ўпамінаецца як вёска, шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце ВКЛ. У 1744 г. сяло Дзядзілавічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце




Мінскай губ. У 1800 г. 32 двары, 173 жыхары, драўляныя касцёл і царква Пакрова Багародзіцы, млын, гаспадарскі дом. У 1-й пал. 19 ст. дзейнічала вінакурня, вёска з'яўлялася ўласнасцю памешчыка А.Слізеня. У 1876 г. ў маёнтку дзейнічалі 5 вадзяных млыноў, 2 карчмы. У 1897 г. 89 двароў, 445 жыхароў, магазін, касцёл, малітоўная школа. На базе прымітыўнай вінакурні ў 1899 г. памешчыкам Г.А.Слізенем быў створаны вінакурны з-д, на якім перад пач. 1-й сусв. вайны працавалі 5 рабочых. У 1917 г. ў вёсцы 72 двары, 419 жыхароў, у маёнтку 78 жыхароў. Працаваў паравы млын. З лют. 1918 г. да 5.12.1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У лют. 1920 г. ў маёнтку арганізаваны саўгас «Дзядзілавічы», пазней насіў імя Вароўскага (у 1924 г. 474 дзес. зямлі), які ў хуткім часе ператварыўся ў буйную гаспадарку. У вёсцы дзейнічала школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл., з 20.1. 1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу ў 1926 г. 86 двароў, 384 жыхары. У 1928 г. саўгас засн. смалакурню, дзейнічала кузня. У 1940 г. 100 двароў, 511 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.- фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. ў час карнай аперацыі гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 369 жыхароў. У 1988 г. 91 гаспадарка, 128 жыхароў. Ёсць клуб. Планіроўку фарміруюць 2 паралельныя прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПнЗ на ПдУ і злучаныя паміж сабой 2 папярочнымі вуліцамі. На Пд праходзіць яшчэ адна амаль мерыдыянальная вуліца. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ДЗЯМІДАЎКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць побач з вёскай. 97 гаспадарак, 267 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 341 жыхар. У 1988 г. 110 гаспадарак, 341 жыхар. Ёсць магазін. Гал. мерыдыянальная вуліца трасіравана ўздоўж берага ракі і на Пн разгаліноўваецца на 2 вуліцы. На У паралельна да гал. праходзіць другая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ДОБРАЯ ПАРАДА** — былы пасёлак у Траянаўскім с/с, за 65 км на ПнУ ад Барысава, 136 км ад Мінска. 33 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Майсееўшчына — Халопенічы.

Вядома з 19 ст. У 1885 г. засценак, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 49 жыхароў, у 1917 г. 9 двароў, 44 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг (да 26.7. 1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.7.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з



ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 26 жыхароў. У 1988 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**ДРАЗЫ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 26 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бродня (прыток р. Сха), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 79 жыхароў, драўляная уніяцкая капліца, млын, сукнавальня, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Кукевіча. У 1897 г. 29 двароў, 190 жыхароў, піцейны дом, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. вёскі Дразды 1 (4 двары, 14 жыхароў), Дразды 2 (11 двароў, 37 жыхароў), Дразды 3 (3 двары, 24 жыхары), Дразды 4 (26 двароў, 111 жыхароў) і фальварак Дразды 5 (1 двор, 12 жыхароў). Працаваў вадзяны млын. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Па перапісу 1926 г. 32 двары, 161 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 15 вяскоўцаў і 5 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 122 жыхары. У 1988 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Да яе ўсх. боку далучаецца кароткая папярочная вуліца. Забудавана двухбакова, з разрывамі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРОЗДЗІНА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Барысава, 16 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Аздзяцічы, якая праходзіць праз вёску. 74 гаспадаркі, 163 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 28 двароў, 244 жыхары, уніяцкая драўляная капліца, у Сморкаўскім старостве Барысаўскага павета Мінскай губ. Вёска ўваходзіла ў склад казённага маёнтка Сморкі, а ў 1816 г. была пажалавана на 12 год стацкаму саветніку Ярцаву. У 1897 г. 73 двары, 511 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў вёсцы 109 двароў, 627 жыхароў, на хутары 1 двор, 5 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе нар. вучылішча створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. вучыліся 71 хлопчык і дзяўчынка. Размяшчалася школа ў наёмным памяшканні. З 20.8. 1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 108 двароў, 559 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 8 жыхароў, 26 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1957 г. пабудаваны новы клуб. У 1960 г. 633 жыхары. У 1988 г. 115 гаспадарак, 276 жыхароў. У 1980-я г. тут былі базавая школа

(13 настаўнікаў), дзіцячы сад, клуб, б-ка, магазін. Асн. частка вёскі размешчана на У ад шашы. Гал. вуліца трасіравана з ПнУ на ПдЗ і на Пн змяняе кірунак на блізкі да шыротнага. На Пн амаль паралельна да яе праходзіць другая плаўна выгнутая вуліца. На Пд далучаецца да гал. мерыдыянальная вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне, з другога боку шашы — гасп. сектар.

**ДУБНІК** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 35 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 75 жыхароў. У 1988 г. 12 гаспадарак і 28 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОВІКІ** — былая вёска ў Кішчынаслабодскім с/с, за 13 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Нача (прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Кішчына Слабада—Барысаў.

Вядома з 19 ст. У 1870 г. вёска ў Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 5 двароў, 38 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 5 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 29 жыхароў. У 1988 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**ДУБОВЫ ЛОГ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць меліяраваная. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

У 1897 г. ўрочышча, 17 двароў, 131 жыхар, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У сялян былі частыя спрэчкі з памешчыкам па пытаннях землекарыстання, а 11.12.1905 г. адбылася сутычка з адміністрацыяй маёнтка Глівін. У 1917 г. 22 двары, 183 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.1.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 45 двароў, 263 жыхары. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Дуб», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 74 гаспадаркі з населеных пунктаў Дубовы Лог, Персцень і Краснае. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі 23 двары, загубілі 4 жыхароў і 20 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 209 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 працяглых, паралельных паміж сабой вуліц, трасіраваных з ПнУ на ПдЗ і звязаных дарогамі. Забудавана двухбакова, са значнымі разрывамі, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОВЫ ЛОГ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 34 км на Пн ад горада і



чыг. ст. Барысаў, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Хаўхоліца—Барысаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 12 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска, 8 двароў, 48 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. вёска (19 двароў, 96 жыхароў) і засценак (5 двароў, 37 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 22.9.1927 г. зноў Барысаўскага р-на Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 16.7.1954 г. ўвайшла ў Кішчынаслабодскі, з 17.8. 1963 г. — зноў у Хаўхоліцкі с/с. Па перапісу 1926 г. 24 двары, 123 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «1 Мая» (цэнтр — в. Завосіна), дзейнічаў паравы млын (пабудаваны ў 1917). У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 40 жыхароў. У 1988 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў. З 8.2. 2010 г. ў Весялоўскім с/с. Планіроўка ў адну вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ і забудаваную аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОВЫЯ** — вёска ў Вяліцкім с/с, за 36 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 12 гаспадарак, 22 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 54 жыхары. У 1988 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваная пераважна з зах. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАВА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 55 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 15 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

За 0,2 км на Пн ад вёскі знаходзяцца 3 курганы (раней было 12), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска, 22 жыхары мужчынскага полу, уладанне памешчыкаў І. і Ф. Беліковічаў. У 1897 г. 18 двароў, 141 жыхар, магазін, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З жн. 1919 г. да жн. 1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 151 жыхар. У 1988 г. 23 гаспадаркі, 61 жыхар. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБЯНІ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 15 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З сажалка і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Бытча і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 26 гаспадарак, 46 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. У 1526 г. сяло, у складзе маёнтка Зембін, уладанне Радзівілаў у ВКЛ. У 1816 г. 42 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. 24 двары, 170 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 34 двары, 212 жыхароў. Працавала смалакурня. З





лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У польска-сав. вайну з жн. 1919 г. да мая 1920 г. ў прыфрантавой паласе. З жн. 1920 г. ў БССР. У кастр. 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 29 вучняў, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 39 двароў, 233 жыхары. У 1930-х г. арганізаваны калгас «Другая пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 2 жыхароў і 3 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 4 воіны-артылерысты, якія загінулі 30.6.1944 г. пры вызваленні Барысаўшчыны ад акупантаў. У 1960 г. 232 жыхары. З 1963 г. ў Прыгарадным с/с. У 1988 г. 41 гаспадарка, 108 жыхароў. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На Пд да яе пад вуглом далучаецца крывалінейная вуліца. У месцы іх злучэння на беразе вадаёма знаходзіцца парк. Забудова двухбаковая, на З з разрывамі, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

За 0,3 км на ПдЗ знаходзіцца Дубянёўскае радовішча пяску (разведаныя запасы 671 тыс. $м^3$).

**ДУДЗІНКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 5 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 21 гаспадарка, 70 жыхароў (2008).

На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, захавалася гарадзішча, дзе знойдзены ляпная кераміка 6—8 ст., жал. шлак, косці жывёл. Гэты помнік археалогіі сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. 1 двор, 9 жыхароў, уладанне М.Радзівіла. У 1897 г. хутар, 1 двор, 11 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1916 г. 4 двары, 22 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Вялікаставаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.1.1969 г. ў Прыгарадным с/с. У 1960 г. 37 жыхароў. У 1988 г. 10 гаспадарак, 32 жыхары. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, трасіраваную шыротна, уздоўж берага ракі і забудаваную двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЕЛЬНІЦА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 32 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ельніца (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Хаўхоліца—Барысаў. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў (2008).

Непадалёку ад вёскі, каля дарогі ў в. Крацэвічы, захаваўся курганны могільнік (2 курганы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 11 жыхароў, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 90 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 109 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют.— у Літ.-Бел.



ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. зноў у Барысаўскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 16.7.1954 г. далучана да Кішчынаслабодскага с/с, з 17.8.1963 г. зноў у Хаўхоліцкім с/с. Па перапісу 1926 г. 34 двары, 170 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ельніца», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 30.6.941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 14 вяскоўцаў і 17 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 164 жыхары. У 1988 г. 45 гаспадарак, 100 жыхароў. З 8.2.2010 г. ў Весялоўскім с/с. Адзіная плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і перакрыжавана дарогай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**ЕЛЬНІЦА** — вёска ў Перасадскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). На ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе, а затым па шашы Орша—Мінск. 25 гаспадарак, 45 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 10 двароў, 84 жыхары, магазін, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. в. Ельніца (яна ж Упірэвічы Малыя) налічвала 29 двароў, 139 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У вёсцы 2.8.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва «Новы шлях» (30 членаў, 109 га зямлі). З 20.8.1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. ў вёсцы 33 двары, 145 жыхароў, на хутары — 2 двары, 14 жыхароў. З канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы 13 вяскоўцаў. У 1960 г. 202 жыхары. У 1988 г. 25 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіроўка ў адну прамалінейную шыротную вуліцу, забудаваную традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖАРСЦВЯНКА** — былая вёска ў Неманіцкім с/с, за 7 км на У ад Барысава, 78 км ад Мінска, 5 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны, на З і Пд цячэ ручай (прыток р. Сха), на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Барысаў—Орша, да якой ад вёскі ішла праз в. Ляды мясц. дарога.

Узнікла ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 62 жыхары. У 1988 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ЖАРСЦВЯНКА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Свяціца (прыток р. Гайна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 36 гаспадарак, 64 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1721 г. вёска, 6 сямей, у складзе маёнтка Зембін, уладанне Віленскага каталіцкага капітула ў ВКЛ. У 1777 г. 11 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 12 двароў, 66 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. У 1897 г. 38 двароў, 241 жыхар, магазін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 52 двары, 320 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр.,





акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У 1920 г. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 7 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 59 двароў, 297 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка ў 4 гады», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 26 вяскоўцаў і 3 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На вясковых могілках пахаваны камандзір партыз. атрада «За Бацькаўшчыну» брыгады «Дзядзькі Колі» А.І.Тамашэвіч, які загінуў у баі 22.2.1943 г. У 1966 г. 256 жыхароў. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 93 жыхары. 2 паралельныя вуліцы на абодвух берагах ракі арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і злучаны дарогай. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЖАРТАЙКА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 40 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Жартайка (прыток р. Бярэзіна). На З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 23 гаспадаркі, 31 жыхар (2008).

За 1 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Жартайка, захаваўся курганны могільнік (10 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 16 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы (ВКЛ). У 1800 г. 14 двароў, 64 жыхары, вадзяны млын. У 1897 г. 30 двароў, 154 жыхары, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У 1916 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 33 двары, 199 жыхароў. Працаваў вадзяны млын. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Гомельскай губ., потым у БССР. З 20.8. 1924 г. ў Жартайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 35 гаспадарак, 190 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Жартай», працавала кузня. У 1940 г. 42 двары, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (42 двары), загубілі 13 жыхароў. У чэрв. 1944 г. ў час блакады партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны каля вёскі вялі цяжкія баі партызаны брыгад імя Кірава, імя Панамарэнкі. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1960 г. 192 жыхары. У 1988 г. 37 гаспадарак, 71 жыхар. Адзіная шыротная крывалінейная вуліца трасіравана ўздоўж берага ракі і забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖОРТАЙ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 45 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты з паніжэннем у паўд. і зах. напрамках, на З мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па дарозе Барань—Жортай і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 91 гаспадарка, 242 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска (22 двары, 204 жыхары) і засценак (1 двор,



8 жыхароў) у Барысаўскім павеце. З пач. 19 ст. ва ўладанні памешчыкаў І. і Ф. Беліковічаў. У 1820 г. ў складзе маёнтка Латыгаль; уласнасць казны. У 1897 г. в. Жортай 1 (24 двары, 209 жыхароў, магазін), в. Жортай 2 (14 двароў, 60 жыхароў) і фальварак Жортай (2 двары, 13 жыхароў), у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У 1914 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў в. Жортай 1 42 двары, 240 жыхароў, у в. Жортай 2 21 двор, 134 жыхары, у маёнтку Жортай 13 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. На базе земскай была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 85 дзяцей. З 20.8. 1924 г. цэнтр Жортайскага с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Барысаўскага, з 12.2.1935 г. зноў Халопеніцкага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы Жортай 65 двароў, 318 жыхароў, у маёнтку — 25 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Жортай», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак, працавала кузня. У 1940 г. 64 двары, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску (пасля вайны адноўлена), загубілі 9 жыхароў. У сак. 1943 г. партызаны атрада «За перамогу» брыгады імя Кірава разграмілі ў вёсцы гітлераўскі абоз, знішчылі 17 карнікаў, захапілі трафеі. З жн. 1942 г. ў вёсцы дзейнічала падп. маладзёжная група. Непадалёку ад вёскі на хутары Старына базіраваўся штаб партыз. брыгады імя Кірава. У 1965 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск у гонар партызан. Скульптура воіна на пастаменце, пастаўленая ў 1962 г., увекавечвае памяць 140 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. Пасля вайны адбудавана.

У вёсцы працуе КУП «Жортай». Ёсць Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. У 1960 г. 268 жыхароў. Генплан вёскі распрацаваны ў 1986 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца ў паўд. напрамку і працягвае гіст. складзеную Т-падобную планіроўку з паступовым пераўтварэннем яе ў прамавугольную. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да дарогі. На Пд паралельна да гал. праходзіць новая вуліца. Грамадскія будынкі разгрупаваны сярод жылой забудовы. Жылы фонд складаецца з аднапавярховых драўляных і мураваных дамоў сядзібнага тыпу. Узведзены таксама 2 двухпавярховыя мураваныя 4- і 8-кватэрныя дамы. На паўн. і паўд.-ўсх. ускраінах — гасп. сектар.

**ЖЫЦЬКАВА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 17 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску ва ўсх. яе частцы цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць праз вёску. 175 гаспадарак, 436 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. прыселак, 9 дымоў, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 39 двароў, 305 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1889 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 13 хлопчыкаў), пераўтвораная 1.10.1905 г. ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1897 г. 72 двары, 502 жыхары,




царква ў Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 92 двары, 643 жыхары. Працавалі вадзяны млын і смалакурня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе нар. вучылішча пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у снеж. 1920 г. вучыліся 81 хлопчык і дзяўчынка. Размяшчалася школа ў рэквізаваным будынку. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.4.1957 г. ў складзе Прыгараднага с/с. Па перапісу 1926 г. 106 двароў, 634 жыхары. У лют. 1930 г. з 12 гаспадарак, быў арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, а ў лют. 1932 г. ён ужо аб'яднаў 46 гаспадарак. У 1933 г. працавалі паравы млын, лесапільня, кузня. У 1935 г. пабудавана электрастанцыя, якая абслугоўвала патрэбы вёскі і калгаса. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12.8.1941 г. партыз. атрад У.А.Яраша на дарозе паміж вёскамі Жыцькава і Стары Янчын падбіў і спаліў 4 грузавыя і 1 легкавую машыны гітлераўцаў, былі захоплены 6 кулямётаў, 12 аўтаматаў, 25 вінтовак, забіты 4 варожыя афіцэры і 13 салдат. З восені 1942 г. ў вёсцы дзейнічала падп. арганізацыя ў складзе 6 чалавек, кіраўніком якой з'яўляўся К.П.Даўгаполец. Падпольшчыкі збіралі зброю, знішчалі здраднікаў, зрывалі збор прадуктаў і цёплага адзення для ворага. К.П.Даўгаполец загінуў пры падрыве чыгункі каля в. Стайкі ў 1943 г. На вясковых могілках пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. У цэнтры вёскі ў 1966 г. ўзведзены абеліск на ўшанаванне памяці 137 землякоў з суседніх вёсак, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У сак. 1946 г. адноўлена электрастанцыя, дамы калгаснікаў былі электрыфікаваны. У 1950 г. да вясковага калгаса далучаны калгасы «19-ы партз'езд», «Перамога», «Чырвонае Селішча». З 1971 г. цэнтр калгаса «Маяк камунізму», старшынёй якога доўгі час быў Герой Сацыяліст. Працы Ф.В.Юдаеў (1915—85). У 1988 г. 233 гаспадаркі, 586 жыхароў. У вёсцы размешчаны сярэдняя школа, фельч.- акушэрскі пункт, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1960 г. 685 жыхароў. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Гал. вуліца трасіравана мерыдыянальна ўздоўж берага ракі. На Пд да яе далучаецца кароткая папярочная вуліца. Па другі бок ракі размешчана частка забудовы з нерэгулярнай планіроўкай, якая звязана з гал. вуліцай шашой з мостам цераз раку. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы на гал. вуліцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — вытв. сектар.

**ЗАБАЛОТНІЦА** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 20 км на У ад Барысава, 6 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць забалочаная, на Пн цячэ р. Балотніца (прыток р. Мужанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 27 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска, 19 жыхароў мужчынскага полу, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 20 двароў, 143 жыхары, у 1917 г. 26 двароў, 156 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (48 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Вяліканегнавіц-



кім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1930 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 33 двары. З пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 256 жыхароў. 17.8. 1963 г. пасля ліквідацыі Вяліканегнавіцкага с/с вёска адышла да Лошніцкага с/с. У 1988 г. 50 гаспадарак, 89 жыхароў. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, якая арыентавана шыротна ўздоўж берага ракі і забудавана пераважна з паўд. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** – вёска ў Весялоўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бягомль, да якой ад вёскі ідзе мясц. дарога. 111 гаспадарак, 298 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1721 г. сяло Шчыгалеўшчызна (яно ж Забалоцце), 4 двары, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. 16 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 21 двор, 130 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. У 1897 г. 44 двары, 283 жыхары, магазін, піцейны дом, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1908 г. адкрыта земская школа. Працаваў цагельны з-д. У 1917 г. 67 двароў, 422 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. было 49, у 1923 г. — 104 вучні. З 20.8.1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.8.1938 г. Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Бытчанскім, з 17.8.1963 г. ў Кішчынаслабодскім, з 16.7.1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. Паводле перапісу 1926 г. 81 двор, 421 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 507 жыхароў. У 1988 г. 139 гаспадарак, 314 жыхароў. У вёсцы размешчаны клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін. Гіст. складзеная планіроўка вёскі ўяўляе сабой прамавугольную структуру, развітую пераважна ў напрамку з ПдЗ на ПнУ. Праект планіроўкі забудовы распрацаваны ў 1978 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца пераважна на Пд. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж 2 узаемна перпендыкулярных вуліц. Жылую забудову складаюць пераважна традыц. драўляныя дамы сядзібнага тыпу. Узведзены таксама 10 мураваных аднапавярховых аднакватэрных і адзін двухкватэрны дамы. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАБАШЭЎКА** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 22 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Маска (прыток р. Бярэзіна), на Пд, Пн і З мяжуе з лесам. 22 гаспадаркі, 52 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 57 жыхароў, млын, «жалезны з-д», шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска (27 двароў, 161 жыхар) і аднайменнае ўрочышча (1 двор, 6 жыхароў), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 42 двары, 252 жыхары. Працаваў вадзяны млын. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З





1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага павета Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 44 двары, 224 жыхары. У 1930-я г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, працаваў вадзяны млын (засн. ў 1917 г.). У пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 2 жыхароў і 18 вяскоўцаў вывезлі ў Германію. Вызвалена 30.6.1944 г. часцямі 31-й арміі. У 1960 г. 170 жыхароў. У 1988 г. 44 гаспадаркі, 101 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Другая далучаецца да яе перпендыкулярна. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАБАШАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 25 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Маска (прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Забашавічы. 220 гаспадарак, 500 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. Захавалася датаваная 1541 г. скарга на прыцягненне людзей «забышаўскіх» да працы ў Мінскім замку ў ВКЛ. У 1667 г. Забашэўскай Пакроўскай царкве Крыштафор Ягелавіч даў фундуш на зямлю. Пад 1776 г. пазначана ў матэрыялах аб размежаванні маёнтка Забашавічы з сялом Забалоцце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. сяло, 42 двары, 271 жыхар, драўляная царква Пакрова Багародзіцы, гаспадарскі двор, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка Я.Ваньковіча. У 1863 г. пабудавана новая драўляная Пакроўская царква. У сяле дзейнічалі смаляное і шкіпінарнае прадпрыемствы, якія належалі памешчыку. У 1884 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа, у якой у 1890 г. вучыліся 21 хлопчык і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. сяло (68 двароў, 480 жыхароў, царк.-прыходская школа, магазін, 3 крамы, піцейны дом, царква, капліца) і маёнтак (73 жыхары), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў сяле 13 двароў, 765 жыхароў, у маёнтку 34 жыхары. Працавалі 3 кузні. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 1.7.1920 г. ў БССР. У маі 1920 г. вёска пацярпела ад пажару. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1922 г. — 135 вучняў), якая ў 1923 г. пераўтворана ў 7-гадовую. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1921 г. ў былым маёнтку засн. агранамічны ўчастак і пракатны агрпункт. Забашавіцкі сад быў аб'яўлены пастановай СНК БССР ад 5.7.1926 г. помнікам прыроды. 23.1.1924 г. арганізавана с.-г. т-ва «Добрая праца», якое ўваходзіла ў Барысаўскую акруговую сельгаскааперацыю. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 161 двор, 828 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, працавалі маслазавод, кузня. У 1939 г. мясц. школа стала 10-гадовай. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля 200 вяскоўцаў змагаліся на франтах і ў партыз. атрадах, 71 з іх загінуў. Настаўніца Н.С.Іцахова была партыз. сувязной. Пры выкананні баявога задання яе схапілі гітлераўцы і закатавалі. За гады акупацыі гітлераўцы загубілі 22 мірныя жыхары. Вызвалена 29.6.1944 г. часцямі 31-й арміі. На вяс-



ковых могілках пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні Барысаўшчыны, сярод іх воіны 25-й гв. танкавай брыгады. У 1965 г. ў цэнтры вёскі, у скверы, пастаўлены помнік землякам (з вёсак Забашавічы, Забашоўка, Устрона), якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. Школа, памяшканне якой спалілі акупанты, доўгі час размяшчалася ў васьмі вясковых хатах. У 1960 г. быў узведзены для яе новы будынак.

У вёсцы размешчаны РУСП «Саўгас «Радуга», сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, аддз. сувязі і «Беларусбанка», лясніцтва, магазін. У 1960 г. 969 жыхароў. Генплан вёскі распрацаваны ў 1978 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва, якое вядзецца на У і ў цэнтры вёскі, падтрымлівае і працягвае гіст. складзены тып планіроўкі. Гал. вуліца крывалінейная, арыентавана амаль мерыдыянальна. Да яе з двух бакоў перпендыкулярна далучаюцца другія вуліцы. У цэнтр. частцы гал. вуліцы размяшчаюцца грамадскія будынкі. Забудавана пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У узведзена 13 мураваных аднакватэрных дамоў, у цэнтр. частцы — двухпавярховыя 16- і 8-кватэрныя мураваныя дамы. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза П.К.Казакевіча (1904—43).

**ЗАБЕР'Е** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Барысава, 33 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ р. Бобр (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Чарнеўка, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар Забор'е (ён жа Александрыйскі з-д), 2 двары, 14 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Працавала скураапрацоўчая майстэрня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 1.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Барысаўскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 36 жыхароў. У 1988 г. 5 гаспадарак, 13 жыхароў. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ перпендыкулярна да шашы. Забудавана жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 34 км на У ад Барысава, 6 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Нача (прыток р. Бобр). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 19 гаспадарак, 41 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 51 жыхар, у складзе маёнтка Сморкі, уласнасць казны. У 1816 г. пажалавана на 12 год стацкаму саветніку Ярцаву. У 1897 г. 19 двароў, 160 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 29 двароў, 184 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (26 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Вяляціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 39 двароў, 213 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Зара Свабоды». У



*П.К.Казакевіч.*





Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 26.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 14 вяскоўцаў і 31 жыхара вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 107 жыхароў. У 1988 г. 27 гаспадарак, 68 жыхароў. Планіровачна арганізавана ў 2 паралельныя вуліцы, трасіраваныя з ПнЗ на ПдУ і забудаваныя традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАВАЛЫ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Мётча. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска, 24 жыхары мужчынскага полу, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. З 1885 г. працавала смалакурня. У 1897 г. ў вёсцы 8 двароў, 80 жыхароў, на аднайменным казённым хутары 4-га Барысаўскага лясніцтва 1 двор, 2 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 104 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У час польска-савецкай вайны ў жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. непадалёку, па беразе р. Бярэзіна, праходзіў рубеж абароны Чырвонай Арміі. З жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 27 двароў, 129 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вызваленне працы», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 159 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, трасіраванай шыротна, уздоўж берага ракі і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАВІДНАЕ** — вёска ў Іканскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 26 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 21 двор, 130 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 27 двароў, 171 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 30 двароў, 182 жыхары. У 1940 г. 27 двароў, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У маі 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. У крас.—маі 1944 г. ў час варожай блакады каля вёскі вялі цяжкія баі партызаны брыгады «Дзядзькі Колі». Вызвалена 29.6.1944 г. У 1960 г. 100 жыхароў. У 1988 г. 18 гаспадарак, 29 жыхароў. Адзіная прамалінейная амаль мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Каля вёскі размешчана Завідзенскае радовішча глін (разведаныя запасы 1,67 млн. $м^2$).

**ЗАВОСІНА** — былая вёска ў Хаўхоліцкім с/с, за 35 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Хаўхоліца— Барысаў.



Вядома з 19 ст. як маёнтак. У 1885 г. фальварак Зосін, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 5 двароў, 46 жыхароў, у 1917 г. 8 двароў, 54 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. З 20.8.1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Кішчынаслабодскім, з 17.8.1963 г. зноў у Хаўхоліцкім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 78 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак, працавалі лесапільня і кузня. У 1940 г. 17 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. гітлераўцы спалілі 15 двароў. загубілі 15 жыхароў. Пасля вызвалення адбудавана. У 1960 г. 44 жыхары. У 1988 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ЗАГАЦЕЦ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 33 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў. 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць побач з вёскай. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 15 жыхароў мужчынскага полу, у Янчынскай вол. У 1897 г. 9 двароў, 89 жыхароў, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 82 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8. 1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 57 жыхароў. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Адзіная кароткая вуліца арыентавана амаль шыротна, перпендыкулярна да шашы і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 56 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 127 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і Пн цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны штучны вадаём, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 17 гаспадарак, 38 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1799 г. вёска, 9 двароў, 57 жыхароў, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце Мінскай губ. З 1814 г. дзейнічала карчма. У 1868 г. адкрыта земская школа, для якой у 1896 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. в. Загор'е (яна ж Загорнае), 13 двароў, 54 жыхары, у Плешчаніцкай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1918 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. На базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. вучыліся 47 хлопчы-





каў і дзяўчынак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», працавала кузня. У 1940 г. 30 двароў, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1944 г., у час блакады партыз. злучэнняў, карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 12 жыхароў. Пасля вызвалення адбудавана. У 1960 г. 124 жыхары. У 1988 г. 25 гаспадарак, 42 жыхары. Гал. вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Да яе на Пн далучаецца плаўна выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Хаўхоліца, якая праходзіць праз вёску. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 222 жыхары. У 1988 г. 47 гаспадарак, 100 жыхароў. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і з'яўляецца працягам шашы. Другая вуліца праходзіць паралельна да шашы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Барысава, 4 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На У і Пд цячэ р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Мінск. 52 гаспадаркі, 96 жыхароў (2008).

У 1870 г. маёнтак П.Свіды, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска, 11 двароў, 87 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 40 двароў, 239 жыхароў, у аднайменным фальварку 2 двары, 24 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. ў вёсцы 52 двары, 266 жыхароў, на аднайменным хутары 3 двары, 18 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барэц», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 вяскоўцаў. Вызвалена 2.7.1944 г. 25-й гв. танкавай брыгадай 2-га гв. танкавага корпуса. У 1960 г. 314 жыхароў. У 1988 г. 82 гаспадаркі, 244 жыхары. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, трасіраваную з ПдЗ на ПнУ уздоўж берага ракі і забудаваную з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАМОШША** — вёска ў Іканскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 26 гаспадарак, 53 жыхары (2008).

Вядома з пач. 18 ст. У 1721 г. маёнтак, уладанне Віленскага каталіцкага капітула ў ВКЛ. Пад 1781 г. упамінаецца ў матэрыялах разгляду справы аб парушэннях сялянамі с. Замошша меж з с. Мсціж. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні С.Свіды. У 1897 г. вёска (28 двароў, 180 жыхароў, магазін, царква) і маёнтак (44 жыхары), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 47 двароў, 270 жыхароў, у маёнтку 16 жыхароў. У лют.— снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай герм. войскамі, у жн. 1919 г.— ліп. 1920 г. —



польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют.— у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1921 г. пачалі дзейнічаць б-ка і хата-чытальня, на месцы былога маёнтка быў арганізаваны саўгас «Чырвоны араты», які ў 1924 г. меў звыш 480 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. ў Ганцавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Плешчаніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Іканскім с/с Бягомльскага, з 20.1.1960 г. Барысаўскага р-наў. У 1924 г. ў вёсцы 53 двары, 281 жыхар. У выніку пажару ў студз. 1925 г. згарэла 10 пабудоў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала меліярацыйнае т-ва. У 1940 г. 60 двароў, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. настаўнік Я.Я.Жукоўскі арганізаваў партыз. атрад. Падп. група, якая дзейнічала ў вёсцы, трымала пастаянную сувязь з партызанамі. У маі 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 118 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. На вясковых могілках пахаваны 54 воіны, а таксама партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. Сярод пахаваных — камандзір партыз. атрада імя Чапаева Я.Я.Жукоўскі, нач. штаба А.В. Каралёў, начальнік разведкі брыгады «Дзядзькі Колі» М.І.Літмановіч. У 1960 г. 193 жыхары. У 1988 г. 44 гаспадаркі, 80 жыхароў. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе на Пн перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На папярочнай вуліцы ўзведзена 6 мураваных аднапавярховых аднакватэрных дамоў. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАМУЖАННЕ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 20 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лошніца і далей па шашы Барысаў—Орша. 26 гаспадарак, 63 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 16 двароў, 92 жыхары, ва ўладанні кн. М.Радзівіла і Лошніцкай царквы. У 1897 г. вёска (18 двароў, 134 жыхары) і аднайменны хутар (8 двароў, 76 жыхароў, вадзяны млын) у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 24 двары, 172 жыхары, на хутары 7 двароў, 66 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Вяліканегнавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 47 двароў, 254 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, працавалі вадзяны млын і кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 242 жыхары. З 17.8.1963 г. ў Лошніцкім с/с. У 1988 г. 60 гаспадарак, 118 жыхароў. Крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі праходзіць уздоўж чыгункі і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 56 км на ПнУ ад Барысава, 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 127 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 26 жыхароў, уладанне Халопеніцкага дамініканскага касцёла. У 1897 г.

6 двароў, 32 жыхары, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 10 двароў, 67 жыхароў. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Па перапісу 1926 г. 12 двароў, 56 жыхароў. У 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвонае Запруддзе», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі ў вёсцы дзейнічала падп. арг-цыя. Падпольшчыкі перадалі партызанам 2 кулямёты, каля 20 вінтовак, шмат патронаў, медыкаменты, паперу, трымалі сувязь з падп. арг-цыяй у Халопенічах, арганізавалі пераход да партызан гал. ўрача райбальніцы В.Ф.Дробата і 2 медсясцёр. Вясной 1944 г. кіраўнік падпольшчыкаў П.Апет трапіў у варожую засаду, быў схоплены гітлераўцамі і закатаваны. У вёсцы дзейнічала таксама падп. маладзёжная арг-цыя, якая вяла разведку сіл праціўніка, распаўсюджвала лістоўкі і газеты, выконвала даручэнні партызан. У 1960 г. 54 жыхары. У 1988 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары. Адзіная плаўна выгнутая вуліца амаль шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРОСЛАЕ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Барысава, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На ПнУ пачынаецца р. Мужанка (левы прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска Зарослія, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 2 двары, 18 жыхароў, уладанне Барысаўскага касцёла. У 1897 г. 11 двароў, 77 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 120 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 21 двор, 114 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Осовиахим» (цэнтр — в. Ранное). У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 122 жыхары. У 1988 г. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў. Адзіная плаўна выгнутая вуліца арыентавана шыротна. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ЗАРУЧЧА** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 26 км на Пд ад Барысава, 15 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 62 гаспадаркі, 99 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска, 29 жыхароў мужчынскага полу, уладанне С.Ваньковіча. У 1897 г. 23 двары, 161 жыхар, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 44 двары, 256 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. З 20.8.1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1925 г. адкрыта пач. школа (38



вучняў). Па перапісу 1926 г. 59 двароў, 322 жыхары. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвонае Заруючча». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 15 жыхароў. У 1958 г. ўзведзены новы будынак школы. У 1960 г. 517 жыхароў. У 1988 г. 106 гаспадарак, 252 жыхары. Ёсць магазін. Да гал. вуліцы шыротнай арыентацыі на Пд далучаецца пад вуглом другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне вёскі.

**ЗАРЭМБЫ** — вёска ў Іканскім с/с, за 49 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнёвая і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 27 гаспадарак, 35 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1776 г. вёска Зарэмбаўшчызна, уладанне Валадковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 7 двароў, 44 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыцы Б.Базытмельскай. У 1897 г. 27 двароў, 174 жыхары, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 26 двароў, 191 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Гарэлалугскім с/с (з 21.8.1925 г. Іканскі) Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 20.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Бягомльскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1924 г. 26 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. Зімой 1943—1944 г. ў вёсцы і паблізу базіравалася брыгада «Дзядзькі Колі». У 1988 г. 46 гаспадарак, 86 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 61 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 132 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Вароўскага і далей па шашы Барысаў—Бягомль. 27 гаспадарак, 65 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1778 г. вёска, 2 двары, 15 жыхароў, уладанне В.Валадкевіча ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 двароў, 64 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыкаў І. і А. Слізеняў, дзейнічала вінакурня. У 1897 г. вёска (40 двароў, 295 жыхароў) і засценак (4 двары, 34 жыхары), у Восаўскай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 64 двары, 422 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі; у жн. 1919 г. — чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1926 г. 78 двароў, 364 жыхары. У 1940 г. 67 двароў, 335 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску (67 двароў), загубілі 55 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 278 жыхароў. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 113

жыхароў. Адзіная плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Забудавана двухбакова, шчыльна. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАСЦЕНАК** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 21 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Рова (прыток р. Бярэзіна), на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па дарозе Барысаў—Забашавічы праз в. Слабодка. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядома з 17 ст. У 1681 г. вёска, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1778 г. ва ўладанні В.Валадкевіча, у 1799 г. 5 двароў, уладанне І.Ратынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, у лют.— у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 1920-х г. вёска інтэнсіўна расла гал. чынам за кошт перасяленцаў з суседніх хутароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 146 жыхароў. У 1988 г. 32 гаспадаркі. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе на З далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЗАЧЫСЦЕ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 30 км на ПнУ ад Барысава, 18 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ ручай (прыток р. Сха), на Пн — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 199 гаспадарак, 531 жыхар (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, уласнасць казны, у Замкаўскай вол. Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 28 двароў, 275 жыхароў, драўляная капліца, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1854 г. пабудавана на сродкі кн. Л.Радзівіла драўляная Свята-Мікалаеўская царква. У 1863 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 26 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1897 г. 86 двароў, 577 жыхароў, цэнтр воласці. У 1917 г. 100 двароў, 646 жыхароў. Працавалі млын, кузня і лесапільня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З ліп. 1920 г. дзейнічалі хата-чытальня, пракатная станцыя, тэатральна-драматычны гурток, пераўтвораны затым у аматарскі нар. тэатр, які ставіў спектаклі не толькі для сваіх вяскоўцаў, але і выязджаў у вёскі Белае, Баравіцкія Пруды, на хутары Лабачыха і Хацюхова. 7-гадовая школа ў 1923 г. (78 вучняў). У сяле дзейнічалі ветэрынарны пункт, лесапільня, чайная, лаўка. З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 118 двароў, 687 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 73 гаспадаркі, працавалі паравы млын, лесапільня, ваўначоска, кузня, сукнавальня. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. група. Гітлераўцы загубілі 4 жыхароў і 25 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На вясковых могілках пахавана 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. Сярод пахаваных — 1-ы сакратар Барысаўскага падп. РК КП(б)Б І.А.Яраш, які загінуў 26.2.1942 г. ў баі каля в. Крынічкі. У цэнтры вёскі, у скверы, узведзены ў 1967 г. помнік у гонар 192 землякоў,



які загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1950 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У гэтай школе вучыўся лётчык-касманаўт У.В.Кавалёнак. У 1988 г. 192 гаспадаркі, 479 жыхароў. Працуе СПК «Боркі-Агра».

У вёсцы размешчаны сярэдняя школа (14 настаўнікаў, музей двойчы Героя Сав. Саюза лётчыка-касманаўта У.В. Кавалёнка), фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. У 1960 г. 613 жыхароў. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1979 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы і прадугледжвае далейшае развіццё гіст. складзенай прамавугольнай планіровачнай структуры ва ўсх. напрамку, а таксама забудову цэнтр. часткі вёскі. Ролю кампазіцыйнай восі выконвае гал. вуліца, якая з'яўляецца працягам дарогі і арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Яе перпендыкулярна перасякаюць 2 працяглыя паралельныя паміж сабой вуліцы. Прамавугольную структуру дапаўняюць на Пд кароткія вуліцы, арыентаваныя паралельна і перпендыкулярна да гал. Уздоўж гал. вуліцы ў зах. частцы, а таксама ў цэнтры вёскі, каля мемарыяльнага сквера, размешчаны грамадскія будынкі. Тут жа ўзведзены двухпавярховыя 8-кватэрныя і 16-кватэрны мураваныя дамы. На З пабудаваны двухпавярховыя аднакватэрныя мураваныя дамы тыпу катэджаў. Аднак асноўны жылы фонд складаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗВЯНЯТКІ** — былая вёска ў Іканскім с/с, за 44 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 115 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У цячэ р. Сасна (прыток р. Мрай). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Бягомль.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 11.1.1968 г. ў Іканскім с/с Барысаўскага р-на. У 1926 г. 33 двары, 89 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Новае Сяло ўступілі ў калгас «Пралетарская Перамога», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак. У 1940 г. 30 двароў, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 16 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1960 г. 71 жыхар. У 1988 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары.

**ЗВЯНЯТЫ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Хаўхоліца, якая праходзіць побач з вёскай. 40 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Дзвіняты, 4 двары, 37 жыхароў, шляхецкая ўласнасць у Барысаўскім павеце. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Кукевіча. На пач. 20 ст. хутар і маёнтак, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У маёнтку ў 1902 г. быў засн. вінакурны з-д (закрыты ў 1915 г.). У 1917 г. на хутары 3 двары, 18 жыхароў, у маёнтку 98 жыхароў. Памешчыцкія землі былі раздзелены паміж беднымі сялянамі вёсак Звяняты, Крычына, Рагатка. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 20.8.1938 г. Мінскай вобл., з 28.7.1954 г. ў Бытчанскім, з 17.8.1963 г. ў Кішчынаслабодскім, з





16.7.1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. Па перапісу 1926 г. 19 двароў, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У першыя месяцы акупацыі ў вёсцы была створана падп. маладзёжная арг-цыя, якая ў пач. 1943 г. налічвала каля 20 чалавек. Падпольшчыкі падтрымлівалі сувязь з партызанамі, збіралі і перадавалі партызанам найбольш каштоўныя звесткі аб гітлераўцах. У 1960 г. 320 жыхароў. У 1988 г. 71 гаспадарка, 134 жыхары. Аснову пларовачнай структуры складае прамалінейная, на Пд — крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Яе перакрыжоўваюць 2 кароткія крывалінейныя вуліцы. Забудова пераважна двухбаковая, месцамі няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнУ.

**ЗЕМБІН** — вёска, цэнтр сельсавета, за 28 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З, Пн і ПнУ цячэ р. Зембінка (прыток р. Гайна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашэйных дарогах Барысаў—Плешчаніцы і Лагойск—Бягомль, якія праходзяць праз вёску. 292 гаспадаркі, 736 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. Пазначана на польскай карце 16 ст. як вёска Забін. Належала Кішкам. З 1563 г. ў Барысаўскім старостве ВКЛ. У 17 ст. Зембін належаў Саковічам, затым Храптовічам. У 1526 г. побач быў аднайменны маёнтак М.П. Радзівіла. У 1592 г. ў рукапісах значыцца як вёска Зебін. З сярэдзіны 17 ст. дзейнічалі касцёл (драўляны) і кляштар дамініканцаў, пры якім было вучылішча. У 1721 г. мястэчка, 17 сямей, карчма, 2 вадзяныя млыны і побач маёнтак Віленскага каталіцкага капітула, у якім былі двор з жылымі і гасп. пабудовамі, пасека, вадзяны млын, бровар. У 1777 г. 38 двароў, цэнтр ключа ў графстве Халопенічы, уладальнік Л.Храптовіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 52 двары, 288 жыхароў, касцёл і драўляная царква Св. Тройцы, 2 разы ў год (у ліп. і вер.) праводзіліся кірмашы, працаваў вадзяны млын. Побач за р. Зембінка быў гаспадарскі фальварак. У Зембін прыязджалі гандляры з многіх гарадоў. У 1809 г. пабудаваны з цэглы касцёл дамініканскага кляштара (засн. ў 1640 г. і закрыты ў 1833 г.), які з'яўляецца помнікам архітэктуры перыяду пераходу ад барока да класіцызму. У 1811 г. на месцы згарэлай памешчыкам Ф.Сержпутоўскім пабудавана новая драўляная царква. 30.6.1812 г. занята французамі. Па некаторых звестках, у ліст. 1812 г. пасля няўдалай пераправы цераз р. Бярэзіну і фактычнай страты сваёй арміі ў мястэчку правёў ноч імператар Напалеон. У 1-й пал. 19 ст. мястэчка ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 44 хлопчыкі і 11 дзяўчынак. У 1865 г. мястэчка, цэнтр воласці ў Барысаўскім павеце, дзейнічалі царква, касцёл, малітоўная школа. У канцы 19 ст. пабудавана трохзрубная царква, якая з'яўляецца помнікам рэтраспектыўнага стылю. У 1897 г. ў мястэчку 164 двары, 1361 жыхар, вадзяны млын, 4 кузні, школа, 23 лаўкі, 3 карчмы, 5 заезных дамоў, царква, касцёл, 2 малітоўныя школы, у маёнтку 19 жыхароў. У 1912 г. пачало дзейнічаць паштова-тэлегр. аддз. У 1917 г. ў мястэчку 154 двары, 1244 жыхары, у маёнтку 68 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. — войскамі Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У Зембін было эвакуіравана 1-е Пінскае вышэйшае пач. вучылішча, якое ў 1920 г. было пераўтворана ў прац. школу 2-й ступені. У 1923 г. ў школе было 505 вучняў, размяшчала-



ся яна ў нацыяналізаваным памяшканні, а малодшыя групы займалі будынак былога Зембінскага нар. вучылішча, якія пабудаваны ў 1866 г. на грамадскія сродкі. Каля школы быў вялікі сад, аб'яўлены пастановай Саўнаркома БССР ад 5.7. 1926 г. помнікам прыроды. Працавалі лясніцтва, 2 маслабойні, 3 кузні, ваўначоска, 2 ганчарныя і майстэрня па апрацоўцы скур. 30.1.1922 г. ў маёнтку арганізавана с.-г. арцель «Чырвоны Араты», якая мела 45 дзес. ворыўнай зямлі, 20 дзес. лугу. У 1921 г. адкрыты клуб і хата-чытальня, дзейнічалі драм. гурток, ветэрынарны пункт. 29.4.1924 г. засн. крэдытнае с.-г. т-ва «Араты» (56 пайшчыкаў). З 20.8.1924 г. мястэчка — цэнтр Зембінскага р-на і сельсавета Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 141 двор, 1199 жыхароў. Непадалёку знаходзіўся пасёлак Зембін (12 двароў, 85 жыхароў). Дзейнічалі паштова-тэлегр. аддз., лясніцтва, страхавы ўчастак, амбулаторыя, ветэрынарны пункт, с.-г. крэдытнае т-ва, 7-гадовая школа, яўрэйская пач. школа, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, нар. дом, швейная і шавецкая майстэрні, 5 кузняў, 24 лаўкі (21 з іх прыватная), 3 скураныя і прыватная шавецкая майстэрні, паравы млын, аптэка, 2 заезныя дамы, цырульня, 2 хлебапякарні, 2 маслабойні, ваўначоска, 2 сталярныя майстэрні, камбінат грамадскай узаемадапамогі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Змена», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 71 гаспадарку. У 1940 г. ў калгасе было 800 га зямлі, з іх 485 ворыўнай, абслугоўваўся ён Барысаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы размясцілі тут свой гарнізон. Партызаны брыгады «Дзядзькі Колі» сумесна з брыгадай імя Кірава ў снеж. 1942 г. напалі на гарнізон, разграмілі валасное праўленне, спалілі гараж, 7 аўтамабіляў, 3 склады з палівам, збожжам і солю, 2 кулямёты, аўтамат, знішчылі шмат гітлераўцаў. У баі загінулі 12 партызан і 6 былі паранены. У 1943 г. гарнізон быў атакаваны партызанамі 1-й антыфаш. брыгады, брыгад «Смерць фашызму», «Дзядзькі Колі». На вясковых могілках пахаваны 14 партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. Тут жа ў другой магіле пахаваны 2 воіны і партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. За 0,8 км ад вёскі знаходзіцца магіла 927 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі 17.7.1941 г. У цэнтры вёскі ў 1966 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 118 земляках — воінах і партызанах, а таксама 672 мірных жыхарах — дарослых і 255 дзецях, закатаваных акупантамі ў 1941— 44 гг. У 1960 г. 1056 жыхароў. У вёсцы размешчаны СВК «Зембінскі», сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, бальніца, лясніцтва, аптэка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 4 магазіны. Руіны касцёла Унебаўзяцця Дзевы Марыі (1798—1808). Генплан вёскі распрацаваны ў 1977 г.



*Руіны касцёла Унебаўзяцця Дзевы Марыі.*

Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца ў цэнтр. і паўн. частках вёскі, якое падтрымлівае і працягвае гіст. складзены прамавугольны тып планіроўкі. Гал. вуліца мае блізкі да шыротнага напрамак і з'яўляецца працягам шашы Барысаў—Плешчаніцы. Да паўн. яе боку перпендыкулярна далучаецца вуліца, якая з'яўляецца працягам шашы Лагойск—Бягомль. Да паўд. боку гал. вуліцы далучаецца яшчэ адна амаль мерыдыянальная вуліца. Кварталы сфарміраваны вуліцамі, якія праходзяць перпендыкулярна і паралельна да гэтых асноўных. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы, у скверы ўзведзены Дом культуры. У жылым фондзе пераважае традыц. драўляная забудова сядзібнага тыпу. Узведзены двухпавярховыя і аднапавярховыя двухкватэрныя мураваныя дамы. На паўд.-зах. ускраіне і ў цэнтры — гасп. сектар.

У вёсцы нарадзіліся яўрэйскі паэт, член-карэспандэнт АН Беларусі І.Харык (17.3.1898—19.2.1937), юны ўдзельнік Каладзішчанскага антыфаш. падполля ў Вял. Айч. вайну Г.П.Сасункевіч (20.1.1931 г. — крас. 1944 г.), закатаваны гітлераўцамі.

**ЗОРКА** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 17 км на У ад Барысава, 3 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-я г. як пасёлак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 93 жыхары. У 1988 г. 6 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка ў адну мерыдыянальную вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗОРЫЧЫ** (да 24.5.1978 г. Сморкі) — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 35 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Нача (прыток р. Бобр), праз вёску цячэ ручай (прыток р. Нача). Транспартныя сувязі па дарозе Вяляцічы—Прыяміна, якая праходзіць праз вёску і далей па шашы Барысаў—Орша. 207 гаспадарак, 469 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. сяло Сморкі, 65 двароў, 644 жыхары, цэнтр маёнтка, драўляная царква Успення Багародзіцы, вадзяны млын і побач гаспадарскі двор, уласнасць казны, цэнтр Сморкаўскага староства ў Барысаўскім павеце. У вайну 1812 г. вёска разрабавана французамі, а царква спалена. У 1816 г. сяло пажалавана на 12 год стацкаму саветніку Ярцаву. У 1842 г. пабудавана драўляная Успенская царква. У 1865 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча, з 1912 г. двухкласнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 45 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1897 г. 144 двары, 1104 жыхары, школа, царква, магазін, піцейны дом, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У канцы 19 — пач. 20 ст. пабудавана царква, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У 1903 г. для двухкласнай школы пабудаваны ўласны будынак. У 1917 г. 194 двары, 1284 жыхары. Працавала кузня. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. У час польска-савецкай вайны са студз. да мая 1920 г. па лініі Барысаў—Вялікія Нягневічы—Сморкі праходзіла лінія фронту. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. Былая міністэрская школа ў 1920 г. пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1924 г. вучыліся 158 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 1921 г. працавала крама. З 20.8.1924 г. ў Вяляціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г.





*Зорыцкая Успенская царква.*

Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 257 двароў, 1291 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Усход», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 93 гаспадаркі, працавалі смалакурны з-д, сталярная майстэрня, кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся гітлераўскі гарнізон, склады боепрыпасаў, фуражу, штаб батальёна. З восені 1942 г. дзейнічала падп. маладзёжная арг-цыя (кіраўнік — настаўнік мясц. школы М.Шарай). Падпольшчыкі збіралі зброю, звесткі аб размяшчэнні гітлераўцаў, сачылі за рухам варожых цягнікоў, распаўсюджвалі лістоўкі, падтрымлівалі сувязь з партызанамі. У ноч з 16 на 17.6.1943 г. падпольшчыкі ўзарвалі склад з боепрыпасамі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941— 1944 гг. У скверы, каля клуба, узвышаецца абеліск (пастаўлены ў 1968 г.) у памяць 172 землякоў, якія загінулі ў вайну. У 1960 г. 834 жыхары. У 1988 г. 247 гаспадарак, 676 жыхароў. У вёсцы размешчаны ААТ «Барысаў Саюз-Агра», Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад, амбулаторыя, магазін. Успенская царква (1842). Асновай планіровачнай структуры з'яўляецца адрэзак дарогі Вяляцічы—Прыяміна, якая арыентавана амаль мерыдыянальна. Да яе далучаюцца і перакрыжоўваюць шыротныя вуліцы. Грамадскія будынкі — у цэнтры вёскі, пераважна ўздоўж гал. вуліцы. Жылая забудова ў асн. драўляная, сядзібнага тыпу. Новая вуліца на Пд забудавана мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. На паўд.- зах. і паўн.-ўсх. ускраінах — вытв. сектар.

Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы Ф.В.Юданава (1915—85).

**ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАВА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 25 км на У ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 28 жыхароў, уласнасць казны, у пажыццёвым валоданні І.Тышкевіча, у Вяляціцкім старостве Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 14 двароў, 110 жыхароў, у 1917 г. 20 двароў, 126 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. — у БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 25 двароў, 146 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Рой» (цэнтр — в. Селішча). У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 6 вяскоўцаў і 11 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 135 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 мерыдыянальных вуліц, трасіраваных уздоўж берага ракі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Ф.В.Юданаў.*

**ІВАНКАЎШЧЫНА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 56 км на ПнУ ад Барысава, 44 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 127 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей





па шашы Барысаў— Маісееўшчына. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома з пач. 18 ст. У 1714 г. вёска, 10 двароў, уладанне М.Друцкага-Горскага ў ВКЛ. У 1777 г. сяло Іванькаўшчызна, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1797) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 5 двароў, 50 жыхароў. У 1897 г. 15 двароў, 115 жыхароў, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 26 двароў, 174 жыхары. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1919 г. да жн. 1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым — у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. зноў Халопеніцкага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 18.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 20 двароў, 189 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Колас», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 139 жыхароў. У 1988 г. — 26 гаспадарак, 55 жыхароў. Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Аснову планіроўкі складае плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана ў цэнтры з двух бакоў, у зах. частцы — з паўд., ва ўсх. — з паўн. боку. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ІЗОБКА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 8 км на У ад Барысава, 3 км ад чыг. ст. Навасады, на лініі Мінск—Орша, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар, 4 двары, 28 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 52 жыхары. У 1988 г. 9 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіроўка ў адну амаль мерыдыянальную вуліцу, забудаваную з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІКАНЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 43 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны вадаём. На ПнУ і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Лагойск—Бягомль, якая праходзіць праз вёску. 169 гаспадарак, 427 жыхароў (2008).

За 3 км на Пн ад вёскі ва ўрочышчы Турыя Горы захаваўся курганны могільнік (70 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 5 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 8 двароў, 62 жыхары. У 1897 г. 27 двароў, 163 жыхары, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 28 двароў, 172 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Гарэлалугскім с/с, з 21.8.



1925 г. — цэнтр сельсавета Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Бягомльскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1926 г. 29 двароў, 175 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны садавод». У 1931 г. Іканскі с/с і калгас былі тэлефанізаваны. У 1940 г. 65 двароў, 656 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. 28.5.1943 г. ў час блакады гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 550 жыхароў, якія пахаваны на вясковых могілках разам з загубленымі жыхарамі в. Гарэлы Луг (усяго 576 чалавек). 20.12.1942 г. партызаны брыгады «Жалязняк» (камандзір І.П.Ціткоў) вызвалілі г.п. Бягомль, устанавілі кантроль на тэр. былога Бягомльскага і паўн. часткі Барысаўскага р-наў (пл. 2250 км$^2$). Тут дыслацыраваліся і дзейнічалі партыз. брыгады «Жалязняк», «Народныя мсціўцы», імя Варанянскага, «Дзядзькі Колі», «Штурмавая», «Смерць фашызму», імя Кірава, 1-я Антыфашысцкая, а таксама асобныя атрады (усяго каля 14 тыс. партызан). Гітлераўцы неаднаразова праводзілі карныя аперацыі (май—чэрвень 1943 г., вясна 1944 г.), аднак захапіць зону не ўдалося. Партызаны ўтрымлівалі яе да злучэння з Чырвонай Арміяй (28.6.1944 г.). У 1967 г. ў цэнтры вёскі ў гонар партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны ўстаноўлены помнік — скульптура партызана. У вёсцы адкрыты музей народнай Славы. Побач з музеем пастаўлены помнік 141 земляку, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Тут жа пасаджаны Парк Герояў (каля 700 дрэў розных парод). У 1970 г. музею прысвоена званне народнага. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1961 г. далучана в. Пустамсціж. У 1960 г. 115 жыхароў. У 1988 г. 135 гаспадарак, 353 жыхароў.

У вёсцы размешчаны СВК «Замошша», пажарны пункт МЧС, лясніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Генплан вёскі распрацаваны ў 1977 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца ўздоўж шашы і ў паўд. напрамку і працягвае гіст. складзены тып планіроўкі. Кампазіцыйнай воссю з'яўляецца шаша, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ, на Пд праходзіць у мерыдыянальным напрамку. Да зах. боку гал. далучаюцца 2 папярочныя вуліцы. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На Пд вёскі пабудаваны аднапавярховыя мураваныя жылыя дамы, а таксама двухпавярховы 16-кватэрны дом. На ПдЗ і З — вытв. сектар.

Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы, заслужанага механізатара Беларусі К.М.Дубоўскага.

**КАЗЛОЎКА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 16 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Забашавічы, з якой вёска звязана мясц. дарогай. 4 гаспадаркі, 12 жыхароў (2008).

Узнікла ў 1920-я г. як хутар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 60 жыхароў. У 1988 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Барысава, 110 км ад Мінска, 11 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).





У 1885 г. засценак, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. хутар казённага ведамства, 7 двароў, 52 жыхары, у 1917 г. вёска (19 двароў, 130 жыхароў) і хутар (8 двароў, 56 жыхароў). З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1918 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. — у БССР. 5.12.1919 г. адкрыта школа, у якой у 1920 г. было 32 вучні. З 20.8.1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. ў вёсцы 25 двароў, 143 жыхары, у засценку 11 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенны час былі вёскі Казлы 1 і Казлы 2 (былы засценак), якія ў 1976 г. аб'ядналіся ў адну вёску Казлы. У 1988 г. 23 гаспадаркі, 49 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЙТАНАВА** — вёска ў Іканскім с/с, за 43 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 115 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Лагойск—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. тут быў маёнтак Каетанава (1 двор, 6 жыхароў, кузня), уваходзіў у Мсціжскую вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. З 20.8.1924 г. ў Гарэлалугскім с/с (з 21.8. 1925 г. перайменаваны ў Іканскі) Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9. 1927 г. Бягомльскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1924 г. 28 двароў, 156 жыхароў. Па с.-г. перапісу 1926 г. гэты населены пункт складалі 5 пасёлкаў, кожны з якіх меў свой нумар. У 1940 г. 13 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (13 двароў) і загубілі 15 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 80 жыхароў. У 1988 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца арыентавана шыротна, перпендыкулярна да шашы. Да яе паўд. боку перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — былы пасёлак у Чарневіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на З мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары.

**КАМЕНКА** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Барысава, 20 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Чэрнеўка. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. пасёлак, 4 двары, 37 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, у лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с



Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 10 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 2 жыхароў. У 1960 г. 33 жыхары. У 1988 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. Кароткая шыротная вуліца з'яўляецца працягам мясц. дарогі. Забудова двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Зембінка (прыток р. Гайна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Плешчаніцы. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1781 г. засценак, 2 двары, ва ўладанні графа І.Храптовіча ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 28 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. У 1897 г. вёска (9 двароў, 37 жыхароў), фальварак (1 двор, 13 жыхароў) і хутар (2 двары, 14 жыхароў), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 13 двароў, 80 жыхароў, у фальварку 1 двор, 11 жыхароў, на хутары 1 двор, 10 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрвеня 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. З 1920 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучаліся 70 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 16 двароў, 86 жыхароў, на хутары 2 двары, 16 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Каменка», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 29.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 97 жыхароў. У 1988 г. 27 гаспадарак, 43 жыхары. Дзве крывалінейныя вуліцы арыентаваны амаль шыротна, уздоўж берага ракі і звязаны паміж сабой дарогай. Забудова шчыльная, пераважна двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КАМЕНКА** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 34 км на У ад Барысава, 6 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па дарозе Вяляцічы—Прыяміна, якая праходзіць паблізу вёскі і далей па шашы Барысаў—Орша. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. засценак у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1908 г. пасёлак, 4 двары, 37 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Вяляціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 37 двароў, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 99 жыхароў. У 1988 г. 19 гаспадарак, 43 жыхары. Планіроўка ў адну вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАПАЧОЎКА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 53 км на ПнУ ад Барысава, 34 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Халопенічы. 50 гаспадарак, 103 жыхары (2008).





Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 15 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце. У 1800 г. 24 двары, 129 жыхароў. У 1897 г. 62 двары, 396 жыхароў, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 63 двары, 488 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Па перапісу 1926 г. 75 двароў, 372 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 241 жыхар. У 1988 г. 64 гаспадаркі, 174 жыхары. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана шчыльна, пераважна двухбакова, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КАРМА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 30 км на У ад Барысава, 17 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Вяляцічы, якая праходзіць праз вёску. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У 1870 г. вёска, 19 жыхароў мужчынскага полу, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 22 двары, 176 жыхароў, у 1917 г. 35 двароў, 192 жыхары. Працавала скураапрацоўчая майстэрня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Вяляціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 40 двароў, 187 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Карма». У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 вяскоўцаў і 3 жыхары вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. З 21.5.1951 г. ў Мётчанскім с/с. У 1960 г. 175 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 47 жыхароў. Гал. вуліца з'яўляецца адрэзкам шашы і арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Да яе паўн. боку далучаюцца 2 папярочныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРНОШКАЎ ЗАСЦЕНАК** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 37 км на ПнУ ад Барысава, 25 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, да якой ад вёскі ідзе мясцовая дарога. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. засценак, 11 двароў, 65 жыхароў. З 1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 136 жыхароў. У 1988 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна ўяўляе амаль шыротную вуліцу, забудаваную двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРСАКАВІЧЫ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Барысаў, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны р. Бярэ-



зіна праз заліў Лісінскі. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 124 гаспадаркі, 275 жыхароў (2008).

За 0,3 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Замак, захавалася гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. Пад 1635 г. упамінаецца ў матэрыялах аб размежаванні маёнткаў Карсакавічы і Скуплін з сёламі маёнтка Зембін. У 1719 г. пабудавана драўляная царква Пакрова Багародзіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце. У 1800 г. 36 двароў, 113 жыхароў, цэнтр воласці, уладанне Карсакавіцкай царквы і шляхціца К.Радзевіча. У 1865 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 36 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1897 г. 65 двароў, 432 жыхары, школа, магазін, карчма, царква, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. вёскі Карсакавічы (34 двары, 215 жыхароў), Карсакавічы 1 (42 двары, 260 жыхароў), Карсакавічы 2 (2 двары, 13 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У час польскай акупацыі настаўнік Бараўлянскай школы Р.Сідарэнка арганізаваў партыз. атрад, у які ўваходзілі жыхары вёсак Бараўляны, Карсакавічы, Лісіно. Побач з вёскай 6.8.1920 г. быў арганізаваны саўгас «Казімірава» (183 дзес. зямлі). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Зембінскім с/с. Па перапісу 1926 г. быў населены пункт, 104 двары, 473 жыхары. Карсакавіцкая прац. школа 1-й ступені з-за адсутнасці памяшкання размяшчалася ў в. Ступліно ў наёмным памяшканні. У 1929 г. створана 7-гадовая школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», у якім у 1931 г. аб'ядноўвалася 14 гаспадарак. У ліп 1934 г. вёску і калгас наведаў нар. паэт Беларусі Я.Купала, які 10.7.1934 г. ўдзельнічаў ва ўрачыстасцях, прысвечаных 14-й гадавіне вызвалення Беларусі ад польскіх акупантаў, прачытаў урывак са сваёй паэмы «Барысаў». Пра развіццё Карсакавіч у сав. час ён пісаў у артыкуле «Самі напаўняемся вялікай радасцю». Пад уплывам гэтай паездкі на Барысаўшчыну паэт напісаў вершы «На нашым полі», «Я калгасніца». У 1940 г. 113 двароў, 557 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў межах Барысаўскай-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1942 г. гітлераўцы спалілі 109 двароў, загубілі 30 жыхароў. У кастр. 1943 г. жыхары вёсак Карсакавічы, Паляны, Скуплін склалі рэзервную роту партыз. атрада «За Савецкую Беларусь» брыгады «Дзядзькі Колі». На вясковых могілках пахаваны 3 партызаны, якія загінулі 28.5.1943 г. Гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 49 вяскоўцаў. У 1966 г. ў цэнтры вёскі, каля школы, на ўшанаванне 155 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. Для школы ў ліп. 1945 г. ўзведзены двухпавярховы будынак.

У вёсцы размешчаны с.-г. цэх РУП «Барысаўскі завод медыцынскіх прэпаратаў», фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка, грамадская лазня, аддз. сувязі, магазін. У 1960 г. 350 жыхароў. Генплан вёскі распрацаваны ў 1976 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Да гал. плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай

арыентацыі з усх. боку далучаюцца 2 папярочныя вуліцы. 2 новыя вуліцы праходзяць паралельна да гал., па абодва яе бакі. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы. Забудова традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. Новыя вуліцы забудоўваюцца мураванымі аднапавярховымі дамамі. Узведзены таксама двухпавярховыя дамы. На ПнУ і на У — грамадскі сектар.

**КАРШАВІЦА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 50 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, у цэнтры — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2008).

За 1,5 км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік (100 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. У 1879 г. вёска, 116 жыхароў мужчынскага полу, у Красналуцкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 65 двароў, 369 жыхароў, у 1917 г. 73 двары, 429 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.9.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Жартайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Па перапісу 1926 г. 71 двор, 404 жыхары, дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У 1931 г. арганізаваны калгас «Рассвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 сялянскіх гаспадарак, працавала кузня. У 1940 г. 80 двароў, 400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 224 жыхары. У 1988 г. 42 гаспадаркі, 81 жыхар. Адзіная крывалінейная вуліца арыентавана амаль шыротна і забудавана нячшчыльна, пераважна з паўн. боку жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар .

**КАСТРЫЦА** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 18 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Куранка (прыток р. Сха), на ПдУ мяжуе з лесам. З меліярацыйнага канала, што за 2 км на У ад вёскі, пачынаецца р. Сха (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць праз вёску. 127 гаспадарак, 301 жыхар (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, 6 дымоў, уласнасць казны, у Замкавай вол. Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 41 двор, 395 жыхароў, драўляная капліца, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 110 двароў, 667 жыхароў, магазін, царква, у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 136 двароў, 848 жыхароў. Працавала смалакурня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. на базе ранейшай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 108 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.8.1938 г. Мінскай вобл. Па перапісу 1926 г. 140 двароў, 714 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зара сацыялізму», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач.



ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі 25.8.1941 г. партыз. атрад, якім камандаваў 1-ы сакратар Барысаўскага райкома КП(б)Б І.А.Яраш, знішчыў 5 варожых аўтамашын і вял. колькасць гітлераўцаў. Акупанты загубілі 8 вяскоўцаў і 17 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. Пасля вызвалення вяскоўцы арганізавалі 2 баявыя групы (17 чалавек), якія ўзялі ў палон прыблізна 130 ням. салдат і афіцэраў, апынуўшыхся ў акружэнні, і перадалі іх Чырвонай Арміі. На вясковых могілках пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. пры вызваленні раёна ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1970 г. пастаўлены помнік у гонар 263 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 683 жыхары. У 1988 г. 169 гаспадарак, 410 жыхароў.

У вёсцы размешчаны ф-л Барысаўскага завода «Аўтагідраўзмацняльнік», фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, магазін, аддз. сувязі. Планіровачная структура арганізавана 2 вуліцамі, арыентаванымі з ПдЗ на ПнУ па абодва берагі ракі. Гал. вуліца праходзіць уздоўж шашы і на Пн змяняе кірунак у напрамку, блізкім да мерыдыянальнага. На У да яе перпендыкулярна далучаюцца 2 паралельныя паміж сабой кароткія вуліцы. Асноўная частка грамадскіх будынкаў размешчана на ПнУ, на скрыжаванні шашы з мясц. дарогай, а таксама на гал. вуліцы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Частку забудовы складаюць аднапавярховыя дамы. На паўн. і ўсх. ускраінах — гасп. сектар.

**КАСЦЮКІ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Плешчаніцы, якая праходзіць побач з вёскай. 121 гаспадарка, 324 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1748 г. вёска, 20 двароў, 65 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1777 г. 23 двары, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 29 двароў, 163 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. На могілках дзейнічала драўляная царква. У 1917 г. сяло (68 двароў, 446 жыхароў) і маёнтак (10 жыхароў), у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1919 г. ў БССР. У маёнтку 16.8.1921 г. арганізавана с.-г. арцель «Усход», якая мела 124 дзес. зямлі, 10 коней, 22 каровы, 12 свіней, 8 плугоў і інш. маёмасць. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 10 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай акругі, з 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета, з 9.6.1927 г. Зембінскага, з 22.9.1927 г. зноў Барысаўскага р-наў Мінскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Вялікастахаўскім, з 16.1. 1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. У 1926 г. ў в. Касцюкі 50 двароў, 235 жыхароў, у в. Касцюкі 1 — 24 двары, 121 жыхар, у в. Касцюкі 2 — 21 двор, 118 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Другая пяцігодка», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну 29.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 31.7.1941 г. гітлераўцы расстралялі 18 жыхароў вёсак Касцюкі і Крычына. 30.6.1944 г. 31-я танкавая брыгада захапіла плацдарм на правым беразе р. Бярэзіна і вызваліла вёску. На могілках пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў баях у канцы чэрв. 1944 г. 129 землякоў з вёсак калгаса імя М.І.





Кутузава загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1969 г. ў памяць аб іх у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск са скульптурамі воіна і партызана. У 1960 г. 382 жыхары. У 1988 г. 136 гаспадарак, 344 жыхары.

У вёсцы размешчаны с.-г. цэх «Барысаўскага кансервавага завода», Дом культуры, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1977 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Асновай планіровачнай структуры з'яўляецца гал. вуліца, трасіраваная з ПнЗ на ПдУ уздоўж берага ракі, перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры размешчаны грамадскія будынкі, а таксама двухпавярховы дом. Паралельна да гал. вуліцы на З праходзіць новая кароткая вуліца, забудаваная аднапавярховымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў. Частка забудовы на ПдЗ і Пн размешчана бессістэмна. На ПдЗ — гасп. сектар.

**КАСТРЫЧНІК** (да 1946 г. Клёпкі) — вёска ў Мсціжскім с/с, за 67 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 138 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць лясістая, на У цячэ р. Мажніца (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 30 жыхароў. У 1988 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў. Драўляныя дамы сядзібнага тыпу пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КІМІЯ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і Пд цячэ р. Кішкурнянка (прыток р. Гайна). Транспартныя сувязі па шашы Лагойск— Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 64 гаспадаркі, 144 жыхары (2008).

За 0,15 км на Пн ад вёскі захавалася гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло Кімеі, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 1721 г. 18 дымоў, уладанне Віленскага каталіцкага капітула. У 1777 г. 36 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. У 1781 г. в. Камій (яна ж Каменцы), 44 двары, царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1793 г. пабудавана новая драўляная Успенская царква. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 27 двароў, 132 жыхары. У 1897 г. сяло (53 двары, 350 жыхароў, магазін, царква) і маёнтак (28 жыхароў), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. пачала дзейнічаць школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў сяле 73 двары, 446 жыхароў, на хутары 4 двары, 35 жыхароў, у маёнтку 31 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе ранейшай пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 90 хлопчыкаў і дзяўчынак з вёсак Кімія, Вал і навакольных хутароў. 1.8.1920 г. ў рэквізаваным маёнтку створаны саўгас «Кімія» (пазней насіў імя Савецкай Беларусі), які меў 273 дзес. зямлі, з іх 110 ворыва, паравы млын. З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 100 двароў, 476 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарская перамога», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 27, а ў лют. 1932 г. — 42 гаспадаркі, працавала кузня. У 1940 г. 106 двароў, 385 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана



ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску (пасля вайны адбудавана), загубілі 28 жыхароў. Акупанты вывезлі 77 жыхароў з вёсак Кімія і Вал на прымусовыя работы ў Германію. У скверы, каля клуба, у памяць аб 70 земляках, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены ў 1967 г. абеліск. У 1960 г. 411 жыхароў. У 1988 г. 102 гаспадаркі, 211 жыхароў. Размешчаны клуб, пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца, арыентаваная амаль мерыдыянальна ўздоўж шашы. У цэнтры да яе далучаецца папярочная вуліца. На перакрыжаванні — грамадскі цэнтр. Тут знаходзяцца асноўныя грамадскія будынкі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На вуліцы пры ўездзе ў вёску з боку шашы ўзведзены мураваны двухпавярховы жылы дом. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка У.М.Шахаўца.

**КІШЧЫНА СЛАБАДА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 17 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Нача (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Кішчына Слабада—Барысаў. 183 гаспадаркі, 480 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1782 г. вёска Нача (яна ж Кішчына Слабада), 38 двароў, 285 жыхароў, уладанне М.Ларата ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце. У 1800 г. 66 двароў, 331 жыхар, драўляная царква і капліца, вадзяны млын, гаспадарскі двор. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыцы А.Цедзявіцкай. У 1863 г. пабудавана новая драўляная Петрапаўлаўская царква. У 1868 г. пачала працаваць школа (аднакласнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 26 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Асн. занятак насельніцтва — земляробства, а ў зімовы час многія працавалі па найме, на лесанарыхтоўках. У 1897 г. 106 двароў, 691 жыхар, цэнтр воласці, школа, магазін, піцейны дом, царква, у маёнтку, што быў побач, 15 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 148 двароў, 916 жыхароў, у маёнтку 84 жыхары. Працавалі вадзяны млын і 2 кузні. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. 2.9.1922 г. адкрыта 7-гадовая школа. З ліст. 1922 г. пры школе дзейнічалі хата-чытальня, тэатральна-драматычны гурток. У маёнтку (17.10.1921 г.) арганізавана с.-г. арцель «Чырвоная Зорка», быў створаны агранамічны і ветэрынарны ўчасткі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Па перапісу 1926 г. 180 двароў, 916 жыхароў. На аднайменным хутары, што быў непадалёку, 4 двары, 24 жыхары. У 1930 г. калгас аб'ядноўваў 15 сем'яў, меў 129 га зямлі, з іх — 87 га ворыўнай, 2 жаткі, 1 сеялка, 1 касілка, 7 плугоў, 10 рабочых коней, 40 кароў. У вёсцы працавалі вадзяны млын, лесапільня, сукнавальня, кузня, крама. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся гітлераўскі гарнізон. З 1942 г. дзейнічала падп. група. У кастр. 1943 г. за 1,5 км ад вёскі партызаны атрада імя Варашылава напалі на карнікаў, якія накіроўваліся ў вёскі Крычына і Кішчына Слабада для нарыхтоўкі харчу. У выніку былі спалены 4 аўтамашыны і знішчана каля 30 гітлераўцаў, у тым ліку 6 афіцэраў і начальнік барысаўскай паліцыі. Акупанты загубілі 11 вяскоўцаў і 16 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На вясковых могілках у 2 брацкіх ма-

гілах пахаваны 22 сав. воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. У скверы каля клуба ў 1966 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 126 земляках, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 751 жыхар. У 1988 г. 206 гаспадарак, 543 жыхары.

У вёсцы размешчаны СПК «Кішчынаслабодскі», сярэдняя школа-сад, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Генплан вёскі распрацаваны ў 1977 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтву ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва падтрымлівае і працягвае планіроўку, якую фарміруюць 2 мерыдыянальныя, плаўна выгнутыя вуліцы, што праходзяць па абодвух берагах ракі і 3 шыротныя вуліцы на У вёскі. Гал. вуліца шыротнага напрамку арыентавана перпендыкулярна да шашы і звязвае 2 часткі вёскі. Уздоўж яе размешчаны грамадскія будынкі. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Узведзены таксама адна- і двухпавярховыя мураваныя дамы. Гасп. сектар — на паўн. і паўд. ускраінах.


*А.К.Харчанка.*

Вёска — радзіма былога міністра камунальнай гаспадаркі БССР В.С.Забелы і Героя Сав. Саюза А.К.Харчанкі.

**КЛЕТНАЕ** — пасёлак у Маісееўшчынскім с/с, за 43 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У цячэ р. Лютка (прыток р. Бярэзіна), на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 48 гаспадарак, 96 жыхароў.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Клетна, 6 двароў, 31 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 18 двароў, 124 жыхары, у Красналуцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 16 двароў, 149 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жартайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Па перапісу 1926 г. 17 двароў, 125 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі. У 1940 г. 32 двары, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. — у межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 26 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 182 жыхары. У 1988 г. 84 гаспадаркі, 221 жыхар. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Перпендыкулярна да яе праходзіць у цэнтры плаўна выгнутая вуліца. На перакрыжаванні — грамадскі цэнтр. Забудавана пераважна двухбакова, жылымі драўлянымі мураванымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**КЛЫПЕНКА** — вёска ў Адзяціцкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Барысава, 20 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). На Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бобр. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Чэрнеўка. 63 гаспадаркі, 125 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска, 31 жыхар мужчынскага полу, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. вёска (30 двароў, 202 жыхары) і казённы хутар Барысаўскага лясніцтва (1 двор, 8 жыхароў), у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1914 г. пачала дзейнічаць школа (ад-



накласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 52 двары, 335 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У час польска-сав. вайны ў жн. 1919 г. — маі 1920 г. ў прыфрантавой зоне. На базе ранейшай у 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якую наведвалі 68 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1939 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 58 двароў, 336 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «4-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 жыхароў і яшчэ 4 вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 427 жыхароў. У 1988 г. 81 гаспадарка, 196 жыхароў. Размешчаны магазін. 2 плаўна выгнутыя, паралельныя паміж сабой вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі злучаны 2 кароткімі папярочнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**КОЛКІ** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 33 км на ПдУ ад Барысава, 20 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Чэрнеўка. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва, 14 двароў, 102 жыхары. У 1908 г. пасёлак, 18 двароў, 133 жыхары. Працавала ваўначоска. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. 15.11. 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 24 хлопчыкі і дзяўчынкі, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 33 двары 159 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 жыхароў. У 1960 г. 177 жыхароў. У 1988 г. 32 гаспадаркі, 55 жыхароў. Да вуліцы шыротнай арыентацыі на З перпендыкулярна ідзе кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 20 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У цячэ р. Рова (прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 21 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні С.Свіды. У 1887 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска і маёнтак (4 жыхары, царква), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 23 двары, 137 жыхароў, у маёнтку 16 жыхароў, на хутары 3 двары, 14 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай кайзераўскай Германіяй, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. вёска і пасёлак у Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 27 двароў, 129 жыхароў, у пасёлку — 12 двароў, 50 двароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г.




акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 103 жыхары. У 1988 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАЦЭВІЧЫ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 36 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць забалочаная. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Бурчак), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Хаўхоліца. 25 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

За 3 км на ПнЗ ад вёскі ў Бярэзінскім заказніку захавалася гарадзішча, за 2,5 км на Пн, каля дарогі да воз. Палік — курганны могільнік (17 насыпаў), за 2,8 км на Пн, каля дарогі да воз. Палік, ва ўрочышчы Волатава Поле — курган. Помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1670 г. мястэчка, царква, вуліцы: Чашніцкая, Цялятніцкая і незаселеная Барысаўская, уласнасць казны, у Замкавай вол. Барысаўскага староства ВКЛ. У 1777 г. сяло, 21 дым, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 42 двары, 276 жыхароў, царква, у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. У 1916 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 55 двароў, 361 жыхар. Працавалі лясніцтва, млын. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Кішчынаслабодскім, з 17.8.1963 г. — зноў у Хаўхоліцкім сельсаветах. З 8.2. 2010 г. ў Весялоўскім с/с. Па перапісу 1926 г. 63 двары, 356 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Ударнік 2-й пяцігодкі». У 1940 г. 71 двор, 346 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі быў створаны і дзейнічаў партыз. атрад «Буравеснік» (з снеж. 1943 г. партыз. брыгада «Буравеснік», дзейнічала ў Рудзенскім, Уздзенскім і Пухавіцкім р-нах). Камандзіру брыгады М.Г.Мармулеву 15.8.1944 г. прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1978 г. на паўн. ускраіне вёскі ў гонар партыз. атрада «Буравеснік» пастаўлены абеліск. У лют. 1943 г. фашысты спалілі 71 двор, загубілі 112 жыхароў. Партызаны атрадаў «Беларусь» і «Буравеснік» напалі на карнікаў і нанеслі ім цяжкія страты. Былі страты і ў партызан, якія пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках. У час варожай блакады ў маі—чэрв. 1944 г. побач з вёскай праходзіў рубеж абароны партызан. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1960 г. 203 жыхары. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і звязаных паміж сабой у цэнтры дарогай. Забудова пераважна аднабаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КРУГЛАЕ** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Неманіца і далей па шашы Барысаў—Орша. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).



Вядома з 18 ст. У 1795 г. сяленне Кругло, 6 жыхароў, уласнасць царквы, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1921 г. маёнтак Круглае (26 жыхароў) у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, у лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. У 1924 г. 11 двароў, 66 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў, загубілі 10 жыхароў. У 1960 г. 119 жыхароў. У 1988 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў. Крывалінейная вуліца трасіравана ўздоўж меліярацыйнага канала ў напрамку, блізкім да шыротнага. Забудавана свабодна з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Яшчэ адна кароткая вуліца праходзіць па другі бок ад канала і забудавана з аднаго боку. Вуліцы звязаны паміж сабой дарогай.

**КРАЎЦОВА НІВА** (да 1944 г. Бешанеўка) — вёска ў Траянаўскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Барысава, 30 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 121 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мясцовасць забалочаная, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 6 жыхароў, уладанне І.Храптовіча. У 1897 г. в. Краўцова Ніва (яна ж Бешанкоўка), 7 двароў, 64 жыхары, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 14 двароў, 85 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 13 двароў, 81 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ніва», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы спалілі 35 двароў, загубілі 37 жыхароў. У 1960 г. 71 жыхар. У 1988 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, забудаваных традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЧКА** (да 30.7.1964 г. Пупелі- чы) — вёска, у Зачысценскім с/с, за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 15 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

За 1 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Ключы, захавалася гарадзішча штрыхаванай керамікі (1—4 ст.н.э.), за 2 км на ПдУ ад вёскі пры лясной дарозе да в. Зачысце — курганны могільнік (20 насыпаў), за 1 км на ПнУ ад вёскі — другі курганны могільнік (20 насыпаў), за 0,5 км на З ад вёскі — трэці курганны могільнік (18 насыпаў). Помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска Пупелічы, 7 дымоў, уласнасць казны, у





Замкавай вол. Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 двароў, 151 жыхар, млын, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 46 двароў, 324 жыхары, у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. 62 двары, 389 жыхароў. Працавала смалакурня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. Пасля таго як сяляне забілі каменданта акупантаў, вёска была спалена. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З жн. 1919 г. да мая 1920 г. пад акупацыяй польскіх войск. З 31.7.1920 г. ў БССР. На базе ранейшай у 1920 г. была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 78 хлопчыкаў і дзяўчынак з в. Пупелічы, хутароў Ульінкі і Забор'е. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», першапачаткова аб'ядноўваў 11 гаспадарак, дзейнічалі ваўначоска і кузня. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы ліп. 1941 г. непадалёку ад вёскі, у лесе, адбыўся сход патрыётаў, на якім быў выбраны Барысаўскі падп. райком КП(б)Б. Яго ўзначаліў У.А.Яраш. Да кастр. 1941 г. было створана 17 падпольных груп. Базіраваўся падп. райком непадалёку ад вёскі. У лют. 1942 г. гітлераўцам удалося вызначыць месца яго дыслакацыі. 26.2.1942 г. ў баі з карнікамі загінуў сакратар райкома У.А.Яраш. У 1955 г. ў лесе, за 2 км на Пн ад вёскі, на месцы базіравання райкома адноўлены 3 зямлянкі, у 1982 г. пастаўлена стэла. Гітлераўцы загубілі 5 вяскоўцаў і 30 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У хуткім часе пасля вызвалення пачалі працаваць лесапільня, ваўначоска, у 1949 г. ўступіла ў дзеянне калгасная электрастанцыя. У 1960 г. 293 жыхары. У 1988 г. 42 гаспадаркі, 67 жыхароў. Адзіная прамалінейная вуліца трасіравана ўздоўж берага ракі з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, месцамі няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**КРЫЧЫНА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Хаўхоліца—Барысаў, якая праходзіць праз вёску. 53 гаспадаркі, 110 жыхароў (2008).

За 2 км на З ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Панскія Могілкі, захавалася гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1529 г. ў архіўных звестках упамінаецца як сяло Крычын, шляхецкая ўласнасць, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1582 г. сяло стала цэнтрам маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 17 двароў, 125 жыхароў, гаспадарскі дом, драўляная каталіцкая капліца. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Кукевіча. На вінакурным з-дзе, які дзейнічаў у маёнтку з 1811 г., працавала ў 1879 г. 5 рабочых. У 1897 г. сяло (40 двароў, 318 жыхароў), калонія (5 двароў, 29 жыхароў) і маёнтак (15 жыхароў, капліца), у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў сяле 63 двары, 471 жыхар, у маёнтку 94 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У жн. 1920 г. ў былым маёнтку быў арганізаваны саўгас «Крычына», які ў 1924 г. меў 547 дзес. зямлі. У ім у 1920 г. працавалі 28 пастаянных і 41 сезонны рабочы, меліся 8 коней, 25 кароў, 6 свіней, 15 плугоў, 411



дзес. зямлі, у іх ліку 175 дзес. ворыва. У вёсцы была створана прац. школа 1-й ступені (у снеж. 1920 г. — 46 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8. 1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.8.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 85 двароў, 471 жыхар. У 1930-х г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 17 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 35 вяскоўцаў. На ўшанаванне памяці 199 землякоў з вёсак калгаса імя А.В.Суворава, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены ў 1969 г. помнік — скульптура воіна ў жалобе, паабапал — 2 мемарыяльныя сцяны з імёнамі загінуўшых. З 28.7.1954 г. ў Бытчанскім, з 17.8.1963 г. ў Кішчынаслабодскім, з 16.7.1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. У 1960 г. 411 жыхароў. У 1988 г. 88 гаспадарак, 182 жыхары. Размешчана сярэдняя школа. Гал. вуліца, на якой размешчаны грамадскія будынкі, з'яўляецца часткай шашы і арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе зах. боку перпендыкулярна далучаецца другая плаўна выгнутая вуліца. Забудаваны двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**КУРГАН** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 64 км на ПнУ ад Барысава, 44 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 135 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Глініца (прыток р. Сха), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Халопенічы. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. паселенне, 4 жыхары мужчынскага полу, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 4 двары, 15 жыхароў, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 9 двароў, 55 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Майсееўшчынскім, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 9 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 54 жыхары. У 1988 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУРГАНАЎКА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Барысава, 3 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак Курган, 1 двор, 11 жыхароў, ва ўладанні кн. М.Радзівіла. У 1897 г. хутар, 5 двароў, 42 жыхары, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мін-





скай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 9 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 70 жыхароў. У 1988 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных на У. Забудавана пераважна двухбакова. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры.

**ЛАБАЧЫХА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Барысава, 10 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Барысаў—Орша. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска, 25 жыхароў мужчынскага полу, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска (11 двароў, 84 жыхары) і хутар (1 двор, 10 жыхароў). У 1917 г. 19 двароў, 133 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 1.1.1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (30 вучняў). Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 23 двары, 127 жыхароў, на хутары — 3 двары, 17 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарскі барацьбіт», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, працавалі кузня, млын. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 4 вяскоўцаў. У 1960 г. 116 жыхароў. У 1988 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары. Адзіная вуліца арыентавана мерыдыянальна. Забудова двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У цэнтры вёскі — гасп. сектар.

**ЛАНКАЎШЧЫНА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 10 км на У ад Барысава, 2 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ ручай (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў— Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 59 гаспадарак, 137 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 60 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1917 г. 71 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 181 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоныя Ліпкі». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 6 вяскоўцаў і 9 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 393 жыхары. У 1988 г. 98 гаспадарак, 237 жыхароў. Да паўн. боку гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛАЎНІКІ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ ручай (прыток р. Сха), на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Плешчаніцы, якая праходзіць побач з вёскай. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

За 3 км на ПдУ ад вёскі захаваліся рэшткі гарадзішча, што сведчыць аб за-



сяленні гэтых мясцін у старажытнасці. У 1858 г. вёска, 17 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 15 двароў, 93 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1928 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 10 двароў, 55 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Лаўнікі». У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 31 двор, загубілі 6 жыхароў. Гітлераўцы вывезлі 4 вяскоўцаў на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 111 жыхароў. У 1988 г. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з З на У, паралельна да шашы. Частка забудовы размяшчаецца ўздоўж паўд. боку шашы. Забудавана пераважна двухбакова, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛАЎНІЦА** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Барысава, 33 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Чэрнева, якая праходзіць побач з вёскай. 86 гаспадарак, 171 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 56 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. вёска, 45 двароў, 338 жыхароў, і аднаселле (3 двары, 20 жыхароў), у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 72 двары, 496 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. У польска-сав. вайну з жн. 1919 г. да мая 1920 г. ў нейтральнай зоне паміж Чырвонай Арміяй і войскамі Польшчы. С 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені (50 вучняў), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 86 двароў, 449 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 жыхароў і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 9 вяскоўцаў. У 1960 г. 706 жыхароў. У 1988 г. 158 гаспадарак, 311 жыхароў. Размешчаны Дом фальклора, магазін. 2 амаль паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перакрыжоўваюцца на Пд і злучаны ў цэнтры папярочнымі вуліцамі. На Пд і Пн далучаюцца да асн. дзве кароткія крывалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЕВАНОВА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Чэрнева, якая праходзіць побач з вёскай. 77 гаспадарак, 180 жыхароў (2008).

У 1885 г. фальварак, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. Дзейнічаў вінакурны з-д. У 1897 г. казённы фальварак 4-га Барысаўскага лясніцтва (54 жыхары), у 1917 г. 1 двор, 12 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. С 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1921 г. на месцы былога маёнтка ўтварыўся хутар. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мін-





скай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 17.8.1963 г. ў Мётчанскім с/с. 28.11. 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 60 вучняў. Паводле перапісу 1926 г. 89 двароў, 505 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зялёны Сад», у якім у 1931 г. аб'ядноўвалася 12, а ў 1932 г. 43 гаспадаркі. Дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі 25 вяскоўцаў на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 584 жыхары. У 1988 г. 119 гаспадарак, 293 жыхары. Працуе магазін Планіровачна складаецца з 3 плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ па абодвух баках ручая. Дзве з гэтых вуліц перакрыжоўваюць шашу. На У частка забудовы размешчана адасоблена. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, двухбакова, месцамі з разрывамі.

**ЛІПКІ** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 8 км на У ад Барысава, 4 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ цячэ ручай (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 2 жыхары, ва ўладанні Лошніцкай царквы. У 1897 г. хутар, 45 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 69 жыхароў. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. польскімі вайскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Нёманцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 120 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Ліпкі», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі, у брацкай магіле пахаваны 42 воіны, якія загінулі ў баях за вызваленне Барысаўшчыны ў чэрв. 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 2-й гв. мотастралковай брыгады 3-га гв. танкавага корпуса 5-й гв. танкавай арміі. У 1960 г. 87 жыхароў. У 1988 г. 18 гаспадарак, 54 жыхары. Планіровачна арганізавана ў адну шыротную вуліцу, трасіраваную паралельна да шашы і забудаваную з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 19 км на У ад Барысава, 5 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У 1847 г. засценак Ліпы (ён жа Забаброўе), 2 двары, 24 жыхары, у складзе маёнтка Вяляцічы, уласнасць казны. У 1897 г. пасёлак, 9 двароў, 53 жыхары, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. вёска, 18 двароў. 116 жыхароў. Дзейнічала смалакурня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Вяліканегнавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскага, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 156 жыхароў. У 1988 г. 23 гаспадаркі, 53 жыхары. З 17.8.1963 г. ў Лошніцкім с/с. Планіроўка ў адну, плаўна выгнутую вуліцу, блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІСІНА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны,



на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна праз заліў Лісінскі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 38 гаспадарак, 73 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1724 г. вёска, 19 двароў, млын, уладанне К.Беназора ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 26 двароў, 258 жыхароў, уладанне Л.Радзевіча. У 1897 г. 88 двароў, 596 жыхароў, вадзяны млын, магазін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. С 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У час польскай акупацыі многія вяскоўцы ўступілі ў партыз. атрад, які арганізаваў настаўнік Бараўлянскай школы Р.Сідарэнка. У ліст. 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 52 вучні), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Зембінскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 110 двароў, 568 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны молат», які першапачаткова аб'ядноўваў 12, а ў лют. 1932 г. 50 гаспадарак, працавала кузня. У 1940 г. 92 двары, 427 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 35 жыхароў. Звыш 30 вяскоўцаў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 302 жыхары. Планіроўка ў адну, плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную з ПдУ на ПнЗ перпендыкулярна да дарогі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІСІНСКАЯ РУДНЯ** — вёска ў Карсакавіцкім с/с, за 45 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна праз заліў Лісінскі. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска Рудня, 10 жыхароў, у Корсакавіцкай вол. У 1897 г. 7 двароў, 50 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1908 г. в. Лісінская Рудня, 8 двароў, 74 жыхары. У 1917 г. 12 двароў, 66 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. С 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Зембінскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 14 двароў, 78 жыхароў. У 1931 г. ў в. Лісіна арганізаваны калгас «Чырвоны Молат», у які ўступілі і жыхары в. Лісінская Рудня. Першапачаткова ў ім было 12 гаспадарак, а ў лют. 1932 г. калгас аб'ядноўваў 50 гаспадарак. У 1940 г. ў вёсцы 14 двароў, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 61 жыхар. У 1988 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ і забудавана з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛОШНІЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 18 км на У ад Барысава, 5 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску з Пн на Пд цячэ р. Лашыца (прыток р. Мужанка), на якой у цэнтры

вёскі ўтвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 2485 гаспадарак, 6599 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. З 1563 г. вёска ў складзе Барысаўскага староства ВКЛ. У 1670 г. мястэчка, 43 дымы, вуліцы: Барысаўская, Аршанская, Воўкавая, Старазатыльная, Бытчанская, Негнавіцкая, царква св. Міхаіла, карчма, млын, з'яўляліся ўласнасцю казны, у Замкавай вол. Аршанскага павета. У 1800 г. сяло, 105 двароў, 769 жыхароў, вадзяны млын, паштовая станцыя, драўляная царква, большая частка сялян належала кн. М.Радзівілу. Пры адступленні французаў 15.11.1812 г. была спалена царква. У 1816 г. пабудаваны за кошт казны новы будынак царквы. У 1863 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 54 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі. У 1884 г. для школы ўзведзены будынак. У 1897 г. 238 двароў, 1496 жыхароў, цэнтр воласці, дзейнічалі нар. вучылішча, лячэбніца, магазін, 4 крамы, 2 піцейныя дамы, царква. У 1898 г. пабудавана новая драўляная Свята-Духаўская царква. У 1917 г. 308 двароў, 2070 жыхароў. У ліст. 1917 г. пры актыўнай падтрымцы чырвонагвардзейскай дружыны П.Ф.Голуба ў с. Лошніца і воласці ўстаноўлена Сав. ўлада. Працавалі вадзяны млын, смалакурня і 3 кузні. З лют. да ліст. 1918 г. вёска на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. С 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Актыўным барацьбітом за ўстанаўленне Сав. улады ў воласці быў ураджэнец в. Навасёлкі А.І.Хацкевіч. Пасля ранення ён вярнуўся на радзіму. З снеж. 1918 г. да мая 1920 г. быў старшынёй Лошніцкага валаснога выканкома і рэўкома. У час польскай акупацыі ён займаўся падп. работай, кіраваў партыз. групамі. У 1919 г. на базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая ў 1923 г. пераўтворана ў 7-гадовую (у 1923 г. 122 вучні). З 1920 г. пры школе дзейнічала нар. б-ка, пры вал. выканкоме працавала хата-чытальня. 17.11. 1920 г. ў сяле засн. камсамольскі клуб. Пры культ.-асв. гуртку быў арганізаваны нар. тэатр. З 4.2.1919 г. працавалі спажывецкія т-вы «Камунар» і «Рэспубліка», дзейнічала пракатная станцыя с.-г. прылад працы. 10.11.1922 г. арганізавана крэдытнае с.-г. т-ва «Сейбіт», якое мела 40 дзесяцін ворыўнай зямлі, 13 коней, 28 галоў буйной рагатай жывёлы. 15.11.1923 г. засн. с.-г. крэдытнае т-ва. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 375 двароў, 1946 жыхароў, працавалі маслазавод, бальніца, ветэрынарны пункт, сямігадовая школа, крэдытнае т-ва, 2 вадзяныя млыны. У канцы 1920-х г. вёска атрымала тэлефонную сувязь. У 1931—32 гг. арганізаваны калгасы «Хваля рэвалюцыі» і «Палітаддзелец». З 1932 г. ў сяле размяшчаліся Прыямінская МТС і рамонтная майстэрня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. паблізу вёскі вялі цяжкія абарончыя баі 1-я Маскоўская мотастралковая дывізія пад камандаваннем палкоўніка Я.Г.Крэйзера і курсанты танкавага вучылішча пад камандаваннем камісара корпуса У.З.Сусайкава. На працягу трох сутак яны стрымлівалі атакі 47 матарызаванага корпуса гітлераўцаў. З 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана



*Выступленне Лошніцкага народнага ансамбля народнай музыкі і песні «Лошніцкая бліскавіца».*



ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся гітлераўскі гарнізон. У вёсцы дзейнічала падп. група, якая трымала сувязь з партызанамі. Гітлераўцы загубілі 53 вяскоўцаў і 49 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На вясковых могілках пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў канцы чэрв. 1944 г. Сярод іх — воіны 3-й гв. танкавай брыгады 5-й стралк. танкавай арміі, а таксама 24-га гв. танкавага палка. У цэнтры вёскі, у скверы на ўшанаванне памяці 188 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна. Пасля вызвалення, у канцы 1944 г., аднавіла работу МТС, налічвала ў той час 11 трактароў, 2 камбайны і 1 грузавую аўтамашыну. У 1945—55 гг. у вёсцы дзейнічаў дзіцячы дом, у якім у 1950 г. было 132 выхаванцы. Працавалі міжраённыя машынна-трактарныя майстэрні, пошта, Дом культуры. У ліп. 1958 г. МТС ліквідавана, а тэхніка і абсталяванне было перададзены Барысаўскай рамонтна-трактарнай станцыі. У 1960 г. 1776 жыхароў. 16.3.1969 г. адкрыты кінатэатр.

У вёсцы размешчаны «Свінакомплекс «Барысаўскі», ААТ «Лошніцкі камбікормавы завод», ААТ «Лошніцкі завод «Аграмаш», сярэдняя школа, гімназія, б-ка, 2 дзіцячыя сады, бальніца, гандл. цэнтр, аддз. сувязі і «Беларусбанка», Дом культуры, муз. школа, аптэка, амбулаторыя, кінатэатр, кафэ, камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва, магазіны. Аснову планіровачнай структуры складаюць 3 працяглыя вуліцы, трасіраваныя мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы, па абодва берагі ракі. У цэнтры яны аб'яднаны папярочнай вуліцай. Планіровачную сістэму дапаўняе шэраг кароткіх вуліц шыротнага і мерыдыянальнага напрамку. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Цэнтр. частка вёскі забудоўваецца шматпавярховымі дамамі. На ПнУ пабудавана 10 пяціпавярховых шматкватэрных дамоў (пасёлак Маладзёжны), на Пд — двухпавярховыя мураваныя дамы. Астатнюю частку забудовы складаюць драўляныя дамы сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма бел. сав. афтальмолага, Героя Сац. Працы, члена-карэспандэнта АНБеларусі, доктара медыцынскіх навук Т.В.Бірыч.



*Т.В.Бірыч.*

**ЛЮБАТОЎШЧЫНА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 15 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Сха (прыток р.Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць побач з вёскай. 38 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Любатоўшчына, 16 двароў, 116 жыхароў, гаспадарскі двор, драўляная капліца, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 17 двароў, 118 жыхароў, часоўня, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 24 двары, 157 жыхароў, у маёнтку 8 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, 37 вучняў. З 20.8. 1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 38 двароў, 239 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Любатоўшчына», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 2 жыхароў. У 1960 г. 242 жыхары. У 1988 г. 64 гаспадаркі, 148 жыхароў. З 8.4.1957 г. ў Прыгарадным с/с. Гал. вуліца трасіравана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага ракі, паралельна да шашы. На Пд да яе далу-





чаецца кароткая папярочная вуліца. Забудавана двухбакова, з разрывамі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ЛЮБЧА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Бягомль—Лагойск. 36 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1704 г. вёска, 3 двары, уладанне К.Друцкага-Сакалінскага. Крыху пазней вёска перайшла да віленскага каталіцкага капітулы, а затым — да Л.Храптовіча. У 1800 г. 23 двары, 120 жыхароў, драўляная капліца. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні памешчыка І.Ліхадзіеўскага. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. 57 двароў, 382 жыхары, магазін, царква, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў в. Любча 1 26 двароў, 152 жыхары, у в. Любча 2 31 двор, 214 жыхароў, на хутары Любча 3 двары, 21 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9. 1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 27 двароў, 125 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», у якім першапачаткова было 19, а ў лют. 1932 г. 38 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 20 вяскоўцаў і 28 чалавек вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 299 жыхароў. У 1988 г. 61 гаспадарка, 110 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана амаль шыротна, перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма А.В.Станкевіча, удзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыз. руху на тэр. былой Баранавіцкай вобл., з вер. 1943 г. камандзіра партыз. брыгады імя Ленінскага камсамола.

**ЛЮЦЕЦ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 52 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд, У і З мяжуе з лесам, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лютка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 9 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. в. Вялікі Люцец (11 двароў, 45 жыхароў) і засценак Малы Люцец (3 двары, 17 жыхароў). У 1897 г. в. Люцец (30 двароў, 177 жыхароў, вадзяны млын) і маёнтак (17 жыхароў, засн. ў 1868 г.), у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 37 двароў, 253 жыхары, у маёнтку 25 жыхароў. Працаваў вадзяны млын. У 1918 г. зямля былога маёнтка (228 дзесяцін) была падзелена паміж сялянамі вёсак Клетнае, Рабское, Люцец, Студзёнка, Крацэвічы, Хонава, Обса, Палік. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жортайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мін-



скай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, за 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 37 двароў, 202 жыхары, у пасёлках Люцец 1 14 двароў, 78 жыхароў, Люцец 2 7 двароў, 31 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3.6. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. У маі—чэрв. 1944 г. ў наваколлі ва ўмовах блакады вялі цяжкія баі супраць карнікаў партызаны Барысаўска-Бягомльскай зоны. Пасёлак Люцецкі (24 двары, 134 жыхары), які знаходзіўся непадалёку ад вёскі, быў спалены фашыстамі ў маі 1942 г. разам з жыхарамі. Ён так і не адрадзіўся, увекавечаны ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». У 1977 г. на месцы былога пасёлка пастаўлена стэла. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1960 г. 185 жыхароў. У 1988 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. Да ўсх. боку гал. вуліцы амаль шыротнага напрамку далучаецца кароткая, плаўна выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, месцамі няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛЯДЫ** — былы пасёлак у Неманіцкім с/с, за 7 км на У ад Барысава, 5 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Мінск—Орша, якая праходзіць побач з вёскай.

Вядомы з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар Лядкі, 6 двароў, 29 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У лют.—ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. — войскамі Польшчы. С 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 90 жыхароў. У 1988 г. 30 гаспадарак, 68 жыхароў.

**ЛЯХАЎКА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Плешчаніцы. 63 гаспадаркі, 111 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 79 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1890 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 13 хлопчыкаў), пераўтвораная ў кастр. 1905 г. ў 1-класнае нар. вучылішча. У 1897 г. 50 двароў, 350 жыхароў, царква, смалакурня, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 80 двароў, 553 жыхары, на хутары 4 двары, 29 жыхароў. У вёсцы і аднайменным урочышчы працавалі смалакурні. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе ранейшай у 1920 г. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у снеж. 1920 г. было 85, а ў 1923 г. — 187 вучняў. З 21.8.1924 г. ў Касцюкоўскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не, з



*Ляхаўская Мікалаеўская царква.*

20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 98 двароў, 546 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», у якім першапачаткова было 8 гаспадарак. Працавала ў вёсцы і смалакурня (у 1933 г. 6 рабочых), мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з 29.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі 12 вяскоўцаў на прымусовыя работы ў Германію. У чэрв. 1944 г. тут знаходзіўся буйны апорны пункт гітлераўцаў. Вызвалілі вёску воіны 3 гв. конна-механізіраванага корпуса 11 гв. арміі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 5 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У 1960 г. 626 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Вялікастахаўскім, з 16.1.1969 г. ў Весялоўскім сельсаветах. У 1988 г. 124 гаспадаркі, 253 жыхары. Мікалаеўская царква (1869). Да гал. амаль мерыдыянальнай вуліцы з З далучаюцца перпендыкулярна дзве, з У — адна кароткія папярочныя вуліцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзены аднапавярховыя аднакватэрныя мураваныя дамы. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛЯШЧЫНЫ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 9 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на Пн і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Вялікае Стахава і далей па шашы Мінск—Орша. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2008).

За 2 км на З ад вёскі ва ўрочышчы Замкавая Гара захавалася гарадзішча, дзе ў 1979 г. знойдзены рэшткі посуду культуры штрыхаванай керамікі, гліняны праслік і жал. шлакі. Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар, 11 двароў, 89 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У снеж. 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні (у 1923 г. 17 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Велікастахаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 16.1.1969 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 23 двары, 142 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Ляшчыны», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 7 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 5 жыхароў. У 1960 г. 215 жыхароў. У 1988 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары. Планіроўка ў адну працяглую крывалінейную вуліцу блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную пераважна з аднаго боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Да яе далучаюцца два завулкі. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**МАЖНІЦА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 62 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 133 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мажніца (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. У 1526 г. ў рукапісах адзначаецца, што людзі Магніцы (або Мажніцы), даннікі адносіліся да сялення Зембін Міхаіла П.Радзівіла. Побач з вёскай быў аднайменны маёнтак, у якім у 1895 г. заснаваны памешчыкам С.Э.Журбіным вінакурны з-д (у 1913 г. 5 рабочых, паравы рухавік). У 1897 г. вёска (7 двароў, 76 жыхароў) і фальварак (1 двор, 9 жыхароў), у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 9 двароў, 74 жыхары, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г.



пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Нядальскім с/с Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 21.6.1935 г. ў Бягомльскім р-не Лепельскай, з 20.2.1938 г. Мінскай акруг, з 16.7.1954 г. ў Мсціжскім с/с Барысаўскага р-на. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 147 жыхароў. У 1988 г. 30 гаспадарак, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з двух крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, па абодва бакі ракі. У цэнтры яны звязаны паміж сабой дарогай з мостам праз раку. Забудова пераважна аднабаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАІСЕЕЎШЧЫНА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 40 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн праз вёску цячэ ручай, на якім утвораны вадаём. На ПдЗ і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Халопенічы, якая праходзіць праз вёску. 148 гаспадарак, 422 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст. У 1567 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Аршанскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 28 двароў, 129 жыхароў і фальварак. У 1897 г. 75 двароў, 482 жыхары, магазін, піцейны дом, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1912 г. адкрыта 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. 94 двары, 583 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім раёнах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. цэнтр сельсавета, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 57 двароў, 309 жыхароў. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны переможца», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На паўд. ускраіне вёскі, у скверы, пахаваны ў брацкай магіле 61 сав. воін, якія загінуў пры вызваленні Барысаўшчыны ад ням.-фаш. акупантаў. Побач — мемарыяльная сцяна на ўшанаванне памяці 119 землякоў, загінуўшых у барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 452 жыхары.



*У.Р.Рыжой.*

У вёсцы размешчаны сярэдняя школа-сад, Дом культуры, бальніца, аптэка, комлексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, магазін, аддзяленне сувязі і «Беларусбанка». Генплан вёскі распрацаваны ў 1993 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца на У. Кампазіцыйным стрыжнем гіст. планіроўкі з'яўляецца забудова вакол шашы. Гал. працяглая вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ. Да абодвух яе бакоў далучаюцца 3 прамалінейныя вуліцы. Адна вуліца на ПнУ праходзіць паралельна да гал. Грамадскія будынкі пастаўлены на вуліцы ўздоўж шашы. Жылыя будынкі пераважна драўляныя сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. і паўд. ускраінах.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза У.Р. Рыжова.

**МАКАЎЕ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 60 км на захад ад горада і чыг. ст. Барысаў, 131 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Мсціж

і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 48 гаспадарак, 115 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. 76 двароў, 583 жыхары, дзейнічала земская школа, уваходзіла ў Мсціжскую вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 101 двор, 608 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. з БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. было 27 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 117 двароў, 610 жыхароў. У 1930-х вяскоўцы аб'ядналіся ў калгасы імя В.М.Молатава і «Пралетарская перамога», дзейнічалі 2 кузні. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. Вясною 1944 г. гітлераўцы зрабілі чарговую спробу разграміць партызан, супраць якіх былі кінуты рэгулярныя часці. У сярэдзіне чэрв. 1944 г. варожае кальцо блакады вельмі сціснулася, раён размяшчэння нар. мсціўцаў зменшыўся да 30 квадратных метраў. 15.6.1944 г. на прарыў каля вёсак Макаўе і Халмоўка былі кінуты партызаны брыгад імя Калініна, імя Кутузава, імя Кірава, «Бальшавік», імя Фрунзе, «Смерць фашызму», атрады Залатара, Скарабагатага і інш. Цаной гераічных намаганняў народным мсціўцам удалося вырвацца з акружэння. Загінулі 342 партызаны, якія пахаваны ў брацкай магіле за 1 км на ПдЗ ад вёскі. Сярод пахаваных Героі Сав. Саюза Ф.Ф.Азміцель і Б.Л.Галушкін, а таксама дачка венгерскага камуніста, партызанка-разведчыца Т.Баўэр. У 1960 г. 479 жыхароў. У 1988 г. 96 гаспадарак, 234 жыхары. Кампазіцыйнай воссю планіровачнай структуры з'яўляецца плаўна выгнутая вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі. На Пд паралельна да галоўнай праходзіць другая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.



*Ф.Ф.Азміцель.*



*Б.Л.Галушкін.*

**МАКАЎЕ** — былая вёска ў Зачысценскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Барысава, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З, Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 22 жыхары, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ва ўладанні кн. М.Радзівіла. У 1897 г. хутар казённага ведамства, 7 двароў, 48 жыхароў, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лют. да діст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 10 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 57 жыхароў. У 1988 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

**МАКСІМАЎКА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 53 км на ПнУ ад Барысава, 33 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, за 124 км да Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Ракаўка (прыток р. Глініца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 11 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 10 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве



Халопенічы Аршанскага павета ВКЛ. У 1800 г. 12 двароў, 63 жыхары. У 1897 г. 35 двароў, 190 жыхароў, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 42 двары, 232 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8. 1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 43 двары, 209 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Чырвоная Максімаўка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. за сувязь з партызанамі гітлераўцы арыштавалі і расстралялі некалькі вяскоўцаў. У 1960 г. 110 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 51 жыхар. Адзіная вуліца арыентавана амаль шыротна і забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**МАЛАЯ ТРАСЦЯНІЦА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў. 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цякуць два ручаі (прытокі р. Бярэзіна), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Плешчаніцы. 44 гаспадаркі, 91 жыхар (2008).

Вядома з 2-й пал. 19 ст., калі вёска Трасцянка падзялілася на дзве: Вялікая Трасцянка і Малая Трасцянка. У 1870 г. 7 жыхароў мужчынскага полу, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 6 двароў, 27 жыхароў. Побач быў хутар Трасцяніца (6 двароў, 56 жыхароў). Працавалі цагельны з-д, паравы млын. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Зембінскага раёнаў Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы Малая Трасцяніца 57 двароў, 334 жыхары, на хутары Трасцяніца 4 двары, 19 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Трасцяніца», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 3 жыхароў і 5 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 342 жыхары. З 16.1.1969 г. ў Весялоўскім с/с. У 1988 г. 66 гаспадарак, 145 жыхароў. Планіровачна арганізавана ўздоўж двух ручаёў. 2 вуліцы арыентаваны амаль шыротна. На Пн перпендыкулярна да іх праходзіць яшчэ адна вуліца. Забудавана пераважна аднабакова традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

**МАЛАЯ УХАЛОДА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Барысаў. 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Мётча, якая праходзіць праз вёску. 111 гаспадарак, 258 жыхароў (2008).

Вядома з 2-й пал. 19 ст., калі вёска Ухалода падзялілася на Вялікую Ухалоду і Малую Ухалоду. У 1870 г. в. Малая Ухалода, налічвала 32 жыхары мужчынскага полу, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета ВКЛ. У 1880-я г. пачала дзейнічаць школа граматы, але ў 1890 г. была закрыта з-за недахопу сродкаў на яе ўтрыманне. У 1897 г. 42 двары, 316




жыхароў, у 1917 г. 46 двароў, 327 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У польска-сав. вайну з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. каля вёскі, на р. Бярэзіна, праходзіла лінія абароны Чырвонай Арміі. З 20.8.1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 66 двароў, 342 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», які праз год ужо аб'ядноўваў 50 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17.7.1942 г. гітлераўцы расстралялі 16 жыхароў вёсак Малая Ухалода і Вялікая Ухалода. Сярод іх — 2 жанчыны і 5 дзяцей. Пахаваны праз 0,5 км на Пн ад вёскі ў брацкай магіле. У канцы чэрв. 1944 г. каля вёскі вялі жорсткія баі з ворагам 19-я танкавая брыгада і 1436-ы самаходна-артылерыйскі полк. Гітлераўцы неаднаразова пераходзілі ў контратаку і страцілі ў гэтым баі 13 танкаў. З 28.7.1954 г. ў Мётчанскім с/с. У 1960 г. 517 жыхароў. У 1988 г. 123 гаспадаркі, 277 жыхароў. Ёсць магазін. Да гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, амаль паралельна да шашы, далучаюцца з абодвух бакоў дзве кароткія прамалінейныя вуліцы, адна з якіх перакрыжоўвае шашу. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**МАЛОЕ СТАХАВА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). На З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Плешчаніцы. 75 гаспадарак, 145 жыхароў (2008).

У наваколлі вёскі захаваліся 2 курганныя могільнікі (40 і 19 насыпаў), якія датуюцца 8—9 ст. У час раскопак у 1931 г. знойдзены рэшткі бронзавых упрыгажэнняў, шкляныя пацеркі, ляпны посуд. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, 2 дымы, уласнасць казны ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 99 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 8 хлопчыкаў. У 1897 г. 31 двор, 203 жыхары, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 38 двароў, 294 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. 1.10.1919 г. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 60 хлопчыкаў і дзяўчынак. Размяшчалася школа ў наёмным памяшканні. У польска-савецкую вайну з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. ў прыфрантавой паласе. 24.3. 1924 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва «Пачын». З 20.8. 1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 50 двароў, 301 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які ў лют. 1942 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак, працавалі кузня і сукнавальня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 1 жыхара і 1 вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. З 28.7.1954 г. ў Прыгарадным сельсавеце. У 1960 г. 427 жыхароў. У 1988 г. 104 гаспадаркі, 241 жыхар. Planіровачна складаецца з 2 вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПнЗ на ПнУ. Другая вуліца далучаецца да гал. з усх. боку. На Пд паралельна да гал. праходзіць яшчэ адна кароткая вуліца. Забудавана



двухбакова, з разрывамі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**МАЛЫШКІ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 22 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на поўдні мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1776 г. вёска Малышкі (яна ж Вялікае Сяло), 3 двары, 13 жыхароў, фальварак, уладанне І.Сененскага ў ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У лют.—снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1921 г. хутар Малышын, 2 двары, 7 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. З 20.8.1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 19 двароў, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 74 жыхары. З 31.3. 1964 г. ў Чарневіцкім, з 8.2.2010 г. ў Глівінскім сельсаветах. У 1988 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары. Планіроўка ў адну плаўна выгнутую вуліцу, забудаваную драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ НЕГНАВІЧЫ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 19 км на У ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і Пн цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 63 гаспадаркі, 106 жыхароў (2008).

Вядома з 2-й пал. 17 ст., калі вёска Негнавічы падзялілася на: Старыя Негнавічы і Новыя Негнавічы. У 1670 г. ў в. Новыя Негнавічы 4 дымы, у 1800 г. 21 двор, 215 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У пач. 19 ст. вёскі. Старыя Негнавічы і Новыя Негнавічы значыліся ў афіцыйных дакументах як адна вёска Негнавічы, але ў сярэдзіне 19 ст. яна зноў падзялілася на Вял. Негнавічы і Малыя Негнавічы. У 1870 г. 145 жыхароў мужчынскага полу, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 90 двароў, 592 жыхары, школа граматы, часоўня, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 109 двароў, 731 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. На базе дарэвалюцыйнай пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у 1920 г. 93 вучні, у наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Веліканегнавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 131 двор, 697 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «3-ці рашаючы», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 8 вяскоўцаў і 20 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 3 сав. танкісты, якія загінулі ў жорсткіх баях у ліп. 1941 г. У 1960 г. 663 жыхары. З 17.8.1963 г. ў Лошніцкім с/с. У 1988 г. 139 гаспадарак, 297 жыхароў. Ёсць магазін. Планіроўка ў адну працяглую прамалінейную вуліцу, трасіраваную з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага ракі. Забудавана двухбакова, пераважна шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 56 км на ПнУ ад Барысава, 44 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша,

127 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Глініца (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Маісееўшчына—Халопенічы, якая праходзіць праз вёску. 25 гаспадарак, 50 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска, 65 жыхароў мужчынскага полу, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска (27 двароў, 181 жыхар) і казённы хутар (1 двор, 5 жыхароў). У 1917 г. ў вёсцы 34 двары, 216 жыхароў, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага раёнаў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8. 1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 37 двароў, 226 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 100 жыхароў. У 1988 г. 32 гаспадаркі, 76 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і перакрыжоўвае шашу. Забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**МАТАЛЫГА** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 41 км на ПдУ ад Барысава, 22 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў— Чэрнева. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1878 г. вёска ў Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 11 двароў, 126 жыхароў. У 1917 г. хутары Старая Маталыга (яны ж Ліпа, 5 двароў, 29 жыхароў) і Новая Маталыга (12 двароў, 112 жыхароў). З лют. да ліст. 1918 г. ў зоне акупацыі войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. вёска, 21 двор, 116 жыхароў. У 1930-х гг. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас, працавала смалакурня. У 1940 г. 27 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 37 жыхароў. Усяго за час акупацыі гітлераўцы загубілі 49 жыхароў, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. ў в. Старая Маталыга 25, у в. Новая Маталыга 104 жыхары. 12.11.1966 г. вёскі Старая Маталыга і Новая Маталыга былі аб'яднаны і склалі адзін населены пункт — в. Маталыга. У 1988 г. 22 гаспадаркі, 43 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЯК КАМУНІЗМА** — былая вёска ў Прыгарадным с/с. З 1990-х г. у межах г. Барысаў.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. засн. калгас «Маяк камунізма», вакол цэнтральнай сядзібы якога складваўся нас. пункт. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 243 жыхары. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 21.1.1969 г. вёсцы цэнтральнай сядзібы калгаса нададзена імя «Маяк Камунізма». У 1988 г. 80 гаспадарак, 356 жыхароў.



**МАЯЧНАЕ** (да 30.7.1964 г. Парасятнікі) — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 37 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска Парасятнікі, 14 жыхароў мужчынскага полу, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 23 двары, 151 жыхар, у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 двароў, 132 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8. 1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2. 1935 г. ў Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 24 двары, 150 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1940 г. 23 двары, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 20.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 85 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары. Планіровачна ўяўляе 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Паміж імі — сажалка. Да адной з вуліц далучаецца невял. папярочная вуліца. Забудова пераважна аднабаковая, шчыльная, жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛОВА** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 21 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Аўтадарогай звязана з Барысавам. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. фальварак, у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. фальварак Міхайлова (ён жа Міхалова), 3 двары, 9 жыхароў. У 1917 г. 41 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 33 гаспадаркі, 61 жыхар. З 8.2.2010 г. ў Зачысценскім с/с. Планіровачна складаецца з гал. шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца кароткая папярочная вуліца. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**МІХАЛОВА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Барысава, 90 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Пагадзіца і далей па шашы Мінск—Орша. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1858 г. пасяленне, 15 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. маёнтак, 41 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 8 двароў, 66 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 224 жыхары. У 1988 г. 15 гаспадарак, 32 жыхары. Планіроўка У-падобная. Кароткія вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, злучаюц-





ца паміж сабой на Пн. Забудавана аднабакова, традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХЕЕЎКА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 65 км на ПнУ ад Барысава, 40 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ — сажалка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Халопенічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 14 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 117 жыхароў. У 1897 г. 28 двароў, 164 жыхары, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 34 двары, 209 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. з БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага р-наў, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8. 1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 40 двароў, 192 жыхары. У 1930-х гг. створаны калгас «Зара». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 115 жыхароў. У 1988 г. 32 гаспадаркі, 70 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сядзібамі.

**МЛЕХАВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Барысава, 5 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна) і праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 43 гаспадаркі, 86 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, 6 дымоў, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве Аршанскага павета. У 1800 г. 27 двароў, 155 жыхароў, капліца, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1858 г. вёска Мліехаў, 79 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 52 двары, 302 жыхары, лаўка, піцейны дом, часоўня. Побач быў аднайменны хутар, 37 двароў, 276 жыхароў. У 1917 г. 95 двароў, 622 жыхары. Дзейнічала царк.-прыходская школа. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР.У 1921 г. на базе царк.-прыходскай створана прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 77 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 98 двароў, 511 жыхароў. Побач знаходзіліся хутары Млёхава, на якіх было 17 двароў, 93 жыхары. У выніку пажару, які адбыўся 22.5.1925 г., згарэлі 32 пабудовы — 12 гаспадарак. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Бальшавік», у якім у лют. 1932 г. было 55 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 3 вяскоўцаў і 12 жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 378 жыхароў. У 1988 г. 64 гаспадаркі, 124 жыхары. Планіроўка ў адну працяглую прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПнУ на ПдЗ і забудаваную двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**МРАЙ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 53 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэ-



зіна). Транспартныя сувязі па шашы Лагойск—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 43 гаспадаркі, 115 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. тут былі 2 двары, 10 жыхароў, у 1917 г. 3 двары, 21 жыхар. Працаваў вадзяны млын. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскіх войск. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. 16.4. 1924 г. арганізавана крэдытнае с.-г. т-ва «Чырвоны араты». З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. вёска (19 двароў, 79 жыхароў) і аднайменны засценак (5 двароў, 23 жыхары). У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1931 г. пабудавана птушкафабрыка. У 1940 г. 27 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4.10.1942 г. гітлераўцы расстралялі тут 350 жыхароў з розных вёсак, якія пахаваны ў цэнтры вёскі. У чэрв. 1944 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 35 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 206 жыхароў. У 1988 г. 57 гаспадарак, 130 жыхароў. Адзіная амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліца з'яўляецца працягам дарогі ў в. Мсціж і забудавана двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МСЦЕННЕ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 27 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Хаўхоліца—Барысаў, да якой ад пасёлка вядзе мясц. дарога. 31 гаспадарка, 66 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 249 жыхароў. У 1988 г. 50 гаспадарак, 114 жыхароў. Планіровачна ўяўляе дзве паралельныя паміж сабой вуліцы (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**МСЦІЖ** — вёска, цэнтр с/с, за 55 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны з павышэннем у цэнтр. частцы, на З і Пд цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны вадаём. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Лагойск—Бягомль, якая праходзіць праз вёску. 116 гаспадарак, 315 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. У 1526 г. сяло Мсціжы, у складзе маёнтка Зембін, уладанне М.П.Радзівіла ў ВКЛ. Пад 1781 г. упамінаецца ў матэрыялах па справе аб разглядзе парушэнняў меж паміж с. Мсціж і с. Замошша. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 14 двароў, 265 жыхароў, драўляная Крыжаўзвіжанская царква, гасподскі двор, вадзяны млын. У 1816 г. ўзведзены новы драўляны будынак Крыжаўзвіжанскай царквы. У 1869 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 42 хлопчыкі і 6 дзяўчынак. Дзейнічала вінакурня (у 1879 г. 6 рабочых). У 1897 г. сяло Мсціж (яно ж Загорка), цэнтр воласці, 24 двары, 139 жыхароў, нар. вучылішча, лячэбніца, царква, раз у год невял. таржок. Побач быў маёнтак Мсціж, 49 жыхароў, вадзяны млын, вінакурня (засн. ў 1892 г.). У 1912 г. пачало дзейнічаць паштова-тэлеграфнае аддз. У 1917 г. ў сяле 27 двароў, 140 жыхароў, у маёнтку 69 жыхароў. У вер. 1917 г. арганізавана спажывецкае т-ва. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. польскімі войска-







*Уязная брама сядзібы Слізняў у в. Мсціж.*

*Мсціжская Міхайлаўская царква.*

мі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У ваен. час маёнтак быў разрабаваны і часткова спалены. Пасля вызвалення ад польскіх акупантаў у маёнтку ў жн. 1920 г. быў арганізаваны саўгас, які меў у 1924 г. 560 дзес. зямлі, 13 коней, 3 каровы, дзейнічалі вінакурня, кузня, лаўка. У маёнтку пачала працаваць прац. школа 1-й ступені (у снеж. 1920 г. 16 вучняў). У сяле былі адкрыты клуб, хата-чытальня, затым — паштова-тэлеграфнае аддзяленне. Працавала лясніцтва. У сак. 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва «Чырвоны хлебароб». З 20.8. 1924 г. мястэчка Мсціж — цэнтр сельсавета Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 55 двароў, 250 жыхароў, паштовае аддзяленне, паравы млын, ваўначоска, маслабойня, школа, хата-чытальня, прафтэхшкола, бальніца. У былым маёнтку дзейнічаў саўгас «Мсціж» (пазней «Камінтэрн»), а ў вёсцы ў 1929 г. арганізаваны калгас «Беларусь». У 1937 г. створана Мсціжская МТС. У 1929 г. адкрыта майстэрня «Дружба» па рамонце абутку. У 1940 г. 57 двароў, 285 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны атрада «Барацьба» 23.4.1942 г. разграмілі паліцэйскі ўчастак і валасную ўправу, якія размяшчаліся ў вёсцы, а 1.5.1942 г. вывесілі на вуліцах чырвоныя сцягі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У кастр. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (54 двары), загубілі 113 жыхароў. У канцы крас. 1943 г. пачалася карная аперацыя супраць партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны. 12.5.1943 г. ў вёсцы адбылося пасяджэнне Барысаўскага міжраённага парт. цэнтра, на якім быў зацверджаны план абароны. У крас. 1944 г. гітлераўцы пачалі чарговую карную аперацыю «Прагулка на троіцу» супраць злучэнняў Барысаўска-Бягомльскай зоны. Некалькі дзён тут вялі цяжкія баі брыгады імя Калініна, «Народныя мсціўцы», імя Варанянскага, «Жалязняк» і інш. Карнікі панеслі вялікія страты. У канцы чэрв. 1944 г. партыз. злучэнні сустрэліся з Чырв. Арміяй. У 1968 г. на ўшанаванне памяці 148 землякоў, воінаў і партызан, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 329 жыхароў. У 1988 г. 126 гаспадарак, 277 жыхароў. У вёсцы размешчаны ААТ «Поліміз-Агра», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, амбулаторыя, аддз. сувязі і «Беларусбанка», 2 магазіны. Царква св. Архангела (пач. 21 ст.). Генплан вёскі распрацаваны ў 1980 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца ў паўд. і паўн. частках вёскі, якое працягвае гіст. складзены прамавугольны тып планіроўкі.



Кампазіцыйную вось планіровачнай структуры вёскі складае вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якая з'яўляецца працягам шашы. Паралельна да ўсх. боку шашы праходзіць яшчэ адна вуліца. У цэнтры гэтыя вуліцы перакрыжоўвае папярочная вуліца. Асн. грамадскія будынкі размяшчаюцца на плошчы — у месцы перакрыжавання вуліц. Жылая забудова традыцыйная, драўляная, сядзібнага тыпу. На Пн пабудаваны 7 мураваных аднапавярховых дамоў, на Пд — мураваныя аднапавярховыя дамы. Вытворчы сектар — на З, уздоўж шашы, на Пд і У.

**МУЖАНКА** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 20 км на У ад Барысава, 3 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Орша, якая праходзіць побач з вёскай. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1885 г. аколіца, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 12 двароў, 140 жыхароў, вадзяны млын, у 1917 г. 25 двароў, 171 жыхар. Працаваў вадзяны млын. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 42 двары, 197 жыхароў, на хутары 3 двары, 16 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Мужанка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 172 жыхары. У 1988 г. 41 гаспадарка, 77 жыхароў. Да плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на Пн далучаецца кароткая вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На У, на другім беразе ракі — гасп. сектар.

**МУЛІШЧА** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Барысава, 19 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Чэрнева. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1897 г. казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва, 7 двароў, 60 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. Побач была ферма памешчыка Занцэвіча, 1 двор, 18 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 50 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары. Адзіная плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ перпендыкулярна да дарогі. Забудавана аднабакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МУРАШКІ** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 31 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 3 двары, 26 жыхароў, у 1917 г. 17 двароў, 105 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з





31.7.1920 г. ў БССР. У 1926 г. 16 двароў, 82 жыхары. З 10.1.1929 г. ў Лозінскім нац. польскім с/с Барысаўскага р-на, з 23.8.1937 г. ў Забашавіцкім с/с, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.9.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 25 жыхароў. У 1988 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. Забудова размешчана ўздоўж вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і на значнай адлегласці ад яе. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МХЕРЫНА** — былая вёска ў Траянаўскім с/с, за 67 км на ПнУ ад Барысава, 33 км ад чыг. ст. Групкі на лініі Мінск—Орша, 138 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нача (прыток р. Бобр). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Маісееўшчына—Халопенічы, якая праходзіць побач з вёскай.

У 1870 г. вёска Мхерын 2, 2 жыхары мужчынскага полу, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 22 двары, 96 жыхароў, у 1917 г. в. Мхерына 2 (яна ж Пархоўка), 30 двароў, 170 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. з БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. ў БССР. З 1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. З 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Профінтэрн». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 72 жыхары. У 1988 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**МЯДЗВЕДЗЕЎКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 32 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Бродаўка і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1774 г. вёска Нядзведаўка, 4 двары, уладанне М.Валовіча. У 1800 г. 9 двароў, 66 жыхароў. У 1897 г. 35 двароў, 221 жыхар, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1916 г. пачала дзейнічаць школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. 40 двароў, 289 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені (у 1920 г. 23 вучні). З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 58 двароў, 301 жыхар. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Іскра Ільіча» (цэнтр — в. Старынкі). У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 вяскоўцаў. Вызвалена 30.6.1941 г. часцямі 11-й гв. дывізіі 16-га гв. стралк. корпуса. У 1960 г. 155 жыхароў. У 1988 г. 17 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Да яе на З далучаецца кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСАДЫ** — вёска, у Вяляціцкім с/с, за 36 км на У ад Барысава, 11 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач.



ліп. 1941 г. да 30.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 18 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіроўка ў адну мерыдыянальную вуліцу, забудаваную з двух бакоў драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 13 км на У ад Барысава, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Мінск—Орша, з якой населены пункт звязаны мясц. дарогай. 26 гаспадарак, 55 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. хутар, 6 двароў, 37 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 7 двароў, 52 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 13 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 97 жыхароў. У 1988 г. 35 гаспадарак, 93 жыхары.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 16 км на У ад Барысава, 2 км да чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 4 двары, 28 жыхароў, у 1917 г. 7 двароў, 52 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 13 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 81 жыхар. У 1988 г. 12 гаспадарак, 33 жыхары. Планіроўка ў 2 кароткія шыротныя вуліцы, звязаныя паміж сабой дарогай. Забудавана аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСАДЫ** — чыгуначная станцыя на лініі Мінск—Орша, у Лошніцкім с/с, за 14 км на У ад Барысава, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Орша, з якой населены пункт звязаны мясц. дарогай. 416 гаспадарак, 1037 жыхароў (2008).

Засн. ў канцы 19 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі. Станцыя хутка забудавана. У лют.—ліп. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — маі 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 705 жыхароў. У 1988 г. 263 гаспадаркі, 823 жыхары. Ёсць сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Планіровачна населены пункт з'яўляецца працягам чыг. ст. Навасады Неманіцкага с/с. Забудова арганізавана ўздоўж вуліцы шыротнага напрамку, трасіраванай паралельна да чыгункі. Да яе з паўн. боку далучаюцца кароткія вуліцы. Грамадскі цэнтр — на перакрыжаванні гал. вуліцы і дарогі. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Узведзены таксама 1-павярховыя і 2-павярховыя дамы. Гасп. сектар — у цэнтры і на зах. ускраіне.





**НАВАСЕЛКІ** – вёска, цэнтр сельсавета за 21 км на ПнУ ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Лошыца (прыток р. Мужанка), на якой утвораны вадаём. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 234 гаспадаркі, 668 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1757 г. сяло, 35 дымоў, у складзе маёнтка Ратуцічы, уладанне Барысаўскай каталіцкай плябаніі ў ВКЛ. У 1800 г. 35 двароў, 326 жыхароў, драўляная праваслаўная часоўня, вадзяны млын. У 1897 г. 90 двароў, 562 жыхары, часоўня, піцейны дом, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. 1.10.1908 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 112 двароў, 720 жыхароў. Працавалі 2 млыны і лесапільня (з 1907 г.). З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. Земская школа была пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 150 дзяцей. З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскага павета, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 142 двары, 736 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны наваселец», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 76 гаспадарак, працавалі паравы млын, лесапільны з-д, сукнавальня, кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся гітлераўскі гарнізон. З канца 1941 г. тут дзейнічала антыфаш. падп. група. Гітлераўцы загубілі 6 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 35 вяскоўцаў. Вызвалена 29.6.1944 г. На вясковых могілках пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне Барысаўшчыны. Тут жа пахаваны 2 чырвонаармейцы, якія загінулі ў 1919 г. У 1960 г. 273 жыхары. У цэнтры вёскі ў 1966 г. ўзведзены абеліск у памяць аб 248 земляках, якія аддалі жыццё ў барацьбе супраць фашызму. У 1988 г. 220 гаспадарак, 613 жыхароў. У вёсцы размешчаны СВК «Вялікія Навасёлкі», сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Генплан вёскі распрацаваны ў 1976 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца ў цэнтр. і паўн. частках вёскі, падтрымлівае і працягвае гіст. складзены тып планіроўкі. Ролю кампазіцыйных восей планіровачнай структуры выконваюць дзве перпендыкулярныя адна да другой вуліцы. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Адасобленыя невял. ўчасткі забудовы звязаны прасёлачнымі дарогамі ў адну планіровачную структуру. Грамадскія будынкі ўзведзены ўздоўж гал. вуліцы. Жылая забудова пераважна традыцыйная, драўляная, сядзібнага тыпу. У вёсцы пабудаваны таксама 12 мураваных 1-павярховых і 4 двухпавярховыя дамы. Гасп. сектар — на ПнУ і на Пн.

Вёска — радзіма бел. і сав. дзярж. дзеяча, наркома ўнутраных спраў, а затым наркома фінансаў Беларусі А.І. Хацкевіча.

**НАВАСЁЛКІ** – вёска ў Глівінскім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 110 гаспадарак, 291 жыхар (2008).

За 0,1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, размешчана гарадзішча, пры раскопках якога знойдзены рэшткі посуду ранняга перыяду культуры штрыхаванай керамікі, жал. сярпы і нажы, шылы, шпількі, бронзавы бранзалет, пацеркі і інш. рэчы. Датуецца



6—1 ст. да н.э. (ранні перыяд) і 1— 5 ст. н.э. (позні перыяд). Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1755 г. да толькі што пабудаванай Глівінскай царквы была далучана ў якасці ф-ла Навасёлкаўская царква. У 1773 г. сяло, 45 дымоў, у складзе маёнтка Глівін, уладанне царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 63 двары, 426 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 12 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка, а ў 1904 г. яна пераўтворана ў земскую. У 1897 г. вёска (74 двары, 542 жыхары, капліца) і фальварак (3 двары, 33 жыхары), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 109 двароў, 702 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Земская школа пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1924 г. вучыліся 74 хлопчыкі і дзяўчынкі, размяшчалася ў наёмным будынку. З 20.8. 1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 141 двор, 730 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 5 і вывезлі на катаржныя работы ў Германію 29 вяскоўцаў. У 1960 г. 963 жыхары. У 1988 г. 189 гаспадарак, 396 жыхароў. Размешчаны сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Планіровачная структура падпарадкавана напрамку ракі з аднаго боку і шашы — з другога. Працяглая гал. крывалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Сістэма вуліц, набліжаная да прамавугольнай, далучаецца да ўсх. боку гал. вуліцы. Частка забудовы размешчана на Пн адасоблена. Грамадскія будынкі разгрупаваны ў розных частках вёскі. Жылая забудова пераважна драўляная сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на З.

**НАВАСЁЛЫ** (да 30.7.1964 г. Доўгі Памёт) — вёска ў Траянаўскім с/с, за 52 км на ПнУ ад Барысава, 32 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Ракаўка (прыток р. Глініца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 59 гаспадарак, 153 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска Доўгі Памёт, 13 двароў, 73 жыхары, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 двароў, 124 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бараньскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Пасля ліквідацыі Бараньскага с/с (26.8. 1959 г.) вёска ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У 1940 г. 32 двары, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. карнікі спалілі вёску (31 двор), загубілі 1 жыхара. У скверы, каля клуба, у 1970 г. на ўшанаванне памяці 80 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў вайну, пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 75 жыхароў. У 1988 г. 54 гаспадаркі, 175 жыхароў. У вёсцы размешчана КСВУП «Максімаўка», ёсць б-ка, магазін. Аснову планіровачнай





структуры складаюць 2 паралельныя паміж сабой мерыдыянальныя вуліцы. Праект планіроўкі забудовы распрацаваны ў 1986 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае жыллёвае будаўніцтва вядзецца на З. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы. Жылую забудову складаюць пераважна традыц. драўляныя сялянскія сядзібы і мураваныя аднапавярховыя дамы. На З пабудаваны 2-павярховыя дамы. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне, уздоўж дарогі ў в. Селішча і на У.

**НАВІШЧЫНА** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 43 гаспадаркі, 56 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. засценак, 10 двароў, 82 жыхары, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 18 двароў, 119 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Забашавіцкім, з 10.1.1929 г. да 23.8.1937 г. ў Лозінскім нац. польскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 20 двароў, 107 жыхароў. У 1930-х гадах у складзе польскага нац. калгаса «Домбаль». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баі супраць акупантаў у студз. 1944 г. У 1960 г. 143 жыхары. У 1988 г. 50 гаспадарак, 100 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. 2 перпендыкулярныя вуліцы арыентаваны ў напрамках, блізкіх да шыротнага і мерыдыянальнага. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У частка забудовы размешчана адасоблена. Тут жа знаходзіцца і гасп. сектар.

**НЕЖЫЦЫ** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 27 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Нача (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Хаўхоліца. 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2008).

Вядома з 16 ст. У 1582 г. пасяленне, шляхецкая ўласнасць, у Аршанскім павеце ВКЛ. У 1777 г. 10 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 69 жыхароў. У 1897 г. маёнтак, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 16 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. 30.1.1922 г. арганізавана сельскагаспадарчая арцель «Праца», якая аб'ядноўвала 9 сем'яў, мела 90 дзесяцін ворыйнай зямлі і 40 дзесяцін лугу. З 20.8.1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай акругі, з 9.6.1927 г. Зембінскага, з 22.9.1927 г. Барысаўскага раёнаў Мінскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 16.7.1954 г. далучана да Кішчынаслабодскага с/с, з 17.8. 1963 г. зноў у Хаўхоліцкім с/с, з 8.2.2010 г. ў Весялоўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 10 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28.6.1944 г. каля вёскі партызаны брыгады імя Панамарэнкі разграмілі атрад гітлераўцаў, які спрабаваў пераправіцца праз р. Бярэзіна. Было знішчана шмат салдат і афіцэраў, захоплены трафеі. Вяскоўцы ў гэтыя дні ўзялі ў палон і перадалі Чырвонай Арміі 40 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. У 1960 г. 147 жыхароў. У 1988 г. 24 гаспадаркі, 41 жыхар. Размешчана ферма буйной рагатай



жывёлы. Планіровачна складаецца з гал. амаль мерыдыянальнай вуліцы, да якой з абодвух бакоў далучаюцца папярочныя вуліцы. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**НЕМАНІЦА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд праз вёску цячэ р. Неманічка (прыток р. Сха), на якой утвораны штучны вадаём. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 304 гаспадаркі, 893 жыхары (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. мястэчка, 22 дымы, царква Св. Пятра, млын, вуліцы: Барысаўская, Лошніцкая, Баравая, з'яўляліся ўласнасцю казны, у Барысаўскім старостве ВКЛ. У 1800 г. 47 двароў, 341 жыхар, уладанне кн. М.Радзівіла. Пры адступленні ў 1812 г. французы спалілі царкву. У 1816 г. пабудавана новая драўляная Петрапаўлаўская царква. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), а ў 1884 г. — 1-класная царк.-прыходская школа, у якой у 1890 г. вучыліся 22 хлопчыкі. З 1880 г. ў сяле дзейнічаў шклозавод. У 1897 г. сяло (75 двароў, 481 жыхар, школа, магазін, царква) і фальварак (3 двары, 29 жыхароў, вадзяны млын), у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 1912 г. працавала ф-ка па вырабе драўляных аптэкарскіх каробак (40 рабочых). У 1917 г. 106 двароў, 747 жыхароў. Працавалі майстэрня па вырабе драўляных аптэкарскіх каробак, 2 вадзяныя млыны, смалакурня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У крас. 1919 г. створана спажывецкае каап. т-ва «Грамада». З жн. 1919 г. да мая 1920 г. пад акупацыяй войск буржуазнай Польшчы. У маі 1920 г. каля вёскі актыўна дзейнічалі партызаны, якія нападалі на абозы акупантаў, псавалі сувязь. Пасля вызвалення тут працаваў пункт харчавання, дзе для бяднейшага сялянства раздаваўся хлеб, мука, крупы, цукар, соль, мыла. Дзейнічалі лясніцтва, лесапільня, паравы млын, пач. школа, у якой у 1922 г. вучыліся 193 хлопчыкі і дзяўчынкі з вёсак Неманіца, Сялітраннікі, Тарасаўка і бліжэйшых хутароў. Размяшчалася школа ва ўласным памяшканні (пабудавана ў 1903 г.). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 1.11.1924 г. ў былым панскім маёнтку пачала працаваць с.-г. арцель «Праца». Паводле перапісу 1926 г. 144 двары, 756 жыхароў. У 1928 г. арганізаваны калгас імя А.Р.Чарвякова, які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 35 гаспадарак. Калгас абслугоўваўся Барысаўскай МТС. У вёсцы працавалі смалакурня (6 рабочых), паравы млын. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала група падпольшчыкаў, якія трымалі сувязь з партызанамі. Гітлераўцы загубілі 17 вяскоўцаў і 37 жыхароў вывезлі на прымусовую працу ў Германію. Вызвалена 30.6.1944 г. воінамі 2-й гв. мотастралк. брыгады 3-га гв. танкавага корпуса 5-й гв. танкавай арміі. На вясковых могілках пахаваны 6 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У цэнтры вёскі, каля Дома культуры, пастаўлены ў 1967 г. абеліск у гонар 123 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1988 г. 310 гаспадарак, 980 жыхароў. У вёсцы размешчаны лясніцтва, вытв. ўчастак «Неманіца», ёсць сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Праект планіроўкі забудовы распрацаваны ў 1977 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Аснову гіст. планіроўкі

складае прамавугольная сетка вуліц. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Грамадскі цэнтр раскрыты да вадаёма. Жылую забудову складаюць аднапавярховыя драўляныя і мураваныя дамы сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. і паўд.-зах. ускраінах.

**НІЎКІ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Беразіна (прыток р. Днепр), на ПнЗ — яе прыток р. Чапа, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Чарневічы і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 19 гаспадарак, 37 жыхароў (2008).

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі захаваліся курганныя могільнікі (8 насыпаў), за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі — другі могільнік (21 насып), за 1,8 км на У ад вёскі — трэці могільнік (2 насыпы), за 1,5 км на ПнУ ад вёскі — чацвёрты могільнік (2 курганы, якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 1 двор, 8 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ва ўладанні памешчыка Э.Ваньковіча. У 1897 г. фальварак (2 двары, 15 жыхароў) і сядзіба (3 двары, 18 жыхароў), у Белічанскай вол. Ігуменскага павета. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1921 г. ўрочышча (1 двор, 8 жыхароў) і фальварак (43 жыхары). Працавалі кравецкая і шавецкая майстэрні, кузня. З 20.8.1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Глівінскім с/с. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 33 гаспадаркі, 66 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу, трасіраваную з ПнЗ на ПдУ і забудаваную з двух бакоў шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НІЎКІ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 60 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 131 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Нядалька (прыток р. Бярэзіна), на Пн, З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Лагойск—Бягомль, якая праходзіць праз вёску. 96 гаспадарак, 253 жыхары (2008).

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі захаваўся могільнік (8 насыпаў) і за 0,3 км ад могільніка — курган. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца другі могільнік (21 насып), за 1,8 км на ПнУ ад вёскі — трэці могільнік (2 насыпы), за 1,5 км на ПнУ ад вёскі — чацвёрты могільнік (2 насыпы). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 63 жыхары, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 58 двароў, 351 жыхар, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. Дзейнічала земская школа. У 1917 г. 71 двор, 433 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Баі за вызваленне вёскі ад палякаў вяла 17-я стралковая дывізія 16-й арміі. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у 1920 г. 40 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Нядальскім с/с Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 16.7.1930 г. Мінскай акруг, з 21.6.1935 г. ў Бягомльскім р-не Лепельскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7. 1954 г. ў Мсціжскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 73 двары, 198 жыхароў. У 1940 г. 96 двароў, 487 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльс-



кай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (94 двары), загубілі 64 жыхары. Каля будынка канторы саўгаса ў брацкай магіле пахаваны 48 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—44 гг. Абеліск пастаўлены на магіле ў 1959 г. і ўшаноўвае таксама памяць 43 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Пасля вайны адбудавана. У 1988 г. 116 гаспадарак, 310 жыхароў. У вёсцы размешчаны УП філіял НіЎкі «Папяровая фабрыка», фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі. Генплан вёскі распрацаваны ў 1984 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца на ПдУ. Гал вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і з'яўляецца працягам шашы. Яе перакрыжоўвае папярочная вуліца. Перпендыкулярна да гал. далучаюцца 2 крывалінейныя вуліцы. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы ўздоўж шашы. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На ПдУ ўзведзены аднапавярховыя і 2-павярховыя мураваныя дамы. Гасп. сектар — на Пд і У.

**НОВАЕ СЯЛО** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Барысава, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 42 жыхары. У 1897 г. 23 двары, 146 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 28 двароў, 158 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. 1.1.1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (60 вучняў), размяшчалася ў рэквізаваным памяшканні. З 20.8. 1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 36 двароў, 174 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 186 жыхароў. У 1988 г. 29 гаспадарак, 59 жыхароў. Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Адзіная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана двухбакова, месцамі няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**НОВАЕ СЯЛО** — былая вёска ў Іканскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 113 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна), на З, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль.

Вядома з 18 ст. Упершыню ўпамінаецца пад 1718 г. у матэрыялах аб размежаванні маёнткаў Скуплін і Будзенічы, у які ўваходзіла в. Новае Сяло. У 1800 г. 14 двароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 26 двароў, 178 жыхароў, магазін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 31 двор, 209 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. з БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 11.1.1968 г. ў Іканскім с/с. У 1924 г. 35 двароў, 226 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пралетарская Перамога», які ў пач. 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак з в. Новае Сяло і суседніх вёсак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5.5.1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (44 двары), загубілі 120 жыхароў, якія пахаваны ў брацкай магіле на зах.





ускраіне вёскі. У цэнтры вёскі знаходзіцца магіла юнага партызана, разведчыка атрада «Бура» Мішы Усоскага, які 21.5.1943 г. прыкрываў партыз. пераправу праз р. Цна каля в. Ганцавічы, быў цяжка паранены і падарваў гранатай сябе і гітлераўцаў. У 1970 г. ў памяць аб юным партызане пастаўлены абеліск. 5 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 79 жыхароў. У 1988 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Драўляныя пабудовы сядзібнага тыпу былі размешчаны каля мясц. дарогі.

**НОВАЕ ЯНЧЫНА** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 54 гаспадаркі, 104 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска Янчын Новы, 51 жыхар. У 1897 г. вёска (34 двары, 244 жыхары) і хутар казённага ведамства (9 двароў, 65 жыхароў), у Зачысценскай вол. Барысаўскага павета. У 1915 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 42 двары, 264 жыхары, на хутары 16 двароў, 87 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 61 хлопчык і дзяўчынка. З 20.8.1924 г. ў Зачысцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 66 двароў, 360 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы Свет», у якім першапачаткова было 7 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 2.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 2 жыхароў і 7 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 368 жыхароў. У 1988 г. 95 гаспадарак, 224 жыхары. Размешчаны Дом фальклора. Гал. плаўна выгнутая вуліца з'яўляецца адрэзкам дарогі і арыентавана амаль мерыдыянальна. На Пн яна разгаліноўваецца на 2 вуліцы, да адной з якіх далучаецца прамалінейная працяглая вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. У цэнтры — гасп. сектар.

**НОВАЯ МЁТЧА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 25 км на У ад Барысава, 10 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна) і яе прыток р. Альхоўка. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Чэрнева, якая праходзіць праз вёску. 39 гаспадарак, 74 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст., калі вёска Мідча падзялілася на 2: Старая Міодча і Новая Міодча. У 1897 г. в. Міодча Новая, 43 двары, 307 жыхароў, піцейны дом, у Вяляціцкай воласці Барысаўскага павета Мінскай губ. У пач. 20 ст. пачало дзейнічаць 1-класнае нар. вучылішча, у якім у 1905 г. вучыліся 117 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У 1921 г. 42 двары, 491 жыхар. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 65 двароў, 306 жыхароў, працавалі 2 кааператыўныя лаўкі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў лют. 1932 г. аб'яднаў 18 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могіках, пахаваны 27



воінаў, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. пры вызваленні Барысаўшчыны. У цэнтры вёскі, у скверы, на ўшанаванне 288 землякоў з вёсак Мётчанскага с/с пастаўлены ў 1968 г. стэла і мемарыяльная дошка з імёнамі загінуўшых. У 1960 г. 256 жыхароў. У 1988 г. 51 гаспадарка, 104 жыхары. Планіровачна складаецца з двух амаль паралельных паміж сабой шыротных вуліц, арыентаваных перпендыкулярна да шашы. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж вуліцы, якая ідзе да в. Старая Мётча. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, месцамі няшчыльна.

**НОВАЯ УЦЕХА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 51 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і ПдЗ мяжуе з лесам, на паўн. ускраіне — сажалка. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

За 1 км на Пд ад вёскі захаваўся курганны могільнік (5 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар, 2 двары, 17 жыхароў, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 7 двароў, 56 жыхароў, на аднайменным хутары 20 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У 1960 г. 188 жыхароў. У 1988 г. 9 гаспадарак, 25 жыхароў. Вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ПАСЁЛАК** — вёска ў Глівінскім с/с, за 14 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, з якой вёска звязана мясц. дарогай. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 84 жыхары. У 1988 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з двух кароткіх паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НІЦІЕЎШЧЫНА** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 34 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рэчка (прыток р. Уша). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2008 г.).

У 1897 г. засценак, 5 двароў, 69 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 13 двароў, 87 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 73 жыхары. З 10.1.1929 г. ў Лозінскім нац. польскім с/с Барысаўскага р-на, з 23.8. 1937 г. ў Забашавіцкім с/с, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў польскі нац. калгас «Домбаль». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 57 жыхароў. У 1988 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары. Планіроўка У-падобная. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**НЯДАЛЬ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 65 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 136 км ад Мінска. Рэльеф





раўнінны. На У цячэ р. Нядалька (прыток р. Бярэзіна), на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 26 гаспадарак, 51 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 6 двароў, 22 жыхары, вадзяны млын, пільня, «жалезны завод», шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 37 двароў, 254 жыхары, вадзяны млын, школа граматы, раз у год (у ліпені) праводзіўся таржок, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. На базе школы граматы ў 1909 г. пачала працаваць земская школа. У 1917 г. 47 двароў, 304 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай у 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У кастр. 1924 г. для школы быў выдзелены нацыяналізаваны будынак у маёнтку Лужкі, што знаходзіўся побач з вёскай. У 1925 г. ў школе вучыліся 178 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 21.6.1935 г. Бягомльскага р-на Лепельскай акругі, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мсціжскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 57 двароў, 301 жыхар, дзейнічалі млын, сукнавальня, кузня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». У 1940 г. 70 двароў, 354 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. ў час карнай аперацыі гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 30 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 275 жыхароў. У 1988 г. 54 гаспадаркі, 98 жыхароў. Кампазіцыйнай воссю планіроўкі з'яўляецца прамалінейная мерыдыянальная вуліца, арыентаваная перпендыкулярна да дарогі, уздоўж берага ракі. З У да яе далучаецца кароткая вуліца. Па другі бок ракі — адасоблены ўчастак забудовы. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАБЯРЭЖЖА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і У цячэ р. Беразіна (прыток р. Днепр), на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. хутар Мурава-Пабярэжжа ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Глівінскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. Забудова размешчана хаатычна ўздоўж берага ракі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАГАДЗІЦА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Барысава, 7 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ ручай, а на Пд і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сха (прыток р. Бярэзіна). На З мяжуе з лесам. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ ручай. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 78 гаспадарак, 127 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, 5 дымоў, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 28 двароў, 227 жыхароў, ва ўладанні шляхты і плябаніі Барысаўскай праваслаўнай царквы Праабражэння. У 1908 г. 94 двары, 613 жыхароў, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1912 г. адкрыта земская школа. У



1917 г. 102 двары, 756 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Земская школа пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1924 г. вучыліся 62 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 111 двароў, 600 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 22 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 12 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі, каля клуба, у 1968 г. пастаўлены абеліск на ўшанаванне памяці 61 земляка, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1960 г. 638 жыхароў. У 1988 г. 128 гаспадарак, 289 жыхароў. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, магазін. 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, па абодва бакі ручая, перакрыжаваны папярочнымі вуліцамі. Забудавана пераважна двухбакова, месцамі няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАГАРЭЛАЕ** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 63 км на ПнУ ад Барысава, 43 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Глініца (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Траянаўка і далей па шашы Маісееўшчына—Халопенічы. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 18 ст. У 1703 г. сяло, 35 дымоў і фальварак, уладанне Халопеніцкага дамініканскага касцёла, у Аршанскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 20 двароў, 163 жыхары. У 1897 г. 42 двары, 272 жыхары, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 60 двароў, 352 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8. 1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 66 двароў, 352 жыхары. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавалі кузня, ганчарная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 194 жыхары. У 1988 г. 39 гаспадарак, 90 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Гал. арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе з усх. боку далучаецца на Пн кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ — гасп. сектар.

**ПАДБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Кішчына Слабада—Барысаў, якая праходзіць побач з вёскай. 46 гаспадарак, 131 жыхар (2008).

У 1858 г. вёска, 32 жыхары, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. вёска (22 двары, 165 жыхароў) і аднайменны хутар (2 двары, 15 жыхароў). У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 33 двары, 221 жыхар, на хутары 2 двары, 21 жыхар. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з




жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. На базе земскай школы была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. вучыліся 54 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Жыцькаўскім, з 1926 г. ў Кішчынаслабодскім сельсаветах Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 46 двароў, 257 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праца». З пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 7 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 20 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 2 партызаны, якія загінулі 8.4.1944 г. ў баі супраць карнікаў. У 1960 г. 312 жыхароў. У 1988 г. 62 гаспадаркі, 124 жыхары. Ёсць магазін. Гал. амаль шыротная вуліца арыентавана перпендыкулярна да шашы. Яе перакрыжоўваюць 2 мерыдыянальныя вуліцы. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАДНЁЎКІ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 34 км на ПдУ ад Барысава, 17 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў— Аздзяцічы, да якой ад вёскі вядзе прасёлачная дарога. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1857 г. вёска, 30 жыхароў, у Аздзяціцкай вол. У 1897 г. вёска (16 двароў, 127 жыхароў) і казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва (2 двары, 15 жыхароў, вадзяны млын), у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 24 двары, 146 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 17 двароў, 108 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 83 жыхары. У 1988 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў, з 17.8.1963 г. — у Мётчанскім с/с. Планіровачна арганізавана ў адну шыротную вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛІК** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 60 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 131 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, мясцовасць забалочаная, на беразе воз. Палік. На Пд цячэ р. Лютка, якая ўпадае ў возера. На Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 12 жыхароў, на беразе воз. Палік дзейнічала прыстань, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 5 двароў, 55 жыхароў, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 12 двароў, 94 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Жортайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім раёне, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 108 жыхароў. У 1940 г. 25 двароў, 127 жыхароў. Навакольныя лясы былі аб'яднаны ў Дзярж. запаведнік. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. вёска ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. Вяскоўцы ад-



шукалі на месцы абарончых баёў Чырвонай Арміі супраць гітлераўцаў і даставілі ў канцы ліст. 1942 г. партызанам атрада імя С.М.Кірава 2 гарматы, 2 станкавыя кулямёты, 150 снарадаў, некалькі вінтовак, шмат патронаў. У партызаны пайшлі многія жыхары вёскі. З 6.10.1942 г. ў раёне возера Палік дзейнічаў міжраённы парт. цэнтр Барысаўскай зоны. Тут жа са жн. 1942 г. да мая 1943 г. базіраваўся і кіраваў баявымі дзеяннямі штаб партыз. брыгады «Стары». На паўд. ускраіне вёскі ў 1982 г. ў гонар міжраённага парт. цэнтра і партыз. брыгады «Стары» пастаўлены абеліск. У чэрв. 1943 г. ў час карнай аперацыі гітлераўцы спалілі вёску (25 двароў), загубілі 25 жыхароў. У чэрв. 1944 г. ў раёне возера Палік партызаны Барысаўска-Бягомльскай зоны ў акружэнні вялі жорсткія баі супраць гітлераўскіх карнікаў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 202 жыхары. У 1988 г. 26 гаспадарак, 49 жыхароў. Аснову планіроўкі складае крывалінейная вуліца, гал. частка якой арыентавана амаль мерыдыянальна, уздоўж берага возера. На ПдУ праходзіць яшчэ адна крывалінейная вуліца. Забудова пераважна аднабаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯЛЮМ** – вёска ў Глівінскім с/с, за 23 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, да якой ад вёскі ідзе мясц. дарога. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1858 г. фальварак, 16 жыхароў, у Забашавіцкай вол. У 1897 г. 3 двары, 33 жыхары, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З 1899 г. тут дзейнічала вінакурня (у 1900 г. 7 рабочых, паравая машына). У 1917 г. 216 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У 1918 г. ў маёнтку быў створаны саўгас «Палялюм» (пазней насіў імя А.І.Хацкевіча), першапачаткова ў якім было 475 дзесяцін, а ў 1924 г. — 586 дзес. зямлі, дзейнічалі маслабойня, вінакурня, паравы млын. У вер. 1920 г. пры саўгасе пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені (у 1923 г. 35 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 31.3.1964 г. ў Чарневіцкім с/с, з 8.2. 2010 г. ў Глівінскім с/с. У 1929 г. да саўгаса далучана былая калонія (размяшчалася каля в. Слабада). У гэты час саўгас ужо меў 1 трактар, 39 плугоў, 2 бульбакапалкі, 2 саломарэзкі, 5 веялак, 3 касілкі, 4 сеялкі, 43 кані, 67 кароў. Гаспадарка нарыхтоўвала сена для вайсковых часцей, працавалі паравы і вадзяны млын, сукнавальня, лесапільня, маслабойня, пач. школа і вячэрняя школа для дарослых, б-ка. У 1935 г. ў саўгасе ўжо было 2022 га зямлі, 197 рабочых, ён спецыялізаваўся на свінагадоўлі. На базе саўгаса ў 1937 г. створана Палелюмская МТС (дзейнічала да 1958 г.), якая абслугоўвала калгасы Глівінскага, Забашавіцкага, Аздзяціцкага, Перасадскага, Чарневіцкага сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 182 жыхары. У 1988 г. 13 гаспадарак, 31 жыхар. Паралельна да крывалінейнай мерыдыянальнай вуліцы на З праходзіць кароткая вуліца. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯНЫ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Кішкурнянка (прыток р. Гайна). На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Лагойск—Бягомль, да якой ад вёскі ідзе





прасёлачная дарога. 29 гаспадарак, 62 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1723 г. вёска, 5 двароў, уладанне І.Халецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 15 двароў, 178 жыхароў, ва ўладанні каталіцкай царквы. У 1880-х г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 16 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі), якая ў 1912 г. пераўтворана ў нар. вучылішча. У 1897 г. 48 двароў, 271 жыхар, хлебазапасны магазін, капліца, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 67 двароў, 376 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У вер. 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 114 дзяцей в. Паляны і навакольных хутароў. З 1923 г. працавала хата-чытальня. З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9. 1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 72 двары, 359 жыхароў. У 1930-х г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, дзейнічала кузня. У ліп. 1934 г., у час паездкі па Барысаўшчыне, вёску наведаў нар. паэт Беларусі Янка Купала. У 1940 г. 86 двароў, 254 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 23 жыхары. На прымусовыя работы ў Германію былі вывезены 64 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 322 жыхары. У 1988 г. 62 гаспадаркі, 116 жыхароў. Адзіная мерыдыянальная вуліца арыентавана ўздоўж берага ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

Каля паўд. ускраіны вёскі знаходзіцца Палянскае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 739 тыс. м$^3$).

**ПАПАРЭЖЖА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 47 на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ ручай, які ўпадае ў заліў Лісінскі. На Пн і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Карсакавічы і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. маёнтак, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 1 двор, 4 жыхары, у 1908 г. 14 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Зембінскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 62 жыхары. У 1940 г. 24 двары, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 85 жыхароў. У 1988 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. Адзіная шыротная вуліца арыентавана ўздоўж ручая і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАСЕКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 17 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Узнікла ў 1909 г. як хутар, дзе ў 1923 г. быў 1 двор, 6 жыхароў. У 1926 г. 5 двароў, 29 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. акупіравана войскамі кайзе-



раўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 82 жыхары. У 1988 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. Адзіная плаўна выгнутая амаль мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЎЛАЎЦЫ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 24 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праз вёску цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на Пд — яе прыток, безназоўны ручай. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 28 гаспадарак, 62 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 26 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 18 двароў, 119 жыхароў, у 1917 г. 24 двары, 152 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у 1920 г. 32 вучні, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1926 г. 27 двароў, 155 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Маісееўшчынскім с/с. У 1930-х г. вяскоўцы арганізавалі калгас імя С.М. Кірава. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 8 вяскоўцаў. У 1960 г. 230 жыхароў. 10.1.1961 г. да вёскі далучаны хутар Зайцы (у 1960 г. 55 жыхароў). У 1988 г. 45 гаспадарак, 78 жыхароў. Планіровачна складаецца з гал. часткі вёскі, у аснове якой трохвугольная сістэма вуліц, і двух кароткіх вуліц на ўсх. і паўд. ускраінах. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЕРАСАДЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 13 км на ПдЗ ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша, 58 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Мінск, да якой ад вёскі ідзе мясц. дарога. 166 гаспадарак, 493 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 33 двары, 185 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 43 двары, 338 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1909 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. 75 двароў, 482 жыхары. Працавала кузня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. На базе земскай у 1920 г. створана прац. школа 1-й ступені, дзе ў 1922 г. вучыліся 59 хлочыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. — цэнтр сельсавета Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 90 двароў, 465 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пралетарская Перамога», у якім у лют. 1932 г. было 32 гаспадаркі, працавалі кузня, ваўначоска. З канца чэрв. 1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 30.9.1941 г. партызаны зрабілі напад на палявы аэрадром акупантаў, які размяшчаўся побач з вёскай, спалілі склад з палівам. Гітлераўцы вывезлі ў Германію на прымусовыя работы 46 вяскоўцаў. На вясковых могілках ў 2-х брацкіх магілах пахаваны 25 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць фашызму. Каля Дома культуры ў 1969 г. пастаўлены абеліск у памяць аб




194 земляках, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1960 г. 515 жыхароў. У 1988 г. 168 гаспадарак, 463 жыхары. У вёсцы размешчаны сярэдняя школа-сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага ракі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1976 г. Бел. навук.-даследчым і праектным інстытутам па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца на У. Паралельна да гал. ідзе вуліца, забудаваная мураванымі 1- і 2-кватэрнымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы, забудаванай пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На беразе ракі створаны парк. Гасп. сектар — на Пд.

**ПЕРСЦЕНЬ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Рова (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Забашавічы, якая праходзіць праз вёску. 10 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 2 засценкі, адзін з якіх (2 двары, 27 жыхароў) належаў Дзмітровіцкай царкве, а другі (2 двары, 16 жыхароў, млын) з'яўляўся шляхецкай уласнасцю. Размяшчаліся засценкі па абодва бакі р. Чарніца. У 1897 г. вёска (8 двароў, 75 жыхароў) і хутар (1 двор, 5 жыхароў), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 18 двароў, 126 жыхароў. Працавалі 3 вадзяныя млыны. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. З 20.8.1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 28 двароў, 146 жыхароў. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Дуб», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 74 гаспадаркі з вёсак Персцень, Дубовы Лог, Краснае, працавалі вадзяны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 2 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 20 вяскоўцаў. У 1960 г. 124 жыхары. У 1988 г. 27 гаспадарак, 44 жыхары. Крывалінейная вуліца (адрэзак шашы), блізкая да мерыдыянальнай арыентацыі, забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛІТЧАНКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 28 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і Пн цячэ р. Бродня (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 120 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, у Барысаўскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. 35 двароў, 245 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 52 двары, 326 жыхароў, працавалі лесапільня, млын, маслабойня, сукнавальня, кузня, школа. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Земская школа ў 1920 г. пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені (у 1923 г. 85 вучняў, размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку). З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 47 двароў, 248 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Запавет Ільіча», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак. У Вял. Айч.



вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі 10 вяскоўцаў на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 147 жыхароў. У 1988 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна арганізавана ў плаўна выгнутую вуліцу, арыентаваную амаль мерыдыянальна, уздоўж берага ракі, і забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ПЛОСКАЕ** — вёска ў Забашавіцкім сельсавеце, за 30 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 71 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У, Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак і аднаселле, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 97 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У 1926 г. ў вёсцы 15 двароў, 71 жыхар, на хутарах Плоскае 1 — 4 двары, Плоскае 2 — 10 двароў. З 10.1.1929 г. ў Лозінскім нацыянальным польскім с/с Барысаўскага р-на. З 23.8. 1937 г. ў Забашавіцкім с/с, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў польскі нацыянальны калгас «Домбаль». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 123 жыхары. У 1988 г. 28 гаспадарак, 63 жыхары. Планіровачна складаецца з двух амаль шыротных, кароткіх вуліц, злучаных на З папярочнай вуліцай. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ПОЎПРЫШЧЫ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 33 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бродня (прыток р. Сха), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Бродаўка і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1774 г. засценак, 2 двары, уладанне царквы. Крыху пазней засценак перайшоў да Л.Храптовіча. У 1897 г. 17 двароў, 121 жыхар, магазін, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. в. Поўпрышча 1 (21 двор, 111 жыхароў) і в. Поўпрышча 2 (3 двары, 16 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, утвораная на базе земскай, адкрытай у 1917 г. (у 1923 г. 50 вучняў, размяшчалася ў наёмным памяшканні). У 1926 г. 26 двароў, 152 жыхары. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 11 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 11 жыхароў. У 1960 г. 181 жыхар. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПРАБАРНАЕ** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 35 км на У ад Барысава, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 90 жыхароў. У 1988 г. 15 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіроўка ў адну мерыдыяналь-

ную вуліцу, забудаваную двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРАТАСАЎШЧЫНА** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 26 км на У ад Барысава, 3 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ р. Балотніца (прыток р. Мужанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Баяры і далей па шашы Барысаў—Орша. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 24 жыхары, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 7 двароў, 48 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 97 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 21 двор, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 4 жыхароў. У 1960 г. 106 жыхароў. У 1988 г. 26 гаспадарак, 54 жыхары. Планіроўка П-падобная. 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПнЗ на ПдУ, злучаны на Пн папярочнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРАХОДЫ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 30 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1917 г. вёска (21 двор, 115 жыхароў) і хутар (1 двор, 8 жыхароў), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 19 двароў, 113 жыхароў, на хутары — 1 двор, 8 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «13 год Кастрычніцкай рэвалюцыі» (цэнтр — в. Вераскі), працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 104 жыхары. У 1988 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫЯМІНА** — чыг. ст. на лініі Мінск—Орша, у Лошніцкім с/с, за 25 км ад Барысава, 96 км ад Мінска. 130 гаспадарак, 300 жыхароў (2008).

Засн. ў 19 ст., у час будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У 1908 г. 40 двароў, 203 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. ў зоне акупацыі войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У польска-сав. вайну 1919—20 гг. з канца 1919 г. да мая 1920 г. тут праходзіла лінія фронту. Каля чыг. ст. размяшчаўся аэрадром 16-й арміі, якая пазней вызваліла Барысаў. З жн. 1920 г. ў БССР. У 1917 г. пачаў працаваць лесапільны з-д, які вырабляў дошкі і шпалы для Аляксандраўскай чыгункі (дзейнічаў да прыходу герм. войск у лют. 1918 г.). З 20.8.1924 г. ў Лошніцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г.да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 19 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 158 гаспадарак, 398 жыхароў. Ёсць фельч.-



акушэрскі пункт, магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі.

**ПРУДЗІШЧА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееў шчына, якая праходзіць побач з вёскай. 24 гаспадаркі, 44 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. засценак, 2 двары, 8 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 6 двароў, 34 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскіх войск. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 8 двароў, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 2 вяскоўцаў. З 8.4.1957 г. ў Прыгарадным с/с. У 1960 г. 141 жыхар. У 1988 г. 38 гаспадарак, 93 жыхары. Гал. шыротная вуліца арыентавана перпендыкулярна да шашы. На З яе перакрыжоўвае кароткая папярочная вуліца. Забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДОК** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 9 км на З ад горада і чыг. ст. Барысаў, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У і З лес, на У цячэ р. Бродня (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Вялікае Стахава і далей па шашы Мінск—Орша. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар Пруд-Стахаў, 3 двары, 25 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. хутар Огахаўскі Прудок у Велікастахаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.1.1969 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 8 двароў, 44 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 59 жыхароў. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**ПРУДЫ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 26 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць праз вёску. 23 гаспадаркі, 72 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. вёска, 8 жыхароў мужчынскага полу, у Зачысцкай вол. У 1897 г. в. Бараньскія Пруды (4 двары, 25 жыхароў), аднайменныя казённы хутар (1 двор, 9 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня) і хутар (3 двары, 23 жыхары). У 1917 г. 10 двароў, 73 жыхары. Працавалі 2 млыны. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзейраўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. Была адкрыта ў 1921 г. прац. школа 1-й ступені. Працавала лясніцтва. З 20.8.1924 г. ў Бараньскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім раёнах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 13 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 54 жыхары. У





1988 г. 19 гаспадарак, 60 жыхароў. Размешчаны дрэваапрацоўчы цэх і лясніцтва. Забудова размешчана ўздоўж шашы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПЧЭЛЬНІК** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 5 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн, У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Кішчына Слабада, якая праходзіць праз вёску. 176 гаспадарак, 515 жыхароў (2008).

За 3 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (146 насыпаў). Датуецца 11—12 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1920-х г. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. тут вялі баі курсанты танкавага вучылішча пад камандаваннем камісара корпуса І.З.Сусайкава і воіны 1-й Маскоўскай Пралетарскай матастралк. дывізіі (камандзір палкоўнік Я.Г.Крэйзер). У памяць аб гераічнай абароне, за 1 км на З ад вёскі, каля шашы Барысаў—Зембін, у 1973 г. пастаўлены абеліск. З пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 335 жыхароў. У 1988 г. 163 гаспадаркі, 515 жыхароў. Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе сабой працяг в. Старабарысаў і далучаецца да ўсх. боку дарогі. Арыентацыя вуліц шыротная з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПЯДАНЬ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на У цячэ р. Пядань (прыток р. Цна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Вароўскага і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 11 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1844 г. 5 двароў, 73 жыхары, у складзе маёнтка Дзядзілавічы, ва ўладанні А.Слізеня. У 1897 г. в. Пядынь, 18 двароў, 106 жыхароў, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 138 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. 31.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У студз. 1923 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с у Зембінскім р-не Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 40 двароў, 160 жыхароў. У 1940 г. 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Навакольныя лясы былі месцам базіравання партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны. У чэрв. 1943 г. карнікі спалілі вёску (30 двароў) і загубілі 20 жыхароў. Пасля вайны часткова адбудавана. У 1960 г. 78 жыхароў. У 1988 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Жылыя драўляныя дамы сядзібнага тыпу стаяць побач з мясц. дарогай.

**ПЯСКІ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на ПнУ цячэ р. Беразіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. засценак, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва, 5 двароў, 39 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча (6 двароў, 50 жыхароў) і хутар (1 двор, 3 жыхары). З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У час польска-савецкай вайны з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. каля пасёлка праходзіла



лінія фронту, а пасёлак быў пад акупацыяй палякаў. З 31.7.1920 г. ў БССР. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 11 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2. 2010 г. ў Глівінскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 13 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 жыхароў. У 1988 г 13 гаспадарак, 31 жыхар. Планіроўка ў адну вуліцу, арыентаваную з ПнЗ на ПдУ, уздоўж берага ракі і забудаваную пераважна з зах. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАБІНАЎКА** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 34 км на У ад Барысава, 11 км ад чыг. станцыі Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-х г. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 39 жыхароў. У 1988 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіроўка ў адну шыротную вуліцу, забудаваную пераважна з паўн. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**РАЗЛІЦЦЕ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 67 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 138 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 47 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1884 г. 12 двароў, 95 жыхароў, у складзе маёнтка Дзядзілавічы, уладанне А.Слізеня. У 1897 г. 20 двароў, 141 жыхар, у Восаўскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 28 двароў, 192 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Нядальскім с/с Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай, з 21.6.1935 г. Лепельскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мсціжскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 38 двароў, 207 жыхароў. У 1940 г. 45 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. 22.6.1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску (45 двароў), загубілі 196 жыхароў (пахаваны праз 0,2 км на Пд ад вёскі). Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 54 жыхары. У 1988 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў. Адзіная крывалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, перпендыкулярна да дарогі, забудавана двухбакова, няшчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАГАТКА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 28 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мсценне і далей па шашы Хаўхоліца—Барысаў. 28 гаспадарак, 46 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. сяло, 46 двароў, 211 жыхароў, драўляная праваслаўная царква і капліца пры ёй, шляхецкая ўласнасць. У 1880-х г. пачала дзейнічаць школа граматы, але ў 1890 г. закрылася ў сувязі з адсутнасцю сродкаў на яе ўтрыманне. У 1897 г. 70 двароў, 549 жыхароў, магазін, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1913 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. У 1917 г. 123 двары, 756 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай

войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. на базе ранейшай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 83 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 16.7.1954 г. далучана да Кішчынаслабодскага с/с, з 17.8.1963 г. зноў у Хаўхоліцкім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 164 двары, 852 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Рагатка», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 137 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ураджэнец вёскі У.І.Ясіновіч быў адным з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл., Д.С.Моўчанскі — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Магілёўскай вобл. У 1960 г. 264 жыхары. У 1988 г. 50 гаспадарак, 113 жыхароў. Адзіная працяглая, плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, пераважна двухбаковая.

**РАЗРЫЎКА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 60 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. маёнтак (28 жыхароў). У 1917 г. хутар (3 двары, 17 жыхароў) і маёнтак (22 жыхары), у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 65 жыхароў. У 1988 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў. Адзіная амаль мерыдыянальная вуліца забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАКАЎЦЫ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 23 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бродаўка і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 10 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1777 г. сяло Ракавец, 13 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 73 жыхары. У 1897 г. вёска (35 двароў, 208 жыхароў, капліца) і хутар (2 двары, 5 жыхароў), у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. вёскі Ракаўцы (37 двароў, 245 жыхароў) і Падракаўцы (5 двароў, 39 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 165 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. У 1926 г. ў в. Ракаўцы — 53 двары, 260 жыхароў, у в. Падракаўцы — 7 двароў, 43 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 12 вяскоўцаў. У 1960 г. 192 жыхары. У 1988 г. 31 гаспадарка, 54 жы-



хары. Гал. вуліца арыентавана амаль шыротна. Забудова пераважна двухбаковая, жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На З і ПнУ частка забудовы размешчана адасоблена.

**РАННОЕ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Барысава, 8 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Барысаў—Орша. 32 гаспадаркі, 78 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1757 г. сяло, 30 дымоў, у складзе маёнтка Ратуцічы, ва ўладанні Барысаўскай каталіцкай плябаніі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 32 двары, 282 жыхары. У 1897 г. 58 двароў, 387 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 77 двароў, 495 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У ліст. 1919 г. пачала працаваць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 69 дзяцей. З жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 87 двароў, 515 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Асоавіяхім», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 2 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 3 вяскоўцаў. У 1960 г. 315 жыхароў. У 1988 г. 54 гаспадаркі, 115 жыхароў. Планіровачна складаецца з двух паралельных вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ, па абодва берагі ракі. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**РАТУЦІЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Барысава, 6 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна), на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мужанка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Млехава і далей па шашы Барысаў—Орша. 45 гаспадарак, 85 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1757 г. сяло, 18 дымоў, цэнтр маёнтка, ва ўладанні Барысаўскай каталіцкай плябаніі. У 1784 г. пабудавана драўляная Пакроўская царква. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 20 двароў, 220 жыхароў, царква, вадзяны млын. У 1863 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), у якой у 1892 г. вучыліся 68 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1897 г. сяло (46 двароў, 326 жыхароў, школа, магазін. царква) і вёска (29 двароў, 210 жыхароў), у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў сяле 64 двары, 381 жыхар, у вёсцы 53 двары, 290 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У 1921 г. дзейнічалі пракатны пункт с.-г. інвентару, магазін, спажывецкі кааператыў «Слава». На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. навучаліся 80 дзяцей, размяшчалася ва ўласным будынку, пабудаваным ў 1886 г. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. 10.12.1924 г. засн. меліярацыйнае т-ва «Чырвоны Кастрычнік» для правядзення работ у пойме р. Мужанка. У 1926 г. ў сяле 74 двары, 356 жыхароў, на хутарах — 56 двароў, 309 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г.





акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 5 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 23 вяскоўцы. На вясковых могілках пахаваны партызан А.М.Аўдзюшкін, які загінуў у 1941 г. У 1960 г. 510 жыхароў. У 1988 г. 80 гаспадарак, 184 жыхары. Да гал. прамалінейнай, шыротнай вуліцы з паўд. боку перпендыкулярна далучаюцца 3 вуліцы, а на Пн пад вуглом — яшчэ адна вуліца. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. і паўн.-ўсх. ускраінах — гасп. сектар.

**РЖАЎКА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 41 км ад чыг. ст. Барысаў, 112 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 48 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 7 двароў, 44 жыхары, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 10 двароў, 67 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Жортайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2. 1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с; з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 83 жыхары. У 1988 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУБЕЖ** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 63 км на ПнУ ад Барысава, 37 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Халопенічы. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 26 жыхароў, уладанне Халопеніцкага дамініканскага касцёла. У 1868 г. пабудавана драўляная Ільінская царква. У 1897 г. сяло, 24 двары, 122 жыхары, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 30 двароў, 165 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 20.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-нах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.3.1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 34 двары, 145 жыхароў. У 1930-х гадах вяскоўцы ўступілі ў калгас «Ударнік сацыялізму». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 100 жыхароў. У 1988 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, месцамі няшчыльна.

**РУБЛЕНІКІ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 15 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1776 г. вёска Рублеўшчына, 7 двароў, уладанне Я.Зубоўскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай герм. войскамі, у жн. 1919 г. — ліп.



1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. у БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 9 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 148 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 49 жыхароў. Адзіная прамалінейная вуліца арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, з разрывамі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЫБАЧНАЕ** — былая вёска ў Забашавіцкім с/с, за 32 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы.

Вядома з 19 ст. У 1885 г. засценак Рыбачны, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 5 двароў, 34 жыхары. У 1917 г. хутар Рыбачанск (ён жа Рыбачнае), 7 двароў, 43 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 31.7.1920 г. ў БССР. У 1926 г. 8 двароў, 47 жыхароў. З 10.1. 1929 г. ў Лозінскім нац. польскім с/с Барысаўскага р-на, з 23.8. 1937 г. ў Забашавіцкім с/с, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 55 жыхароў. У 1988 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены побач з прасёлачнай дарогай.

**РЭМ** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 61 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 132 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 17 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

Утвораны ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не Мінскай (да 26.7.1930 г.), з 1935 Лепельскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1. 1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 9 двароў, 41 жыхар. У 1940 г. 30 двароў, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 100 жыхароў. У 1988 г. 24 гаспадаркі. Адзіная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САДОЎШЧЫНА** (да 1950 г. Кабыльшчына) — вёска ў Прыгарадным с/с, за 16 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Кішчына Слабада—Барысаў. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска Кабыльшчына, уладанне Барысаўскай праваслаўнай царквы. У 1800 г. 6 двароў, 42 жыхары. У 1897 г. 26 двароў, 175 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 38 двароў, 230 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Працавала смалакурня. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. было 52 вучні. Пры школе мелася б-ка. У 1926 г. 39 двароў, 234 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў




лют. 1932 г. аб'ядноўваў 7 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З восені 1941 г. ў вёсцы дзейнічала падп. група, кіраваў якой настаўнік М.Ціхановіч. Гітлераўцы загубілі 9 і вывезлі на прымусовую працу ў Германію 8 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 8 сав. воінаў і партызан, што загінулі ў 1941—44 гг. З 8.4.1957 г. ў Кішчынаслабодскім с/с. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. У 1960 г. 258 жыхароў. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 88 жыхароў. Гал. вуліца арыентавана мерыдыянальна і на Пн разгаліноўваецца на 2 вуліцы, якія злучаны папярочнай. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**СВЕТЛАЯ РОШЧА** (да 1969 г. пасёлак цагельнага завода «Студзёнка») — вёска ў Прыгарадным с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У, Пд і Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Плешчаніцы, да якой ад пасёлка ідзе мясц. дарога. 67 гаспадарак, 151 жыхар (2008).

Засн. ў 1927 г. ў сувязі з будаўніцтвам цагельнага завода «Студзёнка». У 1933 г. на з-дзе працавалі 42 рабочыя. Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 21.1.1969 г. пасёлак пры цагельным заводзе пераўтвораны ў самастойны населены пункт з назвай Светлая Рошча. У 1988 г. 91 гаспадарка, 260 жыхароў. Да зах. боку гал. амаль мерыдыянальнай вуліцы далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Побач з драўлянымі будынкамі сядзібнага тыпу ўзведзены мураваныя аднапавярховыя і двухпавярховы дамы.

**СВЯТОЕ** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 36 км на Пд ад Барысава, 16 км ад чыг. ст. Жодзіна на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, на якіх утвораны вадаём і злучаны з рэкамі Рова і Уша (прытокі р. Бярэзіна). 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. засценак Святы, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 7 двароў, 39 жыхароў, у 1917 г. 8 двароў, 58 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Забашавіцкім с/с (з 10.1.1929 г. да 23.8.1937 г. ў Лазінскім нац. польскім с/с) Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 6 двароў, загубілі 6 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 5 партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў вайну. У 1960 г. 52 жыхары. Адзіная вуліца вёскі арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 25 км на У ад Барысава, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праз вёску цячэ р. Альхоўка (прыток р. Мужанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 31 гаспадарка, 64 жыхары (2008).

Вядома з 17 ст. У 1641 г. вёска Паселле, 12 валок зямлі, уласнасць казны, у Вяляціцкім старостве Аршанскага павета ВКЛ. У 1755 г. в. Селішча, 7 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 17 двароў, 143 жыхары, уласнасць казны, у пажыццёвым уладанні І.Тышкевіча. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у першы год заняткаў вучыліся 12



хлопчыкаў. У 1897 г. вёска (51 двор, 378 жыхароў) і аднайменная ферма (1 двор, 14 жыхароў), у Бяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1911 г. адкрыта земская школа, для якой у кастр. 1913 г. ўзведзены ўласны будынак. У 1917 г. ў вёсцы 55 двароў, 393 жыхары, на хутары 7 двароў, 51 жыхар. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. Былая земская пераўтворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у снеж. 1920 г. вучыліся 68 хлопчыкаў і дзяўчынак з вёсак Селішча, Зялёная Дубрава, Ліпнікі і навакольных хутароў, размяшчалася ва ўласным будынку. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 80 двароў, 453 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рой», які меў свінагадоўчую ферму, 72 кані, 74 каровы, у лют. 1932 г. аб'ядноўваў 72 гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. гітлераўцы спалілі 53 двары, загубілі 10 жыхароў. Акупанты вывезлі 16 вяскоўцаў на прымусовыя работы ў Германію. У 1960 г. 386 жыхароў. У 1988 г. — 55 гаспадарак, 112 жыхароў. Руіны Успенскай царквы (19 ст.). Планіроўка набліжана да Г-падобнай. Гал. амаль шыротная вуліца трасіравана ўздоўж берага ракі. На У да яе паўд. боку далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 13 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. У цэнтры вёскі — сажалка, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Кішчына Слабада— Барысаў, да якой ад вёскі вядзе прасёлачная дарога. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 34 жыхары, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 22 двары, 132 жыхары, у 1917 г. 26 двароў, 186 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені. З 20.8. 1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 30 двароў, 194 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Селішчы», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 і вывезлі ў Германію на прымусовыя работы 19 жыхароў. У 1960 г. 152 жыхары. У 1988 г. — 11 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна ўяўляе 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, на Пн злучаныя дарогай. Забудова аднабаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 51 км на ПнУ ад Барысава, 31 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 122 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Вяляцічы, уласнасць казны, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета ВКЛ. У 1917 г. 12 двароў, 62 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў





БССР. З 20.8.1924 г. ў Бараньскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. У 1926 г. 12 двароў, 67 жыхароў. У 1940 г. 10 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 43 жыхары. У 1988 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІВІЦА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 13 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, да якой ідзе мясц. дарога. 35 гаспадарак, 96 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. хутар, 1 двор, 18 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскіх войск. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ў гонар 63 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1971 г. пастаўлены абеліск. У 1960 г. 242 жыхары. У 1988 г. 41 гаспадарка, 108 жыхароў. Ёсць магазін. Гал. вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі перакрыжоўваюць дзве папярочныя вуліцы. На У амаль паралельна да гал. праходзіць яшчэ адна вуліца. Грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СКУПЛІНО** — вёска ў Зембінскім с/с, за 43 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ ручай (прыток р. Хітрая), на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 30 гаспадарак, 65 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. Упершыню ўпамінаецца пад 1635 г. ў матэрыялах аб размежаванні маёнткаў Скуплін і Корсакавічы з сёламі маёнтка Зембін у ВКЛ. У 1724 г. вёска, 18 двароў, млын, уладанне К.Белазора. У хуткім часе вёска перайшла да Ф.Канарскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 51 двор, 290 жыхароў, 2 млыны, гаспадарскі двор, капліца, уладанне Л.Рыдзевіча. У 2-й пал. 19 ст. ў маёнтку, які належаў А.Іодка, дзейнічаў вінакурны з-д. У 1897 г. вёска (41 двор, 232 жыхары) і маёнтак (28 жыхароў, вадзяны млын, капліца), у Зембінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У маёнтку меліся вінакурня і млын. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. — у БССР. У жн. 1920 г. ў маёнтку створаны саўгас «Скупліна», у 1924 г. 506 дзес. зямлі ( пазней саўгас імя К.Лібкнехта). 1.6.1922 г. арганізавана с.-г. т-ва «Свабода». У саўгасе ў лют. 1922 г. была адкрыта прац. школа 1-й ступені. У вёсцы дзейнічала школа, пераведзеная з в. Карсакавічы. З 20.8. 1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 70 двароў, 374 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 45 гаспа-



дарак. Працавалі вадзяны млын, кузня, сталярная і шорная майстэрні. У ліп. 1934 г. ў час знаходжання на Барысаўшчыне наведаў вёску нар. паэт Беларусі Я.Купала. У 1940 г. 110 двароў, 447 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У ліп. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 66 жыхароў. У пач. лют. 1944 г. ў час карных экспедыцый акупантаў партызаны вялі цяжкія баі супраць гітлераўцаў каля вёсак Скупліно, Ганцавічы, Карсакавічы. У цэнтры вёскі ў 1978 г. пастаўлены помнік, які ўшаноўвае памяць 58 жыхароў, расстраляных карнікамі ў маі 1943 г. Пасля вызвалення адбудавана. У 1960 г. 191 жыхар. Планіроўка блізкая да Г-падобнай. Да гал., плаўна выгнутай, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, вуліцы далучаецца на У кароткая вуліца, якая з'яўляецца працягам дарогі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 25 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Рова (прыток р. Бярэзіна), на Пн цячэ р. Чэрніца (прыток р. Пліса). На Пн, Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па дарозе Барысаў—Забашавічы. 88 гаспадарак, 188 жыхароў (2008).

За 1 км на ПдУ, ва ўрочышчы Верх размешчана гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 18 ст. Пад 1776 г. ўпамінаецца ў матэрыялах аб размежаванні сёл. У 1778 г. вёска Слабада, 8 двароў, 38 жыхароў, карчма, уладанне І.Аборскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 164 жыхары, вадзяны млын, «жалезны завод» (1 молат, 1 горн) і фальварак Слабодка (ён жа Александроў). У 1897 г. вёска (55 двароў, 355 жыхароў, хлебазапасны магазін, часоўня) і маёнтак (3 двары, 16 жыхароў, вадзяны млын, лесапільня), у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1905 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 69 двароў, 457 жыхароў, у маёнтку 80 жыхароў. Працавалі кузня, вадзяны млын, лесапільня і смалакурня. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. ў Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 135 хлопчыкаў і дзяўчынак. У маёнтку быў створаны саўгас, які ў 1925 г. меў 113 дзесяцін зямлі. З 20.8.1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 92 двары, 493 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Слабодка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 621 жыхар. У 1988 г. 129 гаспадарак, 291 жыхар. Размешчаны лясніцтва, магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, 2 другія вуліцы перакрыжоўваюць яе, і адна на Пд далучаецца. На Пн кароткая вуліца праходзіць паралельна да гал. Асн. грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ўздоўж гал. вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**СМАЛЯРЫ** — вёска ў Іканскім с/с, за 47 м на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны вадаём. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).





Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 2 двары, 19 жыхароў, вадзяны млын, драўляная капліца, драўляны гаспадарскі дом, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска (7 двароў, 47 жыхароў) і маёнтак (73 жыхары, вадзяны млын, кузня, піцейны дом, часоўня), у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 11 двароў, 58 жыхароў, у маёнтку 12 жыхароў. Дзейнічаў млын. Зямля былога маёнтка была падзелена паміж сялянамі в. Іканы, Смаляры, Усохі, Божы Дар (цяпер Бярозаўшчына). З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Гарэлалугскім, з 21.8.1925 г. ў Іканскім с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім раёнах Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1. 1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1930 г. арганізаваны калгас «1-га Мая», дзейнічалі вадзяны млын з крупарушкай, кузня, сукнавальня, ваўначоска. У 1940 г. 24 двары, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У маі 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 13 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 87 жыхароў. У 1988 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, размешчаных па абодва берагі ракі. Адна плаўна выгнутая вуліца арыентавана шыротна, другая кароткая вуліца — з ПдЗ на ПнУ. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СМОЛІНА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Зембінска (прыток р. Гайна). Транспартныя сувязі па шашы Бягомль—Лагойск, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. хутар Смолін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 1 двор, 6 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Барысаўскім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 99 жыхароў. У 1930-х г. жыхары в. Смоліна і Шарстні ўступілі ў калгас «17-ы партз'езд». У 1940 г. 23 двары, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (23 двары), загубілі 3 жыхары. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 61 жыхар. У 1988 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў. Адзіная амаль мерыдыянальная вуліца арыентавана ўздоўж берага ракі, паралельна да шашы. Забудова няшчыльная, аднабаковая. Жылыя дамы драўляныя сядзібнага тыпу.

**СМОЛЛЕ** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 30 км на поўдзень ад горада і чыг. ст. Барысаў, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе праз в. Слабодка і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 24 жыхары, уладанне Дзмітравіцкай уніяцкай царквы. У 1897 г. 4 двары, 27 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 7 двароў, 42 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Забаша-



віцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 7 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 52 жыхары. У 1988 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў. Адзіная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, забудавана двухбакова, няшчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СОБАЛЕЎКА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 58 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 129 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Мажніца (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Лагойск—Бягомль, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1756 г. вёска Сабولькі, 5 дымоў, ва ўладанні Ф.Услоўскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 35 жыхароў, ва ўладанні М.Слізеня. У 1897 г. 43 двары, 275 жыхароў, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 40 двароў, 284 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — польскіх войск. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у той час вучыліся 38 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8. 1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не Мінскай (да 26.7. 1930 г.), з 21.6.1935 г. Лепельскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У 1926 г. 45 двароў, 244 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У 1960 г. 161 жыхар. У 1988 г. 19 гаспадарак, 34 жыхары. Адзіная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, паралельна да шашы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СОКАЛЫ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 20 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 31 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 12 двароў, 76 жыхароў, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 15 двароў, 86 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Маісееўшчынскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 16 двароў, 87 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 70 жыхароў. Адна крывалінейная вуліца трасіравана амаль мерыдыянальна, уздоўж берага ракі і забудавана пераважна з аднаго боку няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАІ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Лагойск-Барысаў, якая праходзіць побач з вёскай. 20 гаспадарак, 46 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. засценак, 3 двары, 18 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн.

1919 г. да чэрв. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 93 жыхары. Да гал. мерыдыянальнай вуліцы далучаецца на З кароткая вуліца. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАЙКІ** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 8 км на У ад Барысава, 4 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ ручай (прыток р. Сха), на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Мінск—Орша, з якой звязана мясц. дарогай. 110 гаспадарак, 259 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1760 г. сяло, 5 двароў, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска (30 двароў, 195 жыхароў) і хутар (4 двары, 39 жыхароў), у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1916 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 32 двары, 205 жыхароў, на хутары 9 двароў, 56 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 36 двароў, 313 жыхароў. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 65 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 31 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 12 вяскоўцаў. У 1960 г. 132 жыхары. У 1988 г. 45 гаспадарак, 122 жыхары. Размешчаны магазін. Гал. прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова. На Пн да яе далучаецца вуліца, якая праходзіць па другі бок ад ручая драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У паралельна да гал. праходзіць новая вуліца, якая забудавана 1-павярховымі мураванымі дамамі тыпу катэджаў.

**СТАРАБАРЫСАЎ** — вёска, цэнтр Прыгараднага сельсавета, за 4 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на якой утвораны вадаём. На Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Плешчаніцы, якая праходзіць побач з вёскай. 435 гаспадарак, 1258 жыхароў (2008).

У пасёлку на левым беразе р. Бярэзіна захавалася гарадзішча, пры раскопках якога знойдзены рэчы 12—13 ст. У 12—14 ст. тут размяшчаўся стараж. Барысаў, які па паданні быў пабудаваны полацкім князем Барысам. Непасрэдна да гарадзішча з паўн. боку далучаецца селішча, у час раскопак якога знойдзены кераміка, шкляныя бранзалеты, шыферныя праслiцы, жалезныя вырабы. Тут размяшчаўся пасад стараж. горада. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Стары Барысаў, 11 двароў, 77 жыхароў. У 1885 г. маёнтак, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 9 двароў, 33 жыхары, дзейнічала с.-г. вучылішча. У пач. 20 ст. на гарадзішчы пабудаваны мураваны сядзібны дом, які зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. У 1917 г. вёска, маёнтак і фальварак, 114 жыхароў. У маёнтку працавалі вадзяны млын і цагельны з-д. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. 27.5.1919 г. ў былым маёнтку арганіза-



ваны саўгас, дзейнічалі ветлячэбніца, кузня, с.-г. склад. У 1919 г. створана школа сял. моладзі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З жн. 1919 г. да мая 1920 г. акупіраваны польскімі войскамі. З 31.7.1920 г. ў БССР. 20.9.1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нац. будынку. У вёсцы размяшчалася лясніцтва. У 1922 г. адкрыты с.-г. тэхнікум (з 1930 г. заатэхнікум), які падрыхтаваў сотні спецыялістаў. Сярод выпускнікоў тэхнікума — былы міністр замежных спраў і старшыня Прэзідыума Вярх. Савета СССР А.А.Грамыка. З 20.8.1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 17.8.1963 г. ў Прыгарадным с/с. У 1937—39 г. ў адным з будынкаў пасёлка размяшчалася кантора па будаўніцтве шляхоў зносін прыгранічнай зоны. У 1939 г. на базе саўгаса была адкрыта школа фабрычна-заводскага навучання. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі маёмасць саўгаса, спалілі частку будынкаў. У вёсцы дзейнічала падп. антыфаш. група, якую ўзначальваў былы дырэктар саўгаса Т.Н.Крыуш. Падпольшчыкі збіралі разведдадзеныя аб акупантах, распаўсюджвалі сярод насельніцтва лістоўкі. Т.Н.Крыуш загінуў летам 1942 г. У цэнтры вёскі, у скверы, пахаваны 34 воіны, якія загінулі ў 1944 г. Каля 135 былых працаўнікоў саўгаса загінулі ў вайну. У памяць аб іх каля шашы Зембін—Барысаў у 1967 г. пастаўлена скульптура. Каля будынка школы-інтэрната ў 1985 г. пастаўлены помнік на ўшанаванне юнакоў і дзяўчат, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму.

У вёсцы размешчаны аграрная гаспадарка «Стары Барысаў», сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, школа-інтэрнат, дзіцячы сад, б-ка, 2 магазіны, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнік архітэктуры — сядзіба князёў Раманавых (19 ст.). Планіровачна складаецца пераважна з кароткіх крывалінейных вуліц рознай арыентацыі з агульным шыротным кірункам забудовы. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Грамадскія будынкі згрупаваны ў цэнтры. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.



*Сядзіба Раманавых у в. Старабарысаў.*

**СТАРАЯ МЁТЧА** — вёска, цэнтр Мётчанскага с/с, за 25 км на У ад Барысава, 10 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск— Орша, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Мужанка (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны вадаём. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў— Аздзяцічы, якая праходзіць побач з вёскай. 165 гаспадарак, 508 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1641 г. вёска Мёдча, 36 валок зямлі, уласнасць казны, у Вяляціцкім старостве Аршанскага павета ВКЛ. У 1755 г. 31 дым, карчма, вадзяны млын, рудня. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 44 двары, 385 жыхароў, уласнасць казны ў пажыццёвым валоданні І.Тышкевіча. У 1897 г. 49 двароў, 383 жыхары, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1900 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 122 двары, 866 жыхароў. Працавалі кузня, ваўначоска, вадзяны млын. З лют. да





ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да крас. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, у лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. На базе земскай школы была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 100 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 80 двароў, 426 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Мётча», у які ў лют. 1932 г. ўваходзілі 13 гаспадарак, працавалі вадзяны млын, лесапільня, кузня. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 466 жыхароў.

У 1988 г. 168 гаспадарак, 541 жыхар. У вёсцы размешчаны сярэдняя школа—сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Аснову гіст. планіровачнай структуры складае плаўна выгнутая амаль шыротная вуліца, якую перакрыжоўваюць 2 мерыдыянальныя вуліцы, злучаныя на Пд папярочнай вуліцай. Праект планіроўкі забудовы распрацаваны ў 1981 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры, у месцы перакрыжавання вуліц. Тут жа знаходзіцца парк. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У цэнтры вёскі ўзведзены 2-павярховыя мураваныя дамы. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**СТАРОЕ ЯНЧЫНА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 19 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая праходзіць праз вёску. 29 гаспадарак, 47 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска Янчын, 6 дымоў, у Барысаўскім старостве Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 34 двары, 248 жыхароў, вадзяны млын, уладанне кн. М.Радзівіла. У сярэдзіне 19 ст. вёска Янчын падзялілася на Янчын Стары і Янчын Новы. У 1897 г. в. Стары Янчын, 31 двор, 215 жыхароў, царква, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 40 двароў, 220 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Маісееўшчынскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 43 двары, 244 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 6 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 17 жыхароў. На паўн. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 15 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні Барысаўшчыны. У 1960 г. 287 жыхароў. У 1988 г. 50 гаспадарак, 95 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, трасіраванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага ракі і з'яўляецца адрэзкам шашы. Забудавана двухбакова, месцамі з разрывамі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры — гасп. сектар.

**СТАРЫНА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 38 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, якая прахо-



дзіць праз вёску. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

За 2 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік (53 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 41 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 24 двары, 170 жыхароў, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 28 двароў, 166 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 12.2.1935 г. ў Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 27 двароў, 143 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Старына», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 223 жыхары. У 1988 г. 29 гаспадарак, 54 жыхары (цэнтр — в. Маісееўшчына). Планіроўка Г-падобная, блізкая да мерыдыянальнага кірунку вуліца з'яўляецца працягам шашы. Да яе ўсх. боку амаль перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Забудова двухбаковая, месцамі няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СТАРЫНА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску і на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Гайна (прыток р. Бярэзіна). На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Плешчаніцы. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 5 двароў, 32 жыхары, уладанне І.Храптовіча. У 1878 г. вёска, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1908 г. ў вёсцы 10 двароў, 75 жыхароў, у аднайменным маёнтку (12 жыхароў), на хутары 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 67 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Касцюкоўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 18 двароў, 94 жыхары, на аднайменным хутары 2 двары, 22 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камсамолец», у які ў лют. 1932 г. ўваходзілі 13 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 128 жыхароў. У 1988 г. 20 гаспадарак, 43 жыхары. З 16.1.1969 г. ў Весялоўскім с/с. Меліярацыйным каналам вёска падзелена на дзве часткі, кожная з якіх мае блізкую да Г-падобнай планіроўку. Гал. вуліцы абодвух частак арыентаваны з ПнЗ на ПдУ. Забудавана пераважна двухбакова, месцамі няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 30 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бродаўка і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1774 г. вёска, 5 двароў, ва ўладанні М.Валовіча. У 1800 г. 12 двароў, 73 жыхары. У 1897 г. 31 двор, 221 жыхар, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 41 двор, 241 жыхар. З лют. да

снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. вучыліся 41 хлопчык і дзяўчынка. З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 51 двор, 237 жыхароў, на хутары 5 двароў, 20 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 6 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 11 жыхароў. У 1960 г. 248 жыхароў. У 1988 г. 38 гаспадарак, 90 жыхароў. Адзіная, плаўна выгнутая вуліца, мерыдыянальнай арыентацыі з пашырэннямі і згібамі адпаведна рэльефу забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**СТОТКАЎШЧЫНА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 55 км на ПнУ ад Барысава, 45 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Барысаў. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1777 г. засценак Статкаўшчызна, 1 дым, 0,5 валокі зямлі, у графстве Халопенічы Аршанскага павета. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 7 двароў, 62 жыхары, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 11 двароў, 70 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8. 1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 93 жыхары. У 1988 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў. Адзіная вуліца шыротнага напрамку забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТОТБЕРГ** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 55 км на ПнУ ад Барысава, 45 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 126 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Глінніца (прыток р. Сха). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Халопенічы, да якой ад вёскі ідзе прасёлачная дарога. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. вёска, 15 жыхароў мужчынскага полу, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 7 двароў, 43 жыхары, у 1917 г. 12 двароў, 85 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2.1935 г. Халопеніцкага р-на, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 17.8. 1963 г. ў Траянаўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 95 жыхароў. У 1988 г. 12 гаспадарак, 35 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана двухбакова, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**СТРАЛКАЎЦЫ** (да 1968 г. Шушпаны) — вёска ў Прыгарадным с/с, за 16 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Нача (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Кішчына Слабада—Барысаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 29 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска ў Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 10 двароў, 87 жыхароў, у 1917 г. 16 двароў, 123 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. У 1926 г. 34 двары, 198 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «17 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 106 жыхароў. У 1988 г. 46 гаспадарак, 83 жыхары. Планіровачна складаецца з двух мерыдыянальных (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) вуліц, якія праходзяць па абодвух берагах ракі і ў цэнтры аб'яднаныя дарогай. Забудова аднабаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СТРУПЕНЬ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 19 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Пліса (прыток р. Бярэзіна), на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Барысаў. 62 гаспадаркі, 119 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 17 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 15 двароў, 119 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1908 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), для якой у 1914 г. пабудаваны будынак. У 1917 г. 37 двароў, 250 жыхароў. Працавала кузня. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 351 хлопчык і дзяўчынка. З 20.8.1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 30 двароў, 256 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1-е Мая». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 13 вяскоўцаў. У час вызвалення гітлераўцы стварылі тут моцную абарону, закапалі некалькі танкаў і гарматы, а ўваход у вёску закрываў дот. Рашучым штурмам воінаў-танкістаў вёска была вызвалена ад акупантаў. У 1960 г. 420 жыхароў. У 1988 г. 94 гаспадаркі, 240 жыхароў. Ёсць магазін. Да гал. крывалінейнай шыротнай вуліцы, якая праходзіць уздоўж берага ракі, далучаюцца 2 вуліцы (адна крывалінейная, другая прамалінейная). Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Частку забудовы складаюць аднапавярховыя аднакватэрныя мураваныя дамы. Гасп. сектар — на поўначы.

**СТУДЗЁНКА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Беразіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Плешчаніцы, якая праходзіць побач з вёскай. 30 гаспадарак, 39 жыхароў (2008).






*Абеліск у в. Студзёнка ў гонар расійскіх воінаў, якія змагаліся тут у лістападзе 1812 г.*



*Помнік у в. Студзёнка ў гонар расійскіх воінаў, якія змагаліся тут у лістападзе 1812 г.*

Каля паўн. ускраіны вёскі, паміж вёскай і аўтамабільнай дарогай у в. Зембін, захаваўся курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Вядома з 16 ст. У 1582 г. сяло, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве Аршанскага павета ВКЛ. У 1670 г. 16 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 26 двароў, 210 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У вайну 1812 г. 14.11. рэшткі разгромленай арміі Напалеона падышлі да р. Бярэзіна каля вёскі, каб пераправіцца на другі бераг. Французскія салдаты разбіралі сял. хаты на будаўніцтва мастоў і такім чынам разбурылі ўсю вёску. Па загаду Кутузава авангард рас. арміі адмірала П.В.Чычагова з Пд і корпус П.Х.Вітгенштэйна з Пн атакавалі французаў. Баі вяліся да 17 ліст. Французы панеслі вял. страты. Тут на Бярэзіне была канчаткова разгромлена французская армія. Напалеон з рэшткай падначаленых вымушаны быў уцякаць з Рас. імперыі. У гонар гэтай перамогі Рас. войск у в. Студзёнка, на беразе р. Бярэзіна, у 1967 г. пастаўлены помнік — каменны валун з памятным надпісам. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, каля дарогі Барысаў—Зембін, у 1967 г. ў гонар рас. воінаў, якія змагаліся тут у ліст. 1812 г., пастаўлены абеліск. У 1997 адкрыты помнік у памяць загінуўшых воінаў арміі Напалеона. Польскія мастакі В.Косак і Ю.Фалат у 1895 г. стварылі вялікую панараму аб падзеях каля в. Студзёнка (120 метраў па кругу і 15 метраў у вышыню). У Барысаўскім краязнаўчым музеі экспануецца рэпрадукцыя ўсёй панарамы. У 1897 г. ў вёсцы 31 двор, 235 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 46 двароў, 309 жыхароў. Працавалі паравы млын і лесапільня. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. – у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Бытчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 1963 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 53 двары, 316 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Студзёнка», які ў пач. 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну 1—3-га ліп. 1941 г. на левым беразе р. Бярэзіна, каля вёскі, вяла абарончыя баі 1-я Маскоўская Пралетарская мотастралковая дывізія. Ворагу былі нанесены вял. страты. На паўд. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 152 воіны дывізіі, што загінулі ў тыя ліпеньскія дні. 30.6.1944 г. гэта ж дывізія фарсіравала р. Беразіна і вызваліла вёску. У 1988 г. 49 гаспадарак, 107 жыхароў. Ёсць магазін. Да гал., плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца 2 кароткія,



амаль паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудавана традыцыйнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТУДЗЁНКА 1** — былая вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 66 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 137 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына.

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. тут было 17 двароў, 101 жыхар, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Непадалёку знаходзіліся тры аднайменныя хутары. У 1917 г. 23 двары, 145 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Жартайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7. 1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 35 жыхароў. У 1988 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Традыцыйныя драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.



*Помнік у гонар загінуўшыхх воінаў арміі Напалеона каля в. Студзёнка.*

**СТУДЗЁНКА 2** — былая вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 65 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына.

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. хутар, 6 двароў, 32 жыхары, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 11 двароў, 75 жыхароў. Побач знаходзіўся засценак Студзёнка 3 (5 двароў, 38 жыхароў). Працавала смалакурня. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У 1940 г. 19 двароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 68 жыхароў. У 1988 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца была арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе ўсх. боку далучалася другая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**СУДОЛЬ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 18 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, да якой ад вёскі ідзе прасёлачная дарога. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. хутар казённага ведамства, 9 двароў, 89 жыхароў, у 1917 г. 13 двароў, 92 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г.





да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Жыцькаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай. з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. У 1926 г. 16 двароў, 88 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная Судоль». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. каля вёскі ў паветраным баі быў збіты сав. лётчык, які пахаваны за 0,15 км на Пд ад вёскі, каля лесу. У 1960 г. 124 жыхары. У 1988 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар. Гал. вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — адасоблены ўчастак забудовы.

**СЫЧ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 28 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і У цячэ р. Сыч (прыток р. Чапа), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць побач з вёскай. 34 гаспадаркі, 62 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 37 жыхароў, у складзе маёнтка Крушына, уладанне памешчыцы А.Мезенцавай. У 1897 г. 18 двароў, 113 жыхароў, у Беліцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 20 двароў, 162 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. Паводле перапісу 1926 г. 33 двары, 154 жыхары. У 1940 г. 60 двароў, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (59 двароў), загубілі 80 жыхароў і 18 вяскоўцаў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вызвалення адбудавана. У 1988 г. 52 гаспадаркі, 110 жыхароў. Планіроўка ў адну вуліцу, трасіраваную з ПнЗ на ПдУ, паралельна да шашы і забудаваную шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 63 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 57 гаспадарак, 117 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска. 26 двароў, 204 жыхары, драўляная капліца, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Латыгаль. У 1897 г. вёска (30 двароў, 187 жыхароў, магазін, царква) і маёнтак (3 двары, 18 жыхароў) у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 53 двары, 317 жыхароў, у маёнтку 48 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. пад акупацыяй ням.-фаш. захопнікаў. У 1960 г. 28 жыхароў. У 1988 г. 89 гаспадарак, 232 жыхары. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, аддз. сувязі. Планіроўка набліжана да Г-падобнай. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На Пд да яе перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Паралельна да гал. на З праходзіць кароткая вуліца, на перакрыжаванні вуліц — невял. сажалка. Уздоўж гал. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Забудавана вёска двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 53 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 125 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Смольніца, якая ўпадае ў воз. Палік, а на Пн — яе прыток р. Мошка. Вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 1 гаспадарка, 5 жыхароў (2008).



Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 17 жыхароў, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 13 двароў, 105 жыхароў, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. Працаваў вадзяны млын. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Карсакавіцкім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 29 двароў, 150 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сялец», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, працавалі 2 кузні, ваўначоска. У 1940 г. 36 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 20 жыхароў. Каля воз. Багун, што непадалёку ад вёскі, была стаянка партыз. брыгады дзядзькі Колі. За 1,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Улессе, у 3 магілах пахаваны 63 партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў, а таксама 94 жыхары, загубленыя гітлераўцамі. У 1960 г. 75 жыхароў. У 1988 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. Традыц. драўляныя дамы сядзібнага тыпу пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**СЯЛІТРАНКА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мясцовасць забалочаная, на Пд цячэ р. Неманічка (прыток р. Бярэзіна) і праходзяць меліярацыйныя каналы. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Орша. 64 гаспадаркі, 139 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 121 жыхар, праваслаўная царква Пятра і Паўла, вадзяны млын, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. в. Селітрэннікі (32 двары, 217 жыхароў) і аднайменны хутар (1 двор, 7 жыхароў), у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 53 двары, 312 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 57 двароў, 301 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 411 жыхароў. У 1988 г. 85 гаспадарак, 208 жыхароў. Ёсць магазін. Планіровачна ўяўляе прамавугольную сетку вуліц, гал. з якіх арыентаваны з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, месцамі няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.



*М.М.Клімковіч.*

Вёска — радзіма бел. пісьменіка М.М. Клімковіча.

**СЯМЕНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 18 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рова (прыток р. Бярэзіна). На Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць побач з вёскай. 47 гаспадарак, 82 жыхары (2008).

Вядома з пач. 17 ст. У 1609 г. тут быў маёнтак Семянькоўскага ў ВКЛ. Пад 1776 г. ўпамінаецца як р. Сяменкаўскае ў матэрыялах аб размежаванні сёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 231 жыхар. У 1890 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 18 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак), пераўтвораная ў 1912 г. ў 1-класнае нар. вучылішча. У 1897 г. 68 двароў, 456 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 88 двароў, 531 жыхар. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупа-





цыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. У 1922 г. арганізавана калектыўная гаспадарка «Чырвоныя Сямёнкавічы». З 20.8.1924 г. ў Забашавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 88 двароў, 469 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 7 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 26 вяскоўцаў. У 1960 г. 512 жыхароў. У 1988 г. 98 гаспадарак, 190 жыхароў. З 31.3.1964 г. ў Чарневіцкім с/с. Да двух бакоў гал., крываліпейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца 3 крывалінейныя вуліцы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Невял. частка забудовы размешчана на У ад шашы. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ТАРАСАЎКА** — вёска ў Неманіцкім с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. хутар, 2 двары, 29 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Неманіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 5 двароў, 23 жыхары. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 41 жыхар. У 1988 г. 5 гаспадарак, 14 жыхароў. Адзіная кароткая вуліца арыентавана мерыдыянальна, уздоўж берага ракі і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАРАСІКІ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 19 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес, мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Перасады і далей па шашы Мінск—Барысаў. 19 гаспадарак, 54 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Да гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца з зах. боку 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ТАРТАК** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 65 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 136 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Мажніца (прыток р. Бярэзіна), на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск— Бягомль. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. вёска, 18 жыхароў. У 1897 г. 8 двароў, 61 жыхар, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 12 двароў, 65 жыхароў. Працавалі млын і кузня. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Нядальскім с/с Бягомльскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай, з 21.6.1935 г. ў Бягомльскім р-не Лепельскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мсціжскім с/с Барысаўскага р-на. Паводле перапісу 1926 г. 11 двароў, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 88 жыхароў. У 1988 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. Адзіная шыротная вуліца, падзеленая



ракой на 2 часткі, забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТРАЯНАЎКА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 60 км на ПнУ ад Барысава, 40 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 131 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і У нізінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Халопенічы, якая праходзіць праз вёску. 134 гаспадаркі, 369 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло, 44 дымы, у графстве Халопенічы Аршанскага павета ВКЛ, уладанне Л.Храптовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 50 двароў, 236 жыхароў, драўляная капліца. У 1876 г. засн. маёнтак Траянаўка, дзе была карчма. У 1897 г. 358 жыхароў, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 81 двор, 390 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У час польска-сав. вайны ў сак. 1919 г. непадалёку праходзіла лінія фронту. З 29.8. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. У 1921 г. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8. 1924 г. цэнтр сельсавета Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. Крупскага, з 12.2. 1935 г. Халопеніцкага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8.1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. Барысаўскага р-на, з 17.8. 1963 г. цэнтр Траянаўскага с/с. Паводле перапісу 1926 г. 88 двароў, 464 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся гітлераўскі гарнізон, які ахоўваў шашу Барысаў—Лепель, а таксама падыходы да чыгункі. З восені 1942 г. дзейнічала падп. група (узначальвала Т.Р.Лапо). У склад групы ўваходзілі настаўніцы Д.С.Майсеенка і Я.П.Грэбень, загадчыца фельч.-акушэрскім пунктам у в. Пагарэлае В.Ф.Шкурко і інш. Падпольшчыкі збіралі звесткі аб гітлераўцах, медыкаменты і перадавалі іх партызанам, распаўсюджвалі лістоўкі. У скверы, каля школы ў 1968 г. пастаўлены абеліск у памяць аб 84 земляках, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 415 жыхароў. У 1988 г. 147 гаспадарак, 433 жыхары.

У вёсцы размешчаны ААТ «БАТЭ» Траянаўка», сярэдняя школа—сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Аснову планіровачнай структуры складае крыжападобная схема вуліц. Ролю кампазіцыйнай восі выконвае шаша, арыентаваная амаль шыротна, якую перакрыжоўвае вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Грамадскі цэнтр арганізаваны ў месцы перакрыжавання вуліц. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. У зоне грамадскага цэнтра ўзведзены мураваны двухпавярховы дом. Гасп. сектар — на паўн. і паўд.-зах. ускраінах.

**УБОРАК** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Мрай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мсціж і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. вёска, 9 двароў, 48 жыхароў, карчма, уладанне Т.Вашамірскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1908 г. 36 двароў, 273 жыхары, у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 50 двароў, 308 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел.




ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай у 1920 г. была адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не Мінскай (да 26.7.1930 г.) і Лепельскай (з 21.6. 1935 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 60 двароў, 271 жыхар. У 1940 г. 66 двароў, 337 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску (66 двароў), загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 224 жыхары. У 1988 г. 28 гаспадарак, 62 жыхары. Да шыротнай, плаўна выгнутай вуліцы на З далучаецца кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УЗНАЦКІ ВУГАЛ** — вёска ў Зачысценскім с/с, за 39 км на ПнУ ад Барысава, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Зачысце і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 7 жыхароў, уладанне барысаўскай каталіцкай царквы. У 1917 г. в. Узнацкі Вугал (яна ж Федзькін Вугал), 22 двары, 118 жыхароў. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г., БССР. З 1924 г. ў Зачысценскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 160 жыхароў. У 1988 г. 21 гаспадарка, 44 жыхары. Адзіная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УНТАЛЬЯНКА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 26 км на ўсход ад Барысава, 19 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мясцовасць забалочаная. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Вяляцічы, якая праходзіць побач з вёскай. 30 гаспадарак, 58 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска, 60 жыхароў мужчынскага полу, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1888 г. пачала дзейнічаць школа граматы, у якой у 1890 г. вучыліся 15 хлопчыкаў. У 1897 г. 22 двары, 175 жыхароў, у 1917 г. 30 двароў, 257 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. У 1919 г. пачаліся заняткі ў прац. школе 1-й ступені, у якой у 1920 г. вучыліся 69 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У 1926 г. пабудаваны для школы ўласны будынак. У 1921 г. адкрыта крама. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 56 двароў, 282 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праца», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 10 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 8 жыхароў. З 1954 г. ў Вяляціцкім, з 1982 г. — зноў у Мётчанскім сельсаветах. У 1960 г. 254 жыхары. У 1988 г. 54 гаспадаркі, 108 жыхароў. Планіровачна арганізавана ў 2 шыротныя вуліцы, трасіраваныя паралельна да шашы і звязаныя паміж сабой папярочнымі вуліцамі. Забудова драўляная, пераважна двухбаковая, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**УПІРЭВІЧЫ** — вёска ў Перасадскім с/с, за 11 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнін-



ны, на З і Пн цячэ р. Пліса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. У 1586 г. ўпамінаюцца грунты Упіраўскія (раён р. Плісы), якія межавалі з маёнткам Зарэчча Смалявіцкай вол. ВКЛ. У 1774 г. фальварак Упіровічы быў куплены Я.Аскольдам, уваходзіў у Барысаўскую вол. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 29 двароў, 180 жыхароў, драўляная царква Св. Троіцы, вадзяны млын, сукнавальня, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска (17 двароў, 80 жыхароў, вадзяны млын) і маёнтак (16 жыхароў) у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. З лют. да снеж. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Перасадскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У маёнтку Упірэвічы размяшчалася Глівінскае лясніцтва. У Вял. Айч. вайну з 1.7. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 70 жыхароў. У 1988 г. 9 гаспадарак, 21 жыхар. Гал. шыротная вуліца забудавана з паўн. боку. Да яе пад вуглом далучаецца другая вуліца. Частка забудовы размешчана бессістэмна. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**УСОХІ** — вёска ў Іканскім с/с, за 48 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 119 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Мрай (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны штучны вадаём. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. Упершыню ўпамінаецца пад 1718 г. ў матэрыялах аб размежаванні маёнткаў Скуплін і Будзенічы, у які ўваходзіла сяло Усохі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, 1 двор, 10 жыхароў. У 1897 г. вёска, 16 двароў, 104 жыхары, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 17 двароў, 107 жыхароў. З лют да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Гарэлалугскім, з 21.8.1925 г. Іканскім с/с Зембінскага, з 22.9.1927 г. Бягомльскага р-на гэтай акругі, Мінскай акругі (з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г.), Лепельскай акругі (з 21.6.1935 г.), з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл., з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 24 двары, 119 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, дзейнічалі 2 кузні. У 1940 г. 24 двары, 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 25 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 110 жыхароў. У 1988 г. 26 гаспадарак, 42 жыхары. Планіроўка Т-падобная. Перпендыкулярна да гал. шыротнай з З праходзіць кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**УЦЕХА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 53 км на Пн ад горада і чыг. с. Барысаў, 124 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. У цэнтры вёскі — сажалка, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 25 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Латыгаль, уласнасць казны. У 1897 г. вёска (11 двароў, 58 жыхароў), маёнтак (3 двары, 23 жыхары), фальварак Савінскага (2 двары, 11 жыхароў) і

фальварак Ясінскага (2 двары, 10 жыхароў), у Красналукскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 78 жыхароў, у маёнтку 30 жыхароў. У спісе населеных пунктаў упамінаецца таксама хутар Уцеха (1 двор, 20 жыхароў), які знаходзіўся непадалёку. З лют. да ліст. 1918 г. на тэр., акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У лют. 1943 г. ў час карнай блакады каля вёскі праходзіла лінія абароны партыз. брыгады імя Кірава. Некалькі дзён тут ішлі цяжкія баі. У 1960 г. 66 жыхароў. У 1988 г. 34 гаспадаркі, 64 жыхары. Адзіная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ФРАЛОЎКА** — вёска ў Траянаўскім с/с, за 61 км на ПнУ ад Барысава, 41 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Мінск—Орша, 132 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нача (прыток р. Бобр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Маісееўшчына—Халопенічы. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Хролаўка, 19 дымоў, уладанне Л.Храптовіча, у графстве Халопенічы Аршанскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 15 двароў, 94 жыхары. У 1897 г. 40 двароў, 306 жыхароў, у Халопеніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 64 двары, 360 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Траянаўскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Крупскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім раёнах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Барысаўскім р-не, з 18.8.1963 г. ў Траянаўскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Кастрычніка», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 233 жыхары. У 1988 г. 46 гаспадарак, 98 жыхароў. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і з'яўляецца працягам дарогі ў в. Траянаўка. Да яе на Пд і Пн перпендыкулярна далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудова драўляная, двухбаковая, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ХАЛМОЎКА** — вёска ў Мсціжскім с/с, за 63 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 134 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Лагойск—Бягомль. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1721 г. тут быў маёнтак Холмаўка, уладанне Віленскага каталіцкага епіскапата. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Холмаўка (яна ж Жданаўка), 8 двароў, 58 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1890 г. адкрыта школа граматы, ператвораная ў 1912 г. ў 1-класнае народнае вучылішча. У 1897 г. вёска (48 двароў, 358 жыхароў, часоўня) і маёнтак (22 жыхары), у Мсціжскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Даўнія спрэчкі вяскоўцаў з памешчыкам наконт карыстання лесам закончыліся тым, што ў маі 1905 г. сяляне падзялілі паміж сабой памешчыцкі лес. У 1917 г. ў вёсцы 64 двары, 392 жыхары, у маёнтку 9 жыхароў. Зямля, якая належала мясц. памешчыку, была падзелена паміж сялянамі вёсак Халмоўка, Макаўе, Валокі, Загор'е. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел.



ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе земскай была створана прац. школа 1-й ступені, у 1920 г. 34 вучні. З 20.8. 1924 г. ў Мсціжскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. ў Бягомльскім р-не Мінскай (да 26.7.1930 г.), Лепельскай (з 21.6. 1935 г.) акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 20.1. 1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 79 двароў, 401 жыхар. У 1940 г. 75 двароў, 375 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Барысаўска-Бягомльскай партыз. зоны. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 263 жыхары. У 1988 г. 56 гаспадарак, 98 жыхароў. Паралельна да прамалінейнай гал. вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна, праходзіць плаўна выгнутая вуліца. Іх аб'ядноўвае кароткая папярочная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ХАЎХОЛІЦА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 28 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Нача (прыток р. Бярэзіна), на якой утвораны вадаём, і праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нача. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Хаўхоліца. 179 гаспадарак, 440 жыхароў (2008).

За 1 км на У ад вёскі захаваўся курганны могільнік (12 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1774 г. ўпамінаецца як сяло Хаўхолец, 23 двары, уладанне царквы. Крыху пазней вёска перайшла ва ўладанне Л.Храптовіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло Хальхольцы Вялікія (24 двары, 151 жыхар, драўляная праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква, вадзяны млын, сукнавальня) і аднайменная вёска (5 двароў, 44 жыхары). У 1897 г. адзіны населены пункт — сяло Халхольцы. 69 двароў, 612 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета У 1909 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча), для якой у 1913 г. пабудавана памяшканне. У 1917 г. 114 двароў, 740 жыхароў. Працаваў вадзяны млын, маслабойня, кузня, цагельня. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У 1920 г. на базе ранейшай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 218 дзяцей. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Барысаўскага, з 21.8.1925 г. Зембінскага р-наў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на Мінскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. 16.7.1954 г. далучана да Кішчынаслабодскага с/с, з 17.8.1963 г. зноў цэнтр сельсавета. З 8.2.2010 г. у Весялоўскім с/с. Паводле перапісу 1926 г. 140 двароў, 767 жыхароў, працавалі школа, паравы млын (з 1920 г.), ваўначоска і маслабойня. 10.8.1924 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва «Зара», у 1930 г. — калгас «Перадавік», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі пахаваны 5 сав. лётчыкаў, якія загінулі ў 1944 г., і 6 мірных жыхароў, загубленых акупантамі. У памяць аб 198 земляках з вёсак сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1967 г. ў скверы, каля Дома культуры, пастаўлены абеліск з барэльефнымі выявамі сав. воінаў. У 1960 г. 616 жыхароў. У 1988 г. 202 гаспадаркі, 573 жыхары.

У вёсцы размешчаны сярэдняя школа—сад, амбулаторыя, бальніца, аптэка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін, комплексны прыёмны пункт бытавога абслугоўвання насельніцтва, б-ка, мага-





зін. Генплан распрацаваны ў 1978 г. бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Сучаснае будаўніцтва вядзецца на У. Гал. крывалінейную вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі перакрыжоўваюць другарадныя вуліцы. Прадугледжваецца развіццё гэтай планіровачнай структуры і пераўтварэнне яе ў прамавугольную, стварэнне новай кампазіцыйнай восі, перпендыкулярнай да сучаснай гал. вуліцы. Грамадскі цэнтр на Пн, на беразе вадаёма. Жылая забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На У пабудаваны двухпавярховыя і аднапавярховыя мураваныя дамы. На Пн і У — гасп. сектар.

**ХОНАВА** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 50 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мясцовасць забалочаная, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Клетнае і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1897 г. 6 двароў, 50 жыхароў, у Красналукскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. вёска Хонава 1 (8 двароў, 76 жыхароў) і хутар Хонава 2 (5 двароў, 29 жыхароў). З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 19.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. З 20.8.1924 г. ў Жортайскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2. 1935 г. зноў у Халопеніцкім раёнах, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 8 двароў, 71 жыхар. У 1940 г. 16 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 28.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1960 г. 64 жыхары. У 1988 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар. Адзіная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХРОСТ** — вёска ў Маісееўшчынскім с/с, за 33 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Маісееўшчына, да якой ад вёскі вядзе прасёлачная дарога. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 28 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. вёска, 23 двары, 170 жыхароў, у Зачысцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 32 двары, 197 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. З 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, потым у БССР. 1.10.1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучаліся 81 хлопчык і дзяўчынка. З 20.8.1924 г. ў Баранскім с/с Халопеніцкага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 8.7.1931 г. ў Барысаўскім, з 12.2.1935 г. зноў у Халопеніцкім р-не, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл., з 26.8. 1959 г. ў Маісееўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Барысаўскім р-не. Паводле перапісу 1926 г. 37 двароў, 239 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Запавет Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 126 жыхароў. У 1988 г. 30 гаспадарак, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з двух паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, уздоўж абодвух берагоў ракі. У цэнтры вуліцы злучаны дарогай з мастом праз раку. Забудова пераважна аднабаковая, месцамі няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.



**ЧАРНЕВІЧЫ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ рака Чапа (прыток р. Бярэзіна) з прытокам — р. Сыч. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, да якой ад вёскі вядзе прасёлачная дарога. 132 гаспадаркі, 337 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1771 г. вёска, 19 двароў, 157 жыхароў, ва ўладанні Я.Жыжэмскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 22 двары, 165 жыхароў, ва ўладанні І.Сялінскага. У сярэдзіне 19 ст. частка вёскі была ў складзе маёнтка Ніўкі (уладальнік Э.Ваньковіч), другая частка — у складзе маёнтка Крушына (уладальніца А.Мезенцава). У 1884 г. адкрыта школа граматы (у 1890 г. вучыліся 17 хлопчыкаў), пераўтвораная ў 1903 г. ў 1-класнае нар. вучылішча. У 1897 г. вёска (63 двары, 388 жыхароў), школа граматы, хлебазапасны магазін і вадзяны млын (1 двор, 10 жыхароў), у Бытчанскай воласці Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 86 двароў, 519 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Непадалёку, па р. Бярэзіна ў час польска-сав. вайны праходзіла лінія фронту. Тут у маі 1920 г. адбываліся жорсткія баі. 50-я брыгада 16-й арміі пераправілася праз раку і вызваліла в. Чарневічы. Затым вёска некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Канчаткова вызвалена ў чэрв. 1920 г. З 20.8.1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Некаторы час — цэнтр Чарневіцкага с/с размяшчаўся ў маёнтку Шабынькі, а затым быў перанесены ў в. Чарневічы. З 8.2.2010 г. ў Глівінскім с/с. На базе ранейшай у 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. вучыліся 110 дзяцей. Паводле перапісу 1926 г. 90 двароў, 485 жыхароў. У 1930-х г. арганізаваны калгасы «Усход сацыялізму» і «Роза Люксембург», у якіх у лют. 1932 г. было адпаведна 33 і 28 гаспадарак. У 1940 г. 95 двароў, 475 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З зімы 1942 г. дзейнічала антыфаш. падп. група, якую ўзначальваў завуч Шабынькаўскай школы А.З.Гаўрусёў. У наваколлі дзейнічала партыз. брыгада імя Шчорса. У студз. 1943 г. гітлераўцы спалілі 90 двароў, загубілі 50 жыхароў. У цэнтры вёскі пахаваны 17 воінаў і партызан, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. У 1967 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск, на якім пазначаны таксама прозвішчы 244 землякоў, што загінулі ў барацьбе супраць фашызму. Пасля вайны адбудавана. У 1957 г. на базе калгаса створаны саўгас імя В.І.Чапаева, у які ўвайшла і вёска Чарневічы.

У вёсцы размешчаны падсобная сельская гаспадарка «Чарневічы» ААТ «Барысаўскі завод агрэгатаў», сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Гал. крывалінейная вуліца з'яўляецца працягам дарогі да шашы, мае амаль шыротную арыентацыю. У месцы згібу гэтай вуліцы яе перакрыжоўвае другая крывалінейная вуліца. Паралельна да гэтых вуліц трасіраваны 2 кароткія вуліцы. У месцы іх злучэння склалася плошча, вакол якой арганізаваны грамадскі цэнтр. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1976 г. Бел. навук.-даследчым і праектным ін-там па будаўніцтве ў вёсцы. Жылая забудова — пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Узведзены таксама двухпавярховы мураваны дом. Новая вуліца (Маладзёжная), якая пачынаецца ў цэнтры, трасіравана ў паўн. напрамку і забудавана аднапавярховымі мураванымі дамамі. Гасп. сектар — на Пн і З.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-маёра С.І.Чарняка.

**ЧМЯЛІ** — вёска, у Зембінскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ р. Зембінска (прыток р. Гайна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Плешчаніцы, да якой ад вёскі ідзе мясц. дарога. 16 гаспадарак, 39 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1777 г. сяло, 12 дымоў, уладальнік Л.Храптовіч, у графстве Халопенічы. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 54 жыхары. У 1897 г. 26 двароў, 186 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1910 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. 29 двароў, 166 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. На базе ранейшай у 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 46 вучняў. У жн. 1920 г. за 0,5 км ад вёскі ў былым маёнтку арганізаваны саўгас «Сержпутова». Гаспадарка займалася нарыхтоўкай насення для мясц. насельніцтва. З 20.8. 1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 55 двароў, 199 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «2-гі з'езд Саветаў». У 1940 г. 52 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Акупанты вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 32 вяскоўцы. Пасля вайны часткова адбудавана. У 1960 г. 108 жыхароў. У 1988 г. 29 гаспадарак, 60 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана і забудавана двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧОРНЫ ВОСАЎ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 35 км на У ад Барысава, 106 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Вяляцічы, якая праходзіць побач з вёскай. 25 гаспадарак, 44 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 4 двары, 25 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 7 двароў, 80 жыхароў, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 21 двор, 133 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мётчанскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 27 двароў, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 7 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 26 жыхароў. У 1960 г. 145 жыхароў. У 1988 г. 35 гаспадарак, 75 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да шашы. Забудавана пераважна з аднаго боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ГАРА** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 37 км на У ад Барысава, 12 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 52 жыхары. У 1988 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіроўка ў адну шыротную вуліцу, забудаваную з паўн. боку драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 10 км на З ад горада і чыг. ст. Барысаў, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Калпеніца (прыток р. Бродня), на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Орша. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Па с.-г. перапісу 1926 г. хутар, 1 двор. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1988 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары. Планіроўка ў адну крывалінейную вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЭРНЕЎКА** — вёска ў Аздзяціцкім с/с, за 38 км на ПдУ ад Барысава, 32 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на З яе прыток — р. Бобр, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Чэрнева. 39 гаспадарак, 71 жыхар (2008).

Вядома з 19 ст. У 1854 г. тут засн. металургічны з-д, на якім у 1861 г. працавалі 159 рабочых. Непадалёку знаходзіўся маёнтак, дзе з 1874 г. працаваў лесапільны з-д (у 1884 г. — 30 рабочых). У 1870 г. вёска, 11 жыхароў мужчынскага полу, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1885 г. ў вёсцы дзейнічалі піцейны дом, малітоўная школа. У 1897 г. населены пункт з'яўляўся казённай калоніяй 4-га Бабруйскага лясніцтва (63 двары, 420 жыхароў, 3 крамы, малітоўная школа, піцейны дом). Побач былі фальварак (6 двароў, 46 жыхароў, ганчарны з-д, крамы) і салдацкі хутар (1 двор, 7 жыхароў). З 1908 г. мястэчка. У 1912 г. пачала дзейнічаць школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў мястэчку 96 двароў, 547 жыхароў, у маёнтку 14 жыхароў. Працавалі млын, кузня і ганчарны з-д. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. У час польска-сав. вайны 1919—20 гг. у прыфрантавой паласе. З 20.8. 1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 56 двароў, 242 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Батрак», працавалі паравы млын, лесапільня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі «Баграціён» пры фарсіраванні Бярэзіны і авалодванні 600-мятровым мостам (побач з вёскай), які спрабавалі знішчыць гітлераўцы, вызначыліся воіны-сапёры Г.В.Аўчыннікаў і Е.В.Анісімаў, камандзір аддзялення ст. сяржант Я.А.Бікбаў, сяржант С.А.Федарэнка, аўтаматчык 26-й танкавай брыгады 2-га Тацінскага корпуса радавы А.А.Рабаў. Усім ім было прысвоена званне Герояў Сав. Саюза. У 1960 г. 327 жыхароў. У 1988 г. 76 гаспадарак, 162 жыхары. Размешчаны магазін. Да гал. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаюцца кароткія папярочныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*С.І.Чарняк.*

**ШАБЛІНШЧЫНА** — вёска ў Забашавіцкім с/с, за 33 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Забашавічы. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак, 2 двары, 15 жыхароў, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 6 двароў, 36 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 10.1.1929 г. ў Лазінскім нац. польскім с/с Барысаўскага р-на Мінскай акругі





(да 26.7.1930 г.), з 23.8.1937 г. ў Забашавіцкім с/с, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 29 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 1.7.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 50 жыхароў. У 1988 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Адзіная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да дарогі і забудавана двухбакова, шчыльна, жылымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАБЫНЬКІ** — вёска ў Глівінскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ р. Чапа (прыток р. Бярэзіна). На З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць побач з вёскай. 42 гаспадаркі, 85 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 16 двароў, 120 жыхароў, карчма, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць, у Ігуменскім павеце. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Калюжыцы, уладанне К.Ваньковіча. У 1897 г. 39 двароў, 234 жыхары, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. ў вёсцы 37 двароў, 233 жыхары, у фальварку ў 1921 г. было 25 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7. 1920 г. ў БССР. У 1921 г. адкрыта працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. было 67 вучняў. З 20.8. 1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага раёна Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў вёсцы 44 двары, 242 жыхары, у фальварку 5 двароў, 23 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоны баец», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 4 вяскоўцаў. У 1988 г. 63 гаспадаркі, 121 жыхар. Ёсць магазін. Да вуліцы, трасіраванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага ракі, на У пад вуглом далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На злучэнні вуліц размешчаны грамадскія будынкі. На Пд — гасп. сектар.

**ШАРСНІ** — вёска ў Зембінскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Зембінка (прыток р. Гайна), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Бягомль—Лагойск, да якой ад вёскі вядзе праз в. Смоліна прасёлачная дарога. 22 гаспадаркі, 62 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. вёска Міцаўшчына, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. в. Міцаўшчына (яна ж Шарстні), 4 двары, 28 жыхароў. У 1917 г. в. Мыцаўшчына 1 (20 двароў, 127 жыхароў) і сяленне Мыцаўшчына 2 (3 двары, 20 жыхароў). З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у жн. 1913 г. — ліп. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 18 двароў, 105 жыхароў. У 1934 г. жыхары вёсак Шарстні і Смоліна арганізавалі калгас «17-ы партз'езд». У Вял. Айч. вайну з 30.6.1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 9 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 23 жыхары. У 1960 г. 167 жыхароў. У 1988 г. 33 гаспадаркі, 68 жыхароў. Да мерыдыянальнай крывалінейнай вуліцы, якая трасіравана ўздоўж берага ракі, далучаецца з У кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ШОБІКІ** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 35 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Ба-



рысаў, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна). На З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Чэрнева, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. ўпамінаецца як засценак, у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. казённы хутар 4-га Барысаўскага лясніцтва, 4 двары, 32 жыхары. У 1917 г. 9 двароў, 70 жыхароў. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 19 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 98 жыхароў. З 1963 г. ў Мётчанскім с/с. У 1988 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары. Планіровачна арганізавана ў шыротную вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЫЛІНА** — вёска ў Лошніцкім с/с, за 15 км на У ад Барысава, 1 км ад чыг. ст. Навасады на лініі Мінск—Орша, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Орша, да якой ад вёскі ідзе прасёлачная дарога. 63 гаспадаркі, 149 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 5 двароў, 35 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 8 двароў, 68 жыхароў, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 16 двароў, 105 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. 1.9.1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у той час было 28 вучняў, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Вяліканегнавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.1.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. ў в. Вялікае Шыліна — 15 двароў, 91 жыхар, на хутары Малое Шыліна — 4 двары, 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў вёсках Вялікае Шыліна—71, Малое Шыліна — 65 жыхароў. З 17.8.1963 г. ў Лошніцкім с/с. Зараз адзін населены пункт Шыліна. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з паўн. і паўд. частак, падзеленых сажалкай, кожная з якіх мае планіроўку, блізкую да Т-падобнай. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЦЕШКАЎКА** — вёска ў Глівінскім с/с, за 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мясцовасць забалочаная, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Барысаў—Беразіно, да якой ад вёскі ідзе мясц. дарога. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. сядзіба, 4 двары, 33 жыхары, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета. У 1917 г. 13 двароў, 83 жыхары. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2. 1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 ў Глівінскім с/с. У 1926 г. 17 двароў, 95 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Усход сацыялізму», з цэнтрам у в. Чарневічы, дзейнічала кузня. У 1940 г. 20 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 57 жыхароў. Пасля вызвалення адбудавана. Планіроўка ў адну крывалінейную вуліцу, трасіраваную з ПдЗ на ПнУ і забу-





даваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦІМКІ** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 15 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Кішчына Слабада—Барысаў, якая праходзіць праз вёску. 34 гаспадаркі, 87 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. пасёлак, 13 дымоў, уласнасць казны, у Барысаўскім старостве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 15 двароў, 116 жыхароў, уладанне кн. М.Радзівіла. У 1897 г. 19 двароў, 140 жыхароў, у Бытчанскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 24 двары, 175 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. У кастр. 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 76 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Кішчынаслабодскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. Паводле перапісу 1926 г. 31 двор, 207 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, у якім у лют. 1932 г. аб'ядноўваліся 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 26 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 4 вяскоўцаў. На могілках у брацкай магіле пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. У скверы ў 1965 г. пастаўлены абеліск у гонар 40 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1960 г. 214 жыхароў. У 1988 г. 53 гаспадаркі, 104 жыхары. Ёсць магазін. Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца арыентавана амаль мерыдыянальна і з'яўляецца працягам шашы. 2 кароткія папярочныя вуліцы злучаюць яе з вуліцай, якая ідзе паралельна да гал. Забудова аднабаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЮЗАФОВА** — вёска ў Прыгарадным с/с, за 20 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Сха (прыток р. Бярэзіна), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Маісееўшчына. 71 гаспадарка, 131 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 25 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 152 жыхары, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 25 двароў, 194 жыхары, на аднайменным хутары 2 двары, 9 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. было 28 вучняў, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Бродаўскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. З 8.2.2010 г. ў Прыгарадным с/с. У 1926 г. ў вёсцы Юзэфова (яна ж Беразніца), 66 двароў, 362 жыхары, на хутары — 2 двары, 9 жыхароў. У пач. 1920 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 2 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 9 вяскоўцаў. У 1960 г. 306 жыхароў. У 1988 г. 121 гаспадарка, 316 жыхароў. Адна працяглая, крывалінейная вуліца, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага ракі і шашы. Да яе далучаюцца завулкі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З паміж забудовай і дарогай — гасп. сектар.



**ЮШКЕВІЧЫ** — былая вёска ў Глівінскім с/с, за 4 км на Пд ад горада і чыг. ст. Барысаў, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Беразіна (прыток р. Днепр), на Пд — яе прыток р. Пліса. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіла побач з вёскай.

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1755 г. да толькі што пабудаванай Глівінскай царквы была далучана ў якасці ф-ла Юшкавіцкая царква. У 1773 г. ўпамінаецца як сяло, 24 дымы, 11 валок зямлі, млын, у складзе маёнтка Гліўні, уладанне царквы. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 29 двароў, 131 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 154 жыхары, капліца, у Глівінскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 42 двары, 269 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Глівінскім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. У 1926 г. 60 двароў, 289 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «1-га Мая», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 30.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 6 і вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 20 вяскоўцаў. Пры вызваленні вёскі вызначыўся аўтаматчык С.А.Федарэнка. Пераправіўшыся цераз Бярэзіну каля вёскі, ён гранатамі знішчыў варожыя агнявыя пункты, што дало магчымасць батальёну паспяхова фарсіраваць раку. За гэты подзвіг яму прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У 1960 г. 434 жыхары. У 1988 г. 160 гаспадарак, 446 жыхароў. З 1994 у межах г. Барысаў.

**ЯБЛАНКА** — вёска ў Вяляціцкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Барысава, 15 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бобр (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 2 двары, 20 жыхароў, уласнасць казны, у пажыццёвым уладанні І.Тышкевіча. У пач. 19 ст. тут ужо былі вёска і мястэчка, ва ўладанні М.Корсака. У вайну 1812 г. мястэчка разбурана, а вёска спалена французскімі войскамі. У 1897 г. вёска (16 двароў, 134 жыхары) і засценак (2 двары, 20 жыхароў), у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. вёскі Яблaнка Вялікая (25 двароў, 174 жыхары) і Яблaнка Малая (2 двары, 13 жыхароў). З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. Аздзяціцкага с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. вёскі Вялікая Ябланка (32 двары, 168 жыхароў), у Вяляціцкім с/с, і Малая Ябланка (2 двары, 16 жыхароў), у Аздзяціцкім с/с. У 1932 г. ў в. Вялікая Ябланка арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. ў в. Вялікая Ябланка 182, у в. Малая Ябланка — 3 жыхары. У 1966 г. в. Малая Ябланка была далучана да в. Мулішча Аздзяціцкага с/с. Вёска Вялікая Ябланка стала называцца в. Ябланка. У 1988 г. 32 гаспадаркі, 69 жыхароў. Да гал. плаўна выгнутай мерыдыянальнай вуліцы з З і У далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯБЛАЧЫНА** — вёска ў Весялоўскім с/с, за 27 км на Пн ад горада і чыг. ст. Барысаў, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нача і Бярэзіна. Транспартныя сувязі па мясц. да-





розе і далей па шашы Хаўхоліца—Барысаў. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак, 4 двары, 53 жыхары, у Кішчынаслабодскай вол. Барысаўскага павета. У 1917 г. 14 двароў, 107 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да мая 1920 г. — Польшчы. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Хаўхоліцкім с/с Барысаўскага, з 21.8. 1925 г. Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. 16.07.1954 г. далучана да Кішчынаслабодскага, з 17.8.1963 г. — зноў у Хаўхоліцкім с/с. З 8.2.2010 г. ў Весялоўскім с/с. 21.5. 1925 г. заснавана меліярацыйнае т-ва. Паводле перапісу 1926 г. 19 двароў, 116 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Яблачына», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 29.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 123 жыхары. У 1988 г. 20 гаспадарак, 46 жыхароў. Гал., плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе на Пн далучаецца кароткая вуліца. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯНАВА** — вёска ў Зембінскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Барысаў, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Бягомль—Лагойск, да якой ад вёскі ідзе мясц. дарога праз в. Любча. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. маёнтак Стратовіча, 1 жыхар, у Зембінскай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 10 двароў, 85 жыхароў, слясарная майстэрня. У 1917 г. ў вёсцы 15 двароў, 113 жыхароў, у фальварку 5 двароў, 30 жыхароў. З лют. да снеж. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі, з жн. 1919 г. да чэрв. 1920 г. — Польшчы. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. З 20.8. 1924 г. ў Зембінскім с/с Зембінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг, з 22.9.1927 г. Барысаўскага р-на, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 15 двароў, 106 жыхароў. У 1931 г. жыхары вёсак Любча і Янава арганізавалі калгас «Ударнік», які ў лют. 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з 30.6. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 153 жыхары. У 1988 г. 27 гаспадарак, 55 жыхароў. Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Амаль мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З і У размяшчаецца некалькі хутароў. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЯРЦАЎКА** — вёска ў Мётчанскім с/с, за 20 км на ўсход ад Барысава, 15 км ад чыг. ст. Прыяміна на лініі Мінск—Орша, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Вяляцічы. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1885 г. засценак, у Лошніцкай вол. Барысаўскага павета. У 1897 г. 6 двароў, 64 жыхары, у 1917 г. 9 двароў, 74 жыхары. З лют. да ліст. 1918 г. пад акупацыяй войск кайзераўскай Германіі. З 1.1.1919 г. ў БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР, з жн. 1920 г. ў БССР. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1920 г. было 48 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Вялікакняжавіцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг, з 20.2.1938 г. Мінскай вобл. Паводле перапісу 1926 г. 12 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 3.7.1941 г. да 29.6. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1960 г. 110 жыхароў. У 1988 г. 22 гаспадаркі, 46 жыхароў. Планіроўка ў адну мерыдыянальную вуліцу, забудаваную двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 1, спр. 224; ф. 6, воп. 1, спр. 45, 229, 1906; ф. 30, воп. 1, спр. 87, 88, 228, 235, 1119а, 2771, 2937, 2938, 3181, 3203, 3253—3255, 3263, 3265, 3332, 3377, 3378, 3380, 3386, 3391, 3394, 6041; воп. 2, спр. 1447, 3332, 4501, 4502. 6011, 6041, 6103; воп. 3, спр. 299; воп. 5, спр. 6766; ф. 34, воп. 1, спр. 996; ф. 42, воп. 2, спр. 236, 238, 289—291, 294, 311, 316, 318, 325, 330, 332, 347, 367, 368, 382, 383—385, 413, 2505; ф. 48, воп. 1, спр. 537, 581, 1400, 2861, 2928, 2989; ф. 93, воп. 1, спр. 452, 1928, 1931; ф. 334, воп. 1, спр. 170, 171, 300, 301, 316, 500, 502; ф. 338, воп. 1, спр. 61, 140, 323; ф. 691, воп. 3, спр. 22.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 25, воп. 1, спр. 21; ф. 27, воп. 5, спр. 60; воп. 6, спр. 52, 109; ф. 76, воп. 1, спр. 227; ф. 333, воп. 4, спр. 689; ф. 694, воп. 4, спр. 5696; ф. 937, воп. 3, спр. 5; ф. 1727, воп. 1, спр. 6, 16, 18; ф. 1731, воп. 1, спр. 3; ф. 1732, воп. 1, спр. 18; ф. 1769, воп. 1, спр. 9, 13; ф. 1928, воп. 1, спр. 28.
Філіял Дзяржаўнага архіва Мінскай вобл. ў Барысаве, ф. 3, воп. 1, спр. 7—10, 12, 14—17, 19—21, 25—28, 43.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 27, воп. 6, спр. 99; ф. 30, воп. 12, спр. 112; ф. 201, воп. 12, спр. 112; ф. 1290, воп. 11, спр. 1299, 1300; ф. 1350, воп. 312, спр. 89; ф. 1405, воп. 110, спр. 4527.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 21, спр. 1818; ф. 43, спр. 24106; ф. 148, спр. 283.
Минские губернские ведомости. 1861.
Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1—2. Санкт-Петербург, 1863—65.
Историко-статистическое описание Минской епархии. Санкт-Петербург, 1864.
Памятная книжка Минской губернии на 1865 г. Минск, 1864.
Историко-статистическое описание Минской епархии. Минск, 1869.
Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Минск, 1870.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1877 г. Вильна, 1877.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.
Памятная книжка Минской губернии на 1878 г. Ч. 2. Минск, 1878.
Описание церквей и приходов Минской епархии... Минск, 1878.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. Санкт-Петербург, 1881.
Отчет о церковноприходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Минск, 1891.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892/93 учебный год. Минск, 1892.
Памятная книжка Минской губернии на 1899 г. Минск, 1898.
Историко-статистическая справочная книга Минской епархии. Минск, 1903.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. [Т.]22. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1904.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905—06 учебный год. Минск, 1905.
Города России в 1904 г. Санкт-Петербург, 1906.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.
Клейн Э.М., Довгялло Д.И., Белоцерковец Н.Е. Город Борисов (Минской губернии). Вильна, 1910.
Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.
Краснянский В. Г.Борисов и Борисовский уезд в Отечественную войну 1812 г. Гродно, 1913.
Списки фабрик и заводов Российской империи. Санкт-Петербург, 1914.
Историко-стратегический очерк XVI-й армии. Могилев, 1921.
Список населенных мест Б. С. С. Р. (б. Минской губернии). Минск, 1924.
Наш край. 1927. № 2.
Бальшавік Барысаўшчыны. 1933. 13 сак., 28 крас.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Т. 1—2. Мінск, 1935.
Шкловский Е. Контрнаступление Красной Армии в Белоруссии (14 мая—8 июня 1920). М., 1940.
Бальшавіцкая трыбуна. 1945. 15 ліп.; 1946. 17 сак.; 1950. 5 лют.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Минск, 1953.
Из истории установления Советской власти в Белоруссии и образования БССР: док. и материалы по истории Белоруссии. Т. 4. Минск, 1954.





Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 1. Минск, 1957.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 3. Минск, 1961.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1962.
Татищев В.Н. История Российская. Т. 2. М.; Ленинград, 1963.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг. Т. 1. Минск, 1968.
Камуністычная праца. 1968. 16 ліп; 1969. 25 студз.; 1971. 2 сак.; 1984. 29 чэрв.; 1987. 28 ліст.;
Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мінск, 1972.
Польскі С.А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.). Мінск, 1973.
В боях за Белоруссию. 2 изд. Минск, 1974.
Освобождение Белоруссии, 1944. 2 изд. М., 1974.
Мастацтва Савецкай Беларусі. Т. 1. (1917—1941 гг.). Мінск, 1976.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Минск, 1978.
Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978.
Нерознак В.П. Названия древнерусских городов. М., 1983.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Минск, 1983; Т. 3. Минск, 1985. Мачульский Р.Н. На огненной земле. Минск, 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Минск, 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. Минск, 1985.
Янка Купала: энцыкл. давед. Мінск, 1986.
Гилевич Ж.В. Борисов и окрестности. Минск, 1986.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993.
Памяць: Барысаў. Барысаўскі р-н. Мінск, 1997.
Республика Беларусь: энцикл. Т. 2. Минск, 2006.
Минская область. Т. 1. Минск, 2007.



РАЁН КРУПСКІ РАЁН

29°00'

Манча
Навaселле
Краснае
Бялавічы
29°15'
Крупка
Замак
Снуя
Міхеевічы
Прудок
Арэшкавічы
Дзевяніца
Стаўпы
Харчычы
Рудня
Глінішча
Альшанец
54°00'
Калюжыца
Восава
Уша
Нов. Машчаніца
Сялянка
Дзямешкаўка
Стар. Машчаніца
Дзмітравічы
Бер е (нежылы)
Каранец
Стар. Гумны
Барсукі
Замасточчa
Выкрас
Карма
Медзенка
Тылькаўка
Крупа
Стар. Князеўка
Беліца
Грады
Жукавец
Высокая Гара
Котава
Любач
Нов. Князеўка
Ялоўка
Шаварнічы
Клёнаўка
Бярозаўка
Ляскoвічы
Беражкі
Барвіно
Вязычын
Стайчанка
Васілеўшчына
Вярхлеўка
Прыбярэжная
Маплеў
Гацец
Белічаны
Пружанка
Журоўка
Ляжына
Кукарава
Прысады
Жарамец
Жорнаўка
Селішча
Вяшоўка
Волы
Альхоўка
Стар. Прыборкі
Пагулянка
Лісітнік
Дубраўка
Нов. Прыборкі
Брылёва
Гаруні
Бабінка
Мал. Лаг
Вял.
Зялёны Гай
Калініна
БЕРАЗІНО
Навасёлкі
Гужык
Чэлінск
Паложына
Пагост
Лосеўка
Бярозаўка
Паўлаўка
Слабада
Смалярня
Забор'е
Хутар
Кулі
Баркі
Краснаполле
53°50'
Мікулічы
Крынкі
Лешніца
Казлоў Бераг
Чырвоны Сад
Трасцянка
Калнаўка
Мачаск
Лучкі
Задуброўе
Быковічы
Ягадка
Клубча
Чырвоная Паляна
Хватаўка
Глухі Ток
Гурэшчына
Бярозаўка
Любушаны
Рубеж
Журавок
Асоўнае
Сапота
Паплавы
Святліца
Капланцы
Царэсіна
Заямнае
Костаўшчына
Вязае
Карбаўское
Уюноўка
Падвосава
Неганічы
Косаўка
Чэрвень
Марціянаўка
Міластавa
Заброддзе
Чырв. Бераг
Красны Бор
Новіны
Гута
Гарэнічы
Засвяціца
Жабіхава
Дайгалессе
Несцяроўка
Баравіца
Падвалоўка
Красны Вугал
Задор'е
Дамашкі
Аўгустова
Вязькуцін 1
Рудзенка
Дулебы
Забалацце
Едліна
Бярэзніца
Стар. Будкаў
Вапоўніца
Каменны Барок
Дашніца
Віляціна (нежылы)
Божына
Восава
Крапіўня
Дубраўка
Чырв. Зорка
Багушэвічы
Вінорава
Вязькуцін 2
Калюга 1
Міхалёва
Васільеўка
Калюга 2
Улессе
Мацевічы
Галынка
Перавоз
Людвікова
Матылянка
Бродзец
Галаўныя Ляды
Топаль
Усход
Чырвоная Горка
Стар. Койцін
Высокая Гара
Нов. Гарадзішча
Ільінка
Дубовы Лог
Вусце
Налазы
Падкамень
Масцішча
53°40'
29°15'
Асмолаўка
Вoступ
Астраўкі
Гарадзішча
Міраслаўка
Нов. Жыцце
Рэгіспoлле
Чырвоны Араты
Плісічына
Барсучына
Сяліба
Жаліно
Якшыцы
Лучны Мост
Краснае
Маёўка
Адвага (нежылы)
Бычын
Месціна
Пуцькава
Коласы
Зорка (нежылы)
29°00'
Крупка
Чыжаха
Астраўскі Перавоз
Прыцерпа
Бабруйск

БЯЛЫНІЦКІ РАЁН

КЛІЧАЎСКІ РАЁН

ГЛЕЎСКІ РАЁН

БАБРУЙСКІ РАЁН

ЧЭРВЕНСКІ РАЁН

Маштаб 1:350 000



# БЯРЭЗІНСКІ РАЁН

Знаходзіцца ва ўсх. частцы вобласці. Цэнтр — г. Беразіно. Пл. 1,9 тыс. $км^2$. Насельніцтва 27,9 тыс. чал. (2009). Уключае г. Беразіно, 218 сельскіх населеных пунктаў, 9 сельсаветаў: Багушэвіцкі, Бярэзінскі, Дзмітравіцкі, Капланецкі, Мачаскі, Паплаўскі, Пагосцкі, Сялібскі, Ушанскі. Мяжуе на Пн з Барысаўскім і Крупскім, на З — з Чэрвеньскім р-намі Мінскай вобл., на Пд — з Асіповіцкім, на У і ПдУ — з Бялыніцкім р-намі Магілёўскай вобл.

У 1-й пал. 14 ст. тэр. сучаснага раёна далучана да ВКЛ, з 1565—66 гг. была ў складзе Мінскага павета Мінскага ваяв. (правы бераг Бярэзіны) і Аршанскага павета Віцебскага ваяв. (левы бераг). Паводле карты К.Пертэеса па стане на 1770 г. ўся Бярэзіншчына адносілася да Мінскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. тут існавалі Белічанская, Дзмітравіцкая воласці Барысаўскага, Брадзецкая, Пагосцкая, Якшыцкая воласці Ігуменскага паветаў Мінскай губ. Рас. імперыі. У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада, у лют.—снеж. 1918 г. Бярэзіншчыну акупіравалі герм. войскі. З 1.1.1919 г. яна ў складзе БССР, з 27.2.1919 г. — Літ.-Бел. ССР. У польска-сав. вайну ў жн. 1919 — ліп. 1920 гг. акупіравана польскімі войскамі (часткова незанятыя акупантамі часткі Брадзецкай і Пагосцкай валасцей былі часова ўключаны ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР), потым увайшла ў склад аднаўленай 31.7. 1920 г. БССР. Раён утвораны 17.7.1924 г. ў Барысаўскай акрузе, пасля яе скасавання з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ўваходзіў у Мінскую акругу. 20.8.1924 г. падзелены на 15 сельсаветаў: Арэшкавіцкі, Багушэвіцкі, Белічанскі, Брадзецкі, Бярэзінскі, Валоўніцкі (з 21.8.1925 г. Каменна-Борскі), Высакагорскі, Дзмітравіцкі, Дулебскі, Капланецкі, Мачаскі, Машчаніцкі, Неганіцкі, Пагосцкі, Перавозаўскі. 25.7.1931 г. далучаны Сялібскі і Якшыцкі сельсаветы скасаванага Свіслацкага р-на. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. — пачатку ліп. 1941 г. на тэр. раёна і каля Беразіно ў абаронных баях удзельнічалі воіны 4-га паветрана-дэсантнага корпуса пад камандаваннем ген.-маёра А.С.Жадава і 100-й (будучай 1-й гвардз.) стралк. дывізіі пад каманда-



*Дзяўчына ў святочным касцюме Бярэзінскага строю.*

ваннем ген.-маёра І.М.Русіянава. У пач. ліп. 1941 г. ўся тэр. раёна была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 3,1 тыс. мірных жыхароў. Першы партыз. атрад (атрад № 128) узнік на Бярэзіншчыне ўжо ў снеж. 1941 г. Вясной—летам 1942 г. былі створаны атрады «Разгром», «Непераможны», «Бальшавік», «Іскра», «Камуніст». Арганізатарамі партыз. руху былі мясц. камуністы, пакінутыя ў тыле ворага: І.П.Сакалоўскі, К.А.Баранаў, В.К.Дзяруга, А.Б. Маркоўскі, А.В.Яблонскі, М.Ф.Пыж і інш. У раёне дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (20.7.1942—2.7.1944) і ЛКСМБ (ліп.—жн. 1941; 3.9.1942—2.7.1944), Бярэзінская ваен.-аператыўная група, партыз. брыгады 8-я Рагачоўская, імя Шчорса, «Чырвоны Сцяг», партыз. палкі 15-ы, 208-ы, імя Сталіна, 277-ы і інш. партыз. фарміраванні. Выдавалася падп. газ. «Сцяг Леніна». Раён вызвалены ў канцы чэрв. — пач. ліп. 1944 г. ў ходзе Бел. аперацыі («Баграціён») сіламі 42-й Смаленскай і 153-й стралк. дывізій 49-й арміі 2-га Бел. фронту. 20.9.1944 г. раён увайшоў у склад Мінскай вобл. 16.7. 1954 г. скасаваны Арэшкавіцкі, Дулебскі, Перавозаўскі сельсаветы (тэр. далучана адпаведна да Дзмітравіцкага, Мачаскага і Багушэвіцкага), перайменаваны Белічанскі ў Ляжынскі, Машчаніцкі ва Ушанскі, Неганіцкі ў Паплаўскі. 25.12.1962 г. раён скасаваны, тэр. далучана да Чэрвеньскага р-на, 6.1.1965 г. адноўлены ў ранейшых межах і складзе. У 2008 г. скасаваны сельсаветы: Брадзецкі, Высакагорскі, Каменна-Борскі, Якшыцкі (тэр. далучана адпаведна да Сялібскага, Пагосцкага, Капланецкага, Багушэвіцкага), Ляжынскі (тэр. далучана да Ушанскага і Паплаўскага сельсаветаў). Найбольш буйнымі населенымі пунктамі з'яўляюцца вёскі Пагост, Паплавы, Лешніца, Дзмітравічы, Любушаны. 19 вёсак належаць да зоны пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем.

Па тэр. раёна праходзяць аўтадарогі Мінск—Магілёў, Барысаў—Бабруйск, таксама на Клічаў і Новалукомль.

Раён размешчаны ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Паверхня пласкахвалістая і раўнінная. Пераважаюць вышыні 160—180 м, найвышэйшы пункт 190,3 м (каля в. Мікулічы). Пашыраны дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярнова-падзолістыя, тарфяна-балотныя глебы. Лясы займаюць 50% тэр., сярод іх пераважаюць хваёвыя (у т.л. яловыя), бярозавыя. Пад балотамі 7,4% тэр. Карысныя выкапні: торф, пясчана-жвіровы матэрыял, гліны. Сярэдняя тэмпература студзеня -6,8 °С, ліпеня 18,1 °С. Ападкаў выпадае 639 мм за год. Вегетацыйны перыяд 187 сут. Найболь-



*Рака Бярэзіна на тэрыторыі Бярэзінскага раёна.*



шая рака — Бярэзіна з прытокамі Уша, Жорнаўка, Уса, Манча, Брусята, Клява.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 76 тыс. га (з іх асушаных каля 20 тыс. га). Асн. напрамак с.-г. вытв-сці — малочна-мясная жывёлагадоўля, вырошчваюцца збожжавыя і кармавыя культуры, грэчка, бульба. Працуюць 16 с.-г. прадпрыемстваў (СВК «Бярэзіна», «Брадзец», «Мачаск», «Паплавы» і інш.).

Дзейнічаюць 8 прам. прадпрыемстваў: ААТ «Бярэзінскі сырадзельны завод», ААТ «Бярэзінскі льнозавод», РУП «Мадзікор», «Бярэзінскі спіртавы завод» (вытв. цэх РУП «Мінск Крышталь»), філіял «Кааппрам» Бярэзінскага райспажыўтаварыства, філіял ТАА «Профітсістэм», Бярэзінскі камбінат бытавога абслугоўвання, Бярэзінскі лясгас; 5 буд. арг-цый: Перасоўная механізаваная калона № 182, Дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне № 42, Дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне № 192 «Мінскаблдарбуда», Дарожна-будаўнічае ўпраўленне № 31, Бярэзінскае прадпрыемства меліярацыйных сетак. У сістэме гандлю працуюць 180 магазінаў і гандлёвых кропак, 23 прадпрыемствы грамадскага харчавання (з іх раённаму спажывецкаму т-ву належаць 93 прадпрыемствы гандлю і 16 — грамадскага харчавання, 5 перасоўных аўтакрам). Дзейнічаюць раённыя вузлы электрычнай і паштовай сувязі, 23 паштовыя аддз., 29 аўтаматычных тэлеф. станцый.

У сістэме адукацыі — 23 навучальныя ўстановы (у т.л. гімназія і 16 комплексаў «школа—сад»), цэнтры — раённы адукац.-інтэлектуальны і вучэбны райсельгасхарчу, ДзЮСШ, 24 дашкольныя ўстановы. Сістэма аховы здароўя ў раёне ўключае Бярэзінскую цэнтр. раённую (на 215 ложкаў) і Дзмітравіцкую ўчастковую (10 ложкаў) бальніцы, паліклініку, 3 урачэбныя амбулаторыі, 18 фельч.-акушэрскіх пунктаў. У галіне культуры працуюць раённы і 15 сельскіх Дамоў культуры, 2 сельскія клубы, цэнтр традыц. культуры (у в. Любушаны), школа мастацтваў, 26 б-к. Дзейнічаюць турысцкі цэнтр «Юнацтва» (у в. Жорнаўка), фізкультурна-аздараўленчы цэнтр «Здароўе». Захаваўся помнік архітэктуры сярэдзіны 19 ст. — касцёл Яна Багаслова ў в. Багушэвічы. Выдаецца газета «Бярэзінская панарама».

**БЕРАЗІНО** — горад, цэнтр Бярэзінскага раёна, за 101 км на У ад Мінска, 50 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, на правым беразе р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), прыстань, на аўтадарозе Мінск—Магілёў. 12 647 жыхароў (2009).

Упершыню ўпамінаецца ў 1501 г. як мястэчка ў Любушанскім старастве



*Былы палац Патоцкіх (выгляд з боку р. Бярэзіна) у г. Беразіно.*



*Мост цераз Бярэзіну ў г. Беразіно.*

ВКЛ ва ўладанні кн. Астрожскага, з 7 чэрвеня 1501 г. ва ўладанні М.С.Вішнявецкага, прадстаўніка старадаўняга роду Карыбут-Вішнявецкіх, княжацкага роду герба «Карыбут». У 1560-я г. ўвайшло ў Мінскі павет Мінскага ваяв. Называлася таксама Ніжняе Беразіно, Беразіно Любушанскае. З сярэдзіны 16 ст. ўласнасць Сапегаў. У 1641 г. пабудаваны драўляны касцёл, які згарэў у 1914 г. У 1668 г. мястэчку дадзены прывілей на гандаль і штогадовы кірмаш. У час антыфеад. вайны 1648—51 гг. тут летам 1648 г. адбыліся баі казакоў Антона Нябабы з урадавымі войскамі. З 1671 г. належала магнацкаму роду Тышкевічаў, у 1730 г. Іосіфу і Ганне, з 1737 г. іх сыну Людвігу. У час Паўн. вайны ў 1708 г. ў мястэчку і наваколлі адбываліся баі паміж шведскімі і рус. войскамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., належала магнатам Патоцкім. У мястэчку налічваліся 42 мешчаніны-яўрэі. У 1800 г. 76 двароў, 479 жыхароў, маёнтак Я.Тышкевіча. Побач знаходзілася слабада Бярэзінская, 12 двароў, 49 жыхароў. У 1805 г. пабудавана драўляная Спаса-Праабражэнская царква, дзейнічалі драўляны касцёл, 2 малітоўныя школы, 2 карчмы, млын. У 1811 г. ва ўласнасці памешчыцы Канстанцыі Маршалавай, 126 жыхароў мужчынскага полу. Жыхары мястэчка прымалі актыўны ўдзел у партыз. барацьбе ў час вайны 1812 г. Гал. кватэра рус. арміі пэўны час знаходзілася непадалёк ад Беразіно — у в. Шавярнічы. 24.11. 1812 г. асн. сілы арміі Кутузава, праследуючы армію Напалеона, пераправіліся цераз р. Бярэзіну ў раёне в. Жукавец. У 1845 г. ва ўладанні памешчыцы Ванькові́ч; 229 жыхароў, якія мелі 67 свіней і 30 коней. Ва ўласнасці памешчыцы ў маёнтку Беразіно Любушанскага графства знаходзіліся фальваркі Бярэзінскі, Клубчанскі, Любушанскі, Ягоцкі, Пад'явіцкі, Даўжанскі, Нова-Астроўскі, у якіх налічвалася 3498 мужчынскіх і 3415 жаночых сял. душ. У Бярэзінскай аканоміі — 1551 жыхароў, якія мелі 450 валоў, 336 кароў, 280 коней. У 1847 г. Беразіно ва ўладанні графа Патоцкага. У 1-й пал. 19 ст. працавала суконная мануфактура, якая ў 1840 г. вырабіла 7740 аршын сукна. У 1848 г. 96 двароў, дзейнічалі дывановая, сукнавальныя і скураныя ф-кі. У 1858 г. ў мястэчку 459 дамоў і 1086 жыхароў, з іх 311 купцоў, 78 цэхавых працаўнікоў, 484 мяшчан. Памешчыку Маўрыцыю Патоцкаму належалі 52 душы мужчынскага і 53 жаночага полу. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1892/93 навуч. годзе 43 хлопчыкі і 11



*Горад Беразіно. Будынак спіртзавода, узведзены Патоцкімі ў 1892 г.*



*Цэнтральная плошча ў г. Беразіно. Будынкі Бярэзінскага райвыканкама і рэстарана «Бярэзіна» (злева).*



дзяўчынак, у 1905/06 — 75 хлопчыкаў і 20 дзяўчынак). У 1880 г. — 3181 жыхар, з якіх 2940 яўрэяў. У 1885 г. ў мястэчку прыходская царква, касцёл, капліца, сінагога, яўр. малітоўныя школы, 48 крам, штогадовы кірмаш 6 жн. і таржкі. З 1892 г. працавалі бровар, канатная фабрыка, млын (у 1896 г. ўстаноўлена паравая машына). Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 577 двароў, 4275 жыхароў, дзейнічалі касцёл, 8 яўр. школ, пошта, піцейны дом, 5 яўр. малітоўных дамоў, 2 бальніцы, параходная прыстань, піваварны з-д, 100 крам, 5 заезных дамоў, піцейны дом, Праабражэнскі кірмаш; у сял. сядзібах 39 двароў, 170 жыхароў. Побач у маёнтку Бярэзіна Любушанская 17 двароў, 196 жыхароў. У 1901 г. адбыліся выступленні працаўнікоў прадпрыемстваў за паляпшэнне эканам. становішча. 13 удзельнікаў стачкі былі арыштаваны паліцыяй, якая ўстанавіла, што ў мястэчку было створана антыдзяржаўнае «тайное сообщество рабочих». Агітатар І.Хаст і 2 мясц. рабочыя былі сасланы ў Сібір, астатнія абвінавачаныя аддадзены пад нагляд паліцыі. У 1904 г. дзейнічала б-ка, якую ўтрымлівала мясц. дабрачыннае т-ва. 28.2.1905 мясц. рабочай арг-цыяй выдана лістоўка з заклікам да аднадзённай забастоўкі. Стачкі і рэв. хваляванні, дэманстрацыі, мітынгі праходзілі ў маі—жн. 1905 г. У найбольш масавай (22 кастр.) удзельнічалі каля 2000 чал. пад аховай узброеных дружыннікаў. У 1909 г. ў мястэчку 619 двароў, 4264 жыхары, у маёнтку 1 двор, 63 жыхары. Да 1914 г. мястэчка разам з Ігуменам лічылася найбольш развітымі населенымі пунктамі павета. У вял. пажар 1914 г. згарэла больш за 500 хат і пабудоў, 2 прыстані, пошта. Многія пагарэльцы мусілі пакінуць мястэчка. У 1916 г. 2428 жыхароў, пабудаваны драўляны мост, у 1917 г.— 2162 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. З 1.1. 1919 г. ў БССР, з 27.2.1919 г. ў Літ.-Бел. ССР, з 31.7.1920 г. ў БССР. Паводле перапісу 1923 г. ў Беразіно 389 жылых будынкаў, 2263 жыхары. У 1922 г. дзейнічалі лясніцтва, саўгас «Беразіно», пры паравым млыне была абсталявана электраўстаноўка, якая забяспечвала святлом саўгас і мястэчка (спачатку 300 лямпачак, але пасля пажару летам таго ж года колькасць лямпачак паменшылася ўдвая).

З 17.7.1924 г. цэнтр раёна і аднайменнага сельсавета ў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругах. 10.9.1924 г. ў мястэчку пачало працаваць спажывецкае т-ва, дзейнічалі 13 прам. прадпрыемстваў і 17 млыноў — 6

*Фрагмент забудовы цэнтра г. Беразіно.*



*Дом гандлю ў г. Беразіно.*









*Фрагмент сучаснай забудовы вуліцы Кастрычніцкая ў г. Беразіно.*

дзярж. і 11 прыватных. У 1928 г. ўведзена ў строй электрастанцыя. Першы нумар раённай газ. «Калгаснік» (пазней называлася «За сацыялістычную жывёлагадоўлю», «Сцяг Леніна») у 1931 г. надрукаваны ў Магілёве. З 15.1.1938 г. мястэчка ў Магілёўскай вобл. З 27.10. 1938 г. гар. пасёлак. У 1939 г. 4,8 тыс. жыхароў. Напярэдадні вайны працавалі 7 прадпрыемстваў. З 3.7.1941 г. да 3.7. 1944 г. Беразіно акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі тут 1,2 тыс. жыхароў, спалілі 517 жылых дамоў і амаль усе грамадскія ўстановы. 1.2. 1942 г. яны знішчылі ўсіх вязняў бярэзінскага гета, у памяць аб якіх у 1960 г. ўстаноўлены помнік. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 223 жыхары Беразіно. Памяць тых, хто загінуў, увекавечана помнікамі на брацкіх магілах сав. воінаў, партызан, мірных грамадзян — ахвяр фашызму. Устаноўлены помнік юным патрыётам.

*Праабражэнская царква (1950-я г.) у г. Беразіно.*



З 20.9.1944 г. Беразіно ў складзе Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. да 6.1. 1965 г. пасёлак уваходзіў у Чэрвеньскі р-н. 7.3.1968 г. Беразіно нададзены статус горада. У 1970 г. 6,9 тыс. жыхароў. Забудова горада вядзецца паводле генеральных планаў, распрацаваных у 1969 і 1981 гг. Тэрытарыяльна горад выцягнуты з Пн на Пд уздоўж правага берага ракі. Яго кампазіцыйнае ядро — грамадскі цэнтр — уключае будынкі райвыканкома, гасцініцы з рэстаранам, Дом сувязі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, універмаг, магазіны, рынак, сквер. Цэнтр забудаваны 2—5-павярховымі дамамі, створана некалькі



мікрараёнаў з такой жа забудовай у іншых частках горада. Працуюць бел. пед. гімназія, 2 сярэднія, мастацтваў і дзіцяча-спартыўная школы, школа-інтэрнат, 2 б-кі. Пры Доме культуры існуе нар. тэатр, на сцэне якога з 1997 г. праводзіцца абл. фестываль нар. тэатраў Мінскай вобл. «Бярэзінская рампа». Захаваўся сядзібны дом 1-й пал. 19 ст. Выдаецца газета «Бярэзінская панарама». Стадыён, дзіцячыя яслі-сад, аптэка, паліклініка, зона адпачынку «Беразіно». Сярод найб. значных прадпрыемстваў — сырзавод, Бярэзінскае ПМС, ільнозавод, камбінат каап. прам-сці. Дзейнічаюць Праабражэнская (1950-я г.) і Мікалаеўская (пач. 21 ст.) цэрквы.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 11 км ПнЗ ад Беразіно, у цэнтр. частцы раёна, 55 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 95 км ад Мінска, каля аўтадарогі Беразіно—Барысаў, на р. Палоза. 35 гаспадарак, 62 жыхары (2008).

Паводле перапісу 1897 г. існавала некалькі паселішчаў пад адзінай назвай, якія потым зліліся. У вёсцы 39 двароў, 246 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку ва ўладанні Барсукоў 5 двароў, 23 жыхары, вінакурны з-д, у сядзібе 1 двор, 5 жыхароў, смаляны з-д ва ўладанні Барсукоў, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ў вёсцы 31 двор, 244 жыхары, у маёнтку дваран А. і І. Барсукоў 28 жыхароў, з іх 27 праваслаўныя, 24 католікі. З 20.8. 1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. ў вёсцы 39 двароў, 215 жыхароў, на хутары 1 двор, 1 жыхар. У 1931 г. створаны калгас «Трэці рашаючы». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну летам 1943 г. каля вёскі адбылася сутычка нар. мсціўцаў брыгады імя Шчорса з гітлераўцамі. У баі загінуў француз Раман Дзюбаст, які дабравольна перайшоў на бок партызан. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. вёска ў Мінскай вобл. У 1950 г. сельгасарцелі «Трэці рашаючы» (Альхоўка), «Сталінскі ўраджай» (Брылёва), «Новы ўраджай» (Пружанка) аб'ядналіся ў калгас «Сталінскі ўраджай». З 16.7.1954 г ў. Ляжынскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. вёска ўзбуйнена, да яе далучана в. Чарэя. У 1980-я г. ўваходзіла ў склад калгаса «Сцяг Кастрычніка». Дзейнічалі школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, малочная ферма. У 2003 г. 42 гаспадаркі, 71 жыхар. Планіровачна складаецца з 3 адвольна трасіраваных вуліц. Адна з іх праходзіць паралельна дарозе з Пн на Пд і мае разрыў у месцы перакрыжавання з ракой, якая падзяляе вуліцу на 2 часткі, злучаныя дарогай і мостам. Вуліцы забудаваны шчыльна, лінейна, па абодва бакі індывідуальнымі драўлянымі аднапавярховымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**АЛЬШАНЕЦ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 38 км на ПнУ ад Беразіно, 46 км



*Мікалаеўская царква ў г. Беразіно.*





ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 138 км ад Мінска, на З і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Тылькоўка, Высокая Гара, Кукорава і далей па шашы Мінск—Магілёў. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. пад назвай Лашанец. У 1917 г. вёска ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 98 жыхароў. З 6.10.1919 г. воласць уваходзіла ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 29 двароў, 127 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Пагранічнік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 9 вяскоўцаў, 2 жыхары закатаваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1950 г. вёска далучана да ўзбуйненага калгаса «Сталінскі шлях», з 1967 г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі». У 1960 г. 95 жыхароў. У 2003 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай кароткай вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АРЭШКАВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 38 км на Пн ад Беразіно, 27 км ад чыг. ст. Крупкі на лініі Орша—Мінск, 138 км ад Мінска, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Бачэйкава—Бабруйск і Мінск—Магілёў. 142 гаспадаркі, 293 жыхары (2008).

За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, каля дарогі ў в. Жукавец знаходзіцца курганны могільнік (45 насыпаў) эпохі Кіеўскай Русі, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядома з 16 ст. У 1670 г. вёска, 14 дымоў, у Барысаўскім старастве Забайроўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Падчас Паўн. вайны 1700—21 гг. была поўнасцю спалена шведамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 318 жыхароў. У 1870 г. 142 жыхары мужчынскага полу, у Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1886 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 72 двары, 656 жыхароў, побач вёска Пруд Арэшкавіцкі (Прудок), 18 двароў, 144 жыхары. У 1910 г. на базе школы граматы адкрыта аднакласная земская школа. У 1917 г. 92 двары, 565 жыхароў. У 1920 г. 102 двары, 540 жыхароў, дзейнічала смалакурня. З 20.8.1924 г. — цэнтр Арэшкавіцкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 118 двароў, 666 жыхароў. Побач засценак Арэшкавіцкі Пруд, 6 двароў, 23 жыхары, вадзяны млын. У 1932 г. на базе пач. школы пачала працаваць 7-гадовая. З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 43 вяскоўцы. На вясковых могілках пахаваны 49 сав. воінаў, сярод якіх байцы 4-й танкавай брыгады 2-га танкавага корпуса, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі, і 3 партызаны. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7.1954 г. Арэшкавіцкі с/с скасаваны і далучаны да Дзмітравіцкага с/с. У 1960 г. 836 жыхароў. У 1980-я г. ўваходзіла ў склад калгаса «Бальшавік». Дзейнічалі праўленне калгаса, Дом культуры, сярэдняя школа, б-ка (12,5 тыс. кніг), ветэрынарны ўчастак, фельч.-акушэрскі пункт, лясніцтва, магазін, дзіцячы сад, сталовая, грамадская лазня, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі. У 2003 г. 161 гаспадарка, 338 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на У адыходзяць перпендыку-



лярна 2 кароткія прамалінейныя вуліцы (адна з завулкам), і на ПнУ — кароткая прамалінейная вуліца (адрэзак дарогі ў в. Наваселле). Грамадскі цэнтр размешчаны на Пн, дзе ўзведзены мураваныя дамы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСМОЛАЎКА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 30 км на Пд ад Беразіно, 27 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 105 км ад Мінска. На ПдЗ цячэ р. Уса (прыток р.Бярэзіна), запруда, якая ўтварае каля вёскі невялікі вадаём. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. сяло, 15 двароў, каля 100 жыхароў, гасподскі драўляны дом, млын. У 1811 г. на сродкі памешчыка пабудавана драўляная капліца ў імя св. Андрэя (у 1924 г. была перавезена на могілкі з в. Мамінаўка Чэрвеньскага р-на, у 1950 г. разбурана). У 1858 г. 113 жыхароў, уласнасць памешчыка Р.Рагоўскага. У 1870 г. сяло (104 жыхары мужчынскага полу) і маёнтак, у Якшыцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. вёска Асмалоўка (яна ж Смалоўка), 60 двароў, 364 жыхары, прыпісная драўляная царква, капліца, хлебазапасны магазін, кузня, у маёнтку ва ўладанні Рагоўскай 4 двары, 35 жыхароў, карчма. У 1912 г. пачала працаваць пач. школа, якая размяшчалася ў арандаваным памяшканні. У 1917 г. ў вёсцы 72 двары, 384 жыхары, у маёнтку 8 жыхароў. У пач. 1920-х г. у маёнтку створана садова-агранамічная гаспадарка, у 1930-я г. пераўтвораная ў калгас. З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на (да 26.7.1930 г. ў Бабруйскай акрузе БССР). У 1926 г. ў вёсцы 79 двароў, 410 жыхароў, у пасёлку 10 двароў, 44 жыхары. З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 47 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 354 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ўваходзіла ў склад калгаса «Перамога», дзейнічалі фермы буйной рагатай жывёлы і свінаводчая, магазін, клуб. У 2003 г. 40 гаспадарак, 59 жыхароў. З 2008 г. ў Багушэвіцкім с/с. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і вадаёма, ад якой на ПнУ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сац. Працы, механізатара калгаса «Чырвоная змена» Любанскага р-на І.М.Бяйчонка (н. 2.2.1934 г.).

**АСТРАЎСКІ ПЕРАВОЗ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Беразіно, 28 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 118 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро), на ПнУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 28 гаспадарак, 56 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. в. Новы Божын (яна ж Перавоз) у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Агінскага. У 1800 г. Новы Божын, 12 двароў, 96 жыхароў, карчма, перавоз праз Бярэзіну, уласнасць памешчыка М.Валовіча. У 1858 г. вёска (135 жыхароў) і маёнтак, уласнасць памешчыцы А.Калінскай (14 дваравых). У час эпідэміі халеры ў 1893 г. ў вёсцы хварэла 32 жыхары і 1 з іх памёр. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Перавоз 57 двароў, 367 жыхароў, хлебазапасны магазін, у аднайменным маёнтку 1 двор, 11 жыхароў, у Брадзецкай вол. У 1917 г. ў вёсцы 66 двароў, 403 жыхары, у маёнтку 2 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Перавозаўскага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.

1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругі БССР. У 1926 г. 73 двары, 342 жыхары. У 1932 г. створаны калгас імя Гікала (потым перайменаваны ў калгас імя Яжова, пасля — імя XVI партз'езда). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў час абарончых баёў у 1941 г. каля вёскі загінулі 30 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На франтах загінуў 21 вясковец. З 20.10.1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7. 1954 г. Перавозаўскі с/с скасаваны, яго тэр. далучана да Багушэвіцкага с/с. У 1960 г. 223 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса імя XXVII з'езда КПСС (цэнтр — в. Міхалёва), фермы буйной рагатай жывёлы і свінаводчая, б-ка. У 2003 г. 62 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза С.Ф.Аляшкевіча (1910—4.5. 1944), які вызначыўся пры фарсіраванні р. Паўднёвы Буг (Украіна).



*С.Ф.Аляшкевіч.*

**АСТРОЎКІ** — вёска ў Сялібскім с/с, за 39 км на ПдУ ад Беразіно, 21 км ад чыг. ст. Насяткі на лініі Магілёў—Асіповічы, 139 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 19 ст. тут у маёнтку Уборкі (зараз у межах в. Астроўкі) нарадзіліся браты, бел. жывапісцы А.Г.Гараўскі (1833—1900), І.Г.Гараўскі (1828—?), Г.Г.Гараўскі (гады жыцця невядомы), творчасць якіх была цесна звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Расіі. У 1870 г. вёскі Астроўкі 1, 44 жыхары мужчынскага полу, Астроўкі 2, 29 жыхароў мужчынскага полу, маёнткі памешчыкаў Шэндзікоўскага і Навіцкага, у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы Астроўкі 1—19 двароў, 144 жыхары, 2 ветракі, хлебазапасны магазін, у аднайменным фальварку 1 двор, 17 жыхароў, у вёсцы Астроўкі 2 (другая назва Атступ) 17 двароў, 141 жыхар, у аднайменным фальварку 1 двор, 22 жыхары. Сяляне вёсак уваходзілі ў Наборскае сельскае т-ва. У 1908 г. ў в. Астроўкі 1 — 20 двароў, 144 жыхары, у в. Астроўкі 2 — 18 двароў, 143 жыхары, у маёнтках Астроўкі 1 — 8 жыхароў, Астроўкі 2 — 44 жыхары. У 1917 г. ў в. Астроўкі 1: 26 двароў і 153 жыхары, у в. Астроўкі 2: 27 двароў, 14 жыхароў. У пач. 1920-х г. у маёнтку Астроўкі 2 была створана садова-агародная гаспадарка. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. па 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Май». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. 116 жыхароў. У 1980-я г. ўваходзіла ў склад калгаса «Бярэзіна». У 2003 г. 14 гаспадарак, 15 жыхароў. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЎГУСТОВА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 13 км на Пд ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Бор, Гарэнічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 42 гаспадаркі, 108 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 96 жыхароў. У 1908 г. 10 двароў, 61 жыхар. У 1917 г. ўрочышча, 17 двароў, 142 жыхары. У 1920 г. на базе дарэв. была адкрыта 4-гадовая школа, у якой вучыліся дзеці з суседніх вёсак. З 6.10.1919 г. Пагосцкая вол. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў



Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 19 двароў, 114 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Слабада арганізавалі калгас «Чырвонаармеец». З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 213 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ўваходзіла ў склад саўгаса «Бярэзінскі». У 2003 г. 56 гаспадарак, 140 жыхароў. Планіровачна складаецца з 4 амаль прамалінейных вуліц, якія перакрыжаваны ў форме няправільнага чатырохвугольніка. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАБІНКА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 27 км на У ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 127 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Клёва (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дубраўка і Волы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1708 г. в. Бабін, 4 двары з фальваркам, уласнасць Х.Ціханоўскага. У 1799 г. 2 двары, 11 жыхароў, уласнасць І.Рэута, у Барысаўскім павеце. У 1885 г. маёнтак у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 2 двары, 21 жыхар, у 1917 г. 28 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. пасёлак, 15 двароў, 66 жыхароў. У 1930 г. Бабінка разам з вёскамі Казлоў Бераг і Бярозаўка ўвайшла ў калгас «Чырвоны Бераг». З 20.2. 1928 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Мачаск». У 2003 г. 12 гаспадарак, 14 жыхароў, дзейнічаў магазін, вяскоўцы працавалі ў СВК «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск). Планіровачна складаецца з адной крывалінейнай вуліцы, перакрыжаванай з мясцовай дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАГУШЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Багушэвіцкага с/с, за 24 км на ПдЗ ад Беразіно, 30 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 95 км ад Мінска, на р. Уса. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навіны і Новая Марціянаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 149 гаспадарак, 419 жыхароў (2008).

У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Уса, ва ўрочышчы Касцельная Гара (ці Касцелішча) размешчана гарадзішча (датуецца 1 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.), якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска ўпершыню ўпамінаецца ў купчай ад 1.6.1501 г. як маёнтак, у складзе якога мястэчка, млын і рудня на р. Уша, карчма, праваслаўная царква, гасподскі дом, шляхецкая ўласнасць. У 1551 г. дзярж. сяло, вядома пад назвай Бальшовічы. У 1560 г. новы ўладальнік В.Рудкоўскі шляхам жорсткага ўціску падпарадкаваў сабе вяскоўцаў. У наступныя гады сяляне актыўна супраціўляліся і значная частка іх уцякла ў в. Задобрыча. 22.2.1568 г. маёнтак падвергся нападу ўзброеных сялян Свіслацкай вол., якія збеглі ад пана В.Рудкоўскага. 11.5. 1569 г. кароль Жыгімонт Аўгуст даў загад пакараць паўстанцаў. Супраціўленне было падаўлена, некалькі вяскоўцаў

былі пакараны смерцю. У 1592 г. Багушэвіцкі маёнтак перайшоў ва ўладанне кн. Вішнявецкага. У наступныя часы — рамесніцка-гандл. мястэчка з прыстанню і вадзяным млыном на р. Уса, 2 разы на год тут праводзіліся кірмашы. Належала Завішам, Ваньковічам, Свентаржэцкім. У 18 ст. цэнтр графства. Тут было развіта садоўніцтва, агародніцтва, пчалярства; над возерам — вялікія сад і парк. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка, 45 двароў, 302 жыхары, гаспадскі двор, драўляная уніяцкая царква, млын на 3 паставы, вінакурня, сукнавальня, кузня. У наступныя гады адбылося размежаванне — побач знаходзіліся мястэчка і асобна сяло. У 1845 г. да маёнтка Багушэвічы ў маёмасці Ч.Свентаржэцкага належаў фальварак Багушэвічы і навакольныя вёскі, разам 1305 жыхароў, 153 цяглыя двары, 8 агароднікаў, 20 дваровых людзей. Ва ўласнасці сялян 200 коней, 502 валы, 553 каровы, дзейнічалі млыны. Памешчыку належалі 1064 дзес. пашы, 520 дзес. сенажаці. У 1848 г. ў мястэчку 50 двароў.



*Касцёл Яна Багаслова (сярэдзіна 19 ст.) у в. Багушэвічы.*

У 1860 г. пабудавана драўляная царква. У 1863 г. ў сяле адкрыта школа (нар. вучылішча). У сярэдзіне 19 ст. ў цэнтры вёскі на гарадзішчы пабудаваны з цэглы касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. За ўдзел Б.Свентаржэцкага ў паўстанні 1863—64 гг. яго палац быў знішчаны. У 1875 г. цар Аляксандр І падараваў мястэчка Шалгунову. У 1885 г. 39 двароў, 350 жыхароў. У 1842 г. ў нар. вучылішчы займаліся 33 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 58 двароў, 221 жыхар, у сяле 77 двароў, 544 жыхары, у аднайменным маёнтку ва ўладанні С.Філіпава 3 двары, 14 жыхароў, прыпісная царква, у Якшыцкай вол. Дзейнічалі яўр. малітоўная школа, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, кузня, царква, танговыя лаўкі, піцейны з-д, працавалі шавец і гарбар, праводзіўся таржок. Побач з сялом знаходзілася аколіца Рачыборкі ў прыватным уладанні. Ва ўрочышчы ў 1894 г. быў заснаваны шкіпінарны з-д, на якім выпрацоўваліся смала, шкіпінар, дзёгаць, спірт з драўніны. Нарыхтоўкай садавіны для гэтага з-да займалася каля 100 чал. У 1908 г. ў мястэчку 50 двароў, 224 жыхары, у сяле 95 двароў, 795 жыхароў, у маёнтку 19 жыхароў. У 1912 г. адкрыта паштова-тэлегр. аддз., дзейнічалі пажарная каманда, касцёл, царква і 4 сінагогі. У 1917 г. сяло (якое ўвабрала ў сябе мястэчка), 138 двароў, 823 жыхары, у маёнтку 46 жыхароў.

З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. 1.11.1924 г. створана спажывецкае т-ва. У 1926 г. 184 двары, 909 жыхароў. У 1927 г. 107 двароў, 783 жыхары (з іх 72% беларусаў, 24% яўрэяў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941—44 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўсх. ускраіне ў брацкай магіле пахаваны 20 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць



гітлераўцаў. На франтах загінулі 49 вяскоўцаў.

З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 379 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 558 жыхароў, у вёсцы сепаратарны пункт, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, ветэрынарны ўчастак, лясніцтва, аддз. сувязі, 2 магазіны. Вёска — радзіма ген.-лейт. К.А.Каваленкі (н. 31.3.1891) і бел. сав. вучонага, засл. ўрача БССР, у 1940—48 гг. міністра аховы здароўя БССР М.І.Каваленкі (9.11. 1900—12.1.1958). Галоўная крывалінейная працяглая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Ад яе цэнтра перпендыкулярна на ПдЗ адыходзіць амаль прамалінейная вуліца, перакрыжаваная другой прамалінейнай вуліцай, паралельнай да галоўнай. На З, ПнЗ і ПнУ адыходзяць ад галоўнай 3 крывалінейныя кароткія вуліцы. Яшчэ адна амаль прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі праходзіць на паўд. ускраіне вёскі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд і Пн вёска забудоўваецца мураванымі двухпавярховымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны на галоўнай вуліцы і на паўд. ускраіне. У паўн. частцы захаваўся помнік архітэктуры — касцёл Яна Багаслова (сярэдзіна 19 ст.).

**БАРАВІНО** — вёска ва Ушанскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 96 км ад Мінска, на р. Беліца (прыток р. Уша). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Белічаны, Мікулічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Князеўка Ігуменскага павета Мінскай губ., 53 жыхары, уласнасць памешчыка Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. дзве сумежныя аднайменныя вёскі, у адной з якіх 31 двор, 221 жыхар, хлеба-запасны магазін, капліца на могілках, у другой 21 двор, 130 жыхароў, у Белічанскай вол. У 1908 г. адна вёска, 53 двары, 356 жыхароў. У 1917 г. 47 двароў, 310 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 65 двароў, 334 жыхары. У 1930 г. ўтвораны калгас «Камінтэрн». З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. Напярэдадні вайны ў 1940 г. 77 двароў, 452 жыхары. З канца чэрв. 1941 г. да 27.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28.11.1942 г. гітлераўцы спалілі 75 двароў і расстралялі 229 (па інш. звестках 208) жыхароў, якія пахаваны ў цэнтры вёскі. Пасля вайны адноўлена. Вёска — радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл., у 1943—44 гг. камісара 120-й партыз. брыгады і ў 1942—44 гг. сакратара Бярэзінскага падп. РК КП(б)Б І.П.Сакалоўскага (н. 18.4.1912 г.). На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 106 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Баравіно». У 2003 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Больш працяглая з іх амаль прамалінейная, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, дзе завершана невялікай трохвугольнай плошчай. На ПнУ ад плошчы трасіравана кароткая дугападобная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРАВІЦА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 31 км на ПдУ ад Беразіно, 31 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 131 км ад Мінска, на р. Беларэч (прыток р. Клява), на мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дулебы і Любушаны і далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 18 ст. У 1704 г. в. Боркі, уласнасць Друцкага-Саколінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 2 двары, 14 жыхароў, уласнасць Храптовіча, у Барысаўскім павеце. З 20.8.1924 г. ў Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 6 двароў, 32 жыхары. У 1932 г. разам з вёскай Дулебы-2, Вайцюкова, Тоўсціца ўвайшла ў калгас «Чырвоная Зорка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. У 1960 г. 84 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Любушанскі». У 2003 г. 12 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных паралельных паміж сабой вуліц, забудаваных аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРКІ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 13 км на З ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 93 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2008).



*Стары Ігуменскі шлях каля в. Баркі.*

У 1885 г. засценак у Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. Боркі, 14 двароў, 100 жыхароў. У 1917 г. вёска, 18 двароў, 145 жыхароў. У 1926 г. 26 двароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 26 двароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бор». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1957 г. 44 двары. У 1960 г. 160 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Паплавы» (цэнтр — в. Паплавы), ферма буйной рагатай жывёлы. У 2003 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРСУКІ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 29 км на ПнУ ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 129 км ад Мінска, на У р. Платка (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Высокая Гара, Кукарава і далей па шашы Мінск—Магілёў. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. засценак, 19 двароў, 129 жыхароў, у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. вёска, 21 двор, 133 жыхары, побач маёнтак, у якім у 1923 г. пражывала 11 чал. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 35 двароў, 157 жы-



вёска ўвайшла ў склад узбуйненага калгаса «Сталінскі шлях». У 1960 г. 102 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ў саўгасе «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 1980-я г. дзейнічаў магазін. У 2003 г. 10 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРСУЧЫНА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 48 км на Пд ад Беразіно, 128 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Асіповічы—Магілёў, 148 км ад Мінска, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Брадзец і далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Утворана ў 1839 г. пад назвай Барсукова Града. У 1885 г. засценак Барсучын у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіца Барсукова Града (яна ж Сакалоўшчына) у Брадзецкай вол., 39 двароў, 275 жыхароў. Землі належалі двараніну Паўлюкоўскаму. З бліжэйшых хутароў у часы сталыпінскай рэформы 1910 г. сюды былі перавезены пабудовы з сем'ямі. У 1917 г. ў складзе Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на (да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі) у БССР, з 25.6.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ральнік», у 1930 г. калгас імя Вайкова. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У гады Вял. Айч. вайны вёска стала базай бярэзінскіх і крычаўскіх партызан; дзейнічалі атрады Ізоха, Каралёва, Яроцкага. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 27 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 191 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Ільіча, магазін. У 2003 г. 17 гаспадарак, 22 жыхары. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, падзеленых лагчынай. Паўд. — працяглая прамалінейная, паўн. — кароткая прамалінейная з разрывам у цэнтры. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕЛІЧАНЫ** — вёска ва Ушанскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 109 км ад Мінска, на р. Беліца (прыток р. Жорнаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Баравіно, Ляжына, Вялікія Лагі і далей па шашы Мінск—Магілёў. 20 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

Упершыню ўзгадваецца ў 1506 г., вёска, уласнасць кн. Дз.Пуцяціна. У 1624 г. знаходзіліся ў сумесным уладанні Падбярэзскіх, Варапаевых і Сапегі. У далейшым частка даннікаў з вёскі належала праваслаўнай, а з 1596 г. — уніяцкай мітраполіі. У 1636 г. вёска падпарадкоўвалася уніяцкаму мітрапаліту Іосіфу Руцкому. У 1651 г. сярод мітрапаліцкіх уладанняў прыгадваюцца 6 дымоў. У 17 ст. пазначана на картах ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., часткова ўласнасць царквы — мітрапаліта Феадосія Растоцкага і віленскіх базыльян, часткова — прыватная ўласнасць. У 1800 г. сяло (16 двароў, 137 жыхароў), фальварак (драўляны гаспадскі дом) і вёска (15 двароў, 139 жыхароў, драўляная уніяцкая царква, млын на р. Беліца, 3 карчмы). У 1842 г. пабудавана царква ў імя святіцеля Мікалая. У 1861 г. пры царкве адкрыта нар. вучы-

лішча, а ў 1863 г. царк.-прыходская школа. У 1866 г. сяло, цэнтр Белічанскай воласці Ігуменскага павета, 22 двары. У 1886 г. 12 двароў, 140 жыхароў. У 1892 г. ў нар. вучылішчы навучалася 60 хлопчыкаў, у 1905 г. 74 хлопчыкі і 21 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 27 двароў, 201 жыхар, валаснoе праўленне, паштовая сядзіба, нар. вучылішча, царква. Асобныя часткі знаходзіліся ва ўладанні Белічанскай царквы (3 двары, 12 жыхароў), Сафінія Фёдарава (3 двары, 20 жыхароў). У аколіцы 21 двор, 109 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 42 двары, 239 жыхароў, у аколіцы 21 двор, 124 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр Белічанскага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. 29.11.1924 г. створана спажывецкае т-ва. У 1926 г. вёска (47 двароў, 234 жыхары) і аколіца (25 двароў,117 жыхароў). У 1929 г. створаны калгас «XVI з'езд ВКП(б)». З 20.2. 1928 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 20 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. (пасля перанясення цэнтра сельсавета ў в. Ляжына) у Ляжынскім с/с. У 1960 г. 176 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1978 г. аднайменны пасёлак быў аб'яднаны з вёскай. У 1980 г. ў складзе калгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Вялікія Лагі), дзейнічалі клуб, магазін, стайня, ферма буйной рагатай жывёлы. У 2003 г. 25 гаспадарак, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з 4 вуліц. Галоўная — крывалінейная працяглая з мостам цераз раку арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на Пн адыходзіць другая крывалінейная вуліца, а на ПдУ — прамалінейная вуліца таксама з мостам цераз раку. Чацвёртая вуліца амаль шыротнай арыентацыі (былая аколіца) праходзіць адасоблена на ПдЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі з сядзібнымі ўчасткамі. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне. Радзіма Ю.А.Масальскага, паэта, удзельніка нац. руху ў Беларусі.

**БЕРАЖКІ** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 10 км на Пн ад Беразіно, 56 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 110 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Прыбярэжнае, Жорнаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

На паўд. ускраіне вёскі, з левага боку ад дарогі Беразіно—Жукавец, размешчаны курганны могільнік (мясц. назва Французскія магілы, 8 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у даўнія часы. Сучасная вёска створана вясной 1945 г., калі пачалося будаўніцтва цагельнага з-да, які пачаў працаваць 7.11.1947 г. У 1960 г. 79 жыхароў, магазін. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Сцяг Кастрычніка», цагельны з-д. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай няшчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕР'Е** — былая вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 34 км на Пн ад Беразіно, 48 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 134 км ад Мінска, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў.

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 3 двары, 17 жыхароў. У 1917 г. хутар, 5 двароў, 44 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Арэшкавіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. 23 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бальшавік».



Уздоўж кароткай вуліцы былі размешчаны 3 сял. сядзібы.

**БОЖЫНА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Беразіно, 28 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 114 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па дарозе Беразіно—Бабруйск. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. У 1743 г. сяло Божын, 10 двароў, кузня, карчма, уласнасць царквы. У 1777 г. пабудавана драўляная Ільінская царква. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 44 двары, 362 жыхары. У сяле 5 жыхароў мужчынскага полу (цыгане). Дзейнічалі уніяцкая царква, карчма, вадзяны млын, меўся гаспадарскі дом са службамі, уласнасць памешчыка М.Валовіча. Паводле рэвізіі 1811 г. мястэчка Божын і вёска Новы Божын (63 жыхары мужчынскага полу). У 1844 г. маёнтак і аднайменны фальварак, уласнасць памешчыка С.Ясенскага, у 1846 г. — губ. сакратара І.Палянскага. У 1858 г. мястэчка, цэнтр маёнтка, уласнасць С.Ясенскага. У 1860 г. адкрыта царк.-прыходская школа, у якой у 1890 г. навучалася 27 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г. ў Брадзецкай вол., у сяле 39 двароў, 254 жыхары, у маёнтку 3 двары, 27 жыхароў, на паштовай сядзібе 3 двары, 13 жыхароў. Дзейнічалі Ільінская прыходская царква і капліца, багадзельня, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа. У 1917 г. ў сяле 50 двароў, у маёнтку 25 жыхароў. У пач. 1920-х г. у маёнтку створана садова-агранамічная гаспадарка. З 20.8.1924 г. ў Перавозаўскім с/с (да 1927 г. — цэнтр сельсавета) Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. ў вёсцы 60 двароў, 263 жыхары, у пасёлку 3 двары, 15 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Камбайн». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 28 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Багушэвіцкім с/с. У 1960 г. 219 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Міхалева), дзейнічаў магазін. У 1964 г. вёска перайменавана ў Прырэчча, гіст. назва Божына вернута 9.1.1993 г. Планіровачна складаецца з 2 (працяглай і кароткай) прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРАДЗЕЦ** — вёска ў Сялібскім с/с, цэнтр СВК «Брадзец», за 25 км на Пд ад



*Ільінская царква ў в. Божына.*



*Галоўная вуліца в. Божына.*





Беразіно, 26 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 125 км ад Мінска. На З цячэ р.Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Капланцы, Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 141 гаспадарка, 308 жыхароў (2008).

Непадалёк ад вёскі, у лесе, захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у даўнія часы. Вёска вядома ў ВКЛ з 15 ст. Захаваўся дакумент ад 29.2. 1499 г., у якім упамінаецца Брадзец, які належаў баярам Катовічам. У 1535 г. належаў кн. Ф.М.Вішнявецкаму, які запісаў яго ў пажыццёвае карыстанне сваёй жонцы Настассі. У 1567 г. сяло Брадзец у Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1795 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 44 двары, 327 жыхароў, драўляная уніяцкая царква, плябанія. У 1806 г. пабудавана новая драўляная Успенская царква. У 1856 г. ў сяле 464 жыхары, у маёнтку 4 жыхары. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1866 г. 65 двароў, царква і касцёл. У 1886 г. цэнтр Брадзецкай вол., якая налічвала 34 пасяленні і 490 двароў. У сяле 54 двары, 566 жыхароў, вал. праўленне, праваслаўная царква, школа, вінакурны з-д. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 125 двароў, 819 жыхароў, Успенская царква, вал. праўленне, нар. вучылішча (у якім у 1892 г. навучалася 59 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка, у 1905 г. 59 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі), хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, піцейны дом, штогод таржкі ў дзень храмавага свята. На паштовай сядзібе 4 двары, 37 жыхароў, капліца на могілках, вапнавы з-д, піцейны дом. У 1917 г. ў сяле 138 двароў, 850 жыхароў, у маёнтку 71 жыхар. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. У 1918 г. арганізаваны сельсавет, адкрыта пач. школа. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 — Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Брадзецкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1925 г. пачалі працаваць тэлеграф і паштовае аддз. У 1926 г. 154 двары, 816 жыхароў. У 1928 г. пабудаваны млын. У 1934 г. арганізаваўся калгас «Бярэзіна», пабудавана 7-гадовая школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Напярэдадні вайны працавалі сельскі клуб і б-ка, медыцынскі пункт і добраахвотная пажарная дружына. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 62 вяскоўцы. На могілках у брацкай магіле пахаваны 10 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. На фронце і ў тыле ворага загінуў 201 жыхар Брадзецкага с/с. У памяць аб іх у 1968 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена скульпт. кампазіцыя воіна і партызана. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1946 г. побач з вёскай размясцілася Партызанская МТС. У 1955 г. завершана будаўніцтва школы. У 1960 г. пабудавана сталовая. У 1966 г. суседнія вёскі Брадзец 1 і Брадзец 2 аб'яднаны ў адзіную. У 1969 г. адкрыта ўчастковая бальніца на 50 ложкаў. У 2003 г. 173 гаспадаркі, 354 жыхары. Сярэдняя школа, аддз. сувязі, участковая бальніца, магазін, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, комплексны прыём-



*Рака Бярэзіна ў Бярэзінскім раёне.*



ны пункт быт. абслугоўвання, аптэка, сталовая, камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва. У 2008 г. Брадзецкі с/с скасаваны, вёска перададзена ў Сялібскі с/с. Планіровачна складаецца з паўн.-зах. (працяглая крывалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, ад якой на З адыходзіць прамалінейная, перакрыжаваная перпендыкулярна 3 кароткімі новымі вуліцамі; былая в. Брадзец 1) і паўд.-ўсх. (ад амаль прамалінейнай працяглай вуліцы шыротнай арыентацыі на Пн і на ПдУ адыходзяць 3 крывалінейныя вуліцы з завулкамі; былая в. Брадзец 2) частак. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр размешчаны ў паўд.-ўсх. частцы на гал. вуліцы.

**БРЫЯЛЁВА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Беразіно, 44 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 109 км ад Мінска, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Баркі, Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1885 г. аколіца ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіца Брыялёва, 19 двароў, 120 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 187 жыхароў, усе рымска-каталіцкага веравызнання. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. Восенню 1930 г. створаны калгас «Сталінскі ўраджай». З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У ліп. 1950 г. на аснове 4 дробных калгасаў створаны адзін — «Сталінскі ўраджай». З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 116 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1971 г. ў Бярэзінскім с/с. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Сцяг Кастрычніка». У 2003 г. 17 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЫКОВІЧЫ** — вёска ў Мачаскім с/с , за 18 км на У ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 118 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 18 гаспадарак, 44 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1781 г. засценак, 3 двары, уласнасць Храптовіча, у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 77 жыхароў, уласнасць памешчыка Бенігсена, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 19 двароў, 143 жыхары. У 1917 г. 23 двары, 182 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 29 двароў, 171 жыхар. У 1931 г. створаны калгас «Новыя Быковічы». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 143 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Любушанскі», магазін. У 2003 г. 27 гаспадарак, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной працяглай крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, якая праходзіць уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЫЧЫН** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 42 км на Пд ад Беразіно, 16 км ад




чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 116 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). 33 гаспадаркі, 50 жыхароў (2008).

Вёска вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска Бычаны ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. вёска пры паштовай дарозе на Ігумен, 9 двароў, 51 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 251 жыхар, капліца, у Якшыцкай вол. У 1917 г. 58 двароў, 364 жыхары. У 1920 г. была адкрыта школа. З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930 г.) БССР. У 1930 г. Бычын разам з вёскамі Чыжаха, Гаранка, Крупка ўвайшоў у калгас «Перамога». З 25.7. 1931 г. ў Бярэзінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. У 1960 г. 302 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Гвардзеец», ферма буйной рагатай жывёлы. У 2003 г. 46 гаспадарак, 73 жыхары. З 2008 г. ў Багушэвіцкім с/с. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай і кароткай прамалінейнай амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаваных двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯЛАВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Беразіно, 27 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 135 км ад Мінска. Праз вёску на Пн цячэ ручай, які амаль у цэнтры ўпадае ў сажалку. Транспартныя сувязі па дарозе Беразіно—Бобр і далей па шашы Мінск—Магілёў. 51 гаспадарка, 75 жыхароў (2008).

Вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. Упамінаецца ў 1639 г. як маёнтак Марціміляна Крахоўскага. У 1670 г. вёска, 10 дымоў, у Барысаўскім старастве Забабруйскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 33 двары, 260 жыхароў, і панскі двор, у Барысаўскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. Дзейнічала вясковая уніяцкая капліца. У 1870 г. ў Дзмітравіцкай вол., 95 жыхароў мужчынскага полу. У 1884 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 67 двароў, 468 жыхароў, дзейнічалі капліца і піцейны дом. У 1908 г. 82 двары, 455 жыхароў. У 1917 г. 88 двароў, 526 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Арэшкавіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 103 двароў, 563 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новыя Бялавічы». З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 112 двароў, 528 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942—44 гг. гітлераўцы спалілі 105 двароў, загубілі 42 жыхары. Вызвалена 1.7.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 41 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. 500 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Дзмітравічы» (цэнтр — в. Дзмітравічы). Дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2003 г. 66 гаспадарак, 89 жыхароў. Ручай з сажалкай падзяляе вёску на зах. частку з прамавугольнай планіроўкай: 4 узаемна перакрыжаваныя пад прамымі вугламі вуліцы, амаль мерыдыянальна і шыротна арыентаваныя; на перакрыжаванні 2 з іх утворана прамавугольная плошча. Усх. частку ўтварае крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі (праходзіць уздоўж ручая). Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 29 км на У ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—



Асіповічы, 129 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р.Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

За 1км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік (26 насыпаў) і за 1,7 км на ПнЗ ад вёскі другі могільнік (7 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ў Пагосцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 33 жыхары. У 1917 г. вёска, 10 двароў, 69 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1930 г. Бярозаўка разам з вёскамі Казлоў Бераг і Бабінка ўвайшла ў калгас «Чырвоны Бераг». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. У 1960 г. 83 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск). У 2003 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 113 км ад Мінска, на ПдЗ цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 29 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., сядзіба, 7 двароў, 33 жыхары, і аднайменная ферма, 5 двароў, 35 жыхароў. У 1908 г. засценак, 6 двароў, 49 жыхароў, і ўрочышча, 4 двары, 31 жыхар. У 1917 г. ў вёсцы 14 двароў, 95 жыхароў, ва ўрочышчы 10 двароў, 69 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. У 1921 г. 14 двароў, 95 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. праведзена калектывізацыя. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 145 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1971 г. ў Пагосцкім с/с. У 1980 г. ў складзе калгаса «Камунар». У 2003 г. 39 двароў, 86 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы ўздоўж ракі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Беразіно, 44 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 145 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Клёнаўка (прыток р. Уша). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. З гаспадаркі, 3 жыхары (2008)

У 1870 г. вёска ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 11 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 78 жыхароў, побач сядзіба Бярозаўкі, якая ўваходзіла ў маёнтак Раванічы, 5 двароў, 31 жыхар. У 1917 г. 11 двароў, 101 жыхар. З 20.8. 1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. ў вёсцы 15 двароў, 87 жыхароў, на хутары 1 двор, 5 жыхароў. У 1930 г. Бярозаўка разам з в. Пярэста ўвайшла ў калгас імя Варашылава. З 20.2.1918 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пачатку ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час

карнай аперацыі «Майскі жук» (14—16.5.1943 г.) акупанты часткова спалілі вёску. 31.10.1943 г. ням. самалёты запальнымі бомбамі дашчэнту спалілі вёску. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 58 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1971 г. ва Ушанскім с/с. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай кароткай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРЭЗНІЦА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 117 км ад Мінска, на р. Крапівянка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гарэнічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1885 г. фальварак у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. 37 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ., потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. вёска, 14 двароў, 85 жыхароў. У 1932 г. разам з в. Уюноўка ўвайшла ў калгас «Прагрэс». З 20.2.1928 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. Бярэзніца разам з вёскамі Вязькуцін 1-ы, Валоўніца, Уюноўка, Рудзенка ўвайшла ў аб'яднаны калгас «Вольная праца» (з цэнтрам у в. Вязькуцін 1-ы). У 1960 г. 145 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка). У 2003 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЛОЎНІЦА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 118 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Крапівенка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бярэзніца, Капланцы, Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з канца 18 ст. У 1800 г. вёска Валаніца ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 26 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле інвентароў 1845 г. сяло і фальварак у складзе маёнтка Капланцы, ва ўласнасці памешчыка С.Ясенскага. У 1858 г. вёска, 66 жыхароў. У 1870 г. — Валоўніца, 36 жыхароў мужчынскага полу. Дзейнічала школа граматы, якая ў 1890 г. была зачынена «з-за недахопу сродкаў». Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай воласці, 20 двароў, 171 жыхар, уваходзіла ў Капланецкае сельскае т-ва. У 1908 г. 34 двары, 136 жыхароў. У 1917 г. 28 двароў, 206 жыхароў. З 6.10.1919 г. Пагосцкая вол. уваходзіла ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім с/с (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Валоўніцкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. 21.8.1925 г. Валоўніцкі с/с перайменаваны ў Каменна-Борскі. У 1926 г. 39 двароў, 202 жыхары. У 1932 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Бярэзніца аб'ядналіся ў калгас «Прагрэс». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г.



Валоўніца разам з вёскамі Вязькуцін 1-ы, Бярэзніца, Рудзенка ўвайшла ў калгас «Вольная праца» (з цэнтрам у в. Вязькуцін 1-ы). У 1960 г. 117 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр – в. Косаўка). У 2003 г. 2 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, ад якой на ПнУ адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЕЎШЧЫНА** – вёска ў Пагосцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Беразіно, 52 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 128 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р. Бярэзіна), каля вёскі праходзіць шаша Мінск—Магілёў. 71 гаспадарка, 213 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 10 двароў, 98 жыхароў. У 1908 г. ўрочышча, 12 двароў, 84 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 19 двароў, 152 жыхары, з іх 7 – праваслаўнага веравызнання, 147 – каталікі. З 6.10.1919 г. Пагосцкая воласць у складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР. З 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8. 1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 27 двароў, 155 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас «Молат». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 135 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім р-не, з 4.1.1964 г. ў Пагосцкім с/с. З 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-не. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Камунар». З 1986 г. вёска – цэнтр. сядзіба падсобнай гаспадаркі РУП «БелаўтаМАЗ», дзейнічалі асфальтавы з-д, магазін, АТС. У 2003 г. 83 гаспадаркі, 219 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЬЕЎКА** – вёска ў Капланецкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Беразіно, 24 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 125 км ад Мінска, мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вязкуцін 2, Каменны Барок і далей па шашы Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 37 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1658 г. сяло, 12 двароў, уласнасць К.Трызны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 93 жыхары, уласнасць памешчыка Ф.Слізеня. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 13 двароў, 97 жыхароў, у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 15 двароў, 103 жыхары. У 1917 г. дзве вёскі: Васільеўка 1 (7 двароў, 45 жыхароў) і Васільеўка 2 (9 двароў, 79 жыхароў). З 6.10.1919 г. Пагосцкая воласць уваходзіла ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Валоўніцкім, з 21.8.1925 г. ў Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. 30.9.1924 г. створана с.-г. т-ва. У 1926 г. ў в. Васільеўка 1 – 9 двароў, 46 жыхароў, у в. Васільеўка 2 – 12 двароў, 74 жыхароў, у Васільеўцы 3 – 6 двароў, 20 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Дзень Чырвонай Арміі». У 1934 г. адкрыта пач. школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. вёскі зліліся ў адну, у 1941 г. ў вёсцы 64 двары, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ням.-фаш. акупацыі вяскоўцы перажылі 2 карныя аперацыі («Дранц» і «Майскі жук»), у выніку якіх вёска была часткова спалена. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 23 вяскоўцы. З 20.9.

1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. вёска ва ўзбуйненым калгасе імя Молатава. У 1960 г. 220 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 1968 г. ў калгасе «Памяць Леніна». У 1986 г. праведзены водаправод, вёска заасфальтавана. У 1980-я г. дзейнічаў магазін. У 2003 г. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў. З 2008 г. ў Капланецкім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з разрывамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВІЛЯЦІНА** – былая вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Беразіно, 22 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Магілёў–Асіповічы, 83 км ад Мінска. На У цячэ р. Пянтрыца (прыток р. Бярэзіна).

Паводле перапісу 1897 г. ў Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., сядзіба Велянціна ва ўладанні Філіпава, здадзеная ў арэнду, 10 двароў, 75 жыхароў, побач знаходзілася аколіца Рачыборка. У 1908 г. ўрочышча, 10 двароў, 147 жыхароў. У 1917 г. вёска, 25 двароў,151 жыхар. У 1920 г. была адкрыта школа. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 1933 г. ў складзе калгаса «Чырвоная Зорка» разам з вёскамі Рачыборак і Сыманаўка. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 71 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыяльнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВІНОРАВА** – вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы–Градзянка, 117 км ад Мінска. На ПдУ цячэ р. Пянтрыца ( прыток р. Бярэзіна). 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Паводле інвентару 1845 г. Елеанорава, у складзе маёнтка Капланцы ва ўласнасці С.Ясенскага. З часам назва змянілася на Вінорава. На пач. 20 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. З 20.8. 1924 г. ў Перавозаўскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. ў вёсцы 47 двароў, 248 жыхароў, на хутары 3 двары, 9 жыхароў. У 1934 г. быў створаны калгас «20 год Кастрычніка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 26 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Кагановіча, з 16.7.1954 г. ў Багушэвіцкім с/с. У 1960 г. 180 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса імя XXVII з'езда КПСС (цэнтр – в. Міхалёва). У 2003 г. 34 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОЛЫ** – вёска ў Мачаскім с/с, за 25 км на У ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў–Асіповічы, 125 км ад Мінска, на ПдУ і У цячэ р. Клява (прыток р.Бярэзіна), на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Магілёў. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 19 ст. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 59 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 160 жыхароў. У 1917 г. 147 жыхароў, 22 двары. З 20.8. 1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 28 двароў, 156 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы разам з жыхарамі в. Васілеўшчына аб'ядналіся ў калгас «Молат». З



20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 120 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск». У 2003 г. 17 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Ад канца прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна, на ПдЗ адыходзіць крывалінейная вуліца, трасіраваная ўздоўж ракі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСАВА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Беразіно, ад чыг. ст. Насята на лініі Магілёў—Асіповічы, 114 км ад Мінска. На Пн цячэ р. Крапівенка (прыток р. Бярэзіна). 22 гаспадаркі, 38 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Восаў, 4 двары, 14 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1885 г. засценак Восаў, у Брадзецкай вол. У 1908 г. 6 двароў, 28 жыхароў. У 1917 г. вёска, 15 двароў, 100 жыхароў, і хутар, 3 двары, 21 жыхар. З 6.10.1919 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай акругі, з 9.6.1927 г. да 27.6. 1930 г. Мінскай акругі. У 1934 г. разам з жыхарамі вёсак Цагельня і Падасінавік вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Маяк». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 142 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна». У 2003 г. 29 гаспадарак, 45 жыхароў, магазін. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Радзіма бел. паэта. І.М.Маркевіча (1936—81). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСАВА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Беразіно, 31 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 131 км ад Мінска, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 32 гаспадаркі, 69 жыхароў (2008).

За 1,1 км на Пн ад вёскі, каля мясц. дарогі захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Калюжыцы, уладанне памешчыка К.Вайткевіча. У 1870 г. ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 20 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска Асавок, 10 двароў, 94 жыхары, а таксама сядзіба Восава, 2 двары, 18 жыхароў. У 1908 г. 21 двор, 130 жыхароў. У 1917 г. вёска Восава, 22 двары, 154 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1932 г. створаны калгас «2-я пяцігодка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 34 двары, 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—1944 гг. спалілі 33 двары, загубілі 41 жыхара. 17.5.1943 г. тут адбыўся бой партыз. атрадаў імя Варашылава, «Камуніст» і «Бальшавік» (брыгады імя Шчорса) з карным атрадам. 6.6.1944 г. партызаны атрада «Перамога» (камандзір М.А.Рабкевіч) разграмілі варожы гарнізон у вёсцы. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ва Ушанскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава), магазін. У 2003 г. 38 гаспадарак, 79 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыя-




нальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСТУП** — вёска ў Сялібскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Беразіно, 22 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 125 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Створана ў пач. 1920-х г. У 1921 г. ў вёсцы арганізавана с.-г. т-ва «Перамога». З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1927 г. 31 гаспадарка, 35 жыхароў, якія разам з жыхарамі в. Новае Жыццё аб'ядналіся ў арцель «Новае Жыццё». У 1930 г. адкрыта пач. школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 16 вяскоўцаў. З. 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 164 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец). У 2003 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, магазін, клуб, малочная ферма. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіроўка Г-падобная. Да кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца перпендыкулярна з ПнЗ другая вуліца. Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУСЦЕ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Беразіно, 19 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Магілёў, 95 км ад Мінска, пры ўпадзенні р. Дабрыца ў р. Уса. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1699 г. вёска, 4 двары, у Аршанскім павеце, уласнасць памешчыка. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 7 двароў, 57 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа К.Завішы. У 1858 г. ў складзе маёнтка Багушэвічы, 68 жыхароў, уласнасць памешчыка Свентаржыцкага. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Якшыцкай воласці Ігуменскага павета, 24 двары, 170 жыхароў. У 1908 г. 35 двароў, 210 жыхароў. У 1917 г. 44 двары, 259 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 48 двароў, 240 жыхароў. У ліп. 1930 г. створаны калгас «Чырвоная кветка» (потым перайменаваны ў «Савет»). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 16 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 145 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Беларусь». У 2003 г. 22 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫКРАС** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 126 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Плаўня (прыток р. Брусята), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 24 жыхары, у складзе маёнтка Беразіно Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць М.Патоцкага. У 1870 г. вёска Выкрэс, 11 жыхароў мужчынскага полу, у Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. вёска Выкрэсь, 5 двароў, 46 жыхароў, уваходзіла ў Лясовіцкае сельскае т-ва. У 1908 г. 12 двароў, 83 жыхары. У 1917 г. 64 жыхары. З 6.10.1919 г. ўваходзіла ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвенскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Дзмітравіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 12 двароў, 76 жыхароў. У 1932 г. ўвайшла ў склад калгаса «Новы Каранец». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял.



Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 62 жыхары. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Дзмітравічы». У 2003 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з амаль дугападобнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЯ ГАРА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Беразіно, 17 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Магілёў, 100 км ад Мінска, на правым беразе р. Уса (прыток р. Бярэзіна). 22 гаспадаркі, 50 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 10 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. вёска ва ўладанні К.Маршалавай, 66 сялян мужчынскага полу. У 1845 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Багушэвічы ў маёмасці Ч.Свентаржэцкага. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ва ўладанні Філіпава, здадзена ў арэнду, 10 двароў, 77 жыхароў, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета. У 1908 г. 10 двароў, 101 жыхар. У 1917 г. 24 двары, 137 жыхароў. З 20.8.1924 г. Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1932 г. вёска ўвайшла ў калгас «Саюз». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. 95 жыхароў. У 1980 г. ў складзе калгаса «Беларусь», піларама, магазін, машынны двор. У 2003 г. 61 жыхар. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЯ ГАРА** — вёска ў Пагосцкім с/с, цэнтральная сядзіба СВК «Высакагорскі», за 26 км на ПнУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 126 км ад Мінска, на возеры і р. Плаўня (прыток р. Брусята), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кукарава і далей па шашы Мінск—Магілёў. 112 гаспадарак, 286 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 96 жыхароў, млын на р. Паплавы; побач з вёскай засценак, 1 двор, 10 жыхароў. У 1858 г. ў складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1884 г. адкрыта школа граматы,ператвораная ў 1912 г. ў нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета, у вёсцы 37 двароў, 270 жыхароў, царква на могілках, хлебазапасны магазін, у аколіцы 4 двары, 39 жыхароў, у сядзібе 2 двары, 12 жыхароў. У 1905 г. землі належалі памешчыку Шалгунову. У 1908 г. ў вёсцы 37 двароў, 253 жыхары. 13.6.1911 г. сяляне (25 чал.) наўмысна разбурылі плаціну на млыне графа Патоцкага пры в. Высокая Гара. У 1917 г. 40 двароў, 237 жыхароў. З 6.10.1919 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Высакагорскага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1926 г. 56 двароў, 245 жыхароў. У будынку былой карчмы з 1920 г. дзейнічала 4-класная школа (у 1932 г. адкрыты 5-ы клас, з 1933 г. — школа калгаснай моладзі), створаная на базе былой земскай. У 1934 г. было завершана будаўніцтва новага памяшкання школы. У 1930 г. вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Ялоўка, Мядзенка і Дварок арганізавалі калгас «Серп». З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У баях пры вызваленні вёскі ад ням.-фаш. захопнікаў загінулі 10 сав. воінаў, якія пахаваны на могілках. У цэнтры вёскі таксама пахаваны 17 сав.

воінаў і каля будынка сельсавета 21 воін і партызан, якія загінулі ў баях з фашыстамі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 20 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1950 г. вёска ў калгасе імя Мікаяна, потым у саўгасе «Высакагорскі». У 1960 г. 252 жыхары, пабудаваны сельскі клуб і фельч.-акушэрскі пункт. У 1980 г. сярэдняя школа, сталовая, комплексны прыёмны пункт, дзіцячая б-ка (больш за 19 тыс. кніг), Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. У 2003 г. 120 гаспадарак, 366 жыхароў. У 2008 г. Высакагорскі с/с скасаваны, вёска перададзена ў Пагосцкі с/с. Планіровачна ўяўляе сабой 4 прамалінейныя вуліцы, перакрыжаваныя амаль перпендыкулярна крывалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, узведзены аднапавярховыя і двухпавярховыя мураваныя дамы. У 1966—93 гг. у склад вёскі ўваходзіла в. Ялоўка (на левым беразе ракі; адноўлена як асобны населены пункт).

**ВЯЗЗЕ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 112 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў. 19 гаспадарак, 37 жыхароў (2008).

У вёсцы, на правым беразе р. Клёва захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 31 двор, 186 жыхароў і фальварак у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць Бярэзінскага касцёла, меўся млын. У 1870 г. вёска Вязі, 104 жыхары мужчынскага полу, у Пагосцкай вол. У 1888 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучаліся 10 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы Вяззе 50 двароў, 337 жыхароў, заезны дом, хлебазапасны магазін, капліца на могілках. У 1908 г. 53 двары, 368 жыхароў. У 1917 г. 58 двароў, 397 жыхароў. З 6.10.1919 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У 1920 г. адкрыта 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8. 1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 61 двор, 294 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах, з 11.3.1971 г. ў Пагосцкім с/с. У 1960 г. 274 жыхары. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Камунар», дзіцячы сад, б-ка, магазін. У 2003 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Адна з іх (на ПнЗ) больш працяглая, Г-падобная. Другая (на ПдУ), прамалінейная, кароткая. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЗЫЧЫН** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Беразіно, 43 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск—Орша, 113 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Жорнаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пружанка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1885 г. аколіца ў Беліčанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 71 жыхар. У 1917 г. 11 двароў, 72 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Беліčанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 13 двароў, 52 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Жарамец, Ляжына, Марысіна аб'ядналіся ў калгас «Ленінскі шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1951 г. перада-



дзена ў склад Бярэзінскага с/с. У 1960 г. 33 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка». У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планіровачная структура вёскі хутарская.

**ВЯЗЬКУЦІН 1** — вёска ў Капланецкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 112 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Крапівенка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Капланцы, Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2008).

Утворана ў 1910 г. ў час сталыпінскай рэформы пераважна перасяленцамі з сучаснага Пухавіцкага р-на, якія атрымлівалі тут зямлю. Хутары цягнуліся ад в. Вяззе да в. Куціно (сучасны Клічаўскі р-н). У 1917 г. вёска Вязь-Куцін, 22 двары, 133 жыхары, у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 6.10. 1919 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1931 г. ў вёсцы ўтвораны калгас «Вольная праца». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 23 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. да калгаса «Вольная праца» былі далучаны суседнія калгасы «Прагрэс», «Трактар» (в. Вязькуцін 1 стала цэнтрам аб'яднанай гаспадаркі). У 1960 г. 299 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка), магазін і б-ка. У 2003 г. 93 жыхары. Галоўная вуліца вёскі крывалінейная. Ад яе цэнтра на Пд адыходзіць прамалінейная кароткая вуліца з завулкамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ і ў цэнтры ўзведзены мураваныя дамы.

**ВЯЗЬКУЦІН 2** — вёска ў Капланецкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 123 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Каменны Барок, Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 29 гаспадарак, 56 жыхароў (2008).

Узнікла ў 1920-я г. пры в. Вязькуцін 1, якая заснавана ў 1910 г. З 20.8. 1924 г. ў Валоўніцкім, з 21.8.1925 г. ў Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1930 г. быў створаны калгас імя Молатава. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. пабудавана пач. школа. Напярэдадні вайны ў 1940 г. ў вёсцы 74 двары, 339 жыхароў. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. Пасля вайны да мясцовага калгаса далучаны 3 суседнія калгасы. У 1957 г. вёска радыёфікавана, а ў 1962 г. электрыфікавана, пабудаваны магазін. У 1960 г. 266 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 1968 г. — у калгасе «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Каменны Барок). У 1970-я г. праведзены водаправод, вуліцы заасфальтаваны. У 1980 г. б-ка, магазін. У 2003 г. 42 гаспадаркі, 75 жыхароў. З 2008 г. ў Капланецкім с/с. Планіроўка прамавугольная. Ад двух канцоў прамалінейнай вуліцы перпендыкулярна адыходзяць 2 прамалінейныя вуліцы, злучаныя на Пд дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ ЛАГІ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 95 км ад Мінска, на р. Лугавы (прыток р. Жорнаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мікулічы і далей па шашы




Мінск—Магілёў. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2008).

За 2 км на Пн ад вёскі ва ўрочышчы захаваўся курганны могільнік (11 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. Упершыню ўпамінаецца як Лагі ў 1506 г., калі яна належала кн. Дзмітрыю Пуцяціну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 24 двары, 179 жыхароў, драўляная уніяцкая капліца і 2 драўляныя гаспадарскія дамы, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска і маёнтак, памешчыцкая ўласнасць. У 1870 г. 84 жыхары мужчынскага полу, у Белічанскай вол. Маёнтак належаў памешчыку Каркузевічу. У дакументах 1885 г. вёска ўзгадваецца пад назвай Вялікія Лагі. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 350 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы, у аднайменным маёнтку ва ўладанні Льва Карказовіча, 9 двароў, 46 жыхароў, малочная лаўка. У 1908 г. ў вёсцы 344 двары, у маёнтку 69 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 59 двароў, 388 жыхароў (па іншых звестках 40 двароў, 383 жыхары), у маёнтку 1 двор, 24 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 63 двары, 360 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўвайшлі ў склад калгаса імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Напярэдадні вайны ў 1940 г. 62 двары, 325 жыхароў. З канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942—44 гг. гітлераўцы спалілі 60 двароў, загубілі 2 жыхароў. На мясц. могілках таксама пахаваны 4 сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 222 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі), сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. банка, сталовая, аддз. сувязі. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 59 жыхароў. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯРХЛЁЎКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2008).

У 19 ст. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча, 9 двароў, 70 жыхароў. У 1908 г. 9 двароў, 63 жыхары. У 1917 г. 8 двароў, 85 жыхароў. З 6.10. 1919 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 21 двор, 130 жыхароў. У 1930 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя К.Маркса. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 146 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе падсобнай гаспадаркі Мінскага аўтамабільнага з-да (цяпер РУП «БелаўтаМАЗ»). У 2003 г. 26 гаспадарак, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯШЭЎКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Беразіно, 44 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 112 км ад Мінска, праз вёску



праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Брусята (прыток р.Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лісітнік і далей па шашы Мінск—Магілёў. 143 гаспадарак, 316 жыхароў (2008).

За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне захаваўся курганны могільнік (25 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Вяшавец у Ігуменскім павеце Мінскай губ., 22 двары, 125 жыхароў, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча. У 1858 г. 129 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1870 г. в. Вяшаўца, 65 жыхароў мужчынскага полу, у Пагосцкай вол. У 1884 г. адкрыта школа граматы, заняткі праходзілі ў сял. хатах па чарзе. Паводле перапісу 1897 г. в. Вяшаўцы, 46 двароў, 398 жыхароў, заезны дом і капліца на могілках. У 1908 г. 50 двароў, 349 жыхароў. У 1917 г. 69 двароў, 393 жыхары. З 6.10.1919 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР. 24.2.1920 г. польскія войскі спалілі большую частку вёскі. З 10.8.1920 г. ў Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 74 двары, 473 жыхары. У 1927 г. арганізаваны калгас імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. абарончыя баі каля вёскі вялі байцы 100-й і 161-й стралк. дывізій. Сав. воіны пахаваны на вясковых могілках. У 1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых жыхароў вёсак Вяшэўка і Жыроўка пастаўлены абеліск. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 46 вяскоўцаў. Вызвалена 30.6.1944 г. воінамі 42-й стралк. дывізіі 69-га стралк. корпуса 49-й арміі. У гэтым баі загінуў Герой Сав. Саюза С.Р.Церашкевіч, які пахаваны ў вёсцы. З 20.9.1944 г. вёска ў Мінскай вобл. У 1959 г. да мясц. калгаса былі далучаны 3 суседнія калгасы і створаны саўгас «Вяшэўскі» з цэнтрам у Вяшэўцы. У 1960 г. 506 жыхароў. У 1962 г. пабудаваны цагляны будынк сельскага клуба з глядзельнай залай на 150 месцаў і стацыянарнай кінаўстаноўкай. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 149 гаспадарак, 327 жыхароў, цэнтр. сядзіба СВК «Вяшэўскі», магазін, камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, грамадская лазня, дзіцячы сад, б-ка. Вёска — радзіма Я.Е.Ермаловіча, бел. пісьменніка. Планіровачная кампазіцыя засн. на 5 вуліцах. Галоўная з іх (адрэзак дарогі Пагост—Жыроўка) працяглая і амаль прамалінейная. На Пд паралельна да галоўнай праходзіць другая прамалінейная вуліца. Трэцяя працяглая прамалінейная вуліца перакрыжавана з галоўнай на ПнЗ і праходзіць уздоўж канала. Чацвёртая праходзіць паралельна да канала на ПнЗ, пятая — на ПнУ. Адм.-грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, узведзены адна- і двухпавярховыя жылыя дамы.

**ГАЛОЎНЫЯ ЛЯДЫ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Беразіно, 16 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 99 км ад Мінска. На ПнУ цячэ р. Уса (прыток р. Бярэзіна), на Пн яе прыток р. Ганутка. 55 гаспадарак, 144 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 6 двароў, 42 жыхары, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка К.Завішы.У 1858 г. вёска Ляда, 96 жыхароў, у складзе маёнтка Багушэвічы, уласнасць памешчыка Ч.Свентаржыцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў Якшыцкай вол. Ігуменскага павета, в. Галоўныя Ляды (яна ж Ганакі, Галовінцы), 30 двароў, 230 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1908 г. 37 двароў, 275 жыхароў. У 1917 г. 43 двары, 292 жыхары. У 1920 г. акупірава-





на польскімі войскамі. У 1921 г. пасля выгнання палякаў была адкрыта школа. З 20.8.1924 г. в. Ганакі ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на ў Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 64 двары, 323 жыхары. У 1932 г. вёска стала цэнтрам калгаса «Саюз», у які таксама ўвайшлі вёскі Высокая Гара і Западня. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 44 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 298 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 1965 г. сучасная назва. У 1980-я г. ў калгасе «Беларусь», дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, АТС. У 2003 г. 174 жыхары, б-ка, магазін, сельскі Дом культуры. Ад цэнтра крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі адыходзіць на Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. і паўд.-ўсх. ускраінах узведзены мураваныя двух- і аднапавярховыя дамы.

**ГАЛЫНКА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 31 км на ПдУ ад Беразіно, 27 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 131 км ад Мінска, на р. Дулебка (прыток р.Ольса). На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мацевічы, Каменны Барок і далей па шашы Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

За 0,5 км ад вёскі па абодва бакі мясцовай дарогі захаваўся курганны могільнік ( 3 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з канца 19 ст. У 1870 г. вёска, 21 жыхар мужчынскага полу ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 15 двароў, 154 жыхары, у сядзібе каля р. Змееўка 1 двор, 17 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. 22 двары, 155 жыхароў. У 1917 г. 29 двароў, 212 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Валоўніцкім, з 21.8.1925 г. ў Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 27 двароў, 170 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў с.-г. арцель «11-га ліпеня». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Перад вайной у 1940 г. налічвалася 28 двароў, 182 жыхары. У час Вял. Айч. вайны ўваходзіла ў партыз. зону, побач размяшчаўся партыз. аэрадром. Жыхары перажылі 2 карныя аперацыі ў 1942 і 1943 гг. За 2 км на ПнЗ ад вёскі пахаваны 24 партызаны, у тым ліку 120-га атрада, якія загінулі ў 1942—43 гг. Тут жа пастаўлены помнік у гонар 5-й падп. партыз. канферэнцыі Бярэзінскага р-на, якая адбылася ў ліст. 1942 г. ў былой в. Партызанка. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінула 19 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 137 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1950 г. мясц. калгас аб'яднаўся з в. Мацевічы, з 1968 г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Каменны Барок). У 2003 г. 25 двароў, 39 жыхароў. З 2008 г. ў Капланецкім с/с. Рака падзяляе вёску на паўн. (прамалінейная вуліца ўздож ракі) і паўд. ( кравалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) часткі. Забудавана аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Беразіно, 22 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 108 км ад Мінска, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1870 г. маёнтак Гарадзішча ў Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. маён-



так пры р. Бярэзіна ва ўладанні Рагоўскага, 5 двароў, 22 жыхары, вінакурны з-д, побач аднайменная вёска пры р. Уса. У 1917 г. ў маёнтку 24 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. вёска, 11 двароў, 75 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Сталіна, адначасова вёска была перайменавана ў вёску імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 21 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 90 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім , з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1965 г. вёсцы вернута ранейшая назва. У 1980 г. ў складзе калгаса імя XVII з'езда КПСС (цэнтр — в. Міхалёва) У 2003 г. 14 жыхароў. З 2008 г. сучасная назва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, шчыльна, дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 22 км на Пд ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 110 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр) і р. Старая Уса (прыток р. Уса). 16 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р.Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок знаходзіцца стараж. гарадзішча, дзе археолагамі знойдзена ляпная і штрыхаваная кераміка, жал. вырабы раннефеад. часу. На З ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на мысе, утвораным пры ўпадзенні р. Уса ў р. Бярэзіна, знаходзіцца паселішча каменнага веку. Археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вядома з 18 ст. У 1800 г. в. Гарадзішча, 13 двароў, 140 жыхароў, шляхецкая ўласнасць у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Якшыцкай вол., вёска, 72 жыхары мужчынскага полу і маёнтак памешчыка Рагоўскага. У 1892 г. заснаваны вінакурны з-д, на якім у 1895 г. працавала 5 рабочых, быў устаноўлены паравы рухавік. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 263 жыхары, працавала кузня. У 1917 г. ў вёсцы 65 двароў, 390 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1926 г. 77 двароў, 405 жыхароў. У 1927 г. І.С.Махнач утварыў на аснове раздробленых сялянскіх гаспадарак беднякоў першы ў р-не калгас-камуну імя Сталіна. З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 23 вяскоўцы. У 1960 г. 272 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Якшыцы), ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 2003 г. 33 двары, 40 жыхароў. З 2008 г. ў Багушэвіцкім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРУНІ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 11 км на ПнУ ад Беразіно, 40 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 111 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома з пачатку 20 ст. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. ўрочышча, 4 двары, 22 жыхары У 1917 г. 5 двароў, 38 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 14 двароў, 84 жыхары. У 1931 г. створаны калгас «Рассвет». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.

1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 113 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Камунар». У 2003 г. 21 гаспадарка, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРЭНІЧЫ** — вёска ў Капланецкім с/с, за 11 км на Пд ад Беразіно, 37 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 111 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р.Бярэзіна), на паўн. ускраіне сажалка, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Косаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 127 гаспадарак, 283 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 15 ст. У 1499 г. сяло Гарэнічы (яно ж Гарані), шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 31 двор, 153 жыхары, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча, меўся млын. У 1811 г. ўладанне памешчыцы Маршалавай, 164 жыхары. У 1858 г. вёска, 298 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1881 г. на могілках пабудавана капліца. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 24 хлопчыкі, а ў 1912 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1914 г. заняткі праводзіліся ў хаце Ільі Аўтуховіча (сасланы ў 1905 г. ў Сібір). Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., у вёсцы 96 двароў, 373 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом, капліца на могілках, побач сядзіба, 2 двары, 17 жыхароў, вадзяны млын. У 1908 г. 111 двароў, 743 жыхары. У 1917 г. 147 двароў, 865 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У 1920 г. на базе земскай была адкрыта 4-гадовая школа, у якой вучыліся дзеці з вёсак Гарэнічы, Косаўка, Губішча, Скрыні. Размяшчалася школа ў будынку, пабудаваным у 1914 г. на сродкі вяскоўцаў. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. 7.6.1925 г. здарыўся вял. пажар, у выніку якога згарэлі 38 двароў (139 хат і пабудоў). У 1926 г. 167 двароў, 841 жыхар. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвонаармеец». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінуў 51 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1956 г. пабудавана ГЭС магутнасцю ў 150 кВт, якая давала ток і для Беразіно. З 1958 г. пачаў працаваць ФАП. У 1960 г. 387 жыхароў. У 1961 г. ў вёсцы адкрылася паштовае аддз., у 1963 г. б-ка (да яе адкрыцця працавала хата-чытальня пры праўленні калгаса). З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1965 г. ў вёску перавезлі старую школу з в. Аўгустова і пераабсталявалі пад клуб. Сярэдняя школа адкрыта 18.1.1968 г. У 1980 г. вёска ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка). У 2003 г. 157 гаспадарак, 353 жыхары, дзіцячыя яслі-сад, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт. Рака падзяляе вёску на паўн.-зах. (працяглая крывалінейная вуліца) і паўд.-ўсх. (ад дугападобнай вуліцы адыходзяць кароткая крывалінейная вуліца, адрэзак дарогі на в. Косаўка і працяглая прамалінейная вуліца на Пд) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу з шэрагам мураваных будынкаў у цэнтры.

**ГАЦЕЦ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад Беразіно, 54 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 123 км ад Мінска, на р. Клявіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Дудкі знаходзіцца курганны мо-



гільнік (адзін насып), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., сядзіба, 5 двароў, 42 жыхары. У 1908 г. ўрочышча, 5 двароў, 32 жыхары. У 1917 г. вёска, 7 двароў, 55 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 12 двароў, 59 жыхароў. У 1930 г. ўвайшла ў склад калгаса імя К.Маркса. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 77 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе падсобнай гаспадаркі Мінскага аўтамабільнага з-да, магазін, ФАП, аддз. сувязі. У 2003 г. 21 гаспадарка, 31 жыхар. Пляніровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛІНІШЧА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 34 км на ПнУ ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 134 км ад Мінска, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Высокая Гара і Кукарава, далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 13 жыхароў. У 1908 г. засценак, 4 двары, 27 жыхароў. У 1917 г. 8 двароў, 58 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1925 г. пабудавана пачатковая школа. У 1926 г. 11 двароў, 73 жыхары. У 1930-я г. вёска ўвайшла ў склад калгаса «Чырвоны барацьбіт». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 92 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Пляніровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛУХІ ТОК** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 3 км на З ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 96 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Палоза (прыток р.Бярэзіна), каля вёскі праходзіць шаша Мінск— Магілёў. 91 гаспадарка, 252 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 24 жыхары, уласнасць памешчыка М.Валовіча. У 1858 г. 51 жыхар, у складзе маёнтка Ганарполле. У 1870 г. ў Пагосцкай вол., 23 жыхары мужчынскага полу. Побач знаходзіўся памешчыцкі маёнтак. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 96 жыхароў, капліца на могілках, у маёнтку 3 двары, 24 жыхары. У 1917 г. 14 двароў, 91 жыхар, з іх 65 праваслаўныя, 26 — каталікі. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 37 двароў, 184 жыхары. Створаны ў 1934 г. калгас «Сцяг Леніна» спачатку налічваў 7 гаспадарак, праз год 33. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. мясцовы калгас разам з 4 іншымі быў аб'яднаны ў адзіны — імя Дзяржынска-





га з цэнтрам у г.п. Беразіно. З 16.7.1954 г ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 187 жыхароў, пабудавана сталовая. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка» (цэнтр — в. Паложына). У 1970 г. ўступіў у строй цагельны з-д «Чырвоны бераг». У 2003 г. 97 гаспадарак, 250 жыхароў, клуб, магазін, сталовая, дзіцячы сад. 2 крывалінейныя, амаль паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі перакрыжаваны на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўскраіне ўзведзены мураваныя жылыя дамы.

**ГРАДЫ** — вёска ва Ушанскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 128 км ад Мінска, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно. 12 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

За 1 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Хітроўка знаходзіцца стараж. курган (мясцовая назва Турэцкі Курган), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1885 г. засценак Града ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. ўрочышча Грады, 6 двароў, 43 жыхары. У 1917 г. 7 двароў, 41 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 10 двароў, 54 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Пралетарская перамога». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950-я г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя Чкалава. З 16.7.1954 г. ва Ушанскім с/с. У 1960 г. 69 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава), магазін. У 2003 г. 15 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУЖЫК** — вёска ў Мачаскім с/с, за 27 км на У ад Беразіно, 58 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 127 км ад Мінска, на р. Беларэч (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старыя Прыборкі і Восы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 53 жыхары, уласнасць памешчыкаў Масальскіх, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. ў складзе маёнтка Прыборкі, уласнасць І.Акуліча. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 10 двароў, 63 жыхары. У 1917 г. 19 двароў, 89 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1929 г. вяскоўцы з жыхарамі вёсак Хутар, Пчэлінск, Лосеўка аб'ядналіся ў калгас «Новы свет». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 64 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Мачаск» (з канца 1990-х г. СВК; цэнтр — в. Мачаск). У 2003 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУРЭШЧЫНА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 6 км на ПдУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 106 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2008).



Узнікла ў 1920-я г. як хутар. У 1926 г. хутар, 6 двароў, 57 жыхароў у Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1934 г. разам з вёскамі Царкаўшчына і Касаўка Гурэшчына ўвайшла ў калгас «Праўда». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Мінскай абл. У 1960 г. 130 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Касаўка). У 2003 г. 28 гаспадарак, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы, размешчанай уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУТА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 96 км ад Мінска, на р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Беразіно—Якшыцы. 19 гаспадарак, 42 жыхары (2008).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі захавалася паселішча эпохі неаліту (5—3 тыс. да н.э.) і за 0,3—0,4 км на З паселішча ранняга жал. веку. Археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 20 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Валовіча, дзейнічаў млын, у складзе маёнтка Божына, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 43 жыхары, уласнасць памешчыка Ф.Беліновіча. У 1916 г. 16 двароў, 110 жыхароў, з іх 54 мужчынскага полу. 19—25.6.1920 г. 72-гі полк Чырвонай Арміі пад камандаваннем С.Е.Грыбава вёў тут бой з польскімі войскамі, выбіў іх з вёскі. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 19 двароў, 129 жыхароў. У 1932 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Літвінава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 122 жыхары. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Паплавы» (цэнтр — в. Паплавы), тут размяшчаўся жывёлагадоўчы комплекс падсобнай гаспадаркі Мінскага будтрэста №5 і прафілакторый «Бярэзіна». У 2003 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАМАШКІ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Беразіно, 27 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 91 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Марціянаўка і далей на шашы Мінск—Магілёў. 20 гаспадарак, 51 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1658 г. сяло Дамашковічы, 13 двароў, уласнасць К.Трызны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 93 жыхары, уласнасць Р.Глізепа. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Дамашкова, 13 двароў, 126 жыхароў, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. в. Дамашкова, 18 двароў, 120 жыхароў. У 1917 г. Дамашкі, 15 двароў, 105 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баявік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ў Неганіцкім, з 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 110 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса імя І.В.Мічурына (цэнтр — в. Навіны), ферма буйной рагатай жывёлы. У 2003 г. 25 гаспа-





дарак, 50 жыхароў. Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы, большая частка якой арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЎГАЛЕССЕ** — вёска ў Капланецкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Нясяты на лініі Магілёў—Асіповічы, 110 км ад Мінска, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Вугал, Чырвоны Бор, Гарэнічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Узнікла ў 1920-я г. ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1930 г. разам з вёскамі Чырвоны Вугал, Чырвоны Бор увайшла ў калгас «Танкіст». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 89 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка). У 2003 г. 3 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАШНІЦА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 37 км на ПдУ ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 137 км ад Мінска, на У цячэ р. Дулебка (прыток р. Ольса), на З вёска мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дулебы, Любушаны і Пагост і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Узнікла ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 10 двароў, 64 жыхары. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. разам з в. Дулебы 1, Падвосаў увайшла ў калгас «КІМ». У 1940 г. 15 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну 1941—44 гг. гітлераўцы спалілі 14 двароў, загубілі 4 жыхары. Пасля вайны адбудавана. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 79 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Любушанскі» (цэнтр — в. Любушаны). У 2003 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЕВЯНІЦА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 38 км на ПнУ ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 138 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Мясрэда (прыток р. Можа), на Пн і З вёска мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокая Гара і далей па шашы Мінск—Магілёў. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска Дванічы ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1908 г. засценак Дзевяніца, 17 двароў, 119 жыхароў У 1917 г. вёска ў Пагосцкай вол., 14 двароў, 110 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1930-я г. жыхары вёскі ўступілі ў калгас «Ленінскі шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 9 жыхароў, якія пахаваны на могілках (абеліск устаноўлены ў 1976 г.). На франтах загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. вёска ўвайшла ў склад узбуйненага калгаса «Сталінскі шлях». У 1960 г. 171 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ў саўгасе «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 14 гаспада-



рак, 22 жыхары. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗМІТРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзмітравіцкага с/с і СВК «Дзмітравічы», за 24 км на ПнУ ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 124 км ад Мінска. Уздоўж вёскі працякае р. Брусята (прыток р. Бярэзіна), з якой злучаны меліярацыйны канал. На Пд мяжуе з лесам. Побач з вёскай праходзіць шаша Беразіно—Бобр. 160 гаспадарак, 430 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1765 г. пабудавана прыходская Свята-Ільінская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) вёска ў складзе Барысаўскага староства далучана да Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 78 жыхароў. У 1800 г. сяло на правым беразе р. Брусята, 6 двароў, 52 жыхары, уніяцкая царква Іллі Прарока, уласнасць Дзмітравіцкай уніяцкай плябаніі. У 1816 г. ў сяле 47 жыхароў мужчынскага полу. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча; у 1892 г. навучалася 28 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі, у 1905 г. — 43 хлопчыкі і 12 дзяўчынак). У 1866 г. 22 двары. У 1870 г. 78 жыхароў мужчынскага полу, цэнтр Дзмітравіцкай вол. У 1885 г. 36 двароў, 235 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. сяло — цэнтр воласці, 60 двароў, 471 жыхар, прыходская царква, валасное праўленне, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом. 11.11.1914 г. на вал. сходзе сяляне вырашылі з запаснага вал. магазіна выдаць 150 пудоў зерня для сялян Польшчы, якія пакутавалі ад вайны. У 1917 г. 63 двары, 421 жыхар. Непадалёку ад вёскі быў вадзяны млын, які належаў Э.Цукерману, майстэрня па апрацоўцы скуры, крупадзёрка, працавала крама (гаспадар М.Бенісон), у лесе была смалакурня, дзе выпрацоўвалі шкіпінар і дзёгаць. У 1919 г. створана Дзмітравіцкае спажывецкае т-ва. У 1920 г. 67 двароў, 446 жыхароў, дзейнічала смалакурня. У 1923 г. створана камсамольская ячэйка, у 1924 г. с.-г. таварыства. З 20.8.1924 г. цэнтр Дзмітравіцкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 88 двароў, 490 жыхароў. У 1927 г. адкрыты першы ў р-не медпункт, былі арганізаваны с.-г. крэдытнае т-ва, сельпо, пачало працаваць радыё (рупар быў устаноўлены на двары сельсавета). У 1928 г. ў памяшканні царквы адкрыты клуб. У 1929 г. арганізаваны калгас «Змаганне». У 1930 г. пачала працаваць бальніца, у 1931 г. — паштовае аддз., у гэты ж год калгас атрымаў першы калёсны трактар. У 1933 г. мясцовая школа стала 7-гадовай (у 1935 г. адбыўся першы выпуск 7-га класа). З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У верасні 1940 г. школа стала 8-гадовай. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія тройчы палілі вёску, знішчылі 139 двароў. Вызвалена 30.6.1944 г. У брацкіх магілах, што на могілках, і на ўсх. ускраіне вёскі пахаваны 40 сав. воінаў і партызан. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 48 вяскоўцаў, у т. л. 34 вучні і настаўнік мясцовай школы, на ўшанаванне памяці якіх у цэнтры вёскі, каля будынка школы-інтэрната ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1944 г. створаны новы калгас «Іскра», які ў 1950 г. аб'яднаны з 2 суседнімі гаспадаркамі ў адзіны калгас «Пралетарскі баец», у 1959 г. пераўтвораны ў саўгас «Дзмітравічы». Восенню 1944 г. аднавіла сваю дзейнасць школа, на той час як пачатковая, у 1947 г. яна стала 7-гадовай, у 1952 г. — сярэдняй. У 1956 г. метадам нар. будоўлі ўзведзены новы школьны будынак. У 1960 г. ў вёсцы 545 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1973 г. пракладзены водаправод. У

2003 г. 176 гаспадарак, 467 жыхароў, дзіцячы сад, участковая бальніца, магазін, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, б-ка, клуб, грамадская лазня. Канал падзяляе вёску на зах. (ад прамалінейнай працяглай вуліцы адыходзіць на З кароткая прамалінейная вуліца) і ўсх. (працяглая дугападобная і кароткая прамалінейная вуліцы, злучаныя кароткай прамалінейнай вуліцай — адрэзкам шашы Беразіно—Бобр) частак. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Мураванае будаўніцтва вядзецца ва ўсх. частцы і на паўн.- ўсх. ускраіне.

**ДЗЯМЕШКАЎКА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Беразіно, 37 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 125 км ад Мінска, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Восава і далей па шашы Барысаў—Беразіно і Мінск—Магілёў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., засценак, 9 двароў, 76 жыхароў і аднайменная сядзіба ва ўладанні Ваньковіча ў складзе маёнтка Калючыц, 2 двары, 17 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 14 двароў, 113 жыхароў, ва ўрочышчы 3 двары, 24 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы і ўрочышчы 22 двары, 158 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 25 двароў, 137 жыхароў, у пасёлку 7 двароў, 36 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас імя Урыцкага. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў в. Старая Дзямешкаўка 25 двароў, 139 жыхароў, у в. Новая Дзямешкаўка 9 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія поўнасцю спалілі вёску (знішчана 25 двароў). Пасля вайны адноўлена. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ва Ушанскім с/с. У 1950-я г. ў калгасе «2-я пяцігодка». У 1960 г. 52 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 5 двароў, 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОВЫ ЛОГ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 31км на ПдЗ ад Беразіно, 13 ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 102 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Дабрыца ( прыток р.Уса). Транспартныя сувязі па аўтадарозе Беразіно—Бабруйск. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіца каля в. Задобрычы, уласнасць Філіпава, здадзена ў арэнду, 11 двароў, 92 жыхары. У 1917 г. вёска, 15 двароў, 102 жыхары. У 1920 г. адкрыта школа, у 1921 г. пачаў працаваць смалакурны з-д. З 20.8. 1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 20 двароў, 106 жыхароў. У 1932 г. далучылася да створанага ў в. Вусце калгаса «Савет». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 132 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Багушэвічы.) У 2003 г. 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Беразіно, 24 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—



Асіповічы, 119 км ад Мінска, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Дуброўка (Дубрава), у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 9 жыхароў. У 1908 г. засценак, 16 двароў, 108 жыхароў, і ўрочышча, 6 двароў, 40 жыхароў. У 1917 г. вёска, 17 двароў, 129 жыхароў, і ўрочышча, 9 двароў, 72 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Валоўніцкім, з 21.8.1925 г. ў Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 26 двароў, 142 жыхары. У 1934 г. створаны калгас імя VII з'езда Саветаў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 35 двароў, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі 18 двароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ў калгасе імя Молатава. З 1968 г. вёска ўваходзіла ў калгас «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Каменны Барок). У 1960 г. 83 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-не. У 2003 г. 21 жыхар. З 2008 г. ў Капланецкім с/с. Ад крывалінейнай каароткай вуліцы адыходзіць на З прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУЛЕБЫ** — вёска ў Мачаскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 129 км ад Мінска, на р. Дулебка (прыток р.Ольса), на У мяжуе з лесам, на Пн — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 116 гаспадарак, 227 жыхароў (2008).

За 1 км на У ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Баравіца захаваўся могільнік (100 насыпаў) і за 2 км на Пн ад вёскі — другі могільнік ( 86 насыпаў, мясцовая назва Шведскія магілы), якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска ўпершыню пазначана на картах ВКЛ 17 ст. У 1699 г. вёска Дулебная, 4 двары, у Аршанскім павеце, прыватная ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. сяло Дулебна, 12 двароў, 89 жыхароў. У 1800 г. 29 двароў, 267 жыхароў, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., мелася карчма. У 1811 г. Дулебы, 126 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К.Маршалавай. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1870 г. в. Дулеба, 135 жыхароў мужчынскага полу. У 1885 г. працавала перасоўная школа граматы. У 1896 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне ўладам пры спробе паліцыі арыштаваць свайго аднавяскоўца. Сялянскае выступленне было падаўлена, удзельнікі пераселены ў Сібір. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., цэнтр сельскага т-ва, у вёсцы 85 двароў, 671 жыхар, капліца на могілках, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач сядзіба, 3 двары, 29 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 109 двароў, 747 жыхароў, нар. вучылішча. У 1917 г. 121 двор, 871 жыхар. У баях за сав. ўладу ў гады грамадзянскай вайны і ваен. інтэрвенцыі 1918—20 гг. загінулі 8 чырвонаармейцаў, якія пахаваны на вясковых могілках. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. 10.11.1922 г. створана с.-г. т-ва. З 20.8.1924 г. цэнтр Дулебскага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 147 двароў, 768 жыхароў (у далейшым вёска падзялілася на 2 асобныя населе-





ныя пункты). У 1931 г. створаны калгас «Будаўнік». У склад сельсавета ў 1930-я г. ўваходзілі 10 вёсак, 7 калгасаў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 36 жыхароў (23 жыхары пахаваны на ўсх. ускраіне, 13 — на вясковых могілках). На могілках таксама пахаваны расстраляныя фашыстамі старшыня сельсавета Ф.Ф. Маркоўскі і разведчык 120-га партыз. атрада М.Ю.Цэдрык. Памяць іх увекавечана ў 1975 г. абеліскам. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 56 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., у 16.7.1954 г. Дулебскі с/с скасаваны, вёска ў Мачаскім с/с. У 1955 г. на базе 7 дробных калгасаў створаны адзін — «Чырвоная Зорка». У 1960 г. ў в. Дулебы 1 — 318 жыхароў, у в. Дулебы 2 — 357 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. вёскі Дулебы 1 і Дулебы 2 аб'яднаны ў адзін населены пункт. У 1980 г. ў саўгасе «Любушанскі» ( цэнтр — в. Любушаны). Да 1990 г. працавалі клуб, б-ка, ФАП, школа. У 2003 г. 148 гаспадарак, 291 жыхар. Рака падзяляе вёску на зах. (2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы, аб'яднаныя прамалінейнай кароткай вуліцай — былая в. Дулебы 1) і ўсх. (2 паралельныя, працяглая крывалінейная з завулкамі і кароткая прамалінейная мерыдыянальнай арыентацыі — былая в. Дулебы 2) часткі, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай. Грамадскі цэнтр размешчаны ў зах. частцы. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖАБІХАВА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 32 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паплавы. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2008).

За 1 км на ПдУ ад пасёлка, каля мясц. дарогі, знаходзіцца старажытны курган, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1885 г. аколіца Жабіхаўка ў Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол., у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіцы Жабіхава, 17 двароў, 94 жыхары. У 1908 г. ў аколіцы Жабіхава 10 двароў, 7 жыхароў, у аколіцы Новы Жабіхаў 5 двароў, 35 жыхароў У 1917 г. засценак Стары Жабіхаў, 14 двароў, 93 жыхары, аколіца Новы Жабіхаў, 7 двароў, 38 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. ў в. Стары Жабіхаў і на аднайменным хутары 26 двароў, 122 жыхары, у в. Новы Жабіхаў 9 двароў, 32 жыхары. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобласці, з 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 26 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса імя Мічурына. У 2003 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЖАЛЕЗКАВА** — пасёлак у Паплаўскім с/с, за 23 км на З ад Беразіно, 45 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 92 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Смалярня, якая ўяўляе з сябе верхнюю частку р. Жорнаўка (прыток р. Бярэзіна). Абкружаны балотамі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Смалярня, Чырвоная Паляна. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Залескава, 5 двароў, 29 жыхароў. У 1908 г. аколіца Жалезкава, 4 двары, 58 жыхароў, у Юравіцкай (з пач. 20 ст. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1921 г. ўрочышча, 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бя-



рэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. ў вёсцы каля 10 двароў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 25 жыхароў. 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 1 гаспадарка, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАЛІНА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 32 км на Пд ад Беразіно, 22 км ад чыг. ст. Насяты на лініі Асіповічы—Магілёў, 132 км ад Мінска, на р. Жалінка (прыток р. Бярэзіна), якая дзеліць вёску на дзве палавіны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 2 двары, 9 жыхароў, уласнасць памешчыка Шэмета, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 16 жыхароў. У 1885 г. в. Жылін у Брадзецкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 19 двароў, 119 жыхароў, паравы млын, малітоўная школа, у аднайменным фальварку (сумежным з в. Сяліба) 4 двары, 41 жыхар. У 1917 г. ў вёсцы 24 двары, 128 жыхароў, на хутары 8 двароў, 58 жыхароў. У вёсцы дзейнічала сінагога. Пасля рэвалюцыі яе будынак перавезены ў в. Месціна, дзе выкарыстоўваўся для яўрэйскай школы. З 20.8.1924 г. ў Сялібскім с/с Свіслацкага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.) БССР. У 1930 г. ў вёсцы створаны калгас «Ардус» (у 1935 г. землякі з Амерыкі прыслалі ў вёску трактар). З 25.6.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. ў баях каля вёскі загінулі 3 сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле на ўскраіне вёскі. Тут жа пахаваны вясковец Марцінчук, расстраляны гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 100 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў калгасе імя Ільіча (цэнтр — в. Сяліба). У 2003 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖАРАМЕЦ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 98 км ад Мінска, на р. Жорнаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вялікія Логі, Смалярня, Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 32 гаспадаркі, 86 жыхароў (2008).

Вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1565 г. в. Зарамец, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 80 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 67 жыхароў, уласнасць памешчыка А.Барсука. У 1870 г. 56 жыхароў мужчынскага полу, у Белічанскай вол. У 1885 г. 16 двароў, 140 жыхароў, млын, піваварны з-д, царква. У 1886 г. засн. млын, які прыводзіўся ў рух лакамабілем і паравым катлом, у 1895 г. на ім працавалі 3 чалавекі. Паводле перапісу 1897 г. 38 двароў, 222 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 40 двароў, 265 жыхароў. У баях за сав. ўладу ў гады грамадз. вайны і ваен. інтэрвенцыі ў 1918—20 гг. каля вёскі загінулі 20 вяскоўцаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ўскраіне. У 1918 г. была адкрыта пачатковая школа. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 47 двароў, 245 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы разам з жыхарамі вёсак Ляжына, Марысіна, Вязычын аб'ядналіся ў калгас «Ленінскі шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі





28 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 174 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі), ферма. У 2003 г. 41 гаспадарка, 100 жыхароў. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіроўка Г-падобная. Галоўная з вуліц арыентавана шыротна і забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Ад яе зах. канца на Пн адыходзіць прамалінейная кароткая вуліца, забудаваная мураванымі аднапавярховымі дамамі.

**ЖОРНАЎКА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 4 км на Пн ад Беразіно, 53 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 106 км ад Мінска, на р. Жорнаўка (прыток р. Бярэзіна, якая цячэ на У ад вёскі). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 118 гаспадарак, 259 жыхароў (2008).

У вёсцы, на мысе, утвораным пры ўпадканні р. Жорнаўка ў р. Бярэзіна, размешчана паселішча бронзавага і жал. веку, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома у ВКЛ з 17 ст. У 1636 г. маёнтак у Мінскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 99 жыхароў, млын, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Тышкевіча. У 1885 г. 200 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць памешчыка М.Патоцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., пры ваен. дарозе з Барысава ў Магілёў, на р. Жарамчанка і возеры Жорнаўка, 60 двароў, 396 жыхароў, вадзяны млын, капліца на могілках, карчма. Сяляне ўваходзілі ў Бярэзінскае сельскае т-ва. У пач. 1913 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1917 г. 86 двароў, 450 жыхароў ( з іх 443 праваслаўныя, 7 — іудзеі). З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 36 двароў. У 1929 г. створана с.-г. арцель «Аўтуховіч» (назва дадзена ў гонар актывіста, які загінуў ад рук кулакоў). З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1.7—3.7.1944 г. ў р-не вёскі праходзілі баі 153-й Смаленскай стралк. дывізіі на р. Бярэзіна, 2.7.1944 г. ў ліку першых фарсіраваў р. Бярэзіна каля вёскі камандзір кулямётнага атрада старшы сяржант А.М.Аляксеенка, 24.3. 1945 г. ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. 3.6.1944 г. вёска вызвалена ад



*Забудова в. Жорнаўка.*



*Мост цераз ручай у в. Жорнаўка.*





Рака Бярэзіна каля в. Жорнаўка.

ням.-фаш. захопнікаў. У гонар сав. воінаў-вызваліцеляў у 1976 г. пастаўлены абеліск. У 7 брацкіх магілах, што на могілках, пахавана 170 сав. воінаў, якія загінулі ў гэтых баях. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 34 вяскоўцы, у памяць пра якіх у 1976 г. каля будынка школы, у скверы пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. Да 1953 г. дзейнічала пач. школа, у 1954 г. пераўтворана ў 7-гадовую. У 1960 г. ў вёсцы 577 жыхароў. У жн. 1962 г. адкрыта новая 8-гадовая школа. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка». У 2003 г. 141 гаспадарка, 297 жыхароў, базавая школа-сад, магазін, клуб, ферма. Рака падзяляе вёску на паўн. (крывалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўд. (да амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучана дугападобная вуліца) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУКАВЕЦ** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 15 км на Пн ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 115 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2008).

За 2 км на Пд ад вёскі размешчаны курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 77 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Радзівіла. У 1812 г. каля вёскі рус. армія на чале з Кутузавым пераправілася цераз р. Бярэзіну. У 1816 г. 45 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. засценак у Дзмітравіцкай вол., 5 двароў, 44 жыхары, пабудовы арандатараў. У 1917 г. вёска, 36 двароў, 222 жыхары. Побач знаходзіўся хутар Жукавец, 7 двароў, 55 жыхароў. У 1920 г. вёска, 50 двароў, 283 жыхары, дзейнічала смалакурня. У час польска-савецкай вайны 19—20.1.1920 г. каманда з 75 чырвонаармейцаў пад кіраўніцтвам Р.К. Шпака ў р-не вёскі разграміла штаб польскага батальёна. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 58 двароў, 290 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 3.7. 1944 г. У баях за яе загінула больш за 50 сав. воінаў, у іх ліку камандзір аднаго з падраздзяленняў 716-га стралк. палка лейтэнант Брагін з Ленінграда. Сав. воіны пахаваны ў 2 брацкіх магілах. На франтах загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 215 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 29 гаспадарак, 58 жыхароў, магазін, ферма. Гал. вуліца амаль прамалінейная, арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе перпендыкулярна на ПнУ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца з завулкамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.





**ЖУРАВОК** — вёска ў Мачаскім с/с, за 49 км на У ад Беразіно, 25 км ад чыг. ст. на лініі Магілёў—Асіповічы, 149 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2008).

Утворана ў 1933 г. ў Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на з перасяленцаў з в. Брасневічы (на месцы якой быў пабудаваны палігон). У тым жа годзе створаны калгас «Новы Журавок». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. У 1960 г. 330 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х СПК) «Мачаск» ( цэнтр — в. Мачаск), дзейнічала 8-гадовая школа. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных прамалінейных вуліц, аддзеленых адна ад адной лагчынай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУРОЎКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Беразіно, 62 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 118 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Брусята (прыток р. Бярэзіна), праз вёску цячэ ручай, яе прыток, на Пд знаходзіцца сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарогах праз вёскі Селішча і Вяшэўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 78 гаспадарак, 149 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1800 г. вёска, 47 двароў, 274 жыхары, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1812 г. ў вёсцы размяшчаўся гал. штаб рус. арміі Кутузава. У 1858 г. 211 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1884 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 14 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 65 двароў, 476 жыхароў, вадзяны млын, заезны дом, капліца на могілках. У 1916 г. школа граматы пераўтворана ў нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы 80 двароў, 576 жыхароў. У 1920 г. на базе ранейшай была створана 4-гадовая школа, у якой навучаліся таксама дзеці з навакольных вёсак. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 101 двор, 599 жыхароў. У 1933 г. створаны калгас «Чырвоны перадавік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1.7.1944 г. войскі 2-га Бел. фронту вызвалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 38 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 604 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Вешаўскі», 8-гадовая школа, магазін. У 2003 г. 101 гаспадарка, 147 жыхароў. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Беразіно, 26 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 58 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падвалошка і Новая Марціянаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 147 жыхароў і маёнтак, 16 жыхароў, уласнасць памешчыкаў Іосіфа і Тэафіла Лапіцкіх, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ва ўладанні Філіпава, здадзена ў арэнду, 14 двароў, 79 жыхароў, у Якшыцкай вол. У 1917 г. 17 двароў, 93 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 20 двароў,



107 жыхароў. У 1933 г. ўвайшла ў калгас «Чырвоны баявік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. перададзена з Багушэвіцкага ў склад Неганіцкага с/с. З 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 81 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Навіны). У 2003 г. 25 гаспадарак, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 14 км на З ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 94 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Сад, Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1702 г. вёска, 12 двароў, карчма, уласнасць К.Друцкага-Сакалінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1799 г. 7 двароў, 42 жыхары, уласнасць І.Хмялеўскага. У 1885 г. ўрочышча ў Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 5 двароў, 36 жыхароў. Да рэвалюцыі 1917 г. здадзена ў арэнду Урублеўскаму. У 1917 г. 2 самастойныя ўрочышчы — Забор'е 1, 2 двары, 17 жыхароў, з іх 10 мужчынскага полу, і Забор'е 2, 6 двароў, 41 жыхар, з іх 22 мужчынскага полу. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў в. Забор'е 1 — 3 двары, 18 жыхароў, у в. Забор'е 2 — 8 двароў, 34 жыхары. У 1930 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса «Чырвоны прамень». На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 37 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 1 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Мачаскім с/с , за 24 км на ПдУ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 124 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Любушаны і Мачасы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 19 ст. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 74 жыхары. У 1908 г. ўрочышча, 8 двароў, 56 жыхароў. У 1917 г. фальварак, 1 двор, 16 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 14 двароў, 70 жыхароў. У 1933 г. ўтвораны калгас «Чырвоны сад». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 75 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 11.6.1971 г. ў складзе Мачаскага с/с. У 1980-я г. ў саўгасе «Любушанскі.» У 2003 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАДОР'Е** — вёска ў Мачаскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Забор'е, Любушаны і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Вядома з 1920-х г. у Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 34 жыхары. У 1933 г. Задор'е разам з в. Клешніца ўвайшла ў калгас «Новае Задор'е». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе ў Задор'і і суседняй в. Заклеўе (цяпер не існуе) загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 57 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Любушанскі». У 2003 г. 4 гаспадаркі, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАДУБРОЎЕ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 9 км на У ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 109 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Вядома з 1920-х г. У 1926 г. 4 двары, 22 жыхары ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, у 1927—30 гг. Мінскай акруг. У 1927 г. створаны калгас «Чырвоны працаўнік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1951 г. з Пагосцкага перададзена ў склад Капланецкага с/с. У 1960 г. 75 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1971 г. ў Пагосцкім с/с. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Пагост). У 2003 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАМАК** — вёска ва Ушанскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 136 км ад Мінска, на Пн і Пд мяжуе з лесам, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Калюжыцы і далей па шашы Беразіно—Барысаў. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. Вёска 2.10.1928 г. з Чарневіцкага с/с Барысаўскага р-на была далучана да Машчаніцкага с/с Бярэзінскага р-на Мінскай акругі БССР. З 1933 г. разам з вёскамі Снуя, Мурава ў калгасе імя Кірава. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1954 г. далучана да Чарневіцкага с/с Барысаўскага р-на, з 1960 г. ва Ушанскім с/с Бярэзінскага р-на. У 1960 г. 67 жыхароў. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава), магазін і воданапорная вежа. У 2003 г. 13 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАМАСТОЧЧА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 34 км на ПнУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 134 км ад Мінска, на З цячэ р. Плаўня (прыток р. Брусята). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Тылькоўка і Высокая Гара і далей па шашы Мінск—Магілёў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 76 жыхароў. У 1908 г. засценак, 15 двароў, 104 жыхары. У 1917 г. 20 двароў, 102 жыхары. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магі-



лёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. вёска Бярэзінскага р-на Барысаўскай, у 1927—30 гг. Мінскай акруг. У 1926 г. 24 двары, 121 жыхар. У 1931 г. створаны калгас «Чырвоны барацьбіт». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. гітлераўцы расстралялі 10 вяскоўцаў, якія пахаваны на могілках, дзе ў 1969 г. пастаўлены абеліск. Таксама на могілках пахаваны баец 130-га партыз. атрада «Помста» С.Я.Булойчык, які загінуў 15.10.1942 г. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. вёска ў Мінскай вобл. У 1950-я г. ў калгасе «Сталінскі шлях». У 1960 г. 46 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую вуліцу, арыентаваную з ПнУ на ПнЗ, забудаваную драўлянымі сялянскімі сядзібамі.

**ЗАСВЯЦІЦА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 113 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Капланцы і Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Утворана ў 20 ст. У 1960 г. 170 жыхароў, вёска ў Капланецкім с/с Бярэзінскага, з 25.12.1962 г. Чэрвеньскага, з 6.1.1965 г. зноў Бярэзінскага р-наў Мінскай вобл. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка). У 2003 г. 14 гаспадарак, 22 жыхары. Ад цэнтра крывалінейнай вуліцы на ПнУ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца, на Пд — таксама амаль прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЯМНАЕ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Беразіно, 33 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 86 км ад Мінска, непадалёк ад вёскі праходзіць шаша Мінск—Магілёў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ у 16 ст. У 1552 г. шляхецкая ўласнасць, у Мінскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1885 г. маёнтак у Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 6 двароў, 41 жыхар. У 1921 г. ўрочышча, 1 двор, 6 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, у 1927—1930 гг. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. ў в. Заямнае 1—14 двароў, 72 жыхары, на хутары Заямнае 2—4 двары, 21 жыхар. У 1930 г. ўвайшла ў склад калгаса імя Валадарскага. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 83 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ ГАЙ** — пасёлак у Паплаўскім с/с, за 24 на З ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Градзянка—Асіповічы, 96 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Паўлаўка, Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Утвораны ў пач. 1920-х г. у Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, у 1927—30 гг. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 12 двароў, 54 жыхары.





У 1929 г. разам з жыхарамі вёсак Вялікія і Малыя Лагі, Калініна, Паўлаўка вяскоўцы аб'ядналіся ў адну гаспадарку — калгас імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 67 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). У 2003 г. 8 гаспадарак, 7 жыхароў. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІЛЫНКА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 26 км на Пд ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Пачанка на лініі Асіповічы—Магілёў, 126 км ад Мінска, на ПдЗ цячэ ручай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Брадзец і Капланцы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 2 двары, 9 жыхароў, прыватная ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Брадзецкай валасці Ігуменскага павета Мінскай губ. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, у 1927—30 гг. Мінскай акруг. У 1926 г. ў вёсцы 5 двароў, 26 жыхароў. Разам з в. Усход у 1934 г. Ільінка аб'ядналася ў калгас «Чырвоная Волга». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 115 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец). У 2003 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіровачна складаецца з паўн.-ўсх. (кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ) і паўд.-зах. (Т-падобная планіроўка з 2 кароткімі, размешчанымі перпендыкулярна адна да другой вуліцамі, больш доўгая з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ уздоўж ручая) частак, злучаных прасёлачнай дарогай. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЗЛОЎ БЕРАГ** — вёска ў Мачаскім с/с, за 22 км на У ад Беразіно, 48 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 122 км ад Мінска, на У і Пн цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 59 гаспадарак, 133 жыхары (2008).

Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1800 г. 13 двароў, каля 110 жыхароў, уніяцкая драўляная Мікалаеўская царква і карчма, уласнасць Бенісена. У час вайны 1812 г. ў вёсцы спыняўся рас. паэт і военачальнік Дзяніс Давыдаў з кавалерыйскім палком. У кузні падкоўвалі коней. У 1858 г. 81 жыхар, уласнасць памешчыцы Снітка. У 1870 г. сяло і памешчыцкі маёнтак. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., побач вёска пры ваенна-камунікацыйнай дарозе з Ігумена ў Магілёў, 23 двары, 207 жыхароў, царква на могілках, хлебазапасны магазін; казённая лясная вартоўня, 1 двор, 6 жыхароў; 2 сядзібы: у першай 1 двор, 5 жыхароў, у другой 3 двары, 24 жыхары. У 1912 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. 34 двары, 237 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У



1926 г. вёска, 44 двары, 244 жыхары, побач лясная вартоўня, 2 двары, 8 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы разам з жыхарамі Бярозаўкі і Бабінкі аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Бераг». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. У 1960 г. 167 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск). У 2003 г. 62 гаспадаркі, 138 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 вуліц, гал. з якіх арыентавана мерыдыянальна ўздоўж ракі. Паралельна да гал. праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, абедзве злучаны на Пд кароткай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Мачаскім с/с , за 24 км на У ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 124 км ад Мінска, на Пд цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна), на У на мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вёска ўтворана ў пач. 20 ст. як хутар. У час калектывізацыі быў створаны калгас «Прафінтэрн». З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 122 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Любушанскі», магазін. У 2003 г. 16 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІНІНА** — пасёлак у Паплаўскім с/с, за 24 км на З ад Беразіно, 40 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 93 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Лагавы [прыток р. Жорнаўка (Смалярня)]. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Смалярня, Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск— Магілёў. 36 гаспадарак, 106 жыхароў (2008).

Утворана ў 1920-я г. сялянамі, якія атрымалі надзелы зямлі. У 1926 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1929 г. разам з вёскамі Вялікія і Малыя Лагі, Паўлаўка, Крупы, Зялёны Гай увайшла ў калгас імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 26 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). З 2008 г. ў складзе Паплаўскага с/с. Планіровачна складаецца з адной кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі і мураванымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛЮГА 1** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 97 км ад Мінска, на Пн і У цячэ р. Ганутка (прыток р. Уса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Багушэічы і Новая Марціянаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Узгадваецца ў інвентарах 1845 г. як Калюга ў складзе маёнтка Багушэвічы. У 1858 г. в. Калюга 1, 48 жыхароў, у складзе маёнтка Багушэвічы, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць па-




мешчыка Ч.Свентаржыцкага. У 1870 г. 20 жыхароў мужчынскага полу ўваходзілі ў Багушэвіцкае сельскае т-ва, у Якшыцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 120 жыхароў. У 1917 г. 22 двары, 147 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругі БССР. У 1926 г. 31 двор, 172 жыхары. У 1932 г. ў вёсцы створаны калгас «Маладая гвардыя». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 19 вяскоўцаў. З 20.10.1944. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 140 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Багушэвічы), дзейнічала ўстаноўка па перапрацоўцы кармоў. У 2003 г. 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛЮГА 2** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Беразіно, 17 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 99 км ад Мінска, на Пн і ПнУ цячэ р. Ганутка (прыток р. Уса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Багушэвічы і Новая Марціянаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Узнікла пазней за вёску Калюга 1, нар. назва — Палявая. У 1858 г. вёска, 36 жыхароў, у складзе маёнтка Багушэвічы, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Свентаржыцкага. У 1870 г. 20 жыхароў мужчынскага полу, у Якшыцкай вол. У 1917 г. 25 двароў, 173 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 35 двароў, 166 жыхароў. У 1932 г. ў вёсцы быў створаны калгас «Новы шлях», у які ўвайшла і вёска Кургання (зараз не існуе). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.10.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 84 жыхары. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Багушэвічы). У 2003 г. 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛЮЖЫЦА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Беразіно, 123 км ад Мінска, 34 км ад чыг. ст. Барысаў (на лініі Орша—Мінск), на р. Уша (прыток р. Бярэзіна), на ПнЗ і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць побач з вёскай. 41 гаспадарка, 72 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст. У 1800 г. вёска (10 двароў, 69 жыхароў) і фальварак у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Непадалёку ад фальварка адноўлены «жалезны завод». У 1858 г. ў вёсцы 52 жыхары, у маёнтку 6 дваравых, уласнасць памешчыка К.Ванькові ча. Паводле перапісу 1897 г. ў Белічанскай воласці, у вёсцы 8 двароў, 91 жыхар, у маёнтку 13 двароў, 58 жыхароў, у сядзібе Калюж (яна ж Сялянка) ва ўладанні малалетніх Ванькові чаў 3 двары, 40 жыхароў, у сядзібе Сялянка 1 двор, 10 жыхароў. У 1917 г. ў



*Памятны знак на месцы сядзібы Ваньковічаў каля в. Калюжыца.*



вёсцы 12 двароў, 103 жыхары, у маёнтку 122 жыхары. На землях Соф'і Ваньковіч дзейнічалі дробныя прамысловыя прадпрыемствы па вырабе жалеза з руды. Працаваў цагельны з-д. У 1920 г. палякі ўчынілі збіццё сялян за разбурэнне маёнтка. З 20.8.1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1929 г. вёскі Старая Калюжыца і Новая Калюжыца (былы маёнтак) разам з вёскамі Князеўка і Старая Уша ўвайшлі ў калгас імя Чкалава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 12 жыхароў вёсак Новая і Старая Калюжыца. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ва Ушанскім с/с. У 1960 г. ў в. Старая Калюжыца 99 жыхароў, у в. Новая Калюжыца 113 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. вёскі аб'яднаны ў адзіную — Калюжыца. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 51 гаспадарка, 88 жыхароў. Вёска — радзіма М.Ваньковіча, празаіка і публіцыста; В.М.Ваньковіча, жывапісца, прадстаўніка рамантызму. Планіровачна складаецца з зах. (былая в. Старая Калюжыца) і ўсх. (былая в. Новая Калюжыца) частак, злучаных паміж сабой прасёлачнай дарогай. Зах. частка мае П-падобную планіровачную структуру: 2 вуліцы злучаны пад прамым вуглом 3-й кароткай прамалінейнай вуліцай. Усх. складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы з завулкам. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕННЫ БАРОК** — вёска ў Капланецкім с/с, цэнтр. сядзіба СВК «Мацевічы», за 18 км на ПдУ ад Беразіно, 26 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 118 км ад Мінска, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капланцы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 104 гаспадаркі, 260 жыхароў (2008).

Засн. ў 1882 г. сялянамі, якія выкупілі ў памешчыка Шыманскага невял. ўчастак зямлі, крыху больш за 10 га. Першыя хаты былі пабудаваны пасярод сасновага бору. У 1885 г. засценак у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 68 жыхароў. У 1908 г. тры засценкі: Каменны Барок 1 (7 двароў, 46 жыхароў), Каменны Барок 2 (10 двароў, 66 жыхароў) і Каменны Барок 3 (2 двары, 13 жыхароў). У 1917 г. дзве вёскі: Каменны Барок 1 (29 двароў, 191 жыхар) і Каменны Барок 2 (7 двароў, 48 жыхароў). З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У 1920 г. на базе школы граматы была адкрыта 4-гадовая школа, у якой вучыліся дзеці з вёсак Каменны Барок і Дубоўкі, у 1922 г. каля 60 вучняў. З 20.8. 1924 г. ў Валаўніцкім с/с у Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. 21.8.1925 г. сельсавет перайменаваны ў Каменна-Борскі і вёска стала яго цэнтрам. У верасні 1925 г. створана садова-агранамічнае т-ва. У 1926 г. ў вёсцы 39 двароў, 217 жыхароў, у засценку 10 двароў, 44 жыхары, у пасёлку 4 двары, 21 жыхар. У 1929 г. некалькі навакольных сялянскіх гаспадарак былі аб'яднаны ў калгас «1 Мая». У 1930-я г. ўзведзены новы будынак школы, якая потым пераўтворана ў сямігадовую, працавалі яслі, якія наведвалі больш за 40 дзяцей. У 1936 г. пабудаваны клуб, вёска электрыфікавана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Напярэдадні вайны 433 жыхары. З канца чэрв. 1941 да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У трох брацкіх магілах, што на могілках, пахаваны 9 партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. На франтах Вял. Айч. вайны





і ў партыз. барацьбе загінулі 30 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. ў в. Новы Каменны Барок — 201 жыхар, у в. Стары Каменны Барок 123 жыхары. У 1966 г. вёскі зліліся ў адзіную. У 1980-я г. цэнтр. сядзіба калгаса «Памяці Леніна». У 1987 г. ў вёсцы 320 жыхароў, школа, Дом культуры, б-ка, магазін, камбінат быт. абслугоўвання, медпункт, аддз. банка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі. У 2003 г. 290 жыхароў. У 2008 г. Каменна-Борскі с/с скасаваны, вёска ўвайшла ў Капланецкі с/с. Гал. вуліца ў цэнтры перакрыжавана кароткай прамалінейнай вуліцай, ад усх. канца якой на Пн адыходзяць 2 амаль паралельныя паміж сабой вуліцы. На ПдУ праходзіць прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі (былая в. Каменны Барок 2). Адміністрацыйна-грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы гал. вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, у цэнтры і на ўскраіне ўзведзены мураваныя жылыя дамы.

**КАМІСАРСКІ САД** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 25 км на З ад Беразіно, 41 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 94 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Лагавы (прыток р. Жорнаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Паўлаўка, Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Утворана ў 1920-я г. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 15 двароў, 79 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў Лагах стаялі атрады № 345 і «Іскра» (камандзір У.П.Дзярабін). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. 69 жыхароў. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). У 2003 г. 19 гаспадарак, 23 жыхары. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ручая. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАПЛАНЦЫ** — вёска, цэнтр Капланецкага с/с, за 10 км на ПдУ ад Беразіно, 33 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 112 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 132 гаспадаркі, 271 жыхар (2008).

Адно з самых старажытных паселішчаў р-на. За 0,5 км ад паўд. ускраіны вёскі размешчаны курганны могільнік (5 насыпаў, раней было больш), а за 0,2 км на ПдУ — гарадзішча. Гэта сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1788 г. на месцы старой драўлянай царквы, якая згарэла ў 1771 г., пабудавана прыходская царква ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы (разабрана ў 1940-я г). Пры царкве потым існавала царк.-прыходскае папячыцельства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. сяло, 79 двароў, 520 жыхароў і гаспадарскі двор, драўляная уніяцкая царква Пакрова Багародзіцы, плябанія, карчма, млын на р. Клява, сукнавальня, уласнасць памешчыка, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. 9.3.1807 г. на сродкі свяшчэнніка Капланецкай царквы Сімона Аксінькевіча адкрыта Божынскае свецкае вучылішча для дзяцей бедных дваран і грэка-уніяцкага духавенства. Па інвентарах 1845 г. ў складзе маёнтка Капланцы (уладанне С.Ясенскага) уваходзілі фальварак і пасяленне Божын, вёскі Мілашава, Елеанорава, Ядліна, да маёнтка Капланцы 2 адно-



сіліся хутар і вёска Валаўніца (разам 792 жыхары, 105 цяглых двароў, 5 агароднікаў). У карыстанні сялян знаходзіліся 144 валы, 197 кароў, 438 свіней, памешчыку належала 950 дзес. пашы, 2 хлебазапасныя магазіны. У 1858 г. 436 жыхароў. У 1866 г. 66 двароў. У 1884 г. адкрыта перасоўная царк.-прыходская школа (у 1890 г. навучаліся 23 хлопчыкі). У 1885 г. 62 двары, 560 жыхароў, у Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 111 двароў, 763 жыхары, прыходская царква, прытулак, хлебазапасны магазін, піцейны дом, у маёнтку 3 двары, 24 жыхары, у сядзібе 2 двары, 22 жыхары. У 1908 г. 147 двароў, 977 жыхароў. У 1917 г. 150 двароў, 863 жыхары, у маёнтку 57 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР.

У час сав.-польскай вайны ў 1920 г. ў Капланцах размяшчаліся штаб дывізіі Чырв. Арміі і шпіталь. Сюды прыязджаў С.Арджанікідзе, які праводзіў інспекцыю ўчастка фронту. У 1923 г. ў маёнтку створана садова-агранамічная гаспадарка, 24.9.1924 г. арганізавана сельскагаспадарчае каап. т-ва. З 20.8. 1924 г. вёска — цэнтр Капланецкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. ў вёсцы 180 двароў, 967 жыхароў, у маёнтку 22 двары, 82 жыхары. У ліп. 1920 г. ў баях каля вёскі загінулі 25 чырвонаармейцаў (пахаваны на могілках). У канцы 1920-х г. на базе царк.-прыходскай была створана 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў будынку, пабудаваным на сродкі вяскоўцаў у 1902 г. У 1930 г. быў створаны калгас «Пераможац», у 1936 г. пабудавана грамадская лазня. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. яны расстралялі 5 вяскоўцаў (пахаваны на могілках). Вёска была двойчы (у крас. 1943 і чэрв. 1944 г.) часткова спалена карнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінула 40 воінаў, партызан, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 73 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 711 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1969 г. 8-гадовая школа стала сярэдняй. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Касаўка). У 2003 г. 153 гаспадаркі, 330 жыхароў, дзіцячы сад, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, сярэдняя школа. Рака падзяляе вёску на паўн.-ўсх. (2 прамалінейныя, працяглыя, перпендыкулярна перакрыжаваныя вуліцы) і паўд.-зах. (З адасобленыя вуліцы з завулкамі) часткі. Адм.-грамадскі цэнтр размешчаны на плошчы, утворан на перакрыжаванні вуліц паўн.-ўсх. часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, мураваныя двухпавярховыя дамы ўзведзены ў цэнтры. Радзіма бел. кампазітара М.Равенскага (1886—1953).

**КАРАНЕЦ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 126 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Плаўня (прыток р. Брусята), на Пн і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарогах праз вёскі Дзмітравічы і Высокая Гара і далей па шашы Мінск—Магілёў. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., у вёсцы 3 двары, 29 жыхароў, у сядзібе 3 двары, 38 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын, сяляне ўваходзілі ў Ляскавіцкае сельскае т-ва. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Дзмітра-





віцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 8 двароў, 54 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас «Новы Каранец». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 62 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Дзмітравічы» (цэнтр — в. Дзмітравічы). У 2003 г. 6 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРБАЎСКАЕ** — вёска ў Мачаскім с/с , за 21 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 121 км ад Мінска, на ПдУ і Пд цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Маскаль, у лесе размешчаны курган, за 1 км на ПнУ ад вёскі, курганны могільнік (17 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Згодна з мясц. паданнем на месцы вёскі калісьці была паляна, на якой людзі плялі карабы. Вёска вядома з 19 ст. як в. Карабаўшчызна ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. Па інвентарах 1845 г. ў Любушанскай эканоміі, 18 жыхароў. У 1870 г. 11 жыхароў мужчынскага полу, у Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 36 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 40 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Любушанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Будаўнік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. У 1960 г. 45 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Любушанскі». У 2003 г. 11 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачная структура хутарская. Сял. сядзібы размешчаны групамі ўздоўж ракі.

**КАРМА**— вёска ў Пагосцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Беразіно, 44 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 130 км ад Мінска, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Плаўня (прыток р. Брусята), на У вёска мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарогах праз вёскі Высокая Гара і Дзмітравічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Карма-Марысін у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 124 жыхары. У 1908 г. засценак Карма, 11 двароў, 96 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 11 двароў, 96 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 25 двароў, 134 жыхары. У 1934 г. створаны калгас «На варце». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. ўвайшла ва ўзбуйнены калгас імя Мікаяна. У 1960 г. 68 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай



двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛЁНАЎКА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 142 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Клёнаўка (прыток р. Уша), на ПдУ і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Котава і Восава і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 23 гаспадаркі, 46 жыхароў (2008).

У 1870 г. вёска Кленаўта, 24 жыхары мужчынскага полу, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Кліяндзіта (яна ж Клёнаўка), 18 двароў, 133 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 129 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 29 двароў, 142 жыхары. У 1930 г. разам з в. Котава аб'ядналася ў калгас «Колас». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 16 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ў Ляжынскім с/с. Да 1950 г. працавала пачатковая школа. У 1960 г. 152 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1971 г. ва Ушанскім с/с. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава), дзейнічаў магазін. У 2003 г. 29 гаспадарак, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛУБЧА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 12 км на У ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 112 км ад Мінска, на Пд цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 12 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 45 жыхароў, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., фальварак, 1 двор, 5 жыхароў. У 1916 г. фальварак, 24 двары, 48 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 20 двароў, 84 жыхары. У 1927 г. створаны калгас «Працаўнік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 129 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1971 г. ў складзе Пагосцкага с/с. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Камунар» (цэнтр — в. Пагост). У 2003 г. 17 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль мерыдыянальна арыентаванай вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОЛАС** — пасёлак у Сялібскім с/с, за 42 км на Пд ад Беразіно, 18 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы—Магілёў, 142 км ад Мінска, на ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі

*Ваколіцы в. Клёнаўка.*







Сяліба, Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Узнік у пачатку 1920-х г. З 20.8. 1924 г. ў Сялібскім с/с Свіслацкага р-на (да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі). З 25.6.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 58 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-не. У 1980-я г. ў калгасе імя Ільіча (цэнтр — в. Сяліба). У 2003 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОСАЎКА** — вёска ў Капланецкім с/с, цэнтр. сядзіба СВК «Бярэзінскі», за 7 км на ПдУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 107 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 127 гаспадарак, 283 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. в. Косаўцы ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1800 г. 11 двароў, 79 жыхароў. У 1811 г. 66 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К.Маршалавай. Па інвентарах 1845 г. Косаўкі, у складзе маёнтка Беразіно, 158 жыхароў, уласнасць графіні Ваньковічавай. У 1858 г. 174 жыхары, уласнасць М.Патоцкага. У 1870 г. ў Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 57 двароў, 416 жыхароў, двор, у сядзібе Косаўкі (яна ж Жыдоўшчына) 1 двор, 9 жыхароў, у фальварку Косаўкі (Жыдоўшчына) 1 двор, 13 жыхароў. У 1908 г. 65 двароў, 457 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 88 двароў, 568 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругі. У 1926 г. 106 двароў, 522 жыхары, у выселку 17 двароў, 99 жыхароў. У 1931 г. разам з вёскамі Царкаўшчына (Царкавішча) і Гурэшчына ўвайшла ў калгас «Праўда». У 1960 г. в. Царкавішча далучана да в. Косаўка. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 216 землякоў з вёсак саўгаса «Бярэзінскі» ў 1968 г. пастаўлена скульптура воіна. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 57 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 480 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-не. У 1980-я г. цэнтр саўгаса «Бярэзінскі», пач. школа, б-ка, Дом культуры, магазін, комплексны прыёмны пункт, грамадская лазня, сталовая, аддз. сувязі. У 2003 г. 128 гаспадарак, 286 жыхароў. Да гал. вуліцы далучаецца працяглая крывалінейная вуліца, ад якой адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы на гал. вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, мураваныя аднапавярховыя дамы ўзведзены на новых вуліцах.

**КОСТАЎШЧЫНА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 85 км ад Мінска, на ПдЗ і З цячэ р. Бусль (прыток р.Уса), на шашы Мінск—Магілёў. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. аколіца Кастаўшчызна, 6 двароў, 40 жыхароў, у Юравіцкай ( з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. ўрочышча Кастакоўшчына 1, 1 двор, 10 жыхароў і аколіца Кастакоўшчына 2, 8 двароў, 69 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча Кастакоўшчына, 12 двароў, 65 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Не-



ганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1930 г. створаны калгас імя Шміта. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. У 1930 г. створаны калгас імя Шміта. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1953 г. ў складзе калгаса імя Мічурына. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 зноў у Бярэзінскім р-не. У 1960 г. 113 жыхароў. У 2003 г. 12 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе СПК «Навіны». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОТАВА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 138 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Уша (прыток р. Бярэзіна), на ПдЗ — яе прыток р. Клёнаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзямешкаўка і Восава і далей па шашы Барысаў — Беразіно. 67 гаспадарак, 170 жыхароў (2008).

За 0,3 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Уша размешчана гарадзішча ранняга жал. веку, за 70 м ад яго іншае гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур (ранні этап), за 0,5 км курганны могільнік (2 насыпы). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1858 г. 61 жыхар, у складзе маёнтка Князеўка, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Э.Вайткевіча. Паводле перапісу 1897 г. ў Белічанскай вол., 19 двароў, 121 жыхар. У 1917 г. ў вёсцы 22 двары, 130 жыхароў. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. тут ішлі нарыхтоўкі лесу для суднабудаўніцтва. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 34 двары, 172 жыхары. У 1930 г. разам з в. Клёнаўка аб'ядналася ў калгас «Колас». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 39 двароў, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—44 гг. спалілі 36 двароў, загубілі 4 жыхароў. Пасля вызвалення адноўлена. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. на базе Клёнаўскай і Князеўскай пач. школ створана Котаўская 8-гадовая школа. З 16.7.1954 г. вёска ва Ушанскім с/с. У 1960 г. 125 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-не. У 1980-я г. вёска — цэнтр саўгаса «Уша», фельч.-акуш. пункт (з 1960 г.), магазін (з 1990 г.), камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, аддз. сувязі, грамадская лазня, пач. школа-сад, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, б-ка (з 2002 г.). У 2003 г. 70 гаспадарак, 179 жыхароў. Гал. вуліца — крывалінейная, працяглая, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПдУ, ПнЗ, Пд і ПдЗ адыходзяць 4 кароткія вуліцы. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне ўзведзены мураваныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы гал. вуліцы.

**КРАПІЎНЯ** — вёска ў Сялібскім с/с, за 23 км ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Насята на лініі Асіповічы—Магілёў, 112 км ад Мінска, праз вёску цячэ р. Крапівенка (прыток р.Бярэзіна), а на ПнЗ яе прыток р. Верацёнка, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Капланцы і Лешніца і далей па шашы Мінск—Магілёў. 38 гаспадарак, 96 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 3 двары, 21 жыхар, карчма, вадзяны млын, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 48 жыхароў, у складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыка Лукашэвіча.

Вяскоўцы ўваходзілі ў Брадзецкае сельскае т-ва. Паводле перапісу 1897 г. в. Крапіўна, 28 двароў, 209 жыхароў, вадзяны і ветраны млыны, у Брадзецкай вол. У 1917 г. 35 двароў, 225 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым Ігуменскага (з 18.9. 1923 — Чэрвеньскага) павета БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. па 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1931 г. разам з вёскамі Чэрнеўка і Уцешына ўвайшла ў калгас «Актывіст». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 37 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. Адноўлены даваенны калгас у 1952 г. ўвайшоў у склад калгаса імя Куйбышава. У 1960 г. 231 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна»; ферма буйной рагатай жывёлы, малочна-таварны комплекс, установка па перапрацоўцы кармоў, пач. школа, клуб, б-ка. У 1990 г. пабудаваны магазін. У 2003 г. 50 гаспадарак, 107 жыхароў. Рака падзяляе вёску на паўн. (кароткая крываліне́йная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўд. (доўгая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, у цэнтры паўдн. часткі ўзведзены мураваныя аднапавярховыя дамы.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 34 км на ПнУ ад Беразіно, 134 км ад Мінска, 42 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхеевічы і Дзмітравічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1885 г. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 119 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 155 жыхароў, у 1916 г. 14 двароў, 119 жыхароў, у 1920 г. 20 двароў, 120 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Арэшкавіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 27 гаспадарак, 141 жыхар. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 33 гаспадаркі, 148 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1942 г. спалілі вёску і загубілі 86 жыхароў. Вызвалена 2.7.1944 г. На вясковых могілках пахаваны 6 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў, і расстраляныя гітлераўцамі мірныя жыхары. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. 139 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Дзмітравіцкі» (цэнтр — в. Дзмітравічы). У 2003 г. 11 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЕ** — пасёлак у Сялібскім с/с, за 34 км на Пд ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы—Магілёў, 134 км ад Мінска, на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сяліба і далей па шашы Мінск—Магілёў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Узнік у сярэдзіне 1920-х г. у Сялібскім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. З 25.6.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Мінскай абл. У 1960 г. 42 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў калгасе імя Ільіча. У 2003 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай



двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАПОЛЛЕ** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 2 км на З ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 100 км ад Мінска, на З цячэ р. Палоза (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз Беразіно і далей па шашы Мінск—Магілёў. 25 гаспадарак, 77 жыхароў (2008).

Створана ў 1920-я г. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Мінскай абл. У 1960 г. 51 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка». У 2003 г. 11 гаспадарак, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУПА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 132 км ад Мінска, на ПдУ і Пд цячэ р.Уша (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кочава і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1885 г. аколіца ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 81 жыхар. У 1917 г. ў аколіцы 11 двароў, 63 жыхары, з іх 5 праваслаўных, 58 католікаў. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1930 г. разам з в. Локаць увайшла ў калгас «Чырвоная Беларусь». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 48 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы ўздоўж ракі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУПКА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 36 км на Пд ад Беразіно, 13 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 113 км ад Мінска. Праз вёску цячэ безназоўны ручай (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Якшыцы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1885 г. маёнтак Леанполь у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Крупка (яна ж Леанполь), 1 двор, 8 жыхароў. У 1908 г. ўрочышча, 2 двары, 20 жыхароў. У 1917 г. вёска, 6 двароў, 49 жыхароў і ўрочышча, 11 двароў, 66 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. У 1930 г. ўвайшла ў калгас «Перамога». З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 59 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Гвардзеец». З 2008 г. ў Багушэвіцкім с/с. Драўляныя сял. сядзібы размешчаны паабапал ручая.

**КРЫНКІ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 16 км на З ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 92 км ад Мінска, на ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Паплаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Сад, Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).





Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 2 гаспадаркі, 11 жыхароў, у Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 2 двары, 14 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1932 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса «Чырвоны прамень». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 19 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 56 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 9 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУКАРАВА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Беразіно, 53 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 119 км ад Мінска, на р. Клявіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць непадалёк ад вёскі. 54 гаспадаркі, 104 жыхары (2008).

За 0,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Занечча (яно ж Азер'е) размешчаны курганны могільнік (77 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Раней 3 даўнейшыя могільнікі знаходзіліся на тэр. вёскі, але былі выкарыстаны ў якасці матэрыялаў для будаўніцтва шашы Мінск—Магілёў. Па сведчанні старажылаў, на камянях былі надпісы на незразумелай мове. Сучасная вёска вядома з 16 ст. На картах ВКЛ пазначана як населены пункт. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1800 г. 14 двароў, 132 жыхары, карчма, уласнасць памешчыка М.Патоцкага. У 1847 г. ў Любушанскай акаeconоміі, 99 жыхароў. У 1870 г. 54 жыхары мужчынскага полу, у Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 278 жыхароў, капліца на могілках. У 1917 г. 35 двароў, 257 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. Пагосцкая вол. уваходзіла ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. У канцы 1919 г. польскія вайскоўцы ўварваліся ў вёску і абрабавалі насельніцтва. У 1920 г. арганізавана лясніцтва. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 53 двары, 334 жыхары. У 1930 г. створаны калгас «Дабраволец». У 1940 г. 87 двароў, 410 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 4 сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. Пасля вайны адкрыта школа, з 1950 г. 7-гадовая, з 1960 г. ў новым будынку. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе падсобнай гаспадаркі Мінскага аўтазавода. Дзейнічалі цэх па перапрацоўцы драўніны, клуб (з 1960 г.), б-ка (з 1962 г.), магазін. У 2003 г. 64 гаспадаркі, 99 жыхароў. Рака падзяляе вёску на паўн.-зах. (Г-падобная працяглая вуліца з арыентацыяй асн. часткі з ПнУ на ПдЗ уздоўж ракі) і паўд.-ўсх. (кароткая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі) часткі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУПЫ** — пасёлак ва Усманскім с/с, за 23 км на З ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 94 км ад Мінска. Транспартныя



сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Паўлаўка, Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. хутар (1 двор, 15 жыхароў) і фальварак (3 двары, 14 жыхароў) маёнтка Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 7 двароў, 42 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 16.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 15 двароў, 67 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 83 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). У 2003 г. 11 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЕШНІЦА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, цэнтр СВК «Лешніца», за 5 км на У ад Беразіно, 43 км ад чыг. ст. на лініі Магілёў—Асіповічы, 105 км ад Мінска, праз вёску цячэ безымянны ручай (прыток р. Клява), каля шашы Мінск—Магілёў. 189 гаспадарак, 494 жыхары (2008).

Курган на ўскраіне вёскі (мясц. назва Французскія магілы) сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска Лешаніца ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1800 г. 24 двары, 203 жыхары. Па інвентарах 1845 г. ў складзе маёнтка Беразіно, 221 жыхар, у маёмасці графіні Ванькові. У 1858 г. 193 жыхары, уласнасць М.Патоцкага. У 1870 г. ў Пагосцкай вол. У 1895 г. дзейнічаў вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 57 двароў, 405 жыхароў, побач у сядзібе 1 двор, 9 жыхароў. У 1908 г. 80 двароў, 538 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце (18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі) БССР. У 1920 г. на базе земскай адкрыта 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. вёска ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 104 двары, 771 жыхар. У 1930 г. быў створаны калгас «Пралетарый». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вёскі ў 1942 г. было адпраўлена на фаш. катаргу ў Германію 90 чалавек. Вызвалена 1.7.1944 г. войскамі 2-га Бел. фронту. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 76 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае скульптура воіна, якая пастаўлена ў 1969 г. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 702 жыхары, адкрыты клуб. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. вёска была цэнтрам калгаса «Ленінскія дні», цяпер — цэнтр СВК «Лешніца». У 2003 г. 520 жыхароў. Ручай падзяляе вёску на паўн.-зах. (ад працяглай крывалінейнай вуліцы адыходзіць кароткая прамалінейная) і паўд.-зах. (2 размежаваныя вуліцы) частак. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзены мураваныя аднапавярховыя дамы. Адм.-грамадскі цэнтр склаўся на паўн. ускраіне. Тут размешчаны асн. грамадскія будынкі: праўленне, ашчадная каса, камбінат быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, лазня, магазін, школа-сад, невялікі парк.

**ЛІСІТНІК** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Беразіно, 56 км ад





чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 115 км ад Мінска, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Кляўіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць непадалёк ад вёскі. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1928 г. створаны калгас «Фрайгат» («Свабода»), які ў 1936 г. далучаны да калгаса «Рассвет» (в. Гаруні). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 100 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Камунар». У 2003 г. 20 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх вуліц, адна з якіх шыротнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛОСЕЎКА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 40 км на У ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 140 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гужык і Старыя Прыборкі і далей па шашы Мінск—Магілёў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 19 ст. ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. побач 2 аднайменныя сядзібы, у якіх 6 двароў, 39 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 12 двароў, 70 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 16 двароў, 92 жыхары. У 1929 г. разам з вёскамі Гужык, Пчэлінск, Хутар увайшла ў калгас «Новы свет». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 27 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск). У 2003 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛУЧКІ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 14 км на З ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 89 км ад Мінска, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Паплаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Сад, Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 5 двароў, 27 жыхароў, у Юравіцкай (з пач. 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 3 двары, 35 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 52 жыхары. У 1932 г. ўвайшла ў склад калгаса «Чырвоны прамень». На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 48 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛУЧНЫ МОСТ** — пасёлак у Сялібскім с/с, за 44 км на Пд ад Беразіно, 26 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіпо-



вічы—Магілёў, 144 км ад Мінска, на р. Лучкі (прыток р. Жалінка), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сяліба і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1846 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Л.Петрусевіча. У 1885 г. хутар у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 1 двор, 15 жыхароў. У 1908 г. урочышча, 3 двары, 19 жыхароў. У 1917 г. 3 двары, 25 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Сялібскім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7. 1930 г. Бабруйскай акругі БССР. У 2-й пал. 1920-х г. тут жыла сям'я Барысевічаў (таму пасёлак яшчэ называўся Барысі). З 25.6.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9. 1944 г. ў Мінскай абл. У 1960 г. 39 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў калгасе імя Ільіча (цэнтр — в. Сяліба). У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма М.А.Барысевіча, бел. вучонага і дзярж. дзеяча, Героя Сац. Працы, лаўрэата Ленінскай і Дзярж. прэмій, прэзідэнта АН Беларусі.

**ЛЮБАЧ** — вёска ва Ушанскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 123 км ад Мінска, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р.Уша (прыток р.Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць нападалёк ад вёскі. 8 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1744 г. вёска Любеч, 12 двароў, 28 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць Агінскай, Завішы. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1847 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка У.Корбута. У 1885 г. аколіца ў Белічанскай вол. Паводле перапісу 1897 г. аколіца Любіч, 7 двароў, 52 жыхары. У 1908 г. 7 двароў, 57 жыхароў. У 1917 г. 7 двароў, 46 жыхароў, усе каталіцкага веравызнання. З 20.8.1924 г. вёска ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ва Ушанскім с/с. У 1960 г. 93 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1950-я г. вяскоўцы працавалі ў калгасе імя В.Чкалава, у 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*М.А.Барысевіч.*

**ЛЮБУШАНЫ** — вёска ў Мачаскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 119 км ад Мінска, на У і Пд цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 165 гаспадарак, 418 жыхароў (2008). Цэнтр СВК «Любушанскі».

На паўн. ускраіне вёскі, на правым беразе ракі размешчаны курган (раней тут было больш за 30 курганоў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. З'яўляецца адным з самых стараж. паселішчаў раёна. Першы ўспамін аб вёсцы адносіцца да 1358 г., калі яна знаходзілася ў Свіслацкім княстве ў складзе ВКЛ. У гэтым годзе княства было падзелена на вол. — Любушанскую, Свіслацкую, Бабруйскую і Глускую. Адзначана на картах ВКЛ 16 ст. У 1554 г. цэнтр Любушанскай вол., дзярж. маёмасць. У 1560 г. мястэчка Любушаны, у 1600 г. цэнтр стараства. Пасля 2-га падзелу Рэчы




Паспалітай ( 1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Беразіно Любушанскага графства, уласнасць графіні Ваньковіч. Любушанская эканомія налічвала 610 мужчын і 584 жанчыны, у выкарыстанні якіх знаходзілася 129 коней, 373 валы, 266 кароў. У 1885 г. цэнтр маёнтка ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў фальварку Любушаны 3 двары, 18 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, які 18.9. 1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі павет БССР. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 19 двароў, 110 жыхароў. У 1930-я г. любушанцы ўступілі ў калгас «Будаўнік». У пач. 1930-х г. была адкрыта школа, да вайны былі пабудаваны клуб, б-ка, дзіцячы сад. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1959 г. землі калгаса «Будаўнік» увайшлі ў саўгас «Камунар». У 1960 г. 175 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У лютым 1966 г. ад саўгаса «Камунар» аддзяліўся і стаў самастойным саўгас (зараз — СПК) «Любушанскі», вёска стала яго цэнтрам. У 1966 г. ў межы вёскі ўвайшлі вёскі Долгі Лог і Курганне. У 1991 г. ў вёсцы сярэдняя школа, клуб, сталовая, магазін, пошта, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі і комплексны прыёмны пункты, сталовая, грамадская лазня, аддз. сувязі, 2 спарт. пляцоўкі, аддз. банка. У 1995 г. ўведзены ў строй новы будынак сярэдняй школы. У 1998 г. на базе Дома культуры створаны Цэнтр традыцыйнай культуры. У 2003 г. 172 гаспадаркі, 491 жыхар. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: зах. (тры амаль паралельныя паміж сабой вуліцы аб'яднаны дарогамі) і ўсх. (крывалінейная вуліца ўздоўж ракі з гасп. сектарам). Адм.-грамадскія будынкі размешчаны ўздоўж гал. вуліцы. Мураванае будаўніцтва вядзецца на зах. ускраіне вёскі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу

**ЛЮДВІКОВА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Беразіно, 21 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Беразіно—Бабруйск. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

У 1800 г. фальварак, 2 двары, 10 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Данілевіча. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 65 жыхароў. Побач сядзіба Буда-Людвікова, 11 двароў, 119 жыхароў. У 1908 г. засценак, 25 двароў, 175 жыхароў. У 1917 г. 28 гаспадарак, 198 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Валаўніцкім, з 21.8.1925 г. Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 40 двароў, 233 жыхары. У 1930 г. вёскі Людвікова і Буда стварылі калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Каменны Барок). У 2003 г. 15 жыхароў. З 2008 г. ў Капланецкім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯЖЫНА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 103 км ад Мінска, на р. Жорнаўка (прыток р.Бярэзіна). Транспарт-



ныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Беразіно—Барысаў. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

У 1885 г. аколіца Ляжын, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіца, 10 двароў, 92 жыхары. У 1917 г. 90 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Ленінскі шлях». У 1931 г. пабудавана пач. школа, якая ў 1945 г. стала 7-гадовай, у 1952 г. — сярэдняй. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7.1954 г. Белічанскі с/с перайменаваны ў Ляжынскі, вёска стала яго цэнтрам. У 1960 г. 135 жыхароў, адкрыты фельч.-акушэрскі пункт, працаваў магазін. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Баравіно». У 2003 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, побач дзіцячы лагер адпачынку і працы Мінскага аўтазавода. У 2008 г. Ляжынскі с/с скасаваны, яго тэр. далучана да Ушанскага (3 вёскі, у т.л. Ляжына) і Паплаўскага сельсаветаў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Мураваныя грамадскія будынкі знаходзяцца ў цэнтры вёскі.

**ЛЯСКОВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 113 км ад Мінска, праз вёску на З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Брусята (прыток р. Бярэзіна). На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 69 гаспадарак, 140 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 41 двор, 301 жыхар, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча. Па інвентарах 1845 г. ў складзе маёнтка Беразіно, 230 жыхароў, у маёмасці графіні Ваньковіч. У 1885 г. сяло ў Пагосцкай вол., адкрыта парасоўная школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр Лясковіцкага сельскага т-ва, у вёсцы 60 двароў, 478 жыхароў, царква на могілках, заезны дом. Побач сядзіба пры р. Фажэнка, 1 двор, 12 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 80 двароў, 576 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) паветах БССР. У 1920 г. на базе дарэв. адкрыта 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў рэквізаваным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Дзмітравіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 128 двароў, 747 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Пралетарскі». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 58 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 573 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Вешаўскі», магазін, інтэрнат. У 2003 г. 92 гаспадаркі, 61 жыхар. Планіровачна складаецца з паўн. (З паралельныя паміж сабой амаль прамалінейныя вуліцы злучаны дарожкамі і арыентаваны з ПдЗ на ПнУ) і паўд. (адна крывалінейная вуліца з завулкамі) частак. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ ЛАГІ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 23 км на З ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Барысаў (на лініі Орша—Мінск), 94 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Лугавы (прыток р. Смалярня, якая ўяўляе з сябе частку р. Жорнаўка), на якой створана запруда. Транспарт-

ныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Паўлаўка, Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў (2008).

Вёска вядома з канца 19 ст. У 1870 г. каля в. Лагі (цяпер Вялікія Лагі) існаваў маёнтак, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1885 г. вёска Малыя Лагі і аднайменны маёнтак. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 240 жыхароў, школа граматы, у фальварку ва ўладанні Рагоўскіх 4 двары, 23 жыхары, піцейны дом. У 1917 г. ў вёсцы 41 двор, 249 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 41 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 43 гаспадаркі, 226 жыхароў. У 1929 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Калініна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 195 жыхароў, мясц. калгас увайшоў у склад саўгаса «Баравіно» (Малыя Лагі сталі яго цэнтрам), дзейнічала свінаводчая ферма. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 26 гаспадарак, 50 жыхароў. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Адм.-грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

**МАНЧА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 31 км на Пн ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 131 км ад Мінска. На Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Манча (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Арэшкавічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 28 гаспадарак, 60 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. хутар Манча (ён жа Закрайчы) у Вяляціцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 22 двары, 165 жыхароў. У 1908 г. вёска, 37 двароў, 232 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Аздзяцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 43 гаспадаркі, 265 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Вароўскага, які ў 1952 г. ўвайшоў у склад калгаса «Бальшавік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. Перад вайной у вёсцы пабудавана царква. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 13 вяскоўцаў. У 1960 г. 282 жыхары. У 1965 г. з Аздзяціцкага с/с Барысаўскага р-на вёска перададзена ў склад Дзмітравіцкага с/с Бярэзінскага р-на. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Арэшкавічы), магазін. У 2003 г. 31 гаспадарка, 64 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАРЦІЯНАЎКА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Беразіно, 86 км ад Мінска, 32 км ад чыг. ст. Градзянка (на лініі Асіповічы—Градзянка), на У цячэ р. Бусоль (прыток р.Уса). 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2008).

Адносіцца да стараж. паселішчаў раёна, па гіст. крыніцах вядома ў 17 ст. У 1670 г. слабада Марціянаўка, 12 валок, уваходзіла ў маёнтак Божына і належала Д.Валовічу. У 1743 г. слабада, 3 двары, уласнасць царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Агінскага. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 39 жыхароў і фальварак, карчма, уласнасць М.Валовіча. У 1824 г. пабудавана Свята-Уваскрасенская царква. У 1858 г. 83 жыхары, уласнасць І.Лапіцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 236 жыхароў, хлебаза-



пасны магазін, царква на могілках, у фальварку 32 двары, 198 жыхароў, Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. У 1908 г. ў вёсцы 35 двароў, 338 жыхароў, у фальварку 20 двароў, 230 жыхароў. У 1916 г .ў вёсцы 77 двароў, 465 жыхароў, з іх 232 мужчынскага полу. У 1920 г. падчас польскай акупацыі вёска была спалена, расстраляны кожны 5-ы жыхар. У 1920-я г. вёска Марціянаўка стала называцца Старая Марціянаўка, а фальварак — Новая Марціянаўка. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 1927 г. да 1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. ў в. Старая Марціянаўка 40 двароў, 184 жыхары, у в. Новая Марціянаўка 47 двароў, 192 жыхары. У 1932 г. створаны калгас «Шлях да сацыялізму». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінуў 31 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл., у 1951 г. вёскі далучаны да Багушэвіцкага с/с. У 1960 г. ў в. Старая Марціянаўка 137 жыхароў, у в. Новая Марціянаўка 140 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У выніку забудовы ў 1980 г. вёскі былі аб'яднаны, уваходзілі ў склад калгаса імя І.У.Мічурына, дзейнічалі асфальтавы з-д, магазін. У 2003 г. 27 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай і кароткай прамалінейнай вуліц шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 29 км на ПдУ ад Беразіно, 19 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 129 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Беразіно—Бабруйск. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. засценак паблізу ўрочышча Новы Жабіхаў, 4 двары, 34 жыхары, у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. ўрочышча, 11 двароў, 103 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Валаўніцкім, з 21.8.1925 г. Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 17 гаспадарак, 129 жыхароў. У 1932 г. быў створаны калгас імя 8 Сакавіка. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 41 двор, 174 жыхары. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ўваходзіла ў склад калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Каменны Барок). У 1960 г. 123 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, злучаных дарогай. Забудавана двухбакова, нячшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАТЫЛЯНКА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Беразіно, 18 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 99 км ад Мінска. На З і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р.Уса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Беразіно—Бабруйск. 19 гаспадарак, 55 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак Матылінка ў Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба ва ўладанні Філіпава, здадзена ў арэнду, 8 двароў, 62 жыхары. У 1908 г. 9 двароў, 104 жыхары. У 1917 г. 16 двароў, 91 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. ў вёсцы 18 гаспадарак, 93 жыхары. У 1932 г. разам з вёскамі Паляны, Любашына ўвайшла ў калгас «Свабода». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 30 вяскоўцаў. З 20.10. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 99 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г.





ў складзе калгаса «Беларусь», ферма буйной рагатай жывёлы. У 1990 г. пабудаваны магазін. У 2003 г. 66 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЦЕВІЧЫ** — вёска ў Капланецкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 125 км ад Мінска. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск, якая праходзіць непадалёк ад вёскі. 84 гаспадаркі, 163 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст., была пазначана на картах ВКЛ. У 1560 г. ўзгадваецца як сяло Мацевічы, якое належала свяшчэннікам С.Пяткоўскаму і Скіндзеру. Сяляне плацілі даніну мёдам, воскам, футрам баброў і куніц, лёнам і грашыма. У 1714 г. вёска, 8 двароў, уласнасць памешчыка М.Друцкага-Горскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1800 г. 17 гаспадарак, 109 жыхароў, драўляная уніяцкая царква, плябанія, карчма, млын, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча. У 1811 г. вёска, 94 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К.Маршалавай. У 1839 г. пабудавана Мікольская царква (у 1934 г. была перанесена ў іншае месца і выкарыстоўвалася пад клуб). У 1848 г. 282 жыхары, у Любушанскай эканоміі. У 1858 г. 286 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1885 г. 43 двары, 400 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Пагосцкай вол., 76 двароў, 602 жыхары, прыходская царква, хлебазапасны магазін, заезны дом, на смалярным з-дзе 1 двор, 3 жыхары; фальварак (9 жыхароў) і сядзіба пры р. Змееўка (2 двары, 10 жыхароў). У 1908 г. 85 двароў, 754 жыхары. У 1917 г. 113 двароў, 849 жыхароў. У 1920 г. на базе земскай адкрыта 4-гадовая школа, у якой навучаліся дзеці з вёсак Мацевічы, Масцішча, Галынка. Размяшчалася школа ў будынку, узведзеным на сродкі вяскоўцаў у 1913 г. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Валаўніцкім, з 21.8.1925 г. ў Каменна-Борскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 167 гаспадарак, 983 жыхары. У 1930 г. быў створаны калгас «Чырвоны меч». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы расстралялі 30 вяскоўцаў, у т. л. настаўніцу Я.Ф.Поцк (пахавана на могілках). У час вайны былі спалены 154 дамы, цэлымі засталіся толькі 12 дамоў. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 85 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1969 г. каля будынка клуба пастаўлена скульптура партызана і дзяўчынкі. У 4 брацкіх і адной індывідуальнай магілах, што на могілках, пахавана 110 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Каменны Барок). У 1953 г. пабудавана электрастанцыя, у 1957 г. вёска радыёфікавана, пачаў працаваць вадзяны млын. У 1960 г. 557 жыхароў, адкрыўся фельч.-акушэрскі пункт. У 1962 г. ўзведзены новы будынак для 8-гадовай школы (у 1980-я г. ператворана ў пачатковую, у 2003 г. зачынена). З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. дзейнічалі клуб, б-ка, дзіцячы сад, комплексны прыёмны і фельч.-акушэрскі пункты, магазін, грамадская лазня, аддз. сувязі. У 2003 г. 209 жыхароў. Канал падзяляе



вёску на паўд. і паўн. часткі. Ад галоўнай працяглай прамалінейнай вуліцы ў паўд. частцы, дзе размешчаны грамадскі цэнтр, адыходзяць перпендыкулярна на ПдУ 3 кароткія вуліцы. У паўн. частцы 2 паралельныя паміж сабой прамалінейныя вуліцы злучаны кароткай вуліцай, якая праходзіць уздоўж канала.

**МАЧАСК** — вёска, цэнтр Мачаскага с/с і СПК «Мачаск», за 25 км на У ад Беразіно, 44 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 125 км ад Мінска, на р. Беларэч (прыток р. Клява), на ПнУ якой утворана запруда, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 92 гаспадаркі, 219 жыхароў (2008).

За 0,4 км на ПдЗ ад вёскі па мясц. дарозе ў в. Прыборкі знаходзіцца курганны могільнік (17 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 80 жыхароў, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 89 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., у вёсцы Мачаск 33 двары, 243 жыхары, капліца на могілках, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач сядзіба Мачаскі, 2 двары, 15 жыхароў. Сяляне былі аб'яднаны ў Дулебскім сельскім т-ве. У 1908 г. 44 двары, 295 жыхароў. У 1917 г. 53 двары, 378 жыхароў. У 2-й пал. 1919 г. адкрыта школа, у якой вучыліся дзеці з вёсак Мачаск, Несцераўка і бліжэйшых хутароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскі) павеце БССР. З 20.8.1924 г. цэнтр Мачаскага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 49 двароў. У 1930-я г. быў створаны калгас «Новы быт». У 1932 г. адкрылася двухкамплектная пач. школа, у якой было 270 вучняў; з 1933 г. 6-гадовая, пасля 1934 г. ў новым будынку (спалены фашыстамі ў 1944 г.), у 1939 г. 15 настаўнікаў. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры вызваленні вёскі 2.7.1944 г. каля яе загінулі 66 сав. воінаў і 13 партызан, якія пахаваны ў брацкай магіле ў скверы. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 20 вяскоўцаў, памяць аб якіх ушаноўвае манумент-скульптура партызана і дзяўчынкі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет узбуйнены — да яго далучаны вёскі скасаванага Дулебскага с/с. Да 1954 г., калі быў узведзены новы будынак школы, заняткі праводзіліся ў наёмных памяшканнях. У 1956 г. заснаваны калгас імя Крупскай. У 1960 г. 302 жыхары. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. вёска — цэнтр саўгаса «Мачаск». Дзейнічалі Дом культуры (пабудаваны ў 1969 г.), сярэдняя школа-сад, пры якой існавалі музей, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін (пабудаваны ў 1990 г.), лазня, сталовая, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт. У 2003 г. 112 гаспадарак, 253 жыхары. У аснове планіроўкі працяглая амаль прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі, трасіраваная ўздоўж ракі. Ад яе ўсх. канца цягнуцца 2 прамалінейныя кароткія вуліцы з завулкамі. Новая кароткая прамалінейная вуліца склалася на ПдЗ. На перакрыжаванні 3 вуліц размешчаны парк і плошча. Частка грамадскіх будынкаў размешчана ў зах. баку гал. вуліцы. Забудова пераважна драўляная. Мураваныя дамы ўзведзены на новай вуліцы.

**МЕДЗЕНКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Беразіно, 44 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 130 км ад Мінска, на Пд мяжуе з лесам.





Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокая Гара і далей па шашы Мінск—Магілёў. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. ўрочышча ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. засценак, 9 двароў, 57 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 14 двароў, 86 жыхароў. У 1930 г. ўвайшла ў склад калгаса «Серп». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 1950 г. ў складзе калгаса імя Молатава. У 1960 г. 50 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ўваходзіла ў склад саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МЕСЦІНА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 34 км на Пд ад Беразіно, 19 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы—Магілёў, 134 км ад Мінска, на З, ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жалінка (прыток р. Бярэзіна), якая цячэ праз вёску і р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сяліба і далей па шашы Мінск—Магілёў. 28 гаспадарак, 56 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. в. Месцін, 4 двары, 38 жыхароў, фальварак, вадзяны млын, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. в. Месцін у Якшыцкай вол., 33 двары, 280 жыхароў, потым адnайменная сядзіба. У 1908 г. 50 двароў, 409 жыхароў. У 1914 г. пачала працаваць школа граматы на 4 групы. У 1917 г. ў вёсцы 58 двароў, 403 жыхары. У 1918 г. створаны к-т беднаты. З 1921 г. пач. школа знаходзілася ў былым маёнтку Парэмскага (у 1924 г. згарэла, пасля пажару размяшчалася ў сял. хаце, дзейнічала да 1969 г.). З 20.8.1924 г. ў Сялібскім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. У 1929 г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», у складе якога было 17 сямей (з 1934 г. калгас імя Мяснікова). З 25.6. 1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну каля вёскі ў баях супраць гітлераўскіх акупантаў у 1941 г. загінулі 4 сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 308 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў калгасе імя Ільіча (цэнтр — в. Сядзіба), магазін. У 2003 г. 55 гаспадарак, 71 жыхар. Ад гал. працяглай крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на ПнУ і на У адыходзяць 2 кароткія крывалінейныя вуліцы з завулкамі. На ПнЗ праходзіць яшчэ адна працяглая, амаль прамалінейная вуліца, злучаная з дарогай. Вёска — радзіма М.Скрыпкі, бел. паэта, сатырыка, празаіка, драматурга.

**МІКУЛІЧЫ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 16 км на З ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 89 км ад Мінска, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Смалярня (частка р. Жорнаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 166 гаспадарак, 446 жыхароў (2008).

Належаць да найб. стараж. паселішчаў раёна, пазначана на картах ВКЛ 16 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У



1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць царквы. У 1800 г. 34 двары, 248 жыхароў, карчма, уніяцкая капліца, уласнасць Г.Шэвіча. У 1832 г. адкрыты царк. прыход. У 1858 г. 282 жыхары. У 1885 г. 38 двароў, 326 жыхароў, у Юравіцкай (з пач. 1910-х г. Хутарской) вол. У час паўстання 1863 г. ў ваколіцах вёскі дзейнічаў атрад паўстанцаў Ляскоўскага-Трусава. У 1880 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. 91 двор, 612 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква; смаляны з-д (за 1 вярсту ад вёскі), пры ім 4 двары, 19 жыхароў; у аднайменным фальварку 6 двароў, 53 жыхары. У 1917 г. ў сяле 145 двароў, 841 жыхар, у фальварку 2 двары, 16 жыхароў. У пач. кастр. 1917 г. вяскоўцы правялі самавольную высечку памешчыцкага лесу. У 1921 г. 145 двароў, 841 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 150 двароў, 715 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Фрунзе. У 1935 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У 1930-я г. царква перабудавана пад клуб. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. поўнасцю спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 90 вяскоўцаў, у памяць пра якіх у 1975 г. пастаўлены абеліск. Вёска пасля вызвалення адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1951 г. пачала будавацца новая школа. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 685 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. цэнтр калгаса «Першамайскі», клуб, 8-гадовая школа, б-ка, ветэрынарны пункт, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт. У 2003 г. 170 гаспадарак, 461 жыхар. Ад цэнтр. часткі гал. крывалінейнай працяглай шыротнай вуліцы на Пн адыходзяць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Іх перакрыжоўвае мерыдыянальная кароткая крывалінейная вуліца. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы гал. вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзены аднапавярховыя двухкватэрныя мураваныя дамы.

**МІЛАСТАВА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 113 км ад Мінска, на р. Клявіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Клубча і далей па шашы Мінск—Магілёў. 27 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

За 2,5 км на ПдУ ад вёскі размешчаны курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай мінуўшчыне. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1795 г. в. Міластаў у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 16 двароў, 132 жыхары, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча. У 1811 г. належала памешчыцы К.Маршалавай, 69 душ мужчынскага полу. Па інвентарах 1845 г. ў маёмасці графіні Ваньковіч, 149 жыхароў. У 1858 г. ў складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. Школа граматы, якая дзейнічала ў вёсцы, была з-за недахопу сродкаў закрыта ў 1890 г. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 44 двары, 269 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца на могілках, заезны дом У 1899 г. арганізавана меліярацыйнае т-ва. У 1908 г. 52 двары, 359 жыхароў. У 1912 г. аднакласнае нар. вучылішча, ператворанае ў 1920 г. ў 4-гадовую школу (размяшчалася ў наёмным памяшканні). У 1916 г. 49 двароў, 303 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. 17.1.1924 г. створана меліяра-




цыйнае т-ва (52 чал.), якое пачало дзейнасць 17.1.1925 г. на плошчы ў 83 га ў пойме р. Ольса. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 55 двароў, 284 жыхары. У 1927 г. сяляне вёскі ўпершыню ў раёне пасеялі лубін. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 283 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 11.3. 1971 г. ў Пагосцкім с/с. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Камунар» (цэнтр — в. Пагост). У 2003 г. 51 гаспадарка, 55 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІРАСЛАЎКА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 25 км на Пд ад Беразіно, 28 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы—Градзянка, 125 км ад Мінска. На З мяжуе з лесам, цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Брадзец і Капланцы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2008).

На паўд. ускраіне, на пясчанай пойме высокага левага берага р. Бярэзіна размешчаны курганны могільнік, за 1,5 км на Пн ад вёскі — другі могільнік, за 1 км на ПнЗ ад вёскі — паселішча, дзе знойдзены крамянёвыя прылады працы эпохі мезаліту, неаліту і бронзавага веку. Гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. 11 двароў, 126 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Шэмета, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска ў складзе маёнтка Брадзец, 145 жыхароў, уласнасць памешчыка Лукашэвіча. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у першы год навучалася 11 хлопчыкаў. У 1912 г. школа пераўтворана ў аднакласнае нар. вучылішча. Паводле перапісу 1897 г. 61 двор, 377 жыхароў, вятрак, хлебазапасны магазін, у Брадзецкай вол. У 1917 г. 89 гаспадарак, 527 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. — Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1921 г. арганізаваны гурток па ліквідацыі непісьменнасці, у 1928 г. с.-г. камуна «Уперад». У 1931 г. створаны калгас «Запаветы Леніна». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 50 вяскоўцаў. У баях каля вёскі ў 1941 г. загінулі 9 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле за 0,5 км на З ад вёскі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1944—57 гг. у складзе Сялібскага, потым зноў Брадзецкага с/с. У 1960 г. 383 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец), клуб, б-ка, магазін, спарт. пляцоўка, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. У 2003 г. 17 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 працяглых паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁВА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, цэнтр СВК «Прырэчча», за 16 км ад Беразіно, ад чыг. ст. на лініі Асіповічы—Градзянка, 116 км ад Мінска на р. Пянтрыца (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск. 109 гаспадарак, 302 жыхары (2008).

Па рэвізіі 1811 г. вёска Міхалёў у складзе маёнтка Божын Ігуменскага павета Мінскай губ., 41 жыхар мужчынскага полу. У 1844 г. пазначана пад наз-



вай Міхайлава, уласнасць С.Ясенскага. Паводле перапісу 1897 г. Міхалёва, 26 гаспадарак, 164 жыхары, вадзяны млын, у Брадзецкай вол. У 1916 г. 41 двор, 234 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Перавозаўскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1934 г. створаны калгас «Парыжская камуна». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, большая частка вёскі была спалена. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Багушэвіцкім с/с. У 1957 г. на р. Пятрыца пабудаваны вадзяны млын. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. цэнтр калгаса імя XXII з'езда КПСС, у вёсцы дзейнічалі сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад (з 1985 г.), магазін. У 2003 г. 312 жыхароў.

**МІХЕЕВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 130 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Брусята (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дзмітравічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 28 гаспадарак, 41 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1670 г. вёска, 5 дымоў, у Барысаўскім старастве Забаброўскай вол. Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1800 г. 20 двароў, 161 жыхар, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. 41 двор, 407 жыхароў, у Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 54 двары, 340 жыхароў. У 1917 г. 65 двароў, 381 жыхар. З 20.8. 1924 г. ў Дзмітравіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 73 двары, 399 жыхароў, дзейнічала смалакурня. У 1929 г. створаны калгас «Змагар». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 72 двары, 379 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—44 гг. спалілі 70 гаспадарак, загубілі 6 жыхароў. Вызвалена 1.7. 1944 г. і пасля вайны адбудавана. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 33 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 326 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Дзмітравічы» (цэнтр — в. Дзмітравічы), клуб, б-ка, магазін. У 2003 г. 44 гаспадаркі, 60 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якая праходзіць уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МУРАВА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 136 км ад Мінска, на У цячэ р.Бярэзіна (прыток р. Днепр), на ПнЗ і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Калюжыца і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

На беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Замак (яно ж Пагулянка) размешчана гарадзішча 7 ст. да н.э. — 5. ст. н.э. і 6—8 ст. н.э., за 1 км на Пд ад вёскі — курган. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1800 г. вёска Мураўка, 6 гаспадарак, 26 жыхароў, уласнасць М.Валовіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Па інвентарах 1845 г. Мураўка ў маёмасці графіні Ваньковіч, 204 жыхары. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Калюжаны, уладанне К.Ваньковіча. У 1870 г. вёска ў Белічанскай вол., 42 жыхары мужчынскага полу. Побач быў аднайменны маёнтак памешчыка Нядзведскага. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 28 двароў, 213 жыхароў, у фальварку 5 двароў, 20 жыхароў, у маёнтку 2 двары, 14 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 33 двары, 243 жыхары, у фальварку 5 два-





роў, 37 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 37 двароў, 248 жыхароў, у фальварку 11 двароў, 88 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Чарневіцкім с/с Барысаўскага р-на, потым з 2.10.1928 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на, Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1933 г. разам з в. Снуя ўвайшла ў калгас імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1954 г. далучана да Чарневіцкага с/с Барысаўскага р-на, з 1960 г. ва Ушанскім с/с Бярэзінскага р-на. У 1960 г. 188 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» ( цэнтр — в.Котава), магазін. У 2003 г. 12 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 вуліц: працяглай дугападобнай, арыентаванай амаль мерыдыянальна, прамалінейнай кароткай і злучанай з імі крывалінейнай кароткай вуліцы, трасіраванай з ПдЗ на ПдУ. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСЕЛЛЕ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 32 км на Пн ад Беразіно, 47 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 132 км ад Мінска, на р. Манча (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Арэшкавічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 36 гаспадарак, 62 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 24 жыхары, у Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. У 1870 г. 24 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 127 жыхароў. У 1908 г. 25 двароў, 112 жыхароў. У 1912 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1917 г. 21 двор, 132 жыхары. У 1920 г. 22 двары, 123 жыхары З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 46 двароў, 240 жыхароў. У 1930-я г. створаны калгас «Бальшавік». З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 13 вяскоўцаў. У 1960 г. 324 жыхары. У 1965 г. з Аздзяціцкага с/с Барысаўскага р-на перададзена ў склад Дзмітравіцкага с/с Бярэзінскага р-на. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Арэшкавічы), магазін. У 2003 г. 43 гаспадаркі, 77 жыхароў. Рака падзяляе вёску на паўн. (кароткая крывалінейная вуліца ўздоўж ракі) і паўд. (ад працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы адыходзіць другая кароткая прамалінейная вуліца) часткі, якія злучаны паміж сабой дарогай з мостам цераз раку. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 6 км на У ад Беразіно, 40 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 106 км ад Мінска, праз вёску цячэ безымянны ручай (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 110 гаспадарак, 245 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. в. Наваполкі ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. Навасёлкі, 26 двароў, 197 жыхароў, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча. У 1811 г. 108 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К.Маршалавай. Па інвентарах 1845 г . ў Клубчанскай эканоміі, 181 жыхар, у маёмасці графіні Ванькові̇ч. У 1858 г. ў складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1884 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 56 двароў, 361 жыхар, царква на могілках, карчма, заезны дом. У 1917 г. 71 двор, 464 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У часы польска-сав. вайны ў 1920 г. вёска была спалена. У канцы 1920 г. на базе земскай была адкрыта



4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 19.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 87 двароў, 456 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ленінскія дні». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 39 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 735 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Ленінскія дні» (цэнтр — в. Лешніца). У 2003 г. 133 гаспадаркі, 274 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, ад цэнтра якой на З адыходзіць кароткая прамалінейная, на У непадалёку ад гал. яшчэ адна кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу; мураваныя аднапавярховыя дамы размешчаны ў зах. частцы вёскі.

**НАЛАЗЫ** — вёска ў Сялібскім с/с, за 28 км на Пд ад Беразіно, 28 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы—Магілёў, 128 км ад Мінска, на ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, р. Жалінка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Брадзец і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1885 г. засценак у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба пры ўрочышчы, 7 двароў, 64 жыхары. У 1917 г. хутар, 14 двароў, 92 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1934 г. ў вёсцы створаны калгас «Чырвоныя Налазы». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. 157 жыхароў. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец), ферма буйной рагатай жывёлы. У 2003 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЕГАНІЧЫ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Беразіно, 40 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 93 км ад Мінска, на р. Паплаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 58 гаспадарак, 114 жыхароў (2008).

За 1,5 км на Пд ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 14 ст. Першае ўпамінанне адносіцца да перыяду ВКЛ падчас праўлення кн. Вітаўта [1392—1431]. Тады пан Нарушэвіч «выслужыў» 2 сялы Свіслацкай вол. — Божына і Неганічы. У пач. 15 ст. асабістае ўладанне роду Валовічаў, у складзе сядзібы Божына. З 1670 г. сядзіба ва ўладанні сына Марціна Валовіча Данііла, абольскага старосты. У сядзібу ўваходзілі сёлы Божына, Неганічы, Паложына і слабада Марціянаўка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Агінскага. У 1800 г. сяло (33 двары, 238 жыхароў), фальварак, карчма, млын, уласнасць памешчыка М.Валовіча. Акрамя земляробства мясц. сяляне займаліся вырабам драўлянага посуду на продаж, наймаліся да купцоў сплаўляць лес па Бярэзіне. У 1858 г. 300 жыхароў, у складзе маёнтка Брадзец, уласнасць паме-

шчыка Лукашэвіча. У 1870 г. ў Юравіцкай (з пач. 1910-х г. Хутарской) вол. Паводле перапісу 1897 г. сяло Неганічы (яно ж Ляхаўка), 94 двары, 563 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква на могілках пры паштовай дарозе з Беразіно ў Ігумен. Побач аднайменны маёнтак, у якім 4 двары, 53 жыхары. У 1908 г. ў сяле 102 двары, 759 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 13 жыхароў. У 1912 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. У 1893 г. на сродкі жыхароў пабудавана драўляная Раства-Багародзіцкая царква (у 1930-я г. пераабсталявана пад клуб). У 1917 г. ў сяле 114 двароў 730 жыхароў, у маёнтку 45 жыхароў. У будынку карчмы, пабудаваным у 1914 г., пасля рэвалюцыі адкрыта школа. З 20.8.1924 г. цэнтр Неганіцкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920-я г. арганізаваны камсамольскі калгас-камуна (у 1933 г. пераўтвораны ў калгас імя XVII партз'езда). У 1926 г. ў вёсцы 125 двароў, 617 жыхароў, у маёнтку 6 двароў, 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну на франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 36 вяскоўцаў (па інш. звестках 23 жыхары загінулі на франтах і прапалі без вестак, 36 у тыле). У час адступлення ў 1944 г. акупанты спалілі большую ч. вёскі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. вёска ў Паплаўскім с/с. У 1950-я г. калгас перайменаваны ў «Паплавы» і цэнтр гаспадаркі перанесены ў аднайменную вёску. У 1960 г. 411 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 70 гаспадарак, 133 жыхары. Дзейнічаюць школа, магазін (пабудаваны ў 1967 г.). Планіровачна складаецца з 2 вуліц, гал. з якіх крывалінейная, працяглая, арыентавана з ПдУ на ПнЗ, перакрыжавана ракой і паўн.-зах. частка яе праходзіць уздоўж ракі. Другая вуліца адыходзіць на З ад галоўнай і трасіравана паралельна да другога боку ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЕСЦЯРОЎКА** – вёска ў Мачаскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Беразіно, 33 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў–Асіповічы, 117 км ад Мінска, на р. Клява (прыток р.Бярэзіна), на ПдУ і ПнЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Клява, на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Любушаны і далей па шашы Мінск–Магілёў. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

У 1848 г. вёска ў Любушанскай эканоміі Ігуменскага павета Мінскай губ., 41 жыхар. У 1858 г. ў складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага, 56 жыхароў. У 1870 г. ў Пагосцкай вол., 29 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 20 гаспадарак, 163 жыхары. У 1908 г. 26 гаспадарак, 168 жыхароў. У 1917 г. 28 гаспадарак, 187 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 31 двор, 190 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 149 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Любушанскі», магазін. У 2003 г. 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, больш працяглая з якіх прамалінейная, шыротнай арыентацыі, ад усх. канца якой адыходзіць кароткая дугападобная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** – вёска ў Сялібскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Асіповічы–Магілёў, 136 км ад Мінска. На У



цячэ р. Нясята (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Брадзец і далей па шашы Мінск—Магілёў. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

Узнікла ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акругі. У 1927 г. вёска, разам з в. Воступ увайшла ў калгас «Новае жыццё». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 49 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец). У 2003 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ КНЯЗЕЎКА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Беразіно, 37 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 107 км ад Мінска, на Пн цячэ р.Уша (прыток р. Бярэзіна), праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р.Уша. На ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Баравікі і далей па шашы Беразіно—Барысаў. 21 гаспадарка, 38 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. аколіца Новая Князеўка ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 35 двароў, 257 жыхароў. У 1908 г. вёска, 42 двары, 280 жыхароў. У 1917 г. 41 двор, 247 жыхароў праваслаўнага веравызнання. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 50 двароў, 248 жыхароў. У 1931 г. разам з в. Старая Князеўка ўвайшла ў калгас імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ў школе паміж Старой і Новай Князеўкамі адбыўся сход, на якім ставілася пытанне аб арганізацыі партыз. руху ў тыле ворага. 31.10.1943 г. ням. самалёты запальнымі бомбамі дашчэнту спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 27 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ва Ушанскім с/с. У 1960 г. 165 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 30 гаспадарак, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ МАШЧАНІЦА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 122 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Уша (прыток р. Бярэзіна), на ПнУ праходзіць меліярацыйны канал Машчаніца, злучаны з р. Уша. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Узнікла ў выніку падзелу вёскі Машчаніца на дзве: Старая Машчаніца і Новая Машчаніца. У 1917 г. ў вёсцы Новая Машчаніца 11 двароў, 86 жыхароў, уваходзіла ў Белічанскую воласць Ігуменскага павета Мінскай губ. З 20.8. 1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1931 г. ўвайшла ў створаны калгас «Пралетарская перамога». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954. ва Ушанскім с/с. У 1960 г. 66 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 55 гаспадарак, 127 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.





**НОВІНЫ** — вёска ў Паплаўскім с/с, цэнтр СВК «Новіны», за 15 км на ПдЗ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 87 км ад Мінска, на р. Бусль (прыток р. Уса). На дарозе Багушэвічы—Якшыцы—Чыжаха. 81 гаспадарка, 216 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Новіна (яна ж Шчалгунова) ва ўладанні Філіпава, здадзена ў арэнду, 30 двароў, 210 жыхароў, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1898—99 гг. памешчык Філіпаў прадаў надзел зямлі на 400 га разам з лесам і кустоўем. Першымі жыхарамі вёскі былі перасяленцы з вёсак Марціянаўка і Старая Падваложка. У 1906 г. адкрыта Новінскае земскае вучылішча, а ў 1910 г. была пабудавана новая школа, якая праіснавала да 1941 г. У 1917 г. вёска, 32 двары, 208 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 40 двароў, 218 жыхароў. У 1928 г. створана с.-г. арцель-камуна. На яе аснове ў 1930 г. створаны калгас «Новы сад». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы ў 1943 г. была схоплена і расстраляна партыз. сувязная М.М.Сітнік (пахавана на вясковых могілках). На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. ў калгасе імя Мічурына, 172 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 92 гаспадаркі, 235 жыхароў, клуб і б-ка (з 1963 г.), піларама, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. банка, АТС, аддз. сувязі. Планіроўка П-падобная, 2 працяглыя прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ (адна з іх — адрэзак дарогі Котава—Багушэвічы), перакрыжаваны перпендыкулярна на ПнЗ кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудаваны двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На перакрыжаванні вуліц узведзены 3 двухпавярховыя 8-кватэрныя дамы, мураванае будаўніцтва таксама вядзецца на паўн.-зах. і паўн. ускраінах вёскі. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

**НОВЫЯ ПРЫБОРКІ** — вёска ў Мачаскім с/с, за 27 км на У ад Беразіно, 48 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 127 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Волы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Узнікла ў выніку падзелу ў пач. 20 ст. сяла Прыборкі ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Сяло было вядома з 16 ст. і пазначана на картах ВКЛ. У 1908 г. ў в. Новыя Прыборкі 25 двароў, 173 жыхары У 1917 г. 27 двароў, 197 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ., потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У 2-й пал. 1920 г. адкрыта 4-гадовая школа (размяшчалася ў наёмным памяшканні), якую наведвалі дзеці з вёсак Новыя Прыборкі, Старыя Прыборкі, Кавалёўка. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 31 двор, 178 жыхароў. У 1930 г. быў створаны калгас «Герой рэвалюцыі». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 18 жыхароў в. Прыборкі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 110 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СВК) «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск), дзейнічалі 8-гадовая школа і магазін. У 2003 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, якая праходзіць уздоўж ракі. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна.



**ПАГОСТ** — вёска, цэнтр Пагосцкага с/с, за 10 км на У ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 110 км ад Мінска, на У цячэ р. Кляўіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў. 247 гаспадарак, 596 жыхароў (2008).

Упершыню пазначаны на картах ВКЛ 16 ст. ў складзе Любушанскай вол. Па прывілею караля польскага і вял. князя ВКЛ Яна Казіміра ў 1668 г. атрымаў статус мястэчка, які меў да 6.5. 1925 г. Падчас Паўн. вайны 1700—21 гг. 16—17.6.1708 г. шведскі кароль Карл XII прайшоў праз Пагост на Любушаны, спусташаючы гэтыя месцы. У 1721 г. сяло, 9 двароў, у Аршанскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1746 г. кароль Аўгуст III падцвердзіў прывілей, дадзены Янам Казімірам, аб названні Пагоста мястэчкам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 12.12.1796 г. мястэчка ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1799 г. ўласнасць Л.Тышкевіча. У 1800 г. 132 двары, 691 жыхар, драўляная уніяцкая царква, плябанія, карчма, млын. У 1816 г. (па інш. звестках у 1810) на сродкі сялян пабудавана драўляная царква. У 1845 г. ў маёмасці графіні Ваньковіч, у мястэчку 403 жыхары. У 1848 г. 74 двары. У 1858 г. 444 жыхары, уласнасць графа Патоцкага. У 1863 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучалася 47 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі). У 1866 г. ў маёнтку 120 двароў, 775 жыхароў, вадзяны млын, царква, сінагога, малітоўная школа. У час эпідэміі халеры 1893 г. ў мястэчку хварэла 16 чалавек і 4 з іх памёрлі. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр Пагосцкай вол., 196 двароў, 1435 жыхароў, хлебазапасны магазін, 14 лавак, заезны і піцейны дамы, царква, 3 малітоўныя школы. У 1908 г. 229 двароў, 1605 жыхароў У 1914 г. адкрыта паштовае аддз. У вер. 1917 г. ў вёсках Пагосцкай вол. прайшлі выбары ўпаўнаважаных, якія павінны былі выбраць валасны рэв. к-т. 4.12. 1917 г. праведзены 1-ы валасны з'езд рабочых, сял. і салдацкіх дэпутатаў. У лютым—снеж. 1918 г. воласць акупіравана герм. войскамі. У 1918 г. арганізаваны Пагосцкі сельскі Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, адкрыты медыцынскі пункт. У 1920 г. пачала работу пач. школа, з 1922 г. 4-гадовая. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. Пагосцкая вол. уваходзіла ў склад Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у склад Ігуменскага павета БССР, які 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. 28.2.1920 г. польскія акупанты амаль поўнасцю спалілі вёску. 27.7. 1920 г. арганізаваны першы ў раёне камуністычны суботнік па аднаўленні будынка школы, якая часова размяшчалася ў будынку сінагогі, была адкрыта хата-чытальня. Створаны ў пач. 1924 г. саўгас «Пагост» меў 596,2 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. вёска — цэнтр сельсавета ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1924 г. працавалі 10 крам, 4 рамесніцкія майстэрні, сярод саматужнікаў было многа гарбароў. З 6.6.1925 г. сяло. У 1926 г. 248 двароў, 1203 жыхары. У 1920-я г. працавалі паштовае аддз., тэлеграф. У 1929 г. створаны калгас «Камунар», у які ўступілі 9 аднаасобных гаспадарак. У 1934 г. арганізавана Бярэзінская МТС. З 20.2.1938 г. вёска ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. школа атрымала новы будынак (першы выпуск адбыўся напярэдадні вайны), калгас «Камунар» быў удзельнікам усесаюзнай с.-г. выставы ў Маскве. У 1940 г. ў вёсцы меліся сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарная станцыя, аддз. сувязі, млын, калгасная электрастанцыя, клуб (перабудаваная царква), крамы, абутковая і швейная майстэрні, цырульня, грамадская лазня. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі за вызваленне вёскі ад акупантаў у 1944 г. за-

гінулі 133 сав. воіны, у ліку якіх байцы 1090-га стралк. палка 323-й стралк. дывізіі 35-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 58 вяскоўцаў, памяць пра якіх увекавечана скульптурай жынчыны ў жальбе, стэлай і плітой з імёнамі загінуўшых. У 1971 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск на ўшанаванне памяці 63 вучняў Пагосцкай школы, якія загінулі на франтах. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 930 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1979 г. адчыніў дзверы новы будынак сярэдняй школы (на 400 месцаў). 17.4.1990 г. на базе Пагосцкага вуч.-вытв. камбіната адкрыты філіял Бярэзінскага СПТВ-203. 24.12. 1990 г. саўгас «Камунар» пераўтвораны ў калгас. У студз. 1993 г. пабудаваны кансервавы цэх. У 2003 г. ў вёсцы 657 жыхароў, сельсавет, магазіны, інтэрнат, лясніцтва, сталовая, дзіцячы сад, грамадская лазня, школа, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, аддз. ААТ «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт. У аснову кампазіцыйна-планіровачнай структуры пакладзены 3 працяглыя крывалінейныя вуліцы, перакрыжаваныя паміж сабой. Галоўная — вуліца Юбілейная, амаль ад яе цэнтра дугой на Пн адыходзіць вуліца Вешаўская. У паўн. частцы гэтыя вуліцы перакрыжаваны працяглай крывалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі. У паўд. частцы вуліцу Юбілейную перакрыжоўваюць пад прямым вуглом 5 прамалінейных вуліц (Аўтазаводская, Першамайская, Школьная, Партызанская, Зарэчная). Адм.-грамадскі цэнтр вёскі не мае выразнай кампазіцыі і раскіданы сярод жылой забудовы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, вядзецца мураванае будаўніцтва.

**ПАГУЛЯНКА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 24 км на З ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 96 км ад Мінска, на ПнЗ цячэ р. Беліца (прыток р. Уша). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Камісарскі Сад, Малыя Лагі, Паплаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 53 жыхары, уладанне памешчыка Барсукова. У 1870 г. ў Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 103 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1917 г. 17 двароў, 121 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 24 двары, 114 жыхароў. У 1930 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса «Спартак». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ў калгасе імя Калініна. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 79 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). У 2003 г. 5 гаспадарак, 18 жыхароў. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДВАЛОЖКА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 88 км ад Мінска, на З цячэ р. Бусль (прыток р. Уса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новая Марціянаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 36 гаспадарак, 90 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 3 гаспадаркі, 21 жыхар, уласнасць памешчыка К.Завішы, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 29 жыхароў, у складзе маёнтка Багушэвічы, уласнасць Свентаржыцка-



га. У 1870 г. 13 жыхароў мужчынскага полу, у Юравіцкай (з пачатку 1910-х г. Хутарской) вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 75 жыхароў, у засценку Новая Падваложка 13 двароў, 197 жыхароў. У 1917 г. ў в. Падваложка Старая 12 двароў, 92 жыхары, у в. Падваложка Новая 23 двары, 159 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 2.10.1928 г. вёска ў Багушэвіцкім с/с. У 1928 г. створана с.-г. арцель, у 1932 г. вёскі Новая і Старая Падваложка ўвайшлі ў склад калгаса імя Горкага. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія часткова спалілі вёску. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 16 вяскоўцаў, памяць аб якіх увекавечана ў 1966 г. скульптурай воіна з вянком. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ў Неганіцкім, з 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. ў в. Новая Падваложка 126 жыхароў, у в. Старая Падваложка 67 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. вёскі аб'яднаны ў адну — Падваложка. У 1980 г. ў складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Навіны), клуб, школа, б-ка. У 2003 г. 46 гаспадарак, 89 жыхароў. Радзіма бел. пісьменніка Я.Цвіка. Планіровачна складаецца з 2 вуліц: паўн. — прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (былая в. Новая Падваложка), і паўд. — прамалінейная мерыдыяльнай арыентацыі (былая в. Старая Падваложка). Забудаваны пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДВОСАВА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 35 км на ПдУ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 135 км ад Мінска, на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дулебка (прыток р.Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Любушаны і далей па шашы Мінск—Магілёў. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома ў 20 ст. У 1926 г. хутар, 1 двор, 8 жыхароў. У Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1931 г. разам з вёскамі Дулебы 1, Дашніца ўвайшла ў калгас «КІМ». З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. 74 жыхары. У 1980 г. ў саўгасе «Любушанскі». У 2003 г. 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДКАМЕНЬ** — вёска ў Сялібскім с/с, за 32 км на Пд ад Беразіно, 24 км ад чыг. ст. Насята на лініі Асіповічы—Магілёў, 132 км ад Мінска. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жалінка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Брадзец і далей па шашы Мінск—Магілёў. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1885 г. фальварак у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак Камень (іншая назва — Падкамень), 3 двары, 26 жыхароў. У 1917 г. засценак, 11 двароў, 87 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай акругі, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акругі. У 1930 г. разам з вёскамі Стары Койцін, Слабада, Масцішча ўвайшла ў калгас імя Ільіча. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 20 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 161 жыхар. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бя-





рэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец), вытв. брыгада калгаса і ферма буйной рагатай жывёлы. У 2003 г. 18 гаспадарак, 22 жыхары. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц, 2 з якіх паралельныя паміж сабой і арыентаваны з ПдЗ на ПнУ. Забудаваны аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — адасоблены ўчастак забудовы.

**ПАЛОЖЫНА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 3,5 км на З ад Беразіно, 51 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 102 км ад Мінска, на р. Палоза (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Трасцянка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 87 гаспадарак, 189 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1560 г. маёнтак, дараваны каралём Жыгімонтам I Солтану. У 1670 г. ў складзе маёнтка Божына. У 1743 г. сяло, уласнасць царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 2 вёскі: Паложын (на правым беразе р. Палоза), 5 двароў, 37 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Валовіча, і Паложына (на правым беразе р. Бярэзіна пры ўпадзенні яе ў р. Палоза), 4 двары, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. памешчыцы Маршалкавай належалі 29 душ мужчынскага полу. Па інвентарах 1845 г. ў складзе маёнтка Беразіно, у маёмасці графіні Ванькові̇ч, 70 сял. душ. У 1858 г. вёска, 98 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць памешчыка М.Патоцкага. У 1870 г. вёска і маёнтак у Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 2 вёскі: першая — 31 двор, 232 жыхары, царква на могілках, у Бярэзінскім сельскім т-ве; другая — 5 двароў, 45 жыхароў, царква на могілках, у Трасцянскім сельскім т-ве; таксама фальварак (1 двор, 11 жыхароў), сядзіба (1 двор, 7 жыхароў), другая сядзіба (1 двор, 9 жыхароў), аколіца (5 двароў, 29 жыхароў). У 1908 г. ў адной вёсцы было 30 двароў, 205 жыхароў, у другой — 13 двароў, 101 жыхар, у маёнтку — 5 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. ў в. Паложын Вялікі 42 двары, 298 жыхароў, у в. Паложын Малы 13 двароў, 84 жыхары. У 1919 г. пачала працаваць пач. школа. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце. У 1920 г. вёска спалена польскімі вайскоўцамі. У канцы 1920 г. на базе земскай створана 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. вёска, 70 двароў, 378 жыхароў; побач аднайменны пасёлак, 6 двароў, 21 жыхар. У 1929 г. створаны калгас «Зорка». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 36 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. 5 дробных калгасаў, у т. л. і мясц., былі аб'яднаны ў адзін — імя Дзяржынскага. У 1952 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую, пазней 8-гадовая. У 1960 г. 476 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1964 г. пабудавана з цэглы новая школа (на 182 навучэнцы). У 1980-я г. цэнтр калгаса «Сцяг кастрычніка». У 2003 г. 102 гаспадаркі, 196 жыхароў, школа-сад, магазін, спарт. пляцоўка. Планіровачна складаецца з паўн. (прамалінейная вуліца з завулкамі) і паўд. (Г-падобная вуліца) частак. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАПЛАВЫ** — вёска, цэнтр Паплаўскага с/с і СПК «Паплавы», за 9 км на ПдЗ ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 91 км ад Мінска, на р. Паплаўка (прыток р. Бярэзіна). На Пн праходзяць



меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Паплаўка. Транспратныя сувязі па шашы Мінск–Магілёў. 227 гаспадарак, 554 жыхары (2008).

На паўд. ускраіне вёскі, уздоўж дарогі на в. Неганічы, размешчаны курганны могільнік (3 насыпы, раней было больш за 20), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст., калі ўваходзіла ў маёнтак Божына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. в. Паплаво ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 19 двароў, 137 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Валовіча. У 1811 г. 81 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы Маршалавай. У 1848 г. 20 двароў, 206 жыхароў, уладанне памешчыцы Ваньковічавай у Нова-Астрожскай эканоміі. У 1858 г. 205 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1862 г. на сродкі памешчыцы Е.Антонавай пабудавана Міхайлаўская царква. У 1870 г. ў Юравіцкай (з пач. 1910-х г. Хутарской) вол. У 1884 г. адкрыта перасоўная школа, у 1890 г. школа граматы, у якой тады навучалася 11 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы Паплавы 59 двароў, 372 жыхары, царква на могілках, хлебазапасны магазін, у маёнтку Паплаў 4 двары, 25 жыхароў. У 1908 г. 75 двароў, 497 жыхароў, у маёнтку 25 жыхароў. У чэрв. 1910 г. пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. У 1916 г. адкрылася 1-класнае нар. вучылішча. У 1917 г. ў вёсцы Паплавы 1 75 двароў, 497 жыхароў, у маёнтку Паплавы 2 5 двароў, 35 жыхароў. У 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 20.8. 1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.2. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік» (першы старшыня М.І.Шашанок). У 1932 г. адкрыта 8-гадовая школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1938 г. школа стала сярэдняй, першы выпуск 10-га класа (21 чал.) адбыўся ў чэрв. 1941 г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры вызваленні вёскі загінулі 61 воін і партызан, у іх ліку воіны 918-га стралк. палка 250-й стралк. дывізіі 35-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту, якія пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 34 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7.1954 г. Неганіцкі с/с перайменаваны ў Паплаўскі і вёска стала яго цэнтрам. 1956 г. — пачатак электрыфікацыі вёскі і калгаса імя Хрушчова. У канцы 1950-х г. пабудаваны клуб і б-ка. У

*Школа (былы сядзібны дом) у в. Паплавы.*

*Бярозава-ліпавы пасаж на шляху да былога панскага маёнтка ў в. Паплавы.*








1960 г. 486 жыхароў. У 1962 г. арганізаваны калгас «Паплавы» (з 2003 г. СВК). З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. да вёскі далучана суседняя в. Чырвоная Зара, у склад якой у 1960 г. ўвайшла в. Халопы. У 2003 г. 254 гаспадаркі, 625 жыхароў, філіял вучылішча механізатараў (СПТУ-23), аддз. сувязі, магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт, Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад з яслямі, вучэбна-вытв. камбінат, фельч.-акушэрскі пункт. Шаша падзяляе вёску на паўн. (3 крывалінейныя працяглыя вуліцы, якія адыходзяць перпендыкулярна ад шашы на ПнЗ) і паўд. (крывалінейная вуліца, якая адыходзіць перпендыкулярна ад шашы на ПдУ — былая в. Чырвоная Зара; крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПнУ, ад якой адыходзяць яшчэ 2 кароткія вуліцы — былая в. Халопы) часткі. Адм.-грамадскі цэнтр размешчаны ўздоўж шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўскраінах забудавана мураванымі 1—3-павярховымі дамамі.

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 21 км на З ад Беразіно, 49 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 93 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Лагавы (прыток р. Смалярня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Смалярня,Чырвоная Паляна і далей па шашы Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 41 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. сяло, 65 двароў, 329 жыхароў і памешчыцкая сядзіба з 17 жыхарамі, уласнасць Равінскага. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 32 жыхары. У 1930 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Калініна. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). У 2003 г. 15 гаспадарак, 45 жыхароў. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод драўлянай забудовы ўзведзены 1- і 2-кватэрныя мураваныя дамы.

**ПЕРАВОЗ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 33 км на Пд ад Беразіно, 23 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 133 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 23 гаспадаркі, 50 жыхароў (2008).

У 1858 г. в. Перавоз, 75 жыхароў, уладанне памешчыка Л.Ваньковіча. У 1870 г. 36 жыхароў, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 162 жыхары. У 1917 г. 31 двор, 197 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас «Чырвоны Перавоз». З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі. З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 32 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ва ўзбуйненым калгасе «Гвардзеец». У 1960 г. ў в. Новы Перавоз 46 жыхароў, у в. Стары Перавоз 174 жыхары. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Якшыцы), ферма буйной рагатай жывёлы і магазін. У 2003 г. 27 гаспадарак, 52 жыхары. З 2008 г. ў Багушэвіцкім с/с. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі. На ПдУ ад гэ-



тай вуліцы адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. На ПдУ, каля ракі, адасоблены ўчастак забудовы. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛІСІЧЫНА** – вёска ў Сялібскім с/с, за 39 км на ПдУ ад Беразіно, 21 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Асіповічы–Магілёў, 139 км ад Мінска. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясцовай дарозе праз вёскі Брадзец, Капланцы, Лешніца і далей па шашы Мінск–Магілёў. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У 1885 г. вёска ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. Плісічын ( яна ж Слабада–Пушча), 9 гаспадарак, 62 жыхары. У 1917 г. 11 двароў, 87 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым Ігуменскага (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскага) павета БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 5 вяскоўцаў. З. 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1944–51 гг. уваходзіла ў склад Сялібскага, потым зноў Брадзецкага с/с. Адноўлены даваенны калгас увайшоў ў 1952 г. ў склад калгаса «Ільіч». У 1960 г. 67 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр – в. Брадзец). У 2003 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДОК** – вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 36 км на Пн ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша–Мінск, 136 км ад Мінска, на У цячэ р. Манча (прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск–Магілёў. 26 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

У 1870 г. в. Пруд Арэшкаўскі ў Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 25 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. в. Прудок (яна ж Пруд Арэшкаўскі), 18 двароў, 144 жыхары, і аднайменны хутар, 3 гаспадаркі, 21 жыхар. У 1908 г. 20 двароў, 127 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 23 гаспадаркі, 152 жыхары, на хутары 5 гаспадарак, 34 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Аздзяціцкім с/с Барысаўскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 29 двароў, 164 жыхары. У 1930-я г. створаны калгас імя Молатава. З 20.2.1938 г. ў Мінскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў. У 1960 г. 239 жыхароў. У 1965 г. з Аздзяціцкага с/с Барысаўскага р-на перададзена ў склад Дзмітравіцкага с/с Бярэзінскага р-на. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Бальшавік» (цэнтр – в. Арэшкавічы), магазін. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц, якія разыходзяцца пад вострым вуглом на ПнЗ і ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУЖАНКА** – вёска ў Бярэзінскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Мінск–Орша, 190 км ад Мінска, на р. Жорнаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Беразіно–Барысаў. 28 гаспадарак, 45 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 81 жыхар, уласнасць памешчыка С.Ваньковіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870 г. ў Белічанскай вол., 45 жыхароў мужчынскага полу. У 1885 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 13 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 216 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін.

У 1908 г. 33 двары, 270 жыхароў, у 1917 г. 42 двары, 280 жыхароў праваслаўнага веравызнання. У 1920 г. адкрыта пачатковая школа. З 20.8.1924 г. вёска ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 45 двароў, 223 жыхары. У 1932 г. створаны калгас «Новы ўраджай». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. У баях каля вёскі загінулі 16 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. на аснове двух сумежных калгасаў створаны адзіны — «Сталінскі шлях». З 1951 г. ў Бярэзінскім с/с. У 1957—58 гг. на базе Пружанскай і Альхоўскай пачатковых школ адкрылася 7-гадовая школа, якая ў 1960 г. была пераўтворана ў 8-гадовую. У 1960 г. 235 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка» (цэнтр — в. Паложына). У 2003 г. 36 гаспадарак, 49 жыхароў, магазін. Планіровачна складаецца з 2, працяглай і кароткай, паралельных паміж сабой, прамалінейных вуліц. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫБЯРЭЖНАЕ** (да 1969 г. Блевачы) — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 8 км на Пн ад Беразіно, 48 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 108 км ад Мінска, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Жорнаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 30 гаспадарак, 50 жыхароў (2008).

У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок размешчана гарадзішча, дзе знойдзена страж. кераміка. Каля паўн.-зах. боку гарадзішча размешчана старажытнае селішча. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1885 г. засценак Блевачы, у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Блевач, 3 двары, 23 жыхары і аднайменны цагельны з-д, 1 двор, 12 жыхароў. У 1908 г. засценак, 3 двары, 16 жыхароў У 1917 г. 3 двары, 18 жыхароў, усе рымска-каталіцкага веравызнання. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 5 двароў, 26 жыхароў. У 1930 г. разам з в. Лысуха ўвайшла ў калгас імя Чапаева. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 97 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1969 г. перайменавана ў Прыбярэжнае, адначасова да яе далучана в. Лысуха. У 1980 г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка» (цэнтр — в. Паложына). У 2003 г. 36 гаспадарак, 58 жыхароў. Планіровачна складаецца з паўн. (працяглая дугападобная вуліца, былая в. Лысуха) і паўд. (З кароткія адасобленыя крывалінейныя вуліцы з завулкамі, злучаныя прасёлачнай дарогай, былая в. Блевачы) частак. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫСАДЫ** — вёска ў Бярэзінскім с/с , за 14 км на ПнЗ ад Беразіно, 51 км ад чыг. ст. Нова-Барысаў на лініі Мінск—Орша, 114 км ад Мінска, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Беразіно—Барысаў. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Вядомы з 20 ст. У 1926 г. пасёлак, 23 двары, 116 жыхароў, у Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг



БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1951 г. перададзена з Белічанскага ў Бярэзінскі с/с. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка» (цэнтр — в. Паложына). У 2003 г. 16 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з прарывам у цэнтры. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫЦЕРПА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 41 км на Пд ад Беразіно, 15 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 141 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), а на Пд яе прыток р. Каменка. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 16 двароў, 126 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1-й пал. 19 ст. уладанне Ваньковічаў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Прынцерка, 28 двароў, 163 жыхары, кузня, вадзяны млын, карчма, у Якшыцкай вол. У 1917 г. 33 двары, 192 жыхары. З 20.8. 1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. У 1929 г. створаны калгас «Прасвет». З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 8 вяскоўцаў. У 1960 г. 142 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Якшыцы), фермы буйной рагатай жывёлы і авечкагадоўчая. У 2003 г. 15 гаспадарак, 17 жыхароў. З 2008 г. ў Багушэвіцкім с/с. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай амаль мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПУЦЬКАВА** — вёска ў Сялібскім с/с, за 48 км на Пд ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Нясята (на лініі Асіповічы—Магілёў), 148 км ад Мінска, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сяліба і далей па шашы Мінск—Магілёў. 29 гаспадарак, 74 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 25 гаспадарак, драўляная уніяцкая капліца, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Шэмета, а пазней Г.Паўлікоўскага. Паводле перапісу 1897 г. ў Якшыцкай вол., у вёсцы 51 двор, 323 жыхары, кузня, хлебазапасны магазін. Побач сядзіба ва ўладанні Паўлікоўскай, 7 гаспадарак, 31 жыхар. У 1908 г. ў вёсцы 95 гаспадарак, 371 жыхар, у маёнтку 30 жыхароў. У 1912 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў вёсцы 74 двары, 490 жыхароў, у маёнтку 109 жыхароў. У 1920 г. на базе ранейшай адкрыта пач. школа. З 20.8.1924 г. ў Сялібскім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. З 25.6.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. У 1931 арганізаваны калгас «Усход». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 46 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 161 жыхар. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў калгасе імя Ільіча (цэнтр — в. Сядзіба), магазін. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 85 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЧЭЛІНСК** — вёска ў Мачаскім с/с, за 24 км на У ад Беразіно, 53 км ад чыг. ст. Суша на лініі Магілёў—Асіповічы, 124 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старыя Прыборкі і далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 32 жыхары. У 1917 г. 1 двор, 13 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 51 жыхар. У 1929 г. разам з вёскамі Гужык, Хутар, Лосеўка аб'ядналася ў калгас «Новы свет». У вёсцы дзейнічала пачатковая школа (спалена карнікамі ў 1944 г.). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 77 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск). У 2003 г. 10 гаспадарак, 15 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУБЕЖ** — вёска ў Мачаскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 123 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Любушаны і далей па шашы Мінск— Магілёў. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

Па інвентарах 1848 г. вядома як вёска ў Любушанскай эканоміі, 22 жыхары. Паводле перапісу 1897 г сядзіба ў Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 2 двары, 10 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У 1918—21 гг. была пабудавана пач. школа (зараз у будынку магазін). З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 27 двароў, 137 жыхароў. У 1929 г. створаны калгас імя Крупскай. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1941 г. 44 двары. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 149 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Любушанскі», магазін. У 2003 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУДЗЕНКА** — вёска ў Капланецкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 116 км ад Мінска, на Пд і У меліярацыйны канал, злучаны з р. Клява, на З р. Крапівенка (прытокі р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Клубча і далей па шашы Мінск—Магілёў. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

Утворана ў 1890 г. У 1908 г. засценак у Пагосцкай вобл. Ігуменскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 111 жыхароў. У 1917 г. вёска, 19 двароў, 142 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім р-не Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 2 двары, 157 жыхароў. У 1931 г. створаны калгас «Трактар», у 1932 г. адкрылася пачатковая школа. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках у 2 брацкіх магілах пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. разам з вёскамі Вязькуцін 1, Валоўніца, Уюноўка, Бя-



рэзніца ўвайшла ў калгас «Вольная праца» (з цэнтрам у в. Вязькуцін 1). У 1960 г. 189 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса (з 2003 г. — СПК) «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка). Дзейнічалі ферма, установка па перапрацоўцы кармоў. У 2003 г. 28 гаспадарак, 31 жыхар. Ад крываліней-най вуліцы адыходзіць другая амаль крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУДНЯ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Беразіно, 40 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 126 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Брусята (прыток р. Бярэзіна), на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бобр. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак у Барысаўскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 28 жыхароў, млын, сукнавальня, побач было радовішча жал. руды, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У 1885 г. засценак Рудня-Лучка ў Дзмітравіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. хутар Рудня, 4 двары, 28 жыхароў, вадзяны млын і хутар Лучкі-Рудня, 1 двор, 8 жыхароў. У 1908 г. 5 двароў, 34 жыхары. У 1916 г. 4 двары, 35 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Арэшкавіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 6 двароў, 32 жыхары. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. 43 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Дзмітравічы». У 2003 г. 4 двары, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай Г-падобнай вуліцы, большая частка якой праходзіць уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭГІСПОЛЛЕ** — былы пасёлак у Багушэвіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Беразіно, 22 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 107 км ад Мінска. На Пн цячэ р. Уса (прыток р. Бярэзіна), а праз пасёлак яе безыменны прыток. Побач праходзіць шаша Беразіно—Бабруйск.

У 1870 г. ў складзе маёнтка Якшычы памешчыка Сахарава, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1885 г. маёнтак Рагісполь. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак Рагісполь (ён жа Якшыцы) побач з в. Асмалоўка, 3 двары, 19 жыхароў, уладанне Сахаравых. У 1917 г. ў вёсцы 6 двароў, 63 жыхары. У 1920-я г. была створана 1-я брыгада калгаса «Перамога». З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1960 г. 66 жыхароў. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Якшыцы). Планіровачна складаўся з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САСНОВАЕ БАЛОТА** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 22 км на З ад Беразіно, 30 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 88 км ад Мінска, непадалёку ад вёскі праходзіць шаша Мінск—Магілёў. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

У 1885 г. сядзіба ў Юравіцкай (з пач. 1910-х г. Хутарской) вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 20 двароў, 152 жыхары. У 1908 г. ўрочышча, 12 двароў, 137 жыхароў. У 1917 г. хутар, 6 двароў, 45 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 32 двары, 157 жыхароў.





У 1930 г. арганізаваны калгас імя Папанава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. З 1953 г. ў складзе калгаса імя Мічурына. У 1960 г. 158 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 адасобленых крывалінейных кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВЯТЛІЦА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 1 км на ПдЗ ад Беразіно, 45 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 104 км ад Мінска, на р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 77 гаспадарак, 198 жыхароў (2008).

За 150 м на З ад вёскі размешчана паселішча эпохі неаліту, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. У 1858 г. вёска, 123 жыхары, у складзе маёнтка Беразіно Ігуменскага павета Мінскай губ., уласнасць М.Патоцкага. Паводле перапісу 1897 г. 42 двары, 267 жыхароў, у Пагосцкай вол. У 1917 г. 50 двароў, 306 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. Пагосцкая воласць уваходзіла ў склад Магілёўскага павета (Гомельскай губ. РСФСР), потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. У 1920 г. адкрыта 4-х гадовыя школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 63 двары, 342 жыхары. У 1936 г. створаны калгас «Сцяг Леніна». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 26 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 380 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка», б-ка і магазін (у былым школьным будынку). У 2003 г. 81 двор, 216 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы ўздоўж р. Бярэзіна. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Беразіно, 53 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Мінск—Орша, 112 км ад Мінска, праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Брусята (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Мінск—Магілёў. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 19 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска, 119 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., сядзіба, 8 гаспадарак, 53 жыхары. У 1908 г. засценак, 7 двароў, 47 жыхароў. У 1917 г. 5 двароў, 38 жыхароў, усе рымска-каталіцкага веравызнання. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 15 двароў, 95 жыхароў. У 1930 г. ўвайшла ў склад калгаса «Камінтэрн». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 73 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе саўгаса «Вешаўскі» (цэнтр — в. Вешаўка). У 2003 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Праз цэнтр больш працяглай з іх цячэ канал. Забудавана



двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 4 км на ПнУ ад Беразіно, 62 км ад чыг. ст. на лініі Орша—Мінск, 104 км ад Мінска, на правым беразе р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 63 гаспадаркі, 115 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. Слабада Бярэзінская, 12 двароў, 39 жыхароў, драўляная уніяцкая царква, карчма, вадзяны млын, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча. У 1811 г. вёска Слабада, 32 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы Маршалавай. Па інвентарах 1845 г. ў складзе маёнтка Беразіно, 50 жыхароў, у маёмасці графіні Ваньковіч. У 1858 г. 107 жыхароў, уласнасць М.Патоцкага. У 1870 г. ў Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 208 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца на могілках. У 1917 г. 68 гаспадарак, 391 жыхар. У 1920 г. на базе земскай была створана 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 75 двароў, 370 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1924 г. арганізавана здраўніца для хворых на туберкулёз. У 1931 г. створаны калгас «Рухавік». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г., пры вызваленні р-на, у тым ліку каля в. Слабада, вызначыўся П.Р.Кашчэеў, за што 24.3.1945 г. яму было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. На франтах загінулі 20 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1958 г. ўзведзены будынак пач. школы. У 1960 г. 475 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Ленінскія Дні». У 2003 г. 67 гаспадарак, 135 жыхароў, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, ад якой на З адыходзяць 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СМАЛЯРНЯ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 22 км на З ад Беразіно, 37 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 92 км ад Мінска, на Пд цячэ р. Смалярня (каналізаваная частка р. Жорнаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мікулічы і Чырвоная Паляна, далей па шашы Мінск—Магілёў. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

Вядома з 1920-х г. Пасля рэвалюцыі 1917 г. на месцы будучай вёскі была вял. смалакурня. У 1926 г. 4 двары, 27 жыхароў. З 1926 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Дзімітрава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 156 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 33 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СНУЯ** — вёска ва Ушанскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Беразіно, 34 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 130 км ад Мінска, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Замак і далей па шашы Ба-





рысаў—Беразіно. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1885 г. засценак у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. прыстань на р. Бярэзіна, 4 двары, 19 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 8 двароў, 49 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1933 г. разам з вёскамі Мурава і Замак увайшла ў калгас імя Кірава. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. вёска, 12 гаспадарак, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—44 гг. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 12 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1954 г. далучана да Чарневіцкага с/с Барысаўскага р-на, з 1960 г. ва Ушанскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» ( цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. Планіровачная структура хутарская. Драўляныя сялянскія сядзібы размешчаны ўздоўж ракі.

**СТАЙЧАНКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Беразіно, 51 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 125 км ад Мінска, на р. Клявіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне размешчаны курганны могільнік (7 насыпаў, раней было больш за 30), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 19 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Стайчынка ў Пагосцкай вол., 9 двароў, 73 жыхары. У 1908 г. ўрочышча, 4 двары, 27 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 33 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9. 1923 г. ў Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. вёска ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. ў засценку Стайчынка 1 — 9 двароў, 50 жыхароў, у засценку Стайчынка 2—3 двары, 20 жыхароў. У 1930 г. ўвайшла ў склад калгаса імя К.Маркса. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 180 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 11.3.1972 г. ў складзе Пагосцкага с/с. У 1980-я г. ў складзе падсобнай гаспадаркі Мінскага аўтазавода. У 2003 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ КНЯЗЕЎКА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 133 км ад Мінска, на Пд цячэ р. Уша (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. в. Князеўка, 5 гаспадарак, 42 жыхары, млын і фальварак з гасподскім домам, шляхецкая ўласнасць у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска і маёнтак, уласнасць памешчыка Э.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. ў Белічанскай вол., у в. Князеўка 22 двары, 127 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, у другой аднайменнай вёсцы ва ўладанні П.Ваньковіча 3 двары, 24 жыхары, вадзяны млын, крупарушка, побач у фальварку 4 двары, 10 жыхароў, смалакурны з-д. У 1908 г. в. Князеўка Старая, 33 гаспадаркі, 177 жыхароў і маёнтак, 1 двор, 4 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 33 гаспадаркі, 222 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаў-



скай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 33 гаспадаркі, 170 жыхароў. У 1931 г. разам з в. Новая Князеўка ўвайшла ў калгас імя Тэльмана. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 30 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1942—44 гг. спалілі 28 гаспадарак і загубілі 3 жыхары. Пасля вайны адноўлена. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ва Уманскім с/с. У 1960 г. 114 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 21 гаспадарка, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц. Ад паўн. канца кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі адыходзіць на З дугападобная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ МАШЧАНІЦА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Беразіно, 35 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 118 км ад Мінска, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Уша (прыток р. Бярэзіна). На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 108 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Машчаніца, 9 двароў, 81 жыхар, карчма, драўляная уніяцкая капліца, млын, шляхецкая ўласнасць у Ігуменскім павеце Мінскай губ. Згодна інвентароў 1848 г. ў маёнтку ва ўладанні Мяржынскага налічвалася 12 цяглых гаспадарак, 149 жыхароў, у выкарыстанні якіх знаходзіліся 34 валы, 21 карова, 45 свіней. У 1858 г. 155 жыхароў, уласнасць памешчыка Мяржынскага. У 1870 г. вёска і маёнтак у Белічанскай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы пры ваеннай дарозе з Беразіно ў Барысаў 59 гаспадарак, 337 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом, у маёнтку ва ўладанні А.Мяржынскага 2 двары, 8 жыхароў. У 1914 г. школа размяшчалася ў вясковай хаце. Да Кастр. рэвалюцыі працаваў невялікі цагельны з-д. У 1917 г. вёска Старая Машчаніца, 56 двароў, 319 жыхароў. У 1918 г. створаны Савет салдацкіх і сял. дэпутатаў, у які ўвайшло 19 вёсак. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Машчаніцкага с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарская перамога». У час калектывізацыі ў сельсавеце было створана 7 калгасаў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 19 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7.1954 г. сельсавет перайменаваны ва Ушанскі (цэнтр перанесены ў в. Уша). У 1960 г. 196 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 11 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, большая з якіх — крывалінейная, перасякаецца шашой амаль пад прамым вуглом. Працяглая вуліца забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу і аднапавярховымі муравanымі дамамі. Другая — кароткая прамалінейная, праходзіць паралельна да шашы ў паўд.-зах. частцы вёскі.

**СТАРЫ БУДКАЎ** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Беразіно, 23 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 98 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Уса (прыток р. Бярэзіна), на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новіны. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з пачатку 20 ст. У 1917 г. в. Стары Будкаў, 6 двароў, 42 жыхары, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 34 двары, 174 жыхары.





У 1930 г. арганізаваны калгас «Камсамолец». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 105 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя І.У.Мічурына (цэнтр — в. Новіны). У 2003 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачная структура хутарская. Сял. сядзібы размешчаны групамі па 2—3 дамы.

**СТАРЫ КОЙЦІН** — вёска ў Сялібскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Беразіно, 23 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Асіповічы—Магілёў, 124 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясцовай дарозе праз вёскі Падкамень і Брадзец і далей па шашы Мінск—Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1885 г. засценак Койцін у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. аколіца Койцін, 14 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. в. Стары Койцін, 10 гаспадарак, 72 жыхары, і засценак Новы Койцін, 10 гаспадарак, 93 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. ў вёсцы і на хутары Стары Койцін 38 двароў, 163 жыхары, у вёсцы і на хутары Новы Койсцін 16 гаспадарак, 78 жыхароў. У 1930 г. разам з вёскамі Падкамень, Слабада, Масцішча ўвайшла ў калгас імя Ільіча. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 6 вяскоўцаў. 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 95 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец). У 2003 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ ГУМНЫ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 27 км на ПнУ ад Беразіно, 43 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша— Мінск, 127 км ад Мінска, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Плаўня (прыток р. Брусята). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. засценак у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 18 двароў, 123 жыхары. У 1917 г. 18 двароў, 123 жыхары. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР (з 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі). З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 33 двары, 178 жыхароў. У 1930-я г. разам з в. Харчычы ўвайшла ў калгас імя Мікаяна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях супраць гітлераўцаў каля вёскі загінулі 2 сав. воіны і 6 партызан, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 103 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 60 гаспадарак, 115 жыхароў. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ ПРЫБОРКІ** — вёска ў Мачаскім с/с, за 23 км на У ад Беразіно, 53 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 123 км ад Мінска, на



ПнЗ цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 28 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст., калі адзначана на картах ВКЛ. Першае ўпамінанне тычыцца 2-й пал. 16 ст. У 1800 г. сяло Прыборкі, 6 гаспадарак, 56 жыхароў, уніяцкая царква, карчма, вадзяны млын, панскі двор, уласнасць Масальскіх, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. вёска і маёнтак, уласнасць памешчыка І.Акуліча. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Пагосцкай вол., 14 двароў, 80 жыхароў, і фальварак, 1 двор. У 1917 г. сяло Старыя Прыборкі, 8 гаспадарак, 57 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР (з 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі). З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1931 г. створаны калгас «Энергія». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 109 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск» ( цэнтр — в. Мачаск), магазін і школа. У 2003 г. 31 гаспадарка, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай уздоўж ракі. Радзіма П.А.Акулевіча, бел. казачніка.

**СТАЎПЫ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 135 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокая Гара і далей па шашы Мінск—Магілёў. 45 гаспадарак, 84 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. У 1908 г. засценак, 15 гаспадарак, 104 жыхары, у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 23 гаспадаркі, 176 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім павеце БССР (з 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі). З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 37 двароў, 202 жыхары. У 1930-я г. разам з в. Глінішча ўвайшла ў калгас «Сталінскі шлях». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 13 мірных жыхароў. На франтах і у партыз. барацьбе загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. да мясц. калгаса былі далучаны 5 суседніх калгасаў. У 1960 г. 134 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЯЛІБА** — вёска, цэнтр Сялібскага с/с, за 32 км на Пд ад Беразіно, 21 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы—Магілёў, 132 км ад Мінска, на У і З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жалінка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 132 гаспадаркі, 319 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 73 жыхары, у складзе маёнтка Брадзец у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Лукашэвіча. Паводле перапісу 1897 г. побач 2 аднайменныя вёскі ў Брадзецкай вол., адна з якіх — яўр. пасяленне на ўласнай зямлі. У першай 29 двароў, 155 жыхароў, у другой 131 двор, 917 жыхароў, яўр. малітоўная школа, ветраны млын, 2 піцейныя домы, 8 малочных крам. У 1908 г. 93 двары, 920 жыхароў.

21.6.1910 г. пажар знішчыў 146 пабудоў. У 1917 г. ў вёсцы 75 двароў, 459 жыхароў, паштовае аддзяленне, на хутары 30 двароў, 201 жыхар. У 1917 г. арганізавана сав. т-ва «Чырвоны селянін», у 1918 г. Савет сял. і салдацкіх дэпутатаў. У 1919 г. польскія легіянеры ўчынілі яўр. пагром. 6.10.1921 г. адкрыўся рабочы клуб, потым б-ка. У пач. 1920-х г. пачала працаваць яўр. школа. У 1924 г. ў школе адкрыты 4-ы клас з бел. мовай навучання і с.-г. т-ва, медпункт. З 20.8. 1924 г. вёска — цэнтр сельсавета ў Свіслацкім р-не, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. У 1927 г. яўр. пачатковая школа пераўтворана ў 7-гадовую. У 1930-я г. дзейнічалі 3 грамадскія лазні, пошта. У 1929 г. ў яўр. частцы вёскі арганізаваны калгас імя Калініна. У 1925—26 гг. побач з вёскай быў утвораны яўр. пасёлак Ахдус, жыхары якога былі аб'яднаны ў 1929 г. ў яўр. нац. калгас. У 1930 г. калгасы імя Калініна і «Ахдус» аб'ядналіся ў адзіны. З 25.6.1931 г. вёска ў Бярэзінскім р-не. У 1934 г. ў бел. частцы вёскі створаны калгас імя Будзённага. У канцы 1935 г. беларускі і яўр. калгасы аб'ядналіся. 25.7.1936 г. ў будынку былой сінагогі адкрыты клуб на 200 месцаў. Бел. і яўр. школы ў 1937 г. былі аб'яднаны ў адну (з 1940 г. сярэдняя). З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 30 сав. воінаў, у іх ліку воіны 110-й стралк. дывізіі 38-га стралк. корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту, пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 42 вяскоўцы, у памяць аб якіх у 1967 г. ў скверы пастаўлена скульптура воіна. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1955—56 гг. створаны пасля вайны калгас імя Ільіча быў узбуйнены і складаўся з вёсак Сяліба, Барсучына, Пуцькава, Месціна. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1969 г. пачалі дзейнічаць фотаатэлье, швейная і абутковая майстэрні. У 2003 г. 153 гаспадаркі, 361 жыхар, дзейнічалі сельсавет, аддз. сувязі, сярэдняя і музычная школы, сталовая, камбінат бытавога абслугоўвання, дзіцячы сад, 2 магазіны, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, інтэрнат, ашчадная каса, АТС, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 асноўных вуліц, галоўная з якіх — адрэзак дарогі — крывалінейная, працяглая. Ад яе цэнтра на У адыходзіць прамалінейная вуліца, а на ПдЗ кароткая прамалінейная вуліца. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. На ўскраінах вёскі і ў цэнтры сярод драўлянай забудовы ўзведзены 1- і 2-павярховыя мураваныя дамы. Вёска — радзіма бел. паэта Я.Тумiловіча, 1-га сакратара ЦК ЛКСМБ Л.Б.Герцовіча, бел. сатырыка і крытыка Я.Б.Герцовіча, бел. празаіка П.М.Рунца, мастака І.Б.Элентуха, бел. паэта і празаіка Р.В.Няхая.

**СЯЛЯНКА** — вёска ва Ушанскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 121 км ад Мінска, на ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Уша (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысаў—Беразіно. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1885 г. засценак у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Сялянка, уладанне малалетніх Ваньковічаў, 1 двор, 10 жыхароў, і сядзіба Калюж (яна ж Сялянка), 3 двары, 40 жыхароў. У 1908 г. ва ўрочышчы Калюж 3 двары, 47 жыхароў. У 1921 г. 2 двары, 19 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ва Ушанскім



с/с. У 1960 г. 55 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. вяскоўцы працавалі ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). У 2003 г. 2 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТОПАЛЬ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Беразіно, 25 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 102 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вёска створана ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Перавозаўскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.07.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 13 гаспадарак, 66 жыхароў. У 1934 г. створаны калгас «Новы Топаль». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Сталіна. З 16.7.1954 г. ў Багушэвіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя XXVII з'езда КПСС (цэнтр — в. Міхалёва). У 2003 г. 9 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТРАСЦЯНКА** — вёска ў Бярэзінскім с/с, за 3 км на З ад Беразіно, 43 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 98 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Палоза (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз Беразіно і далей па аўтадарогах на Мінск, Магілёў, Барысаў і Бабруйск. 50 гаспадарак, 120 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. У 1541 г. вёска ў ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1701 г. вёска (21 двор) і фальварак у Аршанскім павеце, уласнасць памешчыка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 5 гаспадарак, 29 жыхароў, уласнасць памешчыка М.Валовіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1812 г. сяляне пад кіраўніцтвам Т.Барысенкі вынішчылі ўсю сям'ю памешчыка А.Глазко, а маёнтак спалілі. Паўстанне падавілі французскія салдаты. Частка паўстанцаў была захоплена і жорстка пакарана. У тым жа годзе сяляне арганізавалі атрад, у які ўвайшлі ўсе дарослыя жыхары вёскі. На чале атрада, які рабіў напады на французскіх салдат і мясцовых памешчыкаў, быў селянін Т.Барысенка. У 1858 г. 63 жыхары, уласнасць памешчыка І.Інгліка. У 1870 г. вёска і маёнтак у Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 27 гаспадарак, 160 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца на могілках, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў, вадзяны млын. У 1905 г. ў лесе каля вёсак Паложына і Трасцянка рабочыя правялі мітынг. У 1917 г. ў вёсцы 43 гаспадаркі, 257 жыхароў, у фальварку 5 гаспадарак, 36 жыхароў. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. Пагосцкая воласць у складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР (з 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі). З 20.8.1924 г. ў Бярэзінскім с/с Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1931 г. створаны калгас імя Дзяржынскага. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 24 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 304 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Сцяг Кастрычніка» (цэнтр — в. Паложына). У 2003 г. 61 гаспадарка, 124 жыхары. Ад цэнтра працяглай дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзіць прамалінейная кароткая вуліца з завулкамі. Забудавана двухбакова,





шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТЫЛЬКАЎКА** – вёска ў Пагосцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Беразіно, 52 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша–Мінск, 130 км ад Мінска, на р. Плаўня (прыток р.Брусята), на ПнЗ і ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокая Гара і далей па шашы Мінск–Магілёў. 45 гаспадарак, 84 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 гаспадарак, 41 жыхар, уласнасць памешчыка Л.Тышкевіча ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. 30 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К. Маршалавай. У 1858 г. 87 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1847 г. Тылькаўкі, у Любушанскай эканоміі, 95 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 30 двароў, 233 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 34 двары, 226 жыхароў. З 1904 г. да ліст. 1917 г. ў аднайменным урочышчы працавала дрэваапрацоўчае прадпрыемства (21 рабочы). З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР, які 18.9. 1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 46 двароў, 276 жыхароў. У 1930 г. створаны калгас імя Энгельса. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 1950 г. ў калгасе імя Мікаяна. У 1960 г. перайменавана ў в. Рэчыца (пазней вернута гіст. назва), 306 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ў складзе саўгаса «Высакагорскі» (цэнтр – в. Высокая Гара). У 1980 г. ў складзе таго ж саўгаса, магазін. У 2003 г. 60 гаспадарак, 115 жыхароў. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Рака падзяляе вёску на зах. (працякае крывалінейная вуліца) і ўсх. (кароткая Г-падобная вуліца) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УЛЕССЕ** – вёска ў Сялібскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Беразіно, 30 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Асіповічы–Магілёў, 126 км ад Мінска. На Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Крапівенка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Крапіўня і далей па шашы Мінск–Магілёў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1858 г. вёска, 64 жыхары. У 1885 г. ўрочышча ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба, 3 двары, 29 жыхароў. У 1917 г. ўрочышча, 11 двароў, 71 жыхар. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. – Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1934 г. разам з в. Новы Койцін аб'ядналася ў калгас імя Куйбышава. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З. 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса імя Куйбышава. У 1960 г. 41 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр – в. Брадзец). У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіровачна складалася з кароткай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСХОД** – вёска ў Сялібскім с/с, за 26 км на Пд ад Беразіно, 29 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы–Магілёў, 126 км ад Мінска. На ПдЗ цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Брадзец і далей па шашы Мінск–Магілёў. 60 гаспадарак, 143 жыхары (2008).



Вядома з пачатку 20 ст. У 1917 г. вёска, 71 жыхар. З 6.10.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, 9.6. 1927 г. Мінскай акруг. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 56 жыхароў. У 1934 г. разам з в. Ільінка аб'ядналася ў калгас «Чырвоная Волга». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 105 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Бярэзіна» (цэнтр — в. Брадзец) У 2003 г. 56 гаспадарак, 146 жыхароў. З 2008 г. ў Сялібскім с/с. Планіроўчна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УША** — вёска, цэнтр Ушанскага с/с, за 21 км на ПнЗ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Барысаў на лініі Орша—Мінск, 21 км ад Мінска, на Пд і Пн цячэ р. Уша (прыток р. Бярэзіна), а праз вёску меліярацыйны канал, злучаны з р. Уша. Транспартныя сувязі па шашы Барысаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 90 гаспадарак, 223 жыхары (2008).

За 1 км на ПдУ ад вёскі, за 0,5 км ад р. Уша, ва ўрочышчы Каза размешчана гарадзішча 1—5 і 6—8 ст. н.э., якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1795 г. сяло і гасподскі двор, у Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Мушынскага. У 1800 г. вёска, 14 гаспадарак, каля 100 жыхароў, драўляная уніяцкая капліца, сядзібны дом з рэгулярным садам, 2 вадзяныя млыны. Размяшчалася вёска па абодва бакі канала, праведзенага з балота і злучанага з р. Уша. У 1812 г. каля вёскі рус. войскі разбілі атрад французаў. У 1823 г. ў памешчыка В.Юрэвіча маёнтак Уша купіў памешчык Р.Рагоўскі. У той час у маёнтку налічвалася 107 жыхароў, у карыстанні сялян знаходзілася 19 коней, 24 валы, 19 кароў, 30 свіней. Паводле інвентару 1846 г. 11 цяглых гаспадарак, 18 дваровых людзей. У 1858 г. вёска і маёнтак, памешчыцкая ўласнасць. У 1886 г. адкрыта школа граматы, у якой у 1890 г. навучалася 17 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Белічанскай вол., у вёсцы 22 двары, 180 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку 6 двароў, 26 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 25 двароў, 190 жыхароў, у маёнтку 60 жыхароў. Восенню 1919 г. была адкрыта пач. школа (раніцай вучыліся дзеці, а вечарам — дарослыя). У перыяд калектывізацыі школа стала цэнтрам агітацыйна-масавай работы. З 20.8.1924 г. ў Машчаніцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 25 двароў, 190 жыхароў, у маёнтку 60 жыхароў. У канцы 1920-х г. Старая Уша і Новая Уша (былы маёнтак) разам з в. Калюжыца ўвайшлі ў калгас імя Чкалава. У 1929 г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую (першы выпуск у 1932 г.). З 1935 г. на базе школы кожнае лета дзейнічаў піянерскі лагер. Выпускнік школы 1934 г. М.В.Шукан перад вайной працаваў сакратаром Магілёўскага абкома камсамола і загінуў у 1941 г. пры абароне г. Магілёва. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 9 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле каля школы. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў, у памяць аб якіх у 1994 г. пастаўлена стэла. Дырэктарам школы ў пасляваен. перыяд працаваў былы камандзір партыз. атрада Дзяруга. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. 16.7.1954 г. Машчаніцкі с/с перайменаваны ва Ушанскі і вёска Новая Уша стала яго цэнтрам. У




1960 г. ў в. Старая Уша 188 жыхароў, у в. Новая Уша 92 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. вёскі былі аб'яднаны ў адну — Уша. У 1980-я г. ў саўгасе «Уша» (цэнтр — в. Котава). Дзейнічалі школа (з 1960 г. 8-гадовая, з 1965 г. сярэдняя, з 1987 г. ў новым будынку), клуб (з 1960 г.), дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка (кн. фонд 10,3 тыс. кніг), магазін, лясніцтва. У 2003 г. 104 гаспадаркі, 267 жыхароў. Складаецца з адасобленых зах. (ад шашы Барысаў—Беразіно адыходзяць на Пн і ПдУ 2 вуліцы, былая в. Новая Уша) і ўсх. (працяглая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі) частак, злучаных прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ вёскі пабудаваны аднапавярховыя мураваныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

**УЮНОЎКА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Беразіно, 40 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 121 км ад Мінска, на Пн цячэ р. Клява (прыток р. Бярэзіна), а праз вёску меліярацыйны канал, злучаны з ракой. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Любушаны і далей па шашы Мінск—Магілёў. 92 гаспадаркі, 219 жыхароў (2008).

У 1848 г. вёска Уюнаўкі, у Любушанскай эканоміі, 30 жыхароў. У 1858 г. вёска, 28 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1885 г. ў Пагосцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 92 жыхары. У 1908 г. 13 двароў, 100 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 187 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Дулебскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мачаскім с/с. У 1960 г. 127 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе «Любушанскі». У 2003 г. 26 гаспадарак, 61 жыхар. Планіроўка Т-падобная. Ад цэнтра працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПнЗ , адыходзіць на З кароткая прамалінейная вуліца, якую перасякае канал. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХАРЧЫЧЫ** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад Беразіно, 41 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 132 км ад Мінска, на У і Пд цячэ р.Харчычка (прыток р. Брусята). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокая Гара і далей па шашы Мінск—Магілёў. 16 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

За 2 км на З ад вёскі, у лесе размешчаны курганны магільнік (16 насыпаў),



*Каменны крыж са старых курганоў каля в. Харчычы.*



які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 гаспадарак, 5 жыхароў, у Барысаўскім павеце Мінскай губ., уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета, 27 двароў, 209 жыхароў. У 1908 г. 27 двароў, 190 жыхароў. У жн. 1908 г. вяскоўцы самавольна скасілі памешчыцкі луг у маёнтку Стара-Барысаўскі. У 1917 г. 36 двароў, 214 жыхароў, дзейнічала смалакурня. З 20.8.1924 г. Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 1927 да 1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 39 двароў, 223 жыхары. У 1933 г. створаны калгас імя Мікаяна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія закатавалі 3 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1950 г. да калгаса імя Мікаяна былі далучаны 5 суседніх калгасаў. У 1960 г. 135 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 1967 г. ўваходзіла ў саўгас «Высакагорскі» (цэнтр — в. Высокая Гара). У 2003 г. 25 гаспадарак, 34 жыхары. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХВАТАЎКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Беразіно, 36 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Асіповічы—Магілёў, 121 км ад Мінска, на З цячэ р. Клявіца (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 25 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

У 19 ст. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. вёска Хватаўкі, 17 жыхароў, маёмасць К.Маршалавай. У 1847 г. Хватаўка ў Любушанскай эканоміі, 89 жыхароў. У 1858 г. 76 жыхароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 21 двор, 171 жыхар. У 1908 г. 34 двары, 209 жыхароў. У 1917 г. 48 двароў, 287 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім павеце БССР, які 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. З 20.8.1924 г. ў Пагосцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругах. У 1931 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Свярдлова. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 26 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 295 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Камунар» (цэнтр — в. Пагост), клуб, магазін. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХУТАР** — вёска ў Мачаскім с/с, за 28 км на У ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы, 128 км ад Мінска, на р. Беларэч (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мачаск і далей па шашы Мінск—Магілёў. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 51 жыхар, уласнасць памешчыка Масальскага, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 49 жыхароў, у складзе маёнтка Прыборкі, уласнасць памешчыка І.Акуліча. Паводле перапісу 1897 г. ў Пагосцкай вол., 16 двароў, 97 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 16 двароў, 107 жыхароў, побач аднайменнае ўрочышча, 2 двары, 15 жыхароў, і фальварак, 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 20 двароў, 144 жыхары, ва ўрочышчы 4 гаспадаркі, 33 жыхары. З 6.10. 1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магі-




лёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР, які 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1929 г. разам з вёскамі Гужык, Пчэлінск, Лосеўка вёска ўвайшла ў калгас «Новы свет». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 15 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 124 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск», (цэнтр — в. Мачаск). У 2003 г. 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦЯРЭСІНА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 36 км на ПдУ ад Беразіно, 32 км ад чыг. ст. Суша на лініі Магілёў—Асіповічы, 136 км ад Мінска, на р. Беларэч (прыток р. Клява). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ягадка і Мачаск і далей па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 39 жыхароў, уласнасць памешчыка Л. Тышкевіча, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1811 г. в. Цярэшына, 21 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы К.Маршалавай. У 1858 г. 46 двароў, у складзе маёнтка Беразіно, уласнасць М.Патоцкага. У 1885 г.ў Пагосцкай вол. У 1890 г. адкрыта школа граматы, у якой у першы год навучалася 7 хлопчыкаў. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 103 жыхары. У 1908 г. 17 двароў, 119 жыхароў. У 1917 г. 16 двароў, 143 жыхары. З 6.10.1919 г. да 10.8. 1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР, які 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. У 1920 г. на базе ранейшай створана 4-гадовая школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 27 двароў, 146 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1939 г. разам з в. Ягадка аб'ядналася ў калгас «Чырвоная Зорка» (пазней — калгас імя Жданава). На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1959 г. вёска была электрыфікавана. У 1960 г. 176 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СПК) «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск), дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. У 2003 г. 21 гаспадарка, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, ад больш працяглай з іх на ПдЗ адыходзіць кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сац. Працы, старшыні калгаса «Запаветы Ільіча» Горацкага р-на Р.В.Бельскага (нар. 6.8.1929 г.).

**ЧЫЖАХА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 35 км на Пд ад Беразіно, 20 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 135 км ад Мінска. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), а на Пн ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск. 82 гаспадаркі, 108 жыхароў (2008).

За 0,3 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р.Бярэзіна, пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая, ва ўрочышчы Гарадок, размешчана гарадзішча, якое датуецца 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. На паўн. ускраіне вёскі — паселішча эпохі мезаліту. Гэта сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. У 1795 г. пачаў працаваць паштовы тракт Мінск—Ігумен—Бабруйск, на якім налічвалася 6 паштовых станцый. На станцыі Чыжаха было 23 кані. У 1800 г. вёска пад назвай Цяжаха , 6 гаспадарак, 30 жыхароў, вадзя-



ны млын, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 42 жыхары, уласнасць памешчыка К. Калчэўскага. Паводле перапісу 1897 г. вёска Цяжаха (яна ж Чыжыха), 25 двароў, 180 жыхароў, кузня, вадзяны млын, хлебазапасны магазін, у Якшыцкай вол. У 1908 г. 36 двароў, 217 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Якшыцкім с/с Свіслацкага р-на, да 26.7.1930 г. Бабруйскай акругі БССР. З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 34 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У вер. 1944 г. пачала працаваць пач. школа, з 1942 г. — 7-гадовая, з 1960 г. — 8-гадовая (у той год 180 вучняў). З 1971 г. ў новым будынку. У 1957 г. адчынены магазін, у 1960 г. клуб (цяпер Дом культуры) і б-ка, у 1972 г. фельч.-акушэрскі пункт (як і школа зачынены ў 1990-я г.). У 1980-я г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Якшыцы). У 2003 г. 84 гаспадаркі, 231 жыхар, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт, аддз. ААТ «Беларусбанк», магазін, АТС, аддз. сувязі, Дом культуры. Складаецца з 5 вуліц. Гал. (адрэзак дарогі) — крывалінейная, працяглая, амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Паралельна да яе, уздоўж р. Бярэзіна, праходзіць другая крывалінейная вуліца, злучаная з галоўнай на Пн кароткай прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ручая. Чацвёртая кароткая вуліца адыходзіць на У ад паўд. часткі галоўнай вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гал. вуліцы пабудаваны аднапавярховыя і двухпавярховыя 4-кватэрныя дамы. На Пн галоўнай вуліцы сярод жылой забудовы размешчана большая частка грамадскіх будынкаў. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза С.Ф.Аляшкевіча (1910—4.5.1944).

**ЧЫРВОНАЯ ГОРКА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Беразіно, 23 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 120 км ад Мінска, на У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск, якая праходзіць непадалёк ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. маёнтак Панскі Двор ва ўладанні Рагоўскага. На беразе ракі былі пабудаваны спіртавы і цагельны з-ды (разбураны палякамі ў час польска-сав. вайны 1919—20 гг.). З 20.8.1924 г. ў Пеавозаўскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 12 двароў, 44 жыхары. У канцы 1920-х г. была створана камуна, пасёлак перайменавалі ў камуну імя Сталіна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. Пасля 1953 г. вёска атрымала сучасную назву. З 16.7.1954 г. ў Багушэвіцкім с/с. У 1960 г. 34 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. У 2003 г. 3 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Беразіно, 30 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 115 км ад Мінска, на ПдУ цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск, якая праходзіць непадалёк ад вёскі. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

За 1,5 км на У ад вёскі ва ўрочышчы, у пойме правага берага р.Бярэзіна размешчаны гарадзішча 6—8 ст. н.э., каля зах. боку гарадзішча-селішча 7 ст да н.э. — 5 ст. н.э, за 0,7 км на ПнЗ ад гарадзішча і селішча — селішча жал. веку

(7 ст. да н.э. – 5 ст. н.э.) Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска створана ў 1920-я г. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 25 двароў, 115 жыхароў. У 1927 г. створаны калгас «10 год Кастрычніка». Перад вайной гаспадарка ўвайшла ў склад калгаса «Парыжская камуна». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 112 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр – в. Міхалёва), ферма і 2 установкі па перапрацоўцы кармоў. У 2003 г. 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска – радзіма сав. спартсмена, заслужанага майстра спорту СССР, чэмпіёна свету і Еўропы М.Р. Хахла (нар. 5.1. 1948 г.).

**ЧЫРВОНАЯ ПАЛЯНА** – вёска ў Паплаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Беразіно, 33 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы–Градзянка, 87 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Мінск–Магілёў. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

Узнікла ў сярэдзіне 1920-х г. У 1926 г. пасёлак, 4 двары, 26 жыхароў, у Негаціцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1931 г. ўвайшла ў склад калгаса імя Варашылава. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 67 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980 г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр – в. Мікулічы). У 2003 г. 10 гаспадарак, 10 жыхароў. Складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыяльнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ АРАТЫ** (да 1920-х г. Барацічы ) – вёска ў Сялібскім с/с, за 33 км на Пд ад Беразіно, 24 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Асіповічы–Магілёў, 133 км ад Мінска, каля р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). 14 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

Паводле перапісу 1897 г. маёнтак Барацічы, 2 двары, 26 жыхароў, піцейная ўстанова, у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1917 г. вёска, 6 гаспадарак, 35 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім (з 18.9.1923 г. Чэрвеньскім) павеце БССР. З 20.8.1924 г. ў Брадзецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. У 1926 г. 2 двары, 5 жыхароў. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Уперад». На франтах Вял. Айч. вайны загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1957 г. з Сялібскага с/с вёска перавезена ў склад Брадзецкага с/с. У 1960 г. 91 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Беразіно» (цэнтр – в. Брадзец). У 2003 г. 17 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ БЕРАГ** – вёска ў Паплаўскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Беразіно, 46 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы–Градзянка, 98 км ад Мінска, на р. Паплаўка, якая на ПдУ упадае ў р. Бярэзіна. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно–Барысаў. 39 гаспадарак, 82 жыхары (2008).



За 1 км на Пд ад вёскі размешчана паселішча эпохі неаліту, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У маі—ліп. 1920 г. ў час польска-сав. вайны на гэтым месцы загінулі 20 чырвонаармейцаў, якія пахаваны ў брацкай магіле за 0,5 км ад вёскі. Вёска ўтворана ў 1924 г. Першымі перасяленцамі былі жыхары в. Неганічы — Філіповічы, Жэшкі, Трапянкі. З 20.8. 1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. 19 двароў, 94 жыхары. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл, з 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 187 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Паплавы» (цэнтр — в. Паплавы). У 2003 г. 50 гаспадарак, 83 жыхары. Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі. Больш працяглая з іх — крывалінейная, цэнтр. — крывалінейная кароткая, праходзіць уздоўж паўн. берага р. Паплаўка, а на паўд. баку ракі праходзіць трэцяя кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ ВУГАЛ** — вёска ў Капланецкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Беразіно, 39 км ад чыг. ст. Нясята на лініі Магілёў—Асіповічы, 114 км ад Мінска, на ПнУ цячэ р. Верацёнка (прыток р. Крапівенка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоны Бор, Гарэнічы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Створана ў 1-й пал. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Капланецкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 120 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Бярэзінскі» (цэнтр — в. Косаўка), магазін. У 2003 г. 20 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ ДАР** — пасёлак у Паплаўскім с/с, за 26 км на З ад Беразіно, 42 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 95 км ад Мінска, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Беліца (прыток р. Уша). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Камісарскі Сад, Паплаўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядомы з 19 ст. пад назвай Анэтава. У 1917 г. фальварак, 1 двор, 7 жыхароў, у Белічанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 перайменаваны ў Чырвоны дар. З 20.8.1924 г. ў Белічанскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 2 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Ляжынскім с/с. У 1960 г. 54 жыхары, вёска ўвайшла ў саўгас «Паплавы». З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Баравіно» (цэнтр — в. Малыя Лагі). У 2003 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. З 2008 г. ў Паплаўскім с/с. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНЫ САД** — вёска ў Паплаўскім с/с, за 16 км на З ад Беразіно, 38 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 88 км ад Мінска, на Пн і Пд праходзяць меліраяцыйныя каналы, злучаныя з р. Паплаўка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі

па мясц. дарозе праз в. Паплавы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Узнікла ў пачатку 1920-х г. З 20.8. 1924 г. ў Неганіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7. 1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1926 г. пасёлак, 14 гаспадарак, 76 жыхароў. У 1932 г. пасёлак увайшоў у склад калгаса «Чырвоны прамень». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Паплаўскім с/с. У 1960 г. 106 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Першамайскі» (цэнтр — в. Мікулічы). У 2003 г. 21 гаспадарка, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАВЯРНІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Беразіно, 53 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 120 км ад Мінска, праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Брусята (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Жураўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 144 гаспадаркі, 268 жыхароў (2008).

Вядома з 17 ст. У 1670 г. вёска, 9 дымоў, у Барысаўскім старостве Забаброўскай вол. Ашмянскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у складзе Рас. імперыі. У 1800 г. 30 двароў, 224 жыхары, млын, уласнасць віленскага ваяводы М.Радзівіла. У час вайны 1812 г. тут знаходзілася гал. кватэра фельдмаршала М.І.Кутузава. У 1874 г. вяскоўцы захапілі 16 дзесяцін памешчыцкай сенажаці і аказалі супраціўленне ўладзе пры размеркаванні памешчыцкіх і вясковых зямель, а ў жн. 1891 г. адмовіліся прызнаць праведзенае размежаванне с.-г. угоддзяў. У 1885 г. 65 двароў, 576 жыхароў, у Дзмітравіцкай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 110 двароў, 994 жыхары, піцейны дом. У 1908 г. 139 двароў, 1026 жыхароў. 3—7.7.1908 г. сяляне самавольна захапілі памешчыцкі сенакос, за што 17 чалавек былі прыцягнуты да адказнасці. У 1917 г. 153 гаспадаркі, 1102 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Арэшкавіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг БССР. У 1925 г. пабудавана школа. У 1926 г. 215 двароў, 1195 жыхароў, дзейнічала смалакурня. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Леніна. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З пач. ліп. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся Бярэзінскі падп. райком КП(б)Б, у памяць аб якім у 1975 г. за 1,5 км ад вёскі пастаўлена стэла. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 62 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1948 г. адкрыты калгасны радзільны дом. З 16.7.1954 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. 1029 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Дзмітравічы», 8-гадовая школа, клуб, бібліятэка (адкрыта ў 1965 г.), магазін, фельч.-акушэрскі пункт (адкрыты ў 1972 г.), аддз. банка, аддз. сувязі. У 2003 г. 165 гаспадарак, 319 жыхароў. У аснову планіровачнай структуры пакладзены 2 перпендыкулярна перакрыжаваныя працяглыя прамалінейныя вуліцы з завулкамі, больш працяглы з якіх арыентаваны з ПдУ на ПнЗ. На ПнУ праходзяць 2 кароткія прамалінейныя кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

**ЯГАДКА** — вёска ў Мачаскім с/с, за 28 км на У ад Беразіно, 41 км ад чыг. ст. Стаялава (на лініі Магілёў—Асіпові-



чы), 128 км ад Мінска, на р. Дулебка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мачаск і далей па шашы Мінск—Магілёў. 19 гаспадарак, 32 жыхары (2008).

За 0,3 км на У ад вёскі размешчаны курганны магільнік (4 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. У 1848 г. ў складзе маёнтка Беразіно Любушанскага графства ў маёмасці графіні Ванькові́ч, у Ягацкай эканоміі налічвалася 442 жыхары, у карыстанні якіх знаходзілася 162 валы, 38 коней, 114 кароў. У 1885 г. фальварак у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 62 жыхары. У 1917 г. ўрочышча, 2 гаспадаркі, 11 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым зноў у Ігуменскім павеце БССР, які 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. З 20.8.1924 г. ў Мачаскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 10.7.1939 г. пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР вёска атрымала статус прам. населенага пункта, які не з'яўляўся адм. цэнтрам. На франтах Вял. Айч. вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 17 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 170 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. ў саўгасе (з канца 1990-х г. СВК «Мачаск» (цэнтр — в. Мачаск), магазін, бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт. У 2003 г. 28 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, адна з якіх — паўн. — прамалінейная, працяглая, амаль шыротнай арыентацыі, другая — паўд. — крывалінейная, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вёска — радзіма Героя Сац. Працы С.І. Яськевіча (н. 2.5.1927 г.).

**ЯДЛІНА** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Беразіно, 30 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 112 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па шашы Беразіно—Бабруйск. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1811 г. вёска, 36 жыхароў мужчынскага полу. У інвентары 1844 г. пазначана ў складзе маёнтка Божын, ва ўладанні памешчыка І. Палянскага. Па інвентарах 1845 г. ў складзе маёнтка Капланцы, уласнасць С.Ясенскага. У 1858 г. вёска, 87 жыхароў, у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1870—90-я г. вяскоўцы ўваходзілі ў Божынскае сельскае т-ва. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 158 жыхароў, у Брадзецкай вол. У 1916 г. 37 двароў, 226 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Багушэвіцкім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акругі БССР. У 1926 г. 41 двор, 202 жыхары. У 1934 г. створаны калгас «Чырвоны лётчык». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 2003 г. 24 жыхары. Планіровачна ўяўляе працяглую прамалінейную вуліцу, размешчаную паралельна шашы. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЯКШЫЦЫ** — вёска ў Багушэвіцкім с/с, за 29 км на Пд ад Беразіно, 13 км ад чыг. ст. Градзянка на лініі Асіповічы—Градзянка, 107 км ад Мінска, на перакрыжаванні дарог Беразіно—Бабруйск, Чэрвень—Сяліба. На У цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Днепр), праз вёску цячэ безназоўны ручай, яе прыток, а на ПнУ меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Уса (прыток р. Бярэзіна). 139 гаспадарак, 312 жыхароў (2008).

За 0,2—0,4 км на Пн ад вёскі размешчаны паселішча бронзавага веку, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёс-





ка вядома з 16 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) у Рас. імперыі. У 1795 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., шляхецкая уласнасць. У 1800 г. 40 гаспадарак, 271 жыхар. На беразе р. Бярэзіна былі прыстань, млын. У сяле дзейнічалі драўляная уніяцкая Троіцкая царква, плябаўня, карчма. У 1811 г. ў сяле разам са слабадой Канстанцінаўка і в. Шапоўшчына 156 жыхароў мужчынскага полу, у аднайменным маёнтку ва ўладанні К.Калчэўскага 27 жыхароў мужчынскага полу. У 1848 г. вёска, 46 гаспадарак. У 1863 г. пабудавана школа (нар. вучылішча, у якім у 1892 г. навучаліся 32 хлопчыкі і 1 дзяўчынка). У 1865 г. пабудавана прыходская Свята-Троіцкая царква. Пры царкве існавала царк.-прыходскае папячыцельства. У 1886 г. вёска, 45 гаспадарак, 330 жыхароў, дзейнічалі вал. ўправа, царква, капліца, школа. Паводле перапісу 1897 г. сяло, цэнтр вол., 96 гаспадарак, 619 жыхароў, вал. праўленне, нар. вучылішча, 3 кузні, хлебазапасны магазін, малочная крама, царква, карчма, часоўня на могілках, царк.-прыходскі прыют. У 1908 г. 108 двароў, 700 жыхароў. Летам 1913 г. на якшыцкіх землях пачаліся асушальныя работы, узведзены цагляны будынак школы (на 3 класы). У 1916 г. адкрыта паштовае аддзяленне. У 1917 г. 139 двароў, 822 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Свіслацкага р-на Бабруйскай акругі БССР (да 26.7.1930 г.). У 1929 г. разам з в. Рэгісполле ўтвораны калгас «Перамога». З 25.7.1931 г. ў Бярэзінскім р-не. У 1930-я г. царква была перабудавана пад клуб (у 1943 г. спалена). З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі (1.7. 1944 г.) загінулі 18 воінаў і партызан, у ліку якіх воіны 348-й стралк. дывізіі 35-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту, пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 97 землякоў з вёсак Асмалоўка, Гарадзішча, Якшыцы, на ўшанаванне памяці якіх у скверы ў 1968 г. пастаўлены на фоне абеліска скульптура партызана і дзяўчынкі, якая ўскладае кветкі. З 20.9.1944 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 633 жыхары, адкрыты фельч.-акуш. пункт, дзейнічала 7-гадовая школа (з 1958 г. ў новым будынку). З 25.12. 1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1.1965 г. ў Бярэзінскім р-нах. У 1980-я г. цэнтр калгаса «Перамога», ветэрынарны ўчастак, піларама, машынны двор, б-ка, Дом культуры, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, магазін. У 2003 г. 177 гаспадарак, 336 жыхароў. У 2008 г. Якшыцкі с/с скасаваны, вёска ўвайшла ў Багушэвіцкі с/с. Ручай падзяляе вёску на паўн. (3 працяглыя прамалінейныя паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на ПнЗ, злучаныя на Пд крывалінейнай вуліцай, якая праходзіць уздоўж ручая) і паўд. (2 працяглыя прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя амаль мерыдыяльна, уздоўж р. Бярэзіна) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ў паўн. ч. вёскі.

**ЯЛОЎКА** — вёска ў Пагосцкім с/с, за 25 км ад Беразіно, 48 км ад чыг. ст. Бобр на лініі Орша—Мінск, 125 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кукарава і далей па шашы Мінск—Магілёў. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома з канца 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Яловы Лог (яна ж Высокая Гара) у Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 8 двароў, 25 жыхароў. З 6.10.1919 г. да 10.8.1920 г. ў складзе Магілёўскага павета Гомельскай губ. РСФСР, потым у Ігуменскім павеце БССР, які 18.9.1923 г. перайменаваны ў Чэрвеньскі. З 20.8.1924 г. ў Высакагорскім с/с Бярэзінскага р-на Барысаўскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Мінскай акруг.



У 1930 г. ўвайшла ў калгас «Серп». З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Чэрвеньскім, з 6.1. 1965 г. зноў у Бярэзінскім р-нах. У 1966 г. далучана да в. Высокая Гара. 27.12. 1993 г. вёска адноўлена як самастойны населены пункт. З 2008 г. ў Пагосцкім с/с. Планіровачна ўяўляе сабой працяглую, амаль прамалінейную вуліцу, забудаваную двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 1, спр. 88, 342, 3365; воп. 2, спр. 3332, 6102; воп. 5, спр. 6766; ф. 48, воп. 1, спр. 537, 2989; ф. 60, воп. 1, спр. 1118а; ф. 142, воп. 1, спр. 481; ф. 333, воп. 2, спр. 2141; воп. 9. спр. 210; ф. 694, воп. 4, спр. 5696; воп. 7, спр. 936; ф. 1727, воп. 1, спр. 17; ф. 1731, воп. 1. спр. 3.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 27, воп. 2, спр. 1966; ф. 76, воп. 1. спр. 227; ф. 93, воп. 1, спр. 1928, 1931; ф. 142, воп. 1, спр. 481, 486—488, 591, 677; ф. 333, воп. 3, спр. 5; воп. 4, спр. 689; воп. 9, спр. 210; ф. 334, воп. 1, спр. 301; ф. 691, воп. 3, спр. 301; ф. 694, воп. 4, спр. 1012; ф. 1183, воп. 2, спр. 21153; ф. 1727, воп. 1, спр. 1, 7, 17; ф. 1731, воп. 1, спр. 3; ф. 1769, воп. 1, спр. 13; ф. 1928, воп. 1, спр. 28.
Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 2, воп. 2. спр. 562; ф. 24, воп. 1, спр. 435; ф. 27, воп. 1, спр. 124, 217; ф. 28, воп. 1. спр. 33.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11. спр. 1306; ф. 1350, воп. 312. спр. 89.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 1276, воп. 1, спр. 609.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16, спр. 13.
Дзяржаўны архіў Кракава і Кракаўскага ваяводства. Архіў Сангушкаў, спр. 647.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 9, ч. 4. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1848.
Городские поселения в Российской империи. Т. 3. Санкт-Петербург, 1863.
Историко-статистическое описание Минской епархии. Санкт-Петербург, 1864.
Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Минск, 1870.
Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1870.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1877 г. Вильна, 1877.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Минск, 1877.
Описание церквей и приходов Минской епархии... Вып. 6. Минск, 1879.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Санкт-Петербург, 1886.
Отчет о церковно-приходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890/91 учебный год. Минск, 1891.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1892/93 учебный год. Минск, 1892.
Петров П.М. Холерная эпидемия 1893 г. в Минской губернии. Минск, 1894.
Фабрично-заводская промышленность: перечень фабрик и заводов. Санкт-Петербург, 1897.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. [Т.] 23. Санкт-Петербург, 1903.
Издание Центрального статистического комитета Министерства внутренних дел. Т. 22. Минская губерния. Санкт-Петербург, 1904.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Минск, 1905.
Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1913.
Русская историческая библиотека. Т. 27. Санкт-Петербург, 1910; Т. 33. Петроград, 1915.
Памятная книжка Минской губернии на 1917 г. Минск, 1916.




Список населенных мест Б.С.С.Р. (б. Минской губернии). Минск, 1924.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: хроніка падзей. Мінск, 1934.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Минск, 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1—2. Минск, 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Минск, 1993 (карта).
Памяць: Чэрвеньскі р-н. Мінск, 2000.
Памяць: Бярэзінскі р-н. Мінск, 2004.



# ВАЛОЖЫНСКІ РАЁН

Размешчаны на З Мінскай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 г. падзелены на 21 сельсавет: Адамоўскі, Брыльскі, Бурмацкі, Вішнеўскі, Войштавіцкі, Гародзькаўскі, Даўбенскі, Дорскі, Забрэзскі, Ігнатаўскі, Ляшчоўскі, Лоскаўскі, Ластаянцаўскі, Мінцінскі, Пяршайскі, Румскі, Сакаўшчынскі, Стайкаўскі, Сугваздаўскі, Узбалацкі, Філіпіняцкі. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раёне 2000 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Валожынскія падп. райкомы КП(б)Б (8.6. 1943–5.7.1944) і ЛКСМБ (7.11.1943–6.7.1944), партыз. брыгады «За Савецкую Беларусь», імя Сталіна, імя Чкалава, імя Чапаева, асобныя атрады П.А. Алыбіна, А.Свентаржэцкага, выдавалася падп. газ. «Іскра». Разам з насельніцтвам ням.-фаш. захопнікі знішчылі вёскі Козікі, Янушкавічы, спалена разам з жыхарамі палавіна в. Доры. Раён вызвалены ў пач. ліп. 1944 г. часцямі 3-га Бел. фронту ў ходзе Вільнюскай аперацыі 1944 г. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.7.1954 г. ўтвораны Багданаўскі с/с, ліквідаваны Адамоўскі, Бурмацкі, Войштавіцкі, Ігнатаўскі, Ляшчоўскі, Лоскаўскі, Мінцінскі, Філіпіняцкі с/с, Румскі с/с перайменаваны ў Белакорацкі; 26.7.1957 г. ліквідаваны Ластаянцаўскі с/с; 12.6.1958 г. Стайкаўскі с/с перайменаваны ў Мінцінскі с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., да раёна далучаны Гіравіцкі, Пятроўшчынскі, Ракаўскі і Яршэвіцкі с/с Радашковіцкага р-на, Багданаўскі с/с перададзены Іўеўскаму р-ну Гродзенскай вобл.; 26.8.1961 г. ліквідаваны Гіравіцкі с/с. 17.4.1962 г. да раёна далучаны Зарэчанскі, Пральніцкі с/с і 24 населеных пункты Волменскага с/с ліквідаванага Івянецкага р-на Мінскай вобл., а таксама г.п. Івянец; 5.5. 1962 г. Мінцінскі с/с перайменаваны ў Валожынскі, Пральніцкі — у Падневіцкі, Брыльскі с/с ліквідаваны. 25.12. 1962 г. раён скасаваны, яго тэр. перададзена ў Маладзечанскі р-н за выключэннем г.п. Івянец, Волменскага, Зарэчанскага і Падневіцкага с/с, якія адышлі да Стаўбцоўскага р-на; 6.1.1965 г. раён аднаўлены, у яго склад увайшлі Белакорацкі, Вішнеўскі, Валожынскі, Гародзькаўскі, Даўбенскі, Дорскі, Забрэзскі, Залескі, Пяршайскі, Ракаўскі, Сакаўшчынскі, Сугваздаўскі, Узбалацкі, Яршэвіцкі с/с з Маладзечанскага р-на, г.п. Івянец, Волменскі, Зарэчанскі, Падневіцкі с/с з Стаўбцоўскага р-на, Багданаўскі с/с (за выключэннем 24 населеных пунктаў Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл.); 22.5.1967 г. ўтвораны Пад-



*Налібоцкая пушча ў Валожынскім раёне.*

Рака Ісхач у Валожынскім раёне.



бярэзскі с/с; 12.8.1970 г. Волменскі с/с перададзены Дзяржынскаму р-ну; 16.8. 1973 г. Даўбенскі с/с перайменаваны ў Бабровіцкі, 1.10.1973 г. Зарэчанскі — у Івянецкі; 29.7.1976 г. ліквідаваны Белакорацкі с/с. На 1.1.1991 г. ў раёне г.п. Івянец, 17 сельсаветаў: Бабровіцкі, Багданаўскі, Валожынскі, Вішнеўскі, Гародзькаўскі, Дорскі, Забрэзскі, Залескі, Івянецкі, Падбярэзскі, Падневіцкі, Пяршайскі, Ракаўскі, Сакаўшчынскі, Сугваздаўскі, Узбалацкі, Яршэвіцкі. 30.10. 2009 г. скасаваны Бабровіцкі, Забрэзскі, Падбярэзскі, Сугваздаўскі с/с, іх тэр. ўключаны адпаведна ў Валожынскі, Гародзькаўскі, Вішнеўскі, Дорскі с/с. Пл. раёна 1,9 тыс. км$^2$. У раёне 428 населеных пунктаў. Насельніцтва 38,5 тыс. чал. (2010); гар. 40%. Асн. насельніцтва — беларусы (84,2%), жывуць таксама палякі (10,8%), рускія (3,8%) і інш. (1,2%). Цэнтр раёна — г. Валожын. Шчыльнасць насельніцтва 19 чал. на км$^2$. Паверхня раўнінна-ўзгорыстая. Пераважаюць вышыні 150—250 м, максімальная — 335 м (г. Маяк каля в. Шапавалы). Карысныя выкапні: торф, гліны, пясчана-жвіровы матэрыял, будаўнічыя пяскі. Сярэдняя тэмпература студз. -6,7 °C, ліп. 17,5 °C. Ападкаў 659 мм за год, вегетацыйны перыяд 187 сутак. Знаходзіцца на адгор'ях двух узвышшаў — Мінскага (на У) і Ашмянскага (на Пд). На ПдЗ — забалочаная Нёманская нізіна, акаймаваная больш павышанай нізінай пры р. Бярэзіна (бас. Нёмана) з прытокамі Ісхач, Альшанка, Волка. На р. Бярэзіна Сакаўшчынскае вадасховішча.



Рака Волма каля г.п. Івянец.

Сельгасугоддзі займаюць пл. 93,8 тыс. га (49,4%). Пад лесам занята 38% тэр. раёна, асн. лясны масіў — Налібоцкая пушча (на ПдЗ). Сярэдні бал урадлівасці с.-г. угоддзяў — 35, ворыва — 38, кармавых угоддзяў — 29. Найвышэйшы бал банітэту с.-г. угоддзяў — 40, ніжэйшы — 32.

На тэр. раёна ў канцы 1980-х г. працавалі 16 калгасаў, 7 саўгасаў, у 2009 — 19 с.-г. арг-цый. Іх спецыялізацыя — мяса-малочная жывёлагадоўля, птушкагадоўля, ільнаводства. Значныя пл. ў земляробстве займаюць пасевы збожжавых, гародніны і бульбы. У прамысловасці вядучае месца належыць перапрацоўцы сельгаспрадукцыі, керамічнай і хімічнай прам-сці. Па тэр. раёна праходзіць чыгунка Маладзечна—Ліда, аўтамабільныя дарогі Мінск—Вільнюс, Мінск—Ліда, Маладзечна—Валожын, Валожын—



Івянец—Стоўбцы. Транзітны газаправод Мінск—Гродна з адгалінаваннямі на Валожын і Пяршаі. Каля 30% тэр. раёна забруджана радыенуклідамі ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

На тэр. раёна дзейнічаюць 10 прам. прадпрыемстваў: ААА «Івянецкі з-д мастацкай керамікі», дзярж. лесагасп. ўстанова «Валожынскі вопытны лясгас», ААА «Валожынскі льнокамбінат», ААА «Валожынская аграпрамтэхніка», ААА «Валожынскі масласырзавод», УП «Валожынскі кааппрам», сумеснае прадпрыемства «Іўкон» ААА (Івянецкая кандытарская ф-ка), УП «Іва» ААА «Маладзечналес», ААА «Аграсервіс-6», вытв-сць № 1 ААА «Завод «Белпласт», УП «Івянецкая крыніца». Дзейнічалі (2007) сярэдняе прафес.-тэхн. вучылішча с.-г. вытв-сці, гімназія, 13 сярэдніх, 3 комплексы сярэдняя школа—сад, 2 школы-інтэрната, 10 базавых школ, 17 пач. школ, 2 школы мастацтваў, 4 муз. школы, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, 26 дашкольных устаноў, раённы Цэнтр культуры, пасялковы і 16 сельскіх Дамоў культуры, 12 клубаў, 36 б-к, 2 кінатэатры, 31 кінаўстаноўка, Дзярж. музей у Івянцы, 4 бальніцы, 18 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 6 урачэбных амбулаторый, 6 аптэк, дзіцячы санаторый «Налібоцкая пушча», дом адпачынку НАН Беларусі «Іслач», аздараўленчы цэнтр «Верасок». Зоны адпачынку: рэсп. значэння Івянец, мясц. — Іслач. Выдаецца раённая газ. «Працоўная слава». Захавалася 128 помнікаў гісторыі і культуры, у т.л. 14 помнікаў археалогіі, 42 — архітэктуры, 72 — гісторыі. Помнікі археалогіі: курганныя могільнікі (в. Высокае, г.п. Івянец, в. Лужаны), гарадзішчы і селішчы (в. Замасцяны, Калдыкі, Камень, Кашчэлічы, Ракаў, Узбалаць, Ясенішкі, Яршэвічы), стаянка (в. Падбярэзь) і інш. Помнікі архітэктуры: касцёл св. Міхаіла (1844) у в. Багданава; Казьмадзям'янаўская царква і касцёл св. Марыі (1637—41) у в. Вішнева; цэрквы ў вёсках Гародзькі (1866), Даўбені (1869), Дубіна-Баярская (1868), Забрэззе (1867), Кіявец (1869), Сакаўшчына (1878), Славенск (1868—71), Яршэвічы (2-я пал. 19 ст.); капліца пач. 20 ст. ў в. Дзесятнікі; сядзіба канец 19 — пач. 20 ст. ў в. Залессе; царква (1856) і касцёл (1930) у в. Лоск; капліца (1852) у в. Падневічы; капліца-пахавальня 2-й пал. 19 ст. ў в. Пральнікі; касцёл пач. 20 ст. ў в. Пяршаі; Праабражэнская царква (1793), капліца 2-й пал. 19 ст., касцёл (1906) у в. Ракаў; палац канца 19 — пач. 20 ст. ў в. Рудня; капліца канца 19 — пач. 20 ст. ў в. Цвіраўшчына. Помнікі прыроды рэсп. значэння: Сіняя гара, г. Ходчыка, г. Замачак, Ракаўскі кангламерат, Вялікі Камень (в. Агароднікі), Бразавы камень (в. Алянава), Васькаў камень (в. Аўгустова), Камень-следавік (в. Макасічы), Кучкуноўскі камень (в. Кучкуны), Чортавы камяні (каля в. Камень і Ратынцы) і інш.

**ВАЛОЖЫН** — горад, цэнтр раёна, сельсавета і філіяла ТДА «Паркінг» «Валожынскі». За 75 км на ПнЗ ад Мінска, 17 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, на аўтадарозе Мінск—Гродна. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на р. Валожынка (правы прыток р. Іслач). 11,2 тыс. жыхароў (2008).



*Рака Валожынка ў Валожынскім раёне.*

Узнік як паселішча на берагавым плато р. Валожынка, паблізу гандлёвага шляху. У паўд.-ўсх. частцы сучаснага горада захавалася гарадзішча, дзе знойдзены фрагменты штрыхаванага посуду. Вядомы ў ВКЛ з 1430 г. калі гэта было сяло, цэнтр воласці, з'яўлялася ўласнасцю казны. Пад 1440 г. упамінаецца ў «Хроніцы Быхаўца». У 1451 г. сяло пажалавана шляхціцу, а ў 1539 г. стала ўласнасцю каталіцкай царквы. Некаторы час ім валодалі князі Валожынскія, «уплывовыя дзяржаўныя мужы». Барацьба за вялікакняжацкі прастол, у якую феадалы ВКЛ уцягнулі 5 братоў Валожынскіх, скончылася для іх трагічна. Кароль Казімір IV Ягелончык разграміў удзельнікаў змовы і пакараў іх, а Валожын з усімі землямі і сялянамі перадаў свайму прыхільніку феадалу І.Манвіду, аб чым паведамляе Літоўская метрыка. У канцы 15 — пач. 16 ст. Валожын перайшоў да графа А.Гаштольда, які ў 1500 г. пабудаваў тут касцёл. З 1507 г. Валожын у Навагрудскім ваяв., цэнтр староства, з 1559 г. вядомы як мястэчка, цэнтр маёнтка. З 1566 г. ў Ашмянскім павеце. Кароль Сігізмунд Аўгуст у 1567 г. перадаў горад магнату М.Радзівілу, які ў 1614 г. прадаў яго шляхецкаму роду Слушак, якія заснавалі ў Валожыне бернардзінскі кляштар і ў 1681 г. пабудавалі школу пры ім. Каля 1683 г. тут пачало дзейнічаць праваслаўнае брацтва. У другой пал. 16 — пач. 17 ст. ў мястэчку 1 раз у тыдзень праводзіліся таргі або кірмашы, на якіх гандлявалі жывёлай, скурай, збожжам, мёдам, грыбамі, рыбай, арэхамі, цэбрамі, кошыкамі і інш. с.-г. і рамесніцкімі таварамі. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1656 гг. у Валожынскім старостве прынялі шырокія памеры антыфеад. выступленні, якія жорстка падаўляліся. У пастанове сейміка Ашмянскага павета ад 28.4.1657 г. адзначалася, што за час вайны маёнткі «да апошняга прыйшлі ў заняпад».

З 1713 г. Валожынам валодаў У.Даенхоф, які купіў яго ў Слушак. У 1785 г. 185 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Валожын у Ашмянскім павеце Віленскай губ. У канцы 18 ст. ва ўладанні Радзівілаў, якія затым прадалі яго магнатам Чартарыйскім, а тыя ў 1803 г. за 100 тыс. злотых прадалі графу Тышкевічу. У гэты час мястэчка налічвала 2446 жыхароў. У 1782—1806 гг. паводле праекта архітэктара А.Касакоўскага пабудаваны мураваны палац, які зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму. З 1806 г. да 1892 г. ў Валожыне працавала яўр. духоўная акадэмія (ешыбот), у якой навучалася больш за 400 студэнтаў з Расіі, Англіі, Сірыі і інш. краін. У 1892 г.

*Паўночны флігель Валожынскага палаца Тышкевічаў.*



*Касцёл св. Юзафа ў г. Валожын.*





міністэрства нар. асветы надала гэтай навучальнай установе статус нар. яўр. вучылішча. У 1810 г. трокскі ваявода Слушка пабудаваў тут царкву Параскевы.

У ліп. 1812 г. Валожын быў заняты французскімі войскамі, у ліст. 1812 г. вызвалены рус. войскамі. У 1816 г. пабудаваны з цэглы касцёл св. Юзафа (у 1816 г. перабудаваны пад царкву), які зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму. У 1-й пал. 19 ст. мястэчка было вядома як цэнтр гандлю жывёлай і с.-г. сыравінай. Развіваліся рамёствы і хатняя выпрацоўка тканіны, адзення, абутку, посуду, гасп. інвентару і інш. Працаваў невял. лесапільны з-д, пабудаваны ў 1850-х г., была развіта мукамольная вытв-сць. У 1865 г. ў мястэчку здарыўся вял. пажар, у выніку якога згарэла больш за 100 пабудоў. У 1861 г. 183 двары, 2828 жыхароў, царква, касцёл, бернардзінскі манастыр, малітоўная школа, па нядзелях праводзіліся таржкі, 4 разы ў год — кірмашы. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча, у якім у 1888 г. навучалася 87 хлопчыкаў. У 1883 г. дзейнічала таксама 2-класная царк.-прыходская школа. У 1866 г. пабудавана з дрэва царква Канстанціна і Алены, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У 1880 г. ў мястэчку працавалі 2 багадзельні, 25 лавак, суконная ф-ка, 2 заезныя дамы. У 1892 г. пабудавана лячэбніца на 10 ложкаў. У 1897 г. 480 двароў, 3197 жыхароў, 3 цар-квы, 4 яўр. малітоўныя школы, царк.-прыходскае 2-класнае вучылішча, жаночае царк.-прыходскае вучылішча, нар. вучылішча, яўр. казённае нар. вучылішча, сельская лячэбная аптэка, хлебазапасны магазін, 70 лавак, заезны дом, 16 піцейных дамоў, 2 аптовыя вінныя склады. Побач з мястэчкам знаходзілася мыза Валожын (6 двароў, 59 жыхароў).

Канец 19 — пач. 20 ст. адзначаны пашырэннем рабочага руху. У 1901 г. ў Валожыне баставалі работнікі кравецкіх майстэрань, якія патрабавалі паляпшэння свайго эканам. становішча. Узнікла арг-цыя РСДРП, у склад якой уваходзіла 30 чалавек. Крывавая нядзеля 9.1.1905 г. знайшла водгук і ў Валожыне. Тут на кірмашовай пл. праходзілі мітынгі рамеснікаў і сялян з маёнтка графа Тышкевіча, 11—21.1.1905 г. праходзілі забастоўкі пад лозунгам «Далоў самадзяржаўе», якія былі падаўлены казакамі. Многія чл. Валожынскай групы РСДРП былі арыштаваны.

Летам 1905 г. валожынскія сац.-дэмакраты ўзмацнілі рэв. прапаганду, распаўсюджвалі пракламацыі «Першая перамога рэвалюцыі» і «Салдацкая памятка», выдадзеныя Паўн.-Зах. камітэтам



*Царква Роўнаапостальных Канстанціна і Алены ў г. Валожын.*



*Жылы дом пачатку 20 ст. ў г. Валожын.*

РСДРП. 15.8.1905 г. канферэнцыя акружной арг-цыі РСДРП рэкамендавала Валожынскай групе РСДРП «узмацніць уплыў РСДРП сярод сялян, стварыць у Даўгінаве, Валожыне... — рэвалюцыйныя сялянскія камітэты». У ліст. 1905 г. адбылося буйное выступленне жыхароў мястэчка і суседніх вёсак у сувязі з выхадам «Маніфеста 17 Кастрычніка». Пасля паражэння рэвалюцыі 1905—07 гг. Валожынская група РСДРП панесла значныя страты, але ўжо ў 1908 г. аднавіла сваю дзейнасць.

У 1-ю сусветную вайну Валожын стаў прыфрантавым, уваходзіў у зону дзейнасці часцей 10-й арміі Зах. фронту. Герм. войскі восенню 1915 г. былі спынены за 20 км на З ад Валожына, каля вёскі Лоск. 19—23.10.1917 г. ў Валожыне праходзіў з'езд дэлегатаў 3-га армейскага корпуса 10-й арміі. Ён паказаў узрослы ўплыў бальшавікоў на нар. масы, абраў новы склад корпуснага к-та і дэлегатаў на з'езд Саветаў 10-й арміі. У склад корпуснага к-та ўваходзілі 5 бальшавікоў, 1 меншавік, 1 эсэр. Дэлегатам на 2-і Усерас. з'езд Саветаў быў абраны бальшавік С.Гулінскі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 10.11.1917 г. ў Валожыне пачаў дзейнічаць вал. Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які пачаў ствараць органы сав. улады на месцах. 19.2.1918 г. мястэчка было занята герм. войскамі. У пач. кастр. 1918 г. сяляне навакольных вёсак пад кіраўніцтвам бальшавікоў узнялі паўстанне. Група ўзброеных сялян на чале з М.В.Рыдынам напала ноччу на атрад варожых салдат у маёнтку Шапавалы, абяззброіла іх і пайшла на Валожын, дзе знаходзілася герм. камендатура. Частка герм. салдат перайшла на бок сялян. На мітынгу ў Валожыне быў выбраны рэўком на чале з Рыдынам, у які ўвайшлі і герм. салдаты. Праз 2 тыдні акупанты падавілі паўстанне. У 2-й пал. снеж. 1918 г. часці Чырвонай Арміі вызвалілі Валожын. З 1.1.1919 г. ў складзе БССР, з лют. — у Літ.-Бел. ССР. У пач. студз. 1919 г. тут прайшлі выбары ў вал. Савет. У крас.—чэрв. 1919 г. мястэчка акупіравана польскімі войскамі, а ў чэрв. 1919 г. Чырвоная Армія зноў вызваліла Валожын. У другі раз Валожын акупіраваны польскімі войскамі ў ліп. 1919 г. — ліп. 1920 г., у трэці — з кастр. 1920 г. Паводле дагавора паміж Сав. Расіяй і Літвой ад 12.7.1920 г. Валожын і зах. частка сучаснага Валожынскага р-на адыходзілі да Літвы, але трэцяя польская акупацыя не дазволіла на практыцы ажыццявіць гэты падзел. Паводле Рыжскага мірнага дагавора, паміж Польшчай з аднаго боку, Сав. Расіяй і Украінай — з другога, Валожын з сак. 1921 г. — у складзе Польшчы як цэнтр павета Навагрудскага ваяв. У 1921 г. 379 двароў, 2630 жыхароў. У 1920—30-х

*Жылыя дамы пачатку 20 ст. ў г. Валожын.*









*Забудова цэнтральнай часткі г. Валожын.*

г. у Валожыне пачалі дзейнічаць некалькі дрэваапрацоўчых і харч. прадпрыемстваў, а ў 1926 г. — герм. лесарасрацоўчая фірма «Когаліт». У Валожыне стаяў ваенны гарнізон, размяшчалася камендатура павятовай польскай паліцыі. У 1922—23 гг. дзейнічала Бел. рэв. арг-цыя (БРА), якая вяла барацьбу за ўз'яднанне з БССР. У кастр. 1923 г. была створана КПЗБ, у склад якой 30.12.1923 г. ўвайшла БРА. У 1924 г. быў створаны Валожынскі падпольны райком КПЗБ, які разгарнуў шырокую прапаганду за нац. і сац. вызваленне, арганізоўваў забастоўкі, стачкі, дэманстрацыі. З чэрв. 1925 г. да студз. 1927 г. дзейнічала арг-цыя Бел. сял.-рабочай грамады (БСРГ). У Віленскім акруговым судзе 11—14.5.1928 г. праходзіў працэс над 21 чл. БСРГ Валожынскага павета. Усе яны былі асуджаны на розныя тэрміны турэмнага зняволення. З 1934 г. падп. райком КПЗБ узначаліў актыўны ўдзельнік рэв. руху ў павеце Дз.Д.Сівы. У 1935 г. з дапамогай падп. райкома КПЗБ была створана прафс. арг-цыя на лесапільных прадпрыемствах Валожына, якую ўзначаліў І.І. Зянько. Восенню 1936 г. гэты прафсаюз арганізаваў забастоўку, у якой удзельнічалі 800 рабочых розных прадпрыемстваў Валожына. Улады вымушаны былі прызнаць рабочы прафсаюз, увесці 8-гадзінны прац. дзень і павысіць зарплату. За 1935—39 гг. ў Валожыне адбыліся 6 забастовак, у якіх удзельнічалі каля 6 тыс. чал. Вял. арганізацыйна-масавую работу вяла падп. камсамольская арг-цыя, якую ўзначаліў В.А.Ракавец. Яна налічвала 100—120 чал. У мястэчку дзейнічала 7-гадовая школа, выкладанне ў якой вялося на польскай мове. Працаваў 1 урач.

17.9.1939 г. Валожын быў вызвалены Чырвонай Арміяй. На прадпрыемствах адразу пачалі дзейнічаць к-ты рабочага кантролю. Былі адкрыты дзве 7-гадовыя школы, выкладанне ў якіх вялося на бел. мове. Адбыліся і інш. сац.-эканам. пераўтварэнні. У Нар. сходзе Зах. Беларусі, які адбыўся 18.10.1939 г. ў Беластоку, Валожын прадстаўляў удзельнік рэв. руху Ю.І.Южык. У ліст. 1939 г. Валожыншчына далучана да БССР. У 1940 г. Валожын набыў статус горада. На яго ўскраіне была засн. МТС.

У пач. Вял. Айч. вайны аднымі з першых уступілі ў бой супраць фашыстаў часці 24-й Жалезнай Самара-Ульянаўскай двойчы Чырванасцяжнай стралк. дывізіі, якая ўваходзіла ў 21-ы стралк. корпус. Яна вяла жорсткія баі ў ваколіцах горада. 25.6.1941 г. гітлераўцы занялі Валожын. Па вуліцы «Зялёны плац» акупанты спалілі 50 чалавек. Усё яўр. насельніцтва горада было сагнана ў гета, дзе ўтрымлівалася каля 2000 чал. Да канца лета 1943 г. яны былі знішчаны гітлераўцамі і іх памагатымі. 5.7.1944 г. горад быў вызвалены часцямі

*Узнясенская капліца ў г. Валожын. 1980-я г.*




*Сучасны герб горада Валожын.*

3-й гв. танкавай брыгады (камандзір палкоўнік К.А.Грыцэнка), 18-й гв. танкавай брыгады (камандзір падпалкоўнік В.І.Есіпенка), 2 гв. мотастралк. брыгады (камандзір падпалкоўнік Дз.Н. Даўганаў) 3-га гв. танкавага корпуса (камандзір ген.-лейт. І.А.Воўчанка) 5-й гв. танкавай арміі (камандзір маршал бранятанкавых войск П.А.Ротмістраў) 3-га Бел. фронту пры ўзаемадзеянні з партызанамі. У гонар гэтай падзеі ў Валожыне ў 1967 г. пастаўлены помнік. У брацкай магіле, што на пл. Свабоды, каля Дома Саветаў, пахаваны 160 сав. воінаў і 6 партызан. Сярод іх Герой Сав. Саюза, камандзір разведвальна-дыверсійнага атрада В.В.Шчарбіна. На могілках у брацкай магіле пахавана 210 воінаў і 14 партызан. На гары Высокай знаходзіцца магіла ахвяр фашызму, дзе пахавана 1000 мірных грамадзян, у цэнтры горада магіла 100 грамадзян, расстраляных гітлераўцамі. Гітлераўцы спалілі ў Валожыне 1250 дамоў, загубілі 2600 жыхароў. На франтах загінулі 22, у партыз. атрадах і падп. барацьбе — 105 чалавек.

20.9.1944 г. Валожын як цэнтр раёна ўвайшоў у склад Маладзечанскай вобл. У снеж. 1944 г. сесія раённага Савета дэпутатаў працоўных вырашыла выдзеліць 3 млн. руб. на пяцігодку для аднаўлення мясц. прам-сці, жылля і добраўпарадкавання горада. У 1944 г. засн. метэаралагічная станцыя. З 1945 г. пачаў працаваць прамкамбінат. У хуткім часе былі пабудаваны маслазавод, хлебапякарня, прамарцель «Перамога», смалакурны з-д. Умацоўвалася матэрыяльна-тэхн. база Валожынскай МТС, якая ў той час абслугоўвала 17 гаспадарак. У 1950—53 гг. пры МТС дзейнічаў палітаддзел, які выпускаў газету «За сталінскі ўраджай». У 1956 г. Валожын стаў пераможцам у рэсп. спаборніцтве па добраўпарадкаванні і паляпшэнні санітарнага становішча габарадоў і райцэнтраў. Пашыралася сетка культасветустаноў. Аднавілі сваю дзейнасць раённы Дом культуры, 2 б-кі, кінатэатр, муз. школа. Павялічылася колькасць прадпрыемстваў быт. абслугоўвання.

1.1.1963 г. Валожынскі р-н быў скасаваны і ўвайшоў у склад Маладзечанскага р-на Мінскай вобл., а ў студз. 1965 г. адноўлены. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, 24.2.1951 г. — калгасы імя М.І.Калініна і «Чырвоны Сцяг», 26.6.1959 г. калгас «Світанне», якія затым увайшлі ў склад калгаса імя У.І.Леніна, 12.4.1951 г. калгас імя Я.Коласа. У 1998 зацверджаны сучасны герб Валожына: у чырвоным полі «варажскага» шчыта залатая літара «W» з чорнымі палоскамі. У 2007 г. працавалі аграпрамтэхніка, цэх пластмасавых вырабаў, цэх вытв. аб'яднання «Белпласт», ільнокамбінат, хлебакамбінат, масласырзавод, камбінат быт. абслугоўвання, дзейнічаюць сельгасхімія, лясгас (арганізаваны ў 1939 г.), ёсць с.-г. прафес. ліцэй, вучэбна-курсавы камбінат Мінскага аблсельгасхарча, 2 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спарт. і муз. школы, школа-інтэрнат, цэнтр пазашкольнай работы, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, 4 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Цэнтр культуры, краязнаўчы музей, кінатэатр, гасцініца, 3 б-кі, бальніца, паліклініка, аптэкі, аддз. сувязі,

*Горад Валожын. Алея перад райвыканкамам.*





магазіны, гідраметэаралагічная станцыя «Валожын», стадыён, спарт. пляцоўкі. Выдаецца газ. «Працоўная слава».

У горадзе размяшчаўся цэнтр калгаса імя У.І.Леніна, які спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, меў 3573 га с.-г. угоддзяў, у т.л. 1788 га ворыўнай зямлі, 18 трактароў, 44 збожжаўборачныя камбайны, 32 грузавыя аўтамашыны. Гаспадарка складалася з 7 вытв. брыгад і 7 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці было занята 25 спецыялістаў з вышэйшай і 22 з сярэдняй спец. адукацыяй. У горадзе размяшчаліся 2 вытв. калгасныя брыгады, машынны двор, піларама.

Першапачатковую лінейную планіроўку вызначала стараж. гарадзішча (сучасныя вуліцы Савецкая, Шчарбіны) з гандл. плошчай (сучасная плошча Свабоды). Вакол фарміравалася дробнаквартальная вулічная сетка. У 1920—30-я г. сучасная вуліца М.Горкага была забудавана дамамі-сядзібамі ваеннага ведамства. 1-ы ген. план, складзены ў 1958 г. Белсельпраектам, вызначыў развіццё грамадскага цэнтра горада. Па генплану 1971 г. (Мінскі філіял цэнтр. н.-д. і праектнага Ін-та горадабудаўніцтва) ажыццёўлена функцыянальнае заніраванне, узвядзенне будынкаў культурна-быт. прызначэння, 2—5-паверховых жылых дамоў (вуліца Партызанская). Сучасныя жылыя мікрараёны склаліся па завулку Падгорным і вуліцы Чапаева. Грамадскі цэнтр (плошча Свабоды) фарміруюць будынкі Дома культуры (1954), Дома саветаў і кінатэатра (1970), універмага. Апошні генплан распрацаваны ў 1981 г., карэкціроўка 1994 г. (БелНДІПгорадабудаўніцтва), у адпаведнасці з якім прам. прадпрыемствы групуюцца ў паўд.-ўсх. і паўн.-зах. частках. Гал. магістраль — вуліца Савецкая — забудавана з паўн.-ўсх. боку пераважна індывідуальнай малапавярховай забудовай, з паўд.-зах. — мураванымі будынкамі. Жыллёвае будаўніцтва вядзецца і ў зах. частцы горада. На плошчы Свабоды і вакол вадаёма па вуліцы Савецкай створаны скверы. У горадзе знаходзяцца 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, магілы ахвяр фашызму. Помнік археалогіі ў паўд.-зах. частцы горада, за 0,5 км на Пд ад аўтавакзала гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі. Помнікі архітэктуры: палац графа І.Тышкевіча (1782—1806), царква Канстанціна і Алены (1866), касцёл св. Юзафа (1816), будынак ешыбота (яўр. духоўная акадэмія, 1806), жылыя дамы пач. 20 ст. Помнікі: Вызвалення

*Горад Валожын: 1 — помнік на брацкай магіле загінуўшых у Вялікую Айчынную вайну; 2 — плошча Свабоды.*



1



2




(1967); у гонар 60-годдзя Сав. Арміі (1978), абеліск у гонар 50-годдзя Сав. улады (1967), бюст Герою Сав. Саюза В.В.Шчарбіне (1972). Самадзейным аўтарам П.Скарынкам створаны манументальна-дэкаратыўныя скульптуры «Айбаліт», «Хлопчык з дэльфінам», манумент у гонар 50-годдзя Кастрычніка і інш. У Валожыне нарадзіўся бел. пісьменнік, фалькларыст і публіцыст Стары Улас (сапр. Сівы-Савіцкі Уладзіслаў Пятровіч; 1865—1939). На доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.


*Стары Улас.*

У склад Валожынскага с/с уваходзяць 58 населеных пунктаў (2010).

**АБРАМАЎШЧЫНА** — былая вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 36 км на ПдУ ад Валожына, 38 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Маладзечна—Мінск, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кульшычы і далей па шашы Мінск—Вільнюс.

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. вёска, уладанне І.Сокала, у Мінскім ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 65 жыхароў, уладанне старасценкі Д.Салагуб. У 1858 г. в. Абрамаўшчызна, 27 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. 12 двароў, 92 жыхары, у Івянецкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 13 двароў, 101 жыхар. З 1921 г. да 17.9. 1939 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 97 жыхароў, у Івянецкай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. 1.9.1950 г. арганізаваны калгас «Прыхільнік міру», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. — 117 жыхароў, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Залескім с/с, за 55 км на У ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мададзечна—Мінск, 34 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Радашковічы, якая праходзіць побач з вёскай. 25 гаспадарак, 32 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. У 1718 г. вёска, 6 двароў, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас.

*Фрагмент забудовы г. Валожын.*



*Будынак ешыбота ў г. Валожын.*





імперыі. У 1800 г. 15 двароў, уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. У 1897 г. 27 двароў, 170 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 190 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 35 двароў, 216 жыхароў, у Ракаўскай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 20.1. 1960 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. да 26.8. 1961 г. ў Гіравіцкім с/с. У 1959 г. 261 жыхар. З 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-не. У 1952 г. арганізаваны калгас «Працаўнік», які абслугоўвала Залеская МТС, потым у складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 45 двароў, 78 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 14 км на У ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 73 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Багушоўка і далей па шашы Мінск—Валожын. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 62 жыхары, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета, уласнасць С.Ратынскага і І.Рожэрсана. У 1858 г. 33 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка В.Тышкевіча. У 1897 г. 10 двароў, 71 жыхар, ветраны млын, лясная вартоўня (1 двор, 4 жыхары), у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 113 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 147 жыхароў, у Пяршайскай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. У 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны агароднік», які абслугоўвала Валожынская МТС, потым у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 122 жыхары, у Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1994 г. 30 двароў, 65 жыхароў, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**АГАРОДЧЫКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 22 км на З ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 62 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 49 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 38 двароў, 197 жыхароў. З 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1959 г. 119 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Зялёны гай», які абслугоўвала Вішнеўская МТС, потым у складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1994 г. 36 двароў, 85 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ паралельна да





шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АДАМАЎЦЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 27 км на У ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск, 48 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і Пд цячэ р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1797 г. в. Адамавін, 36 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Карніцкага. У 1800 г. 13 двароў, 71 жыхар. У 1897 г. 20 двароў, 201 жыхар, у Германішскай вол. Вілейскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 23 двары, 172 жыхары, у Гарадоцкай вол. Вілейскага павета Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 вяскоўцаў. 16.11. 1949 г. арганізаваны калгас імя М.А. Булганіна, які абслугоўвала Залеская МТС. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1958 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 178 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Разгінішкі. У 1994 г. 36 двароў, 73 жыхары. Размяшчаліся філіял ААТ «Белтрубаправодбуд», б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і аб'яднаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АДАМКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 42 км на У ад Валожына, 57 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пагарэлка і далей па шашы Валожын—Івянец. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 41 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Плявакі. У 1897 г. 10 двароў, 68 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 13 двароў, 81 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 20 двароў, 114 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сівіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У 1940 г. 23 двары, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. У 1952 г. арганізаваны калгас «Адамкі», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1952 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., у Каменскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. У 1959 г. 110 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 17 двароў, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Асобныя сял. двары адмежаваны на паўд.-зах. і ўсх. баках.

**АДАМОВА** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 1954), цэнтр ААТ «Белтрубаправодбуд», за 17 км на З ад Валожына, 14 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць



непадалёку ад вёскі. 68 гаспадарак, 174 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Адамоў, 8 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., уладанне памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 33 двары, 199 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 221 жыхар, дзейнічала школа граматы, у 1908 г. 298 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 27 двароў, 171 жыхар, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 41 двор, 275 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў — 19 воінаў і партызан і 18 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, пастаўлены ў 1969 г. абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 4.1. 1949 г. арганізаваны калгас «30 год БССР». З 3.9.1950 г. ў складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага, цэнтрам якога была в. Запур'е, а з 3.4.1954 г. в. Адамова. Абслугоўвала калгас Валожынская МТС. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1959 г. 246 жыхароў. У 1969 г. 66 двароў, 267 жыхароў. Калгас імя І.Д.Чарняхоўскага спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, меў 2163 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1370 га ворыўнай зямлі, 10 трактароў, 30 збожжаўборачных камбайнаў, 20 грузавых аўтамашын і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з 1 брыгады і 4 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці было занята 10 спецыялістаў з вышэйшай і 20 з сярэдняй спец. адукацыяй. У вёсцы размяшчаліся брыгада раслінаводства, машынны двор, піларама, сталярна-цяслярная майстэрня, былі клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая, АТС, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 90 двароў, 248 жыхароў. Дзейнічаў клуб. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц: адна шыротнай арыентацыі, другая арыентавана з ПдЗ на ПнУ, трэцяя — мерыдыянальнай арыентацыі, аб'ядноўвае па цэнтры дзве першыя. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. сял. дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на паўд.-зах. ускраіне, вытв. сектар — на Пд.

**АДАМПОЛЕ** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 2 км на ПнУ ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Даманоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Адамполь, 12 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв. У 1897 г. в. Адамполь (яна ж Камароўцы), 18 двароў, 117 жыхароў. Побач былі засценак (1 двор, 12 жыхароў) і фальварак (2 двары, 14 жыхароў). У 1904 г. ў вёсцы 131 жыхар, у засценку 3, у фальварку 5 жыхароў. У 1908 г. ў в. Адамполь 144 жыхары, у в. Адамполь 1 — 59 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 20 двароў, 134 жыхары, у фальварку 2 двары, 44 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя П.І.Чайкоўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 147 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 10.2.1963 г. ў складзе калгаса «Чырво-

ны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 26 двароў, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЕКСАНДРОВА** — вёска ў Дорскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 5 двароў, 31 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. У 1908 г. 36 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 9 двароў, 59 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 10 двароў, 71 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1952 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім р-не. З 10.2.1963 г. ў складзе калгаса імя «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчалася свінагадоўчая ферма. У 1959 г. 45 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 14 двароў, 32 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**АЛЕШЧАНЯТЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 16 км на З ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Роўкавічы, Куцяняты і далей па шашы Валожын—Гародзькі. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 14 двароў, 94 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 97, у 1908 г. 88 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 17 двароў, 82 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, потым у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). У 1959 г. 71 жыхар, у Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 15 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЬШАНКА** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 26 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ ручай, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 78 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 24 двары, 154 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 185 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 41 двор, 223 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 44 двары, 277 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7. 1957 г. — у складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 189



жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Гродзенскай вобл., у Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 50 двароў, 117 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЯНАВА** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гірбінята і далей па дарозе Баруны—Багданава, шашы Валожын—Ашмяны. 24 гаспадаркі, 34 жыхары (2008).

У 1897 г. в. Валянава, 21 двор, 151 жыхар, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 26 двароў, 145 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы, з 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У вер. 1950 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, б-ка з фондам 7,9 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 150 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Гродзенскай вобл., у Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 35 двароў, 75 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АНУЛІНА** — хутар у Яршэвіцкім с/с, за 36 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бакшты, Дварэц, Есьманаўцы, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. хутар Анулін (ён жа Бакшты), 23 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 8 двароў, 41 жыхар. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Традыц. драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**АНЦЭЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 34 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Мелькаўшчызна на лініі Маладзечна—



*Могілкі нямецкіх салдат, загінуўшых у 1-ю сусветную вайну, у в. Алянава.*





Ліда, 105 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 15 двароў, 122 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 119, у 1908 г. 131 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 26 двароў, 71 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У вер. 1950 г. арганізаваны калгас «Праўда», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1959 г. 126 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Гродзенскай вобл., у Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 27 двароў, 50 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**АРЛОЎШЧЫНА** — былы хутар у Ракаўскім с/с, за 44 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 41 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Ракаў—Івянец, якая праходзіла непадалёку ад хутара.

Засн. ў пач. 20 ст. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1988 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. Планіровачна складаўся з адасобленых сял. двароў, аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**АРЛОЎШЧЫНА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 46 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляховічы на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Івянец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1794 г. вёска, 3 двары, 17 жыхароў, уладанне М.К.Агінскага. У 1822 г. засценак. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт». У 1959 г. 49 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 1 двор, 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з адасобленых традыц. драўляных сял. сядзіб, аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**АСІНАВІЦА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 26 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малое Запруддзе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1897 г. засценкі Асінавіца 1 (1 двор, 9 жыхароў) і Асінавіца 2 (2 двары, 15 жыхароў), у Забрэжскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў Асінавіцы 1 — 10 жыхароў, у Асінавіцы 2 — 21 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, засценак, 5 двароў, 31 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гародзькаўскім с/с Вало-



жынскага р-на Баранавіцкай вобл., 6 двароў, 39 жыхароў. З 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў калгасе імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Лоск). У 1959 г. в. Асінаўшчына, 66 жыхароў. У 1994 г. 11 двароў, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 55 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 38 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Баяршчына, Пральнікі і далей па шашы Ракаў—Івянец. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 1 двор, 8 жыхароў. У 1885 г. хутар у Івянецкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1897 г. 13, у 1908 г. 10 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак і асада, 14 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя М.В.Фрунзе. З 1962 г. ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). У 1994 г. 3 двары, 7 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**АЎГУСТОВА** — вёска ў Валожынскім с/с (з 12.6.1962 г.), за 6 км на З ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Гародзькі—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 48 гаспадарак, 100 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Аўгустоў, 23 двары, уладанне памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 22 двары, 147 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 166, у 1908 г. 180 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 37 двароў, 218 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 47 двароў, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў змагаліся супраць гітлераўцаў на франтах, 4 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У вер. 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.6. 1959 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, вытв. брыгада, магазін. У 1959 г. 297 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 66 двароў, 150 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая ў цэнтры перпендыкулярна перакрыжоўваецца прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. і паўн.-зах. ускраінах.

**БАБРОВІЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, былы цэнтр сельсавета (з 16.8.1973 г. да 30.12.2009 г.), за 6 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ ручай (левы прыток р. Літанка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць праз вёску. 104 гаспадаркі, 252 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. сяло ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 29 двароў, у графстве Валожын. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. сяло, 47 двароў, 389 жыхароў і аднайменны засценак, 1 двор, 2 жыхары, у Ва-





ложынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1897 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 446 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 89 двароў, 556 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 135 двароў, 819 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 вяскоўцаў. На ўшанаванне памяці 62 воінаў і партызан з вёсак сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1968 г. на паўн. ускраіне вёскі, каля шашы, пастаўлены абеліск са стэламі-сцягамі па баках. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У вер. 1950 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 4.4.1952 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчаліся вытв. ўчастак, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, АТС, магазін, сталовая. У 1959 г. 535 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 138 двароў, 337 жыхароў. У 2007 г. пабудаваны аграгарадок, мае 3194 га зямлі. У 2009 г. размешчаны сельгасупраўленне УП «Бабровічы», 4 фермы, дзярж. УП «Мінскоблгаз», клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін. Асновай планіроўкі з'яўляецца брукаваны адрэзак шашы шыротнай арыентацыі, паўд. бок якой шчыльна забудаваны дамамі сядзібнага тыпу, а паўн. — грамадскімі будынкамі і 1—2-павярховымі жылымі дамамі тыпу катэджаў. Перпендыкулярна да шашы праходзіць працяглая прамалінейная вуліца, забудаваная двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, якую перакрыжоўвае выгнутая вуліца шыротнай арыентацыі з двухбаковай сядзібнай забудовай. Частка забудовы размешчана адасоблена на У, за ручаём. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**БАБРОЎНІКІ** — вёска ў Пральніцкім с/с (з 27.3.1959 г.), за 48 км на ПдУ ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 32 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Цяцераўка (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Суднікі, Шэлеўшчына і далей па шашы Ракаў—Івянец. 27 гаспадарак, 60 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1750 г. вёска, 10 двароў, 32 жыхары мужчынскага полу, вадзяны млын, уласнасць С.Пажарэцкага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 116 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць І.Ратынскага. Затым вёска перайшла да С.Ратынскага. У 1858 г. ў Пральніцкім сельскім т-ве, уласнасць графіні А.Ледухоўскай. У 1897 г. вёска, 18 двароў, 99 жыхароў, фальварак, 1 двор, 11 жыхароў, вадзяны млын, і другі фальварак, 1 двор, 7 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 21 двор, 162 жыхары. З 1921 г. ў Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе, які абслугоўвала Івянецкая МТС. У 1959 г. в. Баброўшчыкі, 199 жыхароў, у Івянецкім р-не Маладзечанскай вобл. З 5.5.1962 г. ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. З 7.7.1962 г. ў Падневіцкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 45 двароў, 106 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.



**БАБРЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 31 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Ластаянцы на лініі Маладзечна—Ліда, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Анцэлеўшчына, Ластаянцы, Падбярэзь, Песлякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1763 г. вёска, 3 двары, 23 жыхары, уладанне К.Вяжэвіча. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 5 двароў, 11 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. хутар у Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 2 двары, 12 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 39 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Гродзенскай вобл., у Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 9 двароў, 17 жыхароў. Была ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, трады. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАГДАНАВА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 52 гаспадаркі, 129 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ як маёнтак Галыпаны. У 1558 г. пры падзеле спадчыны кн. С.Ю.Галыпанскага, гаспадарскага стольніка ВКЛ, маёнтак перайшоў ва ўладанне ваяводзічаў М. і Б. Сапегаў і іх сястры Фядоры. У 1561 г. трэцюю частку маёнтка Б.Сапега запісаў сваёй жонцы княгіні М.Капусцянцы, а ў 1566 г. перайменаваў у гонар свайго імя — Багданава. Тут ён атрымаў дазвол караля Жыгімонта Аўгуста заснаваць мястэчка і трымаць у ім вольныя корчмы, праводзіць штотыднёвыя таргі па чацвяргах і штогадовыя таргі ў дзень Святога Духа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1602 г. — мястэчка і двор, уласнасць сына Б.Сапегі, канюшага ВКЛ, ашмянскага старосты П.Сапегі. У 1653 г. ўладанне Пацаў, з 1696 г. мястэчкам валодалі Данілевічы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі, належала Чаховічам. З 1836 г. — уласнасць Рушчыцаў. У 1844 г. тут пабудаваны касцёл св. Міхаіла, які зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У маёнтку, што быў каля вёскі, нарадзіўся жывапісец, графік, тэатральны дэкаратар і педагог Ф.Э.Рушчыц (10.12.1870—30.10.1936). Тут жа, на вясковых могілках, ён пахаваны. У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Мінскай губ., 31 двор, 190 жыхароў, касцёл, піцейны дом, раз у год (у вер.) праводзіўся таржок. Побач знаходзілася аднайменная мыза, 4 двары,



*Ф.Э.Рушчыц.*

*Ф.Рушчыц. Пустка (Асенні вецер). 1901 г.*



42 жыхары. У 1904 г. ў вёсцы 163 жыхары, у маёнтку Багданава (ён жа Рушыца) 9 жыхароў, у былой карчме Багданава 9 жыхароў. У 1908 г. 185 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 39 двароў, 180 жыхароў, у фальварку 17 двароў, 81 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 43 двары, 280 жыхароў, у маёнтку 7 двароў, 78 жыхароў, на чыг. станцыі 22 двары, 115 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Размяшчаліся паляводчая брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, дзіцячы сад, ларок, сталовая, аддз. сувязі (з 1950 г.). У 1959 г. 277 жыхароў, на станцыі 158 жыхароў. З 16.7.1954 г. да 6.1.1965 г. цэнтр Багданаўскага с/с, які быў створаны ў выніку аб'яднання Ігнатаўскага і Войштавіцкага сельсаветаў, з 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2. 1960 г. ў Ашмянскім, з 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Іўеўскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 72 двары, 178 жыхароў. У 1999 г. пабудаваны касцёл св. Міхаіла архангела. У 2009 г. ў вёсцы дзейнічаюць дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Захаваліся часткі парку, які фарміраваўся як сядзібы сад у канцы 18 ст. Планіроўка Г-падобная: ад гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, адыходзіць вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.



*Помнік на магіле Ф.Э.Рушчыца ў в. Багданава.*

**БАГДАНАВА** — вёска ў Залескім с/с (з 12.10.1940 г.) за 50 км на У ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 50 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1588 г. сяло, 18 дымоў, уласнасць шляхціца. У 1779 г. засценак, 3 двары. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 20 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць стольніка І.Сялявы, у 1858 г. ўласнасць княгіні Друцкай-Любецкай. У 1897 г. 4 двары, 32 жыхары, у 1908 г. 6 двароў, 27 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 6 двароў, 31 жыхар, у Ракаўскай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.1.1960 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. да 26.8. 1961 г. ў Гіравіцкім с/с, у 1959 г. хутар, 47 жыхароў. З 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў



Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 3 двары, 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАГДАНАЎ** — пасёлак, цэнтр Багданаўскага с/с (з 6.1.1965 г.) і СВК «Багданаўскі», чыг. ст. на лініі Маладзечна—Ліда, за 33 км на ПнЗ ад Валожына, 106 км ад Мінска, на шашы Валожын—Ашмяны. Рэльеф раўнінны. 170 гаспадарак, 376 жыхароў (2008).

Пач. пасёлку паклаў засценак, у якім у 1794 г. былі 3 двары, 16 жыхароў, уладанне М.К.Агінскага. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1905 г. ўзведзены першыя пабудовы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 15 двароў, 85 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 150 пасялкоўцаў змагаліся на франтах, 57 з іх загінулі. У цэнтры пасёлка ў брацкай магіле пахаваны 31 воін, у іх ліку салдаты, сяржанты і афіцэры 5-й стралк. дывізіі і 18-й гв. танкавай брыгады 5-й гв. танкавай арміі 3-га Бел. фронту, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне пасёлка і наваколля.

Былы саўгас «Багданаўскі» спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, вырошчванні бульбы і хмелю, меў 4474 га сельгасугоддзяў, у т. л. 3163 га ворыўнай зямлі, 62 трактары, 26 збожжаўборачных камбайнаў, 35 грузавых аўтамашын. Гаспадарка складалася з 6 паляводчых брыгад, 7 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці было занята 8 спецыялістаў з вышэйшай і 35 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У пасёлку размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчая, машынны двор, піларама, млын, ветэрынарная аптэка, механізаваны кар'ер гравійна-сартыровачнага з-да, сярэдняя школа, 4 магазіны, сталовая, аддз. сувязі і ашчаднага банка, АТС, амбулаторыя, б-ка з фондам 10,8 тыс. кніг, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, грамадская лазня, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 185 двароў, 503 жыхары. Планіроўку складаюць 3 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і аб'яднаныя прамалінейнымі завулкамі, арыентаванымі з ПдЗ на ПнУ. Грамадскі цэнтр — на паўд. ускраіне, каля чыг. станцыі. Вытв. сектар — на У.

У склад Багданаўскага с/с уваходзяць 26 населеных пунктаў (2010).

Радзіма доктара фізіка-матэматычных навук, праф. А.І.Яблонскага (1928—95).

**БАГУШОЎКА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 9 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 74 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 24 жыхары, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Ро-жэрсана. У 1858 г. 26 жыхароў мужчын-



*Будынак вакзала чыгуначнай станцыі Багданаў.*





скага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. У 1897 г. 10 двароў, 60 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 9 двароў, 57 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 54 жыхары, у 1994 г. 6 двароў, 9 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАКАЧЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 34 км на У ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

У 1858 г. в. Багачы, 29 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў А. і Ц. Гурскіх. У 1897 г. 16 двароў, 94 жыхары, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 20 двароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 17 двароў, 117 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.8.1949 г. арганізаваны калгас. У 1959 г. 125 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы, птушкагадоўчая і паляводчая брыгады, кармацэх, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1994 г. 35 двароў, 89 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, і завулкаў. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**БАКУНОВА** — былая вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 25 км на ПдУ ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі ПлІскоўшчына, Раднікі і далей па шашы Ракаў—Івянец.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 2 двары, 13 жыхароў, уладанне А.Агінскай. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 11 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 1 двор, 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 1 двор, 8 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с, хутар, 8 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 1 двор, 1 жыхар. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). Драўляная сял. сядзіба была пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**БАКШТЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 38 км на У ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 51 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ ручай (прыток р. Каскруўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 50 гаспадарак, 77 жыхароў (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1490 г. ўласнасць А.Дрожчыча, потым яго сына Андрэя, які прадаў частку людзей каралеўскаму пісару Ф.Грыгоравічу ў 1491 і 1499 гг. У 1532 г. вёска,



шляхецкая ўласнасць. У 1541 г. сяло ў маёнтку Гярдуцішкі, уласнасць гаспадарскага двараніна Г.Есьмана. 4.1.1627 г. ў пісьме віленскага епіскапа да каталіцкага настаяцеля паведамлялася аб скаргах сялян вёскі на дзейнасць мясц. ксяндза. У 1563 г. сяло, цэнтр воласці, адбылася серабшчызна ад 432,5 сох. У наступным годзе серабшчызна збіралася ад 420 сох, бо «людзі разышліся ад спустошэння жалнежаў». У 1713 г. 9 двароў, 35 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Х.Рышынскага-Жабы. У 1764 г. Слабодка (яна ж Бакшты), 12 двароў, 27 жыхароў мужчынскага полу, фальварак, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 21 двор, 167 жыхароў, уладанне С.Івашкевіча. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 35 двароў, 238 жыхароў і аднайменная сядзіба, 3 двары, 23 жыхары. Дзейнічалі 2 праваслаўныя царквы, школа, багадзельня, сінагога, заезны і 2 піцейныя дамы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 52 двары, 271 жыхар. У 1920—30-я г. дзейнічаў куставы камітэт КПЗБ. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Быў магазін. У 1959 г. 331 жыхар, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 63 двары, 129 жыхароў. Ёсць магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар адасоблены на ПдЗ.

**БАЛОТКАЎШЧЫНА** — былая вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 40 км на У ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Каскруўка (левы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Ясьманаўцы, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 1 двор, 5 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1921—39 гг. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1988 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**БАНЬКАВА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 8 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэр р. Літанка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паморшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1566 г. сяло ў маёнтку Валожын, уласнасць караля Жыгімонта Аўгуста. У 1614 г. сяло, у складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. сяло Банкаў, 12 двароў, у Мінскім ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 13 двароў, 153 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 156 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 25 двароў, 155 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 24 двары, 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвонагвардзеец», які абслугоўвала Валожынская МТС. З

9.2.1956 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 168 жыхароў, у Даўбенскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 20 двароў, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адасоблена ў зах. баку, за ракой.

**БАРАВІКОЎШЧЫНА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Пяршаі—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 44 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. в. Баравікоўшчызна, 30 жыхароў мужчынскага полу, у Савіцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. З 1860 г. ва ўрочышчы Баравікоўшчына з крас. па кастр. штогод дзейнічала лесапілка з вадзяным рухавіком у 12 к.с. Паводле перапісу 1897 г. вёска (20 двароў, 164 жыхары, хлебазапасны магазін, крама) і паселенне (5 двароў, 50 жыхароў, вадзяны млын, лесапільня, крама) у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 21 двор, 136 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 36 двароў, 208 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сівіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 45 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. 12.9.1952 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 21.2.1957 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, магазін. У 1959 г. 148 жыхароў, у Падневіцкім с/с. З 8.1. 1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 31 двор, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з вуліцы шыротнай арыентацыі, плаўна выгнутай уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на ўсх. ускраіне, на зах. — вытв. сектар.

**БАРКІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 15 км на У ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Белакорац, Забалаць і далей па шашы Валожын—Гродна. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак, 8 двароў, 68 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 62, у 1908 г. 72 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Баркі Прыборныя ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв.—ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. 30.1.1976 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сала-



ная). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 23 двары, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

**БАРКІ НІЗАВЫЯ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ р. Валожынка (правы прыток р. Іслач), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пруднікі і далей па шашы Валожын—Капусціна. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак Баркі, 8 двароў, 68 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 62 жыхары, у 1908 г. 72 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, в. Баркі Нізавыя, 14 двароў, 76 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Стайкаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. в. Боркі, 70 жыхароў, у Сакаўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 15 двароў, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**БАРОК** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 45 км на У ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 1 двор, 4 жыхары, млын, сукнавальня, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1870 г. вёска, 6 жыхароў мужчынскага полу і маёнтак К.Кучэўскага. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 3 двары, 8 жыхароў, у аднайменным урочышчы 1 двор, 7 жыхароў, у маёнтку 17 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у асадзе 1 двор, 4 жыхары, у фальварку 4 двары, 30 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 19.12.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які абслугоўвала Івянецкая МТС. У 1959 г. 52 жыхары. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 9 двароў, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**БАРОК** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 19 км на З ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Засн. ў 1921 г., калі тут пабудаваўся асаднік, 1 двор, 5 жыхароў, у Валожынскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Адамоўскім





с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 6 двароў, 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. хутар, 17 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 1 двор, 5 жыхароў. У 1980-я г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**БАРТАШЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 18 км на ПнЗ ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1786 г. вёска Баташы, 6 двароў, 37 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1799 г. в. Бартошкі, 8 двароў, 64 жыхары, у Вілейскім павеце, уладанне К.Дзядзіркі. Паводле перапісу 1897 г. засценак Барташы 1, 4 двары, 15 жыхароў і вёска Барташы 2, 12 двароў, 74 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў в. Барташы 1 — 20, у в. Барташы 2 — 80 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 25 двароў, 148 жыхароў, у Забрэзскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах супраць ворага змагалася 11 вяскоўцаў, загінулі 3 чал. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.5.1950 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). У 1959 г. 205 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Пянькоўшчына. У 1994 г. 27 двароў, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з трох участкаў забудовы. Паўн.-зах. і цэнтр. ўчасткі арганізаваны ўздоўж паралельных крывалінейных вуліц шыротнай арыентацыі з двухбаковай шчыльнай забудовай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, усх. — уздоўж прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з аднабаковай сядзібнай забудовай. Вытв. сектар — на Пн.

**БАРЦЕНІХА** — былая вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 24 км на З ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на З — невял. возера. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Капусціна.

У 1897 г. в. Барценішкі, 9 двароў, 52 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 11 двароў, 56 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 20 жыхароў, у Сакаўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 2 двары, 6 жыхароў. Планіровачна складалася з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. дамамі.

**БАТУРКІ** — былая вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 12 км на ПнУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Палачаны



на лініі Маладзечна—Ліда, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз в. Мяжэйкі і далей па шашы Валожын—Маладзечна.

У 1897 г. засценак, 1 двор, 13 жыхароў і фальварак, 2 двары, 20 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, 5 двароў, 36 жыхароў і асада, 1 двор, 11 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 88 жыхароў, у асадзе 13 двароў, 23 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Праўда», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 85 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 10.2.1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 4 двары, 5 жыхароў. Планіровачна складалася з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. дварамі.

**БАТУРЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 11 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак Малыя Батуры, 1 двор, 9 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 3 двары, 49 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 65 жыхароў, у Брылькаўскім, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 64 двары, 132 жыхары. Традыц. драўляная сял. сядзіба пастаўлена на кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**БАЯРШЧЫНА** — вёска ў Пральніцкім с/с (з 27.3.1959 г.), за 52 км на ПдУ ад Валожына, 53 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пральнікі, Курдуны і далей па шашы Ракаў—Івянец. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 47 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць канюшага І.Ратынскага. У 1858 г. 26 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы графіні А.Лядухоўскай. У 1897 г. 14 двароў, 80 жыхароў, у 1908 г. 19 двароў, 106 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 20 двароў, 105 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 25 двароў, 146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. 8.2.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1951 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). Размяшчалася вытв. брыгада. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 108 жыхароў. З 7.7.1962 г. ў Падневіцкім с/с. З 25.11.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 20 двароў, 37 жыхароў.

**БЕЛАКОРАЦ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 10 км на З ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Мала-

дзечна—Ліда, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Ісглач (левы прыток р. Бярэзіна), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз б. в. Забалаць і далей па шашы Валожын—Гродна. 46 гаспадарак, 68 жыхароў (2008).

У 1897 г. 2 засценкі, 4 двары, 57 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 63 жыхары, у 1908 г. 72 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 22 двары, 139 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Румскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік — бюст партызана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1945 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.7.1954 г. да 25.6.1976 г. цэнтр сельсавета. У 1959 г. 241 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 1976 г. ў Валожынскім с/с. З 29.1.1976 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, піларама, клуб, б-ка з фондам больш за 6,9 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, АТС, магазін, комплексны-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Рака падзяляе вёску на зах. (3 прамалінейныя вуліцы, гал. з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ) і ўсх. (адасобленыя сял. двары, аб'ядналыя прасёлачнай дарогай) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**БЕРАЗНІЦА** (да 1965 г. Тракуціха) — вёска ў Багданаўскім с/с, за 39 км на З ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Яхімаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вайганы і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак Тракуціха, 15 двароў, 108 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 154 жыхары, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл. З 20.1.1960 г. цэнтр сельсавета ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 4 двары, 10 жыхароў. Планіровачна ўяўляе адасобленыя сял. двары, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай мерыдыянальнай арыентацыі.

**БІЛУЦІ** — вёска ў Дорскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З абмежавана ярам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Даманоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло Бімоцце, 5 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 6 двароў, 42 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 4 двары, 44 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 6 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР.



З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 37 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 13 двароў, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОМБАЛЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 14 км на З ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, з Пд абмежавана меліярацыйным каналам, злучаным з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 38 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 239 жыхароў і сядзіба ляснога вартаўніка, 8 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 247 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 45 двароў, 227 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (53 двары, 270 жыхароў) і леснічоўка (2 двары, 15 жыхароў) у Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1950 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. вёска, 215 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 53 двары, 115 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных у цэнтры завулкам мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на ўсх. ускраіне, гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**БОНДАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 6 км на Пн ад Валожына, 13 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Нарэйшы, Цімкавічы, Брылькі і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 9 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак, 3 двары, 25 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 6 двароў, 31 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 15.6.1949 г. арганізаваны калгас імя А.В.Васілеўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1959 г. 86 жыхароў, у Брылькаўскім, з 1962 г. ў Валожынскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 15 двароў, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на У адыходзіць вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.





**БРЫЛЬКІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на У ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 73 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць праз вёску. 126 гаспадарак, 304 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 18 двароў, 177 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 202 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 35 двароў, 202 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 5.5.1962 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 36 двароў, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса на ўшанаванне памяці землякоў з вёсак калгаса — 42 воінаў і партызан і 32 мірных жыхароў, якія загінулі ў час вайны, пастаўлены ў 1967 г. абеліск. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 24.10. 1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС.

Былы калгас «17 Верасня» спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні лёну, меў 2821 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1880 га ворыўнай зямлі, 32 трактары, 10 збожжаўборачных камбайнаў, 23 грузавыя аўтамашыны і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з цэха раслінаводства і 6 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 8 спецыялістаў з вышэйшай і 24 з сярэдняй спец. адукацыяй. У вёсцы размяшчаліся цэх па раслінаводстве, машынны двор, ферма буйной рагатай жывёлы, піларама, кармацэх, зернясклад і склад мінеральных угнаенняў, сталярна-цяслярная майстэрня, ветэрынарны ўчастак, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 9,2 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, АТС, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1959 г. 218 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Валожынскім с/с Маладзечанскага р-на, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. У 1994 г. 167 двароў, 429 жыхароў. У 2009 г. дзейнічаюць б-ка, комплексны прыёмны пункт, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. 12.11. 1966 г. да вёскі далучаны вёскі Вознаўшчына і Русакоўцы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы) з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і парк на паўн.-ўсх. ускраіне, вытв. сектар — у цэнтры.

**БУДА** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 26 км на З ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2008).

У 1897 г. вёска, 17 двароў, 96 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 85, у 1908 г. 83 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 14 двароў, 69 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Буды ў Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 21 двор, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 105 жыхароў, у Вішнеўскім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў



Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 30 двароў, 72 жыхары. Planіровачна складаецца з вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДРАЎШЧЫНА** – былая вёска ў Залескім с/с (з 12.10.1940 г.), за 70 км на У ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Гіравічы, Эпімахі, Гіневічы і далей па шашы Ракаў—Радашковічы.

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. засценак, уласнасць шляхціца. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 1 двор, 10 жыхароў, уласнасць стольніка Сялявы. У 1858 г. ўласнасць Друцкай-Любецкай. У 1897 г. 4 двары, 24 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. в. Будраўшчызна, 5 двароў, 30 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.1. 1960 г. ў Радашковіцкім, з 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў Маладзечанскім р-нах Маладзечанскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 16.7. 1954 г. да 26.8.1961 г. ў Гіравіцкім с/с. У 1959 г. 22 жыхары. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр – в. Новы Двор). У 1994 г. 1 двор, 1 жыхар. Планіровачна складалася з кароткай, выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**БУДРАЎШЧЫНА** – вёска ў Дорскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1566 г. сяло ў маёнтку Пяршаі, уласнасць віленскага біскупа, кн. Валяр'яна. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 5 двароў, 45 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 41 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. в. Будраўшчызна, 9 двароў, 49 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 50 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр – в. Доры). У 1994 г. 12 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУЗУНЫ** – вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 45 км на У ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Маладзечна—Мінск, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па дарозе Ракаў—Радашковічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 28 гаспадарак, 49 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. сяло ў Мінскім павеце. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 16 двароў, 89 жыхароў, уласнасць лоўчага Т.Варанца. У 1870 г. 45 жыхароў мужчынскага полу, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. Побач была лясная вартоўня, дзе ў 1847 г. было 4, а ў 1908 г. 6 жыхароў. У 1912–18 гг. на крэйсеры «Аўрора» служыў ураджэнец вёскі Ф.І. Зяневіч, які прымаў удзел у штурме





Зімняга палаца. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 38 двароў, 200 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Выганіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 12.12.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 251 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). Размяшчаліся вытв. брыгада, магазін. У 1994 г. 55 двароў, 94 жыхары. У 2009 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ўсх. ускраіне.

**БУКАТОВА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 30 км на З ад Валожына, 13 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доржні, Вярцімы, Ганчары і далей па шашы Валожын—Ліда. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1897 г. фальварак, 9 двароў, 65 жыхароў і сядзіба ляснога вартаўніка, 5 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Тут жа быў маёнтак графа Бут-Храптовіча (6 жыхароў). З 1921 г. ў складзе Польшчы, 6 двароў, 34 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у в. Букатоўка 12 двароў, 79 жыхароў, у засценку Букатава 12 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1950 г. арганізаваны калгас імя «33-й гадавіны Кастрычніка», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 118 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 16 двароў, 20 жыхароў. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з адасобленых сял. сядзіб, аб'яднаных прасёлачнай дарогай. Вытв. сектар — на ўсх. ускраіне.

**БУКАТЫ** — былая вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 40 км на ПнЗ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Зарэчная і далей па шашы Валожын—Ашмяны.

Вядомы з пач. 17 ст. ў складзе ВКЛ. У 1602 г. вёска ў маёнтку Багданава, уласнасць П.С.Сапегі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. аколіца, 12 двароў, 84 жыхары і засценак Букаты (ён жа Масцішча), 1 двор, 7 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 81 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. фальварак Букацішкі ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 93 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Гродзенскай вобл. ў Іўеўскім, з 13.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 1 двор, 1 жыхар. Планіровачна ўяўляе сабой адасобленыя драўляныя сял. сядзібы, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай.



**БУНІ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 18 км на З ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1722 г. в. Буняты, 5 двароў, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. в. Буйніца, 3 двары, 27 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 32 двары, 249 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 35 двароў, 251 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 46 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1980-я г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 197 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 27 двароў, 57 жыхароў. Размяшчаліся комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой, прамалінейных вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных 2 завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ўсх. ускраіне.

**БУРБАЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 17 км на У ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Папкі і далей па шашы Мінск—Валожын. 29 гаспадарак, 74 жыхары (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1801 г. вёска, 23 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1815 г. перайшла ва ўласнасць І.Роджэрсана. У 1858 г. 22 жыхары мужчынскага полу, уласнасць графа Б.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 79 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28 вяскоўцаў змагаліся супраць акупантаў на франтах і ў партызанах, 4 з іх загінулі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1970-я г. вёскі Бурбаўшчына 1 і Бурбаўшчына 2 склалі адзін населены пункт. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 121 жыхар. У 1994 г. 35 двароў, 80 жыхароў. Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з 3 вуліц з завулкамі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Вытв. сектар — на паўд. і паўн.-зах. ускраінах.

**БУРМАКІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 12 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 117 жыхароў, у 1904 г. 126 жыхароў. 1.12.1905 г. вяскоўцы правялі самавольную высечку памешчыцкага лесу ва ўрочышчы Кавалеўшчына. У

1908 г. 156 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 33 двары, 181 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 34 двары, 307 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах змагаліся супраць акупантаў 8 вяскоўцаў, 2 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 11.7.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1980-я г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1959 г. 135 жыхароў, у Брыльскім, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 64 двары, 132 жыхары. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Вытв. сектар — на ўсх. і паўн.-зах. ускраінах.

**БУРНЕЙКІ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 7 км на У ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капусціна і далей па шашы Мінск—Валожын. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1614 г. сяло Бурнекі ў складзе маёнтка Валожын, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 165 жыхароў, у 1904 г. 173 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 34 двары, 213 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 36 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З вер. 1950 г. арганізаваны калгас імя У.У.Маякоўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 4.4.1952 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, ларок. У 1959 г. 207 жыхароў, у Даўбенскім, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 39 двароў, 60 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы размешчана адасоблена на ПнУ. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**БЯЛЯКІ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 12.6.1962 г.), за 6 км на З ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Вішнева, якая праходзіць побач з вёскай. 24 гаспадаркі, 52 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 5 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 97 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 101 жыхар, у 1908 г. 117 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 19 двароў, 119 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 22.9.1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.6.1959 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Вало-



жын). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 135 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 31 двор, 68 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц мерыдыянальнай, перпендыкулярнай да шашы арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ўсх. і паўн. ускраінах.

**БЯРАВА** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 17 км на ПнУ ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, 73 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць побач з вёскай. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак, 5 двароў, 43 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска, 8 двароў, 51 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 3 двары, 3 жыхары. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Традыц. драўляная сял. сядзіба пастаўлена ўздоўж шашы.

**БЯРОЗАВЕЦ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 38 км на ПдУ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 69 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Івянец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1745 г. вёска, 7 двароў, вадзяны млын, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 15 двароў, 84 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 3 жыхары, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. фальварак у Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 64 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Новы свет», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). У 1994 г. 1 двор, 2 жыхары. Традыц. драўляная сял. сядзіба пастаўлена ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ВАЙГАНЫ** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 114 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на ПдУ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Зарэчная і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 110 гаспадарак, 267 жыхароў (2008).

Вядомы з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1566 г. маёнтак Сцернялеўшчына, уласнасць каралеўскага маршалка М.Сапегі і яго жонкі княгіні Г.Сангушкаўны-Кашырскай. Згодна з судовым выракам маёнтак гаспадары павінны былі перадаць у валоданне мельніцкаму старосцічу А.Цеханавецкаму за пазыку. У 1568 г. сяло Вайганы ў Крэўскай вол., з 16,5 валокамі зямлі, уласнасць караля Жыгімонта Аўгуста ў застаўным валоданні крэўскага дзяржаўцы кн. А.Курбскага. Кароль выкупіў сяло і падараваў М.Сапегу, які далучыў яго да свайго

Сцернялеўскага палаца (фальварка). У 1583 г. сяло прададзена віленскаму кашталяну, канцлеру ВКЛ, берасцейскаму і кобрынскаму старосту А.Валовічу. У 1897 г. сядзіба, 30 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, млын, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1959 г. 236 жыхароў, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 128 двароў, 338 жыхароў. У 2009 г. ў вёсцы размешчаны дзіцячы сад-школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка рэгулярная: 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, аб'яднаны на ўскраінах 2 прамалінейнымі вуліцамі, арыентаванымі з ПдУ на ПнЗ. Грамадскі цэнтр і вытв. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**ВАЙНІЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 18 км на У ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 13 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. в. Вайнілаўшчызна, 10 жыхароў мужчынскага полу, у Макрыдаўскім сельскім т-ве, уласнасць графа І.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 44 жыхары, у 1908 г. 5 двароў, 37 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 8 двароў, 52 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. У 1949 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Быў ларок. У 1959 г. 46 жыхароў. У 1994 г. 3 двары, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванайаднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАРОНІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 35 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Ластаяны на лініі Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Жомайдзь, Славенск, Долевічы, Крыніца і далей па шашы Валожын—Вільнюс. 18 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1769 г. вёска, 15 двароў, 51 жыхар мужчынскага полу, у Ашмянскім павеце, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 177 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета. У 1908 г. 196 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 31 двор, 122 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 46 двароў, 241 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 188 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.12.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з



6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 29 двароў, 48 жыхароў. Была ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь), дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных на зах. ускраіне завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕНГЛІНШЧЫНА** — былая вёска ў Ракаўскім с/с, за 43 км на У ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 29 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Меткава, Вязьменка і далей па шашы Заслаўе—Валожын.

У 1885 г. в. Рудзеўшчына, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. в. Рудзеўшчына (яна ж Вінгейншчына), 5 двароў, 36 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 7 двароў, 47 жыхароў, у Ракаўскай вол. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. З 1940 г. да 1941 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай, з 1944 г. да 1954 г. Маладзечанскай, з 1960 г. Мінскай абласцей, з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1965 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 34 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1969 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 5 двароў, 6 жыхароў. Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕРБАЎЦЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 34 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск, 48 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

Вядомы з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1582 г. с. Вербавічы ў маёнтку Германішкі Мінскага павета, шляхецкая ўласнасць навагародскага падстарасты М.Есьмана. У сяле жыў германішскі цівун М.Вярбовіч. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 3 двары, 16 жыхароў, уладанне А.Прасецкага. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 39 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 11 двароў, 54 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Запаветы Ільіча», з 1958 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 64 жыхары, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 8 двароў, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

**ВІДЭЙКАЎШЧЫНА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 26 км на З ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 20 гаспадарак, 48 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 11 двароў, 78 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 14 двароў, 71 жыхар, у





Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў ваявалі на франтах, 3 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.9.1950 г. арганізаваны калгас «Сумленная праца», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 6.12.1957 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 99 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 29 двароў, 75 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на У.

**ВІШНЕВА** — вёска, цэнтр Вішнеўскага с/с (з 17.9.1939 г.) і СВК «Агра-Вішнеўскі», за 23 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 187 гаспадарак, 461 жыхар (2008).

Вядома з 14 ст. ў складзе ВКЛ, калі ўваходзіла ў Крэўскае княства. Віленскі кашталян П.Гедгаўд атрымаў у 1424 г. фундуш на будаўніцтва ў Вішневе касцёла Звеставання Дзеве Марыі. У 1520 г. К.Я.Даргевічава трэцюю частку «добра Вішнева» даравала Я.М.Радзівілу, якога прыняла за сына. У 15 ст. сяло ў Ашмянскім павеце, належала Слушкам, Осцікам, Сангушкам і Пацам. У 1559 г. с. Вішнеў, 51 дым, дзейнічаў касцёл. У 1594 г. цэнтр маёнтка, уладальнік якога Х.В.Дыбоўскі аддаў яго на 2 гады за 12 коп грошай літ. пану М.Гурскаму. У 1600 г. ў Пацаў купіў Вішнева і наваколле А.Храптовіч. У 1637—41 гг. у зах. частцы сяла, на месцы драўлянага быў пабудаваны мураваны касцёл Звеставання Дзеве Марыі, да якога ў 1771 г. дабудаваны бакавыя капліцы, а ў 2-й пал. 19 ст. з бутавага каменю ўзведзена двух'яруснае збудаванне: першы ярус — лучковая праязная арка, другі — трохпралётная аркада, завершаная франтончыкамі. Касцёл з'яўляецца помнікам архітэктуры з рысамі стыляў рэнесансу, ранняга і поз-

*Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Вішнева (1637—41): 1 — агульны выгляд; 2 — выгляд з боку апсіды.*



1



2



няга барока. У 2-й пал. 18 ст. мястэчка. Асн. забудова размяшчалася ўздоўж р. Альшанка. Ад цэнтра, дзе знаходзіўся кірмашны пляц, разыходзіліся на З — вуліца Віленская; на У — вуліца Валожынская і на Пн — вуліца Крэўская. Па баках ішлі вуліцы Загонная, Школьная, Крыжовая і Свіная (вяла да асобнага свінога кірмашнага пляца). У 1778 г. пачаў працаваць жалезаліцейны з-д (у 1795 г. 75—100 рабочых, выраблена 4317 цэнтнераў жалеза), а потым — з-д шкляных вырабаў (у 1790 г. 150 рабочых, выраблена 19 880 пудоў шкла). У мястэчку працавалі таксама спіртзавод, цагельна-ганчарны з-д, сукнавальня, вадзяны млын. Кожны тыдзень адбываліся таргі, а 2 разы на год — вял. кірмашы. У 1775 г. пачала працаваць павятовая школа (3 настаўнікі, у 1782 г. 86 вучняў). У 1794 г. ў час паўстання Касцюшкі праз мястэчка з Ашмян у напрамку да Валожына праходзіў атрад паўстанцаў пад камандаваннем вял. падскарбія літ., вядомага кампазітара М.К.Агінскага. З 1795 г. Вішнева ў складзе Расіі. У 1812 г. праз Вішнева адступаў на У з рус. арміяй Барклай дэ Толі. Мястэчка было спалена войскамі Напалеона. У 1862 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1888 г. вучылася 95 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. Пад час паўстання 1863 г. ў Вішневе распаўсюджвалася «Мужыцкая праўда». У 1864 г. пабудавана мураваная праваслаўная царква. Жалезаліцейны з-д быў закрыты ў 1868 г., а шклозавод — яшчэ раней. Храптовічы свае намаганні накіравалі на с.-г. вытв-сць. Яны трымалі тут 3 тыс. галоў буйной рагатай жывёлы. На месцы былога ліцейнага ўзнік масласырзавод. Храптовічы прадавалі ў Англію і Германію мяса, сыры, масла, воўну. У 1865 г. ў зах. частцы мястэчка на левым беразе ракі пабудавана з бутавага каменю Казьмадзям'янаўская царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры псеўдарус. стылю.



*Фрагмент інтэр'ера касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі.*

У 1866 г. ў мястэчку 90 двароў, 712 жыхароў, з'яўлялася цэнтрам воласці Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1880 г. 1676 жыхароў, 2 царквы, касцёл, 2 капліцы, сінагога, 2 школы, багадзельня, сукнавальная ф-ка, крама, вадзяны млын, заезны дом, 4 піцейныя дамы. У 1886 г. засн. прадпрыемства па вырабе запалак, карабкоў і скрынак для запалак (16 рабочых), дзейнічала шкляная гута. У 1897 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Дзейнічала яўр. вучылішча (ешыбот). У гэты час у мястэчку было 312 двароў, 2021 жыхар, нар. вучылішча, паштова-тэлегр. аддз., царква, касцёл, 2 капліцы на могілках, сінагога, 2 малітоўныя школы, майстэрня па вы-

*Сядзіба Храптовічаў у в. Вішнева.*



рабе крэслаў, скураны з-д, запалкавая ф-ка, 47 крам, аптэка, 5 піцейных дамоў. Раз у тыдзень (у сераду) праводзіліся таржкі. Побач былі маёнткі (16 двароў, 160 жыхароў, вадзяны млын, 3 двары, 13 жыхароў, піваварны і сыраварны з-ды, 3 двары, 20 жыхароў). У маі 1901 г. сяляне самавольна захапілі памешчыцкую зямлю, 29 мая і 4 чэрв. месцачкоўцы аказалі супраціўленне мясц. уладам пры размежаванні і аднаўленні старых меж з памешчыцкімі ўладаннямі. У 1915—18 гг. праз мястэчка праходзіла лінія фронту, яно было спалена, жыхары выселены. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, у мястэчку 149 двароў, 957 жыхароў, у фальварку 2 двары, 56 жыхароў. Асн. вуліцы (Віленская, Валожынская і Крэўская) былі брукаваныя. Сярод лесарубаў, возчыкаў і інш. рабочых лесарасправацовак прапаганду і агітацыю вялі чл. КПЗБ Дз.Д.Сівы, Л.Ю. Пятровіч, Б.Герзон і інш. Напярэдадні 1 Мая 1926 г. ў Вішневе і Жардэлях, а таксама на дарогах Вішнева—Багданава, Вішнева—Слайкоўшчына былі раскіданы лістоўкі, якія заклікалі да святкавання 1 Мая. У Вішневе і Жардэлях адбыліся першамайскія мітынгі. Лесапільня і пад'язная чыгунка ў канцы 1920 — пач. 1930-х гг. прыйшлі ў заняпад. У мястэчку дзейнічалі касцёл, царква, сінагога, польская і яўр. школы, паштова-тэлегр. аддз., добраахвотнае супрацьпажарнае т-ва, прыватная бальніца (урач і 2 фельчары), ветлячэбніца, аптэка, 2 аптэчныя склады, грамадская лазня. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. У 1940 г. 300 дамоў, 2,5 тыс. жыхароў. З 17.10.1940 г. цэнтр Вішнеўскага с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут размяшчаўся гарнізон акупантаў. Гітлераўцы спалілі 257 дамоў. 7.6.1942 г. расстралялі 2002 мірныя жыхары. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. 6.7.1944 г. вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў. У баях за вызваленне вёскі загінула 19 воінаў Сав. Арміі, у іх ліку воіны 192-й стралк. дывізіі (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). На развілцы дарог Мінск—Гродна і Валожын—Ашмяны на ўшанаванне памяці 43 вяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў, і 2060 мірных жыхароў, загубленых фашыстамі, у 1967 г. пастаўлена стэла. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1955 г. на р. Альшанка пабудавана Вішнеўская ГЭС. Пры МТС у 1950—53 гг. дзейнічаў палітаддзел, які выпускаў газ. «Іскра Ільіча». У 1980-я г. ў складзе калгаса імя М.Горкага, які спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, меў 2832 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1681 га ворыўнай зямлі, 12 трактароў, 39 збожжаўборачных камбайнаў, 33 грузавыя аўтамашыны і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 вытв. участкаў, 7 жывёлагадоўчых ферм і свінагадоўчага комплексу. У вытв-сці былі заняты 14 спецыялістаў з вышэйшай і 24 з сярэдняй спец. адукацыяй. У вёсцы размя-



*Казьмадзям'янаўская царква ў в. Вішнева.*





С.Будны.

шчаліся вытв. брыгада, піларама, сталярна-цяслярская майстэрня, млын, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка з фондам 10,4 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі, паліклініка, бальніца, аптэка, Дом быту, 5 магазінаў, сталовая, аддз. сувязі, АТС, аддз. ашчаднага банка, 3 спарт. пляцоўкі. У 1959 г. 668 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 212 двароў, 554 жыхары. У 2009 г. ў вёсцы размешчаны СВК «Агра-Вішнеўскі», дзіцячы сад-яслі, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, раённы дзіцячы сац. прытулак, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Каля вёскі (у былым фальварку Андрывонж) захаваліся часткі парку, закладзенага ў канцы 19 — пач. 20 ст. Паводле дадзеных 1979 г. тут расло каля 70 назваў дрэў і кустоў. На сядзібе школы імя К.Буйло размешчаны таксама часткі старажытнага парку 19 ст. Пры школе створаны краязнаўчы музей. У вёсцы правялі дзіцячыя і юнацкія гады пісьменнікі П.Бітэль, К.Буйло, У.Станкевіч, Х.Чэрня, жыў і памёр бел. асветнік, філосаф, дзеяч бел. культуры, гуманіст С.Будны. На мясц. могілках пахаваны П.Бітэль, К.Буйло. Радзіма жонкі Я.Купалы, засл. дзеяча культуры Беларусі У.Ф.Луцэвіч. Актыўную ролю ў стварэнні дзяржавы Ізраіль і развіцці сіянізму адыгралі ўраджэнцы вёскі Н.Гольдман (1895—1982), у 1949—78 гг. прэзідэнт Сусветнага яўр. кангрэса, у 1956—68 гг. Сусветнай сіяніцкай арг-цыі, М.Берлін, старшыня сусветнага цэнтра Мізрахі ў Іерусаліме, арганізатар выдання «Талмудычнай энцыклапедыі». Тут у 1923 г. нарадзіўся вядомы палітычны і грамадскі дзеяч, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру, прэм'ер-міністр і міністр абароны Ізраіля Шымон Перэс (сапр. Шымон Перскі), які ў 1992 г. пабываў на радзіме. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой адыходзіць плаўна выгнутая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Ад цэнтра ў паўн.-ўсх. напрамку перпендыкулярна адыходзіць прамалінейная вуліца — дарога ў в. Навасёлкі. Забудавана двухбакова, шчыльна, дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр і катэджныя мураваныя дамы — на паўд.-ўсх. ускраіне, вытв. сектар — у цэнтры вёскі. Стараж. пабудова жалезаробчага з-да выкарыстоўвалася ў 1948—58 гг. пад майстэрні МТС, а потым пад зернясклад.



К.А.Буйло.



Магіла К.Буйло ў в. Вішнева.





У склад Вішнеўскага с/с уваходзяць 47 населеных пунктаў (2010).

**ВОЙТКАЎШЧЫНА** — былая вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), 41 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, за 32 км на ПдУ ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Міхалова і далей па шашы Ракаў—Івянец.

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. вёска, 3 двары жылыя і 1 пусты, 10 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Сокала. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 4 двары, 26 жыхароў і маёнтак, у Мінскім павеце, уласнасць старасцянкі Д.Салагуб. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. хутар у Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11.1966 г. да вёскі далучаны вёскі Вял. Поле, Замосцішча. У 1994 г. 1 двор, 2 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.



*Могілкі нямецкіх салдат 1-й сусветнай вайны каля в. Войштавічы.*

**ВОЙШТАВІЧЫ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 38 км на ПдЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Альшанка і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 68 гаспадарак, 139 жыхароў (2008).

Засн. ў пач. 20 ст. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 87 двароў, 472 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1947 г. арганізаваны калгас імя А.А.Андрэева, які абслугоўвала Вішнеўская МТС, потым у складзе саўгаса «Багданаўскі», былі клуб, б-ка з фондам 9,6 тыс. кніг, магазін. У 1959 г. 334 жыхары, на хутары 75 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 91 двор, 196 жыхароў. У 2009 г. дзейнічаюць б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Чыгунка падзяляе забудову на паўн. і паўд. часткі. Вытв. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ВОЎКАЎШЧЫНА** — вёска ў Залескім с/с, за 49 км на У ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Радашковічы, якая праходзіць праз вёску. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

У 1858 г. в. Ваўкаўшчызна, 11 жыхароў мужчынскага полу, у Стара-Ракаў-



скім сельскім т-ве, уласнасць княгіні Друцкай-Любецкай. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 49 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 8 двароў, 52 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 67 жыхароў, у Ракаўскім с/с. 27.12.1949 г. арганізаваны калгас «32-я гадавіна Кастрычніка», які абслугоўвала Залеская МТС. З 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 19 двароў, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВРУБЛЁЎШЧЫНА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 34 км на ПдУ ад Валожына, 48 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ісілач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Падневічы і далей па шашы Ракаў—Івянец. 14 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. гаспадарскі двор, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска, 22 жыхары мужчынскага полу, у Рублеўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць Ю. і М. Набароўскіх. Паводле перапісу 1897 г. вёска (12 двароў, 74 жыхары), фальварак (1 двор, 14 жыхароў) і ўрочышча (1 двор, 6 жыхароў), у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Врублеўшчызна, 11 двароў, 75 жыхароў і аднайменны фальварак, 1 двор, 11 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). Быў магазін. У 1959 г. 94 жыхары, у Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Маладзечанскай вобл. З 27.3.1959 г. ў Пральніцкім, з 7.7.1962 г. ў Падневіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 20 двароў, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на ўскраінах прамалінейнымі завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Ластаяны на лініі Маладзечна—Ліда, 101 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на З праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падбярэзь, Післякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 16 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1904 г. вёска, 52 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 63 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 3 двары, 15 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 72 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 6.1.1965 г. ў Валожын-

скім р-не Мінскай вобл. З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 21 двор, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванайаднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 32 км на ПдУ ад Валожына, 51 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лубянка (левы прыток р. Волка, бас. Нёмана). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сівіца, Пагарэлка і далей па шашы Валожын—Івянец. 59 гаспадарак, 119 жыхароў (2008).

У 1815 г. вёска, 36 жыхароў мужчынскага полу, уладанне К.Плявакі. У 1858 г. 59 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 29 двароў, 196 жыхароў і ўрочышча, 1 двор, 10 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 48 двароў, 313 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Сівіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 69 двароў, 361 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7.8.1943 г. гітлераўцы загубілі 38 вяскоўцаў, якія пахаваны ў магіле на паўн. ускраіне. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. 12.9.1950 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., у Каменскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. У 1959 г. 287 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 175 двароў, 731 жыхар. Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам больш за 8,1 тыс. кніг, магазін. Планіроўка рэгулярная. Ад прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі адыходзіць на Пд прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на ПдУ. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**ВЫГАНІЧЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), цэнтр ТАА з-да вылічальнай тэхнікі «Ракаў-Агра», за 44 км на У ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Выганічанка (левы прыток р. Іслач), на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Волма, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 115 гаспадарак, 344 жыхары (2008).

Вядомы з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1476 г. маёнтак у Ракаўскай вол. «подле Городішча», уласнасць віленскага ваяводы М.Кежгайлавіча, які ён падараваў за службу свайму баярыну Булгаку. Гэтае валоданне маёнткам пацвердзіў кароль Аляксандр, у 1532 г. перайшло сыну Булгака гаспадарскаму падданаму Г.Булгаковічу. У 1536 г. на яго скардзіўся застаўны ўладальнік маёнтка Ракава кн. Ю.Слуцкі, што той ужо 3 гады не служыць са сваім маёнткам да Ракаўскага двара. Каля 1554 г. гаспадарскі зямянін Г.Булгак заключыў дамову са сваімі пляменнікамі Богушавічамі-Булгакамі на выдзяленне ім траціны маёнтка, якую ў адпаведнасці з папярэднім дагаворам ажыццявіў у 1554 г. яго нашчадак сын Г.Булгак. З 1557 г. маёнтак ва ўладанні 3 гаспадароў. У дакументах 1582 г. пазначаны як двор ва ўладанні менскага гродскага каморніка К.Булгака. У 1567 г. вёска, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 17 ст. ўваходзіла ў Ракаўскае графства, належала Сангушкам. У 2-й пал. 17 ст. пад заклад перададзена Г.Матушэвічу. У 1783 г. пабудавана царква. У 1779 г. 18 двароў.



З канца 18 ст. належала Рыльскім. Зяць Рыльскага Вайдзевіч атрымаў яе як пасаг жонкі. Адным з абавязкаў сялян было вазіць дровы «до замку Ракоўскага». З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 115 жыхароў, фальварак, карчма, млын, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць лоўчага К.Рыльскага. У 1821—22 гг. у Вайдзевічаў жыў А.Бястужаў-Марлінскі — дзекабрыст, рус. пісьменнік (у памяць аб ім у 1987 г. ў вёсцы пастаўлены мемарыяльны знак). Ад Вайдзевічаў Выганічы перайшлі да Р.Грушавіцкага, дзе ў 1828 г. нарадзіўся кампазітар Міхал Грушавіцкі — сябар В.Дуніна-Марцінкевіча (памёр 5.3.1904 г., пахаваны ў в. Ракаў). У 1880 г. 15 двароў, 112 жыхароў, царква, піваварны з-д і вадзяны млын, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 30 двароў, 168 жыхароў, хлебазапасны магазін, драўляная царква, у маёнтку 49 жыхароў, вадзяны млын. 26.7. 1917 г. сяльчане зрабілі патраву пасеваў памешчыцкай канюшыны. З 1921 г. ў складзе Польшчы, сяло, 36 двароў, 185 жыхароў, фальварак, 13 двароў, 86 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас, які ў 1959 г. ўвайшоў у склад саўгаса «Радашковіцкі». У 1959 г. 324 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл.

Былы саўгас «Праца» (створаны ў 1963 г.) спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 3959 га сельгасугоддзяў, у т.л. 3126 га ворыўнай зямлі, 52 трактары, 20 збожжаўборачных камбайнаў, 57 грузавых аўтамашын і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з 4 вытв. брыгад, 7 жывёлагадоўчых ферм і комплексу па адкорме буйной рагатай жывёлы. У вытв-сці былі заняты 16 спецыялістаў з вышэйшай і 25 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, сталярна-цяслярская майстэрня. Былі клуб, б-ка з фондам больш за 7,9 тыс. кніг, пач. школа, дзіцячы сад-яслі, сталовая, аддз. сувязі, АТС, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 124 двары, 353 жыхары. У 2009 г. вёска ў складзе ТАА «Ракаў-Агра», дзіцячы сад-яслі, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і аб'яднаных плаўна выгнутай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр — на паўн. ускраіне, вытв. сектар — на паўн. і паўд.-ўсх. ускраінах.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 26 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кашчэлічы, Старынкі і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 23 гаспадаркі, 28 жыхароў (2008).

За 0,2 км на ПдЗ ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Кашчэлічы, захаваўся курганны могільнік (каля 40 насыпаў), які належаў дрыгавічам і сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1476 г. двор у маёнтку Лебедзева (цяпер вёска ў Маладзечанскім р-не), уласнасць кн. А.Галышанскага, які з гэтага двара запісаў дзесяціну збожжа ў фундуш парафіяльнаму касцёлу, заснаванаму ім у Лебедзеве. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. в. Высокі Востраў, 19 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. Паводле перапісу





1897 г. 12 дwароў, 96 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Побач быў засценак Высокае, 1 двор, 8 жыхароў. У 1904 г. 19 двароў, 84 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у вёсцы 19 двароў, 109 жыхароў, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 132 жыхары, у маёнтку 2 двары, 13 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1980-я г. ў складзе калгаса «25 з'езд КПСС» (цэнтр — в. Лоск). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, 8-гадовая школа. У 1959 г. 204 жыхары. У 1994 г. 41 двор, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**ВЯДЗЕРНІКІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на У ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Вязынка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пешкуры, Палікшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Вядомы з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1566 г. сяло ў гаспадарскім маёнтку Валожын, уласнасць караля Жыгімонта Аўгуста. Праведзена замена зямель пры валочнай памеры. У 1785 г. сяло, 10 двароў, у графстве Валожын Мінскага павета, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 17 двароў, 126 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 156 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 30 двароў, 163 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 30 двароў, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас імя М.І.Кутузава, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1952 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1959 г. 142 жыхары, у Даўбенскім, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 20 двароў, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**ВЯЛЕЦ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 26 км на З ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес, на У цячэ р. Валожынка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Баркі, Пруднікі і далей па шашы Валожын—Капусціна. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядомы з пач. 20 ст. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. асада, 3 двары, 11 жыхароў, у Валожынскай гміне Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. У вер. 1940 г. хутар, 5 двароў, 18 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Стайкаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 4 двары, 24 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 5 дамоў, загубілі 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1959 г. хутар, 18 жыхароў, у Сакаўшчынскім с/с.



З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 4 двары, 5 жыхароў. У 1980-я г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Планіровачна складаецца з адасобленых драўляных сял. двароў, аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**ВЯЛІК** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 33 км на ПдУ ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 73 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ракаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў (2008).

Вядомы з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1590 г. ўрочышча ў маёнтку Кіявец, уласнасць С.Адахоўскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1815 г. маёнтак К.Плявакі, 3 жыхары мужчынскага полу, у Мінскім павеце. У 1885 г. фальварак, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 12 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 1 двор, 10 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. асада ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 3 двары, 13 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Чорная Лужа. У 1994 г. 3 двары, 9 жыхароў. Уяўляе сабой адасобленыя драўляныя сял. двары, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай.

**ВЯЛІКАЕ ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 24 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Буянка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малое Запруддзе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 45 гаспадарак, 80 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1548 г. сяло ў маёнтку Лоск, уласнасць гаспадарскага маршалка валынскай зямлі, валадзімірскага старосты П.Кішкі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1894 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы. У 1897 г. 60 двароў, 386 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 455 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 88 двароў, 468 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 93 двары, 558 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.7.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 21.9.1949 г. арганізаваны калгас імя Я.М.Свярдлова, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 530 жыхароў. З 26.2.1976 г. ў складзе калгаса «XXV з'езд КПСС» (цэнтр — в. Лоск). Размяшчаліся брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. У 1994 г. 82 двары, 163 жыхары. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, аб'яднаных прасёлачнымі дарогамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**ВЯЛІКАЕ ПОЛЕ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 26 км на У ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 43 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1797 г. в. Вялікаполле, 9 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка

Карніцкага. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча». У 1959 г. 126 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 14.12.1967 г. да вёскі далучаны вёскі Глінішча, Машэўка і Пятрылаўка. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Дварэц). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 33 двары, 66 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**ВЯЛІКІЯ КРЫВІЧЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 48 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам, на Пн цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дубашы, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

На месцы вёскі знаходзілася паселішча крывічоў. Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ, калі сяло належала шляхціцу Д.Г.Есьману, а Малыя Крывічы — С.Прэсецкай. Каля 1541 г. дзве сям'і з паселішча, падданыя А.Навагонскага і яго жонкі Ядвігі, прададзены гаспадарскаму двараніну Г.І.Есьману. У 1545 г. маёнтак, частка якога належала баярыні Я.Навагонскай, а другая баярыну Я.Зеляпугу. У 1548 г. дварэц з 7,5 службамі людзей, які ў Г.Тальвашоўны купіла ўдава Я.Зеляпугі Г.Войцахаўна. З маёнтка ў 1567 г. менскі зямянін Я.Паўлавіч выстаўляў у войска аднаго конніка. З 1568 г. частка маёнтка ва ўладанні роду Кішкаў, другая частка у Д.Есьмана, Крывіцкіх, Салагубаў, С.Рыкачанкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 3 двары, 34 жыхары, драўляная уніяцкая царква, уласнасць падстолія Свентарэцкага, двор і млын памешчыка Гурскага і в. Крывічы, 2 двары, 6 жыхароў. Вяскоўцы ўдзельнічалі ў паўстанні 1863 г. У 1864 г. пабудавана Аляксандра-Неўская мураваная царква. У 1865 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 67 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, кузня і маёнткі Вял. Крывічы (25 жыхароў) і Крывічы (24 жыхары). Вясной 1919 г. на добраахвотнай аснове сяляне вёсак Вял. Крывічы, Залессе, Крэчаўцы стварылі першую ў раёне камуну, вядомую пад назвай «Крывіцкая камуна». 15.5. 1919 г. 135 камунараў пачалі калектыўную апрацоўку зямлі. Існавала камуна да акупацыі раёна войскамі Польшчы (жн. 1919 г.). У 1981 г. ў цэнтры вёскі ў памяць аб камуне пастаўлена стэла. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. ў сяле 13 двароў, 62 жыхары, у

*Аляксандра-Неўская царква ў в. Вялікія Крывічы (1864).*





фальварку 3 двары, 30 жыхароў. У 1926 г. дзейнічала пач. школа і прыход Свята-Аляксандра-Неўскай царквы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. арганізаваны калгас «Рассвет», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 103 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1969 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, магазін. У 1994 г. 11 двароў, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на зах. і ўсх. ускраінах.

**ВЯРЦІМЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 25 км на З ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ганчары і далей па шашы Валожын—Ліда. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 9 двароў, 31 жыхар, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 60, у 1908 г. 69 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы, 12 двароў, 61 жыхар, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1950 г. арганізаваны калгас «33-я гадавіна Кастрычніка», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. У 1959 г. 103 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1994 г. 19 двароў, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на ўсх. баку.

**ГАШЧА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 63 км на У ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 39 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Туркаўшчына, Гіравічы, Эпімахі, Гіневічы і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 16 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Пшаздзецкага. У 1858 г. 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка К.Васілеўскага. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 45 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 8 двароў, 52 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.1.1960 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1948 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 63 жыхары. З 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 12 двароў, 17 жыхароў. Планіроўка набліжана да П-падобнай: ад прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзяць на Пн 2 выгнутыя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.





Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛАБУРДЫ** – вёска ў Пральніцкім с/с, за 54 км на ПдУ ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск–Баранавічы, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Цяцераўка (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў–Івянец. 16 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. 15 двароў, 97 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць А.Ліхадзіеўскага і І.Ратынскага. У 1858 г. цэнтр сельскага т-ва, у Мінскім павеце, уласнасць памешчыцы К.Плявака. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 100 жыхароў, у 1908 г. 20 двароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 135 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 40 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. 21.11.1949 г. арганізаваны калгас «За Радзіму», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 29.11.1951 г. ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр – в. Суднікі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Падневіцкім сельсаветах. З 25.10.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1959 г. 182 жыхары. У 1994 г. 30 двароў, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар – на паўд.-зах. ускраіне.

**ГАЛІМЦЫ** – вёска ў Пральніцкім с/с, за 54 км на ПдУ ад Валожына, 56 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна–Ліда, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пральнікі, Курдуны і далей па шашы Ракаў–Івянец. 61 гаспадарка, 127 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 23 двары, 206 жыхароў, млын, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць канюшага І.Ратынскага. У 1858 г. 103 жыхары мужчынскага полу, у Пральніцкім сельскім т-ве, уласнасць памешчыцы А.Лідухоўскай. Паводле перапісу 1897 г. 62 двары, 354 жыхары, кузня, хлебазапасны магазін, часоўня на могілках, піцейны дом. У 1908 г. 65 двароў, 460 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 72 двары, 433 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 36 двароў, 584 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас імя А.А.Андрэева, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 15.11.1951 г. ў складзе калагаса «Верны шлях» (цэнтр – в. Пральнікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 426 жыхароў. З 27.3.1959 г. ў Пральніцкім, з 7.7.1962 г. ў Падневіцкім сельсаветах. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 77 двароў, 170 жыхароў. Планіроўка крыжовая. Гал. прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі перасечана па цэнтры плаўна выгнутай вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўн. ускраіне.

**ГАЛУБЫ** – вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 11 км на ПдУ ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна–Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн



цячэ р. Пяршайка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пруднікі і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1770 г. засценак Галубова, 3 двары, у Ашмянскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1799 г. вёска Галубоўка, 5 двароў, 31 жыхар, млын, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ. Рас. імперыі, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 21 жыхар мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа І.Тышкевіча. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 14 двароў, 62 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі аднаго жыхара. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Пасля вайны адбудавана. 10.11.1949 г. арганізаваны калгас імя В.М.Куйбышава, які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1959 г. 39 жыхароў, у Даўбенскім, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім сельсаветах. У 1994 г. 10 двароў, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛЯНОВА** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

У 1897 г. 14 двароў, 86 жыхароў. У канцы 19 ст. працаваў вінакурны з-д. У 1904 г. 116 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 17 двароў, 74 жыхары, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Алянава ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 134 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя С.М. Кірава. Была ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Дзейнічаў магазін. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1959 г. 71 жыхар. У 1994 г. 18 двароў, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўд. ускраіне.

**ГАЛЯНОВА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 40 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гірбінята і далей па дарозе Баруны—Багданаў і шашы Валожын—Ашмяны. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. фальварак, быў заснаваны бровар, на якім у 1894 працавалі 9 рабочых. У 1880 г. сядзіба, дзейнічаў вінакурны з-д. У 1897 г. фальварак, 12 двароў, 92 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1920 г. да 17.9.1939 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 127 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з

25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 132 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка з фондам больш за 10 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт. У 1994 г. 22 двары, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адасоблена ў паўн.-ўсх. баку. Вытв. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ГАНЧАРЫ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 12.6.1962 г.), за 2 км на З ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўд.-ўсх. баку мяжуе з Валожынам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі. 79 гаспадарак, 187 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 10 двароў, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. в. Ганчар, 19 двароў, 123 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 137, у 1908 г. 154 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 31 двор, 184 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 35 двароў, 294 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.6.1956 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). Размяшчаліся ПМК, ветэрынарная лабараторыя, сталовая. У 1959 г. 193 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 67 двароў, 169 жыхароў. У вёсцы размешчаны дзярж. УП «Прадпрыемства меліяратыўных сістэм», ветэрынарны пункт, камп'ютэрны клуб. Планіровачна складаецца з 2 вуліц: гал. (адрэзак шашы) прамалінейнай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, і крывалінейнай, шыротнай арыентацыі. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**ГАНЧАРЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 24 км на З ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Ліда. 45 гаспадарак, 111 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 13 двароў, 116 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 76 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Зялёны гай». Была ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 142 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 54 двары, 142 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўля-



ным і дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на З.

**ГАНЧЫЦЫ** — вёска ва Узбалацкім с/с, за 12 км на З ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць праз вёску. 39 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 16 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 16 двароў, 184 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 36 двароў, 220 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 142 вяскоўцы ваявалі на франтах і ў партыз. атрадах, 43 з іх загінулі. У жн. 1949 г. арганізаваны калгас імя М.Ф.Гастэлы, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 222 жыхары, ва Узбалацкім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, зернясховішча, магазін. У 1994 г. 55 двароў, 117 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы) мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

**ГАРАДЗЕЧНА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 21 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Гародзькі—Валожын. 61 гаспадарка, 104 жыхары (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1489 г. вёска ў маёнтку Лоск, уласнасць Г.Карыбутаўны, княгіні Лоскай. Яна запісала трох сялян у фундуш парафіяльнага касцёла, засн. ёю ў Лоску. У 1524 г. кароль Жыгімонт І пацвердзіў гэты запіс. У дакументах 1534 г. пазначана як «Шэпанкаўскі» дварэц у маёнтку Лоск, уласнасць троцкага ваяводы, жамойцкага старосты П.Кішкі, які ён падараваў свайму служэбніку Шчаснаму Абрамовічу. У 1548 г. «Кондратаўскі» дварэц на р. Гарадзечнай у маёнтку Лоск ва ўласнасці гаспадарскага маршалка валынскай зямлі, валадзімірскага старосты П.Кішкі, які ён падараваў сваім служэбнікам Шчаснаму Абрамовічу і яго сыну Станіславу. У 1577 г. «Саволажыца», урочышча ў маёнтку Лоск, уласнасць віленскага кашталяна Я.Кішкі. У 1592 г. брат кашталяна С.Кішка пацвердзіў гэту дарчую С.Абрамовічу навечна да яго маёнтка «Гарадзечна». У 1611 г. маёнтак ва ўласнасці С.Абрамовіча. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1886 г. засн. бровар, на якім у 1912 г. працавала 8 рабочых і быў усталяваны паравы рухавік. У 1897 г. вёска, 40 двароў, 286 жыхароў, і аднайменны маёнтак, 4 двары, 75 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У канцы 19 ст. дзейнічалі вінакурны з-д і вадзяны млын. У 1900 г. адкрыта школа граматы. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска, 66 двароў, 373 жыхары і фальварак, 6 двароў, 104 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гародзькаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 77 двароў, 428 жыхароў, у маёнтку 13 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Гародзькі). Размяшчаліся паляводчая брыгада, фермы буй-





ной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, пач. школа, клуб, магазін. У 1959 г. 371 жыхар. У 1994 г. 91 двор, 172 жыхары. У 2009 г. ў вёсцы Дом майстроў, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРДЫНАВА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць побач з вёскай. 27 гаспадарак, 58 жыхароў (2008).

Па рукапісных крыніцах вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1522 маёнтак, айчызна, уласнасць М.Якавіча. Разам з Валожынскай і Яцкаўскай пушчамі і вёскамі прададзены за 2000 коп грошаў Я.Гардыне. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце, уладальнік Ю.Гардына са сваіх шасці маёнткаў выстаўляў у войска 7 коннікаў і 4 драбаў. У 1584 г. ва ўласнасці Я.Глябовіча, які абмяняў маёнтак з Віленскай капітулай на Алізараўскі маёнтак. У 1592 г. сталовы маёнтак Віленскага біскупства. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 54 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 60 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 13 двароў, 98 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 1.12.1949 г. арганізаваны калгас імя К.Заслонава, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 100 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 34 двары, 64 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай уздоўж шашы з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драў- лянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на паўд.-зах. ускраіне, каля шашы, вытв. сектар — на ПнУ.

**ГАРОДЗЬКІ** — вёска, цэнтр Гародзькаўскага с/с (з 20.9.1944 г.) і СВК «Лоск», чыг. ст. Валожын, за 16 км на ПнЗ ад Валожына, 123 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Гародзькі—Валожын. 256 гаспадарак, 561 жыхар (2008).

Вядомы ў ВКЛ у пач. 18 ст. У 1775 г. вёска, 29 двароў, 80 жыхароў мужчынскага полу, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1809 г. на сродкі надворнага саветніка Собалева пабудавана царква. У 1866 г. пабудавана з бутавага каменю царква, якая з'яўляецца помнікам архітэктуры рэтраспектыўнарус. стылю. У 1880 г. сяло, цэнтр воласці Ашмянскага павета Віленскай губ., дзейнічалі школа, у якой у 1888 г. навучаліся 39 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак, заезны дом. Паводле перапісу 1897 г. с. Гародзькі 1 (3 двары, 18 жыхароў), с. Гародзькі 2 (40 двароў, 223 жыхары, царква, школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом), маёнтак Гародзькі (11 двароў, 69 жыхароў, вадзяны млын, сыраварны з-д, карчма). З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў с. Гародзькі было 72 двары, 343 жыхары, у фальварку 5 двароў, 64 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 68 двароў, 409 жыхароў, у маёнтку 8 двароў, 58 жыхароў. У 1940 г. арганізаваны калгас «Краіна Саветаў». У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. аку-



піраваны ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі на франтах (7 вяскоўцаў) і ў партыз. барацьбе, у 1966 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік — скульптура воіна. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1945 г. калгас «Краіна Саветаў» адноўлены, яго абслугоўвала Валожынская МТС. У 1949 г. 89 двароў, 226 жыхароў. У 1959 г. 520 жыхароў. У 1968 г. да вёскі далучана чыг. ст. Валожын. У 1970 г. 244 двары, 738 жыхароў. Размяшчаліся паляводчая брыгада, машынны двор, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, кармацэх, сярэдняя школа (20 настаўнікаў), дзіцячы сад, клуб, б-ка з фондам больш за 9,9 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, 2 спарт. пляцоўкі, 5 магазінаў, сталовая, аддз. ашчаднага банка, сувязі, АТС, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1994 г. 286 двароў, 675 жыхароў. Закрытая ў 1960 г. Свята-Пакроўская царква вернута прыхаджанам у 1990 г. У жылым памяшканні зарэгістравана царква хрысціян веры евангельскай «Шлях жыцця» ў 1997 г. Дзейнічаюць (2009) СВК «Лоск», аўтазаправачная станцыя, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя і мастацтваў школы, клуб, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Чыгунка падзяляе вёску на паўн. (прамалінейная вуліца, арыентавана з ПдЗ на ПнУ) і паўд. (выгнутая вуліца, арыентавана з ПдЗ на ПнУ, ад якой перпендыкулярна адыходзяць дзве вуліцы ў паўд.-ўсх. і паўн.-зах. напрамкам). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне паўн. часткі — вытв. сектар, на Пд вёскі склаўся грамадскі цэнтр. Адасоблены раён жылой забудовы на З мае рэгулярную квартальную планіроўку: дзве прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, аб'яднаны трыма прамалінейным вуліцамі, амаль шыротнай арыентацыі. На паўн. ускраіне, паблізу чыгункі, вытв. сектар. У склад Гародзькаўскага с/с уваходзяць 37 населеных пунктаў (2010).

**ГЕРВЕЛІ** — вёска ў Залескім с/с, за 51 км на У ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Воўкаўшчына і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. с. Гервель, 25 двароў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. с. Гервель, 28 двароў, у Мінскім павеце, уласнасць стольніка Сялявы. У 1858 г. 73 жыхары мужчынскага полу, у Стара-Ракаўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыцы княгіні Друцкай-Любецкай. У 1888 г. адкрыта школа, у якой у 1890 г. навучаліся 14 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. 34 двары, 225 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 46 двароў, 276 жыхароў. З ліст.



*Пакроўская царква ў в. Гародзькі (1866).*




1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.1.1960 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 310 жыхароў, у Ракаўскім с/с Радашковіцкага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. 12.12.1949 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», які абслугоўвала Залеская МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчаліся паляводчая брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. У 1994 г. 43 двары, 79 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўн.-зах. ускраіне.

**ГЕРМАШЫШКІ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 53 км на У ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 32 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Палікшты, Стары Ракаў, Кучкуны, Ракаў і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска Гарманішкі, 1 двор, 13 жыхароў. У 1897 г. аколіца, 2 двары, 17 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. засценак, 5 двароў, 33 жыхары, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 7.7.1948 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Залеская МТС. Была ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1959 г. хутар, 28 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 4 двары, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з адасобленых паўн. і паўд. частак. Традыц. драўляныя, сял. двары размешчаны ўздоўж кароткіх вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ.

**ГІЛІКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 33 км на ПдУ ад Валожына, 38 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Івянец—Валожын. 21 гаспадарка, 47 жыхароў (2008).

На паўд. ускраіне вёскі захавалася больш за 10 магіл, пазначаных каменнымі плітамі, якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкія часы. У 1815 г. вёска, уладанне І.Роджэрсана. У 1858 г. 41 жыхар мужчынскага полу, у Старшынскім (Старынскім) сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Я.Бржазоўскага. У 1897 г. ў Івянецкай вол. Мінскага павета, 14 двароў, 111 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 28 двароў, 174 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 41 двор, 211 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. З 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 132 жыхары. У студз. 1950 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які абслугоўвала Івянецкая МТС. Да крас. 1959 г. ў Старынкаўскім, затым у Зарэчанскім, з 1.10.1973 г. ў Івянецкім сельсаветах. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 27 двароў, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і за-



будаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГІНЕВІЧЫ** — вёска ў Залескім с/с (з 12.10.1940 г.), за 51 км на У ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Радашковічы, якая праходзіць праз вёску. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 26 жыхароў мужчынскага полу, і маёнтак у Мінскім павеце Мінскай губ., казённая ўласнасць. У 1870 г. 32 жыхары мужчынскага полу, у 1880 г. 13 двароў, 108 жыхароў, царква, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 17 двароў, 123 жыхары і фальварак, 1 двор, 22 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 28 двароў, 178 жыхароў. У 1926 г. дзейнічала пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. да 26.8.1961 г. ў Гіравіцкім с/с. У 1959 г. 209 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. 8.6.1949 г. арганізаваны калгас імя М.І.Кутузава, які абслугоўвала Залеская МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ларок. У 1994 г. 31 двор, 58 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна. традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**ГІНТАЎШЧЫНА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сугвазды і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х гг. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 11.12.1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 115 жыхароў, у Брылькаўскім, з 1962 г. ў Валожынскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 26 двароў, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГІРАВІЧЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 55 км на У ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 53 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ і ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Эпімахі і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 58 гаспадарак, 130 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. сяло, уласнасць шляхціца. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1880 г. 25 двароў, 173 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць стольніка Сялявы. У 1880 г. 29 двароў, 232 жыхары, дзейнічала царква. У 1889 г. адкрыта школа, у якой у 1890 г. навучаліся 11 хлопчыкаў. У 1897 г. 42 двары, 255 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма, у Заслаўскай





вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 57 двароў, 318 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 26.8.1961 г. Гіравічы — цэнтр сельсавета ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 264 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 26.2. 1949 г. арганізаваны калгас «Герой працы», які абслугоўвала Радашковіцкая МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчаліся паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа (14 настаўнікаў), дзіцячы сад, б-ка з фондам 7,7 тыс. кніг, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт. быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт. У 1994 г. 67 двароў, 132 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на ПдЗ, вытв. сектар — на У.

**ГІРБІНЯТА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 31 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па дарозе Баруны—Багданаў, якая праходзіць побач з вёскай, і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1568 г. 2 сялы ў Крэўскім старостве ва ўласнасці караля Жыгімонта Аўгуста, якія ён падараваў двараніну А.Воляну. У 1574 г. бел. філосаф і вальнадумец А.Волян заснаваў аселіцы на землях, прыкупленых да сваіх вёсак і адну з іх каля Гірбінят назваў у гонар свайго імя (потым хутар Валянова, цяпер не існуе). З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 20 двароў, 134 жыхары, у 1904 г. 151 жыхар, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 101 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 38 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 27.9. 1950 г. арганізаваны калгас імя П.К.Панамарэнкі, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 163 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэзскі» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 27 двароў, 54 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай мерыдыянальнай вуліцы з 3 завулкамі шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛЯІ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 34 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Адамаўцы і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак, 2 двары, 13 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 3 двары, 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай



вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча». З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 71 жыхар, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 16 двароў, 30 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнагы тыпу.

**ГРУШОЎШЧЫНА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Ластаяны на лініі Маладзечна—Ліда, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дуды, Падбярэзь, Післякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 19 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. засценак, 4 двары, 8 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Сокала. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, уладанне Д.Салагуб. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 67 жыхароў, у 1904 г. 76 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 82 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. в. Грудзеўшчына ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 24 двары, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1952 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 82 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 16 двароў, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГРЫЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 42 км на У ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 38 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Івянец. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 27 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Івянецкай каталіцкай плябаніі. У 1858 г. 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 47 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 10 двароў, 63 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 75 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). У 1994 г. 7 двароў, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУДЫ** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад Валожына, 38 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 49 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Падневічы і далей па шашы Ракаў—Івянец. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска (9 двароў, 60 жыхароў) і фальварак (карчма, гаспадарскі двор), у Мінскім павеце





Мінскай губ., уласнасць І.Германа. У 1858 г. вёска і маёнтак, у Падневіцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыцы А.Марэнцовай. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 13 двароў, 83 жыхары, у фальварку 1 двор, 13 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 15 двароў, 85 жыхароў, у фальварку 2 двары, 13 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 56 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. 19.12.1949 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. З 21.2.1957 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1959 г. 218 жыхароў. З 27.3.1959 г. ў Пральніцкім, з 7.7.1962 г. ў Падневіцкім с/с. З 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 43 двары, 71 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**ГУНЬБАЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 18 км на У ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 59 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 14 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1815 г. 12 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 23 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэр. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.— жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 70 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 8 двароў, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУТА** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 35 км на ПнЗ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Каралінова, Люташ, Альшанка і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1801 г. в. Старая Гута, 13 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 51 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1994 г. 9 двароў, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, за-



будаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЙНАВА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 39 км на ПдУ ад Валожына, 48 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Камень і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Вядома з канца 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1593 г. сяло ў маёнтку Камень, уласнасць віцебскага ваяводзіча С.Кішкі. У 1785 г. с. Дзейнаўка, 17 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 70 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць касцёла. У 1858 г. 55 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 200 жыхароў, у 1908 г. 31 двор, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 41 двор, 243 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 62 двары, 318 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 51 двор, загубілі 11 жыхароў На франтах загінулі 4 вяскоўцы. 7.3.1951 г. арганізаваны калгас імя 8 Сакавіка, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1. 1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3. 1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 166 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім р-не. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя У.У.Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). Размяшчаліся паляводчая брыгада і свінагадоўчая ферма, магазін. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. У 1994 г. 23 двары, 49 жыхароў. Пларіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЙНАВА ВЯЛІКАЯ** — вёска ва Узбалацкім с/с (з 12.10.1940 г.), за 21 км на З ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 83 км ад Мінска. 87 гаспадарак, 152 жыхары (2008).

У 1895 г. тут адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска Дайнава, 55 двароў, 368 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. с. Вялікая Дайнава, 447 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, 95 двароў, 557 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ва Узбалацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 112 двароў, 716 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Супраць акупантаў на франтах і ў партыз. атрадах змагаліся 58 вяскоўцаў, 17 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1950 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 584 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). У 1994 г. 121 двор, 268 жыхароў. Размяшчаліся фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы,канюшня, зернясховішча, крыты ток, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх. і паўн.-зах. ускраінах. Радзіма вучонага ў галіне фізікахіміі торфу, акадэміка НАН Беларусі, доктара тэхн. навук, праф., засл. дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі І.І.Ліштвана (н. ў 1932 г.).



*І.І.Ліштван.*

**ДАЛІДАВІЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 36 км на ПдУ ад Валожына, 42 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—




Дзераўная, якая праходзіць побач з вёскай. 34 гаспадаркі, 67 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 60 жыхароў, карчма, вінакурня, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Івянецкай каталіцкай плябаніі. У 1858 г. 42 жыхары мужчынскага полу, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 229 жыхароў, хлебазапасны магазін і ферма (1 двор, 14 жыхароў), у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ў вёсцы 38 двароў, 240 жыхароў, у фальварку 25 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 51 двор, 314 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 81 двор, 388 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. 12.9.1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. З 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 53 двары, 116 жыхароў. З 1963 г. ў складзе калгаса імя У.У.Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, б-ка з фондам 6,4 тыс. кніг, ларок. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна да шашы, і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ДАМАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 10 км на У ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 64 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць побач з вёскай. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

Па рукапісных крыніцах вядома з пач. 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1407 г. вёска каля Валожына ў маёнтку Жупраны (цяпер Ашмянскі р-н), уласнасць вял. кн. Вітаўта. Ён падараваў яе разам з Жупранамі віленскаму старосту В.Манівіду. У 1785 г. сяло, 6 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 109 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. У 1908 г. 137 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 126 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці землякоў — 20 воінаў і партызан і 18 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. да 1960 г. цэнтр калгаса «Праўда». У 1959 г. 91 жыхар, у Сугваздаўскім с/с. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся паляводчая брыгада, машынны двор, свінагадоўчая ферма, клуб, б-ка з фондам 7,5 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, АТС, магазін, грамадская лазня. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 24 двары, 55 жыхароў. У 2009 г. аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц. Ад гал. вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзіць на зах. ускраіне ў паўд. напрамку вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАНІЛКІ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 30 км на З ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ р. Аль-



шанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць побач з вёскай. 25 гаспадарак, 44 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. ў ВКЛ. У 1786 г. вёска, 5 двароў, у Ашмянскім павеце, уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 147 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 28 двароў, 163 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 37 двароў, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл.З 26.7.1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 121 жыхар, на хутары 12 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1940 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 32 двары, 62 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, паралельна да шашы і забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДАРАГУНЬ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна), на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Капусціна—Валожын. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 7 двароў, 58 жыхароў, у Валожынскай вол. Аршанскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 64 жыхары, у 1908 г. 77 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 83 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Румскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у в. Дарагунь 1—10 двароў, 70 жыхароў, у в. Дарагунь 2 — 13 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. і ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1959 г. 48 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1976 г. ў Валожынскім с/с. У 1994 г. 12 двароў, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЎБЕНІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 8 км на У ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 63 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Літанка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 45 гаспадарак, 110 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1614 г. сяло, у складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1771 г. на сродкі памешчыка Гушчы па-



*Праабражэнская царква ў в. Даўбені (1869).*





будавана драўляная царква. У 1785 г. с. Доўбене, 15 двароў. У 1886 г. адкрыта 2-класная царк.-прыходская школа. У 1869 г. пабудавана з бутавага каменю царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры псеўдарус. стылю. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 216 жыхароў, 2 царквы, царк.-прыходская школа, 2 хлебазапасныя магазіны, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Рас. імперыі. У 1908 г. 30 двароў, 237 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 143 двары, 265 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.8.1973 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 52 двары, 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.11.1949 г. арганізаваны калгас імя В.У.Куйбышава, які абслугоўвала Валожынская МТС. З лют. 1956 г. ў складзе калгаса імя А.В. Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (13 настаўнікаў), аддз. ашчаднага банка, б-ка з фондам 9,4 тыс. кніг, аддз. сувязі, магазін. У 1959 г. 200 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1961 г. закрыта Спаса-Праабражэнская царква. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1992 г. зарэгістравана даўбенская царк. абшчына і новая царква асвячона ў 1993 г. У 1994 г. 47 двароў, 95 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр на скрыжаванні вуліцы з шашой.

**ДАЎГУЛЁЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 19 км на У ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Пяршайка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1567 г. маёнтак, набыты ва ўласнасць ашмянскім зямянінам М.Урацэўскім, з якога ён выстаўляў у войска аднаго конніка. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 4 двары, 26 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай, у Мінскім павеце, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. Побач была аколіца, 4 двары, 23 жыхары, у валоданні шляхціца. У 1858 г. в. Даўгуляўшчызна, у Макрыцоўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа І.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 79 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 60 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 — 137 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 26 двароў, 51 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЎГУЛІ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 37 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 44 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).



Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1541 г. — зямля, уласнасць гаспадарскага двараніна Г.Есьмана. Ніва (сенажаць) — уласнасць М. і С. Каспаровічаў, якую ў іх купіў Г.Есьман. С 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 23 жыхары, уладанне Д.Прасецкага і М.Хялкоўскага. У 1897 г. вёска, 7 двароў, 45 жыхароў і аднайменная сядзіба, 3 двары, 22 жыхары, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 8 двароў, 59 жыхароў. З 1921 пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 77 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 67 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Былі ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 8 двароў, 14 жыхароў. Планіровачна складаюцца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 36 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 54 гаспадаркі, 155 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1758 г. вёска, 3 двары, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 2 двары, 15 жыхароў, уласнасць І.Храптовіча. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак, 19 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. фальварак, 2 двары, 30 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 28.5.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная гвардыя» з цэнтрам у в. Кудзеўцы. У 1959 г. хутар, 20 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Былі ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся вытв. ўчастак калгаса, машынны двор, піларама, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 11,4 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, АТС, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 54 двары, 188 жыхароў. У вёсцы размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры вёскі, вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ва Узбалацкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 11 двароў, 56 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска (80 жыхароў), фальварак графа Тышкевіча (8 жыхароў). З 1921 г. — пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 68 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. гітлераўцы спалілі 13 дамоў, загубілі 3 жыхароў. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, каля дарогі Валожын—Маладзечна пахаваны 16 сав.

воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад ням.-фаш. захопнікаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У жн. 1949 г. арганізаваны калгас імя М.Ф.Гастэлы, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 61 жыхар, ва Узбалацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). У 1994 г. 14 двароў, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна перакрыжаванай шашой. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЕСЯТНІКІ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 30 км на ПдЗ ад Валожына, 1 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 65 гаспадарак, 147 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1602 г. вёска ў маёнтку Багданава, уласнасць



*Могілкі рускіх салдат часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Дзесятнікі.*

каралеўскага канюшага, ашмянскага старосты П.Сапегі. У 1890-я г. дзейнічаў млын, адлюстраваны на вядомай карціне Ф.Рушчыца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 52 двары, 295 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. вёскі Дзесятнікі 1 (7 двароў, 43 жыхары), Дзесятнікі 2 (13 двароў, 160 жыхароў) і Дзесятнікі 3 (3 двары, 80 жыхароў). У пач. 20 ст. на ўскраіне вёскі была ўзведзена з бутавага каменю мураваная капліца, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры малых форм з выкарыстаннем элементаў стылю «мадэрн». З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 64 двары, 296 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 70 двароў, 386 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1947 г. арганізаваны калгас «Маладая гвардыя», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Размяшчаліся вытв. брыгада, лясніцтва, клуб. У 1959 г. — 291 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 73 двары, 176 жыхароў. Дзейнічае (2009) клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.-усх. ускраіне.

**ДЗЯМІДАВІЧЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 15 км на ПнЗ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзь-



кі, якая праходзіць побач з вёскай. 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2008).

Вядомы з пач. 19 ст. У 1815 г. вёска, 25 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Каменскай каталіцкай плябаніі. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Дзямідавічы 1 (10 двароў, 70 жыхароў) і Дзямідавічы 2 (5 двароў, 32 жыхары). З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска Дзямідавічы, 19 двароў, 111 жыхароў і аднайменны фальварак, 1 двор, 11 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 153 жыхары, у фальварку 1 двор, 3 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 20 вяскоўцаў змагаліся супраць акупантаў на франтах, 3 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). У 1959 г. 189 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 43 двары, 77 жыхароў. Планіровачна складаюцца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, трады. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на ўсх. баку за ручаём каля шашы.

**ДОБРАЯ ЗЯМЛЯ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Валожына, 1 км ад чыг. ст. 708-ы км на лініі Маладзечна—Ліда, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ цячэ р. Ластаянка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ластаянцы і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 5 двароў, 41 жыхар, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 46 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 37 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Праўда». З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 41 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 9 двароў, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, трады. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОЛЕВІЧЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

У 1897 г. 17 двароў, 110 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 пад уладай Польшчы. У 1921 г. 22 двары, 137 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 30.8.1950 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. У 1959 г. 152 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. Была ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філі-




піняты). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 28 двароў, 48 жыхароў. Планіровачна складаюцца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на паўд. баку.

**ДОРЖНІ** – вёска ў Вішнеўскім с/с, за 29 км на З ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна–Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вярцімы,Ганчары і далей па шашы Валожын–Ліда. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 12 двароў, 57 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5 двароў, 23 жыхары, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў змагаліся супраць акупантаў на франтах, 2 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 6.12.1957 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр – в. Вішнева). У 1959 г. 76 жыхароў, у Вішнеўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 15 двароў, 25 жыхароў. Планіровачна складаюцца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОРЫ** – вёска, цэнтр Дорскага с/с (з 12.10.1940 г.) і СВК «Дорскі», аграгарадок, за 23 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск–Маладзечна, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск–Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 211 гаспадарак, 508 жыхароў (2008).

У вёсцы, на правым беразе ракі, ва ўрочышчы Царкавішча размешчана гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1473 г. паселішча, у якім існаваў парафіяльны касцёл. У 1511 г. маёнтак з парафіяльным касцёлам, у якім Я.Міцкавіч з жонкай заснавалі алтарыю (капліцу) і далі ёй фундуш. Каля 1522 г. маёнтак ва ўласнасці С.Вештартовіча, да 1527 г. Я.Касцевіча, потым М.Угроўскай, з сярэдзіны 1540-х гг. А.Радзівілаўны і яе мужа Е.Сіняўскага. У 1559 г. каталіцкая парафія і касцёл валодалі тут 18 дымамі падданых сялян. У 1567 г. сяло, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Побач з маёнткам Доры ва ўладанні Сіняўскага знаходзіліся 2 дробныя маёнткі, уладальнікі якіх М.Міткавіч і Я.Кураша выстаўлялі ў войска па адным конніку. У 1688 г. пабудавана Пакроўская драўляная царква. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 29 двароў, 182 жыхары, царква, гаспадскі драўляны дом, вадзяны млын, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. сяло і маёнтак, 100 жыхароў мужчынскага полу, цэнтр сельскага т-ва Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. У 1861 г. 29 двароў, 181 жыхар. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1888 г. навучаліся 44 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 72 двары, 428 жыхароў, царква, школа, хлебазапасны магазін, вадзяны і ветраны млы-



ны, кузня, карчма, у маёнтку 61 жыхар. Многія сяльчане былі беззямельнымі і малазямельнымі. 24.4.1906 г. яны накіравалі прашэнне ў Дзярж. думу аб надзяленні зямлёй, але станоўчага рашэння не атрымалі. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў сяле 72 двары, 417 жыхароў, у фальварку 53 жыхары, у Пяршайскай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 108 двароў, 602 жыхары. У 1940 г. арганізаваны калгас імя «18-й партканферэнцыі». У вёсцы ў гэты час было 113 двароў, 273 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 49 дамоў, загубілі 106 жыхароў. У час карнай аперацыі 23.7. 1943 г. фашысты загналі ў царкву і ў жылую хату 146 жыхароў і спалілі іх жывымі. У цэнтры вёскі, каля будынка школы пахаваны 257 мірных жыхароў, загубленых фашыстамі, у іх ліку і тыя, якія былі спалены гітлераўцамі ў ліп. 1943 г. На месцы гібелі жыхароў вёскі ўстаноўлены помнік «Смуткуючыя маці», у 1992 г. на сродкі калгаса «Чырвоны сцяг» адкрыты мемарыяльны комплекс «Загінуўшых чакаюць вечна» (скульптар М.І.Кандрацьеў, архітэктары В.Б.Ладыгіна і С.І.Федчанка). На франтах загінуў 21 вясковец. На могілках у брацкай магіле пахаваны 4 воіны 183-га запаснога палка і 18-га асобнага санітарнага батальёна, якія загінулі пры вызваленні раёна. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.2.1950 г. в. Доры перайшла з калгаса «Новае жыццё» ў калгас «Чырвоны Сцяг» з цэнтрам у в. Зарэчча, у 1953 г. вёска стала цэнтрам калгаса. У 1959 г. 515 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1971 г. 124 двары, 432 жыхары.

Калгас «Чырвоны Сцяг» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, насенняводстве шматгадовых траў і збожжавых, меў 14 761 га сельгасугоддзяў, у т.л. 9954 га ворыва, 151 трактар, 57 збожжаўборачных камбайнаў, 107 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 4 вытв. участкаў і 29 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 53 спецыялісты з вышэйшай і 106 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, устаноўка па прыгатаванні корму для жывёлы, сярэдняя школа (16 настаўнікаў), дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка з фондам 11,5 тыс. кніг, амбулаторыя, аддз. сувязі, АТС, аддз. ашчаднага банка, 3 магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 216 двароў, 577 жыхароў. Першы аграгарадок у раёне. СВК «Дорскі» уключаў жывёлагадоўчы комплекс, 3 фермы, майстэрні (з 2003 г.). Узбуйнены далучэннем вытв. кааператыва (калгаса) «Чырвоная гвардыя». У вёсцы размешчаны (2009) СВК «Дорскі», дзіцячы сад-яслі, сярэдняя і мастацтваў школы, Дом культуры і вольнага часу, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, прыёмны пункт быт.

*Пакроўская царква ў в. Доры (пасля 1990-х г.)*






абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, пажарная часць, спортпляцоўка, сталовая, 2 магазіны, кафэ. Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Паўд.-ўсх. частка забудовы размежавана 3 прамалінейнымі вуліцамі, перпендыкулярнымі да гал. Тут сфарміраваны грамадскі цэнтр з паркам. Вытв. сектар — на паўн.-зах., паўд. і паўд.-ўсх.ускраінах.

У склад Дорскага с/с уваходзяць 32 населеныя пункты (2010).

**ДОЎКНЕВІЧЫ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Багданава і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 7 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1897 г. аколіца, 9 двароў, 43 жыхары, млын, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 72 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. аколіца ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 10 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 25.3.1947 г. ўвайшла ў склад саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. вёска, 110 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 10 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна сфарміраваліся ўздоўж чыгункі. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРУЖЫЧЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 32 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Ісдач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ракаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 27 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць асэсара К.Лоскі. У 1858 г. 26 жыхароў мужчынскага полу, у Клавецкім сельскім т-ве Мінскага павета, уладанне графа М.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 69 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. 10.7.1906 г. вяскоўцы разам з сялянамі суседніх вёсак звярнуліся ў Дзярж. думу з хадайніцтвам зменшыць падаткі і даць зямлю.У 1921 г. пад уладай Польшчы, 15 двароў, 92 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 20.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1958 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 67 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 11 двароў, 17 жыхароў. Планіровачна складаюцца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБАШЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 43 км на У ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Барок, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 30 гаспадарак, 54 жыхары (2008).



За 1 км на Пд ад вёскі размешчаны курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 22 двары, 141 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць падстолія Свентаржэцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 212 жыхароў, ва ўрочышчы 2 двары, 8 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы і фальварку 40 двароў, 217 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.8.1949 г. арганізаваны калгас «Авангард», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. в. Дубалі, 251 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). Размяшчаліся вытв. ўчастак, б-ка з фондам 6,5 тыс. кніг, магазін. У 1994 г. 44 двары, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх. ўскраіне.

**ДУБІНА БАЯРСКАЯ** — вёска, цэнтр Узбалацкага с/с (з 20.1.1960 г.), былога калгаса «Зара», цяпер СВК «Агра-Дубінскае», за 14 км на Пн ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дайнава Вялікая і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 92 гаспадаркі, 211 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Дубяна, 66 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1866 г. 59 двароў, 370 жыхароў, царква, карчма. У 1889 г. адкрыта 1-класная царк.-прыходская школа. У жн. і вер. 1893 г. сяльчане тройчы аказалі супраціўленне уладам пры размежаванні зямель. Паводле перапісу 1897 г. 137 двароў, 914 жыхароў, дзейнічалі 2 царквы, былі адкрыты багадзельня, хлебазапасны магазін, піцейны дом, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У снеж. 1905 г. сяляне правялі самавольную вывазку памешчыцкага лесу. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 3 вёскі: Дубіна Баярская (65 двароў, 371 жыхар), Дубіна Юрыздыка (97 двароў, 519 жыхароў) і Дубіна Вяршыцкая (50 двароў, 306 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ва Узбалацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 79 двароў, 460 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці землякоў — 47 воінаў і партызан і 20 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск і стэла з імёнамі загінуўшых. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У ліст. 1945 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава, які да 1958 г. абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 404 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960-я г. разбурана драўляная царква на могілках.

Былы калгас «Зара», у складзе якога вёска знаходзілася з 1963 г., спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым насенняводствам шматгадовых траў і вырошчванні грэчкі, меў 3564 га сельгасугоддзяў, у т.л. 2524 га ворыўнай зямлі, 44 трактары, 15 збожжаўборачных камбайнаў, 22 грузавыя аўтамашыны і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 брыгад і 7 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 10 спецыялістаў з вышэйшай і 24 з сярэдняй спец. адукацыяй. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернясховішча, Дом механізатара, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), дзіцячы сад-яслі, АТС,

б-ка з фондам больш за 7 тыс. кніг, сталовая, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1994 г. 119 двароў, 297 жыхароў. У 2009 г. ў вёсцы дзіцячы сад, школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. Пабудаваная ў 1868 г. з бутавага каменю Свята-Георгіеўская царква рэстаўрыравана і вернута прыхаджанам у 1993 г. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль шыротнай арыентацыі, аб'яднаных завулкамі мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн. ускраіне. У склад Узбалацкага с/с уваходзяць 9 населеных пунктаў (2010).

**ДУБІНА ВЯРШЫЦКАЯ** — вёска ва Узбалацкім с/с (з 12.10.1940 г.), за 18 км на Пд ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чабаі і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 37 гаспадарак, 154 жыхары (2008).


*Георгіеўская царква ў в. Дубіна Баярская.*

Па рукапісных крыніцах вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1496 г. маёнтак Дубіна, уласнасць мсціслаўскага кн. І.Лінгвеневіча, потым вял. кн. Аляксандра. У 1496 г. ён падараваў маёнтак полацкаму намесніку Я.Забярэзінскаму і ў 1506 г. кароль Жыгімонт І пацвердзіў гэтае валоданне. У 1560—61 гг. маёнтак ва ўласнасці М.Кішкі-Цеханавецкага, дзейнічала праваслаўная царква. У пач. 1920-х г. вылучылася з в. Дубіна, да 1939 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 50 двароў, 306 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ва Узбалацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 61 двор, 356 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1950 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які да 1958 г. абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 302 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 61 двор, 124 жыхары. Планіроўка рэгулярная, квартальная: 4 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы перакрыжаваны мерыдыянальнымі вуліцамі. Грамадскія будынкі — у цэнтры вёскі. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх., паўн.-зах. і паўд. ускраінах.

**ДУБІНА ЮРЗДЫЦКАЯ** — вёска ва Узбалацкім с/с (з 12.10.1940 г.), за 13 км на Пн ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З абмежавана р. Дубіна (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чабаі і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 81 гаспадарка, 167 жыхароў (2008).

Засн. ў пач. 1920-х г. у выніку выдзялення з в. Дубіна, да 1939 г. пад уладай



Польшчы. У 1921 г. в. Дубіна Юрыздыка, 97 двароў, 519 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ва Узбалацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 110 двароў, 698 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У ліст. 1949 г. арганізаваны калгас «70 год І.В.Сталіну», які абслугоўвала да 1958 г. Валожынская МТС. У 1959 г. 664 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, кармацэх, фельч.-акушэрскі пункт і грамадская лазня. У 1994 г. 116 двароў, 241 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**ДУБКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 42 км на ПдУ ад Валожына, 50 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Брэст, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сівіца і далей па шашы Валожын—Івянец. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 14 жыхароў мужчынскага полу, у Сівіцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уладанне графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 54 жыхары, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 107 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 3 мірных жыхароў. На фронце загінуў 1 вясковец. Пасля вайны адбудавана. 23.8.1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Івянецкая МТС. Былі ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца). З 8.1. 1954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 95 жыхароў, у Зарэчанскім с/с Івянецкага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 2 двары, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 адасобленых участкаў сядзібнай драўлянай забудовы, аб'яднаных прасёлачнай дарогай мерыдыянальнай арыентацыі.

**ДУБОЎЦЫ** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 21 км на У ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 42 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў І. і Ф. Валадковічаў. У 1885 г. вёска і ўрочышча, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 124 жыхары. Побач быў маёнтак. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 142 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 21 двор, загубілі 45 жыхароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 29.12.1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 15.1.1959 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 161 жыхар. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 25 двароў, 55 жыхароў. Размяшчаліся ферма буйной

рагатай жывёлы, магазін. Планіроўка Г-падобная: ад прамалінейнай шыротнай вуліцы адыходзіць на ўсх. ускраіне прамалінейная мерыдыянальная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**ДУДКА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 43 км на ПдУ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Брэст, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач), на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Стоўбцы—Івянец, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1588 г. вёска ў сталовым маёнтку Старынкі, уласнасць віленскага біскупа, кн. Ю.Радзівіла, якую ён падараваў касцёлу, заснаванаму ім у Старынках. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 77 жыхароў, млын, побач праходзіць канал каля р. Волма, у Мінскім павеце, уласнасць К.Плявакі. У 1858 г. 22 жыхары мужчынскага полу, у Забалацкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Я.Брэназоўскага. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 10 двароў, 60 жыхароў і аднайменныя фальварак, 1 двор, 12 жыхароў, 2 урочышчы, 2 двары, 14 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 13 двароў, 103 жыхары, у фальварку 2 двары, 8 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 38 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З ліп. 1944 г. да крас. 1959 г. ў Старынкаўскім с/с. У жн. 1948 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 124 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11. 1966 г. да вёскі далучаны вёскі Луг і Баравікі. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка з фондам 12,7 тыс. кніг, магазін. У 1994 г. 14 двароў, 32 жыхары. Магазін (2009). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ДУДЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 33 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ластаянцы, Забрэззе, Післякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1858 г. маёнтак, 4 жыхары мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыцы Ф.Ярашэвічавай. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 66 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 56 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 25 двароў, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 89 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. Была ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэззе). У 1994 г. 21 двор, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова,



шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУШКАВА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 48 км на ПдУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 41 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Выганічанка (левы прыток р. Іслач) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Волма, якая праходзіць праз вёску. 55 гаспадарак, 89 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1749 г. вёска, 6 двароў, 13 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць І.Тушынскага. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 19 двароў, 96 жыхароў, драўляны гаспадарскі дом, карчма, млын, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць лоўчага К.Рыльскага. Затым ёй валодаў К.Мараўскі. Ён быў швагерам К.Радзівіла, прывёз у Душкава радзівілаўскія калекцыі і архівы, якія потым разышліся па ўсяму свету. Музей, які стварыў К.Мараўскі, быў адным з лепшых у Беларусі. У 1858 г. 76 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка А.Рэмпеля. У 1891 г. заснаваны бровар, на якім у 1914 г. працавалі 5 рабочых і быў усталяваны паравы рухавік. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 295 жыхароў і побач маёнтак Э.Булгака, 85 жыхароў, вінакурня, вадзяны млын, карчма (1 двор, 4 жыхары), у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1909 г. 53 двары, 480 жыхароў, у маёнтку 66 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска, 57 двароў, 348 жыхароў і фальварак, 4 двары, 82 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1944 г. арганізаваны калгас імя Чырвонай Арміі, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 321 жыхар, у двары 167 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам 7,5 тыс. кніг, магазін. У 1999 г. 88 двароў, 150 жыхароў. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова пераважна драўляная. Вытв. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ЕСЬМАНЫ** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 8 км на ПнУ ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка).

*Капліца (злева) і сядзіба Булгакаў у в. Душкава. 19 ст.*









Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 21 гаспадарка, 23 жыхары (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 9 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. 106 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 127 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 155, у 1908 г. 178 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 31 двор, 165 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 21 двор, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. У 1949 г. арганізаваны калгас «Праўда», які абслугоўвала да 1958 г. Валожынская МТС. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 82 жыхары, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 10.2.1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 24 двары, 55 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖОМАЙДЗЬ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 16 км на ПнЗ ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Куцяняты і далей па шашы Валожын—Гародзькі. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1567 г. с. Жомайць, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1862 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 306 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 334, у 1908 г. 338 жыхароў. З 1921 г. да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 50 двароў, 253 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 66 двароў, 374 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 19.12.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. Была ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. У 1959 г. 241 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 35 двароў, 68 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖОХАЎШЧЫНА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 42 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бакшты, Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 7 двароў, 66 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1921 пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 78 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай



вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 63 жыхары, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 5 двароў, 7 жыхароў. Адасобленыя сял. двары размежаваны ручаём і аб'яднаны прасёлачнай дарогай.

**ЖУКАЎШЧЫНА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 23 км на З ад Валожына, 7,5 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ ручай і меліярацыйны канал, злучаныя з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 21 гаспадарка, 43 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1795 г. вёска, у Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 12 двароў, 75 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 9 двароў, 48 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 134 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У жн. 1950 г. арганізаваны калгас «Зялёны гай», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 92 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 24 двары, 65 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУРАЎЦЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 10 км на З ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Валожынка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Стайкі і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 44 гаспадаркі, 70 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 30 двароў, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1884 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 371 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 73 двары, 378 жыхароў. У 1940 г. 72 двары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Стайкаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 73 двары, 489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. гітлераўцы спалілі 63 двары, загубілі 9 жыхароў. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 30.12.1948 г. арганізаваны калгас «Свабода», які абслугоўвала да 1958 г. Валожынская МТС. З 19.2.1958 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, фельч.-акушэрскі пункт. У 1959 г. 355 жыхароў, у Сакаўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 65 двароў, 125 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных 3 завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на зах. ускраіне.

**ЗАБАЛАЦЬ** — былая вёска ў Багданаўскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Валожы-





на, 4 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Масцішча, Вайганы, Багданава і далей па шашы Мінск—Вільнюс.

У 1897 г. 2 засценкі, 2 двары, 25 жыхароў, і фальварак, 1 двор, 7 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 25.3. 1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — в. Багданава). Драўляная сял. сядзіба была размешчана каля прасёлачнай дарогі.

**ЗАБАЛАЦЬ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Таўканы, Каралеўшчына і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 21 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старасценкі Д.Салагубаўны. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 54 жыхары, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы, 9 двароў, 54 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 14 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1953 г. ўваходзіла ў склад саўгаса «Радзіма», з 1963 г. ў складзе саўгаса імя У.У.Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 63 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1.10.1973 г. ў Івянецкім с/с. У 1994 г. 9 двароў, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Валожына, 3,5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Малое Запруддзе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак, 2 двары, 19 жыхароў. У 1908 г. 26 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5 двароў, 31 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 31 жыхар. Была ў складзе калгаса імя 25-га з'езда КПСС (цэнтр — в. Лоск). У 1994 г. 4 двары, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. дварамі.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 42 км на ПдУ ад Валожына, 52 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 63 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Лагоўка (правы прыток р. Вадзічанька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 24 двары, 188 жыхароў, маёнтак Забор'е, 1 двор, 9 жыхароў і маёнтак Забор'е-Бель, 2 двары, 11 жыхароў, у Налібоцкай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад ула-



дай Польшчы. У 1921 г. вёска, 34 двары, 186 жыхароў, і фальварак, 2 двары, 11 жыхароў, у Налібоцкай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 30 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. 26.10. 1951 г. арганізаваны калгас «Стаханавец», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. З 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 166 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя У.У.Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 20 двароў, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБЛОЦКАЎШЧЫНА** — былая вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 54 км на ПдУ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 36 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз в. Чарняўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 1 двор, 8 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старасціча М.Пшаздзецкага. У 1858 г. 4 жыхары мужчынскага полу, ва ўладанні памешчыка К.Вяржбіцкага. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 35 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5 двароў, 34 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. З 1940 г. да 1941 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. хутар, 40 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1965 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). У 1994 г. 4 двары, 5 жыхароў. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з аднабаковай драўлянай забудовай.

**ЗАБРЭЗЗЕ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, былы цэнтр сельсавета (з 12.10.1940 г. да 30.10.2009 г.) і цэнтр былога калгаса імя В.У.Куйбышава, за 15 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З, У і Пн цякуць ручаі, злучаныя з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі, якая праходзіць праз вёску. 145 гаспадарак, 291 жыхар (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1432 і 1440 гг. маёнтак, уласнасць вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча, падараваны ім Ю.Рымавідавічу (Забярэзінскаму). Той заснаваў тут парафіяльны касцёл. У адпаведнасці з воляй нябожчыка ў 1456 г. ўдава запісала фундуш касцёлу. У 1559 г. каталіцкая парафія і касцёл валодалі 15 дымамі падданых сялян. Падчас ваенных дзеянняў у 1654 г. касцёл Прасвятой Троіцы спалены і нанава пабудаваны ў 1695 г. Пасля 1496 г. да 1554 г. маёнтак у Ашмянскім павеце ва ўласнасці роду Забярэзінскіх, з 1567 г. Збаражскіх. У 1788 г. 28 двароў, 173 жыхары, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. 239 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1888 г. навучаліся 46 хлопчыкаў. У 1867 г. ў цэнтры вёскі пабудавана з бутавага ка-





меню царква, якая з’яўляецца помнікам архітэктуры псеўдарус. стылю. Паводле перапісу 1897 г. сяло (41 двор, 227 жыхароў, царква, 2 багадзельні, нар. вучылішча, сыраварня, касцёл, 3 крамы, 2 піцейныя дамы) і вёска Забрэжжа 2 (49 двароў, 275 жыхароў, хлебазапасны магазін), у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Пабудаваны ў пач. 20 ст. ў стылі неаготыкі касцёл быў закрыты ў 1947 г. і разбураны ў 1959 г. У 1920—30 гг. дзейнічаў куставы к-т КПЗБ. У 1921—39 гг. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., у мястэчку 54 двары, 321 жыхар, у вёсцы 69 двароў, 455 жыхароў. У 1940 г. ў маёнтку Вял. Двор, што побач з вёскай, арганізаваны калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы загубілі 180 мірных жыхароў, якія пахаваны ў цэнтры вёскі. У памяць аб 18 земляках з вёсак сельсавета, якія загінулі на франтах, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскім р-не. 1.1.1948 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які першапачаткова аб’яднаў 34 двары, 120 жыхароў. У 1959 г. 715 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах.

Былы калгас імя В.У.Куйбышава спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 2016 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1308 га ворыўнай зямлі, 10 трактароў, 31 збожжаўборачны камбайн, 20 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 4 вытв. брыгад, 6 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 10 спецыялістаў з вышэйшай і 21 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся машынны двор, піларама, 3 фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка з фондам 12,5 тыс. кніг, аддз. ашчаднага банка, бальніца, аптэка, амбулаторыя, ветлячэбніца, аддз. сувязі, АТС, 3 магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. 12.11. 1966 г. да вёскі далучана в. Чарназем. У 1994 г. 190 двароў, 445 жыхароў. У вёсцы размешчаны (2009) Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны. Пабудаваны касцёл Святой Троіцы (2000). Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр і раён сучаснай катэджнай забудовы — на зах. ускраіне. Вытв. сектар — на зах. і ўсх. ускраінах.

*Дабравешчанская царква ў в. Забрэззе (1867).*



**ЗАГОРЦЫ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з ле-



сам. Транспартныя сувязі па шашы Волма—Івянец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 32 жыхары, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 17 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка А.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 61 жыхар, у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 84 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10.8.1950 г. арганізаваны калгас «Пераможца», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). У 1994 г. 18 двароў, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — у цэнтры вёскі.

**ЗАДАРОЖЖА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 21 км на У ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 62 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Леснікі, Мішаны, Папкі і далей па шашы Мінск—Валожын. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1567 г. маёнтак у Мінскім павеце, уласнасць М.Бабінскага. У 1777 г. 8 двароў, 43 жыхары, карчма, фальварак, уладанне Р.Міцкевіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. належала І. і Ф. Валадковічам. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 6 двароў, 52 жыхары, у маёнтку 19 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 7 двароў, 46 жыхароў, у фальварку 7 двароў, 38 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы 23.7. 1943 г. спалілі жывымі 19 жыхароў. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 19 жыхароў, у Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1994 г. 6 двароў, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Залескім с/с, за 50 км на У ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 16 двароў, 69 жыхароў і гаспадарскі двор, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць шляхціца. У 1858 г. 41 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў А. і М. Пашкевічаў. Побач быў фальварак памешчыка Ю.Ліпскага. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 143 жыхары, у другой аднайменнай вёсцы — 6 двароў, 34 жыхары. Сядзіба, якая склалася на ПнЗ ад вёскі, у канцы 19 — пач. 20 ст. зараз з'яўляецца помнікам сядзібна-паркавай архітэктуры. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Залессе 1 — 26 двароў, 150 жыхароў, у в. Залессе 2 — 11 двароў, 58 жыхароў, у фальварку Залессе 1 — 3 двары, 27 жыхароў, у фальварку Залессе 2 — 2 двары, 17 жыхароў, у аколіцы Залессе 9 двароў, 64 жыхары. У 1926 г. дзейнічала пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. побач з вёскай стала дзейнічаць Залеская МТС. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Радашковіцкім р-не Вілейскай, з 20.9.





1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. да 26.8.1961 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім, з 1965 г. зноў у Валожынскім р-нах. 16.3.1949 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1950—53 гг. пры МТС дзейнічаў палітаддзел, які выпускаў газ. «За сацыялістычнае земляробства». У 1959 г. 161 жыхар. У 1966 г. да вёскі далучана аколіца Залессе. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, дзіцячы сад, амбулаторыя, сталовая, аддз. сувязі, АТС. У 1994 г. 27 двароў, 40 жыхароў. Захаваліся часткі пейзажнага парку 19 ст. сядзібы Яніцкіх. У вёсцы размешчаны (2009) фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАМАСЦЯНЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 36 км на ПдУ ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 56 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Стоўбцы—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 24 гаспадаркі, 72 жыхары (2008).

За 1,5—2 км на Пн ад сучаснай вёскі размешчана гарадзішча 1—4 ст. н.э., якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 40 жыхароў і гаспадарскі дом, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 29 жыхароў мужчынскага полу, у Валішскім сельскім т-ве Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 129 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. 28.2.1948 г. арганізаваны калгас «Іскра», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 120 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1 1962 г. ў Стаўбцоўскім р-не. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, кармацэх. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. У 1994 г. 27 двароў, 84 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне паралельна да гал. праходзіць другая вуліца.

**ЗАМАСЦЯНЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 10 км на З ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У — Бярэзінскае вадасховішча, на З — мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сакаўшчына і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 36 гаспадарак, 58 жыхароў (2008).

За 1,5—2 км на Пн ад вёскі, на ўзвышшы размешчана гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1—4 ст. н.э., якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска ў ВКЛ з 17 ст. У 1614 г. сяло, у складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 23 двары, у графстве Валожын. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 190 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 266, у 1908 г. 317 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 53 двары. 272 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 57 двароў, 371 жыхар. У Вял. Айч. вайну з



25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 290 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 51 двор, 105 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ уздоўж берага вадасховішча і злучаных 4 завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

**ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 27 км на У ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск, 51 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Слабада і далей па шашы Мінск—Валожын. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 20 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 12 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 44 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У сувязі з малазямеллем і беззямеллем значнай колькасці сялян вяскоўцы накіравалі 24.4.1906 г. прашэнне ў Дзярж. думу аб надзяленні зямлёй. Але гэта просьба засталася без увагі. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 10 двароў, 57 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», з 1953 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 56 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 11 двароў, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАПУР'Е** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 20 км на З ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць побач з вёскай. 53 гаспадаркі, 102 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 32 двары, 222 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 237, у 1908 г. 250 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 39 двароў, 190 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Адамаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 51 двор, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя І.Д.Чарняхоўскага (цэнтр — в. Адамова). З 1950 г. да 3.4.1954 г. цэнтр калгаса. Размяшчаліся фермы авечкагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), фельч.-акушэрскі пункт, б-ка з фондам 7,8 тыс. кніг. У 1959 г. 218 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскай, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 60 двароў, 131 жыхар. Планіровачна складаецца з 2





прамалінейных вуліц. Адна арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана двухбакова, шчыльна, дамамі сядзібнага тыпу. Ад яе адыходзіць вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваная аднабакова. Вытв. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ЗАРЭЧНАЯ** (да 1964 г. Пярхайлы, Пяршайлы) — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 37 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 31 гаспадарка, 59 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 17 ст. ў складзе ВКЛ. У 1602 г. вёска ў маёнтку Багданава, уласнасць каралеўскага канюшага, ашмянскага старасты П.Сапегі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 23 двары, 135 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 144, у 1908 г. 152 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 23 двары, 134 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 40 двароў, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У сак. 1947 г. вяскоўцы ўступілі ў саўгас «Юрацішкаўскі», з 26.7. 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Жыхары вёскі працавалі ў паляводчай брыгадзе, цэнтр якой у в. Вайганы. У 1959 г. 146 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 12.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 40 двароў, 83 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 25 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 50 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Доры і далей па шашы Мінск—Валожын. 30 гаспадарак, 51 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 99 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 56 жыхароў мужчынскага полу, у Дорскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 31 двор, 203 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 32 двары, 270 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 38 двароў, 236 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 43 двары, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.2.1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1953 г. цэнтр калгаса пераведзены ў в. Доры. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 228 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 40 двароў, 72 жыхары. Дзейнічае (2009) магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, забудаваных двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. ускраінах.



**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 52 км на У ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Дубрава на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і ПнУ мяжуе з лесам, на Пн абмежавана ручаём, злучаным з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дубашы, Барок, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 41 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць падстолія Свентаржэцкага. У 1858 г. 18 жыхароў мужчынскага полу, у Крывіцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Г.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. вёска (12 двароў, 63 жыхары) і ўрочышча (1 двор, 10 жыхароў), у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 71 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 23.3.1950 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 67 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, магазін. У 1999 г. 14 двароў, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 26 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1801 г. вёска, 24 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 25 двароў, 157 жыхароў, у аднайменнай сядзібе 1 двор, 3 жыхары, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. в. Зарэчча, 10 двароў, 120 жыхароў, і в. Зарэчча 2, 6 двароў, 59 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. адна вёска, 34 двары, 207 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 18.4.1950 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які абслугоўвала Залеская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 196 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 36 двароў, 71 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі.

**ЗАСЦЕНАК СКРЫПЛЕВА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 16 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 6 двароў, 35 жыхароў і аднайменны маёнтак, 3 двары, 35 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. засценак, 9 два-





роў, 49 жыхароў, і фальварак, 4 двары, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гародзькаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 9 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1949 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. Была ў складзе калгаса імя «25 з'езда КПСС» (цэнтр — в. Лоск). У 1959 г. хутар, 60 жыхароў. У 1994 г. 4 двары, 4 жыхары. Планіровачна ўяўляе адасобленыя сял. двары, аб'яднаныя прасёлачнымі дарогамі.

**ЗАФІЛЬЦЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Казельшчына і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 17 гаспадарак, 38 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 14 двароў, 90 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 101, у 1908 г. 108 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 21 двор, 186 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 15.10.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 114 жыхароў, у Брылькаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). З 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-не. У 1994 г. 21 двор, 34 жыхары. Планіроўка Т-падобная, складаецца з 2 прамалінейных вуліц: ад цэнтра гал., арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, адыходзіць вуліца, арыентаваная на ПдЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАФІНОВА** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 24 км на З ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць побач з вёскай. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

У 1897 г. вёска, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 74 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 33 двары, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 130 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 30 двароў, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАХАЖЭВА** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 10 км на ПнУ ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць побач з вёскай. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

У 1897 г. аколіца Захаржэва (яна ж Гедроўцы), 17 двароў, 117 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў аколіцы За-



харжэва (яна ж Іванова, Гедройцы) 66 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 101 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. аколіца ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 26.12.1949 г. цэнтр калгаса імя С.М.Кірава, з 1954 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Былі 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), ларок. У 1959 г. 82 жыхары, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 18 двароў, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Па цэнтры перпендыкулярна перакрыжавана прамалінейным завулкам.

**ЗАЦІШАК** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Валожына, 1 км ад чыг. ст. Мелькаўшчызна на лініі Маладзечна—Ліда, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1897 г. в. Зацішша, 10 двароў, 78 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 100, у 1908 г. 118 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 68 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 24 двары, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 29.12.1950 г. арганізаваны калгас «Новы Зацішак», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1956 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. У 1959 г. 100 жыхароў, у Вішнеўскім с/с. У 1994 г. 17 двароў, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, перпендыкулярна да чыгункі і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗВЯРКІ** — вёска ў Залескім с/с, за 50 км на У ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Маладзечна—Мінск, 50 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1800 г. засценак Зверы, 2 двары, 9 жыхароў, уладанне Д.Прасецкага. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 18 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 26 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 6 двароў, 39 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.1.1960 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 79 жыхароў, у Пятроўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. да 6.1.1965 г. ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў Залескім с/с. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. Была ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). У 1994 г. 5 двароў, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна драўлянымі сял. дварамі.

**ЗУЗАНПОЛЬ** — былая вёска ў Багданаўскім с/с, за 38 км на З ад Валожына, 3 км ад чыг. прыпынку Яхімаўшчы-

на на лініі Маладзечна—Ліда, 117 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Масцішча, Вайганы, Багданава і далей па шашы Валожын—Ашмяны.

Вядомы з пач. 20 ст. У 1904 г. фальварак, 11 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 25.6.1941 г. да 9.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1947 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Юрацішкаўскі», з 26.7. 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 31 жыхар, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 1 двор, 1 жыхар.

**ІВАНІШКІ** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вайганы, Багданаў і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак Іванішкі (ён жа Масцішча), 5 двароў, 26 жыхароў, стараверскі малітоўны дом, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 69 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 25.3. 1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1 957 г. — саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 34 жыхары, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 9 двароў, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІВЯНЕЦ** — гарадскі пасёлак (з 15.1. 1940 г.), цэнтр Івянецкага пасялковага Савета (з 1.10.1973 г.) і племптушказавода, аграгарадок, за 31 км на ПдУ ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск-Баранавічы, 60 км ад Мінска. Аўтадарогамі злучаны з Мінскам, Дзяржынскам, Валожынам, Навагрудкам, Стоўбцамі. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз гар. пасёлак цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). 4,8 тыс. жыхароў (2008).

За 1,5 км на Пн ад пасёлка, ва ўрочышчы Пішчугі, знаходзіцца курганны могільнік (37 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вядомы ў ВКЛ з 14 ст., калі невял. паселішча Івянец (ад слова Іва — дрэва) знаходзілася ў складзе ВКЛ, належала вял. кн. Вітаўту, які перадаў яго ва ўладанне свайму пляменніку кн. Андрэю Уладзіміравічу, затым належала магнатам Салагубам. У 1470 г. ў паселішчы жыў ксёндз-алтарыст, што дае паставы меркаваць пра існаванне тут касцёла. У 1495 г. маёнтак, уласнасць А.Салагубаўны, частку зямель якога на р. Волма ўладальніца падаравала віленскаму біскупу В.Табару да яго маёнтка



*Міхайлаўскі касцёл у г.п. Івянец.*



Старынкі. З 1500-х гг. маёнтак знаходзіўся ва ўласнасці рода Салагубавічаў, потым (да 1547 г.) А.Жараўскага, у 1549 г. С.Мікалаевіча, 1549—1550-х гг. С.Салагуба. У яўр. летапісе пад 1542 г. паведамляецца, што «таго ж лета прыйшла саранча на літоўскую зямлю і каля Івянца паела жыта, яры і траву». У 1550 г. маёнтак і мястэчка, дзе каталіцкая парафія і касцёл валодалі ў 1559 г. 56 дымамі падданых сялян. У 1550-х г. у Івянцы ўзнікла пратэстанцкая абшчына, пры якой былі кальвінскі збор, школа, шпіталь, потым быў засн. кляштар францысканцаў. У 1567 г. маёнтак у Мінскім павеце ва ўласнасці С.Салагуба і Я.Крэза, у 1582 г. двор ва ўласнасці Я.Себасцьянавіча і М.Дабрылеўскага. У 1606 г. пабудаваны мураваны фарны касцёл, які ў 1869 г. пераўтвораны ў Свята-Троіцкую царкву. З пач. 18 ст. Івянец належаў Мінскаму стольніку Т.Ваньковічу, які ў 1702 г. даў фундуш на будаўніцтва кляштара. У 1704 г. ў цэнтр. частцы пасёлка, на правым беразе р. Волма пабудаваны пад кіраўніцтвам мясц. магістра А.Чаховіча кляштар францысканцаў, рэстаўрыраваны ў 1856—60 гг. архітэктарам В.Бяляўскім і мастаком Я.Кураткевічам. Будынкі кляштара з'яўляюцца помнікамі архітэктуры барока. Праз Івянец праходзілі гандлёвыя шляхі з Мінска ў Мір, Ашмяны, Валожын. Тут гандлявалі збожжам, ільном, вырабамі рамеснікаў, жывёлай, маслам, мёдам. Пасля вял. пажару ў 1709 г. з 560 дамоў засталося толькі 350. Згарэў і драўляны касцёл. У 1745 г. ўладальнік мястэчка Я.Салагуб пабудаваў мураваны касцёл, але праз 100 гадоў ён згарэў. У 1780 г. мястэчка, 96 двароў праваслаўных і 78 двароў яўрэяў, млын, фальварак, карчма, вінакурня, уладанне І.Сокала.

З 1793 г., пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай, у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці. У вайну 1812 г. тут вялі баі супраць французскай арміі рус. войскі пад камандаваннем Дорахава. У 1815 г. ў мястэчку 418 жыхароў, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка Я.Плявакі. У 1840-х гг. адбыліся выступленні сялян і рамеснікаў. У 1861 г. 189 двароў, 1799 жыхароў. Местачкоўцы ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64 гг. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. Па загаду міністра ўнутр. спраў генерал-ад'ютанта Цімашова 28.11.1868 г. былі закры-



1



2

*Міхайлаўскі касцёл у г.п. Івянец: 1 — агульны выгляд; 2 — фрагмент інтэр'ера.*






*Сядзіба Плявакаў у Івянцы. 19 — пачатак 20 ст.*

ты касцёл Святога Міхала і кляштар (1702—05), касцёл Святой Тройцы (1745), драўляная капліца на каталіцкіх могілках. 2 мураваныя касцёлы пераўтвораны ў цэрквы. Да 1879 г. Івянецкая воласць называлася Івянецка-Старынская. У 1880 г. ў прыватным уладанні знаходзіўся невял. піваварны з-д з 1 майстрам і 3 чорнарабочымі. У 1886 г. дзейнічалі 2 царквы, 2 сінагогі, 2 карчмы, 35 крам, 17 ганчарных майстэрняў. У Івянцы неаднаразова бывалі бел. паэт і драматург В.Дунін-Марцінкевіч, пісьменнік Ядвігін Ш. Паводле перапісу 1897 г. 399 двароў, 2445 жыхароў, вадзяны млын, 15 майстэрань для абпальвання гаршкоў, 9 кузняў, 64 крамы, 2 царквы, 2 капліцы, 2 маліто́ўныя школы, 2 багадзельні, нар. вучылішча, паштова-тэлегр. аддз., прыёмны пакой, 2 карчмы, аптовы гарэлачны склад, 2 кірмашы ў год і па нядзелях таржкі. З пач. 20 ст. дзейнічалі бальніца і амбулаторыя, у якіх працавалі ўрач, 3 фельчары, некалькі санітарак. У 1905—07 гг. на ўсх. ускраіне пасёлка, на могілках пабудаваны Аляксееўскі мураваны касцёл (чырвоны), які з'яўляецца помнікам архітэктуры неаготыкі. 4.7.1907 г. адбыліся сутычкі сялян з паліцыяй пры прывядзенні ў выкананне прыгавора суда аб аднаўленні парушанага землеўладання. У 1912 г. ў 16 дварах выраблялася кафля і ганчарны посуд. З 1916 г. Івянец стаў прыфрантавым населеным пунктам. Тут размяшчаўся штаб 10-й дзеючай арміі. У доме А.Ф.Пупко (вул. Койданаўская, зараз вул. Камсамольская, д. 87) у маі 1916 г. жыў М.В.Фрунзе (Міхайлаў), які тады працаваў ва Усерас. земскім саюзе і вёў падп. работу (у 1977 г. на доме ўстаноўлена мемарыяль-

*Аляксееўскі касцёл (1905—07) у Івянцы: 1 — агульны выгляд; 2 — фрагмент інтэр'ера.*



1



2



ная дошка). У сак.—крас. 1917 г. створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У вер. 1917 г. арганізаваны валасны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

У сак.—снеж. 1918 г. пад акупацыяй герм., у жн. 1919 г. — ліп. і з кастр. 1920 г. — польскіх войск. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. ў мястэчку 404 двары, 2226 жыхароў, у фальварку 10 двароў, 38 жыхароў. У мястэчку на базе пачатковай адкрыта 7-гадовая школа з польскай мовай навучання. Толькі ў 1937 г. быў узведзены школьны будынак на 6 класных пакояў. У бальніцы працавалі 2 урачы. Дзейнічалі падп. арг-цыі КПЗБ і КСМЗБ, гурткі Бел. сял.-рабочай грамады. З ліст. 1939 г. ў БССР. 3.10.1939 г. пачала выходзіць раённая газета. У 1940 г. была створана МТС, у якой налічвалася 10 трактароў і іншая с.-г. тэхніка. З 12.10. 1940 г. гар. пасёлак, цэнтр раёна і цэнтр пасялковага Савета ў Баранавіцкай вобл., 523 двары, 3303 жыхары, з 1954 г. ў Маладзечанскай, з 1960 г. ў Мінскай абласцях. З крас. 1962 г. ў Валожынскім, са снеж. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 1965 г. зноў у Валожынскім р-нах. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (8.6.1943—8.7.1944) і ЛКСМБ (1.11. 1943—6.7.1944). 18.6.1943 г. партызанамі Івянецкай зоны быў разгромлены варожы гарнізон, што знаходзіўся ў раённым цэнтры, пры актыўным удзеле брата Ф.Э.Дзяржынскага — Казіміра Эдмундавіча, які сабраў звесткі аб гарнізоне ворага і гэтым садзейнічаў поспеху партыз. аперацыі. З дні пад Івянцом развіваўся чырвоны сцяг. 24.7.1943 г. Л.Э. і К.Э. Дзяржынскія былі закатаваны акупантамі. У 1984 г. на доме (вул. Дзяржынскага, 17), дзе яны жылі ў ваеннае ліхалецце, устаноўлена мемарыяльная дошка. Пры вызваленні г.п. Івянец загінулі 122 воіны 134-й стралк. дывізіі 8-й самаходнай артыл. брыгады, 98-га гвардз. артыл. палка і 20 партызан атрадаў «Бальшавік» і імя К.К.Ракасоўскага, якія пахаваны ў брацкай магіле на цэнтр. плошчы. На паўн.-зах. ускраіне ў магіле пахавана больш за 1 тыс. сав. грамадзян, якіх 5.6.1942 г. расстралялі гітлераўскія акупанты. 105 жыхароў Івянца загінулі на франтах, 15 — у партыз. барацьбе. 111 чал. былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. У 1945—46 гг. пачалі працаваць раённая бальніца і пункт хуткай дапамогі, сярэдняя і вячэрняя школы, швейная, шавецкая і па апрацоўцы аўчын майстэрні, з-д па вытв-сці масла, лесазавод. У будынку касцёла святога Міхаіла дзейнічалі магазін, засолачны цэх, у жылым па-



*Будынак сінагогі (1912) у Івянцы.*



*Івянецкі музей традыцыйнай культуры.*


*Івянецкая кераміка. Ганчары.*

мяшканні кляштара — школа, а потым эксперыментальная база Мінскага праектна-тэхналагічнага ін-та. У закрытым у 1947 г. касцёле святога Аляксея было размешчана кнігасховішча Дзярж. б-кі імя У.І.Леніна (у 1990-я г. аддадзена вернікам). З 1950 г. да 1954 г. пры МТС дзейнічаў палітаддзел, які выдаваў газ. «За перамогу камунізму». Працавалі прамкамбінат, маслазавод, некалькі арцеляў.

Івянец заўсёды славіўся сваімі раменікамі — мулярамі, тынкоўшчыкамі, ганчарамі. Керамічная вытв-сць была і застаецца адным з яго вядучых промыслаў. Вырабляюцца тут прадметы традыц. нар. ўжытку. У 1955 г. на базе прамкамбіната ўтворана Івянецкая ф-ка мастацкай керамікі, вышыўкі і ткацтва. 21.9.1951 г. быў арганізаваны калгас, пераўтвораны ў 1963 г. ў племптушказавод, які меў 119 га сельгасугоддзяў, 110 га ворыўнай зямлі, 12 трактароў, 13 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Энергаўзброенасць на аднаго працуючага 10 к.с. У вытв-сці былі заняты 12 спецыялістаў з вышэйшай і 15 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У 2008 г. на базе гар. пасёлка створаны аграгарадок. Тут працуюць (2009) з-ды мастацкай керамікі, камунальныя УП «Івянецкая крыніца» і «Няптун», прадпрыемства «Аграсервіс-6» па перапрацоўцы мяса, птушкафабрыка, дрэваапрацоўчае прадпрыемства «Іва» і камбінат кандытарскіх вырабаў «Іўкон», масласырзавод, хлебазавод, нарыхтоўчая кантора, лясніцтва, аўтакалона, лясгас, мехустаноўка Валожынскага лясгаса, хімлясгас, цэхі па вырабе дываноў і апрацоўцы скур, камбінат быт. абслугоўвання. Ёсць сярэднія, муз. школы, вучэбна-вытв. школьны камбінат, дзіцячы сад-яслі, Дом піянераў, Цэнтр нар. промыслаў і рамёстваў, Дом культуры, Польскі дом, 2 б-кі, кінатэатр, бальніца, паліклініка, аптэка, Дом дзіцячай творчасці, дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў, Дом быту, грамадская лазня, ветлячэбніца, аддз. сувязі, АТС, аддз. аш-



*Івянецкая кераміка: 1 — фігурная пасудзіна-зубр; 2 — дэкаратыўная кампазіцыя «Музыкі».*







*Ганчарны посуд г.п. Івянец.*

чаднага банка, пажарная часць, гасцініца, дзіцячы санаторый, санэпідстанцыя, кінатэатр, рэстаран, кафэ, сталовая, каля 20 магазінаў, 3 спарт. пляцоўкі, краязнаўчы музей імя Ф.Э.Дзяржынскага.

Горадабудаўнічае фарміраванне гар. пасёлка ажыццяўляецца ў адпаведнасці з ген. планамі 1956 г. «Белсельпраект» і 1974 г. (Мінскі філіял ЦНДПІгорадабудаўніцтва). У Івянцы 48 вуліц. Пасёлак падзяляе рака на паўн. і паўд. часткі. Радыяльную арх.-планіровачную структуру паўн. часткі фарміруюць вуліцы Леніна (гал. магістраль, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ і забудаваная двухпавярховымі жылымі дамамі), 1 Мая, Камсамольская, 17 Верасня, якія зыходзяцца на правым беразе р. Волма. На перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і 17 Верасня створана пл. Свабоды, якая з'яўляецца грамадска-культ. і гандл. цэнтрам пасёлка са скверам і грамадскімі будынкамі. На ПдУ фарміруецца жылы мікрараён. У аснове дробнаквартальнай планіроўкі паўд. зарэчнай (левабярэжнай) часткі вуліца Дзяржынскага з пераважнай забудовай сядзібнага тыпу. Прам. зона — у паўд. і паўн. частках пасёлка. Паркавая зона і зона адпачынку — уздоўж ракі.

У склад Івянецкага с/с уваходзяць 50 населеных пунктаў (2010). Захаваўся сядзібна-паркавы ансамбль пач. 19 ст. — помнік эклектычнай архітэктуры і садова-паркавага мастацтва. Буду-





*Прадукцыя івянецкага прадпрыемства «Іўкон».*





ецца праваслаўны храм. Царква хрысціян веры евангельскай «Дар божы» (2001). Радзіма засл. дзеяча культуры Беларусі, харэографа І.В.Ляшчынскага, самадзейнага майстра разьбы па дрэве А.Ф.Пупко (Пупка, 1893—1984).



*І.В.Ляшчынскі.*

**ІГНАТАВА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Валожына, 2,5 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 39 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. 26 двароў, 151 жыхар. У час размежавання зямель 30.5.1901 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне мясц. уладам. У 1904 г. 178 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 38 двароў, 247 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 42 двары, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1947 г. арганізаваны калгас, які з 1949 г. абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.7.1954 г. вёска ў Багданаўскім с/с. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 180 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 47 гаспадарак, 96 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.



*Ефрасіннеўская царква ў Івянцы. 1990-я г.*

**ІСЛАЧОЎКА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 19 км на У ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Баравікоўшчына і далей па шашы Івянец—Пяршаі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. фальварак у Пяршайскай вол. Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць Тышкевіча, 1 двор, 8 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 3 двары, 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. фальварак у Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 1 двор, 8 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 2 дамы, загубілі 2 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1954 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 12 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары. Размяшчаўся дрэваапрацоўчы ўчастак Валожынскага лясгаса.

**КАБЫЛЬЧЫЦЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Валожын на лініі



Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 20 гаспадарак, 42 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 18 двароў, 136 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 157, у 1908 г. 184 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 24 двары, 119 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 17 двароў, 171 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1951 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які абслугоўвала да 1958 г. Валожынская МТС. Была ў калгасе імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1959 г. 150 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 28 гаспадарак, 59 жыхароў. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Калеснікі. З 30.10.2009 г. вёска ў Гарадзькаўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў паўн.-ўсх. баку. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**КАЗАКІ** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 49 км на У ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Маладзечна—Мінск, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ ручай (прыток р. Іслач), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Івянец. 1 гаспадарка, 6 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 43 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Івянецкай каталіцкай плябаніі. У 1858 г. 35 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Ф.Гурскага. Паводле перапісу 1897 г. ў Ракаўскай вол. Мінскага павета, 14 двароў, 92 жыхары, хлебазапасны магазін. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 83 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 17.6.1950 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. вёска ў Ракаўскім с/с. У 1959 г. 50 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі», з 1969 г. — у саўгасе «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Гарадзейкі. У 1994 г. 13 гаспадарак, 32 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЗЕЛЬШЧЫНА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло ў графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць, 13 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 8 двароў, 70 жыхароў, Рас. імперыі. У 1904 г. 77, у 1908 г. 88 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 18 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну





з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.9.1950 г. арганізаваны калгас «Перамога», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. ў Брылькаўскім с/с, 113 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 26 гаспадарак, 54 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**КАЛДЫКІ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і Пд цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў (2008).

За 2—3 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Замак, знаходзіцца гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1897 г. 26 двароў, 143 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 172 жыхары, у 1908 г. 39 двароў, 219 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 35 двароў, 167 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 37 двароў, 204 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. З 1956 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). Размяшчалася свінагадоўчая ферма. У 1959 г. 164 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 34 гаспадаркі, 74 жыхары. З 30.10.2009 г. вёска ў Гародзькаўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў зарэчнай частцы.

**КАЛЕСНІКОЎШЧЫНА** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 25 км на З ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У 1897 г. 16 двароў, 111 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 118 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 20 двароў, 93 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 137 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. Была ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. ў Вішнеўскім с/с, 119 жыхароў. У 1994 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІВАРЫЯ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 22 км на З ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая пра-



ходзіць побач з вёскай. 18 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

У 1897 г. фальварак, 7 двароў, 71 жыхар, і аднайменны выселак, 2 двары, 14 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска і фальварак. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Адамоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у асадзе 30 двароў, 218 жыхароў, у засценку 5 двароў, 26 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У вер. 1950 г. арганізаваны калгас «Зялёны гай», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.4. 1954 г. ў складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага (цэнтр — в. Адамова). Размяшчаўся авечкагадоўчы комплекс. З 16.7.1954 г. вёска ў Сакаўшчынскім с/с. У 1959 г. 155 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 23 гаспадаркі, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМАРОЎКА** — вёска ў Дорскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У абмежавана ярам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Адамполе, Даманоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 15 жыхароў, уладанне Д.Праздзецкага. Паводле перапісу 1897 г. ў Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 38 жыхароў. У 1904 г. 43 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 13 двароў, 88 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. ў Сугваздаўскім с/с, 89 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары. З 30.10.2009 г. вёска ў Дорскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. спартсменкі па лёгкай атлетыцы (бег), неаднаразовага бронзавага прызёра чэмпіянатаў свету і Еўропы, чэмпіёнкі СССР Р.А. Крывашэй (н. ў 1959 г.).

**КАМЕНЬ** — вёска ў Івянецкім с/с за 37 км на ПдУ ад Валожына, 46 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 65 км ад Мінска, на аўтадарозе Івянец—Налібакі. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Каменка (правы прыток р. Ізледзь), на ПнЗ мяжуе з лесам. 204 гаспадаркі, 556 жыхароў (2008).

За 0,4 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Каменка знаходзіцца стараж. гарадзішча, каля ўсх. боку якога — селішча. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1451 г. маёнтак, С.Гедыгольдавіча, які заснаваў парафіяльны касцёл. З 1451 г. да 1492 г. ва ўласнасці М.Кежгайлаўны, потым караля Казіміра, які падараваў яго земскаму маршалку ВКЛ, гародзенскаму старосту Я.Забярэзінскаму. У 1506 г. гэтае валоданне пацвердзіў кароль Жыгімонт І і да 1550-х г. маёнтак знаходзіўся ва ўласнасці гэтага роду, з 1551 г. ва ўладанні Н.Сангушкаўны. У 1559 г. ў маёмасці каталіцкай парафіі і касцёла было 19 дымоў падданых сялян. У 1567 г.





уладальніца маёнтка Г.Кішка выстаўляла ў войска 11 коннікаў. У 1591 г. ўпамінаецца пры абмежаванні пушчы, уласнасць шляхціца. У 1643 г. сяло, карчма, царква, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка ў Мінскім павеце, уласнасць ген.-лейт. І.Юдзіцкага, 69 двароў, 381 жыхар, драўляны касцёл, гаспадарскі дом, крамы, карчма, вінакурня, млын. Штогод праводзіўся кірмаш. У 1861 г. мястэчка, 60 двароў, 603 жыхары, 3 маёнткі. Паводле перапісу 1897 г. 116 двароў, 713 жыхароў, 3 кузні, хлебазапасны магазін, касцёл, малітоўны дом, багадзельня, лазня, крама, карчма. Побач былі 2 маёнткі (25 жыхароў) і ўрочышча (1 двор, 8 жыхароў). У 1912 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. мяст. Камень, 151 двор, 844 жыхары, фальваркі Камень 1 і Камень 2 (разам 7 двароў, 35 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл., у вёсцы 246 двароў, 1110 жыхароў, у маёнтку 5 двароў, 29 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. вёску часткова спалілі гітлераўцы. У цэнтры вёскі, каля дарогі, на ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў час вайны, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе. 7.1.1950 г. арганізаваны калгас «Шлях Ільіча», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 770 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 7.6.1963 г. да 30.9. 1973 цэнтр саўгаса імя Маякоўскага. У 1971 г. 234 двары, 879 жыхароў. З 1.10. 1973 г. вёска ў Івянецкім с/с.

Саўгас імя Маякоўскага ў 1960-я г. спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і вырошчванні грэчкі, меў 3649 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 2605 га ворыўнай зямлі, 35 трактароў, 15 збожжаўборачных камбайнаў, 27 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 1 раслінаводчага цэха і 5 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 5 спецыялістаў з вышэйшай і 29 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся цэх раслінаводства, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, кармацэх, лясніцтва, сярэдняя школа (25 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам 10,1 тыс. кніг, 3 спарт. пляцоўкі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, 2 магазіны, дзіцячы сад, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1991 г. пабудаваны Петрапаўлаўскі касцёл з цэглы. У 1994 г. 226 гаспадарак, 734 жыхары. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіроўка крыжовая: гал. прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, перакрыжавана прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Цэнтр. частка расчлянёна 2 другараднымі вуліцамі, паралельнымі да гал. На скрыжаванні вуліц — грамадскі цэнтр. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**КАНАВАЛЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нарэйшы і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 4 двары, уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 8 двароў, 47 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 51, у 1908 г. 64 жыхары. З 1921 г. пад уладай



Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 15.6.1949 г. арганізаваны калгас імя Васілеўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 52 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). Размяшчалася свінагадоўчая ферма. У 1994 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіроўка Т-падобная: плаўна выгнутая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн да прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАНАПЛІЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 34 км на ПдУ ад Валожына, 38 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 63 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 23 гаспадаркі, 62 жыхары (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска 2 двары, 11 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ф.Свіды. У 1858 г. 24 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 107 жыхароў, хлебазапасны магазін, у 1908 г. 19 двароў, 135 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 20 двароў, 121 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 33 двары, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. 30.8.1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 131 жыхар. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). З 1.10.1973 г. вёска ў Івянецкім с/с. У 1994 г. 25 гаспадарак, 73 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**КАНТРЫПОЛЬ** — былая вёска ў Багданаўскім с/с, за 37 км на З ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ мяжуе са ставам, створаным плацінай на 2 ручаях, злучаных з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Сантокі, Багданава і далей па шашы Валожын—Ашмяны.

Вядомы з пач. 20 ст. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. — саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1994 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Драўляная сялянская сядзіба была размешчана каля прасёлачнай дарогі.

**КАНЮШАЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 17 км на У ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 64 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск— Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 13 двароў, 39 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Ражэрсана. У 1815 г. 21 жыхар мужчын-

скага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 35 двароў, 179 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін, піцейны дом; лясная вартоўня, 1 двор, 7 жыхароў. У 1908 г. 40 двароў, 264 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 297 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. в. Канюкшаўшчына ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 57 двароў, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.7.1954 г. вёска ў Пяршайскім с/с. У 1959 г. 236 жыхароў. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, зерняsклад, магазін. У 1994 г. 41 гаспадарка, 84 жыхары. Дзейнічаў магазін (2009 г.). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне. Радзіма дзярж. дзеяча Беларусі, у 1990—94 гг. Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіча (н. ў 1936 г.).


*В.Ф.Кебіч.*

**КАПУСЦІНА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 4 км на У ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ ручай (правы прыток р. Літанка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць праз вёску. 74 гаспадаркі, 154 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ як маёнтак і двор каля Валожына. У 1524 г. уладальнік Я.Юдзіловіч прадаў віленскаму ваяводу А.Гаштольду ўладанне Капусціна «за 500 коп грошай літоўскіх». У 1536 г. маёнтак ва ўласнасці С.Вярэйскай. У 1614 г. сяло ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 36 двароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 26 двароў, 352 жыхары. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 396 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 73 двары, 418 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 83 двары, 526 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 12.4. 1950 г. арганізаваны калгас імя Суворава. Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, аддз. «Сельгасхіміі», сталовая, магазін. У 1959 г. 451 жыхар. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 104 гаспадаркі, 213 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Валожынскім с/с. У вёсцы размешчаны (2009) аўтазаправачная станцыя, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**КАРАБЛІ** — вёска ў Залескім с/с, за 51 км на У ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 52 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 20 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 20 жыхароў, уладанне О.Ганятоўскага і І.Узлоўскага. У 1897 г. 7 двароў, 51 жыхар, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 8 двароў, 69 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў Гарадоцкай вол. Вілейскага павета, 12 два-



роў, 76 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. 98 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім, з 1962 г. ў Маладзечанскім р-нах Мінскай вобл., з 1963 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. 26.8.1949 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які абслугоўвала Залеская МТС. 8.4.1954 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1966 г. далучаны вёскі Рэдзькаўшчына і Хмарышкі. У 1994 г. 28 гаспадарак, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, радыяльна накіраваных на ПдУ і Пд. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**КАРАЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Івянецкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Валожына, 42 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Брэст, 50 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Дзераўная, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 14 гаспадарак, 40 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1618 г. засценак у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 2 двары, 13 жыхароў. У 1800 г. 5 двароў, 24 жыхары, у Мінскім павеце, уласнасць старасценкі Д.Салагубаўны. У 1858 г. 24 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Я.Плявакі. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 32 двары, 129 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. 27.10. 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Івянецкая МТС. Была ў складзе саўгаса імя Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). Дзейнічаў магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 90 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**КАРАЛІНОВА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 111 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Люташ, Альшанка і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Засн. ў пач. 20 ст. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у маёнтку 3 двары, 11 жыхароў, у асадзе 9 двароў, 51 жыхар, у фальварку Каралінаўшчына (Ігнатаўскі с/с) 2 двары, 13 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1947 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 16.7.1954 г. вёска ў Багданаўскім с/с. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Была 8-гадовая школа. У 1959 г. хутар, 47 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. вёска, 8 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРНЮТКІ** — вёска ў Залескім с/с, за 48 км на У ад Валожына, 12 км ад чыг.





ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 56 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 23 жыхары, уладанне І.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 41 жыхар, у Германішскай вол. Віленскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 9 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.1.1949 г. арганізаваны калгас «Маладая гвардыя», які абслугоўвала Залеская МТС. З 18.4.1954 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). У 1959 г. ў Пятроўшчынскім с/с, 57 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1963 г. ў Залескім с/с. У 1994 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮКІ** — вёска ў Залескім с/с, за 54 км на У ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 51 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гіравічы, Эпімахі і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1885 г. вёска і аднайменны фальварак у Заслаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Касцюкі (яна ж Недабельшчына) 5 двароў, 25 жыхароў, у маёнтку Недабельшчына (ён жа Касцюкі) 3 двары, 15 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 5 двароў, 35 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 9 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 7 двароў, 39 жыхароў, у фальварку 2 двары, 9 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. 65 жыхароў, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім, з 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 19 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой адыходзяць кароткія завулкі і якая забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАШТАНОЎКА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 4 км на У ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Сугвазды, якая праходзіць праз вёску. 66 гаспадарак, 179 жыхароў (2008).

Засн. ў пач. 20 ст. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.10.1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. ў Брыльскім с/с, 194 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім р-не. З 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 81 гаспадарак, 243 жыхары. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц: гал. арыентавана з ПдЗ на



ПнУ і сваімі канцамі далучаецца да вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар на ПнУ.

**КАШЧЭЛІЧЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старынкі і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 46 гаспадарак, 174 жыхары (2008).

За 0,5—0,6 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна размешчана гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі (датуецца 1—4 ст. н.э.), якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1894 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 303 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 354 жыхары. З 1921 пад уладай Польшчы. У 1921 г. 74 двары, 393 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 79 двароў, 471 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас імя 32-й гадавіны Кастрычніка, які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Лоск). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, б-ка з фондам 6,3 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. З 16.7.1954 г. ў Гародзькаўскім с/с. У 1959 г. 366 жыхароў. У 1994 г. 75 гаспадарак, 150 жыхароў. Дзейнічаў магазін (2009). Пláніровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і аб'яднаных 2 завулкамі. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**КІБУЦІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 74 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць праз вёску. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 17 ст. У 1614 г. с. Скібуці ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. с. Кібуты ў графстве Валожын Мінскага ваяв., 15 двароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 158 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 156, у 1908 г. 186 жыхароў. У 1921 г. пад уладай Польшчы. З 1921 г. 34 двары, 197 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 38 двароў, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.9.1950 г. арганізаваны калгас «Перамога», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. ў Брыльскім с/с, 162 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 40 гаспадарак, 89 жыхароў. Планіроўка крыжовая: гал. плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, перакрыжавана прамалінейнай вуліцай (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КІБЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 20 км на З ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 93 км ад Мінска. Рэльеф раў-





нінна-ўзгорысты, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Адамова і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1775 г. 7 двароў, 30 жыхароў і фальварак, у Ашмянскім павеце, уласнасць памешчыка, вёска. З 1795 г. ў Рас. імперыі, с. Кобы, 57 жыхароў, фальварак, карчма. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 85 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 89, у 1908 г. 71 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 17 двароў, 83 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Адамоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 22 двары, 134 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас імя Васілеўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. З крас. 1954 г. ў складзе калгаса імя Чарняхоўскага (цэнтр — в. Адамова). З 16.7.1954 г. вёска ў Сакаўшчынскім с/с. У 1959 г. 102 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкам амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КІСЯЛІ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 31 км на У ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 18 гаспадарак, 38 жыхароў (2008).

У 1880 г. па архіўных крыніцах значыцца як вёска. Паводле перапісу 1897 г. ў Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 16 двароў, 105 жыхароў і побач былі маёнтак, 1 двор, 13 жыхароў, сядзіба, 1 двор, 4 жыхары і млын, 2 двары, 11 жыхароў. У 1904 г. 105, у 1908 г. 97 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 20 двароў, 117 жыхароў, у фальварку 4 двары, 30 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які абслугоўвала Залеская МТС. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. ў Яршэвіцкім с/с, 78 жыхароў, у в. Кі сялькі 41 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. далучаны вёскі Алешкі і Кісялькі. У 1994 г. 25 гаспадарак, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай уздоўж ракі з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КІЯВЕЦ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 48 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ракаў, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

Па рукапісных крыніцах вядомы з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1500 г. маёнтак, уласнасць Б.Салагубавіча, потым нашчадкаў яго роду, да 1528 г. Ю.Салагубавіча, у 1530-я г. яго сыноў. Частка маёнтка ў 1533—47 гг. належала Г.Воўчкаўне, а другая — Г.Тальвашоўне. У 1567 г. ў Менскім павеце, уладальнік Ж.Салагуб выстаўляў з маёнтка 2 коннікаў, 2 драбаў і служыў у харугве вая-



воды віленскага. У 1590 г. маёнтак ва ўласнасці Д.Есьмана і яго жонкі Г.Аўлачымскай. У 1789 г. на сродкі памешчыка Пажарыцкага пабудавана драўляная Троіцкая царква, якая ў 1850 і 1878 гг. рамантавалася вяскоўцамі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Кіявец (уласнасць К.Лоска), 8 двароў, 66 жыхароў, фальварак Стары Кіявец (уласнасць харунжага Ф.Жаброўскага), драўляная царква, карчма, вадзяны млын. У 1858 г. цэнтр Кіявецкага сельскага т-ва Мінскага павета, 19 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. дзейнічаў бровар, на якім працавалі 1 майстар і 5 чорнарабочых. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 7 двароў, 35 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, маёнтак, вінакурня, вадзяны млын, кузня, карчма. У 1902 г. для школы пабудавана памяшканне. 10.7.1906 г. вяскоўцы разам з сялянамі суседніх вёсак звярнуліся ў Дзярж. думу з хадайніцтвам зменшыць падаткі і даць зямлю. На пач. 20 ст. дзейнічаў лесапільны з-д. У 1919 г. пабудавана новая царква, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1044 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, б-ка з фондам 9,7 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі. З 1959 г. ў Яршэвіцкім с/с, 50 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Закрытая ў 1963 г. Петрапаўлаўская царква ў 1994 г. вернута вернікам. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Траццякоўшчына. У 1994 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары. У вёсцы працавалі дзіцячы сад-яслі, магазін (2009). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Троіцкая царква (1919) у в. Кіявец.*

**КЛЕРЫМОНТЫ** — вёска ў Дорскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак Клерымонт у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 6 двароў, 53 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска, 11 двароў, 76 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 16 двароў, 114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 29.7.1949 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 152 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Вало-

жынскім р-нах. З 10.2.1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 21 гаспадарка, 36 жыхароў. З 30.10.2009 г. вёска ў Дорскім с/с. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛІМ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Запур'е і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Па рукапісных крыніцах вядома ў 16 ст. як урочышча і рака ў ВКЛ. У 1550—81 гг. вядомы як урочышча Клімовы Мох і р. Кліма, знаходзіліся ў Трабскай пушчы. У канцы 16 ст. вёска належала касцёлу Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Вішневе. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. сядзіба ў Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 11 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. асада ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 4 двары, 16 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. Як пасёлак існуе з 1946 г., калі тут размясціўся Валожынскі лясгас. Быў у складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева), дзейнічалі сталовая, магазін. У 1959 г. хутар у Багданаўскім с/с, 15 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і з ПнЗ на ПдУ. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛІМЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 21 км на З ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 42 гаспадаркі, 79 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 44 двары, 284 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 287, у 1908 г. 295 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 36 двароў, 179 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Адамоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 66 двароў, 378 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 3.9.1950 г. ў складзе калгаса імя Чарняхоўскага (цэнтр — в. Адамова). Размяшчаліся дрэваапрацоўчы ўчастак, авечкагадоўчы комплекс, магазін. З 16.7.1954 г. ў Сакаўшчынскім с/с. У 1959 г. 305 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 52 гаспадаркі, 128 жыхароў. Планіровачна складаецца з з прамалінейных вуліц: ад гал. шыротнай арыентацыі вуліцы адыходзяць з зах. ускраіны вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, а з усх. ускраіны — вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. і паўн. ускраінах.

**КОЗЛІКІ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 56 км на ПдУ ад Валожына, 68 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Івянец—Ракаў. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядомы з пач. 19 ст. У 1801 г. в. Козлішкі, 7 жыхароў, у Вілейскім павеце.



Паводле перапісу 1897 г. маёнтак, 4 жыхары, фальварак, 2 двары, 12 жыхароў, урочышча, 1 двор, 9 жыхароў, 3 сядзібы, 3 двары, 17 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. калонія, 9 двароў, 53 жыхары, у Налібоцкай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 14 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 170 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 58 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). 12.11.1966 г. далучаны вёскі Ваўкі, Камень, Янполь. З 1.10.1973 г. ў Івянецкім с/с. У 1994 г. 11 гаспадарак, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОЦЕЎШЧЫНА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 30 км на З ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Альшанка і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 18 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1897 г. фальварак Коцеўшчына, 13 двароў, 81 жыхар, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Да 1897 г. ў ім дзейнічала сукнавальня. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 118 жыхароў, у той жа воласці Валожынскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. асада ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. ў саўгасе «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. З 16.7. 1954 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 100 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі ўздоўж ракі, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАЖЫНА** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 9 км на З ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З — Бярэзінскае вадасховішча, на Пн цячэ ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Крыніца і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 20 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

У 1897 г. в. Кражын, 20 двароў, 109 жыхароў, і фальварак, 1 двор, 8 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. дзве вёскі: у адной 133, у другой 130 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Кражын 1 — 25 двароў, 134 жыхары, у в. Кражын 2 — 27 двароў, 151 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. асада Каразіна ў Адамоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 18 двароў, 112 жыхароў, у фальварку Кражына — 2 двары, 20 жыхароў, вёскі Кражына Казённае — 27 двароў, 156 жыхароў і Кражына Уласная — 26 двароў, 214 жыхароў у Стайкаўскім с/с. У 1940 г. 51 двор, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. гітлераўцы спалілі 2 дамы, загубілі 213 жыхароў (пахаваны на паўд. ускраіне вёскі). На франтах загінулі 7 вяскоўцаў.

З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 30.12.1948 г. арганізаваны калгас імя Чапаева, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.7.1954 г. вёска ў Сакаўшчынскім с/с. З 19.2.1958 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Была 8-гадовая школа (10 настаўнікаў), б-ка з фондам 6,4 тыс. кніг, ларок. У 1959 г. 177 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. гаспадарак, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**КРАПІЎНІКІ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 33 км на У ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Ісдач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1529 г. маёнтак ва ўласнасці гаспадарскай баярыні Ганны Наркаўны, жонкі Барташа. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 19 двароў, 63 жыхары, уладанне І.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 30 двароў, 213 жыхароў і сядзіба, 1 двор, 8 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Вілейскай губ. У 1904 г. 213, у 1908 г. 247 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 46 двароў, 234 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.9. 1949 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які абслугоўвала Залеская МТС. Была ў калгасе «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. З 1959 г. ў Яршэвіцкім с/с, 228 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Старынкі. У 1994 г. 37 гаспадарак, 71 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, перакрыжаваных 2 прамалінейнымі вуліцамі мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**КРУГЛАЯ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 29 км на З ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вярцімы, Ганчары, Агародчыкі і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 10 двароў, 59 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 48, у 1908 г. 56 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 35 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1950 г. абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 70 жыхароў, у Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 22 гаспадаркі, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУПШЧЫНА** — вёска ў Залескім с/с, за 61 км на У ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Мала-



дзечна, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Радашковічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. засценак Крупшчызна, шляхецкая ўласнасць, 7 двароў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць стольніка Сялявы, 9 двароў, 41 жыхар. У 1858 г. в. Крупшчызна ў Стара-Ракаўскім т-ве таго ж павета, уласнасць княгіні Друцкай-Любецкай. У 1897 г. ў Заслаўскай вол. Мінскага павета, 11 двароў, 69 жыхароў. У 1908 г. 78 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 96 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Маладзечанскім р-не, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. 18.1.1949 г. арганізаваны калгас «Светлае жыццё», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. ў Ракаўскім с/с Радашковіцкага р-на Маладзечанскай вобл., 102 жыхары. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна ўяўляе сабой адасобленыя сял. двары, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай мерыдыянальнай арыентацыі.

**КРЫНІЦА** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 60 км на У ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Туркаўшчына, Гіравічы, Эпімахі, Гіневічы і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1788 г. засценак, у Ашмянскім павеце, 7 жыхароў. У 1799 г. ў Вілейскім павеце, уласнасць памешчыка, 3 двары, 33 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. засценак, 7 двароў, 54 жыхары і фальварак, 1 двор, 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 75 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 26.8.1961 г. вёска ў Ракаўскім с/с. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦА** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 20 гаспадарак, 32 жыхары (2008).

Вядома з пач. 20 ст. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. засценак у Валожынскай вол. Валожынскага павета Навагрудскага ваяв., 6 двароў, 35 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Стайкаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 110 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 32 гаспадаркі, 61 жыхар. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЭЧАЎЦЫ** — вёска ў Залескім с/с, за 60 км на У ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1858 г. в. Кржэчаўцы, уласнасць памешчыка Свіды. У 1800 г. ў Мінскім павеце, 12 двароў, 62 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 4 двары, 28 жыхароў і фальварак, 1 двор, 19 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ў вёсцы 5 двароў, 45 жыхароў, у фальвьарку 1 двор, 7 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 8 двароў, 42 жыхары, у фальварку 2 двары, 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1959 г. ў Пятроўшчынскім с/с, 45 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1963 г. ў Залескім с/с. З 1963 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). У 1994 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КУДЗЕЎЦЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 31 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 44 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Па рукапісных крыніцах вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ як шляхецкая ўласнасць. У дакументах 1538 г. пазначаны людзі ў Германішках, падданыя М.Ю.Навагонскага, якім ён падараваў тут сенажаць са сваіх уладанняў, а ў 1543 г. прадаў гэтую сенажаць Я.Зеляпузе. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 29 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 45 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 50 жыхароў. Жыхар вёскі, бамбардзір 4-й батарэі 7-й стралк. артыл. брыгады У.Звяронак пад час 1-й сусветнай вайны быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам 4-й ступені і медалём «За доблесць». З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 95 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 28.6.1949 г. арганізаваны калгас. Была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 96 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Маляванае. У 1994 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна ўяўляе сабой адмежаваныя сял. двары, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**КУЛЬШЫЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 35 км на У ад Валожына, 44 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Янаўшчына, Гілікі, Міхалова і далей па шашы Івянец—Ракаў. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 90 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. ў Старынскім сельскім т-ве Мінскага павета, 45 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Івянецкай вол., 23 двары, 152 жыхары. У 1908 г. 25 двароў, 161 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 29 двароў, 195 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Ба-



ранавіцкай вобл., 44 двары, 227 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўцы спалілі 52 двары і загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. 3.8. 1951 г. арганізаваны калгас імя Чарняхоўскага, які абслугоўвала Івянецкая МТС. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. З 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 193 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1.10.1973 г. ў Івянецкім с/с. У 1994 г. 49 гаспадарак, 110 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на ўсх. ускраіне адыходзіць прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУРДУНЫ** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 42 км на ПдУ ад Валожына, 50 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 52 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 42 гаспадаркі, 85 жыхароў (2008).

У 1815 г. вёска, 70 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Івянецкага францысканскага кляштара. У 1858 г. 90 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. ў Івянецкай вол. Мінскага павета Мінскай губ., 52 двары, 304 жыхары. У 1908 г. 332 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 53 двары, 354 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 91 двор, 491 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Не вярнуліся з вайны 12 жыхароў. 2.8.1952 г. арганізаваны калгас «За мір», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 29.10.1953 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр —в. Пральнікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пральніцкім, з 7.7.1962 г. ў Падневіцкім сельсаветах. У 1959 г. 419 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 75 гаспадарак, 155 жыхароў. Дзейнічаў магазін (2009 г.). Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц, ад гал. з якіх, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, адыходзяць у паўн.-ўсх. напрамку 2 другарадныя вуліцы. Паўд.-ўсх. частка вёскі сфарміравана ўздоўж шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**КУЦЯНЯТЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на паўд.-зах. ускраіне цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі, якая праходзіць праз вёску. 46 гаспадарак, 185 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 23 двары, 142 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 157, у 1908 г. 169 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 30 двароў, 168 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 33 двары, 199 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 14.12.1949 г. арганізаваны калгас «Прамень камуны», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. У 1959 г. 181 жыхар. З





1956 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). Размяшчаліся вытв. ўчастак калгаса, ферма буйной рагатай жывёлы, кармацэх, зерняsклад, б-ка, дзіцячы сад, пач. школа, магазін. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Ясянішкі. У 1994 г. 60 гаспадарак, 123 жыхары. З 30.10.2009 г. ў Гародзькаўскім с/с, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр і гасп. сектар адасоблены ў зах. баку.

**КУЧКУНЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 46 км на ПдУ ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Валожын. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 65 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць ракаўскага базыльянскага кляштара. У 1815 г. 40 жыхароў мужчынскага полу. У 1858 г. вёска была ўласнасцю казны, побач размяшчаўся маёнтак. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 100 жыхароў і фальварак, 1 двор, 6 жыхароў, ў Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 22 двары, 119 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Выганішчанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 18.1.1949 г. арганізаваны калгас «Камунар», які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. вёска ў Ракаўскім с/с. У 1959 г. 113 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 17 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАБЫ** — вёска ў Залескім с/с, за 55 км на У ад Валожына, 13 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 50 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 14 гаспадарак, 41 жыхар (2008).

У 1858 г. маёнтак А. і М. Пашкевічаў, у Мінскім павеце Мінскай губ., 8 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска , 4 двары, 16 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. Мешчанін А.Гельфанд заснаваў у 1908 г. ў маёнтку лесапільны з-д з лакамабілем, на якім у 1912 г. працавалі 12 рабочых. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. 82 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1965 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ЛАЙКОЎШЧЫНА** — былая вёска ў Сугваздаўскім с/с, за 14 км на У ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па дарозе праз



вёскі Цябуты, Сугвазды і далей па шашы Валожын—Маладзечна.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 7 двароў, 30 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 44 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 101 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1980-я г. была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры).

**ЛАПІНЦЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 28 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Астравец, Пятровічы і далей па шашы Івянец—Ракаў. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Лапінцы (яна ж Лунінцы), 3 двары, 11 жыхароў, уладанне Н.Красоўскай. У 1815 г. ў Мінскім павеце, уласнасць памешчыцы К.Лянчэўскай, 7 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 41 жыхар, ў Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Лапінцы 41 жыхар, у в. Лапінцы 2 — 16 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 81 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У 1940 г. в. Лапіцы, 3 двары, 14 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. фашысты знішчылі 3 двары. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Запаветы Ільіча». У 1959 г. 104 жыхары, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1980-я г. была ў калгасе «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на ўсх. баку.

**ЛАСОКІНА** — вёска ў Дорскім с/с, за 18 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ ручай, злучаны з р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Цябуты, Сугвазды і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 30 гаспадарак, 54 жыхары (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1473 г. сяло ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць, дзейнічаў парафіяльны касцёл. У 1489 г. двор, уласнасць В.Івашкавіча, які запісаў парафіяльнаму касцёлу дзесяціны са сваіх маёнткаў. У 1506 г. гаспадарыня маёнтка А.Саковічаўна адпісала яго разам з касцёлам і плябаніяй Віленскай капітуле. У 1539 г. с. Ласокін, уласнасць каталіцкай царквы. У 1559 г. ў валоданні каталіцкай парафіі і касцёла было 20 дымоў. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 17 двароў, 114 жыхароў, у фальварку 2 двары, 6 жыхароў, у Валожынскай вол. таго ж павета Віленскай губ. Рас. імперыі. У 1904 г. 125 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 23 двары, 174 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 30 двароў, 165 жыхароў, у фальварку 1 двор, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Чкалава, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 198 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы,





магазін. У 1994 г. 44 двары, 80 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Дорскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў паўд. баку. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ЛАСТАЯ** — да 1976 г. хутар у Падбярэзскім с/с. Вядомы з 16 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1550 г. маёнтак, уласнасць татарскага харужага кн. Магмета (Фурса), дзе кароль дазволіў яму пабудаваць вольную карчму. У 1567 г. ў Ашмянскім павеце, уласнасць зямяніна М.Грамыкі, які выстаўляў з маёнтка ў войска аднаго конніка. Частка маёнтка знаходзілася ва ўласнасці татарскіх князёў Махмета, Багдана і Юхны Фурсаў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. фальварак у Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 2 двары, 11 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 8 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с.

**ЛАСТАЯНЦЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Валожына, 102 км ад Мінска, чыг. прыпынак на лініі Маладзечна— Ліда. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ цячэ р. Ластаянка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Песлякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 50 гаспадарак, 106 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 51 двор, 334 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 318 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 26.7.1957 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 76 двароў, 428 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Ракасоўскага. З 26.7. 1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 350 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Быў фельч.-акушэрскі пункт (адкрыты 23.8.1950 г.). З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 66 гаспадарак, 145 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Вішнеўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАЎСКІ БРОД** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Валожына, 13 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 85 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. як сяло ў складзе ВКЛ. Да 1536 г. частка маёнтка ва ўласнасці С.Воўчкавіча, якога з мэтай атрымаць маёнтак у спадчыну забілі сваякі, сыны М.Гіржодавіча. Кароль Жыгімонт I за забойства адабраў фальварак у скарб і аддаў у кіраванне В.Губарэвічу. Частку маёнтка Жыгімонт I у 1536 г. перадаў навечна А.Гіржоду, які валодаў ім у 1542, 1557 гг. У 1559 г. фальварак перайшоў у спадчыну нашчадкам М.Пугачоўны і яе сыноў I. і А. Пржодаў. У 1567 г. з маёнтка Брод Лаўскі М.Пржода выстаўляў у войска аднаго конніка. У 1567 г. сяло ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. аколіца, 9 двароў, 48 жыхароў, у Забрэзскай вол.



Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. аколіца (48 жыхароў), засценак (10 жыхароў) і маёнтак (20 жыхароў). З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў аколіцы 9 двароў, 57 жыхароў, у засценку 2 двары, 17 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у маёнтку 3 двары, 14 жыхароў, у аколіцы 12 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 77 жыхароў, у Забрэзскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, крама. У 1966 г. да вёскі далучана в. Трусковічы. З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 52 гаспадаркі, 115 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Вішнеўскім с/с. Захаваўся парк, сфарміраваны каля сядзібнага дома ў 1930 г. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне. Частка забудовы адмежавана ў зах. баку.

**ЛЕСНІКІ** — вёска ў Дорскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

У 1885 г. вёска ў Пяршайскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёска (27 двароў, 198 жыхароў) і пасёлак (8 двароў, 41 жыхар). З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 34 двары, 211 жыхароў, у фальварку і аколіцы 7 двароў, 51 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1950 г. арганізаваны калгас. У 1959 г. 170 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, крама. У 1994 г. 33 гаспадаркі, 56 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Дорскім с/с. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. і паўд.-зах. ускраінах.

**ЛЕСНІКІ** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 19 км на У ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 64 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ цячэ ручай (правы прыток р. Люцінка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бурбаўшчына, Папкі і далей па шашы Мінск—Валожын. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з канца 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1595 г. сяло ў маёнтку Пяршаі, уласнасць віленскага біскупа. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 77 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Роджэрсана. У 1858 г. ўласнасць графа М.Тышкевіча, 34 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. ў Пяршайскай вол. таго ж павета, 8 двароў, 41 жыхар. У 1908 г. 54 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 51 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. асада ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв.

1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 62 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


Х.М.Чэрня.

**ЛІНКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Янішкі і далей па шашы Валожын—Ліда. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 18 двароў, 115 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ.. У 1908 г. 128 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 13 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 30 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя 33-й гадавіны Кастрычніка, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 27.3.1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Былі 8-гадовая школа, клуб, б-ка з фондам 6,1 тыс. кніг, магазін. У 1959 г. 143 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 44 гаспадаркі, 83 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Грамадскія будынкі сканцэнтраваны на паўд. ускраіне. Радзіма бел. паэта Х.М. Чэрні (1939—83).

**ЛІСТАПАДЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 24 км н ПнУ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзорысты, на ПдЗ абмежавана чыгункай і цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 33 гаспадаркі, 50 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1775 г. вёска, шляхецкая ўласнасць, 20 двароў. З 1795 г. в. Лістападавічы ў Рас. імперыі, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў, 174 жыхары, карчма. У 1894 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 208 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 248 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Гародзькаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 47 двароў, 259 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 12.2.1949 г. арганізаваны калгас «17 Верасня», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1952 г. ў складзе калгаса «Краіна Саветаў». У 1959 г. 236 жыхароў. З 26.2.1976 г. ў калгасе імя «XXV з'езда КПСС» (цэнтр — в. Лоск). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, пач. школа і магазін. У 1994 г. 48 гаспадарак, 84 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**ЛІХАЧЫ** — былая вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Валожына, 29 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі



Мінск—Маладзечна, 54 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Манькаўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. фальварак у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць ротмістра І.Сушчыцкага. Паводле перапісу 1897 г. ў Ракаўскай вол. Мінскага павета, 54 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1980-я г. была ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры).

**ЛОСК** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Буянка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малое Запруддзе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 141 гаспадарка, 280 жыхароў (2008).

У вёсцы на паўн.-ўсх. мысе ўзвышша захавалася гарадзішча (мясц. назва Замчышча), якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1444 г. маёнтак ва ўладанні кн. Ф.Карыбутавіча (Альгердавіча), пасля 1447 г. земскага маршалка ВКЛ П.Мантыгердавіча. У 1489 г. маёнтак і мястэчка, уладальніца якога Г.Ф.Карыбутаўна (Лоская) заснавала тут у 1493 г. парафіяльны касцёл Божага Цела, святых Пятра і Ганны і карчму. У 1505—90-я гг. маёнтак і замак ва ўладанні роду Кішкаў. У дакументах 1538 г. згадваецца айцец Герасім, лоскі архімандрыт (настаяцель праваслаўнага манастыра-архімандрыі) і святар Мікалаеўскай царквы (каля 1549 г.); маёмасць манастыра перайшла ва ўласнасць П.Кішкі. У 1559 г. каталіцкая парафія і касцёл валодалі тут 15 дымамі падданых сялян. Паблізу Лоска ў 1567 г. з'явіўся дробнашляхецкі маёнтак ва ўласнасці ашмянскага зямяніна М.Чыжа. У 1567 г. мястэчка ў Ашмянскім павеце, дзейнічала друкарня (належала Я.Кішку, які ў 1572 г. купіў яе ў братоў Кавячынскіх і перавёз з Нясвіжа ў Лоск), якая размяшчалася ў замку. У 1573 г. сюды прыехалі друкар Д.Ланчыцкі і прапаведнік С.Будны, які ў 1574 г. надрукаваў перакладзены ім «Новы Запавет» з прадмовай і заўвагамі. У 1576 г. была выдадзена кн. С.Буднага «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры» з прадмовай і трактат Цыцэрона «Пра абавязкі», у 1577 г. — вядомага польскага мысліцеля А.Маржэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай», у 1583 г. — кнігі С.Буднага «Аб чыне, які выкарыстоўвае меч», «Пра савецкую ўладу», у 1586 г. — падручнік па логіцы на лацінскай мове «Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля». Выходзілі тут і іншыя кнігі. З 1574 г. друкаром працаваў Я.Карцан (выдаў 7 кніг), а ў 1586—89 гг. друкарняй кіраваў Ф.Бесямоўскі. С.Будны адсюль напісаў ліст англійскаму дзеячу Рэфармацыі і гісторыку Д.Фоксу. Гэты ліст меў значэнне ў рэфармацыйным друку. У 1983 г. на будынку школы ў памяць аб дзейнасці друкарні 16 ст. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Георгіеўская царква ў в. Лоск.*



Мяркуюць, што друкарня працавала да 1592 г. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1856 г. з бутавага каменю пабудавана царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры псеўдарус. стылю. У 1861 г. 165 жыхароў. У 1880 г. школа (9 навучэнцаў). У канцы 19 ст. мяст. Лоск у Гародзькаўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ., 63 двары, 504 жыхары, 2 праваслаўныя царквы. У 1920 г. ў выніку ваенных дзеянняў вёска часткова была спалена. З 1921 г. пад уладай Польшчы, у Валожынскім павеце Навагрудскага ваяв. У 1930 г. пабудаваны з дрэва касцёл, які зараз з'яўляецца помнікам нар. дойлідства. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 154 двары, 966 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.10.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 33 вяскоўцы. У гонар 55 землякоў — сав. воінаў і партызан, якія загінулі, у 1967 г. пастаўлены помнікі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1949 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага, які абслугоўвала да ліквідацыі ў 1958 г. Валожынская МТС. З 16.7.1954 г. ў Гародзькаўскім с/с. У 1959 г. 940 жыхароў. Былы калгас імя XXV з'езда КПСС, цэнтрам якога ў 1970—80-я г. быў Лоск, спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, насенняводстве збожжавых і бульбы, меў 5043 га с.-г. угоддзяў, у тым ліку 3417 га ворыўнай зямлі, 20 трактароў, 64 збожжаўборачныя камбайны, 54 грузавыя аўтамашыны і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 вытв. участкаў, 10 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 12 спецыялістаў з вышэйшай і 35 з сярэдняй спец. адукацыяй. У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, машынны двор, піларама, сталярна-цяслярская майстэрня, 8-гадовая школа (15 настаўнікаў), дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка з фондам 8,4 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, стадыён, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлефонная станцыя, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 210 гаспадарак, 479 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся (2009) клуб-бібліятэка, школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Пры школе дзейнічаў краязнаўчы музей. Капліца ў гонар велікамучаніка Панцеляймона. Плніровачна складаецца з працяглай амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ва ўсх. баку, у зарэчнай частцы. Грамадскія будынкі — у цэнтры вёскі. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне. Радзіма Героя Сац. Працы льнавода Л.Т.Валадкевіч.


*Л.Т.Валадкевіч.*


*Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Лоск.*

**ЛОХАЎШЧЫНА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лоск, Малое Запруддзе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 10 двароў, 100 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 115 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 21 двор, 111 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з



25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Была ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Лоск). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. дамамі.

**ЛУЖАНЫ** — вёска ў Дорскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 74 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сугвазды і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 38 гаспадарак, 54 жыхары (2008).

Непадалёку ад вёскі абапал дарогі ў в. Дубіна размешчаны курганны могільнік (100 насыпаў), за 0,6 км на Пн ад вёскі — другі курганны могільнік (2 насыпы) і побач з ім каменныя магілы (12). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1434 г. двор і вёска, уласнасць вял. кн. ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча, падараваныя ім за службу пану Судзімонту. У маёмасці нашчадкаў гэтага роду маёнтак знаходзіўся ў 1492—1528 гг., потым Кежгайлаў-Забярэзінскіх, у 1560 г. ў сумеснай уласнасці М.Кішкі і княгіні М.Мсціслаўскай, да 1586 г. Глябовічаў-Палонскіх. З 1596 г. ва ўласнасці крычаўскага старосты Б.Саламярэцкага знаходзіўся ў закладным валоданні розных асоб. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 30 двароў, 234 жыхары і фальварак, 4 двары, 42 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 55 двароў, 324 жыхары, у фальварку 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 59 двароў, 393 жыхары, у фальварку 1 двор, 8 жыхароў. У Вял Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 356 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, магазін. У 1994 г. 65 гаспадарак, 105 жыхароў. З 30.10. 2009 г. ў Дорскім с/с. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, аб'яднаных на Пд завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЛЮДЫМЫ** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 32 км на З ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Яхімаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Масцішча, Вайганы і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. фальварак, 1 двор, 11 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. ў саўгасе «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 14 жыхароў, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 47 гаспадарак, 97 жыхароў. Драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.





**ЛЮТАШ** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Ліда—Маладзечна, 99 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ ручай (прыток р. Альшанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Альшанка і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

Засн. ў пач. 20 ст. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 47 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). З 16.7.1954 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 209 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 47 гаспадарак, 97 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЮЦІНА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 30 км на У ад Валожына і чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Падневічы і далей па шашы Івянец—Ракаў. 19 гаспадарак, 35 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1524 г. маёнтак у Віленскім павеце, уласнасць караля Жыгімонта І, частку якой ён адпісаў жонцы каралеве Боне Сфорца. Суседнія з маёнткам землі ў 1541 г. Г.Есьман купіў у М.Хршчановіча. Да 1566 г. двор з воласцю, уласнасць трокскага ваяводы кн. С.Забаражскага. У 1567 г. в. Люцін у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. в. Малы Люцін, 4 двары, 19 жыхароў і фальварак, 1 двор, 2 жыхары, млын. У 1815 г. 26 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Ф. і В. Сушыцкіх. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 20 двароў, 88 жыхароў, у аднайменных засценках 2 двары, 16 жыхароў, у пасёлку 1 двор, 6 жыхароў, у сядзібе 1 двор, 7 жыхароў, у засценку Люцін (ён жа Куты) 3 двары, 13 жыхароў, у маёнтку Люцін (ён жа Кропаўшчына) 1 двор, 19 жыхароў. У 1904 г. ў вёсцы 96 жыхароў, у засценку — 6, у маёнтку 19 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 6.6.1950 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», які абслугоўвала Залеская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада. У 1959 г. 215 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 31 гаспадарка, 58 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. юрыста, доктара юрыд. навук, праф., засл. юрыста Беларусі І.І.Басецкага (н. ў 1945 г.).

**ЛЯГЕЗЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 49 км на У ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 41 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малыя Крывічы, Барок, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).



Вядома з 18 ст. У 1800 г. 7 двароў, 31 жыхар, у Мінскім павеце, уласнасць памешчыка Гурскага. У 1858 г. 26 жыхароў мужчынскага полу, у Крывіцкім сельскім т-ве Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 89 жыхароў, у Ракаўскай вол. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 109 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.8.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. вёска ў Ракаўскім с/с. У 1959 г. 99 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 17 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯСКОЎКА** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 48 км на У ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 30 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З цячэ ручай (прыток р. Іслач), на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Івянец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 14 двароў, 43 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 75 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 72 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). З 16.7.1954 г. ў Ракаўскім с/с. У 1959 г. 65 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, перакрыжаваных на паўд. ускраіне вуліц: адна арыентавана з ПдУ на ПнЗ, другая — з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма контр-адмірала З.І.Жабко (н. ў 1939 г.).

**ЛЯШЧАТКА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 13 км на У ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын— Пяршаі, якая праходзіць побач з вёскай. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 1897 г. в. Ляшчанка, 6 двароў, 61 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 74 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 85 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 16 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1952 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях». З 1954 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіроўка радыяльная. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯШЧОЎЦЫ** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 10 км на У ад Валожына, 29 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе



*З.І.Жабко.*




праз в. Семернікі і далей па шашы Мінск—Валожын. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з сярэдзіны 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1559, 1566 гг. сяло ў маёнтку Пяршаі, уласнасць віленскага біскупа Валяр'яна. У 1800 г. вёска, 22 двары, 136 жыхароў, карчма, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., Рас. імперыі, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 85 жыхароў мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. У 1870 г. 82 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 284 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 52 двары, 317 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 59 двароў, 335 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 75 двароў, 347 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.7.1954 г. ў Пяршайскім с/с. У 1959 г. 307 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся свінагадоўчая ферма, вытв. брыгада. У 1994 г. 47 гаспадарак, 106 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**МАЖУЛЕВА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 32 км на У ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ праходзіць канал, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Ісклач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1897 г. 3 засценкі (разам 5 двароў, 34 жыхары), у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. засценак, 6 двароў, 31 жыхар і фальварак, 1 двор, 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, з 1958 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 30 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЗУЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Івянецкім с/с, за 33 км на ПдУ ад Валожына, 42 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 5 двароў, 46 жыхароў, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 33 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Я.Плявакі. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 112 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 129 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 24 двары, 140 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 165 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8.12. 1949 г. арга-



нізаваны калгас імя Мічурына, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 118 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). У 1994 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЗУРКА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Рум—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак, 2 двары, 10 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 16, у 1908 г. 24 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 3 двары, 20 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Румскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 4 двары, 28 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв.—ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоны партызан». У 1959 г. 27 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1976 г. ў Валожынскім с/с. З 29.1.1976 г. вёска ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1994 г. 5 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, паралельна да шашы і забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАКАРАЎКА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Капусціна, якая праходзіць побач з вёскай. 48 гаспадарак, 140 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. 2 двары, уласнасць шляхціца. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 64 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 62, у 1908 г. 87 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 69 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 14 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.9.1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 83 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1962 г. ў Валожынскім с/с. Вёска была ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г. Валожын). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, кармацэх, магазін. У 1994 г. 50 гаспадарак, 143 жыхары. Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. і паўн. ускраінах.

**МАКАРЫНЯТА** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 95 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Віль-





нюс, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Засн. ў пач. 20 ст. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 20 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 133 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). У 1994 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Вішнеўскім с/с. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАКАСІЧЫ** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 48 км на ПдУ ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Койданава, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ойцінава, Шэлеўшчына, Праўжалы і далей па шашы Ракаў—Івянец. 42 гаспадаркі, 90 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1776 г. вёска, 11 двароў, 32 жыхары мужчынскага полу, уладанне І.Бутрымовіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старосціча І.Ратынскага. У 1858 г. 47 жыхароў мужчынскага полу, у Дзякаўскім сельскім т-ве, уласнасць памешчыцы К.Плявака. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 138 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 180 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 33 двары, 198 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 51 двор, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас імя Я.Коласа, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 29.11. 1951 г. ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Падневіцкім сельсаветах. У 1959 г. 248 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 53 гаспадаркі, 107 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з кароткімі завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. і зах. ускраінах.

**МАКРЫЧАЎШЧЫНА** — вёска ў Дорскім с/с, за 25 км на У ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 49 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ цячэ р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск— Вільнюс. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 28 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. в. Макржыцаўшчызна, 17 жыхароў мужчынскага полу, цэнтр сельскага т-ва, уласнасць графа І.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 16 двароў, 97 жыхароў, кузня, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 105 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас. З 1959 г. ў складзе



калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 86 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 16 гаспадарак, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ДАЙНОЎКА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі, якая праходзіць праз вёску. 20 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

Вядома з канца 19 ст. як в. Дайноўка. У 1896 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. в. Дайноўка 2, 18 двароў, 160 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў в. Дайноўка — 180, у аднайменным засценку 20 жыхароў. У 1908 г. ў в. Дайноўка 35 двароў, 465 жыхароў, у засценку 2 двары, 23 жыхары. У 1921—39 гг. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Малая Дайноўка 47 двароў, 223 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 52 двары, 286 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.4.1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. З 1956 г. ў калгасе «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 40 гаспадарак, 70 жыхароў. З 30.10.2009 г. ў Гародзькаўскім с/с. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая перакрыжоўвае шашу. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Асобныя сял. сядзібы адмежаваны ў паўд. баку. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**МАЛАЯ ЛЮЦІНКА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 21 км на У ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на беразе вадаёма, утворанага на р. Люцінка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мішаны, Папкі і далей па шашы Мінск—Валожын. 8 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1840 г. фальварак Люцінка купіў бел. пісьменнік В.Дунін-Марцінкевіч, дзе ён жыў да 17.12.1884 г. У 1840—50-я г. тут быў створаны і дзейнічаў бел. тэатр, у трупе якога быў хор з мясц. сялян. У 1897 г. в. Люцінка, 3 двары, 19 жыхароў, аднайменныя маёнтак нашчадкаў В.Дуніна-Марцінкевіча, 1 двор, 16 жыхароў і фальварак, 1 двор, 4 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. в. Малая Люцінка, 4 двары, 27 жыхароў, фальварак Малая Люцінка, 4 двары, 24 жыхары і фальварак Люцінка, 1 двор, 10 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. фальварак Люцінка ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 1 двор, 14 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. в. Малая Люцінка, 69 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 18 гаспадарак, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова,





шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**МАЛОЕ ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бунка (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Гародзькі. 65 гаспадарак, 106 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 55 двароў, 327 жыхароў, хлебазапасны магазін, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 398 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 81 двор, 421 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 88 двароў, 499 жыхароў, у засценку Запруддзе 5 двароў, 34 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 21.9. 1949 г. арганізаваны калгас імя Свярдлова, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.7.1954 г. ў Гародзькаўскім с/с. У 1959 г. 455 жыхароў. З 26.2.1976 г. ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Лоск). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1994 г. 115 гаспадарак, 228 жыхароў. Дзейнічаў магазін (2009). Плановачна складаецца з працяглай амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**МАЛЫЯ КРЫВІЧЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 45 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Барок, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

У 1870 г. маёнтак В.Свентаржэцкага ў Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1897 г. маёнтак Э.Скаргі, 1 двор, 14 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. фальварак, 4 двары, 26 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. арганізаваны калгас «Світанне», які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. ў Ракаўскім с/с. У 1959 г. 21 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1969 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 7 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. баку.

**МАНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 27 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 49 км ад Мінска, каля шашы Мінск—Ліда—Гродна. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З мяжуе з лесам, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 90 гаспадарак, 229 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1732 г. вёска, уладанне Ф.Красноўскага, 4 двары, 8 жыхароў мужчынскага полу. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. ўладанне Н.Красноўскага, 5 двароў, 20 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 4 двары, 49 жыхароў, і маёнтак, 1 двор, 7 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета



Віленскай губ. У 1908 г. ў вёсцы 5 двароў, 59 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 59 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. Каля павароту ў вёску з шашы Мінск—Валожын на ўшанаванне памяці 114 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1970 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.4.1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 207 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. далучаны вёскі Бараноўшчына, Марына, Новае Поле, Рэдзькі. У 1980-я г. была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, піларама, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, комлексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1994 г. 94 гаспадаркі, 258 жыхароў. У 2009 г. цэнтр СВК «Манькаўшчына», размешчаны б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў паўд.-зах. баку. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**МАРШАЛКІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 27 гаспадарак, 49 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Маршалькі, 12 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 92 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Рас. імперыі. У 1904 г. — 116, у 1908 г. 132 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 139 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 33 двары, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 169 жыхароў, у Брылькаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, стайня, клуб, б-ка з фондам 5,9 тыс. кніг, магазін. У 1994 г. 42 гаспадаркі, 76 жыхароў. У вёсцы размешчаны Дом фальклору (2009). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**МАСЦІШЧА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 42 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Яхімаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вайганы і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 5 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў аколіцы Масцішча было 4 двары, 12 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1935 г. за свае сродкі і сваімі рукамі вернікі збудавалі стараабрадніцкую драўляную царкву. З ліст.





1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Быў магазін. У 1959 г. 136 жыхароў, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 17 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіроўка Т-падобная, у 2 кароткія прамалінейныя вуліцы: да вуліцы шыротнай арыентацыі на Пд далучаецца вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЦАВІЧЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 50 км на У ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 59 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ракаў, Кучкуны і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. сяло, 19 двароў, у Мінскім ваяв. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1794 г. 126 жыхароў, карчма, уладанне М.К.Агінскага. У 1858 г. 45 жыхароў мужчынскага полу, у Старараўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць княгіні Друцкай-Любецкай. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 153 жыхары, у Заслаўскай вол. таго ж павета. У 1908 г. 25 двароў, 159 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 24 двары, 168 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Гравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. 18.1.1949 г. арганізаваны калгас імя Шверніка, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 133 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 26.8.1961 г. ў Ракаўскім с/с. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). У 1994 г. 20 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Успенская стараабрадніцкая царква ў в. Масцішча.*

**МЕШКУЦІ** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 46 км на ПдУ ад Валожына, 52 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 50 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Івенчык (левы прыток р. Ісляч). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Курдуны і далей па шашы Ракаў—Івянец. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 47 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць старасцянкі Д.Салагубаўны. У 1858 г. вёска, 30 жыхароў мужчынскага полу і фальварак, уласнасць памешчыка Ф.Яварскага. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 12 двароў, 92 жыхары, маёнтак, 1 двор, 16 жыхароў, урочышча Мешкуні (яно ж Каміншчына), 1 двор, 6 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 16 двароў, 105 жыхароў, у фальварку 18 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў



БССР. З 12.10.1940 г. в. Мешкуткі ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 32 двары, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. 29.4.1952 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 29.10.1953 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пральніцкім с/с. У 1959 г. 103 жыхары. З 7.7.1962 г. ў Падневіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 24 двары, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**МІЖРЭЧЧА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 40 км на У ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 69 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і З мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Міхалова і далей па шашы Мінск— Гродна. 25 гаспадарак, 65 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1858 г. маёнтак Мендзырэчча, 13 жыхароў, цэнтр сельскага т-ва Мінскага павета, уласнасць памешчыка Ф.Гурскага. Паводле перапісу 1897 г. 32 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 2 двары, 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. ў Радашковіцкім р-не. У 1959 г. 66 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 28 двароў, 77 жыхароў. Працаваў магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак дарогі Івянец—Міхайлава) шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адасоблена ў паўн. баку. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**МІЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска і чыг. ст. на лініі Маладзечна—Ліда, у Вішнеўскім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Валожына, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, перакрыжавана чыгункай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2009).

У 1897 г. вёска, 21 двор, 140 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. — 134, у 1908 г. 186 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 24 двары, 115 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 29 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя 33-й гадавіны Кастрычніка, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 193 жыхары, у Вішнеўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 31 двор, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў паўд.-ўсх. баку, за чыгункай. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.





**МІНЦІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на З ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Вішнева, якая праходзіць праз вёску. 38 гаспадарак, 70 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Мінцы, 23 двары, у графстве Валожын Мінскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1801 г. с. Менцін, млын, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1882 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 213 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 235 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 41 двор, 210 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 5.5.1962 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 47 двароў, 296 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 21.9.1949 г. арганізаваны калгас «Іскра», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.6.1959 г. ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Валожын). Былі клуб, б-ка з фондам 7,6 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт. У 1959 г. 221 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 45 двароў, 95 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, перпендыкулярнай да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**МІХАЛОВА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 36 км на ПдУ ад Валожына, 42 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Брэст, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Івянец. 27 гаспадарак, 88 жыхароў (2008).

У 1840 г. ўрочышча, дзе пачала дзейнічаць лесапілка, якую ўладальнікі К. і Ф. Здзяхоўскія ў 1905 г. ператварылі ў лесапільны з-д. Быў устаноўлены лакамабіль і да 1914 г. на з-дзе працавалі 15 рабочых. У 1885 г. вёска ў Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 6 двароў, 38 жыхароў, у 1908 г. 7 двароў, 58 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 68 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 18 двароў, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. У студз. 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Новы шлях», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 74 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўб- цоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11.1966 г. аб'ядналася з вёскамі Альшанка, Францішкава. У 1980-я г. была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). У 1994 г. 25 двароў, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. баку.

**МІХАЛОВА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 36 км на ПдУ ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам, з Пн праходзіць шаша Мінск—Валожын, на Пд — шаша Міхалова—Івянец. 44 гаспадаркі, 142 жыхары (2008).



У 1858 г. фальварак, 6 жыхароў мужчынскага полу, у Мендзаржэцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка А.Грынеўскага. Вясной 1863 г. ў вёсцы рэв. начальнік Ракаўскай акругі Мінскага павета А.Свентаржэцкі назначыў збор паўстанцаў. Паводле перапісу 1897 г. 2 двары, 20 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 6 двароў, 72 жыхары. У 1936 г. пабудаваны сырзавод. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.6. 1949 г. арганізаваны калгас «Усход», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 85 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). Размяшчаліся масласырзавод, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Аляшкоўшчына. У 1994 г. 46 двароў, 148 жыхароў. Планіровачна ўяўляе 3 размежаваныя часткі сядзібнай забудовы, цэнтр. з якіх складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІШАНЫ** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 18 км на У ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 62 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ ручай (правы прыток р. Люцінка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бурбаўшчына, Папкі і далей па шашы Мінск—Валожын. 38 гаспадарак, 73 жыхары (2008).

Вядома з сярэдзіны 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1566 г. двор Мішаны, які згадваецца пры апісанні зямель маёнтку Саланая і Пяршаі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. в. Мішчоны, 5 двароў, уладанне І.Валадкевіча. У 1815 г. 57 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце, уласнасць памешчыка В.Багдановічавай. У 1870 г. 52 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 39 двароў, 218 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку 2 двары, 29 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ў вёсцы 41 двор, 212 жыхароў, у фальварку 1 двор, 12 жыхароў. У 1914 г. настаўнікам ў вёсцы працаваў пісьменнік К.Крапіва. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 42 двары, 202 жыхары, у маёнтку 2 двары, 11 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 56 двароў, 258 жыхароў, у фальварку 2 двары, 7 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 40 двароў, загубілі 43 жыхары. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «70 гадоў І.В.Сталіна». У 1959 г. 242 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, зернясклад, 8-гадовая школа, магазін. У 1994 г. 47 двароў, 101 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 размежаваных ручаём участкаў сядзібнай забудовы. Асн. ўсх. ўчастак планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Зах. частка складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**МЛЫНКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 40 км на ПдУ ад Валожына, 48 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 67 км ад Мін-





ска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, абкружана лесам, на ПдЗ цячэ р. Каменка (правы прыток р. Ізледзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Камень і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 5 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1897 г. аднаселле, 2 двары, 10 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 6 двароў, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску (7 двароў), загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 62 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). У 1994 г. 8 двароў, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай уздоўж ракі вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МОНЬКІ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 44 км на У ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 41 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. засценак у Мінскім ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, уладанне У.Нарушэвіча. У 1858 г. вёска, 4 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў А. і М. Пашкевічаў. Паводле перапісу 1897 г. 7 хутароў, 53 жыхары, і пасёлак, 1 двор, 14 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 95 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 3 двары, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц: гал., плаўна выгнутая, арыентавана з ПнЗ на ПдУ, перпендыкулярна да шашы, прамалінейны адрэзак якой з'яўляецца другой вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МЯЖЭЙКІ** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 10 км на ПнУ ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ цячэ р. Баранаўка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць праз вёску. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1897 г. аколіца, 16 двароў, 97 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 104 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 20 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1944 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 45 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 16 двароў, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**МЯЙШТЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 37 км на ПдУ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Волма (левы прыток р. Ісдач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Шыкуці, Замасцяны і далей па шашы Івянец—Стоўбцы. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1858 г. в. Мяйштоф, 16 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка А.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 50 жыхароў, у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 12 двароў, 61 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 75 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 129 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.- фаш. захопнікамі. З ліп. 1944 г. да крас. 1959 г. ў Старынкаўскім, потым у Зарачанскім, з 1.10.1973 г. ў Івянецкім сельсаветах. 3.7.1950 г. арганізаваны калгас імя Суворава, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 109 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1980-я г. была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). У 1994 г. 17 двароў, 38 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**МЯХІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Падбярэзь на лініі Маладзечна—Ліда, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сіняя Гара, Скадорвы, Вішнева і далей па шашы Мінск—Ашмяны. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 6 двароў, 50 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 43 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 жыхары. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 38 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). У 1994 г. 11 двароў, 22 жыхары.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 14 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць побач з вёскай. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак, 4 двары, 37 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. — 50, у 1908 г. 52 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 10 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 74 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай

вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 3 двары, 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ перпендыкулярна да шашы і забудаванай аднабакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Мількаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на ПнЗ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 37 гаспадарак, 63 жыхары (2008).

На зах. ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Юкавічы, размешчаны курган, які сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1791 г. 30 двароў, 233 жыхары, вадзяны млын, уладанне С.Марцынкевіча. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 49 двароў, 357 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. — 355, у 1908 г. 420 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 43 двары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 90 двароў, 614 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 29.12.1950 г. арганізаваны калгас «Новае сяло», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1956 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Былі пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1959 г. 289 жыхароў, у Вішнеўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 57 двароў, 91 жыхар. Дзейнічаў (2009) магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 9 км на З ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Валожынка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стайкі і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-х г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. аколіца Навасельцы ў Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 6 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 16 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 2 двары, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Сял. сядзіба драўляная.

**НАВІКОЎШЧЫНА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 39 км на ПдУ ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 69 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пакуці і далей па шашы Івянец—Ракаў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1776 г. вёска, 5 двароў, 16 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Бугрымовіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 6 двароў, 26 жыхароў мужчынскага полу. У 1858 г. 41 жыхар мужчынскага полу, у Дзякаўскім сельскім т-ве, уласнасць памешчыка К.Плявакі. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 91 жыхар, у 1908 г. 144 жыхары.



З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 20 двароў, 115 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 21 двор, 111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. 11.5. 1950 г. арганізаваны калгас «Радзіма», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 94 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). У 1994 г. 13 двароў, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВІНКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 35 км на ПдУ ад Валожына, 41 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 74 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Дзераўная, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска і фальварак у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1815 г. ўласнасць памешчыка Я.Плявакі, у 1870 г. — М.Плявакі, у 1897 г. — Казарынава. Паводле перапісу 1897 г. 1 двор, 2 жыхары, у 1908 г. 16 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 22 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. хутар, 18 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 3 двары, 4 жыхары. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**НАВІНЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 41 км на У ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 43 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ракаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 22 гаспадаркі, 42 жыхары (2008).

У 1858 г. вёска, 30 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 121 жыхар, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 27 двароў, 143 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 6.10.1949 г. арганізаваны калгас «Новыя навіны», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 126 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 30 двароў, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**НАРКАЎШЧЫНА** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 30 км на З ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 106 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і





далей па шашы Валожын—Ашмяны. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

У 1897 г. фальварак Наркаўшчына, 1 двор, 7 жыхароў, і выселак Наркаўшчызна, 4 двары, 33 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. аколіца, 3 двары, 25 жыхароў, засценак, 5 двароў, 33 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. 2 аколіцы ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у 1-й 5 двароў, 27 жыхароў, у 2-й 9 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 115 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 12 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАРЭЙШЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 14 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 143 жыхары, у Валожынскай вол. Ашамянскага павета. У 1908 г. 151 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 27 двароў, 156 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 36 двароў, 232 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 13.3.1949 г. арганізаваны калгас «Камсамолец». У 1959 г. 194 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). Былі клуб, б-ка з фондам 8,3 тыс. кніг і магазін. У 1994 г. 46 двароў, 88 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, злучаных у цэнтры і на паўд. ускраіне прамалінейным завулкамі. Забудавана аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтры, гасп. сектар — на зах. і паўн. ускраінах.

**НЕЛЮБЫ** — вёска ў Дорскім с/с, за 26 км на У ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доры, Шараі і далей па шашы Ракаў—Валожын. 27 гаспадарак, 48 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1797 г. в. Нялюды ў Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1800 г. 24 двары, 119 жыхароў. У 1858 г. 73 жыхары мужчынскага полу, у Дорскім сельскім т-ве, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 33 двары, 246 жыхароў. Вяскоўцы 24.4. 1906 г. накіравалі ў Дзярж. думу прашэнне аб надзяленні зямлёй, але ўлады не звярнулі на яго ўвагі. У 1908 г. 38 двароў, 241 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 45 двароў, 252 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах



загінулі 12 вяскоўцаў. 16.5.1950 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 28.2.1952 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1959 г. 221 жыхар, у Дорскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 38 двароў, 73 жыхары. Планіроўка рэгулярная: ад гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць 5 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**НОВЫ ДВОР** — вёска, цэнтр Залескага с/с і былога саўгаса «Залескі», за 55 км на У ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабы і далей па шашы Ракаў—Радашковічы. 62 гаспадаркі, 169 жыхароў (2008).

Вядома ў канцы 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1582 г. маёнтак у Менскім павеце, уласнасць менскага падкаморыя С.Салагуба. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак, 2 двары, 7 жыхароў, уласнасць памешчыка В.Свентаржэцкага, у Мінскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. 36 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. фальварак, 2 двары, 21 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. да 26.8. 1961 г. ў Гіравіцкім с/с. У 1959 г. 68 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 30.12.1962 г. цэнтр саўгаса «Залескі», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і насеннаводстве шматгадовых траў, меў 2897 га сельгасугоддзяў, у т.л. 2126 га ворнай зямлі, 44 трактары, 16 збожжаўборачных камбайнаў, 21 грузавую аўтамашыну і іншую тэхніку. Энергаўзброенасць на аднаго працуючага складала 34,5 к.с. Гаспадарка складалася з 3 вытв. брыгад і 6 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 10 спецыялістаў з вышэйшай і 20 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарная лячэбніца, машынны двор, піларама, клуб, б-ка з фондам 9,4 тыс. кніг, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, магазін. У 1994 г. 67 двароў, 231 жыхар. Дзейнічаюць б-ка, магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай аднабакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

У склад Залескага с/с уваходзяць 22 населеныя пункты (2010).

**НОСАВІЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на У ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на паўд. баку цячэ ручай (правы прыток р. Літанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капусціна і далей па шашы Мінск—Валожын. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Носавічы, 7 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 69 жыхароў, у Вало-





жынскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 71, у 1908 г. 74 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 100 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 14 двароў, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, з 1956 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). У 1959 г. 88 жыхароў, у Даўбенскім, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 17 двароў, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯМОНІ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 15 км на З ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бомбалы і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Неманне, у Мінскім ваяв., 8 двароў, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 81 жыхар, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 90, у 1908 г. 106 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 18 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перамога», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.3.1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 91 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 20 двароў, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯРОВЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 21 км на З ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Адамова і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 42 гаспадаркі, 63 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1567 г. с. Нярова, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 56 двароў, 356 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 339, у 1908 г. 366 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 45 двароў, 259 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Адамоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 78 двароў, 396 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.9.1950 г. арганізаваны калгас «За трывалы мір», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 3.4.1954 г. ў складзе калгаса імя І.Д.Чarняхоўскага (цэнтр — в. Адамова). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў),



фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1959 г. 312 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 61 двор, 120 жыхароў. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на паўд.-ўсх. ускраіне падыходзіць прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на паўн.-зах. ускраіне, гасп. сектар — на паўд.-ўсх. і паўн.- зах. ускраінах.

**ОЙЦІНАВА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 62 км на ПдУ ад Валожына, 38 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 55 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Шэлеўшчына, Прайжалы і далей па шашы Івянец—Ракаў. 9 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1549 г. вядомы «Дзякоўскі» палац у «Войтенове» ва ўласнасці гаспадарскага зямяніна Я.Салагуба. У 1559 г. маёнтак ва ўладанні С.Унучкі, якому кароль Жыгімонт Аўгуст дазволіў пабудаваць вольную карчму. У 1567 г. часткі маёнтка знаходзіліся ў маёмасці Я.Кураша, М.Унучкі, Г.Волдана, у Менскім павеце. У 1567 г. в. Войценева, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1582 г. ў маёнтку дзейнічала царква Маці Божай, уласнасць С.Салагуба і М.Бачанкі. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1797 г. засценак, 3 двары. У 1800 г. 4 двары, 23 жыхары, уласнасць лоўчага Т.Варанца. У 1858 г. 15 жыхароў мужчынскага полу, у Лабскім сельскім т-ве Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў А. і М. Пашкевічаў. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 63 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў вёсцы 10 двароў, ва ўрочышчы 1 двор. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 10 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска і 2 аднайменныя маёнткі ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., у вёсцы 13 двароў, 97 жыхароў, у адным маёнтку 2 двары, 11 жыхароў, у другім — 1 двор, 9 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. 9.11.1949 г. арганізаваны калгас «Новае Ойцінава», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 29.11.1951 г. ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). З 1944 г. ў Валмянскім, з 17.7.1970 г. ў Падневіцкім сельсаветах. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Падневіцкім с/с. У 1959 г. 103 жыхары, на хутары Ойценаўка 23 жыхары. З 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 13 двароў, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якая ў цэнтры агінае прамавугольны квартал. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАГАРЭЛКА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 37 км на ПдУ ад Валожына, 46 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Івянец. 42 гаспадаркі, 109 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 45 жыхароў, і фальварак, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Т.Плявакі. У 1858 г. 50 жыхароў мужчынскага полу, у Івянецкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Я.Плявакі. У 1870 г. 56 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска, хлебазапасны магазін і хутар, 1 двор, 5 жыхароў, кузня. У 1908 г. ў вёсцы 34





двары, 225 жыхароў, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 39 двароў, 255 жыхароў, у асадзе 1 двор, 10 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сівіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 77 двароў, 369 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. 21.9.1951 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. ў Каменскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 300 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 60 двароў, 149 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На ПдУ адасобленая частка сядзібнай забудовы ўздоўж прамалінейнай вуліцы. Гасп. сектар — на зах. баку.

**ПАГАРЭЛЬШЧЫНА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, з Пн цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Студзянец, Забрэззе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1582 г. маёнтак, уласнасць Я.Вількоўскага і яго брата, з якім яны служаць ад маёнтка Валожын віленскаму ваяводзе М.Радзівілу. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. аколіца Пагарэлішкі, 1 двор, 4 жыхары. У 1897 г. вёска, 9 двароў, 61 жыхар, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 77 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 97 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 22 двары, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). У 1959 г. 136 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 15 двароў, 33 жыхары. Планіроўка Г-падобная: ад прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на Пн адыходзіць шыротная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДБЯРЭЗЬ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, цэнтр УП «Падбярэззе», за 25 км на ПнЗ ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 190 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на Пн — яе правы прыток р. Ластаянка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Післякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 117 гаспадарак, 283 жыхары (2008).

За 0,3—0,4 км на ПнУ ад вёскі захавалася стаянка каменнага веку, якая сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 19 ст. У 1897 г. вадзяны млын і сядзіба, 5 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля будынка канторы саўгаса ў 1968 г. на ўшанаванне памяці 27 землякоў — воінаў і партызан — пастаўлены абеліск. 29.12.1950 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 16 жыхароў, у Багданаў-



скім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. У 1963 г. вёска ўвайшла ў склад толькі што створанага саўгаса «Падбярэззе» як яго цэнтр. З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Былы саўгас «Падбярэззе» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым насенняводствам кармавых караняплодаў і гародніны, меў 2735 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1863 га ворнай зямлі, 50 трактароў, 15 збожжаўборачных камбайнаў, 68 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 5 вытв. брыгад і 6 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 17 спецыялістаў з вышэйшай і 18 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, кармацэх, машынны двор, ветэрынарны ўчастак, піларама, сярэдняя школа (22 настаўнікі), дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка з фондам 10,4 тыс. кніг, амбулаторыя, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі, АТС, 3 магазіны, сталовая, стадыён, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 128 двароў, 400 жыхароў. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, пажарная часць, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц: на канцах гал. вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць 2 вуліцы, арыентаваныя перпендыкулярна да чыгункі. Грамадскія будынкі — на паўн. ускраіне. Паўд. частка вёскі — раён сучаснай катэджнай забудовы. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ПАДЖАРКАЎШЧЫНА** — былая вёска ў Пяршайскім с/с, за 12 км на У ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 64 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 2 двары, 6 жыхароў, і маёнтак, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 9 жыхароў мужчынскага полу, у Макрычаўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа І.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 3 двары, 27 жыхароў, ветраны млын, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 6 двароў, 33 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 49 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 10 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1954 г. ў Пяршайскім с/с. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 37 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 4 двары, 4 жыхары. Планіровачна складаецца з адасобленых сял. сядзіб, аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**ПАДКАЛІНА** — хутар у Сакаўшчынскім с/с, за 20 км на З ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 92 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Буні і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

Вядомы з 19 ст. У 1897 г. засценак Падкалінка, 1 двор, 8 жыхароў, і сядзіба Падкаліна, 3 двары, 7 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёска, 14 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5

двароў, 37 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. засценак у Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 5 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. жыхары ўступілі ў калгас. З 1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 17 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 4 двары, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з аднабаковай сядзібнай забудовай.

**ПАДНЕВІЧЫ** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 48 км на ПдУ ад Валожына, 55 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 50 гаспадарак, 110 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 73 жыхары, гаспадарскі дом, карчма, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1852 г. на могілках пабудавана з бутавага каменю капліца, якая зараз з'яўляецца помнікам неагатычнай архітэктуры. Вёска ў гэты час належала памешчыцы А.Маранцовай. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 23 двары, 138 жыхароў, хлебазапасны магазін, і фальварак, 1 двор, 5 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 177, у фальварку 16 жыхароў. У 1916 г. адкрыта аднакласнае нар. вучылішча. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 29 двароў, 200 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл., 50 двароў, 276 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. 19.12. 1949 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які абслугоўвала Івянецкая МТС. Была ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, кармацэх, сталярна-цяслярская майстэрня, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам больш за 10 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, магазін, 3 спарт. пляцоўкі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. 27.3.1959 г. сельсавет перайменаваны ў Пральніцкі, з 7.7.1962 г. зноў Падневіцкі. У 1959 г. 261 жыхар. З 25.12.1962 г. ў Стаўцбоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 70 двароў, 137 жыхароў. У пач. 2000-х г. сельсавет перайменаваны ў Пральніцкі. У вёсцы размешчаны (2009) клуб, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы) шыротнай арыентацыі. У зах. частцы сядзібнай забудовы праходзіць другарадная паралельная вуліца. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

Непадалёку ад вёскі (2 км) на могілках Тупальшчына пахаваны бел. пісьменнік В.Дунін-Марцінкевіч (4.2.1808—29.12.1884).



*Радавая капліца-пахавальня Жаброўскіх (1852) на могілках каля в. Падневічы.*



**ПАДСАДЫ** — хутар у Івянецкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сіманы, Чышэвічы, Мяйшты, Шыкуці, Замасцяны і далей па шашы Стоўбцы—Івянец. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 19 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 9 жыхароў мужчынскага полу, у Падсадскім сельскім т-ве, уласнасць памешчыка А.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 34 жыхары, у 1908 г. 7 двароў, 37 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 36 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. хутаране ўступілі ў калгас. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). 12.11.1966 г. да хутара далучана в. Андрыешкі. У 1994 г. 4 двары, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАКУЦІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 39 км на ПдУ ад Валожына, 38 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Івенчык (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ракаў, якая праходзіць побач з вёскай. 37 гаспадарак, 84 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. фальварак, 1 двор, 17 жыхароў, млын, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Івянецкага францысканскага кляштара. У 1858 г. 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. вёска Пакуцце, 19 двароў, 104 жыхары, хлебазапасны магазін. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 23 двары, 139 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. 29.4.1951 г. арганізаваны калгас «За мір», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. У 1959 г. 173 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. 12.11.1963 г. да вёскі далучана в. Іванчык. У 1994 г. 48 двароў, 122 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забу-



*В.Дунін-Марцінкевіч.*



*Помнік на магіле В.Дуніна-Марцінкевіча каля в. Падневічы.*

давана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на У. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**ПАЛАЧАНКА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 35 км на У ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 38 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач), на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

За 3 км ад вёскі размешчаны курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1800 г. 1 двор, 5 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць падстолія Свентаржэцкага. У 1858 г. 10 жыхароў мужчынскага полу, у Боркаўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыцы А.Кучэўскай. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 25 жыхароў, вадзяны млын. У 1921—39 гг. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 6 двароў, 39 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. хутар, 23 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 9 двароў, 30 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛІКСАЎШЧЫНА** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 12 км на У ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на паўн.-ўсх. ускраіне — дзве сажалкі. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 140 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 8 двароў, 53 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 63, у 1908 г. 77 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 79 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 68 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 17 двароў, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛІКШТЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 51 км на У ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Стары Ракаў, Кучкуны і далей па шашы Мінск—Валожын. 21 гаспадарка, 41 жыхар (2008).

За 2 км на ПнУ ад вёскі размешчаны курганны могільнік (80 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 19 ст. У 1858 г. в. Пелікшы, 39 жыхароў мужчынскага полу, у Старакаўскім сельскім т-ве Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць княгіні Друцкай-Любецкай. Паводле перапісу 1897 г. 30 два-



роў, 172 жыхары, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 34 двары, 274 жыхары. У 1921—39 гг. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 38 двароў, 219 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гірхавіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму», які абслугоўвала Залеская МТС. З 1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. 249 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 26.8.1961 г. ў Ракаўскім с/с, з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1965 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1966 г. да вёскі далучаны вёскі Дамінава і Загай. У 1994 г. 39 двароў, 81 жыхар. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з кароткімі завулкамі. Забудавана шчыльна, двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі сярод забудовы зах. часткі вёскі. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ПАЛІКШЧЫНА** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 7 км на У ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 64 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. с. Палікшы, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 68 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 75, у 1908 г. 65 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 13 двароў, 85 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.11. 1949 г. арганізаваны калгас імя В.У. Куйбышава, які абслугоўвала Валожынская МТС. 9.2.1956 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). У 1959 г. 68 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 12 двароў, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, гал. адрэзак якой мае мерыдыянальную арыентацыю. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛУБОЎЦЫ** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 16 км на У ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Пяршайка, на Пд — яе прыток безназоўны ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Даўгулёўшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 44 гаспадаркі, 79 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. як сяло ў маёнтку Пяршаі. У 1566 г. ва ўласнасці віленскага біскупа ксяндза Валяр'яна. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 15 двароў, 86 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай, у Мінскім павеце, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 70 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 236 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 251 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 49 двароў, 282 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Пяршайскім с/с





Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 69 двароў, 384 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. атрадах ваявалі 56 вяскоўцаў, 14 з іх загінулі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.В.Суворава, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 314 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам больш за 8,4 тыс. кніг. У 1994 г. 64 двары, 140 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры і на паўн.-зах. ускраіне.

**ПАМОРШЧЫНА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 6 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Літанка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1801 г. в. Паморшчызна, 22 жыхары, у Вілейскім павеце, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 131 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 117, у 1908 г. 135 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 27 двароў, 159 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 28 двароў, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас «Чырвонагвардзеец», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 9.2.1956 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 108 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8. 1973 г. ў Баброўскім с/с. У 1994 г. 24 двары, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў зарэчнай частцы, каля шашы. На ПнУ — гасп. сектар.

**ПАМОРШЧЫНА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 42 км на ПдУ ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Волма, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 57 гаспадарак, 176 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1850 г. заснаваны бровар, на якім у 1880 г. працавалі 1 майстар і 7 чарнарабочых, сярод іх бацькі Я.Купалы — Д.А. і Б.І. Луцэвічы. У 1880 г. сядзіба, дзейнічала вінакурня. У 1896 г. памешчыкам Э.Здзяхоўскім паміж фальваркам Паморшчына і маёнткам Ракаў была ўстаноўлена тэлеф. сувязь. У 1897 г. маёнтак, 82 жыхары. У 1912 г. на бровары дзейнічаў паравы рухавік. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 13 двароў, 73 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 5.3.1951 г. арганізаваны калгас «Стаханавец», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 197 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім



р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Размяшчаліся спіртзавод і комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы, кармацэх, магазін. У 1994 г. 67 двароў, 186 жыхароў. Дзейнічае магазін (2009). Ручаём падзелена на 2 часткі, аб'яднаныя мостам. Гал. выгнутая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Усх. частка арганізавана ў адну прамалінейную вуліцу, арыентаваную з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**ПАПКІ** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 16 км на У ад Валожына, 33 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 59 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 44 жыхары, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Ронжэрсана. У 1858 г. 40 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 17 двароў, 95 жыхароў, у лясной вартоўні 1 двор, 7 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 19 двароў, 146 жыхароў, у лясной вартоўні 1 двор, 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 24 двары, 145 жыхароў. У 1940 г. 33 двары, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 20 двароў і загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 4.8.1949 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 150 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчалася вытв. брыгада. У 1994 г. 27 двароў, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў паўн. баку, каля шашы. Вытв. сектар у цэнтры вёскі. Радзіма Героя Працы Г.І.Маліцкага.

**ПЕРАЛЯСАНКА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Рум—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-х г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Румскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 28 жыхароў, у Белакорацкім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1976 г. ў Валожынскім с/с. З 29.1.1976 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1994 г. 11 двароў, 20 жыхароў. Планіровачна складаецца з паўн.-ўсх. і паўд.-зах. частак сядзібнай забудовы, размешчаных уздоўж дарогі і аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**ПЕРШАМАЙСКІ** — пасёлак у Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 14 км на ПдУ ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і

далей па шашы Мінск—Валожын. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Засн. ў 1958 г. на базе Валожынскага лясніцтва, якое мела тут машынны двор і гараж. Уваходзіў у склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Бабровічы). За 7,5 км ад сучаснага пасёлка, у Налібоцкай пушчы з сак. 1943 г. да ліп. 1944 г. базіраваліся Баранавіцкія абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, а таксама штаб партыз. злучэння. На гэтым месцы ў 1948 г. былі адноўлены зямлянкі, а ў 1986 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. За 2 км на У ад пасёлка каля дарогі Першамайскі—Івянец пахаваны 2 партызаны Баранавіцкага злучэння, якія загінулі ў 1943 г. У 1994 г. 13 двароў, 25 жыхароў, інтэрнат, клуб, магазін, піянерскі лагер.

**ПЕТРАШУНЦЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 10 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 38 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. с. Петрушанцы ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. 12 двароў, 105 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 106, у 1908 г. 125 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 116 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Стайкаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 186 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Перамога», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.3.1952 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 116 жыхароў, у Сакаўшчынскім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 30 двароў, 64 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адасоблена на Пн.

**ПЕТРУСОЎШЧЫНА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Валожына, 43 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Баравікоўшчына і далей па шашы Івянец—Пяршаі. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. фальварак, 2 двары, 28 жыхароў, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 5 двароў, 39 жыхароў і аднайменны маёнтак, 25 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска Петрусоўшчызна, 14 двароў, 91 жыхар і фальварак. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 37 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пральніцкім, з 7.7.1962 г. ў Падневіцкім сельсаветах. У 1959 г. 25 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). У 1994 г. 6 двароў, 13 жыхароў. Планіровачна ўяўляе сабой адасобленыя сял. двары, аб'яднаныя прасёлачнай дарогай мерыдыянальнай арыентацыі.

**ПЕЧЫШЧА** — былы хутар у Івянецкім с/с, за 37 км на ПдУ ад Валожына,



39 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска.

Вядомы з 19 ст. У 1885 г. ўрочышча, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. вёска, 7 двароў, 49 жыхароў, у Волменскай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 15 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. Быў у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца).

**ПЕШКУРЫ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 8 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 74 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай (правы прыток р. Літанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палікшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 12 двароў, 145 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У ліст. 1905 г. вяскоўцы патрабавалі дазволу высечкі лесу памешчыка Тышкевіча ў маёнтку Пяршай з пагрозай самавольных дзеянняў у выпадку невыканання патрабаванняў. Але ўлады не дапусцілі самавольнай высечкі памешчыцкага лесу. У 1908 г. 12 двароў, 159 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 28 двароў, 153 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 31 двор, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоў-цаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.9.1950 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 9.2. 1956 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Быў ларок. У 1959 г. 171 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.1.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 32 двары, 54 жыхары. Planіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ПІЛЮЖЫНА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 43 км на ПдУ ад Валожына, 51 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 83 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ р. Сівічанка (левы прыток р. Волка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Івянец. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У канцы 19 ст. мясц. самародкам-музыкантам К.Лямбовічам быў зроблены арган. Нашчадкі — паслядоўнікі з роду Лямбовічаў у 1950—60-я г. стварылі вядомы на Валожыншчыне сямейны ансамбль. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. лясніцтва, 1 двор, 5 жыхароў, у Івянецкай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сівіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 40 двароў, 204 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. ў Каменскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. У 1959 г. в. Пілюшына, 140 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11. 1966 г. да вёскі далучана в. Дайноўскі Бор. Была ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца). У 1994 г. 13 двароў, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з адмежаваных сял. сядзіб, аб'яднаных прасёлачнымі дарогамі.





**ПІСЛЯКОЎШЧЫНА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 20 км на ПнЗ ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 14 двароў, 116 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 137, у 1908 г. 146 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 217 двароў, 137 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 30 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе калгаса імя В.У. Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). У 1959 г. 157 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 17 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПІЧОЎШЧЫНА** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ цячэ ручай, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Альшанка і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Жыхары вёскі працавалі ў паляводчай брыгадзе, цэнтр якой у в. Войштавічы. У 1959 г. 77 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 14 двароў, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛІСКОЎШЧЫНА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 37 км на ПдУ ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 48 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Раднікі і далей па шашы Івянец—Ракаў. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. засценак, уладанне шляхціца І.Сокала. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 1 двор, 5 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 41 жыхар, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 6 двароў, 34 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 9 двароў, 41 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 43 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з



6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 8 двароў, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі сял. дварамі.

**ПОДБАЛАЦЬ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 9 км на З ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 29 гаспадарак, 56 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 44 двары, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 196 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. Была ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1994 г. 40 двароў, 99 жыхароў. Планіровачна складаецца з шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПОРЫЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 9 км на У ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 7 двароў, 44 жыхары, і фальварак, 1 двор, 12 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 44, у 1908 г. 58 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 12 двароў, 75 жыхароў, у асадзе 2 двары, 13 жыхароў. З ліст 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 15.6.1949 г. арганізаваны калгас імя А.М.Васілеўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1959 г. 70 жыхароў. 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 22 двары, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на паўн. ускраіне і ў цэнтры завулкамі. Забудавана аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПОЦІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. прыпынку 708-ы км на лініі Маладзечна—Ліда, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Руднікі, Паслякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 34 гаспадаркі, 63 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 22 двары, 158 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 148, у 1908 г. 194 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 27 двароў, 111 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 41 двор, 227 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны кал-





гас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.7. 1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 200 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, пач. школа, чырвоны куток, магазін. У 1994 г. 43 двары, 82 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ПРАЛЬНІКІ** — вёска, цэнтр Пральніцкага с/с (з 27.3.1959 г. да 5.5.1962 г. і з пач. 2000-х г.), за 46 км на ПдУ ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Курдуны і далей па шашы Ракаў—Івянец. 79 гаспадарак, 200 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1770 г. вёска Пральнікі (яна ж Студзяневічы), 6 двароў, 33 жыхары мужчынскага полу, уладанне шляхціца А.Прысецкага. У канцы 18 ст. пабудавана мураваная капліца — старэйшая на Валожыншчыне. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 121 жыхар, гаспадарскі дом, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць канюшага І.Ратынскага. У 1870 г. вёска і маёнтак, у Івянецкай вол. Мінскага павета, 49 жыхароў. У 1879 г. ў маёнтку пачаў дзейнічаць вінакурны з-д (6 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. вёска (24 двары, 174 жыхары), маёнтак (44 жыхары, мураваная царква, млын, кузня, карчма), пасёлак (6 двароў, 29 жыхароў), хутар (1 двор, 5 жыхароў). У 2-й пал. 19 ст. ў цэнтры вёскі пабудавана з бутавага каменю капліца-пахавальня, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга класіцызму. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 40 двароў, 208 жыхароў, у фальварку 2 двары, 41 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 72 двары, 377 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1968 г. ў вёсцы пастаўлены помнік землякам з вёсак калгаса, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас «Верны шлях». З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 27.3.1959 г. да 5.5. 1962 г. вёска была цэнтрам сельсавета Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У 1959 г. 264 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім р-не Мінскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Падневіцкім с/с Валожынскага р-на. Былы калгас «Верны шлях» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым насенняводствам збожжавых, меў 2367 га

*Мікалаеўская царква ў в. Пральнікі.*





сельгасугоддзяў, у т. л. 1788 га ворнай зямлі, 12 трактароў, 17 збожжаўборачных камбайнаў, 24 грузавыя аўтамашыны і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 4 вытв. брыгад, 7 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 6 спецыялістаў з вышэйшай і 19 з сярэдняй спец. адукацыяй. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка з фондам 8,9 тыс. кніг, аддз. сувязі, АТС, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, комплексны-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 94 двары, 243 жыхары. Дзейнічаюць (2009) дзіцячы сад-яслі, школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аўтазаправачная станцыя, аддз. сувязі, прыходскі Дом міласэрнасці, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і аб'яднаных па цэнтры вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ПРАЦА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 116 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Гаст (правы прыток ручая Клімок, басейн Нёмана). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Масцішча, Вайганы, пас. Багданаў і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1897 г. фальварак, 1 двор, 8 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. засценак Праца (ён жа Рушыца), 8 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.3.1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 26.7.1957 г. — саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Жыхары вёскі працавалі ў паляводчай брыгадзе, цэнтр якой у в. Вайганы. У 1959 г. 40 жыхароў, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 6 двароў, 15 жыхароў. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ПРАЎЖАЛЫ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Валожына, 33 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Волма—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 43 гаспадаркі, 84 жыхары (2008).

У 1858 г. в. Праўжалы, 78 жыхароў мужчынскага полу, цэнтр т-ва Мінскага павета, уласнасць памешчыка Я.Бржазоўскага. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 267 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 52 двары, 333 жыхары, у Валмянскай вол. Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. 3.9.1949 г. арганізаваны калгас «Праўда», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка з фондам 6,5 тыс. кніг, магазін. У 1994 г. 69 двароў, 122 жыхары. Дзейнічае (2009) магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) шыротнай арыентацыі,

забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДНІКІ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 9 км на ПдУ ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Пяршайка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Даўбені і далей па шашы Мінск—Валожын. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. сяло ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 4 двары. Паводле перапісу 1897 г. выселак Янкоўскія Пруднікі, 7 двароў, 31 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. Рас. імперыі. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Пруднікі-Нізавыя 8 двароў, 58 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Пруднікі Гаровыя ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). У 1959 г. 32 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Баброўіцкім с/с. У 1994 г. 6 двароў, 13 жыхароў. Планіровачна сфарміравалася па абодва бакі ракі. Гал. прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДНІКІ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 19 км на З ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Валожынка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Капусціна. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. сяло ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 50 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 62, у 1908 г. 57 двароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 6 двароў, 48 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 11 двароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 10.11.1949 г. арганізаваны калгас імя В.У.Куйбышава, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1958 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). У 1959 г. 36 жыхароў, у Сакаўшчынскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 10 двароў, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫБАРНЫЯ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 13 км на ПдУ ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р Бярэзіна), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Валожын. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Засн. ў 1920-х г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Баркі Прыбарныя ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-



фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.5.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8. 1973 г. ў Бабровіцкім с/с. З 30.1.1976 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). У 1994 г. 7 двароў, 11 жыхароў. Пларіровачна складаецца з шэрага адасобленых сял. сядзіб, аб'яднаных прасёлачнымі дарогамі.

**ПУГАЧЫ** — вёска ў Залескім с/с, цэнтр былога СВК «Пугачы», за 60 км на У ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ ручай Мальшэўка, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 158 гаспадарак, 417 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1684 г. вёска, у Ашмянскім павеце. У 1791 г. ва ўладанні шляхціца С.Марцінкевіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 23 двары, 107 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. У 1870 г. 86 жыхароў мужчынскага полу, у Дуброўскім сельскім т-ве Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 45 двароў, 254 жыхары, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 52 двары, 255 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 64 двары, 320 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса ў брацкай магіле пахаваны 24 воіны, у т. л. салдаты, сяржанты і афіцэры 89-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях супраць акупантаў, а таксама 13 мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.5.1949 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які абслугоўвала Залеская МТС. З 20.1.1960 г. ў Залескім с/с Валожынскага, з 25.12.1962 г. Маладзечанскага, з 6.1.1965 г. зноў Валожынскага р-наў Мінскай вобл. Былы калгас «Бальшавік» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі і насенняводстве шматгадовых траў, меў 2116 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1605 га ворнай зямлі, 10 трактароў, 38 збожжаўборачных камбайнаў, 28 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 вытв. участкаў, 5 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 15 спецыялістаў з вышэйшай і 29 з сярэдняй спец. адукацыяй.



*В.А.Шніп.*

У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын, сярэдняя школа (18 настаўнікаў), дзіцячы сад, клуб, б-ка з фондам 8,9 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, АТС, аддз. ашчаднага банка, ветэрынарны ўчастак, сталовая, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У вёсцы былі водаправод, каналізацыя, цэнтр. кацельня, вяліся работы па газіфікацыі. У 1959 г. 367 жыхароў, у Пятроўшчынскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1963 г. ў Залескім с/с. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Гай. У 1994 г. 162 двары, 467 жыхароў, клуб. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтазаправачная станцыя, пажарная часць, магазін. Пларіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад цэнтра якой перпендыкулярна на ПдУ адыходзіць другая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага

тыпу. Грамадскія будынкі — у цэнтры вёскі. Гасп. сектар — на зах. ускраіне. Радзіма бел. паэта В.А.Шніпа (н. ў 1960 г.).

**ПУНІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 29 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. прыпынку 708-ы км на лініі Маладзечна—Ліда, 105 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ цячэ р. Ластаянка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Післякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

Засн. ў 1920-х г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. 39 жыхароў, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 3 двары, 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з адасобленых сял. двароў, аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**ПЫТАНЬ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Рум—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 6 двароў, 28 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв.—ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана, у 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 33 жыхары, у Белакорацкім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1976 г. ў Валожынскім с/с, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1994 г. 8 двароў, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯРОЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 17 км на У ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Пунька (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Янушкавічы, Пяршаі і далей па шашы Івянец—Валожын. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. фальварак, 2 двары, 12 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска, 11 жыхароў мужчынскага полу, у Савіцкім сельскім т-ве Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць графа В.Тышкевіча. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 25 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 6 двароў, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна.

**ПЯРШАІ** — вёска, цэнтр Пяршайскага с/с (з 12.10.1940 г.) і СВК «Пяршаі-2003», за 15 км на ПдУ ад Валожы-



на, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 63 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Пяршайка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 276 гаспадарак, 665 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1440 і 1447 гг. «подле Першаю у Холхоскай воласці» згадваюцца 3 чалавекі, уласнасць І.Судзімонтавіча, якіх ён запісаў к «Матце Божьей» (касцёлу ці царкве). У 1492 г. маёнтак, дзедзічная ўласнасць надворнага маршалка, эйшышкскага дзяржаўцы Я.Ганусевіча; згодна тастаменту быў запісаны Віленскай капітуле і віленскаму біскупу. У 1495 г. 2 двары Пяршаі і Пяршаі Малыя, даходы з якіх былі запісаны на семінарыю, якую заладжыў пры алтары Панны Марыі біскупскай капліцы Віленскага кафедральнага касцёла іх уладальнік біскуп В.Табар. У 1512, 1516 гг. сталовы маёнтак Віленскай капітулы, у 1539 г. маёнтак з новазаснаваным мястэчкам і 2 корчмамі. У 1545 г. ўпершыню згадваецца каталіцкі касцёл; пазней сюды была пераведзена парафія з Ласокіна. Землі з маёнтка ў 1554 г. яго ўладальнік П.Галышанскі падараваў сваім баярам. Пад час валочнай памеры 1559, 1566 гг. уладальнік Пяршай ксёндз Валяр'ян абменьваў землі ў сёлах свайго маёнтка з землямі навакольнай шляхты. Побач з біскупскімі Пяршаямі ў 1567 г. з'явіліся 2 дробнашляхецкія маёнткі ва ўладанні С.Шунка, у Ашмянскім павеце. Паводле паборавых рэестраў 1595, 1597 гг. у мястэчку Пяршаі 30 дамоў, ва ўладанні адміністратара Віленскага біскупства, кн. Б.Войны. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка з'яўлялася цэнтрам маёнтка, 36 двароў, 191 жыхар, драўляны касцёл, плябанія, драўляны гаспадарскі дом, карчма, 2 вадзяныя млыны, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. цэнтр сельскага т-ва Мінскага павета Мінскай губ., 111 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. У сак. 1864 г. 11 вяскоўцаў зрабілі самавольную высечку памешчыцкага лесу і нанеслі страт у суме 400 рублёў. Суд наклаў на ўдзельнікаў высечкі штраф у суме 500 рублёў, а 9 чалавек былі асуджаны на 1 год турмы. Пасля перагляду справы суд павысіў штраф да 1000 рублёў. У 1880 г. 26 двароў, 274 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. сяло, цэнтр воласці (59 двароў, 391 жыхар, царква, нар. вучылішча, фельчар, аптэка, хлебазапасны магазін, лаўка, піцейны дом), маёнтак (77 жыхароў), лясная вартоўня (1 двор, 4 жыхары). У вер. 1917 г. сяльчане сарвалі выбары ў валасное земства, арыштавалі каменданта падпалкоўніка Сакалова, яго памочніка, уладальніка маёнтка Лапніцы і арандатара маёнтка Пяршай. У 1919 г. ў вёсцы адбыўся сход, на якім было прынята рашэнне аб стварэнні ячэйкі камуністаў пры Пяршайскім валасным Савеце і рэзалюцыя аб падтрымцы ўлады Саветаў. Сход накіраваў прывітанне У.І.Леніну. У памяць аб гэтай падзеі ў цэнтры вёскі ў 1981 г. пастаўлена стэла. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў сяле 59 двароў, 361 жыхар, у фальварку 8 двароў, 114 жыхароў. У 1933 г. пабудаваны касцёл святога Юрыя. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., у сяле і маёнтку 83 двары, 724 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На паўд. ускраіне вёскі, у парку, на ўшанаванне памяці 56 землякоў, воінаў Сав. арміі і партызан, а таксама 225 мірных жыхароў, якія загінулі ў час вайны, у 1965 г. пастаўлены 3 стэлы. На будынку школы ўстаноўлена ў 1983 г. мемарыяльная дошка ў гонар піянеркі Я.Трацэўскай, якую загубілі гітлераўцы. На франтах і ў партыз. атрадах ваявалі 78 вяскоўцаў, з якіх 17 загінулі. З 20.9.1944 г. ў Мала-





дзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1955 г. калгас набыў перасоўную электрастанцыю. Былы калгас імя К.Маркса спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 4780 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 2882 га ворнай зямлі, 53 трактары, 15 збожжаўборачных камбайнаў, 41 грузавую аўтамашыну і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 3 вытв. участкаў і 11 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 11 спецыялістаў з вышэйшай і 22 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, машынны двор, піларама, млын, ветэрынарны ўчастак, лясніцтва, сярэдняя школа (27 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка з фондам 11,3 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі, бальніца, аптэка, 7 магазінаў, аддз. сувязі, АТС, аддз. ашчаднага банка, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1959 г. 681 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 271 двор, 703 жыхары. У 2006 г. пабудаваны аграгарадок, які мае 5466 га зямлі. У складзе СВК «Пяршаі-2003» 2 вытв. участкі, 10 ферм, свінаводчы комплекс, забойны і каўбасны цэхі, кафэ. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Закрыты ў 1947 г. касцёл святога Юрыя ў 1995 г. рэстаўрыраваны і вернуты вернікам. Планіроўка набліжана да Т-падобнай. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Да яе на Пн далучаецца вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На скрыжаванні вуліц — грамадскі цэнтр, у забудову якога ўключаны помнік архітэктуры пач. 20 ст. — касцёл. Гасп. сектар — на ўсх. і паўд.-зах. ускраінах.

У склад Пяршайскага с/с уваходзяць 29 населеных пунктаў (2010).



*Касцёл святога Юрыя і Маці Божай у в. Пяршаі.*

**ПЯРЭЖАРЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 47 км на ПдУ ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам, на У цячэ р. Ратынца (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ракаў і далей па шашы Мінск—Валожын. 45 гаспадарак, 97 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1538 г. маёнтак ва ўладанні Скіндэраў, да 1546 г. сумесная ўласнасць М.Юндзіла і Б.Войдзенеўны, потым адданы ў заставу гаспадарскаму баярыну Віленскага павета Б.Булатаву. У 1567 г. ў Менскім павеце, меў некалькі ўласнікаў: В.Свідэрскага, Г.Шэметаўну, Ш.Бомблевіча. У 1582 г. ў маёмасці Я.Скіндэра, М.Кучкуна, знаходзіўся ў закладным валоданні братоў Завішаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 26 двароў, 176 жыхароў і гаспадарскі двор, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старосціча І.Ра-



тынскага. У вайну 1812 г. каля вёскі быў бой, у якім загінуў французскі генерал. У памяць аб гэтай падзеі пастаўлена арка, якая захавалася да нашых дзён. У 1858 г. 78 жыхароў мужчынскага полу, цэнтр сельскага т-ва, уласнасць памешчыка Ц.Ратынскага. У 1880 г. вёска і сядзіба, дзе знаходзіліся царква і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 35 двароў, 219 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, часоўня, у маёнтку 21 жыхар, вадзяны млын. У 1908 г. ў вёсцы 39 двароў, 245 жыхароў, у маёнтку 12 жыхароў. У 1-ю сусв. вайну жыхар вёскі М.А.Малыш быў узнагароджаны двума Георгіеўскімі крыжамі 3 і 4 ступені. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 51 двор, 270 жыхароў, у фальварку 38 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 354 жыхары. З 1959 г. ў складзе саўгаса «Радашковіцкі», а з 1963 г. — саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, кармацэх, магазін. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 75 двароў, 136 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне. Вёска — радзіма пісьменніка К.В.Стахоўскага (1877?—1941?).

**ПЯТРОВА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 34 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па дарозе Івянец—Волма, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска, 6 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыцы І.Гацінскай. У 1890 г. маёнтак Таціцкага Івянецкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 18, у 1908 г. 17 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 3 двары, 25 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. маёнтак у Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 1 двор, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. У 1959 г. 42 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). У 1994 г. 10 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯТРОВІЧЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 40 км на ПдУ ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ ручай, злучаны з р. Ісвач (левы прыток р. Бярэзіна), мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Харужы, Манькаўшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1782 г. вёска, 11 двароў, 74 жыхары, у Ашмянскім павеце, уласнасць памешчыка. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 50 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць асэсара К.Ласкі. Побач быў аднайменны засценак, 3 двары, 24 жыхары, уладанне С.Іванкевіча. У 1858 г. 33 жыха-

ры, у Клявецкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыкаў А. і І. Ласкіх. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 76 жыхароў, у 1908 г. 18 двароў, 65 жыхароў. 10.7.1906 г. вяскоўцы разам з сялянамі суседніх вёсак звярнуліся з хадайніцтвам у Дзярж. думу з просьбай зменшыць падаткі і даць зямлю. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 121 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 28.3.1950 г. арганізаваны калгас «8 Сакавіка», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 126 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Астравец. У 1994 г. 24 двары, 43 жыхары. Планіровачна складаецца з гал. прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на З адыходзяць 2 вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯТРЫЛАЎКА** — былая вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 37 км на У ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 38 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. маёнтак, 14 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 14 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 4 двары, 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. жыхары вёскі ўступілі ў калгас. У 1954 г. ў складзе калгаса «Чырвоная гвардыя» (цэнтр — в. Дварэц).

**РАГАЛЁЎШЧЫНА** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Валожына, 1 км ад чыг. ст. Мелькаўшчызна на лініі Маладзечна—Ліда, 104 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 19 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

У 1897 г. 19 двароў, 173 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 168, у 1908 г. 199 жыхароў. У 1921— 39 гг. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 29 двароў, 160 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 41 двор, 241 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 29.12.1950 г. арганізаваны калгас «Новае сяло», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1957 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 198 жыхароў, у Вішнеўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 34 двары, 72 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай уздоўж чыгункі, з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**РАДЗЮКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. прыпынку 708-ы км на лініі Маладзечна—Ліда, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падбярэзь, Післякоўшчына і



далей па шашы Мінск—Вільнюс. 16 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1801 г. в. Родкі, 13 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 138 жыхароў, часоўня, хлебазапасны магазін, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 136, у 1908 г. 119 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 26 двароў, 106 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 147 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчалася вытв. брыгада. З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 25 двароў, 53 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАДНІКІ** (да 1969 г. в. Казарэзы) — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 цэнтр былога саўгаса «Радзіма»), за 37 км на ПдУ ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Маладзечна—Мінск, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. 104 гаспадаркі, 268 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Казарозы, 15 двароў, 118 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., у валоданні шляхціца К.Плявакі. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 1954 г. цэнтр сельсавета ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл., 64 двары, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 15 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас, ператвораны ў 1963 г. ў саўгас. Былы саўгас «Радзіма» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 4120 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 2975 га ворнай зямлі, 51 трактар, 23 збожжаўборачныя камбайны, 39 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 7 вытв. брыгад, 11 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 9 спецыялістаў з вышэйшай і 33 з сярэдняй спец. адукацыяй. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім , з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 296 жыхароў, на хутары Казарэзы Падневіцкага с/с 13 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах.

У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, ветэрынарная аптэка, клуб, б-ка, 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, АТС, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 127 двароў, 346 жыхароў. Дзейнічаюць аддз. сувязі, магазін (2009).

**РАКАЎ** — вёска, цэнтр Ракаўскага с/с (з 16.7.1954 г.), за 40 км на У ад Валожына, 14 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 35 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўн. ускраіне абмежавана аб'язной дарогай Мінск—Гродна, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 746 гаспадарак, 2155 жыхароў (2008).

За 0,5 км на Пд ад вёскі, у пойме мыса берага р. Іслач захавалася гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Ракаў вядомы ў ВКЛ з 1-й чвэрці 14 ст. У 1465 г. вял.





літ. кн. Казімір Ягелончык падараваў яго віленскаму ваяводзе, канцлеру ВКЛ М.Кежгайлавічу. У 1555 г. Ракаў пераходзіць роду Завішаў, у 1562 г. ва ўласнасці Вішнявецкіх, цэнтр воласці, у якой у 1563 г. была сабрана серабшчына ад $229^1/_2$ сахі. У 1-й пал. 17 ст. ўладальнікам гэтых мясцін стаў ваявода віцебскі Сімяон Сангушка, які абвясціў ракаўскія землі графствам і пачаў сябе называць графам Ракаўскім. У 1686 г. тут быў заснаваны дамініканскі кляштар. Ракаў стаў горадам. З 1701 г. кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II даў гораду грамату аб праве на правядзенне 2 кірмашоў у год. У 1702 г. быў заснаваны базыльянскі кляштар, у ім была б-ка, архіў, шпіталь (у 1839 г. кляштар быў закрыты, з 1842 г. будынак перададзены ў дзярж. казну). У 1779 г. горад, 297 двароў, 24 крамы, 91 рамеснік. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1793 г. ў Ракаве на цэнтр. плошчы пабудавана мураваная царква, помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. У 1794 г. мястэчка Ракаў Кацярына II падарыла графу ген.-аншэфу М.Салтыкову, адняўшы яго ў падскарбія літ. М.Агінскага. У 1800 г. мястэчка, 276 двароў, 932 жыхары, 1 базыльянскі мураваны касцёл з вучылішчам для малалетніх і 1 дамініканскі, драўляная царква, гаспадарскі мураваны дом са службамі «изрядной архитектуры», 20 мураваных крам, пабудаваных квадратам і ратуша, яўр. школа, 2 вадзяныя млыны, уласнасць казны. У 1804 г. граф М.Салтыкоў прадаў Ракаў В.Здзяхоўскаму. У вайну 1812 г. праз Ракаў адступала армія П.І.Баграціёна. У 1843 г. тут была наладжана вытв-сць с.-г. машын і прылад: малацілак, веялак, саламарэзак, плугоў і інш. Працавалі піваварны, ганчарны і цагельны з-ды, 2 млыны. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), а ў 1902 г. дзейнічала мужчынская 2-класная і жаночая 1-класная царк.-прыходскія школы. У час паўстання 1863—64 гг. у Ракаўскай вол. кіраўніком паўстанцаў быў Свентаржэцкі, які вясной 1863 г. быў назначаны рэв. начальнікам Ракаўскай акругі. У 1880 г. цэнтр воласці, 1006 жыхароў, 2 царквы, касцёл, сінагога, 3 малітоўныя школы, багадзельня, школа (нар. вучылішча), піваварны, землеапрацоўчых прылад, ганчарны і цагельны з-ды, 2 вадзяныя млыны, 29 крам. У 1887 г. пабудавана пошта, працавалі вінакурны з-д, пільня і 2 вадзяныя млыны, якія належалі Здзяхоўскім. Капліца, якая знаходзіцца на вясковых могілках, пабудаваная ў 2-й пал. 19 ст. і касцёл, што на ўскраіне вёскі, пабудаваны ў 1906 г. —



*Гарадзішча каля в. Ракаў.*



*Каталіцкая капліца св. Ганны на могілках у в. Ракаў.*





1



2

*Ракаўскі касцёл Маці Божай: 1 — агульны выгляд; 2 — інтэр'ер.*

помнік архітэктуры неаготыкі. Жыхары Ракава актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыі 1905—07 гг., баставалі ў крас. 1906 г. і 1 Мая 1907 г. У 1908 г. тут жыло 4950 чал. У 1918 г. замест царк.-прыходскай школы было адкрыта вышэйшае пач. вучылішча з 4-гадовым тэрмінам навучання. Паводле Рыжскага мірнага дагавора з 1921 г. ў складзе Польшчы. У 1921 г. 552 двары, 3323 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. гар. пасёлак. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У 1940 г. пачала працаваць 7-гадовая школа з навучаннем на бел. мове. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі пахавана 950 сав. грамадзян, якіх 4.2.1942 г. спалілі жывымі. Вызвалена войскамі 31-й арміі (камандуючы ген.-палкоўнік В.В.Глаголеў). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба, у брацкай магіле пахаваны 30 воінаў і 15 партызан, якія загінулі пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў. На франтах загінулі 19 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1948 г. працуе сярэдняя школа. З 16.7.1954 г. Ракаў — вёска. У 1949 г.

*Праабражэнская царква ў в. Ракаў.*










1 2 3

*Ракаўская кераміка: 1 — посуд; 2, 3 — цацкі.*



*В.Ф.Бруй.*

арганізаваны калгас імя В.У.Куйбышава, які з 1959 г. ўвайшоў у склад саўгаса «Радашковіцкі». У 1959 г. 1627 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім раёне Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса (пазней калгаса) «Ракаўскі». У 1994 г. 805 двароў, 2156 жыхароў. У 2007 г. створаны аграгарадок, які мае 5108 га зямлі. У 2002 г. замест калгаса створаны СВК «Ракаў». У 2004 г. ў выніку яго далучэння да Мінскага вытв. аб'яднання вылічальнай тэхнікі (МВАВТ) утворана ТАА «МВАВТ Ракаў-агра». У гаспадарцы 4 малочна-таварныя фермы, комплекс па вырошчванні жывёлы, 2 вытв. ўчасткі, рамонтныя майстэрні, спіртзавод. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, участковая бальніца, аптэка, спартыўна-аздараўленчы цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, пажарная часць, універмаг, кафэ, сталовая, магазіны, рынак. Дзейнічае замежнае прадпрыемства «Белвальд». Непадалёку ад вёскі знаходзяцца Дом творчасці Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзіцячы санаторый «Світанак», дом адпачынку Акадэміі навук Беларусі «Ісллач», санаторый «Ляснос» і іншыя аздараўленчыя турбазы і дзіцячыя лагеры. Планіроўка нерэгулярная. У яе аснове гал. плаўна выгнутая вуліца Мінская (адрэзак шашы) шыротнай арыентацыі, паралельна да якой праходзіць вуліца ў паўн. частцы забудовы. Ад грамадскага цэнтра радыяльна разыходзяцца другарадныя вуліцы, забудаваныя двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размеркаваны ўздоўж вуліцы Мінскай. Гасп. сектар — на зах. ускра-

*Помнік прыроды рэспубліканскага значэння — ледніковы кангламерат і пясчанік каля в. Ракаў.*



*Капліца (1993) над крыніцай у в. Ракаў.*





іне. У склад Ракаўскага с/с уваходзіць 41 населены пункт (2010).

На каталіцкіх могілках пахаваны кампазітар М.Грушавіцкі (1828—1904). Радзіма яўр. і бел. літаратуразнаўца У.Г.Фінкеля (1896—1957), бел. крытыка і літаратуразнаўца, перакладчыка В.П.Рагойшы (н. ў 1942), краязнаўца В.П.Налецкага, засл. артыста Рэспублікі Беларусь, опернага спевака В.Ф. Бруя (1912—85), паэта Я.Гарадніцкага (н. ў 1951), польскага пісьменніка К.Здзяхоўскага (1878—1942) і яго брата літаратуразнаўца і публіцыста М.Здзяхоўскага (1861—1938), польскага літаратуразнаўца канца 19 — пач. 20 ст. Мар'яна. Традыцыяй у мясц. сярэдняй школе стала правядзенне свята «Ракаўскі кірмаш».

**РАМАНАЎШЧЫНА** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 25 км на У ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 48 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ ручай, злучаны з р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Доры і далей па шашы Мінск—Валожын. 29 гаспадарак, 56 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 11 двароў, 74 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 40 жыхароў мужчынскага полу, у Дорскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 131 жыхар, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У сувязі з малазямеллем і беззямеллем вяскоўцы 24.4.1906 г. падалі прашэнне ў Дзярж. думу аб надзяленні зямлёй. Але гэта просьба засталася без адказу. У 1921—39 гг. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 21 двор, 208 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 44 двары, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.5. 1950 г. арганізаваны калгас «Дружба народа», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 28.2.1952 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся машынны двор, млын. У 1959 г. 220 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 41 двор, 78 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 частак, размежаваных ручаём і меліярацыйным каналам. Паўн. частка складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой перпендыкулярна на ПдУ адыходзяць 5 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц. Паўд.-зах. частка складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Паўд.-ўсх. частка складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАСОЛІШКІ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 19 км на З ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак, 2 двары, 14 жыхароў, у Валожынскай вол.



*В.П.Налецкі.*



*В.П.Рагойша.*



*У.Г.Фінкель.*



*Ракаўская кераміка. Посуд.*

Ашмянскага павета. У 1908 г. 16 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 2 двары, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Румскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 4 двары, 29 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1959 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1959 г. 13 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1976 г. ў Валожынскім с/с. У 1994 г. 3 двары, 5 жыхароў. Драўляныя сял. сядзібы размешчаны каля прасёлачнай дарогі.

**РАТЫНЦЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 50 км на ПдУ ад Валожына, 33 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 48 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Ратынца (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сідараўцы, Пярэжары і далей па шашы Ракаў—Волма. 39 гаспадарак, 72 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 16 двароў, 116 жыхароў, гаспадарскі двор, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць канюшага І.Ратынскага. У 1858 г. 67 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Буржынскіх. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 193 жыхары, у маёнтку 42 жыхары, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ў вёсцы 230, у маёнтку 16 жыхароў. У 1-ю сусв. вайну жыхар вёскі салдат К.І.Шкель быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжом 4 ступені. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 40 двароў, 246 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 18 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 28.3.1949 г. арганізаваны калгас «Беларусь», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 318 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Былі пач. школа і магазін. У 1994 г. 56 двароў, 112 жыхароў. Дзейнічае (2009) магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў зах. баку. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**РАЧАНЯТА** — вёска ва Узбалацкім с/с, за 12 км на Пн ад Валожына, 13 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 84 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Дубіна (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ганчыцы, Маршалкі, Гінтаўшчына, Сугвазды і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 34 гаспадаркі, 51 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. с. Рачэнае, 11 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 149 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 176, у 1908 г. 219 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 41 двор, 223 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 45 двароў, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1949 г. арганізаваны калгас імя Я.Купалы, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 267 жыхароў, ва Узбалацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара»



(цэнтр — в. Дубіна Баярская). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, канюшня, збожжасховішча, ток. Была грамадская лазня. У 1994 г. 59 двароў, 113 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**РОДЗЕЎШЧЫНА** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 7 км на ПнУ ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць побач з вёскай. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 11 двароў, 73 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 73, у 1908 г. 91 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 94 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Бурмацкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 18 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 85 жыхароў, у Сугваздаўскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 16 двароў, 32 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**РОДЗЕЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Люцінка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Явідаўшчына і далей па шашы Івянец—Пяршаі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 22 жыхары, уладанне старасценкі Д.Салагубаўны. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 47 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. фальварак, 2 двары, 39 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 59 жыхароў, у Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1994 г. 6 двароў, 11 жыхароў. Драўляныя сялянскія сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**РОДЗЬКІ** — былая вёска ў Пяршайскім с/с, за 16 км на У ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па шашы Івянец—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад былой вёскі.

Вядома з 19 ст. У 1858 г. вёска, 6 жыхароў мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 5 дамоў, 40 жыхароў, у лясной вартоўні 1 двор, 10 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 8 двароў, 39 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 9 двароў, 43 жыхары, у леснічоўцы 1 двор, 5 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 8 двароў, 29 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1958 г. ў складзе калгаса імя

К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Планіровачна складалася з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РОЎКАВІЧЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 18 км на ПнЗ ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Куцяняты і далей па шашы Валожын—Гародзькі. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска. 24 двары, 169 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 178, у 1908 г. 190 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 30 двароў, 137 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 35 двароў, 201 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. З 1956 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ларок. У 1959 г. 143 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 22 двары, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драў- лянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана ў паўн.-ўсх. баку. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**РУБЕЖ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 33 км на ПдУ ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Стоўбцы—Івянец, якая праходзіць побач з вёскай. 1 гаспадарка, 4 жыхары (2008).

У 1885 г. хутар і карчма, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. 1 двор, 6 жыхароў, у 1908 г. 2 двары, 10 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. асада, 2 двары, 11 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. фальварак у Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 5 двароў, 24 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1951 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 3 двары, 10 жыхароў. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Раднікі). Планіровачна сфарміравалася ўздоўж паўд.-зах. боку шашы. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДЗЕЎШЧЫНА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 26 км на Пн ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Высокае, Сцюдзянец, Старынкі і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1797 г. засценак, 2 двары. У 1858 г. вёска, 10 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 124 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 152, у 1908 г. 144 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 34 двары, 191 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 33



двары, 259 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.11.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 1957 г. ў складзе калгаса «XXV з'езд КПСС» (цэнтр — в. Гародзькі). У 1959 г. 203 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 23 двары, 43 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУДНІКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 24 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. прыпынку 708-ы км на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в Післякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1801 г. сяльцо Руда, 7 жыхароў, у Вілейскім павеце, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 15 двароў, 109 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 89, у 1908 г. 92 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 61 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.М.Васілеўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 108 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. З 22.5. 1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 18 двароў, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**РУДНЯ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 24 км на ПдУ ад Валожына, 47 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 73 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Івянец—Валожын. З гаспадаркі, З жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 4 двары, 27 жыхароў, млын, сукнавальня, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць К.Плявакі. У 1858 г. 21 жыхар мужчынскага полу, у Савіцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 12 двароў, 90 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У канцы 19 — пач. 20 ст. за 3 км ад вёскі, на беразе р. Іслач быў пабудаваны з цэглы палац (захаваліся рэшткі), які з'яўляецца помнікам архітэктуры стылізатарскага кірунку. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 67 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сівіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У вер. 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Сівіца). Быў магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., у Каменскім с/с, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 75 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў

Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынкім р-нах. У 1994 г. 9 двароў, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 адасобленых частак. Паўн. складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі з аднабаковай забудовай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Паўн. арганізавана ўздоўж правага берага ракі, Зарэчная (усх.) частка — адасобленыя сядзібы.

**РУМ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ ручай (прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Капусціна—Рум—Валожын, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1795 г. вёска, млын, у Вілейскім павеце Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 251 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1898 г. адкрыта школа граматы. У 1904 г. 262, у 1908 г. 273 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 52 двары, 320 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 64 двары, 458 жыхароў. У 1940 г. 66 двароў, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. На фронце загінулі 7 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Квітнеючае жыццё», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1954 г. сельсавет перайменаваны ў Белакорацкі. У 1959 г. 370 жыхароў. З 20.12.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1976 г. ў Валожынскім с/с у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, лясніцтва, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка з фондам 6,8 тыс. кніг, магазін. У 1994 г. 80 двароў, 140 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.



*Сядзіба Тышкевічаў «Вялае» каля в. Рудня.*

**РУСАКІ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 45 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 38 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бакачы, Барок, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 35 жыхароў, млын, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць падстолія Свентаржэцкага. У 1858 г. 18 жыхароў мужчынскага полу, у Малакрывіцкім сельскім т-ве Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 80 жыхароў, у Ракаўскай вобл. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 86 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім



с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. Была ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1959 г. 110 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 21 двор, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**РЫМАВІЧЫ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 38 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Малазечна—Ліда, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ цячэ ручай, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Селішчы і далей па дарозе Баруны—Багданава і шашы Валожын—Ашмяны. 36 гаспадарак, 65 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 17 ст. ў складзе ВКЛ. У 1602 г. вёска ў маёнтку Багданава, уласнасць каралеўскага канюшага, ашмянскага старасты П.Сапегі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 47 двароў, 315 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. вёскі Рымавічы 1, Рымавічы 2, Рымавічы 3 і засценак Рымавічы. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 53 двары, 236 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баравіцкай вобл., 55 двароў, 356 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1947 г. арганізаваны калгас імя А.А.Андрэева, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Быў магазін. У 1959 г. 290 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 47 двароў, 103 жыхары. Дзейнічае магазін (2009 г.). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адасоблена на ўсх. баку і планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**РЭЎКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. прыпынку 708-ы км на лініі Маладзечна—Ліда, 102 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ цячэ р. Ластаянка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ластаянцы, Падбярэзь, Пàслякоўшчына і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 17 двароў, 99 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 94 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 63 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 21 двор, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 105 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 15 двароў, 30 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з

ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САВІЧЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 21 км на З ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і У цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кібы, Адамова і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1643 г. сяло, 9 двароў, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1793 г. ў сяле 17 двароў, 124 жыхары, у аднайменным засценку, што быў побач, 15 жыхароў. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 162 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 180 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 27 двароў, 141 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Адамаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 38 двароў, 199 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 3.9.1950 г. арганізаваны калгас імя А.М. Васілеўскага, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. У 1959 г. 153 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 40 двароў, 92 жыхары.

**САВЯЦЕВІЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 7 км на З ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць побач з вёскай. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. в. Свяцічы, 7 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 88 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 99, у 1908 г. 97 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 90 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 16 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.4.1949 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.6. 1959 г. ў складзе калгаса У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1959 г. 107 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не. У 1994 г. 33 двары, 81 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САЗОНАЎШЧЫНА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 40 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на паўд.-ўсх. ускраіне цячэ ручай, злучаны з р. Каскруўка (левы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бакшты, Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1763 г. засценак, 2 двары, 9 жыхароў, уладанне К.Ражэвіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 77 жыхароў, у Віленскім павеце, уладанне Горыча. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 10 двароў, 79 жыхароў, сядзіба, 2 двары, 12 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 137 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 95 жыхароў. З ліст.



1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Была пач. школа. У 1959 г. 98 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 10 двароў, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар адасоблены ў паўд.-ўсх. баку.

**САКАВА ГАРА** — былая вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 20 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 94 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы Гародзькі—Валожын.

Вядома з пач. 20 ст. У 1904 г. засценак, 23 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 30 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 6 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1944 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 1952 г. ў складзе калгаса «Краіна Саветаў». Была ў калгасе імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Гародзькі). У 1959 г. 27 жыхароў. У 1994 г. 2 двары, 7 жыхароў. Планіровачна складалася з вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, драўлянымі сял. дварамі.

**САКАВІШЧА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 6 км на Пн ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нарэйшы і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак, 3 двары, 23 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 24, у 1908 г. 28 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5 двароў, 31 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 8 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоны маяк». У 1959 г. 56 жыхароў, у Брыльскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). З 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 11 двароў, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САКАЎШЧЫНА** — вёска, цэнтр Сакаўшчынскага с/с (з 12.10.1940 г.) і філіяла «Сакаўшчына» с.-г. дзярж. УП «Валожынскае прадпрыемства меліярацыйных сістэм», за 12 км на З ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 87 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з Бярэзінскім вадасховішчам, на ПнУ — з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 222 гаспадаркі, 509 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1522 г. с. Беразыня, шляхецкая ўласнасць. Да 1539 г. двор, уласнасць Я.Скіндэра. За 290 коп грошаў ён заклаў частку двара віленскаму ваяводзе і канцлеру ВКЛ А.Гаштольду да яго маёнтка Ва-

ложын. У 1550—60 гг. маёнтак у частковым валоданні нашчадкаў Скіндэра, Гаштольдаў, В.Рудкоўскага (з 1550 г.). У 1561 г. частка маёнтка знаходзілася ў закладным валоданні караля Жыгімонта Аўгуста да двара Валожын. У 1567 г. ў Ашмянскім павеце, 2 дробнашляхецкія маёнткі ва ўласнасці ашмянскіх зямянінаў Б.Людвіка і Тумашэвіча знаходзіліся побач з каралеўскай Сакаўшчынай, уладальнікам якой стаў М.Радзівіл. У 1614 г. сяло, у складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета. У 1785 г. 53 двары. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1878 г. на могілках пабудавана з драўляных брусоў царква, якая зараз з'яўляецца помнікам нар. драўлянага дойлідства. Паводле перапісу 1897 г. в. Сакаўшчызна, 123 двары, 711 жыхароў, капліца і на могілках царква, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 726, у 1908 г. 772 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 128 двароў, 684 жыхары. У 1920-я г. дзейнічала школа. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 157 двароў, 983 жыхары, у другой аднайменнай вёсцы 1 двор, 54 жыхары. У 1940 г. ў маёнтку Сакаўшчына арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 43 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў вайну, пастаўлены ў 1967 г. абеліск і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых. У 1944 г. адкрыта пач. школа. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 2.11.1949 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1955 г. пабудавана Сакаўшчынская міжкалгасная гідраэлектрастанцыя на р. Бярэзіна. У 1959 г. ў в. Сакаўшчына 1 — 562 жыхары, у в. Сакаўшчына 2 — 270 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. Былы калгас «1 Мая» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі з развітым гароднінаводствам, меў 4421 га сельгасугоддзяў, у т.л. 2190 га ворнай зямлі, 17 трактароў, 53 збожжаўборачныя камбайны, 30 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 вытв. участкаў, 5 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 23 спецыялісты з вышэйшай і 42 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, 2 машынныя двары, піларама, млын, ветэрынарная аптэка, сярэдняя школа (19 настаўнікаў), дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка з фондам 9,2 тыс. кніг, АТС, аддз. ашчаднага банка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 спарт. пляцоўкі, фельч.-акушэрскі пункт. У 1994 г. 263 двары, 646 жыхароў. У 2008 г. пабудаваны аграгарадок. На тэр. філіяла дзейнічаюць 4 фермы, комплекс па вырошчванні жывёлы. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка», пажарная часць, сталовая, 2 магазіны. Закрытая ў 1959 г. Ільінская царква вернута вернікам у 1989 г. Планіровачна складаец-



*Ільінская царква ў в. Сакаўшчына.*



ца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі (адрэзак шашы) і завулкаў мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — на ўсх. ускраіне. Тут створаны раён сучаснай катэджнай забудовы. Радзіма бел. літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, акадэміка Нац. акадэміі навук Беларусі, засл. дзеяча навук Беларусі В.А.Каваленкі (1929—2001). У склад Сакаўшчынскага с/с уваходзяць 26 населеных пунктаў (2010).

**САЛАНАЯ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 8 км на У ад Валожына, 24 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ ручай (правы прыток р. Літанка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 38 гаспадарак, 83 жыхары (2008).

Па крыніцах вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1547 г. ва ўласнасці М.Маствіловіча, потым яго нашчадкаў. У 1556 г. двор у маёмасці Г.Кандратаўны, у 1582 г. маёнткам валодаў В.Маствіла. У 1785 г. с. Салонна, 13 двароў, у графстве Валожын Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 195 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1898 г. адкрыта школа граматы. У 1904 г. 200, у 1908 г. 239 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 38 двароў, 247 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 44 двары, 282 жыхары. З 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены помнік 68 землякам, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Былы калгас імя А.В.Суворава, цэнтр якога да пач. 2000-х г. знаходзіўся ў вёсцы, спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 3466 га сельгасугоддзяў, у т.л. 2007 га ворнай зямлі, 40 трактароў, 12 збожжаўборачных камбайнаў, 26 грузавых аўтамашын і іншую тэхніку. Гаспадарка складалася з 2 вытв. участкаў, 10 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 12 спецыялістаў з вышэйшай і 27 з сярэдняй спец. адукацыяй. У 1959 г. 270 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 16.8. 1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, млын, клуб, б-ка з фондам 9,5 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, спарт. пляцоўка. У 1994 г. 64 двары, 67 жыхароў. Планіроўка радыяльная, складаецца з 3 прамалінейных вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На сутыку вуліц — грамадскі цэнтр. Гасп. сектар — на паўд. і зах. ускраінах.



*В.А.Каваленка.*

**САЛАЎІ** — вёска ў Залескім с/с, за 46 км на У ад Валожына, 14 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 48 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска ва ўладанні памешчыцы К.Свентаржэцкай, фальварак памешчыка І.Кашэўскага. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 3 двары, 24 жыхары, у фальварку 11 жыхароў, у засценку 20 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага па-

вета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 52 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1952 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). З 1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. 80 жыхароў, у Пятроўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1963 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У 1994 г. 12 двароў, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САНТОКІ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 37 км на ПнЗ ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 107 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Багданава і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 3 двары, 24 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 15 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5 двароў, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 6 двароў, 28 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 26.7. 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Жыхары вёскі працавалі ў паляводчай брыгадзе з цэнтрам у в. Селішчы. У 1959 г. хутар, 31 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 5 двароў, 15 жыхароў. Планіровачна сфарміравалася ўздоўж прасёлачнай дарогі шыротнай арыентацыі. Забудавана аднабакова, драўлянымі сял. дварамі.

**САРОКІ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 39 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ ручай, злучаны з р. Каскруўка (левы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дварэц, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1791 г. вёска, 10 двароў, фальварак, царква, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 49 двароў, уладанне О.Ганятоўскага і І.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 35 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 35, у 1908 г. 45 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 16 двароў, 104 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.6. 1949 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса, які абслугоўвала Залеская МТС. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 127 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 17 двароў, 39 жыхароў. Планіроўка Т-падобная ў 2 кароткія прамалінейныя вуліцы шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. баку.

**САСНОЎЦЫ** — вёска ў Залескім с/с (з 12.10.1940 г.), за 56 км на У ад Ва-



ложына, 14 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Салаўі, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 22 двары, 143 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска і фальварак, уласнасць памешчыцы С.Дыбоўскай. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 14 двароў, у фальварку 13 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 16 двароў, 111 жыхароў, у фальварку 8 жыхароў, на хутары 8 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 12.3.1950 г. арганізаваны калгас імя Я.Коласа, які абслугоўвала Залеская МТС. З 1.3.1952 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы. З 1954 г. ў Гіравіцкім с/с, у 1959 г. 164 жыхары, у Пятроўшчынскім с/с Валожынскага р-на. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1963 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У 1994 г. 28 двароў, 49 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**СЕДЛІШЧА** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 14 км на ПнУ ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 11 двароў, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 64 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 11 двароў, 21 жыхар.

**СЕЛІШЧА** — былая вёска ў Пральніцкім с/с, за 39 км на ПдУ ад Валожына, 40 км ад чыг. ст. Негарэлае на лініі Мінск—Баранавічы, 36 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Міхалова, Антонаўшчына і далей па шашы Ракаў—Івянец.

Вядома з 18 ст. У 1801 г. вёска, 6 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1858 г. 8 жыхароў, у Ігнатаўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка У.Крупскага. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 42 жыхары, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 52 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 71 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). Планіровачна складалася з кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕЛІШЧЫ** — вёска ў Багданаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 37 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 198 км ад Мін-

ска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па дарозе Баруны—Багданава і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 29 гаспадарак, 75 жыхароў (2008).

Паводле перапісу 1897 г. вёска, 21 двор, 144 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. ў в. Селішча 1 — 110 жыхароў, у в. Селішча 2 — 51 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 30 двароў, 150 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 43 двары, 218 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1947 г. арганізаваны калгас імя А.А.Андрэева, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 122 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Іўеўскім, з 12.2. 1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 33 двары, 79 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Забудова ў цэнтры падзелена ручаём, злучаным з р. Альшанка (прыток р. Бярэзіна). Гасп. сектар — на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. ускраінах.

**СЕМЕРНІКІ** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 16 км на У ад Валожына, 84 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 54 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з канца 16 ст. як сяло ў маёнтку Пяршаі. У 1595 г. ўласнасць Віленскага біскупства. У 1800 г. вёска, 12 двароў, 70 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ. Рас. імперыі, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 33 жыхары мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 19 двароў. 109 жыхароў, у лясной вартоўні 3 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 155 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 35 двароў. 177 жыхароў, у лесніčоўцы 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 46 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 17.3.1950 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагаатй жывёлы, клуб, б-ка з фондам 6,8 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1959 г. 168 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 43 двары, 85 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, якія з 3 аб'яднаны вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**СЕРКУЛІ** — хутар у Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 34 км на Пд ад Валожына, 44 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сідневічы, Камень, Далідавічы і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядомы з 18 ст. У 1800 г. вёска, 6 двароў, 38 жыхароў. 2 млыны, карчма, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-лейтэнанта і кавалера Войска Польскага І.Юдзіцкага. У 1858 г. вёска і



маёнтак, у Камянецкім сельскім т-ве Мінскага павета. У 1897 г. аколіца, 6 двароў, 45 жыхароў, і фальварак, 7 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 7 двароў, 35 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў. 50 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Каменскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.Міцкевіча. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 28 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11. 1966 г. да вёскі далучана в. Сідзевічы. Былі ў складзе саўгаса імя У.У.Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). У 1994 г. 6 двароў, 12 жыхароў. Сял. двары аб'яднаны прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**СІВІЦА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), цэнтр камунальнага УП «Сівіца», за 41 км на ПдУ ад Валожына, 45 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 71 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн прахозіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Волма (левы прыток р. Іслач), на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Валожын—Івянец. 145 гаспадарак, 428 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 16 ст. ў складзе ВКЛ ва ўласнасці Я.Гардыны. У 1524 г. ў Сівіцы згадваецца каталіцкі касцёл, у валоданні якога ў 1559 г. было 4 дымы падданых сялян. У 1567 г. в. Сівіца, у Мінскім павеце, уласнасць М. і Я. Неміровічаў, у 1590 г. С.Унучкі і Р.Салагубаўны. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 27 двароў, 215 жыхароў і фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1815 г. 116 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка К.Плявакі. У 1870 г. 125 жыхароў мужчынскага полу. Землеўладальніку Тышкевічу ў 1881 г. належалі в. Сівіца з фальваркам Вяла. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 78 двароў, 525 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку 40 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 648 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 100 двароў, 657 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл., 132 двары, 677 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 24.7.1943 г. вёска была поўнасцю спалена гітлераўцамі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1944 г. да 1954 г. цэнтр сельсавета. У вер. 1950 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Каменскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. У 1959 г. 471 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. Былы калгас «Світанне» спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі, меў 1695 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1137 га ворнай зямлі, 19 трактароў, 25 збожжаўборачных камбайнаў, 33 грузавыя аўтамашыны і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з 1 вытв. ўчастка, 4 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 2 спецыялісты з вышэйшай і 18 з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, піларама, кармацэх, 8-гадовая школа (14 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка з фондам 9 тыс. кніг, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі, АТС, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 174 двары, 497 жыхароў. У 2008 г. пабудаваны аграгарадок. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-

акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Невял. ўчасткі сядзібнай забудовы адмежаваны з усх. і паўд. бакоў. Грамадскія будынкі і катэджная забудова — у цэнтры вёскі. Гасп. сектар — на зах. ускраіне. Радзіма бел. хормайстра, кампазітара, педагога, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі, аднаго з заснавальнікаў Дзярж. акадэмічнага нар. хору Беларусі К.І.Паплаўскага (1912—84).


*К.І.Паплаўскі.*

**СІДАРАЎЦЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 48 км на ПдУ ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 39 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Ратынка (прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Выганічы і далей па шашы Ракаў—Волма. 28 гаспадарак, 48 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1761 г. вёска, 11 двароў, 40 жыхароў мужчынскага полу, царква, фальварак, уладанне шляхціца С.Аборскага. Крыху пазней вёска перайшла да С.Панеўскага. Тут дзейнічалі карчма, капліца. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 10 двароў, 65 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць князёў Чартарыйскіх. Затым вёска перайшла да Ратынскіх. У 1858 г. 35 жыхароў мужчынскага полу, у Пуцішчанскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка М.Рагазінскага. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 103 жыхары, капліца, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 143 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.9.1949 г. арганізаваны калгас «17 Верасня», які абслугоўвала Залеская МТС. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі», з 1969 г. — саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Размяшчаўся вытв. ўчастак саўгаса. У 1959 г. 172 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Трыпуці. У 1994 г. 49 двароў, 83 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**СІМАНЫ** — вёска ў Івянецкім с/с, за 42 км на ПдУ ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чышэвічы, Мяйшты, Шыкуці, Замасцяны і далей па шашы Стоўбцы—Івянец. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 21 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 11 жыхароў мужчынскага полу, у Падсадскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка А.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 50 жыхароў, у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 7 двароў, 53 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 9 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 40



жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 5 двароў, 11 жыхароў. Пландровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СІНЯЯ ГАРА** – вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 33 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. прыпынку 708 км на лініі Маладзечна–Ліда, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на З праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Падбярэзь, Післяюкоўшчына і далей па шашы Мінск–Вільнюс. 24 гаспадаркі, 43 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 16 двароў, 143 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 184 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 10 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 188 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 27.7.1941 г. гітлераўцы забілі вясковых актывістаў А.К. і М.Б. Геронімаў, А.К.Каранiка, якія пахаваны на зах. ускраіне вёскі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр – в. Падбярэзь). З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 171 жыхар. З 20.1. 1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 32 двары, 68 жыхароў. Пландровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СКАДОРВЫ** – вёска ў Вішнеўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Мількаўшчына на лініі Маладзечна–Ліда, 103 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын–Ашмяны. 28 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

У 1897 г. 27 двароў, 170 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 166, у 1908 г. 169 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 20 двароў, 118 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 35 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 21.7.1949 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.2. 1956 г. ў склдазе калгаса імя М.Горкага (цэнтр – в. Вішнева). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 181 жыхар, у Вішнеўскім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 41 двор, 70 жыхароў. Пландровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар – на Пд.

**СКРУНДЗЕЎШЧЫНА** – вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 19 км на У ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна–Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Івянец–Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. 3 двары, 13 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старосты Ф.Багдановіча. У 1858 г. 34 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка А.Шышкі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 17 двароў, 120 жыхароў, у маёнтку 7 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ў вёсцы 162, у маёнтку — 10 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 22 двары, 129 жыхароў, у маёнтку 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 28 двароў, 252 жыхары, у другой аднайменнай вёсцы 5 двароў, 31 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 133 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Быў магазін. У 1994 г. 20 двароў, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 25 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (правы прыток Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Асінавіца, Малое Запруддзе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 25 гаспадарак, 35 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 38 двароў, 244 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 327 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 43 двары, 213 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Лоскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 52 двары, 284 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 21.9.1949 г. арганізаваны калгас імя І.Д.Чарняхоўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 284 жыхары. З 26.2.1976 г. ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Гародзькі). Размяшчаліся вытв. брыгада, магазін. У 1994 г. 47 двароў, 86 жыхароў. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**СЛАБАДА** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 26 км на У ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 52 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 25 гаспадарак, 35 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1745 г. вёска, 31 двор, шляхецкая ўласнасць, у 1791 г. побач маёнтак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 28 двароў, 165 жыхароў, у Мінскім павеце, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 74 жыхары мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 47 двароў, 320 жыхароў, кузня, у лясной вартоўні 1 двор, 7 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. 24.4.1906 г. вяскоўцы падалі ў Дзярж. думу прашэнне аб надзяленні іх зямлёй, але гэта просьба засталася без станоўчага вырашэння. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 55 двароў,



292 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 64 двары, 339 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Пасля вайны адбудавана. 16.5.1950 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 15.1.1959 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Былі клуб, б-ка, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1959 г. 313 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 62 двары, 111 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на паўд.-ўсх., гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**СЛАВЕНСК** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 16 км на З ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Куцяняты і далей па шашы Валожын—Гародзькі. 14 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1430 г. маёнтак, уласнасць вял. кн. Вітаўта, які ён падараваў кн. А.Альгердавічу. Паводле судовага выраку ў 1484 г. маёнтак застаўся ў княжны Федкі і І.Кобрынскага, у 1512 г. ва ўласнасці С.Рагатынскай, у 1516 г. М.Паца, да 1531 г. К.Астрожскага, потым нашчадкаў яго роду. Каля 1516 г. існавала карчма. У 1585 г. ў маёнтку была праведзена валочная памера. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1862 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1882 г. дзейнічала багадзельня пры новапабудаванай царкве. У 1868—71 гг. тут, на ўскраіне вёскі, пабудавана з цэглы царква (помнік архітэктуры рэтраспектыўнарускага стылю). У 1897 г. сяло і фальварак, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 23 двары, 155 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. З 1956 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забу-



*Мікалаеўская царква ў в. Славенск.*




довы адмежавана ў паўд. баку. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**СЛАЙКОЎШЧЫНА** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 19 км на З ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць побач з вёскай. 46 гаспадарак, 73 жыхары (2008).

У 1897 г. в. Слайкаўшчызна, 44 двары, 240 жыхароў, і сядзіба Стайкаўшчызна-Пекіт, 4 двары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 275, у 1908 г. 259 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 35 двароў, 170 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Адамоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 54 двары, 289 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.9.1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 16.4. 1954 г. ў складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага (цэнтр — в. Адамова). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, кармацэх, магазін. У 1959 г. 238 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 57 двароў, 128 жыхароў. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі і завулка шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.



*Могілкі нямецкіх салдат 1-й сусветнай вайны каля в. Слайкоўшчына.*

**СМАЛЁЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 19 км на ПдУ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 64 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на З — сажалка і праходзць меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бурбаўшчына, Янушкавічы, Пяршаі і далей па шашы Івянец—Валожын. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1901 г. вёскі Смалёўшчына і Камароўшчына, 21 жыхар, у Вілейскім павеце Мінскай губ, уласнасць казны. Затым перайшла ва ўладанне І.Рожэрсана. У 1858 г. 18 жыхароў мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 66 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 11 двароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 85 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. асада ў Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 2 двары, 8 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 91 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 11 двароў, 23 жыхары.

**СТАЙКІ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 8 км на З ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ праходзяць меліярацый-



ныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Ашмяны, якая праходзіць праз вёску. 83 гаспадаркі, 168 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. сяло, у складзе маёнтка Валожын, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 31 двор, у складзе графства Валожын. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 53 двары, 366 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 397, у 1908 г. – 435 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 76 двароў, 420 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 20.9. 1944 г. цэнтр сельсавета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 96 двароў, 556 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. гітлераўцы спалілі 74 двары, 9.5.1944 г. закатавалі маці і чацвёра дзяцей партызана І.І.Рубацкага. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Пасля вайны вёска адбудавана. З 20.9.1944 г. да 12.6.1958 г. зноў цэнтр сельсавета. 13.1.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 19.2.1958 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, ларок. У 1959 г. 432 жыхары, у Сакаўшчынскім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 106 двароў, 229 жыхароў. У вёсцы працуе (2009) б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**СТАНЮШКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 39 км на ПдУ ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мнск—Маладзечна, 43 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Раднікі і далей па шашы Івянец—Ракаў. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. вёска, 12 двароў, 26 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Сокала. Пазней перайшла да Д.Салагуба. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 11 двароў, 90 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. ў Маскалеўшчызнянскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка П.Пляваксі. Паводле перапісу 1897 г. вёска, фальварак, карчма, 16 двароў, 117 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 23 двары, 185 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 22 двары, 134 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 179 жыхароў, у другой аднайменнай вёсцы 3 двары, 17 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. 1.9.1950 г. арганізаваны калгас імя А.Матросава, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. З 16.7.1954 г. да 27.3.1959 г. цэнтр сельсавета, потым у Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 154 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, магазін. У 1994 г. 32 двары, 61 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**СТАРЫ РАКАЎ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 50 км на У ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 37 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кучкуны і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1779 г. вёска і фальварак Старараракаўскі, шляхецкая ўласнасць. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. тут быў гаспадарскі двор стольніка Сялявы. У 1858 г. мястэчка, да якога было прыпісана з суседніх вёсак 425 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць княгіні Друцкай-Любецкай. Паводле перапісу 1897 г. 55 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1906 г. селянін А.А.Багаслоўскі чытаў рабочым маёнтка пракламацыю «Манифест ко всему российскому крестьянству», якую ён атрымаў ад рабочага Лібава-Роменскай чыгункі. У 1908 г. 13 двароў, 72 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай, з 20.9.1944 г. Маладзечанскай абласцей, з 1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на, з 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1965 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 158 жыхароў. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 21 двор, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 21 км на пнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 43 гаспадаркі, 75 жыхароў (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ. У 1476 г. двор у маёнтку Лебедзева, уласнасць кн. А.Галыпанскага. Ён запісаў дзесяціну збожжа ў фундуш парафіяльнага касцёла ў Лебедзеве. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска, 26 двароў, 175 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 199, у 1908 г. — 216 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 38 двароў, 213 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гародзькаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 46 двароў, 275 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 21.9.1949 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 273 жыхары. З 26.2. 1976 г. ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Гародзькі). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, магазін. У 1994 г. 65 двароў, 142 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, аб'яднаных 2 завулкамі. Забудавана адна- і двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 34 км на ПдУ ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 69 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Стоўб-



цы—Івянец, якая праходзіць праз вёску. 55 гаспадарак, 145 жыхароў (2008).

Вядома з 15 ст. ў складзе ВКЛ як вёска ва ўласнасці баярына В.Кучука, служэбніка вял. кн. Вітаўта. У 1495 г. маёнтак, уласнасць Віленскай капітулы і біскупа В.Табара. Паводле рэестра даходаў у 1539 г. маёнтак і мястэчка прыносілі штогод біскупству чыншу 25 коп грошай. Уладальнік маёнтка кн. Ю.Радзівіл заснаваў тут у 1588 г. каталіцкі касцёл і запісаў яму ў фундуш вёску Дудка. У 1732 г. вёска, 2 двары, 2 жыхары мужчынскага полу, побач маёнтак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 23 двары, 124 жыхары, драўляны касцёл, карчма, гаспадарскі дом, млын, сукнавальня, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 188 жыхароў мужчынскага полу, у Старшынскім сельскім т-ве, уласнасць памешчыка А.Ленскага. Паводле перапісу 1897 г. вёска (23 двары, 210 жыхароў, царква і прыватная багадзельня), фальварак (18 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, малатарня), у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. у вёсцы 36 двароў, 346 жыхароў, у маёнтку 18 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 45 двароў, 270 жыхароў, у фальварку 2 двары, 10 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. да 27.3.1959 г. цэнтр сельсавета ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл., 67 двароў, 83 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 1940 г. ў Старынкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім, з 1.10.1973 г. ў Івянецкім сельсаветах. У 1950 г. арганізаваны калгас імя А.Міцкевіча, які абслугоўвала Івянецкая МТС. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). Размяшчаліся свінагадоўчая ферма, б-ка з фондам 9,3 тыс. кніг, магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 199 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 65 двароў, 166 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц (гал. — адрэзак шашы), аб'яднаных кароткім завулкам і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТРАЖАЎШЧЫНА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 46 км на У ад Валожына, 22 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Барок, Палачанка, Ракаў і далей па шашы Мінск—Валожын. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 2 двары, 11 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць падстолія Свентаржэцкага. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 37 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 42 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 26 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 3 двары, 7 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТРАПЛЕЎЦЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 65 км на У ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 39 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ ручай, злучаны з р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малыя Крывічы, Ба-

рок, Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 41 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 33 жыхары мужчынскага полу, у Кржывіцкім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка А.Свентаржэцкага. Паводле перапісу 1897 г. 15 двароў, 93 жыхары, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 14 двароў, 80 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 87 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1841 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.8.1949 г. арганізаваны калгас «Прамень камунізму», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 122 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Ракаўскі» (цэнтр — в. Ракаў). У 1994 г. 22 двары, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана з паўн.-ўсх. боку. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне, за ручаём.

**СТРОКАВА РЭЧКА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 17 км на ПнЗ ад Валожына, 6 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 90 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць побач з вёскай. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 4 двары, 26 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 29, у 1908 г. — 27 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 4 двары, 36 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Астрокава Рэчка ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 10 двароў, 60 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Была ў складзе калгаса імя В.У. Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). У 1959 г. 44 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 7 двароў, 12 жыхароў. Планіровачна ўяўляе сабой шэраг адасобленых сял. двароў, аб'яднаных прасёлачнай дарогай мерыдыянальнай арыентацыі.

**СТУДЗЯНЕЦ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 17 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забрэззе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 26 гаспадарак, 50 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 18 ст. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 3 двары, 27 жыхароў, уладанне Н.Салтыкова. Паводле перапісу 1897 г. вёска (21 двор, 132 жыхары) і засценак (3 двары, 24 жыхары), у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. ў в. Студзянец 1 — 145, у в. Студзянец 2 — 20, у засценку Студзянец 3 — 18 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 35 двароў, 184 жыхары, у засценку 5 двароў, 29 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Забрэзскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 44 двары, 258 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.3.1946 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Вало-



жынская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Забрэззе). У 1959 г. 193 жыхары. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 48 двароў, 97 жыхароў. Планіровачна складаецца з 4 вуліц: ад гал. прамалінейнай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы (адрэзак дарогі Забрэззе—Падбярэззе) на Пн і ПдУ адыходзяць прамалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Паралельна да гал. праходзіць вуліца на паўн. ускраіне. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на У.

**СУГВАЗДЫ** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), цэнтр філіяла КСУП «Сугвазды», цэнтр сельсавета з 12.10. 1940, за 12 км на ПнУ ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць праз вёску. 129 гаспадарак, 341 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. як Сугваздоўцы. Паводле інвентару 1528 г. 5 дамоў і служба, «прыслухоўчыя» да двара Жупраны (цяпер у Ашмянскім р-не), падданыя Ю.М.Радзівіла. У 1785 г. сяло, 21 двор, у графстве Валожын, уласнасць шляхціца. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 34 двары, 256 жыхароў, у засценку 1 двор, 2 жыхары. Дзейнічала карчма. У 1904 г. 257, у 1908 г. — 306 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 50 двароў, 290 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 30.10.2009 г. цэнтр сельсавета Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 72 двары, 387 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. Помнік землякам з імёнамі загінуўшых устаноўлены ў 1986 г. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У вер. 1948 г. арганізаваны калгас «Светлы шлях», які абслугоўвала Валожынская МТС. Была ў складзе саўгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся вытв. ўчастак, майстэрні, машынны двор, піларама, млын, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, 8-гадовая школа (13 настаўнікаў), б-ка з фондам 7,5 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі (з 1950 г.), АТС, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, стадыён, 2 спарт. пляцоўкі. У 1959 г. 353 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 137 двароў, 379 жыхароў. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіроўка Т-падобная: ад гал. прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, у цэнтры адыходзіць прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**СУДНІКІ** — вёска ў Пральніцкім с/с, цэнтр СВК «Суднікаўскі», за 52 км па ПдУ ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 59 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Цяцераўка (левы прыток р. Ісдач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Івянец. 101 гаспадарка, 283 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1776 г. вёска, 4 двары, 14 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Бутрымовіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 73 жыхары, у Мінскім павеце, уласнасць памешчыка І.Ратынскага. У 1858 г. 38 жы-

align="justify">хароў мужчынскага полу, у Антонаўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Ф.Пальсоўскага. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 144 жыхары, хлебазапасны магазін, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 28 двароў, 175 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 37 двароў, 234 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 53 двары, 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 44 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў, у 1967 г. пастаўлена стэла. 8.12.1949 г. арганізаваны калгас «Камсамолец», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Падневіцкім сельсаветах. У 1959 г. 255 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Былы калгас «Камсамолец» спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, меў 1793 га сельгасугоддзяў, у т.л. 1206 га ворыўнай зямлі, 10 трактароў, 26 збожжаўборачных камбайнаў, 26 грузавых аўтамашын і інш. тэхніку. Гаспадарка складалася з раслінаводчага цэха і 6 жывёлагадоўчых ферм. У вытв-сці былі заняты 7 спецыялістаў з вышэйшай і 26 — з сярэдняй спец. адукацыяй.

У вёсцы размяшчаўся машынны двор, піларама, млын, кармацэх, 8-гадовая школа (16 настаўнікаў), дзіцячы сад, клуб, б-ка з фондам 11 тыс. кніг, аддз. сувязі, АТС, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 107 двароў, 305 жыхароў. У вёсцы размешчаны (2009) дзіцячы сад-яслі, школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр на паўд., гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**СУЛЬЖЫЦЫ** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 22 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 41 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць праз вёску. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1722 г. вёска, 9 двароў, з іх 4 пустуючых, побач быў маёнтак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1858 г. вёска і маёнтак у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка Валадковіча. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 82 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. ў вёсцы і фальварку 87 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы і фальварку 85 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Сульнікі ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 24 двары, 98 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас. З 1959 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. в. Шульжыцы, 89 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 16 двароў, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з вуліцы (адрэзак шашы) шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СУЛЬЖЫЧЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 24 км на ПдУ ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска.



Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кіявец і далей па шашы Івянец—Ракаў. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 17 двароў, 121 жыхар, уладанне А.Агінскага. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 62 жыхары, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 94 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 17 двароў, 77 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 112 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1964 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1994 г. 18 двароў, 43 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У 1957 г. радыёфікавана, у 1958 г. электрыфікавана.

**СУСНІ** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 8 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Палачаны на лініі Маладзечна—Ліда, 67 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сядлішча і далей па шашы Валожын—Мінск. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1559 г. сяло, у 1566 г. зямля ў маёнтку Пяршаі, уласнасць віленскага біскупа ксяндза Валяр'яна. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 70 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. в. Суснеў, 41 жыхар мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 142 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 131 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 20 двароў, 137 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 26 двароў, 139 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчалася вытв. брыгада. У 1959 г. 117 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 19 двароў, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (прамалінейнай і выгнутай) мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, на зах. ускраіне — гасп. сектар.

**СУШЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Манькаўшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1722 г. вёска, 4 двары, 14 жыхароў мужчынскага полу і маёнтак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 14 двароў, 94 жыхары, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 97 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 17 двароў, 92 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захоп-





нікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1959 г. 122 жыхары, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 28 двароў, 54 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**СЦЮДЗЯНЕЦ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 25 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 96 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кашчэлічы, Старынкі і далей па шашы Гародзькі—Валожын. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак, 3 двары, 24 жыхары, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 18 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 5 двароў, 29 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. засценак у Лоўскаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 7 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас. Была ў складзе калгаса імя XXV з'езда КПСС (цэнтр — в. Лоск). У 1959 г. 44 жыхары. У 1994 г. 9 двароў, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. дварамі.

**СЦЯЦКІ** — вёска ў Залескім с/с, за 62 км на У ад Валожына, 11 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 41 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты.Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Караблі і далей па шашы Ракаў—Маладзечна. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1705 г. в. Сцечкі, 10 двароў і маёнтак. У 1791 г. ўладанне С.Марцынкевіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 7 двароў, 41 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. У 1858 г. 23 жыхары мужчынскага полу, у Дубраўскім сельскім т-ве Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 10 двароў, 75 жыхароў, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 12 двароў, 92 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 20.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1.3.1952 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). З 1954 г. ў Гіравіцкім с/с Валожынскага р-на. У 1959 г. 123 жыхары, у Пятроўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Маладзечанскім р-не, з 1963 г. ў Залескім с/с Валожынскага р-на. У 1994 г. 21 двор, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у паўд.-ўсх. баку.

**СЯДЛІШЧА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 18 км на У ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 72 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Баранаўка (прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Агароднікі, Багушоўка і далей па шашы Мінск—Валожын. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 8 двароў, 48 жыхароў, у складзе маёнтка



Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1870 г. 29 жыхароў мужчынскага полу, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 113 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 23 двары, 146 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 21 двор, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Залатая ніва», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 100 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 20 двароў, 30 жыхароў. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана на зах. баку. Гасп. сектар — на паўн. і паўд. ускраінах.

**СЯРЭДНЯЕ СЯЛО** — вёска ў Дорскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 25 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 52 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Дараўлянка (правы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 52 гаспадаркі, 104 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 94 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 72 жыхары, у Дорскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 35 двароў, 279 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. 24.4.1906 г. вяскоўцы накіравалі прашэнне ў Дзярж. думу аб надзяленні іх зямлёй, якое засталося без задавальнення. У 1908 г. 44 двары, 314 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 48 двароў, 298 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Дорскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 62 двары, 328 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 22.7.1943 г. гітлераўцы закатавалі жыхароў вёскі і сям'ю Р.Рудзік (6 чалавек), а 26.7. 1943 г. гітлераўцы спалілі 46 дамоў, загубілі 76 жыхароў. Абеліск і стэла на магілах ахвяр фашызму ўстаноўлены ў 1950 і 1978 гг. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Пасля вайны адбудавана. 16.5.1950 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 15.1.1959 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся комплекс па вырошчванні цялушак, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, б-ка з фондам 7,4 тыс. кніг. У 1959 г. 246 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11.1966 г. да вёскі далучаны в. Лугавыя. У 1994 г. 74 двары, 163 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. і паўн. ускраінах.

**ТАТАРСКІЯ** — вёска ў Залескім с/с, за 62 км на У ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 44 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палачанка і далей па шашы Мінск—Валожын. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1754 г. в. Татарскія, у складзе маёнтка Дубраў. У

1791 г. в. Татарск, уладанне С.Марцынкевіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 13 двароў, 81 жыхар, у Мінскім павеце, уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. 8.10.1885 г. вяскоўцы аказалі супраціўленне ўладам пры размежаванні зямель вяскоўцаў і памешчыцы Любанскай. 28 чалавек былі прыцягнуты да адказнасці. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 171 жыхар, у Ракаўскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 28 двароў, 155 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 34 двары, 199 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.8.1949 г. арганізаваны калгас імя Н.К.Крупскай, які абслугоўвала Залеская МТС. З 1.3.1952 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 212 жыхароў, у Пятроўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў Залескім с/с. У 1994 г. 31 двор, 54 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**ТАТАРЫ** — вёска ў Залескім с/с, за 62 км на У ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 54 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ясьманаўцы, Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 18 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 52 жыхары, уладанне І.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 100 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 146 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 27 двароў, 157 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 28.3.1950 г. арганізаваны калгас «Савецкая Армія», які абслугоўвала Залеская МТС. З 8.4.1954 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» (цэнтр — в. Пугачы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1959 г. 166 жыхароў, у Пятроўшчынскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл., з 1963 г. ў Залескім с/с. У 1994 г. 22 двары, 43 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на У.

**ТАЎКАНЫ** — вёска ў Івянецкім с/с з 1.10.1973 г., за 35 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Каралеўшчына і далей па шашы Івянец—Дзераўная. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1597 г. сяло ў маёнтку Васільеўскім (Васілішкі), уласнасць Ю.Грыгор'евіча, у 1599 г. ў валоданні М.і К. Гівойнаў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, 3 двары, 11 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старасцянкі Д.Салагубаўны. У 1858 г. 17 жыхароў мужчынскага полу, у Васілішскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка І.Свіда. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 11 двароў, 61 жыхар і фальварак (1 двор, 6 жыхароў), у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г.



пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 дыароў, 63 жыхары. У ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 30 двароў, 131 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 111 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса імя У.У.Маякоўскага (цэнтр — в. Камень). Размяшчаліся вытв. брыгада, пач. школа. 12.11.1966 г. да вёскі далучаны вёскі Замчышча, Маліннік, Феліцыянава. У 1994 г. 14 двароў, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ТКАЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 44 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Раднікі і далей па шашы Івянец—Маладзечна. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. вёска, 4 двары, 13 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Сокала. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 5 двароў, 36 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Салагуба. У 1858 г. 16 жыхароў мужчынскага полу, у Маскалеўшчызненскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка П.Плявакі. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 38 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 54 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 10 двароў, 60 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. 2.9.1950 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 67 жыхароў, у Зарэчанскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). У 1994 г. 12 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУПЧЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 32 км на ПнЗ ад Валожына, 8 км ад чыг. прыпынку 708 км на лініі Маладзечна—Ліда, 108 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Алянава, Гірбінята і далей па дарозе Баруны—Багданава і шашы Валожын—Ашмяны. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 11 двароў, 77 жыхароў, засценак, 1 двор, 6 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. вёскі Тупічы 1, 2 двары, 20 жыхароў, вёскі Тупічы 2, 5 двароў, 79 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. адна вёска, 12 двароў, 76 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ластаянцаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 20 двароў, 15 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1952 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 26.7.1957 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 102 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе

саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр — в. Падбярэзь). З 22.5.1967 г. ў Падбярэзскім с/с. Была пач. школа. У 1994 г. 13 двароў, 27 жыхароў. Складаецца з адасобленых паўд.-зах. і паўн.- зах. частак, якія планіровачна выглядаюць адной прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**ТУРКАЎШЧЫНА** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 60 км на У ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Валожын. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1754 г. в. Туркаўшчызна, 6 двароў, у складзе маёнтка Дубраў. Да канца 18 ст. ў валоданні С.Марцынкевіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 12 двароў, 49 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. У 1858 г. в. Туркаўшчызна, 46 жыхароў мужчынскага полу, у Адамарынскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Г.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 176 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 221 жыхар. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 7.7. 1948 г. арганізаваны калгас «Перадавік», які абслугоўвала Радашковіцкая МТС. У 1959 г. 259 жыхароў. 20.1. 1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні, пач. школа, клуб, магазін, б-ка з фондам 10,7 тыс. кніг. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Адамарына. У 1994 г. 46 двароў, 83 жыхары. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гас. сектар — на зах. ускраіне.

**УЗБАЛАЦЬ** — вёска ў Узбалацкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Валожына, 10 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 85 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дубіна Вяршыцкая, Чабаі і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 76 гаспадарак, 115 жыхароў (2008).

За 1 км на Пд ад вёскі знаходзіцца гарадзішча штрыхаванай керамікі, якое датуецца 1—4 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 19 ст. У 1897 г. вёскі Узбалаць 1 (28 двароў, 200 жыхароў), Узбалаць 2 (32 двары, 172 жыхары) і Узбалаць 3 (13 двароў, 71 жыхар) у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. ў в. Узбалаць 1 налічвалася 217, у в. Узбалаць 2 — 210, у в. Узбалаць 3 — 84 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Узбалаць 1 — 36 двароў, 206 жыхароў, у в. Узбалаць 2 — 34 двары, 175 жыхароў, у в. Узбалаць 3 — 14 двароў, 78 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., у в. Узбалаць 1 — 28 двароў, 46 жыхароў, в. Узбалаць 2 — 42 двары, 269 жыхароў, Узбалаць 3 — 18 двароў, 103 жыхары, у маёнтку 5 двароў, 26 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 15 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі на ўшанаванне землякоў, якія загінулі ў вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла. З 20.9.1944 г. ў



Маладзечанскай, 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях. 14.4.1945 г. ў вёсцы Узбалаць 1 арганізаваны калгас імя І.В. Сталіна, у в. Узбалаць 2 — калгас «Маладая гвардыя», якія абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. ў в. Узбалаць 1 — 232 жыхары, у в. Узбалаць 2 — 269 жыхароў, у в. Узбалаць 3 — 75 жыхароў. З 15.11.1961 г. калгас «Радзіма». У 1960-х г. вёскі Узбалаць 1, Узбалаць 2 аб'ядналіся ў адну в. Узбалаць. Была ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). Размяшчаліся вытв. брыгада, млын, піларама, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, кармацэх, 2 крытыя такі, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка з фондам 6,6 тыс. кніг, аддз. сувязі, АТС, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, магазін, стадыён, грамадская лазня, 2 спарт. пляцоўкі. 12.11.1966 г. в. Узбалаць 1, Узбалаць 2 і Узбалаць 3 былі аб'яднаны і склалі адну в. Узбалаць. У 1994 г. 132 двары, 245 жыхароў. Пры школе дзейнічае краязнаўчы музей; фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ з завулкамі, забудавана двухбакова, шчыльна, дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар на паўд. ускраіне і ў паўн.-ўсх. баку ад вёскі.

**УЛАЗАВІЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на З ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мінці і далей па шашы Валожын—Вішнева. 79 гаспадарак, 171 жыхар (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. с. Уласавічы ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1889 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 345 жыхароў. У 1908 г. 382 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 70 двароў, 390 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 84 двары, 472 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Світанне», які абслугоўвала Валожынская МТС. З 26.6. 1959 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). Размяшчаліся вытв. брыгада, пач. школа, клуб, магазін. У 1959 г. 400 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. У 1994 г. 97 двароў, 223 жыхары. Планіроўка рэгулярная. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Ад яе на ПдЗ перпендыкулярна адыходзіць другая прамалінейная вуліца. Дзве прамалінейныя вуліцы перпендыкулярна адыходзяць ад гал. і ў паўн.-зах. частцы вёскі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**ФІЛІПІНЯТЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 15 км на ПнЗ ад Валожына, 8 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Куцяняты і далей па шашы Валожын—Гародзькі. 76 гаспадарак, 152 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска, 57 двароў, 336 жыхароў, у Забрэзскай вобл. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 327, у 1908 г. 359 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 66 двароў, 378 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сель-





савета ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл., 80 двароў, 495 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 12 вяскоўцаў. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1968 г. ўстаноўлены помнік. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 11.10.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.7. 1954 г. ў Забрэзскім с/с. У 1959 г. 371 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах.

У вёсцы размяшчаліся вытв. ўчастак, машынны двор, піларама, млын, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам 6,6 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, АТС, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 108 двароў, 259 жыхароў. У вёсцы размешчаны (2009) аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі ў цэнтры, гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**ХАРУЖЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Валожына, 26 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ ручай, злучаны з р. Ісдач (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Манькаўшчына і далей па шашы Мінск—Валожын. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 22 жыхары, у Мінскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў Ласкіх. Паводле перапісу 1897 г. 13 двароў, 93 жыхары, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. 10.7.1906 г. вяскоўцы разам з сялянамі суседніх вёсак звярнуліся ў Дзярж. Думу з просьбай зменшыць падаткі і даць зямлю. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 21 двор, 116 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 8.7.1949 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна, які абслугоўвала Залеская МТС. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1959 г. 167 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11. 1966 г. да вёскі далучаны хутар Старынкі. У 1994 г. 21 двор, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ХАРЫТОНЫ** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 19 км на ПнЗ ад Валожына, 12 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 89 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ ручай, злучаны з р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Куцяняты і далей па шашы Валожын—Гародзькі. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 14 двароў, 97 жыхароў, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 103, у 1908 г. 19 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 19 двароў, 104 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 20 двароў, 123 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-



фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. З 1956 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в Філіпіняты). У 1959 г. 141 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 22 двары, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 38 км на ПдУ ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 61 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пакуці і далей па шашы Івянец—Ракаў. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1780 г. вёска, уладанне І.Сокала. У 1800 г. 10 двароў, 69 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уладанне Д.Салагуба. У 1858 г. 33 жыхары мужчынскага полу, у Маскалеўшчынскім сельскім т-ве Мінскага павета. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 129 жыхароў, вятрак, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 23 двары, 200 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. 7.1.1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 134 жыхары, у Зарэчанскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1994 г. 22 двары, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**ЦАЮНЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Валожына, 34 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 91 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Рум, якая праходзіць праз вёску. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

Засн. ў 1920-я г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 9 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. гітлераўцы загубілі 25 жыхароў (пахаваны на могілках). У чэрв.—ліп. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 72 жыхары, у Белакорацкім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1976 г. ў Валожынскім с/с. З 29.1.1976 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). У 1994 г. 13 двароў, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦВІРАЎШЧЫНА** — вёска ў Гародзькаўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 16 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 86 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Славенск, Куцяняты і далей па шашы

Валожын—Гародзькі. 13 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У канцы 19 ст. на могілках пабудавана з бутавага каменю капліца — помнік малых архітэктурных форм з мясц. мастацка-стылявой трактоўкай. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 20 двароў, 142 жыхары, хлебазапасны магазін, царква, капліца, у Забрэзскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 149, у 1908 г. 165 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 28 двароў, 174 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Філіпіняцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 31 двор, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 16.7.1954 г. ў Забрэзскім с/с. З 1956 г. ў складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Філіпіняты). У 1959 г. 132 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 18 двароў, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.



*Праваслаўная капліца ў в. Цвіраўшчына. Канец 19 — пачатак 20 ст.*

**ЦІМКАВІЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 25 гаспадарак, 52 жыхары (2008).

Вядома з пач. 16 ст. ў складзе ВКЛ як сяло ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1785 г. с. Цінкавічы, 7 двароў, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 92 жыхары, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 104 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 18 двароў, 118 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 184 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 1.12.1949 г. арганізаваны калгас імя К.Заслонава, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 132 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 33 двары, 73 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦІХАНОЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 19 км на ПдУ ад Валожына, 33 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ва-



ложын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска Ціханаўшчына, 4 двары, 27 жыхароў, у складзе маёнтка Пяршай, уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 13 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 5 двароў, 34 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета Мінскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 10 двароў, 62 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 10 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1958 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1959 г. 46 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 5 двароў, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 адасобленых сядзіб, аб'яднаных прасёлачнай дарогай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ЦІШКАЎШЧЫНА** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Валожына, 23 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 33 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць побач з вёскай. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 1 двор, 11 жыхароў, у складзе маёнтка Казеі. У 1858 г. ва ўладанні памешчыка Ф.І.Калатая. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 75 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Вілейскай губ. У 1904 г. 75, у 1908 г. 78 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 80 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1954 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 81 жыхар, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 17 двароў, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц. Ад вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на паўн. ускраіне адыходзіць на У арыентаваная шыротна. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦЯБУТЫ** — вёска ў Дорскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 15 км на ПнУ ад Валожына, 29 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сугвазды і далей па шашы Валожын—Маладзечна. 31 гаспадарка, 56 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1748 г. вёска, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 17 двароў, у складзе графства Валожын. З 1793 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 201 жыхар, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 211, у 1908 г. 236 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 44 двары, 292 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Сугваздаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 49 двароў, 268 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1948 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які абслугоўвала Валожынская МТС. 23.2.1950 г. бандыты забілі старшыню калгаса імя Гастэлы А.В.Рыжэвіча, на магіле якога ў 1951 г. пастаўлены абеліск. У 1959 г. 264 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.

1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «Чырвоны Сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1994 г. 44 двары, 91 жыхар. Планіроўка Т-падобная: ад гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, па цэнтры адыходзіць прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ЧАБАІ** — вёска ва Узбалацкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 93 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 28 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 14 двароў, у складзе графства Валожын, уласнасць памешчыка. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 120 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 130, у 1908 г. 165 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 167 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Бурмакскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 229 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У кастр. 1949 г. арганізаваны калгас імя А.Матросава, які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 205 жыхароў, ва Узбалацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1982 г. ў складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Дубіна Баярская). Размяшчаліся вытв. брыгада, 8-гадовая школа (10 настаўнікаў), клуб, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка з фондам 6,8 тыс. кніг, магазін. У 1994 г. 34 двары, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі — на паўн. ускраіне.

**ЧАРТАВІЧЫ** — вёска ў Сакаўшчынскім с/с, за 10 км на З ад Валожына, 25 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 88 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Валожынка (правы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стайкі і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 64 гаспадаркі, 87 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1614 г. сяло ў складзе маёнтка Валожын Ашмянскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. 33 двары. З 1795 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. 48 двароў, 378 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 395, у 1908 г. 409 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 69 двароў, 386 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Стайкаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 89 двары, 472 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 20.12.1948 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 19.2.1958 г. ў складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Сакаўшчына). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам 7,5 тыс. кніг, магазін. У 1959 г. 466 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 85 двароў, 165 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудава-



най двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

**ЧАСНАКІ** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 52 км на ПдУ ад Валожына, 66 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пральнікі, Курдуны і далей па шашы Ракаў—Івянец. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1776 г. вёска, 2 двары, 7 жыхароў мужчынскага полу, уладанне І.Бутрымовіча. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 16 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць канюшага І.Ратынскага, затым вёска перайшла да памешчыка К.Плявакі. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 49 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 13 двароў, 75 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 86 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. дзве вёскі Шчаснава (4 двары, 23 жыхары) і Шчасноўка (21 двор, 126 жыхароў) у Падневіцкім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 21.1.1949 г. арганізаваны калгас «30 гадоў БССР», які абслугоўвала Івянецкая МТС. З 1951 г. ў складзе калгаса «Верны шлях» (цэнтр — в. Пральнікі). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Пральніцкім с/с. У 1959 г. в. Часнакі, 10 жыхароў. З 7.7.1962 г. ў Падневіцкім с/с. З 25.12.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 9 двароў, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ ГОРКА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Валожына, 4 км ад чыг. ст. Яхімаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 120 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Масцішча, Вайганы і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска, 9 двароў, 60 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 54, у 1908 г. 57 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. У 1947 г. арганізаваны калгас. Была ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). У 1959 г. 77 жыхароў, на хутары 16 жыхароў, у Багданаўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. У 1994 г. 1 двор, 1 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫШЭВІЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 42 км на У ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Стоўбцы—Івянец. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1643 г. сяло і фальварак, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1709 г. 15 двароў, 94 жыхары. У 1718 г. вёска Чычэвічы, 13 двароў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. в. Чыжэвічы, 15 двароў, 94 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1858 г. 54 жыхары мужчынскага полу, у Старынскім сельскім т-ве Мінскага павета,

уласнасць памешчыка А.Ленскага. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 77 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 15 двароў, 110 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 102 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Івянецкім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 3 мірных жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). Размяшчалася вытв. брыгада. З 8.1.11954 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 97 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 15 двароў, 29 жыхароў. Да крас. 1959 г. ў Старынкаўскім, потым у Зарэчанскім, з 1.10.1973 г. ў Івянецкім сельсаветах. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы.

**ЧЭРНЕВІЧЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с (з 12.10.1940 г.), за 24 км на ПнЗ ад Валожына, 9 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 97 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 21 гаспадарка, 42 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1764 г. вёска, 16 двароў, 45 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 15 двароў, 101 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 150 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 151, у 1908 г. 198 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 35 двароў, 165 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 43 двары, 220 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 29.12.1950 г. арганізаваны калгас «Перамога», які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 145 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 27 двароў, 53 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы адмежавана з паўн.-зах. боку ўздоўж дарогі Навасёлкі— Вішнева. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

**ЧЭХАЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 12 км на У ад Валожына, 31 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 65 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Пяршаі, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2008).

У 1897 г. 3 двары, 20 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 2 двары, 17 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. маёнтак у Ляшчоўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 1 двор, 17 жыхароў. Гаспадарскі двор уключаў гумно, ток, канюшню, 2 кароўнікі. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1941 г. каля вёскі ў паветраным баі загінулі 2 сав. лётчыкі (пахаваны за 0,3 км на У ад вёскі). З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. Пасля вайны ў вёсцы размяшчаліся дзіцячы дом, школа (1946—62), пазней школа для разумова адсталых дзяцей. У 1952 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Праца-



валі 8-гадовая школа-інтэрнат (37 настаўнікаў), магазін. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1994 г. 17 двароў, 159 жыхароў. Дзейнічае школа-інтэрнат. Планіровачна складаецца з 2 адасобленых участкаў сядзібнай забудовы, аб'яднаных прасёлачнай дарогай.

**ШАЛЬЦІНЫ** – вёска ў Вішнеўскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 32 км на ПнЗ ад Валожына, 5 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна–Ліда, 110 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна), на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па дарозе Баруны–Багданаў і далей па шашы Валожын–Ашмяны. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У канцы 1550-х г. вёска належала Вішнеўскаму касцёлу Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У 1897 г. вёска, 12 двароў, 72 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета. У 1904 г. 69 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 79 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Ігнатаўскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 15 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 16.7.1954 г. ў Багданаўскім с/с. У 1959 г. 72 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Іўеўскім, з 13.2.1960 г. ў Ашмянскім р-нах Гродзенскай вобл., з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Падбярэззе» (цэнтр – в. Падбярэзь). З 22.5. 1967 г. ў Падбярэзскім с/с. У 1994 г. 9 двароў, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАПАВАЛЫ** – вёска ў Валожынскім с/с, за 1 км на ПнУ ад Валожына, 21 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна–Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын–Маладзечна, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 8 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Засн. ў 1920-я г. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. маёнтак у Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 1 двор, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 6 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 1962 г. ў Валожынскім с/с, з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў

*Сядзіба ў в. Чэхаўшчына. 2-я палавіна 19 ст.*





Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). Размяшчаліся маслазавод, ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 7 двароў, 29 жыхароў. У вёсцы размешчаны валожынскі філіял ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат» (2009). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі, якая ідзе да шашы.

**ШАПАВАЛЫ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 26.8.1961 г.), за 62 км на У ад Валожына, 3 км ад чыг. ст. Радашковічы на лініі Мінск—Маладзечна, 50 км ад Мінска. Рэльеф узгорысты. Каля вёскі знаходзіцца гара Маяк, якая з'яўляецца найвышэйшым пунктам раёна (335 м) і 3-м па вышыні пунктам у Беларусі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вскі Мацавічы, Стары Ракаў, Кучкуны, Ракаў і далей па шашы Мінск— Валожын. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 10 двароў. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. 14 двароў, 85 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка М.Пшаздзецкага. У 1815 г. вёска была ва ўладанні памешчыка К.Плявакі. Паводле перапісу 1897 г. ў фальварку 36 жыхароў, у 2 урочышчах 2 двары, 8 жыхароў, у Заслаўскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 5 двароў, 57 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. фальварак, 3 двары, 42 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гіравіцкім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 7.7. 1948 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 160 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы Двор). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 26 двароў, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАРАІ** — вёска ў Дорскім с/с, за 20 км на У ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 54 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 31 жыхар, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 20 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 9 двароў, 62 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. 24.4.1906 г. вяскоўцы накіравалі ў Дзярж. думу прашэнне аб надзяленні іх зямлёй, якая засталася без задавальнення. У 1908 г. 12 двароў, 78 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 9 двароў, 71 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Валожынскім р-не Баранавіцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 16.5.1950 г. арганізаваны калгас імя К.К.Ракасоўскага, які абслугоўвала Валожынская МТС. З 28.2. 1952 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). У 1959 г. 76 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 12 двароў, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**ШУЛОВІЧЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Валожына, 19 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 109 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Бярэзіна (правы прыток р. Нёман), на З яе правы прыток р. Альшанка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Букатова, Доржні, Ганчары і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. сядзіба, 8 жыхароў, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. аколіца, 3 двары, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 1954 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). У 1959 г. 112 жыхароў, у Вішнеўскім с/с Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 13 двароў, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЧАЎКАНЫ** — вёска ў Валожынскім с/с, за 6 км на З ад Валожына, 20 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 81 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Валожын—Вішнева, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

На паўн. ускраіне вёскі знаходзіцца курган, на месцы якога ў 19 ст. існаваў курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1785 г. сяло, 7 двароў, у складзе графства Валожын, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 7 двароў, 67 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 70 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 12 двароў, 75 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Мінцінскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 14 двароў, 97 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы расстралялі сем'і партызан Скляповіча і Бараноўскага (7 чал.), якія пахаваны на ўсх. ускраіне вёскі. У 1964 г. пастаўлены абеліск. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. арганізаваны калгас «Зара», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 59 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 26.6.1959 г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — г. Валожын). Былі 8-гадовая школа, магазін. У 1994 г. 14 двароў, 33 жыхары. Дзейнічае (2009) магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШЫКУЦІ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 36 км на ПдУ ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 71 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па шашы Стоўбцы—Івянец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 41 жыхар (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 10 двароў, 80 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. 19 двароў, 126 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 21 двор, 115 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івя-

нецкага р-на Баранавіцкай вобл., 34 двары, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. Да крас. 1959 г. ў Старынкаўскім, потым у Зарэчанскім, з 1.10.1973 г. ў Івянецкім сельсаветах. У жн. 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (10 настаўнікаў), магазін. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 125 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. 12.11. 1966 г. да вёскі далучана в. Кісліцкі. У 1994 г. 34 двары, 67 жыхароў, дзейнічала школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай уздоўж ракі з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне. Радзіма краязнаўца, публіцыста, даследчыка літаратуры, гісторыі і культуры свайго краю Г.А.Равінскага.


*Г.А.Равінскі.*

**ШЭЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 52 км на ПдУ ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Праўжалы і далей па шашы Івянец—Ракаў. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў.

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 9 двароў, 64 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старосціча І.Ратынскага. Паводле перапісу 1897 г. 20 двароў, 109 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 152 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 161 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 40 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1950 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які абслугоўвала Івянецкая МТС. Была ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 36 двароў, 72 жыхары. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ЭПІМАХІ** — вёска ў Залескім с/с (з 12.10.1940 г.), за 53 км на У ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Дубравы на лініі Мінск—Маладзечна, 44 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Ракаў—Радашковічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. в. Епімахі, 7 двароў, 48 жыхароў, вадзяны млын, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць тайнага саветніка А.Хмары. У 1856 г. 35 жыхароў мужчынскага полу, у Дуброўскім сельскім т-ве Мінскага павета, уласнасць памешчыка Г.Хмары. Паводле перапісу 1897 г. вёска (18 двароў, 106 жыхароў) і фальварак (1 двор, 7 жыхароў), у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў вёсцы 28 двароў, 154 жыхары, у аднайменным фальварку 2 двары, 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Залескім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 13.8.1948 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які абслугоўвала Залеская МТС. З 16.7.1954 г. да 26.8. 1961 г. ў Гіравіцкім с/с. У 1959 г. 171 жыхар. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Залескі» (цэнтр — в. Новы



Двор). У 1994 г. 12 двароў, 17 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮЗАФІНА** — вёска ў Пральніцкім с/с, за 42 км на ПдУ ад Валожына, 39 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 60 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Асінаўка, Пральнікі і далей па шашы Івянец—Ракаў. 5 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1870 г. маёнтак у Івянецкай вол. Мінскага павета. У 1897 г. ў маёнтку 16 жыхароў. Пазней тут будаваліся драўляныя сял. сядзібы. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 3 двары, 26 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 4 двары, 15 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Была ў складзе калгаса «Камсамолец» (цэнтр — в. Суднікі). З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшчаўскім, з 27.3.1959 г. ў Падневіцкім с/с. У 1959 г. хутар Юзэфава, 14 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. У 1994 г. 6 двароў, 14 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова сял. дварамі.

**ЮЗАФОВА** — вёска ў Валожынскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Валожына, 15 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 75 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Вільнюс, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. фальварак, 1 двор, 5 жыхароў, у Валожынскай вол. Ашмянскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 8 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Брыльскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 9 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 47 жыхароў. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 1962 г. ў Валожынскім с/с. З 1963 г. ў складзе калгаса «17 Верасня» (цэнтр — в. Брылькі). У 1994 г. 11 двароў, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮКАВІЧЫ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Мелькаўшчызна на лініі Маладзечна—Ліда, 100 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Скадорвы, Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 3 гаспадаркі, 15 жыхароў (2008).

На паўн. ускраіне вёскі захаваўся стараж. курган (у 19 ст. тут быў курганны могільнік), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1602 г. вёска ў маёнтку Багданава, уласнасць каралеўскага канюшага ВКЛ П.Сапегі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. вёска Юкаўцы, 6 двароў, 43 жыхары, у Вішнеўскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. 63, у 1908 г. 74 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 7 двароў, 40 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. ў Войштавіцкім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 12 двароў, 52 жыхары. У Вял.

Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 38 жыхароў, у Вішнеўскім с/с. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Размяшчаліся свінагадоўчая ферма і кармацэх. У 1994 г. 5 двароў, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**ЮРЖЫШКІ** — вёска ў Ракаўскім с/с (з 16.7.1954 г.), за 52 км на ПдУ ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 42 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ ручай (прыток р. Іслач) і мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ракаў—Івянец. 39 гаспадарак, 84 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. У 1582 г. маёнтак, уласнасць Я.Скіндэра. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак, 13 двароў, 90 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць Івянецкай каталіцкай плябаніі. У 1858 г. вёска, 43 жыхары мужчынскага полу, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 26 двароў, 181 жыхар, вадзяны млын, хлебазапасны магазін, у Ракаўскай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 37 двароў, 201 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Выганічанскім с/с Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 28.3. 1950 г. арганізаваны калгас «Гвардзеец», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 260 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Размяшчаліся вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, б-ка з фондам 7,3 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1994 г. 54 двары, 132 жыхары. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ЯДЗЕЙКІ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 36 км на У ад Валожына, 16 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 46 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 23 жыхары, уладанне Д.Прасецкага і Б.Праздзецкага. Паводле перапісу 1897 г. 6 двароў, 38 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 44 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 11 двароў, 54 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радашковіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. 59 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 8 двароў, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. дамамі. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.



**ЯВІДАЎШЧЫНА** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Валожына, 36 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 70 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Люцінка (правы прыток р. Іслач), на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Івянец—Валожын. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак, 3 двары, 17 жыхароў, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць старасцянкі Д.Салагубаўны. У 1858 г. в. Явідаўшчызна, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 66 жыхароў, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 92 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 97 жыхароў, у 1940 г. 25 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Паблізу вёскі базіраваліся партызаны. У 1953 г. ў гонар партызан злучэння Баранавіцкай вобл. каля дарогі Пяршаі—Івянец, на Пд ад вёскі пастаўлены помнік — скульптура партызана. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 79 жыхароў, у Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. У 1994 г. 16 двароў, 31 жыхар. Планіроўка Т-падобная: да гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЯКУНЬКА** — былая вёска ў Багданаўскім с/с, за 39 км на З ад Валожына, 2 км ад чыг. ст. Яхімаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Беразніца, Вайганы і далей па шашы Валожын—Ашмяны.

Засн. ў 1920-я г. Да вер. 1939 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.7.1957 г. ў складзе саўгаса «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў).

**ЯНАЎШЧЫНА** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 44 км на ПдУ ад Валожына, 41 км ад чыг. ст. Койданава на лініі Мінск—Баранавічы, 68 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ ручай, злучаны з р. Волма (левы прыток р. Іслач). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гілікі, Міхалова і далей па шашы Івянец—Ракаў. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 3 двары, 25 жыхароў, гаспадарскі дом, у Мінскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 23 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка Я.Бржазоўскага. Паводле перапісу 1897 г. 8 двароў, 79 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. в. Янаўшчызна, 19 двароў, 105 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Старынкаўскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 15 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім с/с. У 1959 г. 82 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 17.4.1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. Была ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). У 1994 г. 14 двароў, 32 жыха-





ры. Планіровачна складаецца з плаў- на выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНІШКІ** — вёска ў Вішнеўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Валожына, 7 км ад чыг. ст. Багданаў на лініі Маладзечна—Ліда, 98 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ цячэ р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вішнева і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 65 гаспадарак, 123 жыхары (2008).

Вядома з 19 ст. У 1897 г. в. Янушы, 3 двары, 19 жыхароў. У 1904 г. 15, у 1908 г. 22 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 4 двары, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1950 г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Вішнеўская МТС. З 16.2.1956 г. ў складзе калгаса імя М.Горкага (цэнтр — в. Вішнева). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. У 1959 г. 142 жыхары, у Вішнеўскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. У 1994 г. 77 двароў, 154 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на У.

**ЯНУШКАВІЧЫ** — вёска ў Пяршайскім с/с, за 17 км на У ад Валожына, 32 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 66 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пяршаі і далей па шашы Івянец—Валожын. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 7 двароў, 63 жыхары, у складзе маёнтка Пяршай Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць сапр. стацкага саветніка І.Рожэрсана. У 1858 г. 41 жыхар мужчынскага полу, уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 144 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 147 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 33 двары, 178 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 57 жыхароў. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 75 жыхароў, у Пяршайскім с/с Валожынскага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 1963 г. ў складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Пяршаі). У 1994 г. 24 двары, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкам, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯРШЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Яршэвіцкага с/с (з 12.10.1940 г.), за 28 км на У ад Валожына, 18 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Яршоўка (правы прыток р. Іслач), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Вільнюс. 51 гаспадарка, 103 жыхары (2008).

За 0,6 на ПдУ ад вёскі захавалася гарадзішча штрыхаванай керамікі, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома ў 15 ст. ў складзе ВКЛ. Да 1481 г. маёнтак, уласнасць А.Салагубавіча. Кароль Казімір у 1481 г. падараваў гэты маёнтак княгіні Г.С.Кобрынскай. У 1511 г. тут згадваецца каталіцкі касцёл, у валоданні якога ў 1559 г. знаходзіліся 24 дымы падданых сялян. Да 1528 г. маёнткам



валодаў Ю.Салагубавіч, потым яго нашчадкі. У 1567 г. ў Мінскім павеце, у 1582 г. маёнтак, двор і мястэчка. Пасля 1590 г. маёнтак некалькі гадоў знаходзіўся ў закладным валоданні А.Захараўскага. У 1732 г. вёска, 3 двары, 4 жыхары мужчынскага полу, побач быў аднайменны маёнтак. З 1793 г. ў Рас. імперыі. У 1799 г. 10 двароў, 53 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 25 двароў, 158 жыхароў, 2 царквы, школа. У 1860-я г. узведзены будынак 4-класнай школы. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 268 жыхароў, прыходская царква, капліца, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, двойчы ў год праводзіліся кірмашы. Побач былі аднайменныя сядзіба (10 двароў, 54 жыхары) і маёнтак (2 двары, 22 жыхары). У 2-й пал. 19 ст. на ўсх. ускраіне вёскі пабудавана з бутавага каменю царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры псеўдарус. стылю. У 1904 г. ў сяле было 268 жыхароў, пачала дзейнічаць казённая вінная крама, у Германішскай вол. Вілейскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 48 двароў, 247 жыхароў. У 1922 г. будынак былой уніяцкай царквы перададзены каталікам пад касцёл, які закрыты ў 1939 г. У вёсцы дзейнічала ячэйка падпольшчыкаў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да чэрв. 1941 г. ў Вілейскай вобл., з 20.9.1944 г. да 20.1.1960 г. ў Радашковіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 22 вяскоўцы. У 1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які абслугоўвала Залеская МТС. У 1959 г. 343 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. Была ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа (22 настаўнікі), клуб, б-ка з фондам 9,9 тыс. кніг, школа мастацтва з майстэрнямі, магазін, аддз. сувязі, АТС, аддз. ашчаднага банка, 3 спарт. пляцоўкі. У 1994 г. 77 двароў, 169 жыхароў. У вёсцы размешчаны (2009) комплекс дзіцячы сад—школа, аддз. сувязі, магазін. Закрытая ў 1944 г. Спаса-Узнясенская царква аднаўлена і ў 1995 г. вернута вернікам. Рака падзяляе вёску на дзве палавіны. Паўн. планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — прамавугольны квартал грамадскага цэнтра. Паўд. частка планіровачна складаецца з 2 выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і аб'яднаных з усх. ускраіны вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне. У склад Яршэвіцкага с/с уваходзяць 32 населеныя пункты (2010).

**ЯСЬМАНАЎЦЫ** — вёска ў Яршэвіцкім с/с, за 34 км на У ад Валожына, 17 км ад чыг. ст. Аляхновічы на лініі Мінск—Маладзечна, 45 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Каскруўка (левы прыток р. Яршоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яршэвічы і далей па шашы Мінск—Валожын. 50 гаспадарак, 87 жыхароў (2008).



*Спаса-Узнясенская царква ў в. Яршэвічы. 2-я палавіна 19 ст.*

Вядомы ў ВКЛ з 18 ст. У 1710 г. сяло, уласнасць шляхціца П.Мілеўскага. У 1880 г. 24 двары, 178 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 256 жыхароў, хлебазапасны магазін, капліца, у аднайменнай сядзібе 5 двароў, 39 жыхароў, у Германішскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. в. Ясьманаўцы (8 двароў, 102 жыхары) і в. Ясьманаўцы 2 (16 двароў, 199 жыхароў). З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З кастр. 1940 г. цэнтр сельсавета Радашковіцкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 16 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Яршэвіцкім с/с. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, які абслугоўвала Залеская МТС. З 1954 г. ў складзе калгаса «Чырвоны сцяг» (цэнтр — в. Доры), 409 жыхароў, у Яршэвіцкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. 12.11.1966 г. да вёскі далучана в. Гаспараўшчына. У 1994 г. 80 двароў, 162 жыхары. Дзейнічае магазін (2009). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і вытв. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне. Радзіма героя грамадз. вайны, камісара шыткінскіх партызан у Сібіры І.А.Біча (1881—1919), у гонар якога ўстаноўлены бюст.


*І.А.Біч.*

**ЯЎНЕВІЧЫ** — вёска ў Івянецкім с/с (з 1.10.1973 г.), за 37 км на ПдУ ад Валожына, 37 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 40 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Івянец—Ракаў, якая праходзіць побач з вёскай. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

Вядома з 19 ст. У 1815 г. вёска, 13 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Івянецкага францысканскага кляштара. У 1858 г. 25 жыхароў мужчынскага полу, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. 11 двароў, 86 жыхароў, у Івянецкай вол. Мінскага павета. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 14 двароў, 86 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Казарэзскім с/с Івянецкага р-на Баранавіцкай вобл., 28 двароў, 107 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1950 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 8.1.1954 г. ў Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Станюшкаўскім, з 27.3.1959 г. ў Зарэчанскім сельсаветах. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Стаўбцоўскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Крыніца). У 1994 г. 10 двароў, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, перпендыкулярна да шашы. Забудавана аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯХІМАЎШЧЫНА** — вёска ў Багданаўскім с/с, за 45 км на ПнЗ ад Валожына, 1 км ад чыг. ст. Яхімаўшчына на лініі Маладзечна—Ліда, 118 км ад Мінска. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПнУ мяжуе з лесам, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Альшанка (правы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вайганы і далей па шашы Валожын—Ашмяны. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. Згадваецца пры апісанні Трабскай пушчы ў 1550 г., уласнасць князёў Гальшанскіх. У 1566 г. маёнтак, супольная ўласнасць каралеўскага маршалка М.Сапегі і яго жонкі княгіні Г.Сангушкаўны-Кашырскай. Паводле рашэння суда маёнтак быў пададзены ў валоданне мельніцкаму старасцічу А.Цеханавецкаму ў кошт запазычаных грошаў. У 1602 г. дзве вёс-



кі ў маёнтку Багданава, уласнасць каралеўскага канюшага ВКЛ П.Сапегі. З 1795 г. ў Рас. імперыі. У 1897 г. фальварак, 2 двары, 20 жыхароў, у Гальшанскай вол. Ашмянскага павета Віленскай губ. У 1904 г. засценак, 21 жыхар. У 1905 г. маёнтак Паплаўскай. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. З 1947 г. ў складзе саўгаса «Юрацішкаўскі», з 1957 г. — «Багданаўскі» (цэнтр — пас. Багданаў). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1994 г. 27 двароў, 54 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ЯЦАЎШЧЫНА** — вёска ў Ракаўскім с/с, за 48 км на ПдУ ад Валожына, 35 км ад чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна, 47 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Юржышкі і далей па шашы Івянец—Ракаў. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

Вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска, 5 двароў, 24 жыхары, у Мінскім павеце Мінскай губ., уласнасць канюшага І.Ратынскага. У 1858 г. 16 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыкаў А. і Я. Сабалеўскіх. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Яцаўшчына 1 (6 двароў, 33 жыхары), Яцаўшчына 2 (1 двор, 8 жыхароў), маёнтак Яцаўшчына (1 двор, 12 жыхароў). З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Яцаўшчызна 1 — 8 двароў, 47 жыхароў, у в. Яцаўшчызна 2 — 7 двароў, 42 жыхары, у фальварку Яцаўшчызна 3 двары, 24 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1963 г. ў складзе саўгаса «Праца» (цэнтр — в. Выганічы). Планіровачна сфарміравалася ўздоўж прасёлачнай дарогі мерыдыянальнай арыентацыі з адасобленымі сял. дварамі.

**ЯЦКАВА-ЗАМОСНЫЯ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 10 км на ПдУ ад Валожына, 29 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 77 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць паблізу вёскі. 10 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. як пушча Яцкаўская ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1522 г. супольнае ўладанне А.Гаштольда, Я.Гардыны і віленскага біскупа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1614 г. с. Яцкава. Сучасная вёска ўзнікла ў выніку падзелу ў пач. 1920-х г. в. Яцкава на 6 вёсак. У 1880 г. меліся лесапільня, вадзяны млын, сукнавальня, у 1896 г. адкрыта школа граматы, у 1897 г. 38 двароў, 526 жыхароў. У 1921 г. ў в. Яцкава-Замосцне было 9 двароў, 58 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. в. Замост у Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 13 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 10 жыхароў. За 0,3 км на У ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны 400 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў. Абеліск на брацкай магіле ўстаноўлены ў 1957 г. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.5.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 67 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай




вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 25.6.1976 г. ў Бабровіцкім с/с. З 30.1. 1976 г. ў складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Былі прафілакторый «Налібоцкая пушча», магазін. У 1994 г. 21 двор, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯЦКАВА-КАНЧАНЕ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 12 км на ПдУ ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 78 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2009).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. як пушча Яцкаўская ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1522 г. супольнае ўладанне А.Гаштольда, Я.Гардыны і віленскага біскупа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1614 г. с. Яцкава. Сучасная вёска ўзнікла ў выніку падзелу ў пач. 1920-х г. в. Яцкава на 6 вёсак. У 1880 г. меліся лесапільня, вадзяны млын, сукнавальня, у 1896 г. адкрыта школа граматы, у 1897 г. 38 двароў, 526 жыхароў. У 1921 г. ў в. Яцкоўскія Канчаны было 18 двароў, 98 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 19 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 25.5.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 70 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. 30.1. 1976 г. ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). У 1994 г. 19 двароў, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЯЦКАВА-КАРЧОМНЫЯ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 9 км на ПдУ ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 76 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 26 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. як пушча Яцкаўская ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1522 г. супольнае ўладанне А.Гаштольда, Я.Гардыны і віленскага біскупа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1614 г. с. Яцкава. Сучасная вёска ўзнікла ў выніку падзелу ў пач. 1920-х г. в. Яцкава на 6 вёсак. У 1880 г. меліся лесапільня, вадзяны млын, сукнавальня, у 1896 г. адкрыта школа граматы, у 1897 г. 38 двароў, 526 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Яцкава-Карчове было 20 двароў, 114 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл. У 1940 г. 20 двароў, 145 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 15 жыхароў. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.5.1949 г. арга-



нізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 103 жыхары, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах. З 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. 30.1.1976 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Была б-ка. У 1994 г. 37 двароў, 84 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай працяглай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯЦКАВА-МЛЫНАВЫЯ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 11 км на ПдУ ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 82 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. як пушча Яцкаўская ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1522 г. супольнае ўладанне А.Гаштольда, Я.Гардыны і віленскага біскупа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1614 г. с. Яцкава. Сучасная вёска ўзнікла ў выніку падзелу ў пач. 1920-х г. в. Яцкава на 6 вёсак. У 1880 г. меліся лесапільня, вадзяны млын, сукнавальня, у 1896 г. адкрыта школа граматы, у 1897 г. 38 двароў, 526 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Яцкава-Млынова было 23 двары, 146 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 22 двары, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 26.5.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які абслугоўвала Валожынская МТС. У 1959 г. 98 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. 30.1.1976 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 19 двароў, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ЯЦКАВА-ПАДРЭЗЗЕ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 10 км на У ад Валожына, 28 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 80 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд цячэ р. Іслач (левы прыток р. Бярэзіна), на З мяжуе з в. Яцкава-Млынавыя. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. як пушча Яцкаўская ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1522 г. супольнае ўладанне А.Гаштольда, Я.Гардыны і віленскага біскупа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1614 г. с. Яцкава. Сучасная вёска ўзнікла ў выніку падзелу ў пач. 1920-х г. в. Яцкава на 6 вёсак. У 1880 г. меліся лесапільня, вадзяны млын, сукнавальня, у 1896 г. адкрыта школа граматы, у 1897 г. 38 двароў, 526 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Яцкава-Падрэззе было 16 двароў, 90 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 15 двароў, 105 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гіт-





лераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 5 жыхароў. На фронце загінуў 1 вясковец. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1959 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 66 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. 30.1.1976 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). У 1994 г. 17 двароў, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 участкаў сядзібнай забудовы, аб'яднаных прасёлачнай дарогай шыротнай арыентацыі.

**ЯЦКАВА-ПЯСКІ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 13 км на ПдУ ад Валожына, 30 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 79 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Ісдач (левы прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядома ў ВКЛ з 16 ст. як пушча Яцкаўская ў маёнтку Валожын, уласнасць Я.Гардыны. У 1522 г. супольнае ўладанне А.Гаштольда, Я.Гардыны і віленскага біскупа. У 1567 г. маёнтак у Ашмянскім павеце. У 1614 г. с. Яцкава. Сучасная вёска ўзнікла ў выніку падзелу ў пач. 1920-х г. в. Яцкава на 6 вёсак. У 1880 г. меліся лесапільня, вадзяны млын, сукнавальня, у 1896 г. адкрыта школа граматы, у 1897 г. 38 двароў, 526 жыхароў. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. ў в. Яцкава-Пескаве было 29 двароў, 163 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 32 двары, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп.—жн. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і загубілі 25 жыхароў. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1959 г. 127 жыхароў, у Белакорацкім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1. 1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8. 1973 г. ў Бабровіцкім с/с. 30.1.1976 г. вёска ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1994 г. 36 двароў, 61 жыхар. Планіровачна складаецца з плаў- на выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ і ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Прамавугольны ўчастак забудовы адмежаваны на Пн. Гасп. сектар — па паўд.-зах. ускраіне.

**ЯШКАВІЧЫ** — вёска ў Валожынскім с/с (з 30.10.2009 г.), за 9 км на У ад Валожына, 27 км ад чыг. ст. Валожын на лініі Маладзечна—Ліда, 62 км ад Мінска. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Літанка (правы прыток р. Пяршайка). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Валожын, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 36 жыхароў (2008).

Вядома з пач. 19 ст. У 1801 г. в. Ехавічы, у Вілейскім павеце, уласнасць казны. У 1858 г. в. Яшкевічы, 58 жыхароў мужчынскага полу, у Пяршайскім сельскім т-ве Мінскага павета Мінскай губ., уласнасць графа В.Тышкевіча. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 172 жыхары, у Пяршайскай вол. Мінскага павета. У 1908 г. 203 жыхары. З 1921 г. пад уладай Польшчы. У 1921 г. 55 двароў, 231 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Даўбенскім с/с Валожынскага р-на Баранавіцкай вобл., 35 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 10.11.1949 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», які абслугоўвала Валожынская МТС. 9.2.1956 г. вёска



ўвайшла ў склад калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Саланая). Была крама. У 1959 г. 178 жыхароў. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Маладзечанскім, з 6.1.1965 г. ў Валожынскім р-нах, з 16.8.1973 г. ў Бабровіцкім с/с. У 1994 г. 34 двары, 66 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 3, воп. 5, спр. 6767; ф. 4, воп. 5, спр. 2253; ф. 4п, воп. 1, спр. 15376; ф. 30, воп. 5, спр. 6767.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1696; ф. ДП, 1905, спр. 2550. Ч. 1; ф. 76, воп. 1, спр. 61, 228; ф. 183, воп. 2, спр. 1533; ф. 299, воп. 1, спр. 106; ф. 333, воп. 2, спр. 2139, воп. 4, спр. 676; ф. 694, воп. 4, спр. 67, 813, 934, 1995; ф. 847, воп. 1, спр. 36; ф. 1290, воп. 1, спр. 1313; ф. 1324, воп. 1, спр. 105; ф. 1727, воп. 1, спр. 33; ф. 1732, воп. 1, спр. 9; ф. 1769, воп. 1, спр. 4, 11, 19, 25, 33; ф. 1776, воп. 1, спр. 794; ф. 1816, воп. 1, спр. 9.

Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці ў Маладзечне, ф. 14, воп. 1, спр. 17; ф. 627, воп. 1, спр. 10; ф. 634, воп. 1, спр. 5; ф. 704, воп. 1, спр. 29, 31, 37, 43, 46—48, 69, 98, 380; ф. 847, воп. 1, спр. 29, 35—37; ф. 967, воп. 1, спр. 172; ф. 1088, воп. 1, спр. 41; ф. 1096, воп. 1, спр. 1, 3; ф. 1103, воп. 1, спр. 72, 73, 80, 81, 89, 91.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 41.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1278, воп. 1, спр. 285; ф. 1290, воп. 11, спр. 151, 186, 187, 285, 1313; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.

Дзяржаўны архіў Кракава і Кракаўскага ваяводства, спр. 42/46 (4246).

Бібліятэка Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Перепись 1893 г.

Бібліятэка Чартарыйскіх у Кракаве, АР, спр. 4689, IV.

Минские губернские ведомости. 1861. Прибавление к № 26.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1—2. Санкт-Петербург, 1863.

Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1864.

Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Минск, 1870.

Список волостей и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Минск, 1870.

Берман И. Календарь по народным преданиям в Воложинском приходе Виленской губернии Ошмянского уезда. Санкт-Петербург, 1874.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.

Статистические сведения о церквях и причтах Минской епархии. Минск, 1880.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1888/89 учебный год. Вильна, 1889.

Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки. Вып. 1. Вильна, 1895. Приложение.

Товаров А.В. Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии. Минск, 1903.

Гошкевич И.И. Виленская губерния: полный список насел. мест со стат. данными о каждом поселении, составленный по официальным данным. Вильна, 1905.

Виленский временник. Кн. 3. Крестьянское землевладение Виленской губернии. Вильна, 1909.

Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Минск, 1909.

Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Санкт-Петербург, 1910.

Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. Минск, 1912.

Справочная книга и спутник по Минской губернии. Минск, 1917.

Іскра. 1955. 5, 13 чэрв., 13 ліп., 7 кастр.; 1958. 2 кастр.

Працоўная слава. 1957. 31 кастр.; 1969. 20 сак.; 1970. 1 жн.; 1973. 20 студз.
Лукьянов Е.П. Крестьянское движение в Белоруссии накануне Великой Октябрьской социалистической революции. Минск, 1958.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. Минск, 1960.
История Белорусской ССР. Т. 1. Минск, 1961.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белорусси. Ч. 1 (1883–1918 гг.). Минск, 1962.
Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.). Минск, 1966.
Хроника Быховца. М., 1966.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918—1920 гг.: сб. док. и материалов. Т. 1. Минск, 1968.
Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2. Мінск, 1972.
Годы испытаний и мужества. Минск, 1973.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Минск, 1975.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Минск, 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Минск, 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.
Валожынскі раён: інфармац. даведка. 1993. Мінск, 1993.
Памяць: Валожынскі р-н. Мінск, 1996.
Ганчарык М.М. Мая Пяршайшчына. Мінск, 2005.
Новак М. Шлях да хрысціянскіх святыняў Валожыншчыны (гістарычны нарыс). Валожын, 2005.
Агрогородки Воложинского района. Воложин, 2009.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3. Warszawa, 1882.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitei Polskiej. T. 7, cz. 1. Warszawa, 1923.



# ВІЛЕЙСКІ РАЁН

Размешчаны на ПнЗ Мінскай вобл. Мяжуе з Мядзельскім, Маладзечанскім, Лагойскім р-намі Мінскай, Докшыцкім Віцебскай, Смаргонскім р-намі Гродзенскай абласцей. Пл. 2,4 тыс. км$^2$. Насельніцтва 26 463 чал. (без Вілейкі, 2008). Сярэдняя шчыльнасць 24 чал. на 1 км$^2$. Асн. насельніцтва беларусы (92,2%), рускія (5,9%), украінцы (0,9%), палякі (0,5%), інш. (0,5%). У складзе раёна 407 населеных пунктаў (больш за 12,5 тыс. гаспадарак), 13 сельсаветаў: Альковіцкі, Асіпавіцкі, Вязынскі, Даўгінаўскі, Іжскі, Ільянскі, Касцяневіцкі, Куранецкі, Любанскі, Нарачанскі, Рабунскі, Сцешыцкі, Хаценчыцкі (2010). Па тэр. раёна праходзіць чыгунка Полацк—Мінск; аўтадарогі на Мінск, Вільнюс, Барысаў, Докшыцы, Мядзел, Смаргонь.

Утвораны 15.1.1940 г. як Куранецкі р-н з цэнтрам у в. Куранец (з 12.10. 1940 г. — гар. пасёлак), у складзе Вілейскай вобл. Уключаў Куранецкую вол., часткі Вайстамскай, Вішнеўскай, Каловіцкай, Касцяневіцкай валасцей Вілейскага павета. Меў пл. 1270,9 км$^2$, 42 797 жыхароў, 401 населены пункт, 7547 сял. гаспадарак (у т.л. 5431 хутарскую); дзейнічалі пераважна дробныя прадпрыемствы: 6 лесапільных, 2 смалакурныя, 2 вапнавыя, вінакурны, па вырабе шчотак для часання воўны, па вырабе кафлі, 12 млыноў, зверасаўгас па развядзенні чорных лісоў (створаны ў 1939 г., 676 галоў). Працавалі 4 паштова-тэлегр. агенцтвы, няпоўная і сярэднія школы, 54 пач. сельскія школы, 2 бальніцы, 3 клубныя ўстановы. 12.10.1940 г. раён падзелены на 13 сельсаветаў: Асіпавіцкі, Бараўскі, Іжскі, Каловіцкі, Касцяневіцкі, Кузьміцкі, Куранецкі, Рабунскі, Рускасельскі, Рэчкаўскі, Талуцкі, Халапоўскі. Напярэдадні Вял. Айч. вайны працавалі райпрамкамбінат, кавальска-слясарныя майстэрні, 2 вапнавыя і 2 лесазаводы, з-д безалкагольных напояў, мылаварнае, аўчынна-футравае, ганчарнае прадпрыемствы, 2 хлебапякарні;





*Вілейскія краявіды.*





дзейнічалі 13 калгасаў, МТС. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў раёне больш за 15 тыс. сав. грамадзян. 2 вёскі (Боркі, Любча) і 3 хутары (Клюева, Рабцова, Янава) былі спалены разам з жыхарамі; пасля вайны не адрадзіліся. На тэр. раёна дзейнічалі Ільянскі і Куранецкі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Вілейскае антыфаш. падполле, Вілейскае партыз. злучэнне; выходзілі падп. газеты «Партизанская правда», «Сялянская газета», «Народный мститель», «Молодёжная правда». Раён вызвалены войскамі 3-га Бел. фронту ў ходзе Мінскай аперацыі 1944 г. 5.7.1946 г. Куранецкі р-н перайменаваны ў Вілейскі, які ўвайшоў у Маладзечанскую вобл. 16.7. 1954 г. скасаваны г.п. Куранец, Талуцкі і Халапоўскі сельсаветы. 20.7.1957 г. да Вілейскага р-на далучана тэр. скасаванага Ільянскага р-на. 6.9.1957 г. скасаваны Карпавіцкі, Латыгальскі, Навагуцкі, Радзькавіцкі, Суднікоўскі, 18.5.1959 г. — Чурлёнскі сельсаветы. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.; 25.12.1962 г. да раёна далучаны Ваўкалацкі (скасаваны 4.4. 1973 г.), Даўгінаўскі, Жарскі (скасаваны 8.2.2010 г.), Мільчанскі (скасаваны 31.3.1977 г.) сельсаветы Крывіцкага р-на. На пач. 1949 г. ў раёне калектывізавана 72,9% сял. гаспадарак. У 1960/1961 навуч. годзе ў раёне 125 школ, у т.л. 7-гадовых — 27, 8-гадовых — 2, сярэдніх — 14. У 1965 г. дзейнічалі 13 прам. прадпрыемстваў, 38 калгасаў і саўгасаў; 147 школ, 39 клубаў, 29 б-к, 7 бальніц, 39 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 21 камбінат быт. абслугоўвання, 183 крамы; у 1971 г. дзейнічалі саўгас-тэхнікум, 2 ПТВ. У 1968—76 гг. па тэр. раёна пракладзена Вілейска-Мінская водная сістэма.

Большая частка раёна ў межах Нарачана-Вілейскай нізіны, на ПдУ — на Мінскім узвышшы. Пераважаюць вышыні 150—180 м, максімальная — 257,4 м (г. Міроткава, каля в. Пляшчаны, Хаценчыцкі с/с). Карысныя выкапні: торф, пясчана-гравійны матэрыял, гліны, сап-



*Памятны знак на месцы былой в. Малмыгі, адселенай у час будаўніцтва Вілейскага вадасховішча.*



*Вілейскае вадасховішча каля в. Сосенка.*





рапель. Сярэдняя тэмпература студз. -6,6 °С, ліп. 17,6 °С. Ападкаў 656 мм у год. Працякае р. Вілія з прытокамі Нарач, Сэрвач, Ілія; на ПдЗ — воз. Вішнеўскае. Побач з горадам буйнейшы ў Беларусі штучны вадаём — Вілейскае вадасховішча (створана ў 1973 г., пл. 63,3 км$^2$, аб'ём 238 млн. м$^3$). Пад лесам 41% тэр. У межах раёна частка нац. парку Нарачанскі. Агульная пл. с.-г. ўгоддзяў складае 103,4 тыс. га, у т.л. ворная — 52,4 га. Сярэдні бал ворнай зямлі 30,3, сельгасугоддзяў — 28,4. Вядучыя галіны с.-г. вытв-сці: малочная і малочна-мясная жывёлагадоўля, бульбаводства, агародніцтва, а таксама зверагадоўля. Працуюць (2008) 27 с.-г. прадпрыемстваў, у т. л. 10 СВК, 5 с.-г. УП, 6 с.-г. філіялаў прадпрыемстваў-інвестараў, сортавыпрабавальная станцыя, 28 фермерскіх гаспадарак (505 га ворыва). На базе буйных вёсак — цэнтраў сельсаветаў і с.-г. прадпрыемстваў — створаны аграгарадкі Нарач, Любань, Куранец, Людвінова, Ерхі, Вязынь, Даўгінава (2005—08 гг.). Дзейнічаюць прадпрыемствы: «Вілейскі хлебазавод» (філіял РУП «Барысаўхлебпрам»), КУП «Памяць-В»; ААТ «Буддэталі», «Вілейская мэблевая фабрыка» (філіял ЗАТ «Маладзечнамэбля»), «Вілейскі камбікормавы завод», «Вілейскі гармалзавод», «Вілейскі рамонтны завод», «Зеніт-БелОМА» і інш.; 11 буд. арг-цый, міні-ТЭЦ, гідраэлектрастанцыя. У раёне 18 дашкольных, 25 школьных устаноў, у т.л. 20 сярэдніх, 2 базавыя школы, 2 прафес.-тэхн. вучэбныя ўстановы (каледж, ліцэй), школа-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі мовы; раённая бальніца (415 ложкаў), анкалагічны і скурна-венералагічны дыспансеры, 2 участковыя бальніцы, 7 урачэбных амбулаторый, 2 паліклінікі, 28 ФАПаў, 4 здраўпункты, 43 б-кі, 38 клубных устаноў, метадычны цэнтр нар. творчасці, Дом рамёстваў, краязнаўчы музей, працуюць 15 калектываў са званнем «народны» і «ўзорны», пазашкольныя ўстановы муз. і мастацкай адукацыі. У сферы гандлю і абслугоўвання працуюць 217 крам,

*Вілейскае вадасховішча.*










*На гэтым месцы была в. Любча, спаленая нямецка-фашысцкімі захопнікамі разам з жыхарамі ў Вялікую Айчынную вайну.*

*Уязны знак у г. Вілейка.*





*Памятны знак на месцы былой в. Рыбчына, адселенай у час пабудовы Вілейскага вадасховішча.*



міні-кірмаш КУП «Садружнасць», 2 гандл. цэнтры, 2 кірмашы, 25 устаноў грамадскага харчавання (1048 пасадачных месцаў), КУП «Вілейскі камбінат бытавога абслугоўвання», 16 сельскіх комплексных прыёмных пунктаў; 3 гар. і 30 сельскіх аддз. паштовай сувязі, 6 гар. і 32 сельскія АТС. Дзейнічаюць 45 рэліг. абшчын, 5 канфесій, у т.л. 25 праваслаўных, 9 каталіцкіх. На тэр. раёна 300 помнікаў гісторыі і культуры, у т.л. 48 архіт. (сярод іх 11 палацава-паркавых комплексаў), 50 археал., 146 воінскіх і інш. пахаванняў часоў Вял. Айч. вайны. Выдаецца газ. «Шлях перамогі».

**ВІЛЕЙКА** — горад, цэнтр раёна. За 103 км на ПнЗ ад Мінска, на р. Вілія (прыток Нёмана), чыг. станцыя на лініі Маладзечна—Полацк. 28,6 тыс. жыхароў (2008).

Паводле гіст. сведчанняў, да 17 ст. мела назву Куранец. Мясцовасць была заселена ў глыбокай старажытнасці. Аб гэтым сведчаць 2 гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі (ад 7—6 ст. да н.э. да 4—5 ст. н.э.) — сляды паселішчаў балцкага паходжання. У 2-й пал. 1-га тыс. тут пасяліліся славяне — полацкія крывічы, якія, як мяркуецца, далі імя рацэ каля паселішча (Вялля, Веля, Велья). У пач. 15 ст. на правым беразе Вяллі пры



ўпадзенні ў яе р. Пляснеўка згадваецца гаспадарскі двор Куранец як цэнтр дзярж. воласці, які знаходзіўся паблізу с. Вялейскае (Вялейка). У 14—15 ст. Куранецкая вол. распалася на 2 двары (з назвай Куранец): вялікакняжацкі (каралеўскі) на Вяллі і прыватнаўласніцкі на р. Пела (прыток Вяллі). Першы (наз. Стары Куранец) — цэнтр вол., другі — цэнтр Куранецкага маёнтка. Каля 15 ст. склалася асобная адм.-тэр. адзінка — дзяржава і двор Стары Куранец. У 1469 г. ўзгадваецца куранецкі дзяржаўца, маршалак гаспадарскі Іванішка Кучук. У канцы 15 ст. дзяржава ў вотчынным уладанні П.М.Белага, маршалка земскага, ваяводы Трокскага. Пасля яго смерці (1498) маёнтак перайшоў да яго 2-й жонкі — Ганны Гальшанскай. У 1558 г. маёнтак Стары Куранец зноў у дзярж. уласнасці (дзяржава Куранец). У 1567 г. мяст. Куранец. У 1588 г. двор з мястэчкам і валасцъ перайшлі да Л.Сапегі, які ў 1589 г. далучыў яго да Маркаўскага староства. У 1560-я г. ў мястэчку засн. праваслаўная царква (у цэнтры, на рыначнай плошчы). У 1617 г. Я.Сапега перадаў правы на Куранец брату Крыштафу. У яго прывілеі дзяржава, двор і мяст. Куранец названы як Вялейка. Гэта назва адлюстравана на карце ВКЛ 1603 г. (мяст. Вілейка, а не Куранец). У 1676 г. дзярж. ўладанне Вілейка каралём Янам III Сабескім [1674—96 гг.] падараваны К.Пацу, канцлеру ВКЛ, які перадаў яго (дзяржаву Вялейка з дваром, фальваркам і сёламі) сыну М.Пацу. Вялейка стала староствам. У 1679 г. ў ім згадваюцца мястэчка, фальваркі, сёлы, млыны, корчмы. У 1727 г. кароль Аўгуст II падараваў мястэчку прывілей на штотыднёвы гандаль і 3 штогадовыя кірмашы. У 1765 г. ў мястэчку 30 дамоў, 126 жыхароў, у с. Вялейка 28 дамоў, 156 жыхароў. У 1775 г. на месцы б. Свята-Троіцкай царквы пабудавана новая. У 17—18 ст. мястэчка ў складзе Вілейскага староства Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расіі, з 14.5.1795 г. горад, павятовы цэнтр Мінскай губ. У 1796 атрымаў герб: чырвонае поле шчыта перасякае рака з суднам і залатым коласам. У 1797 г. было 49 дамоў, 310 жыхароў, паштовая станцыя. У 1801 г. 62 дамы, 241 жыхар, царква, карчма, млын. У 1803 г. адкрыта аднакласнае прыходскае вучылішча. Вял. страты гораду нанеслі пажар 1810 г. і вайна 1812 г. Падчас паўстання 1830—31 гг. ў горадзе дзейнічаў паўстанцкі к-т (9 чл. на чале з памешчыкам І.Гячэвічам), атрад пад камандаваннем С.Радзішэўскага. У маі 1830 г. яго атрад захапіў горад (больш за



*Панарама г. Вілейка.*



*Чыгуначны вакзал у г. Вілейка.*





*Вілейскі краязнаўчы музей.*

*Царква ў імя прападобнай Марыі Егіпецкай у г. Вілейка.*

*Жылы дом па вуліцы Чырвонаармейскай у г. Вілейка.*

*Стаматалагічная паліклініка ў г. Вілейка. Помнік архітэктуры пачатку 20 ст.*

2 тыс. інсургентаў), але быў разгромлены атрадам 2-га казацкага палка Балцэнталя, мяцежнікі страцілі 200 чал. У





1841 г. 220 дамоў, 1369 жыхароў, 15 вуліц і завулкаў, 6 крам, 5 піцейных дамоў, 3 царквы, яўр. школа, правіянцкі магазін, перавоз. З 1842 г. ў Віленскай губ. У склад горада ўключана казённая в. Вілейка, сяляне якой у выніку сталі мяшчанамі. У 1854 г. адкрыта яўр. казённае вучылішча. У 1860 г. ў Вілейцы 272 дамы, 2931 жыхар, царква, 3 яўр. малітоўныя школы, 14 крам, шпіталь, 3 капліцы, бровар. У 1863 г. пабудаваны касцёл (у 1874 г. пераўтвораны ў Георгіеўскую царкву). У 1865 г. пабудавана царква ў імя прападобнай Марыі Егіпецкай. Падчас паўстання 1863—64 гг. ў наваколлі Вілейкі дзейнічаў атрад В.І.Козела. У 1865 г. адкрыта нар. 2-класнае вучылішча. У канцы 19 ст. 496 дамоў, 3561 жыхар, 2 царквы, капліца, 4 яўрэйскія малітоўныя дамы, 48 лавак, 8 корчмаў, з-д штучнай вады і ліманаду, паштовая станцыя, прыходскае вучылішча, шпіталь, кірмашы па нядзелях. У 1899 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1907 г. праз Вілейку прайшла чыгунка; 630 дамоў, 4060 жыхароў, 5 корчмаў, 5 заезных дамоў, ф-ка і з-д, натарыяльная кантора, 3-класнае гар. вучылішча (былое двухкласнае нар.). У рэвалюцыю 1905—07 гг. у горадзе дзейнічалі рэв. сялянскі к-т, с.-д. група. Працавалі прыходскія двухкласнае мужчынскае і аднакласнае жаночае вучы-





Капліца ў гонар 2000-годдзя хрысціянства ў г. Вілейка.



Ахоўны знак на будынку гімназіі ў г. Вілейка.

лішчы; у 1907 г. адкрыта прыватнае жаночае 4-класнае вучылішча (з 1910 г. — прагімназія). Восенню 1915 г. горад і павет сталі арэнай жорсткіх баёў рас. арміі з войскамі кайзераўскай Германіі. У вер. ў ходзе Віленскай аперацыі ў баях за горад вызначыліся воіны 45-й пяхотнай дывізіі 2-й рас. арміі. У пач. ліп. 1919 г. акупіраваны польскімі войскамі. Ад тэрору, голаду і хвароб да 1920 г. ў горадзе і павеце загінулі 1022 дарослыя і 1018 дзяцей. У 1921 г. ў Вілейцы 3417 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага, потым Віленскага ваяводстваў. Дзейнічалі падп. райкомы КПЗБ і КСМЗБ, арг-цыі БСРГ і ТБШ. Пад кіраўніцтвам ТБШ у павеце было адкрыта 10 бел. школ, 11 б-к, 8 нар. дамоў. У 1931 г. 876 дамоў, 5533 жыхары; 7-класная польска-бел. школа, гімназія; паліцэйская камендатура, турма; касцёл (пабудава-



Крыжаўзвіжанскі касцёл у г. Вілейка.



Царква ў імя свяціцеля Ціхана, патрыярха маскоўскага, на ўскраіне г. Вілейка.

ны ў 1907—13 гг.), 2 царквы, сінагога; 2 гасцініцы. У 1935 г. 29 вуліц, плошча, электрастанцыя, лесазавод, бальніца, кінатэатр «Палонія», нар. дом, штотыднёвыя таргі. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. цэнтр Вілейскай вобл. БССР, 911 дамоў, 6391 жыхар; электрастанцыя, 2 лесапільныя з-ды, 2 паравыя млыны, пры якіх цэхі па вытв-сці газіраванай вады, паштова-тэлегр. кантора, сярэдняя і 2 няпоўныя сярэднія школы, Дом культуры, кінатэатр, друкарня, гар. спажывецкае т-ва: 187 гандл. прадпрыемстваў, 4 каап. крамы, 137 саматужнікаў. Выдавалася абл. «Сялянская газета». З 4.12.1939 г. да 15.1.1940 г. цэнтр павета Вілейскай вобл. У 1940 г. працавалі сярэдняя, няпоўная сярэдняя і вячэрняя школы, Дом піянераў, дзіцячая тэхн. школа, школа фабрычна-заводскага навучання будаўнікоў, 2 лесапільныя з-ды, бальніца, аптэка, дзіцячы сад. З 25.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала Вілейскае антыфаш. падполле. 31.10—1.11.1943 г. партызаны 1-й антыфаш. брыгады Мінскай вобл. (камандзір У.У.Гіль-Радзіёнаў) разграмілі чыг. станцыю: знішчылі станцыйныя збудаванні, лесапільны з-д, млын, 10 складоў, 4 чыг. і шашэйныя масты, знішчылі 120 фашыстаў. З крас. 1944 г. да ліп. 1944 г. ў горадзе дзейнічаў Вілейскі падп. гарком КП(б)Б (сакратар Е.І.Кавалёва). Вызвалена 2.7.1944 г. часцямі 35-й гв. танкавай брыгады (камандзір ген.-маёр А.А.Асланаў), 7-й механіз. брыгады (палкоўнік М.М.Радзіёнаў) пры ўзаемадзеянні з партыз. брыгадай «Народныя мсціўцы» імя Варанянскага Мінскай вобл. (камандзір Г.Ф.Пакроўскі). У выніку вайны гаспадарка горада страціла 80% свайго патэнцыялу, з 1300 дамоў засталося толькі 240. На фронце загінулі 130 жыхароў Вілейкі. У горадзе фашыстамі расстраляны 6872, спалены жывымі 273 мірныя жыхары, знішчаны 393 ваеннапалонныя. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 5.7.1946 г. цэнтр раёна. У 1944 г. аднавіў работу лесапільны з-д, у 1946 г. ён пераўтвораны ў з-д буддэталей «Перамога», пачалі дзейнічаць хлебазавод, гармалзавод; у 1948 г. 2 сярэднія школы, вячэрняя школа рабочай моладзі, кінатэатр «Перамога». У 1945 г. 3353 жыхары, у 1955 г. 7940 жыхароў, у 1959 г. 8,2 тыс. жыхароў. У 1954 г. створана арцель па вырабу мэблі (пазней ф-ка), у



*Будынак банка ў г. Вілейка.*



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у г. Вілейка.*



1959 г. на базе машынна-меліярацыйнай станцыі засн. завод па рамонце рухавікоў і аўтамабіляў. У 1965 г. ўведзены ў эксплуатацыю 1644 жылыя дамы, адкрыты 2 ПТВ; працавалі 32 гандл. прадпрыемствы. У 1970 г. дзейнічалі з-ды: буддэталяў, аўтарамонтны, маслазавод, з-д па вытв-сці кафлі; прамкамбінат, шыферны цэх, КБО, цэх мэблевай ф-кі, механічныя майстэрні, з 1973 г. — оптыка-механічнае прадпрыемства «Зеніт» па выпуску фотаапаратуры; 12,2 тыс. жыхароў. Да пач. 21 ст. праведзена рэарганізацыя і тэхн. пераўзбраенне эканомікі горада. Значная колькасць прадпрыемстваў акцыяніравана. У 2009 г. працуюць ААТ «Зеніт-БелОМА», мэблевая ф-ка (філіял ЗАТ «Маладзечнамэбля»), хлебазавод (філіял РУП «Барысаўхлебпрам»), ААТ «Буддэталі», «Вілейскі камбікормавы завод», «Вілейскі гармалзавод», «Вілейскі рамонтны завод», ТАА «Камдор», прыватнае унітарнае вытв. прадпрыемства «Лаза» і інш.; КУП «Вілейскі камбінат бытавога абслугоўвання», цэнтр. райбальніца, паліклініка, анкалагічны і скурна-венералагічны дыспансеры, 6 агульнаадукац. устаноў, спецшкола-інтэрнат, прафес.-тэхн. каледж, с.-г. прафес. ліцэй № 1, Бел. тэхнікум бізнесу і права, Палац культуры, Цэнтр маст. творчасці, дзіцячая школа мастацтваў, гіст.-краязнаўчы музей і інш. Помнікі архітэктуры: царква ў імя Прападобнай Марыі Егіпецкай (1865), Крыжаўзвіжанскі касцёл (1906—13). Радзіма дзеяча рэв. і нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі Ф.І.Валынца (8.1.1879—3.11. 1937); бел. тэатр. дзеяча М.Ф.Красінскага (1891— 23.11.1938); бел. грамадскага і культ. дзеяча А.М.Уласава (28.8. 1874—11.3.1941); бел. хірурга, д-ра мед. навук, праф. Л.В.Аўдзея (7.4.1929—5.7. 1977); сав. вучонага ў галіне гідраўлікі і гідраэнергетыкі, акадэміка Азербайджанскай АН, засл. дзеяча навук Азербайджанскай ССР, Героя Працы, д-ра тэхн. навук, праф. І.Г.Есьмана (13.12. 1868—1.7. 1955).

**АБАДОЎЦЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, цэнтр. сядзіба аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 30 км на ПдУ ад горада і 32 км ад чыг. ст. Вілейка, на



*А.М.Уласаў.*



*Скульптура «Вяллява» ў г. Вілейка.*



*Фантаны на плошчы Леніна ў г. Вілейка.*




шашы Вілейка–Ілья, 85 км ад Мінска. Аўтобусная станцыя. 125 гаспадарак, 329 жыхароў (2008).

У 1800 г. фальварак у маёнтку Старынкі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Багдановічаў. У 1836 г. маёнтак, уласнасць І.Ф.Багдановіча, старшыні Мінскай крымінальнай палаты. За ўдзел у паўстанні 1863 г. канфіскаваны, пазней вернуты ўладальнікам. У апошняй чвэрці 19 ст. яны пабудавалі тут сядзібу. У 1896 г. маёнтак у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць А.Багдановіча, была капліца. У пач. 20 ст. сядзіба, 49 жыхароў, 2206 дзес. зямлі. У лютым— снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919— ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак, у Ільянскай вясковай гміне, 4 двары, 162 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл. БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не той жа вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У лютым 1940 г. на базе былога маёнтка створаны жывёлагадоўчы саўгас «Абадоўцы» (у 1939 г. ў маёнтак уваходзілі 2 фальваркі, працавалі фанерная ф-ка, лесапільны і алейны з-ды, млын, сырзавод, быў дзіцячы дом). Саўгас меў 2204 га с.-г. угоддзяў, у т. л. 884 га ворыва. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся партыз. атрад імя К.Я.Варашылава. 14.3.1944 г. партызаны разграмілі ў Абадоўцах варожы гарнізон. З фронту не вярнуліся 3 жыхары вёскі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 285 жыхароў. У 1969 г. 103 двары, 436 жыхароў, цэнтр саўгаса «Асцюковічы». Працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, магазін. 4.6.1974 г. саўгас «Асцюковічы» далучаны да Ільянскага саўгаса-тэхнікума з цэнтрам у Абадоўцах. У 1988 г. саўгас меў 6675 га с.-г. угоддзяў, у т. л. 3073 га ворыва; 140 двароў, 369 жыхароў, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, магазін, сталовая. У 2009 г. клуб, б-ка, ФАП, ма-

*Капліца (канец 19 ст.) у в. Абадоўцы: 1 — знешні выгляд; 2 — інтэр'ер.*


1


2



газін. У вёсцы 2 капліцы: адна (архіт. помнік, канец 19 ст.) на паўд., другая (канец 20 ст.) — на ўсх. ускраінах.

**АДАМОЎШЧЫНА** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод № 2», філіяла «Юнік-агра». За 40 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 99 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 9 жыхароў, уласнасць Л.Каменскага. У 1867 г. ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 18 жыхароў. У 1908 г. ў складзе Рагодзінскай сельскай грамады той жа воласці, 2 двары, 18 жыхароў, 30 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 4 двары, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Ракшыцкім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 16.7.1954 г. ў складзе Альковіцкага с/с. У 1960 г. 36 жыхароў, у 1988 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «За мір».

**АЗЯРОДАВІЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе РСУП «Першы Беларускі». За 31 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 7 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 130 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце Вілейскага ваяв., уладанне Рагозы, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўласнасць Ю.Нарушэвіча ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 20 двароў, 134 жыхары, затым уласнасць В.Рагозы ў Вілейскім павеце Віленскай губ. (1844). У канцы 1897 г. в. Азеравічы ў тым жа павеце, у Княгінінскай вол. Віленскай губ., 24 двары, 155 жыхароў. У 1908 г. 215 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 38 двароў, 194 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 да 3.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калгас імя Варашылава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 142 жыхары; у 1988 г. 5 двароў, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі».

**АЗЯРЭЦ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе КУП «Мінскаблдарбуд», с.-г. філіял «Вязынскі». За 16 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска Азярцы ў маёнтку Вязынь, уласнасць манашак-бенедыкцінак віленскага касцёла св. Кацярыны,



*Капліца (канец 20 ст.) у в. Абадоўцы.*





канфіскавана ў казну, у Вілейскім старостве Віленскага ваяв. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 35 жыхароў, уладанне ген.-маёра Горыча. У сярэдзіне 19 ст. дзярж. уласнасць. У 1897 г. 14 двароў, 106 жыхароў, у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. На пач. 20 ст. 106 жыхароў, 98 дзес. зямлі. У 1908 г. ў складзе Ялоўскай сельскай грамады, 89 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 107 жыхароў, у 1938 г. 21 двор, 129 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 124 жыхары, у 1988 г. 25 двароў, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь».

**АЛЬКОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Альковіцкага с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод № 2», філіяла «Юнік-агра». За 43 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 4 км ад шашы Вілейка—Плешчаніцы, 102 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1-й чвэрці 18 ст. сяло ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1722 г. пабудаваны драўляны касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўласнасць Л.Гарайна, 10 двароў, 71 жыхар, уніяцкая царква, карчма, 2 кірмашы ў год. У 1886 г. сяло ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., касцёл, штогадовы кірмаш. У 1897 г. сяло, 20 двароў, 137 жыхароў, касцёл, крама, піцейны дом. У 1899 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 126 жыхароў; 143 дзес. зямлі, аднакласнае нар. вучылішча. У 1908 г. ў складзе Сушкоўскай сельскай грамады той жа воласці, 13 двароў, 126 жыхароў, 113 дзес. надзелаў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 — ліп. 1920 гг. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны Вілейскага павета Віленскага ваяв., мястэчка, 28 двароў, 170 жыхароў. У 1938 г. ў Ільянскай гміне, 44 двары, 311 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Альковіцкага с/с. У 1939 г. ў вёсцы 41 двор, 325 жыхароў, у складзе сельсавета 46 паселішчаў, 3157 жыхароў, на базе былых маёнткаў створаны калгасы «Чырвоная Армія» (20 гаспадарак), «1 Мая» (30 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся варожы гарнізон. У ваколіцах вёскі дзейнічалі партыз. брыгады імя Жалезняка і «Народны мсцівец». Партызаны двойчы грамілі ў вёсцы варожы гарнізон. З фронту не вярнуліся 2 жыхары вёскі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў



*Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Альковічы.*



Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У снеж. 1949 г. тут створаны калгас «Кастрычнік», які ў 1950 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку, меў 2030 га ворнай зямлі. У 1969 г. ў вёсцы 35 двароў, 128 жыхароў; пач. школа, клуб, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка; у 1988 г. 33 гаспадаркі, 66 жыхароў, у складзе саўгаса «За мір» (цэнтр — в. Забалацце); у 2009 г. дзейнічаў магазін. Помнікі архітэктуры — касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі (1897—1902) і драўляная званіца касцёла. Вёска — радзіма бел. дзярж. і гасп. дзеяча К.З.Цераха (н. 26.11.1935).

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 39 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 79 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 6 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 4 двары, 21 жыхар. У 1908 г. 43 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. засценак у Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў, 28 жыхароў. У 1938 г. ў засценку — 5 двароў, 30 жыхароў; у лесніхоўцы 1 двор, 7 жыхароў. З ліст. 1039 г. ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл. БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 22 жыхары; у 1988 г. 4 двары, 9 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума (цэнтр — в. Абадоўцы).

**АЛЬШЭЎЦЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 25 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 130 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1842 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Жэлігоўскага, 11 жыхароў. У 1858 г. ў маёнтку Мар'янполь. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 12 двароў, 89 жыхароў. У 1908 г. 120 жыхароў, 107 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 114 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 6.1.1950 г. створаны калгас «8 Сакавіка». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 88 жыхароў, у 1980 г. ў Касцяневіцкім с/с, у 1988 г. 16 двароў, 34 жыхары, у складзе калгаса «Зара».

**АНДАЛОЎШЧЫНА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 127 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць віленскага езуіцкага касцёла св. Яна, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра П.Бардакова, 8 двароў, 77 жыхароў. У канцы 19 ст. ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 6 двароў, 127 жыхароў; у пач. 20 ст. 154 жыхары, 253 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 37 двароў, 59 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касця-





невіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Кураневіцкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1988 г. ў вёсцы 7 двароў, 14 жыхароў, у складзе калгаса «Беларускі».

**АНОШКІ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім с/с), у складзе філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напояў». За 48 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 144 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 37 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у складзе маёнтка Даўгінава Б.Каменскага, 1 двор. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 18 двароў, 115 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 56 двароў, 361 жыхар. У 1908 г. 460 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; у 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 91 двор, 424 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуўся 1 жыхар. З 20.9. 1944 г. ў Даўгінаўскім с/с Крывіцкага р-на Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей. У чэрв. 1950 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь». З 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 383 жыхары. У 1988 г. 65 двароў, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда», вячэрняя школа. У 2003 г. 32 гаспадаркі, 59 жыхароў.

**АПЕНЬКІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 47 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 134 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у маёнтку Даўгінава, уласнасць Б.Каменскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 7 двароў, 45 жыхароў, уласнасць Л.Каменскага, у 1861 г. ў маёнтку Сасноўшчына Казлоўскага. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 18 двароў, 80 жыхароў. У 1908 г. 116 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 139 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12. 1939 г. ў Віленскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. таго ж раёна Маладзечанскай, з 25.1.1962 г. ў Вілейскім р-не Мінскай вобл. У студз. 1950 г. створаны калгас імя Катоўскага. У 1960 г. 175 жыхароў, у 1988 г. 37 двароў, 82 жыхары, у складзе саўгаса «Даўгінава», працавалі б-ка, магазін. У 2003 г. 27 гаспадарак, 40 жыхароў.

**АРПА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 29 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 16 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 129 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 43 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1629 г. маёнтак у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., уладанне зямянкі ашмянскай Сафіі Сіроцінай. У 1690 г. маёнткі: Арпа Рыпніца — С.Альшэўскага, Арпа Хведароўшчына — С.Рымінскага, Арпа Федароўшчына — С.Сіраты, Арпа Лоткі — У.Валадковіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., сумесная уласнасць



Р.Слізня (9 двароў, 62 жыхары, 6 яўрэяў-мяшчан), А. Ходзькі (2 двары, 23 жыхары), Л.Багдановіч (1 двор, 4 жыхары) і ваколічнай шляхты (2 двары, 7 жыхароў). У 1897 г. в. Орпа ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 21 двор, 144 жыхары. У 1908 г. 195 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 44 двары, 242 жыхары; засценак Сіроткі — 13 двароў, 75 жыхароў; маёнтак — 6 двароў, 55 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 6.1.1950 г. створаны калгас «Сталінская канстытуцыя». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 150 жыхароў, на аднайменным хутары 15 жыхароў. У 1988 г. 35 двароў, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Ерхі). За 1,2 км на ПдУ ад вёскі археал. помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі.

**АСАВЕЦ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы», за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 10 км ад чыг. станцыі Княгінін на аўтадарозе Івашынавічы—Грыгаркі, 119 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 48 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 8 двароў. У 1797 г. ў Вілейскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўладанне І.Куранецкага, 12 двароў, 105 жыхароў. У 1833 г. вёска ў Карэкаўскім войтаўстве, дзярж. ўласнасць, 23 дымы. У 1897 г. вёска ў Рабуньскай вобл. Вілейскага павета Віленскай губ., 27 двароў, 284 жыхары. У 1898 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 348 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 63 двары, 357 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. Працавалі цагельня, прадпрыемства па вырабе вапны. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў вёскі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 22.6.1946 г. створаны калгас «1 Мая», у 1950 г. далучаны да калгаса «Камсамолец». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 331 жыхар; у 1988 г. 60 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол»; б-ка.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 19 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 125 км ад Мінска, на аўтадарозе Асіпавічы— Красніца. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У гіст. крыніцах вядома з 18 ст. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны. У 1852 г. засценак у складзе маёнтка Тэклінаполь З.Любанскага, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. ў Вілейскай вол. тых жа павета і губерні, 6 двароў, 39 жыхароў. У 1905 г. 58 жыхароў, у 1908 г. 2 двары, 21 жыхар, 37 дзес. надзелаў, у складзе Прэшцянскай сельскай грамады. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. 15 двароў, 74 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 17 двароў, 51 жыхар. З 25.6.1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. спалена карнікамі, загінулі 10 жыхароў; з фронту не





вярнуліся 3 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў складзе калгаса імя Суворава, 51 жыхар; у 1988 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары; у 2003 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**АСІПАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Асіпавіцкага с/с, цэнтр. сядзіба падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 100 км ад Мінска, каля р. Спорня, на аўтадарозе Асіпавічы—Шылавічы. 150 гаспадарак, 371 жыхар (2008).

У пач. 18 ст. сяло ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць вілейскага старасты М.Паца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1801 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 124 душы дзярж. сялян. У 1886 г. ў Вілейскай вол. і павеце Віленскай губ., 30 двароў, 338 жыхароў. У 1892 г. адкрыта школа граматы; у 1897 г. 67 двароў, 402 жыхары; у 1908 г. ў складзе Вілейскай сельскай грамады тых жа вол. і павета, 30 двароў, 465 жыхароў, 295 дзес. надзелаў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі, у жн. 1919 — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 86 двароў, 452 жыхары, працавала дзярж. бел. пач. школа (у 1938 г. скасавана). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Асіпавіцкага с/с, 86 двароў, 452 жыхары; у сельсавеце 34 паселішчы, 3300 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У раёне вёскі базіраваўся і дзейнічаў партыз. атрад «За Радзіму» брыгады імя М.В.Фрунзе. На могілках брацкая магіла, дзе пахаваны 4 партызаны гэтага атрада, якія загінулі ў баі 6.5.1944 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск. За час вайны загінулі 98 землякоў, на ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. пастаўлена стэла. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1949 г. створаны калгас імя Будзённага, 18.9.1950 г. ўзбуйнены пад назвай імя Суворава (цэнтр — в. Асіпавічы). У 1969 г. 139 двароў, 406 жыхароў; сярэдняя школа, ФАП, клуб, магазін; у 1988 г. 171 гаспадарка, 450 жыхароў, у калгасе 3489 га сельгасугоддзяў, комплексны прыёмны пункт, дзіцячыя яслі-сад, ФАП, сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін, гіст.-краязнаўчы музей. У 2003 г. 147 гаспадарак, 371 жыхар, сярэдняя школа-сад, б-ка, ФАП, клуб, аддз. сувязі, магазін.

**АСТАШКАВА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 22 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 124 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

У 1690 г. маёнтак у Вілейскім старостве Ашмянскага павета, сумесная ўласнасць С.Харэвіча, П. і М. Невяровічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска і фальварак у маёнтку Куранец, уладанне Ромераў — падкаморыяў трокскіх. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ю.Ромера, 6 двароў, 41 жыхар. У 1897 г. вёска ў Рабуньскай вол. Віленскага ваяв., у Вілейскім павеце, 19 двароў, 13 жыхароў; сядзіба (10 жыхароў). У 1908 г. 191 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 36 двароў, 177 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рабуньскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў вёскі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзе-





*Капліца ў в. Асцюковічы.*

чанскай вобл. 6.1.1950 г. створаны калгас «8 Сакавіка»; з 19.1.1949 г. — калгас імя Сталіна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 185 жыхароў. З 1979 г. ў Касцяневіцкім с/с, у 1988 г. 31 двор, 72 жыхары, у складзе калгаса «Зара», працаваў магазін.

**АСТРАВЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 20 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 122 км ад Мінска. 2 двары, 2 жыхары (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 2 двары, 11 жыхароў; у 1841 г. ўласнасць І.Любанскага, 5 двароў, 39 жыхароў. З 1842 г. ў Віленскай губ. У 1873 г. цэнтр сельскай грамады ў Куранецкай вол., у складзе маёнтка Любань, 20 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Іжскай вол. таго ж павета, 11 двароў, 87 жыхароў; у 1908 г. ў Куранецкай вол., 11 двароў, 93 жыхары, 92 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 15 двароў, 108 жыхароў; у 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 22 двары, 126 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 78 жыхароў. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с Вілейскага р-на ў калгасе «Чырвоны Сцяг». У 2003 г. 7 гаспадарак, 7 жыхароў.

**АСЦЮКОВІЧЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе ЗАТ «РОСТЭМ» аграфірмы «Ілья». За 28 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 79 км ад Мінска, на аўтадарозе Вязынь—Забор'е. 37 гаспадарак, 93 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1585 г. маёнтак у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Осцікаў, затым падскарбія і пісара ВКЛ Я.Глябовіча. У 1726 г. ў Вілейскім старостве Віленскага ваяв., уласнасць М.А. Савіцкага, пісара віленскага, у 1728—38 гг. маёра І.Савіцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1828 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., маёнтак, уласнасць І.Тукалы, 8 душ мужчынскага полу. З 1842 г. ў



*Рэшткі брамы сядзібна-паркавага комплексу ў в. Асцюковічы.*

Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. маёнтак у Хаценчыцкай вол., уласнасць Тукалаў, 67 жыхароў; крухмальны і маслабойны з-ды. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., уласнасць Тукалаў, 10 двароў, 108 жыхароў; у маёнтку 1200 га угоддзяў (300 га ворыва), сыраварня. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У 1940 г. далучаны да саўгаса «Абадоўцы». У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 211 жыхароў. У 1988 г. 52 двары, 128 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума; магазін. У 2003 г. 42 гаспадаркі, 99 жыхароў, магазін. Помнік сядзібна-паркавага мастацтва — парк (1793). Каля рэштак палаца сядзібна-паркавага комплексу архіт. помнік — капліца (1-я пал. 19 ст.).


*М.М.Аўсянік.*

**АЎСЯНІКІ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод № 2» філіяла «Юнік-агра». За 44 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 103 км ад Мінска. 44 гаспадаркі, 100 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Гарайна, 8 двароў, 54 жыхары. У 1897 г. ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 25 двароў, 229 жыхароў. У пач. 20 ст. 336 жыхароў, 243 дзес. зямлі. У 1908 г. вёска ў Стаецкай сельскай грамадзе той жа воласці, 11 двароў, 242 жыхары, 192,33 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 47 двароў, 248 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У снеж. 1948 г. створаны калгас імя С.М.Кірава, які ў 1950 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак, 2001 га ворыва. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., 185 жыхароў. У 1988 г. 63 гаспадаркі, 139 жыхароў, у складзе саўгаса «За мір». Вёска — радзіма бел. і рас. трэнера, засл. трэнера РСФСР, СССР і Беларусі М.М.Аўсяніка (10.9.1941—16.1. 1999).

**БАБІШЧА** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 15 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 109 км ад Мінска, каля р. Нарач (2 км). 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска ў Вілейскіх павеце і вол. Віленскай губ., 11 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 9 жыхароў, 18 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 3 двары, 15 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бароўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Рускасельскім с/с, 16 жыхароў, з 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**БАГДАНАВА** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 4 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 115 км ад Мінска, на шашы Вілейка—Докшыцы. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1562 г. фальварак Багданава (Габрыялоўшчына), шляхецкая ўласнасць, у Ашмянскім павеце. У 1641 г.





Сядзібны дом у в. Багданава.

маёнтак, у 1648 г. маёнтак Багданаўшчына, уласнасць С.Залескага, потым Пузыны. У 1760 г. фальварак, уласнасць Ю.Контрыма; у 1765 г. вёска, 5 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. сядзіба (да 1914 г.), фальварак і вёска Ф.Невяровіча. У 1800 г. фальварак (1 двор, 3 жыхары), вёска (4 двары, 38 жыхароў) у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска (12 двароў, 116 жыхароў), маёнтак (2 двары, 26 жыхароў) у Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1925 г. частку маёнтка набылі Шостакі, другая перайшла да Невядомскіх. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 21 двор, 118 жыхароў. Хутары: 14 двароў, 71 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР; з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў вёскі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «Савецкая Беларусь». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Куранецкім с/с, 298 жыхароў. У 1988 г. 43 двары, 96 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілейскі», б-ка, магазін. Вёска — радзіма эканаміста, публіцыста К.Контрыма (1776—11.6.1836).

**БАКУНЬКІ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 45 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 40 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 140 км ад Мінска, на р. Вілія, на аўтадарозе Сцешыцы—Каменка. 16 гаспадарак, 32 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. як сяло ў Ашмянскім павеце. У 1643 г. ў складзе маёнтка Мільча Я.Рудаміна-Дусяцкага, 6 валок зямлі, 15 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. сяло ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 9 двароў, 36 жыхароў, карчма. У 1800 г. вёска ў маёнтку Даўгінава Л.Каменскага, 9 двароў, 36 жыхароў. У 1897 г. засценак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 13 двароў, 101 жыхар. У 1908 г. 119 жыхароў, 105 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска, 36 двароў, 212 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў



Адзін з вадаёмаў былой сядзібы ў в. Багданава.





БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Жарскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 226 жыхароў, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 36 двароў, 68 жыхароў, у складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага.

**БАЛАШЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, сядзіба СВК «Балашы». За 21 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 125 км ад Мінска, на аўтадарозе Рэчкі—Грыгаркі. 104 гаспадаркі, 270 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Губскім старостве Ашмянскага павета, 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 10 двароў, 43 жыхары; засценак (1 двор, 4 жыхары); карчма, уласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Вілейскай губ., 16 двароў, 176 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска (53 двары, 280 жыхароў); чыг. будка (2 двары, 18 жыхароў) у Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскай губ. З ліст. 1939 г. ў БССР; з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала антыфаш. група. З фронту не вярнуліся 12 жыхароў вёскі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 4.11.1947 г. створаны калгас «Камсамолец». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 27 жыхароў. У 1970 г. 84 гаспадаркі, 239 жыхароў, 8-гадовая школа, б-ка, магазін. У 1988 г. 119 гаспадарак, 336 жыхароў, цэнтр калгаса «Ленінскі камсамол», які аб'ядноўваў 16 вёсак, меў 3864 га с.-г. угоддзяў; ФАП, 8-гадовая школа, дзіцячыя яслі-сад, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2009 г. дзейнічалі ФАП, аддз. сувязі, магазін.

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 56 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 12 км ад чыг ст. Будслаў, 166 км ад Мінска, на аўтадарозе Баравыя—Ваўкалатка. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у маёнтку Даўгінава Б.Каменскага, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 27 жыхароў, уладанне Л.Каменскага. У 1897 г. ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 27 двароў, 153 жыхары. У 1905 г. вёска ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 32 жыхары, 27 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 33 двары, 146 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 3 жыхары вёскі. З 20.9. 1944 г. ў Крывіцкім Маладзечанскай, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-нах Мінскай абласцей; з 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У ліст. 1949 г. створаны калгас «70-годдзе Сталіна». У 1960 г. 100 жыхароў, у 1988 г. 16 двароў, 30 жыхароў, у сладзе калгаса імя У.І.Леніна. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач археал. помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі.

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 39 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 142 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. (1712). У 1786 г. засценак у Ашмянскім павеце, 2 двары, 19 жыхароў,



шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Занарачанскай вол. Свянцінскага павета Віленскай губ., 5 двароў, 37 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Вілейскім ваяводствах. У 1923 г. вёска ў Вішнеўскай гміне Свянцянскага павета, у 1938 г. вёска той жа гміны Вілейскага павета. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943—44 гг. у вёсцы базіраваліся штаб партызанскага атрада С.Р.Суслава (камандзіры П.Р.Півавараў, У.П.Каўцюх, С.Р.Суслаў; камісары І.П.Кліманскі, Ф.І.Ларыёнаў, Д.І.Мартыненка) і Свірскі падпольны РК КП(б)Б, у гонар якіх у 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў вёсцы на доме № 13. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 87 жыхароў, у 1988 г. 17 двароў, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава.

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 39 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 142 км ад Мінска, каля аўтадарогі Міхнічы—Сліпкі. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць В.Козела, 2 двары, 14 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета, 8 двароў, 45 жыхароў; у 1938 г. 7 двароў, 159 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партызанскай барацьбе загінулі 193 земляки. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калгас «Новая праца». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1988 г. 30 двароў, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі».

**БАРАВЫЯ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 120 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1880 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 4 двары, 22 жыхары; у 1865 г. фальварак у Віленскай губ.; у 1897 г. вёска ў Куранецкай вол., 6 двароў, 32 жыхары; побач быў фальварак, 2 двары, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак у Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 2 двары, 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 26 жыхароў, у 1988 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**БАРАНЦЫ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 7 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 102 км ад Мінска, на аўтадарозе Шылавічы—Асіпавічы. 66 гаспадарак, 118 жыхароў (2008).

У 1621 г. згадваецца як сяло ў Маркаўскай дзяржаве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1765 г. ў Маркаўскім старостве, 25 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Берхмана, 26 двароў, 227 жыхароў; у

*Царква ў імя св. Іаана Прадцечы ў в. Бараўцы.*



1841 г. ўласнасць З.Любанскага, 29 двароў, 251 жыхар; у 1860 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць Скірмунта, 29 двароў, 233 жыхары. У 1897 г. вёска ў Вілейскіх вобл. і павеце, 67 двароў, 534 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 818 жыхароў, у 1908 г. цэнтр сельскай грамады, 96 двароў, 571 жыхар, 346,1 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 119 двароў, 606 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. З чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У вер. 1949 г. створаны калгас імя Куйбышава (у 1950 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак, меў 1119 га ворыва). З 20.1.1960 г. ў Асіпавіцкім с/с Вілейскага р-на Мінскай вобл. У 1960 г. 497 жыхароў. У 1988 г. 114 гаспадарак, 231 жыхар, вёска ў складзе калгаса імя Суворава, магазін. У 2003 г. 73 гаспадаркі, 149 жыхароў. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, 0,4 км на З ад шашы Вілейка—Смаргонь археал. помнік — могільнік (мясц. назва Галодныя магілы).

**БАРАЎЦЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 10 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 113 км ад Мінска. 80 гаспадарак, 171 жыхар (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. У 1579 г. сяло ў Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць Н.Мсціслаўскай, якая падаравала сяло С.Забаражскаму, і яно было далучана да маёнтка Рабунь. У 1765 г. ўласнасць віленскага бернардзінскага жаночага манастыра, 35 двароў. У 1789 г. на могілках пабудавана царква ў імя Іаана Хрысціцеля. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., вёска ў складзе маёнтка Рабунь А.Сапегі, 39 двароў, 322 жыхары; у 1844 г. 51 двор, 438 казённых сялян. У 1897 г. вёска ў Вілейскіх вол. і павеце Віленскай губ., 100 двароў, 671 жыхар. У пач. 20 ст. 818 жыхароў, 699 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 154 двары, 817 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 154 двары, 817 жыхароў. У склад сельсавета ўваходзілі 24 паселішчы, 2706 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуўся 41 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 13.12.1948 ство-



*Капліца ў гонар падзей 1-й сусветнай вайны ў в. Бараўцы.*



раны калгас імя XI з'езда ВЛКСМ. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 676 жыхароў, сельсавет яднаў 19 вёсак, 2101 жыхароў. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 147 гаспадарак, 308 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, пач. школа. У 2009 г. дзейнічалі магазін, Дом сац. паслуг, капліца ў гонар падзей 1-й сусв. вайны (1998). У вёсцы архіт. помнік — драўляная царква ў імя св. Іаана Прадцечы (мяжа 18—19 ст.).

**БАРСУКІ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 32 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 105 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў маёнтку Вязынь віленскіх манашак-бенедыкцінак. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 17 двароў, 109 жыхароў, уласнасць ген.-маёра Горыча, 3 двары, 15 жыхароў. У 1845 г. ў складзе маёнтка Малінаўшчына В.Чартовіча, у Вілейскім павеце Віленскай губ.; у 1897 г. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 59 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска і засценак Барсукі (Барсучына). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 14 двароў, 78 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей. У 1960 г. 73 жыхары; у 1988 г. 8 двароў, 26 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**БАРСУКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе РУП «Карпавічы». За 61 км на ПдУ ад г. Вілейка, 32 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 93 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1756 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 15 жыхароў; у 1800 г. ўласнасць Л.Гутаровіча, 39 двароў, 212 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Заборскай сялянскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Чартовіча, 18 рэвіз. душ; вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе той жа вол., 6 рэвізскіх душ. У 1897 г. засценак, 3 двары, 18 жыхароў; у 1908 г. 12 двароў, 76 жыхароў, 68 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 43 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 37 жыхароў.

**БАРЫСАЎШЧЫНА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 44 км на ПдУ ад г. Вілейка, 47 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 108 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 63 жыхары (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., у 1770 г. засценак, 6 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Барысаўшчына (яна ж Барсучыцы), у складзе маёнтка Ілья, уласнасць ген.-аншэфа Мікалая Салтыкова, 10 двароў, 64 жыхары. У 1873 г. вёска ў складзе Залескай сельскай грамады Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Хржчановіча, 13 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст.





вёскі Барысаўшчына 1 (13 двароў, 66 жыхары) і Барысаўшчына 2 (8 двароў, 78 жыхароў). У 1908 г. ў в. Барысаўшчына 1 было 12 двароў, 68 жыхароў, 51 дзес. надзелаў; Барысаўшчына 2, 10 двароў, 72 жыхары, 54 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 15 двароў, 94 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, вёскі Барысаўшчына 1 (97 жыхароў) і Барысаўшчына 2 (90 жыхароў). У 2003 г. 33 гаспадаркі, 81 жыхар.

**БАТУРЫНА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 52 км на ПдУ ад г. Вілейка, 34 км ад чыг. ст. Уша, 95 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У канцы 17 ст. ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., шляхецкая ўласнасць; Лукавец-Шумскія пабудавалі тут царкву (у 1830-я г. пераўтворана ў касцёл). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1861 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 10 двароў, 68 жыхароў. У 1867 г. касцёл стаў Свята-Петрапаўлаўскай царквой. У 1873 г. мястэчка Батурын, у Крамянецкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол., 26 рэвізскіх душ. У 1886 г. сяло, 105 жыхароў; у 1897 г. 15 двароў, 100 жыхароў, царква, піцейны дом, лаўка, царк.-прыходская школа; сядзіба (7 двароў, 45 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 17 двароў, 96 жыхароў, 45 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 101 жыхар; калонія — 4 двары, 21 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. спалена карнікамі (13 двароў), загінулі 3 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 68 жыхароў.

**БАЦЮЖЫНА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 63 км на ПдУ ад г. Вілейка, 30 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 91 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1799 г. засценак у Ашмянскім павеце, уласнасць біскупа Масальскага, у 1-й пал. 19 ст. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць М.Валадкевіча. У 1897 г. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 3 засценкі (4 двары, 24 жыхароў), 2 сядзібы (4 двары, 18 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., засценак і пасёлак, 10 двароў, 62 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей; да 6.9.1957 г. ў Карпавіцкім, потым Хаценчыцкім сельсаветах. У 1960 г. ў вёсцы 37 жыхароў.

**БАЯРЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 31 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 86 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 97 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў маёнтку Вязынь віленскіх бенедыкцінак, у Ашмянскім павеце; у 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 17 двароў, 109 жыха-



роў, уласнасць ген.-маёра Горыча, затым казны. У 1897 г. вёска Баяры Баравыя (7 двароў, 78 жыхароў), Баяры Ражанскія (6 двароў, 60 жыхароў) і Баяры Вялікія (19 двароў, 136 жыхароў), у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. 136 жыхароў, 157 дзес. зямлі, школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. вёскі Баяры Баравыя (13 двароў, 84 жыхары), Баяры Вялікія (29 двароў, 168 жыхароў), Баяры Ражанскія (12 двароў, 74 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Суднікоўскім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 20.7.1957 г. ў Ільянскім р-не Маладзечанскай вобл. 10.12.1948 г. створаны калгас імя Жданава. З 20.1.1960 г. таго ж раёна Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 300 двароў, 163 жыхары, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, б-ка, магазін. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 115 жыхароў, магазін. Вёска — радзіма бел. паэта І.І.Лашуткі (10.11.1933—1.9.2004).

**БЕЛАВАРОЦІЦА** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 6 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 102 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У канцы 19 ст. засценак у Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 21 жыхар; у 1908 г. 29 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (4 двары, 28 жыхароў), леснічоўка — 2 двары, 10 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Куранецкім с/с, 39 жыхароў, у 1988 г. вёска ў Рабунскім с/с, 6 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**БЕРАЖОК** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе РУП «Карпавічы». За 40 км на ПдУ ад г. Вілейка, 21 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 82 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 32 жыхары (2008).

У 1897 г. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 1 двор, 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Шыпкаўскім с/с, вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. Да 16.7.1954 у Шыпкаўскім, потым у Ільянскім сельсаветах. У 1960 вёска Бережок 1 (139 жыхароў) і хутар Беражок 2 (19 жыхароў). У 2003 г. 33 гаспадаркі, 52 жыхары; лясніцтва.

**БЕРАСНІХА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак у Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 56 жыхароў. У пач. 20 ст. 56 жыхароў, 59 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Вілейскім павеце Навагрудскага ваяв., 13 двароў, 58 жыхароў; у 1923 г. вёска ў Іжскай вол. Вілейскага павета таго ж ваяв. (з 1925 г. ў Віленскім ваяв.), 13 двароў, 58 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. аку-

піравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У ліст. 1949 г. створаны калгас імя Суворава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1960 г. ў вёсцы 47 жыхароў, у 1988 г. 8 двароў, 12 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**БІЛЬЦАВІЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 7 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска, каля аўтадарогі Вілейка—Паставы (1,5 км). 81 гаспадарка, 161 жыхар (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 26 двароў. У 1789 г. вёска і фальварак, 30 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Куранецкага, 28 двароў, 185 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Вілейскай сельскай грамадзе Вілейскай вол., у складзе дзярж. маёнтка Вілейка, 146 душ дзярж. сялян; тут жа в. Новыя Більцавічы, 15 душ сялян. У 1897 г. ў Вілейскіх вол. і павеце Віленскай губ. вёскі Більцавічы 1 (66 двароў, 533 жыхары, царква) і Більцавічы 2 (9 двароў, 58 жыхароў). 3.10.1895 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. ў в. Більцавічы 1—81 двор, 607 жыхароў, 491,8 дзес. надзелаў; у в. Більцавічы 2—10 двароў, 84 жыхары, 79,8 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. в. Більцавічы 1, у Вілейскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., у 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне, 101 двор, 546 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Каловіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуўся 31 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёскі Більцавічы 1 (423 жыхары) і Більцавічы 2 (91 жыхар). З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. вёска, 94 гаспадаркі, 193 жыхары; б-ка, магазін.

**БУБНЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, цэнтральная сядзіба філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 58 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 173 км ад Мінска, на шашы Вілейка—Докшыцы. 105 гаспадарак, 272 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1590 г. сяло ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, у складзе маёнтка Крайск, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Будслаў М.Аскеркі, 21 двор, 148 жыхароў, карчма. У 1897 г. вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 33 двары, 167 жыхароў. У 1908 г. 273 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 58 двароў, 344 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. цэнтр Бубнаўскага с/с, 64 двары, 344 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 24 жыхары. На могілках 2 брацкія магілы: партызан (3 чал.) і сав. ваеннапалонных (12 чал.), расстраляных у 1943 г., у 1974 г. пастаўлены 2 абеліскі тут і ў вёсцы — на ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-не Мінскай абласцей; з 16.7.1954 г. ў Ваўкалацкім, з 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У кастр. 1949 г. створаны калгас «17 Верасня». У 1960 г. 266 жыхароў, у 1970 г. 103 двары, 235 жыхароў. У 1988 г. 114 двароў, 294 жыхары; цэнтр калгаса «Чырвоны кастрычнік». Гаспадарка яднала 12 вёсак, мела 4127 га с.-г. угоддзяў (1403 га во-



рыва). Працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, магазін, ФАП, сталовая, аддз. сувязі. У 2003 г. 82 гаспадаркі, 311 жыхары; дзейнічалі базавая школа, дзіцячы сад, б-ка, клуб, ФАП, паштовае аддз., у 2009 г. — і комплексны прыёмны пункт. Дзейнічае праваслаўная царква (1990-я г.).

**БУДЗІШЧА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў складзе маёнтка Вязынь віленскіх бенедыкцінак, у Ашмянскім павеце. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча, 4 двары, 26 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 10 двароў, 73 жыхары. У пачатку 20 ст. ў вёсцы 119 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 14 двароў, 95 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Суднікоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. З 6.9.1957 г. ў Ільянскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 103 жыхары. У 1988 г. 24 двары, 56 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, каля вёскі дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Надзея».



*Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Надзея» каля в. Будзішча.*

**БУДЗЬКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 61 км на ПдУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 86 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1789 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць І.Стралкоўскага, 5 двароў, 7 жыхароў мужчынскага полу, вадзяны млын, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1873 г. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Рабцоўскай сельскай грамады, уласнасць Стралкоўскай, 13 рэвізскіх душ. У 1908 г. 8 двароў, 114 жыхароў, 109 дзес. надзелаў. У 1897 г. вёска (11 двароў, 134 жыхары), вадзяны млын; ваколіца (4 двары, 20 жыхароў); 3 сядзібы: Будзькі (16 двароў, 25 жыхароў), фальварак (25 жыхароў), фальварак (25 жыхароў). З 1893 г. школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. 2 вёскі — 21 двор, 125 жыхароў, і 18 двароў, 98 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Карпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. З 6.9.1957 г. ў Хаценчыцкім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 160 жыхароў.

**БУДКІ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсэрвіс». За 23 км на Пн ад г. Вілейка, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 125 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).




У 1765 г. вёска Будка ў Губскім старостве Ашмянскага павета, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 30 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Губскай сельскай грамады, у дзярж. маёнтку Губы, 30 душ сялян (рэвізскіх); у 1908 г. вёска ў Рабунскай вол., у складзе Губскай сельскай грамады, 16 двароў, 133 жыхары, 268,41 дзес. надзелаў. У 1903 г. адкрыта школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 180 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Талуцкім с/с. У 1940 г. створаны калгас «Авангард» (31 гаспадарка), 196 жыхароў (1941). У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жн.—вер. 1943 г. спалена (35 двароў). З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 160 жыхароў. З 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 20 гаспадарак, 27 жыхароў.

**БУЙЛІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. прадпрыемства «Новая Вілія». За 29 км на ПдУ ад г. Вілейка, 13 км ад чыг. ст. Маладзечна, 91 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1608 г. вёска ў маёнтку Селішча, дзе жылі путныя баяры. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. ў фальварку Ляўкова, уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, падскарбія літоўскага. За яго ўдзел у паўстанні 1794 г. вёска канфіскавана ў казну. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 15 двароў, 105 жыхароў. У 1843 г. вёска ў тым жа павеце Вілейскай губ., сумесная ўласнасць Іваноўскай і К.Валадковіча. У 1850 г. ў складзе маёнтка Асцюковічы, уласнасць І.Тукалы. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета — 19 двароў, 122 жыхары; 2 фальваркі — 2 двары, 23 жыхары; сядзіба — 4 жыхары; маёнтак — 9 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У вёсцы 9 жыхароў, 152 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 двароў, 151 жыхар; фальварак, 3 двары, 16 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 150 жыхароў; у 1988 г. 42 двары, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Вілія», магазін. У 2003 г. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў, магазін.

**БУТРЫМАВА** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 5 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 108 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 42 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 17 ст. У 1690 г. в. Бутрымаўшчына, шляхецкая ўласнасць, 1/2 дыма, у Ашмянскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ваколіца ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 19 жыхароў; у 1873 г. засценак Бутрымава ў Бароўскай сельскай грамадзе Вілейскіх вол. і павеце Віленскай губ., 17 рэвізскіх душ аднадворцаў. У 1897 г. вёска, 5 двароў, 40 жыхароў; 2 фальваркі (2 двары, 17 жыхароў). У 1905 г. ў Вілейскіх вол. і павеце: вёска, 56 жыхароў; фальварак, уласнасць Гарадзецкай, 5 жыхароў; фальварак, уласнасць Кеўліча, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У



1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 51 жыхар; калонія, 1 двор, 5 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Каловіцкім с/с, 55 жыхароў, з 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 18 гаспадарак, 47 жыхароў.

**БЯЗВОДНАЕ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 31 км на ПдУ ад г. Вілейка, 39 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 100 км ад Мінска, на аўтадарозе Сосенка—Краснае. 21 гаспадарка, 33 жыхары (2008).

У 1726 г. фальварак у маёнтку Ілья, былая ўласнасць Ільскага касцёла, потым пісара земскага віленскага М.Савіцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Багдановіч, 13 двароў, 85 жыхароў. У 1853 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у маёнтку Абадоўцы, уласнасць І.Багдановіча. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 двары, 138 жыхароў; хлебазапасны магазін, адкрыта школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 29 двароў, 172 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Суднікоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 6.9.1957 г. ў Ільянскім с/с. 20.6.1949 г. створаны калгас імя Чкалава. У 1960 г. ў вёсцы 164 жыхары; у 1988 г. 41 двор, 82 жыхары, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума; магазін. У 2003 г. 32 двары, 43 жыхары. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі археал. помнікі — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, стараж. цэнтр па вытв-сці жалеза.

**БЯРЭЗАВА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 16 км на ПдУ ад горада і 19 км ад чыг. ст. Вілейка, 90 км ад Мінска, на аўтадарозе Рэдзькавічы—Бярэзава. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 3 двары, 28 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Вязынскай вол. тых жа павета і губерні, 71 дзес. зямлі, 28 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Навагрудскага ваяв., 9 двароў, 53 жыхары, у 1938 г. 12 двароў, 66 жыхароў, вёска таго ж павета Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с таго ж раёна Вілейскай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёскі Бярэзава 1 (32 жыхары) і Бярэзава 2 (41 жыхар). У 1988 г. вёска Бярэзава (11 двароў, 24 жыхары), у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў.

**ВАЙДЗЕНІ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 15 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2008).

У 1766 г. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у складзе маёнтка Ганута, уласнасць Агінскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны, 23 двары, 77 душ мужчынскага полу. У 1897 г. вёска ў Вой-





стамскай вол. Свянцянскага павета, 26 двароў, 180 жыхароў; у 1900 г. адкрыта школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне, 46 двароў, 248 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР; з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Рускасельскім с/с. Перад Вял. Айч. вайной 63 двары, 192 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, была спалена (62 двары), знішчаны 4 жыхары. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 22.12.1949 г. створаны калгас «Сталінская канстытуцыя», які яднаў 20 гаспадарак, меў 1100 га ворыва. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 232 жыхары, у 1988 г. 51 гаспадарка, 107 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС; магазін. У вёсцы помнік архітэктуры — капліца (пач. 20 ст.).

**ВАЛОСЬКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 29 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 132 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1756 г. вёска ў маёнтку Кастыкі М.Слізня, падканюшага ВКЛ, у Ашмянскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 7 двароў, 71 жыхар. У 1897 г. вёска ў Касцяневіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 82 жыхары; хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 104 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.1.1960 г. створаны калгас імя Калініна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 75 жыхароў, ў 1988 г. 25 двароў, 57 жыхароў, у складзе калгаса «Зара».

**ВАРДАМІЧЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барэц». За 59 км на ПнУ ад г. Вілейка, 31 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 162 км ад Мінска, на аўтадарозе Мільча—Поня. 35 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

У 1690 г. маёнтак, уласнасць ксяндза Шымкуна ў Вілейскім старостве Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1793 г. вёска Вардашчына ў Ашмянскім павеце, уладанне шляхціца Я.Камейкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 9 двароў, 76 жыхароў, капліца, сядзіба. У 1834 г. маёнтак і фальварак (13 вёсак), у якіх налічвалася 696 душ сялян. У 1886 г. сяло ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 120 жыхароў, царква. У 1897 г. 35 двароў, 234 жыхары; хлебазапасны магазін, царква. У лют. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёскі Вардамічы Старыя (40 два-



*Георгіеўская царква ў в. Вардамічы.*



роў, 212 жыхароў), Вардамічы Новыя (21 двор, 139 жыхароў). У 1938 г. ў вёсцы Вардамічы Старыя — 39 двароў, 213 жыхароў, Вардамічы Новыя — 30 двароў, 187 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскай вобл. БССР, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. З 20.1. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У жн. 1949 г. створаны калгас імя Суворава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1960 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. 270 жыхароў, у 1988 г. 57 двароў, 134 жыхары, у складзе калгаса «Барацьбіт». У 2003 г. 43 гаспадаркі, 91 жыхар. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг. У вёсцы помнік архітэктуры — драўляная царква ў імя святога Георгія Перамаганосца (19 ст.).

**ВАРОНІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 7 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 104 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст., уласнасць казны. У 1765 г. вёска ў Губскім старостве Ашмянскага павета, 6 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 10 двароў, 56 жыхароў; млын. У 1888 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 28 двароў, 193 жыхары, царк.-прыходская школа. У пач. 20 ст. 215 жыхароў, 368 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 42 двары, 239 жыхароў, працавала польска-бел. пачатковая школа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 12 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с, 203 жыхары; у 1988 г. 35 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол»; магазін. У 2003 г. 17 гаспадарак, 27 жыхароў; у 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг. У вёсцы жыла і працавала бел. паэтэса Г.А.Новік (25.3.1914—1997).

**ВАЎКАЛАТКА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 55 км на ПнУ ад г. Вілейка, 9 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 168 км ад Мінска. 37 гаспадарак, 58 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1544 г. маёнтак Ваўкалатка ў Ашмянскім павеце ВКЛ, спадчыннае ўладанне Я.Ю.Алелькаўны Слуцкай. У 1754 г. вёска, шляхецкая ўласнасць, 21 двор; у 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Даўгінава Бенядзікта Каменскага, 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. вёска, 28 двароў, 160 жыхароў. У 1886 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Вілейскай вол., 36 двароў, 246 жыхароў; касцёл, 2 ветраныя млыны. У 1897 г. 40 двароў, 268 жыхароў, хлебазапасны магазін, вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. 543 жыхары; нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. 57 двароў, 274 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Ваўкалацкага с/с, аб'ядноўваў 12 паселішчаў, 2056 жыхароў. У вёсцы 57 двароў, 274 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. ў вёсцы быў створаны




антыфаш. атрад (35 чал.). У баях з ворагам загінуў 41 зямляк, з фронту не вярнуліся 8 жыхароў. На ўшанаванне памяці землякоў у вёсцы ў 1956 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У снежні 1949 г. створаны калгас «Прагрэс». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не, з 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. 236 жыхароў; у сельсавеце 17 населеных пунктаў, 2006 жыхароў. У 1988 г. 59 двароў, 124 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна; пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2003 г. 39 гаспадарак, 89 жыхароў, ФАП, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**ВАЎЧКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 29 км на ПнУ ад г. Вілейка, 8 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 132 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Нарушэвіча, 6 двароў, 57 жыхароў; у 1890 г. маёнтак К.Скурата, у 1897 г. вёска і сядзіба ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў, 25 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.12. 1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 52 жыхары; у 1988 г. 10 двароў, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Беларускі».

**ВЕРАЦЕЙКА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 42 км на ПдУ ад г. Вілейка, 30 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 76 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1851 г. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ., 57 двароў; у 1897 г. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 3 двары, 26 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 6 двароў, 32 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 41 жыхар.

**ВЕРКАЎЛЯНЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 56 км на ПдУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 80 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2008).

У пач. 20 ст. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 2 двары, 16 жыхароў; у 1938 г. фальварак, 2 двары, 13 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Карпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар у Хаценчыцкім с/с, 22 жыхары. У 2003 г. хутар, 4 гаспадаркі, 10 жыхароў.

**ВІТАЎЦЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 46 км на ПнУ ад г. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 149 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 47 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Даўгінава Б.Каменскага, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у



Рас. імперыі. У 1800 г. 28 двароў, 159 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 15 двароў, 135 жыхароў. У пач. 20 ст. 135 жыхароў, 109 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 36 двароў, 170 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 177 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1980 г. 49 двароў, 89 жыхароў, у складзе саўгаса «Даўгінава»; клуб, магазін. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў, б-ка; у 2009 г. дзейнічаў і Дом сац. паслуг.

**ВОРНАЎКА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» РУП «Мінгаз». За 60 км на ПнУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 175 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1800 г. вёска ў маёнтку Будслаў, уладанне М.Аскеркі, 2 двары, 16 жыхароў. У 1897 г. вёска (9 двароў, 80 жыхароў), фальварак (18 жыхароў) у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У пач. 20 ст. ў фальварку Вараноўка 18 жыхароў, 4 дзес. зямлі; у 1908 г. 4 двары, 30 жыхароў, 46 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 79 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл.; з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не; з 12.10. 1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Будслаўскім с/с Крывіцкага рна Маладзечанскай вобл. У сак. 1950 г. створаны калгас імя Астроўскага. З 16.7.1954 г. ў Ваўкалацкім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 31 жыхар. З 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 5 двароў, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік».

**ВОСТРАВА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» РУП «Мінгаз». За 60 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 152 км ад Мінска. З гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1800 г. ў маёнтку Будслаў М.Аскеркі вёскі Астроўка (2 двары, 20 жыхароў), Астраўкі (2 двары, 11 жыхароў). У 1867 г. в. Вострава ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. в. Востраў у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 87 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 78 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, з 25.1. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 74 жыхары, у 1988 г. 11 двароў, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік», у 2003 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**ВУТКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 25 км на ПнЗ ад горада і 23 км ад чыг. ст. Вілейка, каля аўтадарогі Іжа—Любань (2 км), 130 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1786 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, 9 двароў, 36 жыхароў; фальварак. У 1789 г. ў складзе маёнтка Спягла, уласнасць А.Сулістроўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Свянцянскім павеце Віленскай губ., 12 двароў, 64 жыхары; у 1908 г. 84 жыхары. У лютым—снеж. 1918 г. аку-




піравана германскімі, у жн. 1919 — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Іжскай гміне. У 1938 г. ў Войстамскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 18 двароў, 86 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл. БССР. З 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с Куранецкага р-на. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 58 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**ВЯЗОВЕЦ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 67 км на Пн ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 152 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Б.Гурскага, 28 двароў, 194 жыхары; у 1908 г. засценак у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Віленскай губ., 5 двароў, 35 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета, 8 двароў, 62 жыхары; у 1938 г. 11 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с таго ж раёна Вілейскай вобл. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. фашысты знішчылі 17 з 20 двароў. З 20.9.1944 г. таго ж раёна Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. Вілейскага р-на. У 1960 г. 52 жыхары, у 1988 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік». У 2003 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары.

**ВЯЗЫНКА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 25 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска, 1 км ад гал. канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, на аўтадарозе Забор'е—Вязынь. 13 гаспадарак, 39 жыхароў (2008).

У 1897 г. сядзіба ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 58 жыхароў. У пач. 20 ст. фальварак, 58 жыхароў, 308 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак Вязынец у Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 2 двары, 34 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Віленскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с таго ж раёна Вілейскай вобл. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 99 жыхароў, у 1988 г. 14 двароў, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 12 гаспадарак, 35 жыхароў.

**ВЯЗЫНЬ** — вёска, цэнтр Вязынскага с/с, цэнтр. сядзіба с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 22 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 80 км ад Мінска, на р. Ілія. 295 гаспадарак, 604 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 15 ст. як каралеўскі маёнтак. У 1430—32 гг. наданне ад вялікага князя ВКЛ Свідрыгайлы Андрэю Саковічу. 20.4. 1478 г. кароль Казімір падараваў маёнтак надворнаму маршалку І.Кучуку. У 1495 г. праз Вязынь у Вільню праязджала вялікая княжна Алена Іванаўна, дачка вял. кн. маскоўскага Івана III і нявеста вял. кн. ВКЛ Аляксандра. У канцы 15 ст. ўпамінаецца сярод спадчынных маёнткаў Ю.А.Саковіча, потым яго нашчадкаў Насілоўскіх. У 1559 г. 35 дымоў, з 1559 г. пад залогай у Радзівілаў. У 1620 г. ва ўладанні Я.Вітунскага, потым біскупа віленскага Я.Валовіча. Новы





*Капліца ў гонар Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Вязынь.*

уладальнік маёнтка Рудамін завяшчаў яго віленскаму жаночаму кляштару бенедыкцінак пры касцёле святой Кацярыны. У канцы 17 ст. мястэчка з уніяцкай царквой. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1796 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., мястэчка і маёнтак, падараваны Кацярынай II ген.-маёру Зорычу. У 1786 г. была пабудавана Свята-Георгіеўская царква (абноўлена ў 1881 г.). У 1800 г. 27 двароў, 191 жыхар. У 1808 г. Зорыч падараваў маёнтак В.Гячэвічу. У 1812 г. праз мястэчка праходзілі войскі Напалеона. У 1810 г. пабудаваны бровар, млын. У 1869 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1884 г. 74 хлопчыкі, 3 дзяўчынкі). У 1886 г. цэнтр воласці Вілейскага павета Віленскай губ., 27 двароў, 283 жыхары, касцёл, нар. вучылішча. У 1897 г. мястэчка і маёнтак, 92 двары, 602 жыхары, царква, капліца, 2 яўрэйскія школы, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, карчма, 6 крам; у маёнтку 134 жыхары. У пач. 20 ст. маёнтак, дзейнічалі спіртзавод, млын; 602 жыхары, пабудавана драўляная царква. У 1908 г. мястэчка, цэнтр сельскай грамады і вол., 24 двары, 264 жыхары, 285,4 дзес. надзелаў, нар. вучылішча, аднакласная царк.-прыходская школа (1905), з 1881 г. дзейнічала прадпрыемства па вырабе музычных інструментаў. У воласці было 56 населеных пунктаў, у якіх 558 двароў, 9280 жыхароў, 47 дзес. надзелаў. У 1915–16 гг. на тэр. воласці ішлі ўпартыя баі рускай арміі з германскімі захопнікамі. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1913 г. маёнтак Гарадынскага, меў 6 тыс. га зямлі, у мястэчку размяшчаўся пастарунак. У 1939 г. 111 гаспадарак, 622 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. цэнтр воласці Вілейскага павета Віленскай вобл. У воласці 78 населеных пунктаў, 2117 гаспадарак, 10 604 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. вёска, цэнтр сельсавета, вінакурня, вадзяны млын, лесапільня, вяровачная арцель, сыраварня, кузня, электрычная станцыя. У лютым 1940 г. на базе б. маёнтка створана МТС. У складзе сельсавета 22 населеныя пункты, 2807 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 13 жыхароў, у барацьбе з во-

*Успенская царква ў в. Вязынь.*



рагам загінулі 79 землякоў, на ўшанаванне іх памяці ў 1968 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск і стэла. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. 20.8.1944 г. створаны калгас імя Сталіна, у сак. 1957 г. саўгас «Вязынь». У 1970 г. 272 двары, 825 жыхароў, у 1989 г. 326 двароў, 738 жыхароў. Саўгас меў 6117 га сельгасугоддзяў, у т.л. 2640 га ворыва; спіртзавод, пякарня, сярэдняя школа, дзіцячы сад, паліклініка, аптэка, комплексны прыёмны пункт, ветучастак, 4 магазіны, сталовая, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі. У 1995 г. пры Доме культуры створаны дзіцячы аркестр цымбал (з 2002 г. ўзорны). У 2003 г. ў вёсцы 284 гаспадаркі, 658 жыхароў, сярэдняя школа, б-ка, урачэбная амбулаторыя, Дом культуры, 3 магазіны. У 2009 г. дзейнічалі вучэбна-пед. комплекс сярэдняя школа–сад, урачэбная амбулаторыя, Цэнтр культуры і вольнага часу, аддз. сувязі, аптэка, 3 магазіны, лясніцтва. На паўд. краі вострава на р. Ілія археал. помнік — рэшткі паселішча бронзавага веку культуры шнуравой керамікі. У вёсцы помнікі архітэктуры: Свята-Успенская царква (да 1864 г.) з дрэва, капліца Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі (1908—09) сярод сядзібна-паркавага комплексу Гяцэвічаў. Вёска — радзіма бел. хіміка, Акад. НАН Беларусі, чл.-кар., засл. дзеяча навукі Беларусі, д-ра хім. навук, праф. В.В.Свірыдава (9.4.1931—13.4. 2002).



*В.В.Свірыдаў.*



*Помнікі землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Вязынь.*

**ГАБІТАЦЫЯ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 59 км на ПнУ ад г. Вілейка, 6 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 172 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

У 1800 г. вёска Габітацы ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Каменскага, 7 двароў, 41 жыхар. У 1897 г. ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 41 двор, 245 жыхароў. У пач. 20 ст. 245 жыхароў, 444 дзес. угоддзяў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 62 двары, 325 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў вёскі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 46 двароў, 90 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна, магазін, б-ка. У 2003 г. 25 гаспадарак, 46 жыхароў.

**ГАЛІНОВА** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 15 км на Пн ад г. Вілейка, 1 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 118 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 62 жыхары (2008).

У 1852 г. фальварак Гелянова ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць Гелены Юшкевіч, у 1866 г. маёнтак, у 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілей-



скага павета Віленскай губ., 87 жыхароў. У 1899 г. працавала школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 25 двароў, 168 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с таго ж раёна, аддз. саўгаса «Лукавец». У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 15 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 147 жыхароў, у 1988 г. 54 двары, 138 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілейскі»; магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін. Каля вёскі археал. помнікі: гарадзішча за 1,5 км на ПнУ, у лесе, на мысе прыроднага ўзвышша (мясц. назва Скабеева гара); 2 курганныя могільнікі — адзін за 0,2 км на ПнУ ад гарадзішча, ва ўрочышчы Валатоўкі, другі — за 0,4 км на ПдУ ад першага.

**ГАРАВАТКА** — хутар у Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 47 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 150 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 49 двароў, 24 жыхары; у пач. 20 ст. ў засценку 26 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 3 двары, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Суднікоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. З 6.9.1957 г. ў Ільянскім с/с. У 1988 г. 4 двары, 7 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**ГАРАДЗІЛАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 22 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 123 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны, 6 двароў, 39 жыхароў; у 1833 г. 6 двароў, 50 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 13 двароў, 123 жыхары. У пач. 20 ст. 88 жыхароў, 195 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне, 16 двароў, 105 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 16.1.1950 г. створаны калгас «Вярхоўны Савет СССР». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1988 г. 24 гаспадаркі, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**ГАРБАЧЭВА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 30 км на Пн ад г. Вілейка, 6 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска, на аўтадарозе Маніхі—Гарадзілавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У канцы 18 ст. маёнтак у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. засцёнак Гарбацэўшчына, уласнасць В.Козел, 4 двары, 21 жыхар. У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 8 двароў, 65 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 90 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.




1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калгас імя Будзённага. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 87 жыхароў, у 1988 г. 5 двароў, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі».

**ГАРЫДАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 11 км на Пн ад г. Вілейка, 1 км ад чыг. ст. Куранец, 114 км ад Мінска. 3 двары, 3 жыхары (2008).

У 1750 г. вёска ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць, 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Д.Радзівіла, 6 двароў, 27 жыхароў. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 9 двароў, 61 жыхар; у 1905 г. 67 дзес. зямлі. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 10 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 46 жыхароў; у 1988 г. ў складзе саўгаса «Вілейскі», 4 двары, 7 жыхароў.

**ГАСЦІЛАВА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 112 км ад Мінска, 2 км ад р. Вілія, на аўтадарозе Шылавічы—Красніца. 2 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1852 г. засценак у маёнтку Тэклінаполь, уласнасць З.Любанскага, у Вілейскай вол. таго ж павета Віленскай губ. У 1897 г. 8 двароў, 34 жыхары. У 1905 г. 61 жыхар, у 1908 г. ў Баранскай сельскай грамадзе тых жа воласці і павета, 9 двароў, 58 жыхароў, 35 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. засценак у Вілейскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 53 жыхары; у 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне тых жа павета і ваяводства, 12 двароў, 57 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У 1940 г. 14 гаспадарак, 49 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26.5. 1944 г. акупанты спалілі 14 двароў, расстралялі 27 жыхароў. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. У 1963 г. на магілах пастаўлены 8 абеліскаў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 41 жыхар; у 1988 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава.

**ГЕДЗЕВІЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 32 км на ПнУ ад г. Вілейка, 6 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна, 105 км ад Мінска, на левым беразе р. Сэрвач, на аўтадарозе Малышкі—Сэрвач. 34 гаспадаркі, 54 жыхары (2008).

У 1613 г. сяло ў Ашмянскім павеце, у складзе маёнтка Сэрвач, уласнасць Гальшкі Камаеўскай Станіслававай Нарушэвічавай, кашталянавай смаленскай, 7 валок зямлі. У 1765 г. ўласнасць Э.Радзевіч, 13 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., сумесная ўласнасць Варвары Козел і Сэрвачскай плябаніі — 10 двароў, 112 жыхароў і 7 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 29 двароў, 227 жыхароў; у пач. 20 ст. 270 жыхароў, 340 дзес. зямлі. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 47 двароў, 274 жыхары. З



ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. Вілейскім р-не Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай. У 1988 г. 73 двары, 138 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі». У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**ГЕНЕРАЛЬЧЫКІ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 41 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 34 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 132 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў маёнтку Жары, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць суддзі І.Вазгірда, 3 двары, 28 жыхароў. З 1842 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1873 г. засценак у Сэрвечскай вол., у складзе Жарскай сельскай грамады, 9 рэвізскіх душ. У 1908 г. ў Даўгінаўскай вол. таго ж павета, 7 двароў, 42 жыхары, 65 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 13 двароў, 78 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Жарскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.1. 1960 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 54 жыхары. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 8 двароў, 14 жыхароў, у складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага (цэнтр — в. Жары). У 2003 г. 6 гаспадарак, 6 жыхароў.

**ГЕРКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 28 км на ПнУ ад г. Вілейка, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 131 км ад Мінска, на аўтадарозе Мядзел—Лагойск. 11 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., у 1800 г. ўласнасць В.Козел, 4 двары, 19 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 56 жыхароў. У пач. 20 ст. 69 жыхароў, 122 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Вілейскага ваяв., 15 двароў, 82 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калгас імя Жданава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 57 жыхароў, у 1988 г. 16 двароў, 39 жыхароў, у саўгасе «Беларускі».

**ГІРЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 25 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска ў Вайстамскай вол. Свянцянскага павета, 18 двароў, 75 жыхароў. У 1904 г. ваколіца і маёнтак памешчыка Канцэвіча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Войстамскай гміне; у 1938 г. вёска (19 двароў, 91 жыхар) і фальварак (10 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.7.1949 г. створаны калгас імя Калініна. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 46 жыхароў; у 1988 г. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**ГЛЕБЕНКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 28 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на




лініі Маладзечна—Полацк, 129 км ад Мінска, 2 км ад р. Сэрвач, каля аўтадарогі Вілейка—Докшыцы. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць Рагозы, 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў складзе маёнтка Сэрвач А.Рагозы, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 24 двары, 126 жыхароў; у 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 138 жыхароў. У пач. 20 ст. 160 жыхароў, 131 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 29 двароў, 150 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калагас «Краіна Саветаў». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 141 жыхар, у 1988 г. 20 двароў, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі»; магазін.

*Магіла партызанкі З.Лянік каля в. Гліннае.*



**ГЛІННАЕ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 5 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, на шашы Вілейка—Маладзечна, 101 км ад Мінска, на р. Вілія. 14 гаспадарак, 32 жыхары (2008).

У 1799 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 19 жыхароў, шляхецкая ўласнасць; у 1834 г. засценак у дзярж. маёнтку Вілейка. У 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Вілейскай вол., 45 жыхароў; у 1908 г. ў складзе Вілейскай сельскай грамады, 5 двароў, 61 жыхар, 33,5 дзес. надзелаў. У 1-ю сусв. вайну 18.9.1915 г. ў ходзе ліквідацыі Свянцянскага прарыву войск 10-й германскай арміі ўдарная група войск 2-й рускай арміі пад камандаваннем генерала П.Ц.Нікалаева пераправілася каля в. Гліннае цераз р. Вілія і праз 2 дні наступлення выйшла на лінію міжазер'я Нарач—Вішнеўскае. У ходзе ўпартых баёў былі разгромлены 3-я германская кавалерыйская дывізія, 171-ы пяхотны полк і атрад самакатчыкаў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 20 двароў, 122 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну ў наваколлі вёскі дзейнічаў партыз. атрад «Барацьба» партыз. брыгады «Народныя мсціўцы імя В.Т.Варанянскага». За 3 км на Пн ад вёскі пахавана партызанка ўзвода падрыўнікоў атрада «Барацьба» З.К.Лянік, якая загінула 2.5.1943 г. пры мініраванні шашы Вілейка—Маладзечна. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах



Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 75 жыхароў, вёска ў складзе калгаса імя Суворава. У 1988 г. 20 гаспадарак, 47 жыхароў; у 2003 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар.

**ГОРНАЯ**, Горнае (да 1964 г. Дзіракі) — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 25 км на ПнУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 128 км ад Мінска, на аўтадарозе Асташкава—Карэкаўцы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У 1760 г. вёска ў складзе маёнтка Куранец, уласнасць С. Саванеўскай, у Ашмянскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім старостве І. Куранецкага, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 27 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 124 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 77 жыхароў. У 1988 г. 13 двароў, 21 жыхар, у складзе калгаса «Зара».

**ГРЫГАРКІ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 30 км на ПнУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк. 129 км ад Мінска. 28 гаспадарак, 57 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Губскім старостве Ашмянскага павета, 14 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 136 двароў, 79 жыхароў; у 1833 г. вёска, дзярж. ўласнасць, 15 двароў. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 38 двароў, 249 жыхароў. У пачатку 20 ст. вёска, 282 жыхары, 453 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 44 двары, 265 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, у барацьбе з акупантамі загінулі 36 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 4.12.1948 г. створаны калгас «Чырвоны партызан». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с, 230 жыхароў. У 1988 г. 60 гаспадарак, 128 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол»; клуб, б-ка, магазін.

**ГРЫЦУКІ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 111 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у складзе маёнтка Куранец, уласнасць Саванеўскай, 9 двароў, 37 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ю.Ромера, 8 двароў. У 1897 г. ў Куранецкай вол. таго ж павета Віленскай губ., вёскі Грыцукі 1 (2 двары, 13 жыхароў), Грыцукі 2 (13 двароў, 82 жыхары). У 1900 г. адкрыта школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 двароў, 176 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 19.1.1949 г. створаны калгас «Свабода», у 1950 г. 22 гас-

падаркі, меў 1980 га ворыва; 28.5.1950 г. аб'яднаны з калгасам «Бальшавік». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 158 жыхароў; у 1988 г. 28 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік».

**ГРЫШКАВІЧЫ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім с/с), у складзе філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напіткаў». За 47 км на ПнУ ад г. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 150 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 1765 г. в. Грыцкевічы ў маёнтку Даўгінава ў Ашмянскім павеце, уласнасць Б.Каменскага, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 34 жыхары. У 1897 г. ў Віленскай губ., у Даўгінаўскай вол., 13 двароў, 81 жыхар. У 1905 г. 77 жыхароў, 133 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл. БССР, з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагосцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 16.7.1954 г. ў Даўгінаўскім с/с. У ліст. 1949 г. створаны калгас «Перамога». У 1960 г. 99 жыхароў; у 1988 г. 9 двароў, 19 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда».

**ГУБЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 31 км на ПнУ ад г. Вілейка, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 104 км ад Мінска, на р. Ментынь (левы прыток р. Вузлянка). 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 16 ст. як шляхецкая ўласнасць у Маркаўскай дзяржаве. У 1558 г. с. Губляны, у 1635 г. дзяржава Л.К.Сапегі, пісара ВКЛ, у Ашмянскім павеце. У 1690 г. цэнтр Губскага староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. ў Вілейскім павеце, у 1844 г. двор Губы. У 1871 г. хутар у Вілейскім павеце Віленскай губ., у 1899 г. адкрыта школа граматы. У 1904 г. ў Рабунскай вол. тых жа павета і губерні, 151 жыхар. У 1938 г. ў Куранецкай гміне — хутары, у якіх 36 двароў, 261 жыхар, млын (9 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с, працавала цагельня. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.12.1948 г. створаны калгас «30 гадоў БССР». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 26 жыхароў, у Рэчкаўскім с/с; у 1988 г. 36 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол». Вёска — радзіма бел. пісьменніка Касьяна Вясёлага (сапр. Вікенцій Іосіфавіч Аўдзей; 1886 — канец 1916 г.).

**ГУТАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 28 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк. 131 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Касцяневічы ген.-маёра П.Бардакова, 10 жыхароў. У 1908 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 53 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 7 двароў, 41 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана



ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 29 жыхароў; у 1988 г. 11 двароў, 17 жыхароў, у складзе калгаса «Зара».

**ДАВЫДКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 27 км на ПнУ ад г. Вілейка, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 130 км ад Мінска. 51 гаспадарка, 112 жыхароў (2008).

У пач. 17 ст. сяло ў Ашмянскім павеце. У 1615 г. ў складзе фальварка «Кавенскі» маёнтка Сэрвач, сакратара каралеўскага М.Войны. У 1765 г. 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць В.Козел, 24 двары, 134 жыхары. У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 35 двароў, 247 жыхароў, хлебазапасны магазін; у 1908 г. 301 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 50 двароў, 281 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 12 землякоў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 28.5.1949 г. створаны калгас «Квітнеючая Беларусь». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 205 жыхароў; у 1988 г. 78 двароў, 191 жыхар, у складзе саўгаса «Беларускі», клуб, магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**ДАМАНАВА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс», падсобная гаспадарка Асіпавічы. За 9 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 105 км ад Мінска, на левым беразе р. Вілейка, каля шашы Маладзечна—Мядзел (2 км). 1 двор, 2 жыхары (2008).

У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ляговічаў, 7 жыхароў; у 1897 г. засценак. У пач. 20 ст. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ., у Вілейскай вол., 7 двароў, 7 жыхароў, 13 дзес. зямлі. У 1908 г. ў Ручыцкай сельскай грамадзе, 1 двор, 6 жыхароў, 550 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне, 10 двароў, 48 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце той жа вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с Куранецкага р-на Вілейскай вобл. З чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 11 жыхароў; у 1988 г. вёска, 1 двор, 3 жыхары, у складзе калгаса імя Суворава.

**ДАЎБАРОВА** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 19 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 122 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У 1833 г. засценак у Губскім старостве Вілейскага павета Мінскай губ., 9 жыхароў. З 1842 г. ў Вілейскай губ.; у 1873 г. засценак у Вілейскай вол. таго ж павета, у складзе дзярж. маёнтка Губы, 8 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол., 5 двароў, 42 жыхары. У 1900 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 58 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. в. Даўбарова (Чаўлыткі) у Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 72 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў





Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 83 жыхары. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**ДАЎГІНАВА** — вёска, цэнтр Даўгінаўскага с/с, цэнтр. сядзіба раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 47 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 18 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 148 км ад Мінска, на скрыжаванні аўтадарог Вілейка—Докшыцы і Крывічы—Жардзяжжа. 532 гаспадаркі, 1165 жыхароў (2008).



1



2

*Станіславаўскі касцёл у в. Даўгінава: знешні выгляд (1) і інтэр'ер (2).*

Аб засяленні гэтай мясцовасці ў глыбокай старажытнасці сведчаць рэшткі стараж. селішча, што захаваліся каля вёскі і якія адносяцца да культуры штрыхаванай керамікі (1—4 ст. н.э.) і да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. У гіст. пісьмовых крыніцах згадваецца ў 15 ст. У 1443 г. Даўгіновічы — маёнтак ваяводы віленскага Я.Доўгірда, потым Манівідавіча, Б.Саковіча. У 1545 г. была праваслаўная царква. З 1567 г. ўласнасць Хадкевічаў. У 1590 г. мястэчка ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У пач. 17 ст. вотчына князёў Друцкіх-Сакалінскіх, потым Кішкаў, якія прадалі маёнтак мітрапаліту кіеўскаму І.Руцкаму. У 1643 г. мястэчка Даўгінава згадваецца як значны цэнтр кірмашовага гандлю ў павеце. У 1665 г. Даўгінава як мястэчка з'яўляецца ўжо на картах атласа Польшчы і ВКЛ. У 1661 г. ў час руска-польскай вайны пад Даўгінавам адбываліся жорсткія баі. У 1690 г. мястэчка і маёнтак у Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 150 дымоў, Свята-Троіцкая царква, пры якой існаваў шпіталь. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўладанне Л.Каменскага, было 112 двароў (з якіх 2 двары татар, 20 — яўрэяў, 2 — ваколічнай шляхты), 526 жыхароў, 2 штогадовыя кірмашы. З 1709 г. існаваў касцёл, які ў 1818 г. пацярпеў ад пажару і быў адноўлены ў сярэдзіне 19 ст. У 1823—66 гг. у маёнтку суконная ф-ка. У 1857 г. 158 двароў, 1469 жыхароў, паштовая станцыя, 2 штогадовыя кірмашы. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. мястэчка, цэнтр Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., праваслаўная Свята-Троіцкая царква, касцёл святога Ста-



ніслава, яўрэйскі малітоўны дом, нар. вучылішча, 60 крам, 5 корчмаў, бровар, 3 заезныя дамы, штотыднёвыя таргі, паштовая станцыя. У 1897 г. 3551 жыхар, 43 шаўцы, 21 кравец, 20 кавалёў, млын; у маёнтку (Незабытоўскага) 30 жыхароў; у пач. 20 ст. ў мястэчку 2470 жыхароў, прыёмны пакой, царк.-прыходская школа, двухкласнае нар. вучылішча. У 1905 г. ўзнікла арг-цыя РСДРП, пры якой існавала сялянская арг-цыя. У ліст. і снеж. 1905 г. і летам 1906 г. адбыліся сялянскія хваляванні. У 1908 г. цэнтр вол. і сельскай грамады, 52 двары, 688 жыхароў. У складзе воласці 40 населеных пунктаў, 444 двары, 7618 жыхароў. У 1915—16 гг. на тэрыторыі воласці адбываліся ўпартыя баі рускай арміі з германскімі захопнікамі. Мястэчка значна пацярпела. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919—ліп. 1920 гг. — польскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны ў Вілейскім павеце. У 1925 г. моцны пажар знішчыў каля 100 дамоў. У 1938 г. ў мястэчку 547 двароў, 3181 жыхар; у пасёлку Даўгінава — 33 двары, 165 жыхароў, працавалі крухмальны з-д, паравы і вадзяны млыны, нар. дом, б-ка. З ліст. 1939 г. ў БССР, з мая 1940 г. гарадскі пасёлак, з 15.1.1940 г. большая частка воласці ўвайшла ў Крывіцкі р-н Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Даўгінаўскага с/с Крывіцкага ра-на, у які ўвайшоў 21 населены пункт. На пач. 1940 г. ў Даўгінаве паштовае аддз., 2 паравыя млыны, 9 хлебапякарань, 2 гандл. кааператывы. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, тут знаходзіўся варожы гарнізон. У чэрв. 1942 г. акупанты расстралялі 2 тыс. жыхароў (у 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск). У сак. 1943 г. партызаны брыгады «Жалязняк» Мінскай вобл. правялі бой супраць гарнізона і нанеслі ворагу значныя страты. У ліп. 1943 г. каля Даўгінава фашысты расстралялі 3 тыс. жыхароў (пахаваны на ўсх. ускраіне вёскі). У Даўгінаве знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер, у якім на працягу акупацыі былі знішчаны 2 тыс. чалавек (пахаваны на цэнтр. плошчы вёскі). У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік-пліта, які ўшаноўвае таксама памяць 50 землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. У барацьбе з акупантамі загінула больш за 60 жыхароў вёскі, 31 сяльчанін не вярнуўся з фронту. З 20.9.1944 г. да 20.1.



*Былы ешыбот (школа рабінаў) у в. Даўгінава, дзе ў канцы 1890-х г. вучыўся З.Бядуля.*



*Троіцкая царква ў в. Даўгінава.*

1960 г. цэнтр сельсавета (з 1953 г. вёска) у Крывіцкім р-не Маладзечанскай, потым Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не Мінскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «Запаветы Ільіча». У 1960 г. вёска, 1278 жыхароў і хутар — 34 жыхары; у складзе сельсавета было 30 населеных пунктаў (5269 жыхароў); у 1988 г. ў вёсцы 531 двор, 1266 жыхароў; цэнтр племсаўгаса «Даўгінава», у які ўваходзілі 13 населеных пунктаў. Саўгас меў 6333 га сельгасугоддзяў. Дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, бальніца, 8 крам, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, бальніца, школа мастацтваў, Дом культуры, аддз. сувязі, 4 магазіны, аптэка, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт. За 0,8 км на ПнЗ ад вёскі, на мысе ўзвышша, з зах. і паўн. бакоў да якога прымыкае балота, археал. помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі і банцараўскай культуры. У вёсцы помнікі архітэктуры: касцёл святога Станіслава (1853), Троіцкая царква (1870), капліца (19 ст.), за ёй — вайсковыя могілкі 1915—20 гг. Мемарыяльная дошка ў гонар бел. пісьменніка Змітрака Бядулі (1886—1941), які жыў і вучыўся ў мястэчку Даўгінава ў канцы 1890-х — пач. 1900-х г. Вёска — радзіма бел. паліт. дзеяча Л.І.Зайца (сак. 1890—23.9.1935); бел. тэатр. дзеяча, засл. дзеяча культуры Беларусі Л.П. Валчэцкага (18.9.1913—30.10.1991); бел. графіка Ю.П.Герасіменкі-Жызнеўскага (9.11.1948—15.2.1997).



*Мемарыяльны знак у гонар Змітрака Бядулі ў в. Даўгінава.*

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска, на аўтадарозе Куранец—Будкі. 20 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 38 жыхароў, уласнасць каталіцкай царквы. У 1897 г. вёска Дворжэц у Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 72 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў. У 1923 г. вёска ў Іжскай гміне Вілейскага павета, 22 двары, 130 жыхароў; у 1938 г. ў Войстамскай гміне, 24 двары, 127 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У студз. 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 111 жыхароў; у 1988 г. 27 двароў, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне». На паўд. ускрайку вёскі каля дарогі Іжа—Лыцавічы захоўваецца вялікі камень з ямкамі, прынесены ледавіком прыкладна 220—150 тыс. гадоў таму ў часы дняпроўскага зледзянення.

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 35 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 83 км ад Мінска. 36 гаспадарак, 85 жыхароў (2008).

У 1726 г. фальварак у маёнтку Ілья, уласнасць М.Савіцкага, потым ільянскага касцёла. Пасля 2-га падзелу Рэчы



Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., двор і вёска, уласнасць ільянскай каталіцкай плябаніі, 6 двароў, 38 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 двароў, 151 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Вілейскага ваяв., 27 двароў, 133 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1949 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 12.5.1949 г. створаны калгас «Чырвоны Дварэц». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 166 жыхароў; у 1988 г. 64 двары, 159 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 53 км на ПдУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 69 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

У 1783 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 4 двары, 18 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Дварыцы ў маёнтку Хаценчыцы, уласнасць А.Высоцкага, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 19 жыхароў. З 1842 г. ў Вілейскай губ.; у 1873 г. вёска ў Рабцоўскай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 31 рэвізская душа. У 1897 г. было 17 двароў, 98 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 20 двароў, 131 жыхар, 101,6 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 24 двары, 144 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 151 жыхар.

**ДЗЯДЗІЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 10 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска. 38 гаспадарак, 54 жыхары (2008).

У 1765 г. вёска ў складзе Куранецкай парафіі, у Ашмянскім павеце, 5 двароў. У 1766 г. маёнтак Дзядзілавічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, сумесная ўласнасць Кароля Клячкоўскага (4 двары, 23 жыхары) і Адама Мацкевіча (1 двор, 12 жыхароў), у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1836 г. маёнтак В.А.Кярсноўскага, які купіў яго ў 1835 г. ў памешчыцы Сямашка, 68 душ. У 1873 г. вёска і маёнтак таго ж уладальніка ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 28 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска, 14 двароў, 93 жыхары, маёнтак (16 жыхароў), была капліца. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. ў вёсцы, 16 двароў, 36 жыхароў, 108,3 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне



*Вялікі камень з ямкамі ў в. Дварэц Іжскага сельсавета.*

Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (27 двароў, 157 жыхароў) і фальварак (12 двароў, 71 жыхар). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 11 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 172 жыхары. З 16.8. 1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У 2003 г. 40 двароў, 71 жыхар.

**ДЗЯМІДКІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 55 км на ПнУ ад г. Вілейка, 10 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 158 км ад Мінска, каля шашы Вілейка—Докшыцы. 27 гаспадарак, 40 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Даўгінава Б.Каменскага, у Ашмянскім павеце, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 23 двары, 108 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 42 двары, 311 жыхароў; школа граматы (з 1896 г.). У пачатку 20 ст. 311 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 72 двары, 385 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобласці, з 15.1. 1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. 269 жыхароў, у 1988 г. 57 двароў, 111 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў.

**ДЗЯТЛАЎКА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 52 км на ПдУ ад г. Вілейка, 24 км ад чыг. ст. Уша, 66 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У пач. 20 ст. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 6 двароў, 28 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Карпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, 41 жыхар.

**ДОБРАВІЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 36 км на ПнУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 141 км ад Мінска, на аўтадарозе Малышкі—Сэр-



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Добравічы.*



вач, на р. Сэрвач. 83 гаспадаркі, 194 жыхары (2008).

У гіст. крыніцах вядомы з 17 ст. У 1616 г. сяло ў маёнтку Касцяневічы. У 1765 г. 2 вёскі з той жа назвай, уласнасць віленскіх езуітаў (7 двароў) і ў маёнтку Жары, уласнасць Я.Вазгірда, 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Касцяневічы, уласнасць ген.-маёра П.Бардакова, 6 двароў, 32 жыхары. У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 16 двароў, 116 жыхароў. У пач. 20 ст. 123 жыхары, 267 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв.; у Даўгінаўскай гміне — Добравічы Панскія, 36 двароў, 187 жыхароў, у Касцяневіцкай гміне — Добравічы Урадавыя, 29 двароў, 160 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Жарскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. У барацьбе з ворагам загінулі 15 землякоў, на ўшанаванне памяці якіх у 1966 г. ў вёсцы пастаўлены помнік. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. 7.3.1953 г. створаны калгас імя Малянкова. У 1960 г. 270 жыхароў; у 1988 г. 104 двары, 278 жыхароў; у 1971 г. цэнтр калгаса «Добравічы», 97 гаспадарак, 305 жыхароў. Працавалі 8-гадовая школа, швейная майстэрня, магазін, клуб, б-ка. У 2009 г. дзейнічалі клуб, магазін, Дом сац. паслуг.

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 15 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1800 г. в. Даўгалёўшчына ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны, 25 жыхароў; у 1853 г. ўласнасць З.Любанскага, у Вілейскім павеце Віленскай губ.; у 1897 г. вёска ў Вілейскіх вол. і павеце Віленскай губ., 13 двароў, 112 жыхароў. У пач. 20 ст. 119 жыхароў, 87 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 двароў, 151 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. Перад Вял. Айч. вайной 36 двароў, 145 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі—чэрв. 1944 г. спалена, загублены 3 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 130 жыхароў, у 1988 г. 26 гаспадарак, 52 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**ДУБАВОЕ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 47 км на ПдУ ад г. Вілейка, 24 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 85 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць. У 1800 г. ў складзе маёнтка Ілья, 14 двароў, 115 жыхароў, уласнасць генерал-аншэфа М.Салтыкова. З 1842 г. ў Віленскай губ. У 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Грэгаровіча, 26 рэвізскіх душ. У 1897 г. 9 двароў, 93 жыхары; у 1908 г. 13 двароў, 100 жыхароў, 110 дзес. надзелаў. У 1921 — 39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 15 двароў, 73 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. спалена карнікамі (22 двары), загублена 6 жыхароў (да вайны было 95 жыха-




роў). З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, у саўгасе «Карпавічы», 53 жыхары.

**ДУБІШЧА** – вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 6 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 104 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1834 г. засценак у маёнтку Тэклінаполь, уласнасць Любанскага, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 4 двары, 14 жыхароў. У 1905 г. 33 жыхары, у 1908 г. ў Баранскай сельскай грамадзе той жа вол., 5 двароў, 33 жыхары, 20 дзес. надзелаў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. засценак у Вілейскай гміне Вілейскага павета, 8 двароў, 47 жыхароў, у 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне таго ж павета Віленскага ваяв., 9 двароў, 60 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У 1940 г. 12 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, спалена, загінулі 16 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 40 жыхароў; у 1988 г. вёска, 13 гаспадарак, 19 жыхароў; у 2003 г. 6 двароў, 8 жыхароў.

**ДУБРАЎКА** – вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.02.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 43 км на ПнУ ад г. Вілейка, 23 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 139 км ад Мінска, на аўтадарозе Кумельшчына–Жары. 30 гаспадарак, 52 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1615 г. сяло ў маёнтку Сэрвач, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць, 20 валок. У 1756 г. вёска ў маёнтку Кастыкі Міхаіла Слізня, падканюшага ВКЛ; у 1765 г. ў маёнтку Сэрвач, уласнасць Э. Радзевіч, 14 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Вазгірда, В.Козела, 22 двары, 211 жыхароў. З 1820 г. ў маёнтку Латыгаль, уласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 37 двароў, 212 жыхароў. У 1908 г. 357 жыхароў, 340 дзес. зямлі. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска, 76 двароў, 393 жыхары; фальварак (2 двары, 17 жыхароў); засценак, 3 двары, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскай вобл. БССР, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сцешыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1949 г. створаны калгас імя І.Д.Чарняхоўскага. З 16.7.1954 г. ў Жарскім с/с таго ж раёна Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей. У 1960 г. 348 жыхароў, з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 59 двароў, 119 жыхароў, у складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага (цэнтр – в. Жары).

**ЕРХІ** – вёска ў Касцяневіцкім с/с, цэнтр. сядзіба СВК «Пунсовая зара». За 36 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 125 км ад Мінска, на аўтадарозе Ерхі–Давыдкі. 109 гаспадарак, 284 жыхары (2008).

У 1756 г. вёска ў складзе маёнтка Кастыкі ў Ашмянскім павеце, уласнасць М.Слізня. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Р.Слізня, 13 двароў, 104 жыхары. У пач. 20 ст. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета



Віленскай губ., 295 жыхароў, 402 дзес. зямлі; школа граматы (1900). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 55 двароў, 297 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 45 землякоў, на ўшанаванне іх памяці ў 1969 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.6.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 25.11.1948 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 270 жыхароў; у 1971 г. 69 двароў, 209 жыхароў, цэнтр калгаса «Зара», пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1988 г. 93 двары, 234 жыхары; калгас «Зара» яднаў 11 вёсак, меў 3804 га с.-г. угоддзяў. У вёсцы камбінат быт. абслугоўвання, дзіцячы сад-яслі, пач. школа, клуб, б-ка, сталовая, магазін. У 2009 г. дзейнічалі дзіцячы сад, пач. школа, б-ка, клуб, магазін, сталовая, аддз. сувязі.

**ЕСЬКАЎКА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с-г. УП «Даўгінава». За 48 км на ПнУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 151 км ад Мінска. 35 гаспадарак, 52 жыхары (2008).

У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Даўгінава Б.Каменскага, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., 37 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 40 двароў, 151 жыхар. У 1897 г. вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 21 двар, 130 жыхароў; хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска, 406 жыхароў, 582 дзес. зямлі. З лютага да снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., засценак, 88 двароў, 482 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 04.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронта не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У сак. 1950 г. створаны калгас імя Кутузава. З 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 407 жыхароў, у 1988 г. 63 двары, 114 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік», магазін.

**ЖАРДЭЦКІЯ** — хутар у Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 46 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 107 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 5 жыхароў (2008).

У 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 13 рэвізскіх душ. У 1897 г. засценак, 6 двароў, 54 жыхары. У 1908 г. ў вёсцы 8 двароў, 47 жыхароў, 40 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 47 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Віленскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 28 жыхароў.

**ЖАРСЦВЯНКА** — вёска ў Любанскім с/с, сядзіба ўстановы адукацыі «Вілейскі дзяржаўны прафесійны ліцэй». За 4 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, на аўтадарозе Маладзечна—Паставы, 107 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).





У 1873 г. вёска ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., вёска, 15 рэвізскіх душ (уласнасць Суднікавай) і засценак, 6 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска, 6 двароў, 45 жыхароў; у 1908 г. ў вёсцы 8 двароў, 58 жыхароў, 49,5 дзес. надзелаў; у засценку 26 жыхароў, 17,4 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 6 двароў, 44 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Каловіцкім с/с, 49 жыхароў, з 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. ў вёсцы 69 гаспадарак, 8 жыхароў.

**ЖАРСЦВЯНКА** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 15 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, на р. Нарач, 118 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У сярэдзіне 16 ст. вядома як урочышча ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1784 г. вёска, 2 двары, 15 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1845 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 11 жыхароў. У 1897 г. засценак у Вілейскай вол. і павеце Віленскай губ., 15 жыхароў; у пач. 20 ст. засценак, 20 жыхароў, 19 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Жарсцвянка Касіцкая ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 4 двары, 24 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны саўгас «Піянер». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.; у 1960 г. 28 жыхароў. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**ЖАРЫ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. цэнтр Жарскага с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 38 км на ПнУ ад Вілейкі, 8 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска, на шашы Вілейка—Докшыцы. 57 гаспадарак, 129 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1518 г. князі Свідскія прадалі «дзедзічыну» сваю Жары В.Кабыльчу за 200 коп грошай. У 1613 г. сяло ў маёнтку Сэрвач, у Ашмянскім павеце, уласнасць Віленскай капітулы і князя Б.Войны, 40 валок зямлі; у 1690 г. ўласнасць Стафана Косава, гараднічага віленскага, 25 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло (26 двароў, 212 жыхароў) і засценак (2 двары, 22 жыхары), уладанне І.Вазгірда ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв.; капліца, карчма. У 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (49 двароў, 298 жыхароў), маёнтак (2 жыхары) у Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 341 жыхар, 384 дзес. зямлі. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне (66 двароў, 358 жыхароў), калонія (21 двор, 129 жыхароў), фальварак (2 двары, 17 жыхароў), у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Жарскага с/с, 121 двор, 519 жыхароў (вёска, калонія, фальварак). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 14 землякоў (4 з іх не вярнуліся з фронту), на ўшанаванне іх памяці ў 1963 г. пастаўлены абеліск. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У снеж. 1952 г. створаны калгас імя С.М.Кірава.



З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 329 жыхароў; у складзе сельсавета 22 населеныя пункты, у якіх 3544 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1971 г. 87 двароў, 264 жыхары; у 1988 г. 67 двароў, 155 жыхароў, цэнтр калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага, які аб'яднаў 10 вёсак, меў 4586 га с.-г. угоддзяў; пач. школа, клуб, б-ка, магазін, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі клуб-бібліятэка, магазін, аддз. сувязі.

**ЖАЎТКІ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, каля аўтадарогі Вілейка—Паставы, 108 км ад Мінска. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 14 двароў, 95 жыхароў, уласнасць казны, была царква. У 1873 г. вёска ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе дзярж. маёнтка Вілейскага, 75 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1897 г. 42 двары, 257 жыхароў, 231,6 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 56 двароў, 278 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Каловіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 225 жыхароў. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 65 жыхароў. Вёска — радзіма А.І.Валынца (19.1.1904—30.3.1965), Героя Сав. Саюза, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху на Вілейшчыне ў гады Вял. Айч. вайны; бел. і рас. вучонага-хірурга, Героя Сац. Працы, двойчы лаўрэата Дзярж. прэміі СССР, д-ра мед. навук, праф. М.Н.Маліноўскага (н. 1.1. 1921).

**ЖУКАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 11 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 123 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., дзярж. ўласнасць, 5 двароў, 33 жыхары. У 1833 г. ў Карэкаўскім войтаўстве, 8 двароў. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 147 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 двароў, 162 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1941 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас «Перамога». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с, 138 жыхароў; у 1988 г. 31 гаспадарка, 79 жыхароў. У складзе калгаса «Ленінскі камсамол»; магазін.

**ЖУКАЎКА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 50 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 81 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска Каценшчыцы (Жукі) у складзе маёнтка Забор'е Л.Багдановіч, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 9 двароў, 51 жыхар. У пач. 20 ст. ў Хаценчыц-




кай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 52 жыхары. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 70 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ЖУРЫХІ** — вёска ў Любанскім с/с, сядзіба падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 18 км на Пн ад горада і 15 км ад чыг. ст. Вілейка, 120 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Паставы. 108 гаспадарак, 276 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Менчаняты, уласнасць Зянковіча, у Ашмянскім павеце ВКЛ, 12 двароў. У 1795 г. ўласнасць Сулістроўскага, потым тайнага саветніка Цэрскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 18 двароў, 129 жыхароў. У 1873 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Куранецкай вол., у складзе маёнтка Любань, уласнасць Любанскага, у Вілейскім павеце Віленскай губ., 96 рэвізскіх душ. У 1897 г. 37 двароў, 317 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1895 г. адкрыта школа граматы; у 1908 г. 51 двор, 336 жыхароў, 319,6 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 60 двароў, 321 жыхар, працавала бел. пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, у 1943 г. спалена. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў барацьбе з акупантамі, у 1983 г. пастаўлена стэла. З 20.9. 1941 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 259 жыхароў; у 1971 г. цэнтр Кузьміцкага с/с і калгаса «Кузьмічы», 98 двароў, 258 жыхароў; пач. школа, клуб, б-ка, ветпункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. З 16.8.1973 г. цэнтр сельсавета, з 13.4. 1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. ў вёсцы 112 гаспадарак, 286 жыхароў; школа-сад, б-ка, клуб, магазін. У 2009 г. дзейнічалі б-ка, клуб, магазін. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі археал. помнік — курганны могільнік (мясц. назва «Шведскія магілы»).

**ЖЫЗНАВА** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім с/с), у складзе філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напіткаў». За 46 км на ПнУ ад г. Вілейка, 27 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 149 км ад Мінска, на р. Сэрвач. 17 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1545 г. князь Д.Ю.Луцкі даў фундуш Свята-Георгіеўскай царкве ў сяле Жызнева — урочышча Пароўшчына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сумеснае ўладанне шляхціца Л.Каменскага і царквы, 12 двароў, 72 жыхары. У 1897 г. ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 67 жыхароў; у 1908 г. 289 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 40 двароў, 245 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагосцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У лютым 1950 г. створаны калгас «Праўда». З 16.7.1954 г. ў Даўгінаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім



р-не. У 1960 г. 226 жыхароў. У 1988 г. 36 двароў, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда».

**ЗААЗЕР'Е** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 27 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 130 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 18 ст. У 1717 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, 24 двары, 72 жыхары мужчынскага полу, царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 50 жыхароў. У 1841 г. 6 двароў, 69 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Талуцкай сельскай грамадзе Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе маёнтка Любань І.Любанскага, 37 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў вёсцы 18 двароў, 161 жыхар. У 1908 г. 24 двары, 124 жыхары, 177 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 34 двары, 199 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 вяскоўцаў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 167 жыхароў. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У 2003 г. 25 гаспадарак, 37 жыхароў. У 2009 г. дзейнічаў магазін. Радзіма Героя Сац. Працы М.І.Касяк (1.7.1918—2006).

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе філіяла «Юнік-агра» ААТ «Гарадскі малочны завод № 2». За 39 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска, на аўтадарозе Альковічы—Паляны. 97 гаспадарак, 252 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць. У 1643 г. сяло ў маёнтку Мільча Я.Рудаміна-Дусяцкага, кашталяна наваградскага, у Вілейскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ, 5 двароў. У 1775 г. ўладанне Лабачэўскага, 20 двароў, млын, бровар, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Крайскай вол., 19 двароў, 169 жыхароў, хлебазапасны магазін; у маёнтку Вярбіцкага 31 жыхар. У 1883 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 182 жыхары; у 1908 г. ў складзе Старынскай сельскай грамады, 12 двароў, 177 жыхароў, 207 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв.; маёнтак (19 жыхароў), вёска (37 двароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Ракшыцкім с/с. У Вял. Айч.



*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Забалацце.*





вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 3 жыхары. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў барацьбе супраць акупантаў, у 1974 г. ў вёсцы пастаўлены помнік. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 3.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл., у студз. 1950 г. створаны калгас «70-годдзе Сталіна». З 16.7.1954 г. вёска ў Альковіцкім с/с; з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл.; у 1971 г. 91 двор, 355 жыхароў; у 1988 г. 121 двор, 326 жыхароў, цэнтр саўгаса «За мір», у які ўвайшлі 12 вёсак; 3882 га сельгасугоддзяў; комплексны прыёмны пункт, дзіцячы сад-яслі, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, сталовая, магазін, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі Дом культуры, магазін, аддз. сувязі; Спаса-Праабражэнская царква.

**ЗАБАР'Е** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 39 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 72 км ад Мінска. 60 гаспадарак, 118 жыхароў (2008).



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Забалацце.*

У 1794 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць падскарбія ВКЛ Міхаіла Клеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну; у 1800 г. вёска Забар'е Блізкае ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Ілья ген.-аншэфа М.Салтыкова, 39 двароў, 245 жыхароў; у 1828 г. ў маёнтку Асцюковічы І.Тукалы 16 душ. Пасля 1842 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1895 г. вёска ў Хаценчыцкай вол., школа граматы. У пач. 20 ст. 321 жыхар, 349 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 72 двары, 406 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. да 20.7.1957 г. ў Ільянскім р-не Маладзечанскай вобл. 17.3.1949 г. створаны калгас «Камсамолец». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. З 1960 г. ў вёсцы 384 жыхары; у 1988 г. 110 двароў, 225 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, пач. школа, клуб, магазін.

**ЗАБЛОШЧЫНА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 26 км на ПнУ ад г. Вілейка, 11 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 129 км ад Мінска, на аўтадарозе Касцяневічы—Давыдкі. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 17 ст. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ. Да 1672 г. ўласнасць падскарбія літоўскага М.Кішкі; у 1690 г. — С.Альшэўскага; у 1765 г. — Відмонта, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (5 двароў, 40 жыхароў) і маёнтак А.Ходзькі ў Вілейскім павеце Мінскай губ.; у 1829 г. 8 двароў, 17 жыхароў. У 1897 г. вёска (11 двароў, 76 жыхароў) і сядзіба (2 жыхары) у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—



39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (14 двароў, 80 жыхароў), фальварак (2 двары, 11 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас «Чырвоны маяк». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 49 жыхароў; у 1988 г. 22 двары, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі». Радзіма пісьменніка, мемуарыста Ігната Ходзькі (29.9.1795—1.8.1861).

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 51 км на ПдУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск— Маладзечна, 80 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2008).

У 1800 г. сяло і двор у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Багдановічаў, 23 двары, 123 жыхары; у 1858 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 81 душа мужчынскага полу. У 1873 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хаценчыцкай вол. таго ж павета і губерні, уласнасць Тукалаў — 33 рэвізскія душы, Будрэвіча — 28 рэвізскіх душ, Чартовіча — 17 рэвізскіх душ; у сельскай грамадзе налічвалася 544 душы сялян-уласнікаў і 3 аднадворцы. У 1897 г. вёска, 58 двароў, 321 жыхар; у 1908 г. 60 двароў, 409 жыхароў, 242,7 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 маёнтак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 3 двары, 49 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-не, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 вёска ў Хаценчыцкім с/с, 95 жыхароў. Каля вёскі археал. помнікі — 2 курганныя могільнікі: адзін за 1,5 км на Пн, злева ад дарогі на в. Карпавічы, у лесе, ва ўрочышчы Курганы; другі за 1,1 км на З ад першага, у лесе.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 53 км на ПнУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 115 км ад Мінска, на аўтадарозе Зосіна—Поня. 49 гаспадарак, 116 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 11 двароў, 79 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць Ліхадзіеўскіх. У 1897 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 22 двары, 136 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 28 двароў, 147 жыхароў. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 29 двароў, 166 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Віленскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Бубнаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.



*Памятны знак у в. Заблошчына на месцы былога маёнтка, дзе нарадзіўся пісьменнік І.Ходзька.*





1944 г. ў Бубнаўскім, з 16.7.1954 г. ў Ваўкалацкім сельсаветах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У вер. 1950 г. створаны калгас імя Суворава. У 1960 г. ў Мільчанскім с/с, 152 жыхары. З 25.12.1960 г. ў Вілейскім р-не. У 1971 г. 58 двароў, 195 жыхароў, цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік», 8-гадовая школа, ФАП, магазін, аддз. сувязі, б-ка. З 4.1.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 50 двароў, 130 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік» (цэнтр — в. Бубны), 8-гадовая і вячэрняя школы, Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі. У 2003 г. 52 гаспадаркі, 130 жыхароў, ФАП, магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**ЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 15 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска, на р. Нарач. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак у Вілейскай вол. таго ж павета Віленскай губ., 5 двароў, 42 жыхары. У пач. 20 ст. 46 жыхароў, 57 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 69 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 25.11.1948 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 67 жыхароў. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.



*Могілкі расійскіх воінаў, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну, каля в. Заброддзе Нарачанскага сельсавета. Рэканструкцыя мастака Б.Цітовіча.*

**ЗАВОЗЕР'Е** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абласнога с.-г. УП «Новая Вілія». За 32 км на ПдУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Маладзечна, 95 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1875 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., вёска, была школа граматы. У 1897 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета, 15 двароў, 99 жыхароў. У 1908 г. двароў, 89 жыхароў. 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Навагрудскага (з 1925 г. Віленскага) ваяв., 16 двароў, 85 жыхароў; у 1938 г. 20 двароў, 111 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 3 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 74 жыхары; у 1988 г. 52 двары, 105 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілія» (цэнтр — в. Селішча).

**ЗАГАРАНЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 53 км на ПдУ ад г. Вілейка, 24 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 85 км ад



Мінска. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1858 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 29 душ мужчынскага полу; у 1873 г. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 31 рэвізская душа; у 1897 г. 17 двароў, 130 жыхароў. У 1908 г. ў Рабцоўскай сельскай грамадзе той жа воласці, 21 двор, 159 жыхароў, 80,9 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 19 двароў, 108 жыхароў, млын (3 двары, 22 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 76 жыхароў.

**ЗАДВОР'Е** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 30 км на ПнУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска, на р. Сэрвач. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У пач. 17 ст. сяло ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1622 г. ў складзе маёнтка Сэрвач, 5 валок зямлі, якія Л.Рагоза падараваў кальвінскаму збору. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1880 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра П.Бардакова (3 двары, 17 жыхароў), і вёска, уласнасць А.Агінскай (3 двары, 27 жыхароў). У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 63 жыхары; хлебазапасны магазін; у 1908 г. 100 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 15 двароў, 25 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. па 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 77 жыхароў; у 1988 г. 18 двароў, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі». Каля вёскі археал. помнікі, каля б. в. Гуры (Гуркі) — курганны могільнік на ўскраіне хутара, за 1 км на З ад Задвор'я, на правым беразе р. Сэрвач (датуецца 8—9 ст.); селішча за 0,3 км на ПдУ ад Гураў, на канцы ўзвышша, абмежаванага з паўн. боку высокім берагам р. Сэрвач, з усх. і зах. бакоў — забалочанай нізінай.

**ЗАЕЛЬНІКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 54 км на ПдУ ад г. Вілейка, 21 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 82 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

У 1800 г. в. Заельнічы ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Лаўцэвічы, уласнасць ген.-маёра І.Няплюева, 4 двары, 43 жыхары. У 1873 г. вёска ў Рабцоўскай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 26 рэвізскіх душ; у 1897 г. 17 двароў, 107 жыхароў; у 1908 г. 19 двароў, 134 жыхары, 103,7 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 29 двароў, 176 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. карнікамі спалены 20 двароў, загублены 11 жыхароў (да вайны было 35 двароў, 141 жыхар). З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай аблас-





цей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 113 жыхароў.

**ЗАЛАЗОЎЕ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 45 км на ПнУ ад г. Вілейка, 140 км ад Мінска, 3 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк. 19 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

У 1800 г. вёска ў маёнтку Даўгінава Л.Каменскага ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 37 жыхароў. У 1897 г. ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 31 двор, 206 жыхароў. У 1905 г. 225 жыхароў, 319 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 52 двары, 244 жыхары, млын (Юзафова). З вер. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. таго ж раёна Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У сак. 1950 г. створаны калгас «Праўда». З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не той жа вобласці, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. 207 жыхароў, у 1988 г. 35 двароў, 60 жыхароў, у складзе саўгаса «Даўгінава».

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 41 км на ПдУ ад г. Вілейка, 30 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 91 км ад Мінска. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2008).

У 1855 г. маёнтак у Вілейскім павеце Віленскай губ.; дзейнічаў шклозавод, засн. М.Левіным. У 1873 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хаценчыцкай вол. тых жа павета і губерні, 24 рэвізскія душы. У сельскай грамадзе 241 селянінуласнік. У 1894 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў той жа воласці, вёска (13 двароў, 70 жыхароў), хлебазапасны магазін; маёнтак Н.М.Васнеўскага (26 жыхароў); шклозавод (408 жыхароў, крама, школа граматы). У 1908 г. вёска, 19 двароў, 117 жыхароў, 115 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (27 двароў, 151 жыхар); маёнтак (4 двары, 32 жыхары), працавала пач. польска-бел. школа. З ліст.1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, працаваў млын. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска (160 жыхароў), хутар (31 жыхар), шклозавод «Залессе» (347 жыхароў) у Хаценчыцкім с/с.

**ЗАЛОЖЫНА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 60 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, на шашы Вілейка—Докшыцы,163 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 5 двароў, 42 жыхароў. У 1905 г. 47 дзес. зямлі. У 1908 г. ў складзе Зосінскай сельскай грамады той жа воласці, 3 двары, 38 жыхароў, 33 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў, 39 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Бубнаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У лют. 1950 г. створаны калгас імя Я.Коласа. З 16.7.1954 г. ў Ваўкалацкім с/с таго ж раёна. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 4.4.1973 г. ў Даўгі-



наўскім с/с. У 1960 г. 49 жыхароў; у 1988 г. 11 двароў, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Чырвоны Кастрычнік»; у 2003 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў.

**ЗАМОШША** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барацьбіт». За 55 км на ПнУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 129 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1794 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць княгіні А.Агінскай, у 1800 г. вёска ў маёнтку Мільча ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць М.Тышкевіча, 3 двары, 16 жыхароў. У 1905 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 256 жыхароў, 253 дзес. зямлі. У 1912 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета. 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. в. Замошша Слабадское ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3. 1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. 69 жыхароў; у 1988 г. 8 двароў, 15 жыхароў; у складзе калгаса «Барацьбіт».

**ЗАМОШША** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 39 км на ПнУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 129 км ад Мінска, на аўтадарозе Жары—Кумельшчына, каля шашы Вілейка—Докшыцы. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. як сяло ў Ашмянскім павеце. У 1615 г. ў маёнтку Сэрвач, 13 валок. У 1765 г. вёска ў маёнтку Жары, уласнасць І.Вазгірда, 17 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 14 двароў, 106 жыхароў. У 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 30 двароў, 217 жыхароў. У 1908 г. 234 жыхары, 253 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Жарскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках брацкая магіла 3 партызан, якія загінулі ў баях з акупантамі ў 1944 г., у 1974 г. пастаўлена стэла. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У сак. 1949 г. створаны калгас «XIX партз'езд КП(б)Б». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 238 жыхароў, у 1988 г. 39 двароў, 84 жыхары, у складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага, магазін.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 36 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 74 км ад Мінска, на р. Сліжанка. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 19 жыхароў; у 1908 г. 26 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Вілейскім павеце, у Ільянскай гміне, засценак, 4 двары, 28 жыхароў; у 1938 г. 5 двароў, 24 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 11 жыхароў; у 1988 г. вёска, 8 двароў, 25 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.




**ЗАСПОРНЯ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 102 км ад Мінска, на р. Вілія (2,5 км), на шашы Маладзечна—Мядзел. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак у Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 18 жыхароў. У пач. 20 ст. 25 жыхароў, 39 дзес. зямлі. У 1908 г. засценак, 1 двор, 25 жыхароў, 34,9 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. ў Каловіцкай гміне, засценак, 3 двары, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с Куранецкага р-на Вілейскай вобл. З чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска, 21 жыхар; у 1988 г. 5 двароў, 11 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава; у 2003 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ЗАСЦЕНКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 24 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 127 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

У гіст. крыніцах згадваецца ў 1622 г., сяло ў фальварку Рускасельскі маёнтка Лоск, уласнасць ваяводы полацкага Я.Кішкі. У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв., уласнасць Я.Лапацінскага, біскупа жмудскага, 11 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. в. Засценак у маёнтку Іжа ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Слізава, 15 двароў, 142 жыхары. У 1897 г. вёска ў Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 27 двароў, 202 жыхары; кузня, вятрак. У пач. 20 ст. 217 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне Вілейскага павета, 29 двароў, 141 жыхар. З 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У 1940 г. створаны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У сак. 1947 г. аднавіў работу калгас імя Калініна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., у вёсцы 172 жыхары; у 1988 г. 44 двары, 75 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне», ферма буйной рагатай жывёлы.

**ЗАЦЕМЕНЬ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе РУП «Стайкі». За 46 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 149 км ад Мінска, на аўтадарозе Зацемень—Малевічы, каля р. Ілія (2,5 км). 28 гаспадарак, 71 жыхар (2008).

У 1794 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ, у фальварку Стайкі, уласнасць Л.Багдановіч. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у маёнтку Старынкі Багдановічаў, 20 двароў, 128 жыхароў. У 1829 г. ўласнасць В.Багдановіча. У 1897 г. маёнтак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 75 жыхароў. У 1905 г. маёнтак, 77 жыхароў, 937 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак у Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., маёнтак, 8 двароў, 105 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Альковіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. За 1,5 км на Пн ад вёскі ў лесе магіла ахвяр фашызму, дзе пахаваны 15 жыхароў (3 сям'і) з б. хутара Клюева, якіх спалілі ням.-фаш. карнікі 8.5.1943 г.; у 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1949 г. ў Вілейскім



р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 2003 г. 35 гаспадарак, 52 жыхары. Дзейнічае царква ў імя святой праведнай Елісаветы.

**ЗАЧАРНАЯ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 50 км на ПдУ ад г. Вілейка, 87 км ад Мінска, 26 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, на р. Ілія. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1800 г. в. Зачарняны ў маёнтку Лукавец, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Б.Шумскай; 4 двары, 16 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Кармянецкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Вілейскай губ., 19 рэвізскіх душ; у 1897 г. 13 двароў, 74 жыхары; у 1908 г. 16 двароў, 106 жыхароў, 75,2 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 112 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. спалена карнікамі, загінулі 12 жыхароў (да вайны было 18 двароў, 139 жыхароў). З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у складзе калгаса «Лукавец». За 0,5 км на З ад вёскі археал. помнік — курганны могільнік, справа ад дарогі на в. Старынка, у лесе.

**ЗЕНАНОВА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 35 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 138 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1825 г. маёнтак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Любанскага, потым прададзена ім Г.Алешу, 143 душы мужчынскага полу. У 1880 г. сядзіба, вінакурны з-д. У 1886 г. маёнтак у Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., бровар. У 1897 г. вёска, 4 двары, 39 жыхароў. У 1904 г. маёнтак і засценак. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах. У 1938 г. пасёлак у Вішнеўскай гміне Вілейскага павета, 23 двары, 124 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У кастр. 1949 г. створаны калгас імя Чапаева. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 98 жыхароў; у 1988 г. 16 двароў, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**ЗІМОДРЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 6 км на Пн ад г. Вілейка, 0,5 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 112 км ад Мінска. на аўтадарозе Вілейка—Докшыцы. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1621 г. сяло ў Маркаўскай дзяржаве ў Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць К.Сапегі; у 1789 г. засценак, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Берхмана, 5 двароў, 43 жыхары. У 1849 г. засценак, карчма. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 78 жыхароў; у пач. 20 ст. 51 жыхар, 82 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 14 двароў, 79 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1941 г. да 5.7. 1946 г. ў Куранецкім р-не Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1946 г. створаны калгас «Авангард». З 20.1.1960 г. ў Мінскай





вобл. У 1960 г. вёска ў Куранецкім с/с, 74 жыхары; у 1988 г. 7 двароў, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілейскі».

**ЗОЛЬКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 31 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 134 км ад Мінска. 27 гаспадарак, 41 жыхар (2008).

У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 32 двары, 164 жыхары. У 1908 г. было 213 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах Польшчы. У 1938 г. пасёлак у Вішнеўскай гміне, у Вілейскім павеце, 23 двары, 124 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Чурленскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 46 жыхароў (з іх 9 не вярнуліся з фронту), на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У студз. 1949 г. створаны калгас «Чырвоная зорка». З 18.5.1959 г. ў Іжскім с/с; з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 134 жыхары, у 1971 г. цэнтр калгаса імя С.М.Кірава, 43 двары, 133 жыхары, клуб, б-ка, швейная і шавецкая майстэрні, магазін; у 1988 г. 45 двароў, 91 жыхар, у складзе калгаса імя С.М. Кірава; клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін. Каля вёскі размяшчаўся фальварак Крыстынопаль, дзе жыў бел. паэт, фалькларыст Адам Гурыновіч (25.1.1869—4.2.1894). У яго гонар у вёсцы пастаўлены памятны знак; на могілках, дзе пахаваны паэт, — капліца.

**ЗОСІНА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 60 км на ПнУ ад г. Вілейка, 9 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 163 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1832 г. маёнтак, уласнасць В.Радзевіч, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1867 г. маёнтак у Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць К.Шышке-

*Вёска Золькі: 1 — капліца на могілках, дзе пахаваны А.Гурыновіч; 2 — памятны знак у гонар паэта.*



1



2



віча. У 1897 г. сядзіба Е.Шышкевічава, 19 жыхароў, у Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. маёнтак Шышкевічаў, 19 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак у Будслаўскай гміне, 4 двары, 37 жыхароў; засценак, 3 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Бубнаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 3.7.1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Бубнаўскім с/с таго ж раёна Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У жн. 1948 г. створаны калгас «Шлях Леніна». З 16.7.1954 г. ў Ваўкалацкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 32 жыхары. З 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с . У 1988 г. 2 двары, 4 жыхары; у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік».

**ЗЯЛЁНАЯ** (да 1978 г. Дуравічы) — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 32 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Маладзечна, 95 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1430 г. як сяло ў прывілеі вял. кн. Свідрыгайлы, ваяводзе трокскаму А.Саковічу. У 1625 г. сяло ў фальварку Сядзіца маёнтка Вязынь, уласнасць Я.Вітуньскага, зямяніна гаспадарскага, які прадаў яго біскупу віленскаму Я.Валовічу. Ад яго сяло Дуравічы перайшло да манашак-бенедыкцінак віленскага кляштара пры касцёле святой Кацярыны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча, 6 двароў, 50 жыхароў. У 1897 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 9 двароў, 60 жыхароў. У пач. 20 ст. 68 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 18 двароў, 110 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. З чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 115 жыхароў. У 1988 г. вёска, 23 двары, 54 жыхары, у складзе саўгаса «Вілія», магазін.

**ІВАШЫНАВІЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 21 км на ПнУ ад г. Вілейка, 13 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 124 км ад Мінска, на аўтадарозе Івашынавічы—Рэчкі. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ, 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Куранецкага, 13 двароў, 102 жыхары. У 1895 г. ў Віленскай губ., адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска (27 двароў, 244 жыхары, царква) і сядзіба (2 двары, 15 жыхароў) у Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 278 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (48 двароў, 286 жыхароў) і фальварак (4 двары, 23 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнулася 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 4.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас імя Сталіна. З 16.6.1954 г. ў Куранецкім, з 12.9.1959 г. ў Касцяневіцкім сельсаветах; з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 255 жыхароў; у

1988 г. 51 двор, 98 жыхароў, у складзе калгаса «Зара», магазін.

**ІВОНЦАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 7 км на Пн ад г. Вілейка, 1,5 км ад чыг. ст. Куранец, 110 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Докшыцы. 54 гаспадаркі, 134 жыхары (2008).

У 18 ст. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ. У 1765 г. ў складзе маёнтка Куранец, 15 двароў, уласнасць С.Саванеўскай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 11 двароў, 46 жыхароў, шляхецкая ўласнасць; у 1853 г. фальварак у Вілейскім павеце Віленскай губ. У пач. 20 ст. вёска ў Куранецкай вол. таго ж павета і губерні, 148 жыхароў, 197 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. вёска (30 двароў, 173 жыхары) і фальварак (3 двары, 12 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с, быў млын. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. часткова спалена, былі загублены 34 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас імя Чкалава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 147 жыхароў, з 1968 г. ў саўгасе «Вілейскі». У 1988 г. 37 двароў, 80 жыхароў.

*Іосіфаўская царква ў в. Іжа.*



**ІЖА** — вёска, цэнтр Іжскага с/с, цэнтр. сядзіба СВК «Іжа». За 23 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 127 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Свір, на р. Нарачанка. 174 гаспадаркі, 390 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1443 г. ўласнасць Мядзельскага старасты А.Саковіча, потым баярына Ш.Хержака. У 1538 г. па купчай перайшла да зямяніна М.Даўкшэвіча. У 1558 г. с. Іжаны ў Маркаўскай дзяржаве Віленскага ваяв. ВКЛ. У 1638 г. войтаўства ў маёнтку Лоск, уласнасць віленскай капітулы, фундуш ваяводы полацкага Я. Кішкі, потым з 1690 г. біскупа М.Слупскага. У 1766 г. сяло Іжа Кішчынская (Кішчынцы), уласнасць Я.Лапацінскага, біскупа жмудскага, 26 двароў. У 1789 г. с. Іжа Каралеўская, у Маркаўскім старостве, 39 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. пабудавана драўляная царква (у імя святога Іосіфа), сяло ў Вілейскім павеце. У 1800 г. маёнтак, уласнасць ген.-маёра Слізава: двор з чыншавай шляхтай (2 сядзібы, 7 чалавек), касцёл, карчма, сёлы, Іжа Кішчынцы (36 двароў, 349 жыхароў), Заазер'е, Слабодка, Засценак, Талутцы. 24.5. 1863 г. каля сяла адбыўся бой атрада рус. войск з паўстанцамі. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1880 г. цэнтр воласці Вілейскага павета Віленскай губ., 41 двор, 615 жыхароў, царква, нар. вучылішча, заезны дом. У 1897 г. 99 двароў, 630 жыхароў, хлебазапасны магазін, лаўка, ветраны млын, карчма. У пач.



20 ст. 654 жыхары, 756 дзес. зямлі. Восенню 1915 г. тэр. воласці апынулася ў зоне крывапралітных баёў рус. арміі з войскамі герм. арміі. Часці рус. арміі (камандуючы ген. ад інфантэрыі У.В. Смірноў) вызвалілі г. Вілейка. У лютым—снеж. 1918 г. і з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. акупіравана герм., потым польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1921 г. ў Вілейскім павеце Навагрудскага, з 19.12.1925 г. Віленскага ваяв., цэнтр гміны. У 1923 г. 93 двары, 513 жыхароў, працавала польска-бел. пач. школа. З 1938 г. ў Войстамскай гміне, 107 двароў, 579 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл. У воласці было 1898 гаспадарак, 9380 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр Іжскага с/с Куранецкага р-на Вілейскай вобл. У 1940 г. ў в. Іжа, 114 двароў, 605 жыхароў, у складзе сельсавета 3362 жыхары, лесапільны з-д, млын. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у 1942 г. яны расстралялі тут 21 жыхара (у 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск). У вёсцы дзейнічала падп. арг-цыя. У барацьбе з акупантамі загінулі 128 землякоў (з фронту не вярнуліся 12 жыхароў), на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1949 г. створаны калгас імя Пушкіна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 600 жыхароў, у сельсавеце 42 паселішчы, 4428 жыхароў. У 1971 г. цэнтр калгаса «Світанне», які аб'ядноўваў 16 вёсак, меў 6915 га сельгасугоддзяў, з іх 1984 га ворыва, лясніцтва, КБА, млын, сярэдняя школа, б-ка, клуб, бальніца, аптэка, ветлячэбніца, аддз. сувязі, 4 магазіны. У 1988 г. 214 двароў, 491 жыхар; аддз. сувязі, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад, бальніца, Дом культуры, б-ка, КБА, 4 магазіны, ветлячэбніца. У 1993 г. ў сельсавеце 1103 гаспадарак, 2367 жыхароў; гісторыка-краязнаўчы музей (пры сярэдняй школе). У 2009 г. дзейнічалі базавая школа-сад, бальніца сястрынскага догляду, урачэбная амбулаторыя, аддз. сувязі, Дом культуры, магазін, лясніцтва. За 1,9 км на ПнУ ад вёскі археал. помнік — курган, у лесе, ва ўрочышчы Лісічыха. У вёсцы помнік архітэктуры — драўляная Свята-Іосіфаўская царква (1922—29, рэканструявана ў пач. 21 ст.). На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на беразе р. Нарач помнік нар. дойлідства — драўляны вадзяны млын (пач. 20 ст.).

**ІЗБІНО** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 1 км на ПдЗ ад горада і 2 км ад чыг. ст. Вілейка, 101 км ад Мінска. 105 гаспадарак, 318 жыхароў (2008).

У гіст. крыніцах вядома з 18 ст. У 1738 г. в. Ізбіны ў Вілейскім старостве Віленскага ваяв., 6 двароў, 38 жыхароў; побач фальварак, шляхецкая ўласнасць. У 1766 г. ўрочышча Ізбішча ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1834 г. засценак у дзярж. маёнтку Вілейка. У 1897 г. ў Вілейскай вобл. і павеце Віленскай губ., 22 жыхары. У 1905 г. засценак Ізбішча, 17 жыхароў; у 1908 г. ў Вілейскай сельскай грамадзе, 1 двор, 12 жыхароў, 13 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Вілейскіх гміне і павеце Віленскага ваяв., 6 двароў, 32 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 29 жыхароў; у 1988 г. 62 двары, 222 жыхары, у складзе саўгаса імя Суворава. У 2003 г. 102 гаспадаркі, 331 жыхар, магазін.





**ІЛІШЧАВІЧЫ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 5 км на ПдЗ ад горада, 7 км ад чыг. ст. Вілейка, 104 км ад Мінска, на аўтадарозе Асіпавічы—Шылавічы. 39 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве, 15 двароў; у 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Куранецкага, 15 двароў, 100 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вол. таго ж павета Віленскай губ., 49 двароў, 301 жыхар. У 1905 г. 343 жыхары, у 1908 г. ў Вілейскай сельскай грамадзе, 24 двары, 66 жыхароў, 24,8 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 83 двары, 431 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У 1940 г. 79 двароў, 103 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, у чэрв. 1944 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску (5 двароў), знішчылі 26 жыхароў. З фронту не вярнуліся 15 жыхароў. З 20.9.1941 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. было 284 жыхары; у 1988 г. 71 двор, 150 жыхароў (у складзе калгаса імя Суворава); у 2003 г. 39 гаспадарак, 69 жыхароў.



*Ільінская царква ў в. Ілья.*

**ІЛЬЯ** — вёска, цэнтр Ільянскага с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 35 км на ПдУ ад г. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 75 км ад Мінска на аўтадарозе Сосенка—Краснае, на р. Ілія. 507 гаспадарак, 1214 жыхароў (2008).

У гіст. крыніцах згадваецца ў 15 ст. У 1473 г. маёнтак Б.Саковіча, маршалка дворнага, у 1546 г. — Ф.Сапегі, у 1552 г. — С.Збаражскага, ваяводы трокскага. У 1572 г. маёнтак і мястэчка. У 1582 г. належала кашталяну менскаму Я.Глябовічу, потым ваяводзе смаленскаму М.Глябовічу. Паводле інвентару 1650 г. мяст. Ілья мела 93 двары, 73 уладальнікі ворных пляцаў, у плане складалася з 3 вуліц і гандл. плошчы ў цэнтры, 10 корчмаў. На месцы б. згарэлай царквы быў пабудаваны касцёл. З 1754 г. графства Ільскае, уласнасць Радзівілаў, потым Салагубаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. мястэчка ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць падскарбія ВКЛ Міхаіла Клеафаса Агінскага, пасля канфіскацыі ў казну падаравана графу М.І.Салтыкову. У 1800 г. мястэчка — сумесная ўласнасць М.І.Салтыкова і Ільянскай каталіцкай плябаніі; 112 двароў, 361 жыхар, касцёл, царква, 2 штогадовыя кірмашы. У канцы 18 — пач. 19 ст. існаваў шклозавод (вырабляў аконнае, аптэкарскае шкло, шклянкі, келіхі і інш.; засн. ў 1769 г. як шкляная мануфактура; на паўд. ускраіне вёскі захаваліся рэшткі цагляных збудаванняў). У 1828 г. пабудавана драўляная Свята-Ільінская царква. У 1857 г. было 103 двары, 478 жыхароў. У 1864 мястэчка ў Вязынскай вол. Вілейскага павета, адкрыта нар. вучылішча (у 1884 г. было 32 вучні). У 1886 г. казённае мястэчка ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 40 двароў, 318 жыхароў, 2 царквы, нар. вучылішча, 2 штогадовыя кірмашы, таргі па



нядзелях. У 1897 г. 197 двароў, 1431 жыхар, 2 царквы, 3 малітоўныя яўр. школы, паштовае аддз., прыёмны пакой, аптэка, нар. вучылішча, 27 гандл. крам, скурзавод, цэх па вырабе ліманаднай вады, шынок, 22 карчмы; в. Ілья Новая — 7 двароў, 41 жыхар. У пач. 20 ст. 1525 жыхароў, 319 дзес. зямлі, фельч. пункт, нар. вучылішча. У 1907 г. існавала сацыял-дэмакратычная група. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр Ільянскай гміны ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв.; пастарунак, паштова-тэлегр. кантора. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 4.12. 1939 г. цэнтр воласці ў Вілейскіх павеце і вобл.; у воласці 115 населеных пунктаў, 1898 гаспадарак, 9380 жыхароў. 15.1.1940 г. з Вязынскай, Ільянскай, Хаценчыцкай, часткі Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета ўтвораны Ільянскі р-н з цэнтрам у мяст. Ілья. На гэты час тут 310 дамоў, 1550 жыхароў, 2 млыны, лесапільны з-д, пач. і няпоўная сярэдняя школа, паштова-тэлегр. кантора, клуб. У раёне было 311 населеных пунктаў, 5778 сял. гаспадарак (з іх 1116 хутарскіх), кардонная ф-ка, 3 лесапільныя, 2 вінакурныя з-ды, 4 млыны, маслазавод, 2 няпоўныя сярэднія, 40 пач. школ, бальніца, 3 клубы. З 12.10.1940 г. цэнтр Ільянскага с/с таго ж раёна Вілейскай вобл. У складзе сельсавета 20 вёсак, 4444 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З пач. акупацыі ў І. пачала дзейнічаць камсамольска-маладзёжная падп. арг-цыя. На тэр. раёна дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгада імя М.В.Фрунзе, якая да пач. вер. 1943 г. кантралявала ў раёне 20 вёсак, у якіх размяшчаліся яе камендатуры. У вёсцы знаходзіўся варожы гарнізон. 17.3.1942 г. фашысты знішчылі тут 750 грамадзян (на ўшанаванне іх памяці ў 1957 г. пастаўлена стэла) і ў 1944 г. вёску спалілі. На франтах загінулі 33 вяскоўцы. У вёсцы брацкая магіла сав. воінаў і партызан (40 чал.), якія загінулі ў баях супраць акупантаў; у 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск. Да 20.7.1957 г. вёска, цэнтр Ільянскага, потым Вілейскага р-наў Маладзечанскай вобл. 20.6.1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Радзіма», з 1957 г. пачаў дзейнічаць Ільянскі ветэрынарны тэхнікум, пры якім у 1958 г. арганізавана вучэбна-вытв. гаспадарка. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 1970 г. тэхнікум рэарганізаваны ў саўгас-тэхнікум. У 1960 г. ў вёсцы 1590 жыхароў, у сельсавеце 55 населеных пунктаў, 7381 жыхар. У 1971 г. ў вёсцы 530 двароў, 2179 жыхароў, смалакурня, цагельны з-д, лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, веттэхнікум, ветлячэбніца, бальніца, аптэка, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, 10 магазінаў, аддз. сувязі. У 1988 г. ў вёсцы 578 двароў, 2291 жыхар, у складзе саўгаса-тэхнікума (цэнтр — в. Абадоўцы), смалакурны і цагельны з-ды, лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання, веттэхнікум, сярэдняя школа, гісторыка-края-

*Касцёл Сэрца Ісуса ў в. Ілья.*



знаўчы музей, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі-сад, 5 магазінаў, бальніца, аптэка, ветлячэбніца. У 2000 г. пры Доме культуры створана эстрадная студыя «Імпэт» (з 2003 г. народная). Сельсавет аб'ядноўваў 31 вёску. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, школа мастацтваў, аграрны каледж, б-ка, Дом культуры, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, 7 магазінаў, сталовая. У вёсцы арх. помнікі — Свята-Ільінская царква (1828), касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса (1907—09). Вёска — радзіма бел. вучонага-педагога, чл.-кар. НАН Беларусі, засл. работніка адукацыі Рэспублікі Беларусь А.А.Грымаця (17.10. 1938—18.11.2000).

**ІЛЬЯНСКІЯ ХУТАРЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 77 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У пач. 20 ст. в. Ілья-Новая ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 41 жыхар, 192 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. Ільскія калоніі ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 162 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 20.6.1949 г. створаны калгас «Іскра». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., 176 жыхароў. У 1988 г. 20 двароў, 40 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**КАВАЛІ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 81 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2008).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. У 1730 г. фальварак у Ільянскім графстве, у 1794 г. вёска ў фальварку Абадоўцы, уладанне Л.Багдановіч. У 1788 г. ў вёсцы 11 двароў, 61 жыхар, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 9 двароў, 43 жыхары; у 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Вязынскай вол., 33 двары, 250 жыхароў; сядзіба, 3 двары, 12 жыхароў. З 1884 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 250 жыхароў, 197 дзес. зямлі і сядзіба, 12 жыхароў, 6 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 78 двароў, 436 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Суднікоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 24.8.1945 г. створаны калгас «Перамога». З 6.9.1957 г. ў Ільянскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 216 жыхароў; у 1988 г. 54 двары, 118 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума. У 2009 г. дзейнічаў магазін. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі археал. помнік — гарадзішча, каля р. Ілія, ва ўрочышчы Паганскі могільнік.

**КАВАЛІ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 17 км на З ад горада і 15 км ад чыг. ст. Вілейка, 120 км ад Мінска, на р. Нарачанка. 49 гаспадарак, 116 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. 16 двароў, 49 жыхароў, уладанне І.Гутаровіча. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 28 двароў, 167 жыхароў, хлебазапасны магазін; у пач. 20 ст. 203 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне, 47 двароў, 272 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім



р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў, 80 землякоў загінулі ў барацьбе з ворагам, на ўшанаванне іх памяці ў 1964 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Кknown Кураненцкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.3.1948 г. створаны калгас імя С.Будзённага, які аб'ядноўваў 19 гаспадарак, меў 1200 га ворыва. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1971 г. вёска ў Рускасельскім с/с, цэнтр калгаса «Дружба», 64 гаспадаркі, 192 жыхары, працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. З 16.12. 1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 78 гаспадарак, 194 жыхары, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, б-ка, клуб, 8-гадовая школа, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі клуб-бібліятэка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**КАЗАНЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 15 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Куранецкай уніяцкай парафіі, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1873 г. вёска ў складзе Журыхскай сельскай грамады Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць І.Любанскага, 15 рэвізскіх душ. У 1897 г. 4 двары, 56 жыхароў; у 1908 г. ў складзе Кузьміцкай сельскай грамады тых жа валасці і павета, 7 двароў, 48 жыхароў, 57 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 9 двароў, 67 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 61 жыхар; з 13.4. 1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. ў вёсцы 8 гаспадарак, 9 жыхароў.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 30 км на ПдУ ад Вілейкі, 84 км ад Мінска, 23 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 50 гаспадарак, 84 жыхары (2008).

У 1794 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у складзе маёнтка Ілья, маёмасць падскарбія ВКЛ Міхаіла Клеафаса Агінскага; канфіскавана ў казну. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 22 двары, 181 жыхар; у 1828 г. ў маёнтку Асцюковічы І.Тукалы, 64 душы. У пач. 20 ст. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 318 жыхароў, 483 дзес. зямлі; школа граматы. У 1921— 39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 78 двароў, 436 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Шыпкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 29.7.1950 г. створаны калгас «Герой працы». З 16.7.1954 г. ў складзе Ільянскага с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 344 жыхары, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, магазін. За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Куксіна археал. помнік — гарадзішча.

**КАЛОВІЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 5 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 108 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Мядзел. 93 гаспадаркі, 197 жыхароў (2008).

У 1631 г. вёска ў Маркаўскай дзяржаве Ашмянскага павета ВКЛ. У 1765 г. 30 двароў, у Вілейскім старостве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 27 двароў, 168 жыхароў, уласнасць І.Куранецкага. У 1866 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1873 г. вёска ў складзе дзярж. маёнтка Вілейка ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 120 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска, цэнтр воласці таго ж павета, 69 двароў, 557 жыхароў, нар. вучылішча, 2 хлебазапасныя магазіны, піцейны дом, капліца; у 1908 г. 81 двор, 509 жыхароў, 490 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска, цэнтр гміны Вілейскага павета Віленскага ваяв., 90 двароў, 522 жыхары, працавала польска-бел. пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У вёсцы 90 двароў, 522 жыхары, у с/с 26 населеных пунктаў, 3522 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 22 вяскоўцы. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 3.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 432 жыхары; у сельсавеце 15 населеных пунктаў, 3510 жыхароў. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 1971 г. 395 жыхароў, 147 двароў, пач. школа, клуб, аддз. сувязі, магазін. У 2003 г. 99 гаспадарак, 210 жыхароў, б-ка, Дом майстроў, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Вёска — радзіма бел. культуролага, гісторыка, д-ра культуралогіі А.І.Смоліна (н. 24.10.1944).

**КАЛОДКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 25 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

У 1789 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць Радзівілаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 37 двароў, 297 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 40 двароў, 260 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. карнікі загубілі 12 чал. з вёскі (2 сям'і партызан), у 1968 г. на іх магіле пастаўлены абеліск. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У снеж. 1949 г. створаны калгас імя Леніна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 186 жыхароў, у 1988 г. 44 двары, 70 жыхароў; у складзе калгаса «Світанне», магазін.

**КАЛОДЛІВА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 62 км на ПдУ ад г. Вілейка, 35 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск— Маладзечна, 98 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 17 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., засценак, 5 двароў, 26 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Ві- лейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, у Хаценчыцкім с/с, 21 жыхар.

**КАЛОДЧЫНА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 84 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 42 жыхары (2008).



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. У 1473 г. сяло ў маёнтку Вязынь, уласнасць Ю. Саковіча, у 1736 г. уласнасць віленскіх манашак бенедыкцінскага кляштара, у 1794 г. канфіскаваны ў казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Вязынь у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча; у 1851 г. ў Віленскай губ., уладанне І. Гячэвіча. У 1897 г. вёска, 44 двары, 317 жыхароў, у Вязынскай вол. тых жа павета і губерні. У пач. 20 ст. вёска ў Ільянскай вол., 317 жыхароў, 312 дзес. зямлі, школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў. У 1938 г. ў Вязынскай гміне, 63 двары, 338 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Віленскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 280 жыхароў, у 1988 г. 48 двароў, 97 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, магазін. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 48 жыхароў. Вёска — радзіма дзеяча рэв. і нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі Я.Е.Гаўрыліка (6.4.1893—8.12.1937).

**КАЛЯДЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 48 км на ПнУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Даўгінава ў Ашмянскім павеце, уласнасць Б.Каменскага, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 7 двароў, 32 жыхары, у 1860 г. ў маёнтку Сасноўшчына. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 17 двароў, 91 жыхар. У 1905 г. 117 жыхароў, 164 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 29 двароў, 173 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 164 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не.

**КАМАРЫ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 112 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., прыватная ўласнасць, 4 двары, 24 жыхары. У 1897 г. вёска ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 59 жыхароў. У 1905 г. в. Кабылля-Рэчка (Камары), 64 жыхары; у 1908 г. Рэчкі-Камары, у Баранскай сельскай грамадзе, 2 двары, 44 жыхары, 32,5 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Вілейскай гміне Вілейскага павета, 17 двароў, 98 жыхароў. У 1938 г. ў Калавіцкай гміне таго ж павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 98 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 20 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў раёне вёскі дзейнічаў партыз. атрад «За Радзіму» партыз. брыгады імя М.В.Фрунзе. 4.6. 1944 г. ў баі каля вёскі загінула партызанка гэтага атрада А.К.Пятрова (пахавана ў цэнтры вёскі). У маі 1944 г. фашысты спалілі вёску, загубілі 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У





сак. 1950 г. створаны калгас «Чырвоны партызан». У 1960 г. 97 жыхароў; у 1988 г. 25 гаспадарак, 55 жыхароў; у складзе калгаса імя Суворава; у 2003 г. 17 гаспадарак, 36 жыхароў, магазін.

**КАМАРЫ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 16 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 119 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ромераў, 4 двары, 24 жыхары. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 5 жыхароў; у пач. 20 ст. 84 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 96 жыхароў, працавала бел. пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с, 22 гаспадаркі, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. спалена фашыстамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 18.3.1950 г. створаны калгас «Чырвоны сцяг», 14.2.1957 г. аб'яднаны з калгасам «Бальшавік». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., 82 жыхары; у 1988 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**КАМАРЫШКІ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 23 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 126 км ад Мінска, на р. Нарач. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Равуткі, 6 двароў, 12 жыхароў. У 1852 г. вёска, уласнасць В.Ходзькі. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 10 двароў, 81 жыхар; у 1908 г. 98 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне, 14 двароў, 92 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім с/с Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 16 двароў, 76 жыхароў. З чэрв. 1941 да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. спалены 14 двароў, загублены 2 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 18.9.1950 г. створаны калгас «Перамога». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 91 жыхар, з 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 15 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**КАМЕНА** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім с/с), у складзе філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напіткаў». За 50 км на ПнУ ад г. Вілейка, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 110 км ад Мінска, на аўтадарозе, што злучае вёску з шашой Вілейка—Докшыцы. 48 гаспадарак, 94 жыхары (2008).

Вядома з 16 ст. У 1519 г. згадваецца ў маскоўскім летапісе. З 1526 г. сяло, уласнасць канцлера ВКЛ М.Радзівілавіча. У 17 ст. ўласнасць гетмана польнага ВКЛ Я.Кішкі, кашталяна навагародскага Я.Рудаміна-Дусяцкага. З 2-й пал. 18 ст. маёнтак Камень, уладанне Б.Каменскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Пас-



*Варацішын камень у в. Камена.*



палітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. с. Камень-Спас у Вілейскім павеце Мінскай губ., у сумесным валоданні М.Валовіча (2 двары, 9 жыхароў) і Л.Каменскага (21 двор, 64 жыхары); шляхецкая ваколіца (2 двары, 14 жыхароў), уніяцкая Спаса-Праабражэнская царква. У 1857 г. в. Камень, уладанне Каменскага; Спас — паселішча на правым беразе р. Вялля; касцёл, плябанія, перавоз на рацэ, карчма. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 35 двароў, 291 жыхар. У 1905 г. 365 жыхароў, 488 дзес. зямлі, аднакласнае земскае нар. вучылішча. У лютым 1918 г. акупіравана герм., з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне, 71 двор, 428 жыхароў; пас. Спас (3 двары, 17 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. вёска ў Сцешыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. вёска была спалена. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцях; з 16.7. 1954 г. ў Жарскім с/с. У чэрв. 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё». У 1960 г. вёска ў Даўгінаўскім с/с, 350 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1971 г. 105 гаспадарак, 338 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая», потым у складзе калгаса «Праўда» (цэнтр — в. Пагост). У 1988 г. 80 двароў, 200 жыхароў; б-ка, клуб, магазін. У 2003 г. 59 гаспадарак, 117 жыхароў; клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічалі клуб, магазін, Дом сац. паслуг. Каля вёскі археал. помнікі — 2 курганныя могільнікі, адзін (10—11 ст.) за 2,5 км на У, на правым беразе р. Вілія, ва ўрочышчы Караліна; другі (13—14 ст.) — на паўн.-зах. ускраіне вёскі, у лесе. У вёсцы, за 0,1 км ад правага берага р. Вілія помнік эпіграфікі 12 ст. — Варацішын камень (ці Варацішын хрэст).

**КАНАЦІХА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 29 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 132 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска ў Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 4 двары, 23 жыхары. У пач. 20 ст. засценак, 21 дзес. зямлі, 23 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. Віленскім ваяводствах. У 1923 г. ў Іжскай гміне Вілейскага павета, 2 двары, 25 жыхароў; у 1938 г. ў Вішнеўскай гміне таго ж павета, 3 двары, 27 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобласці, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. в. Канацікі, 50 жыхароў. У 1988 г. 6 двароў, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**КАНСТАНПОЛЛЕ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 22 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 125 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2008).

У пач. 20 ст. засценак у Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 5 жыхароў, побач маёнтак, 11 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1922 г. ў Свянцянскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. ў Войстамскай гміне, 14 двароў, 66 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 65 жыхароў; у 2003 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў.





**КАПІШЧА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 6 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 101 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 19 ст. У 1852 г. засценак і вёска ў маёнтку Тэклінаполь, у Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць Любанскага. У 1897 г. вёска ў Вілейскай воласці тых жа павета і губерні, 6 двароў, 58 жыхароў. У 1908 г. 73 жыхары, 3 двары, 34 дзес. надзелаў, у складзе Прэшцянскай сельскай грамады. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 20 двароў, 112 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 21 двор, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. спалена, знішчаны 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 102 жыхары, у 1988 г. 23 двары, 49 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава. У 2003 г. 18 двароў, 31 жыхар.

**КАПУСЦІНА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 38 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 72 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 жыхароў, 113 дзес. зямлі, з 1884 г. школа граматы. У пач. 20 ст. вёска, 110 жыхароў, 113 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 21 двор, 123 жыхары; у 1938 г. 23 двары, 141 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 26.6.1949 г. створаны калгас «Чырвоная зорка». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 117 жыхароў; у 1988 г. 30 двароў, 69 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, б-ка.

**КАПУСЦІНА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». Каля р. Ілія. За 58 км на ПдУ ад г. Вілейка, 26 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна 68 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1842 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у складзе маёнтка Скабярэц, уласнасць П.Сутовіча. У 1873 г. ў Залескай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. таго ж павета, уласнасць Ліпскага, 34 рэвізскія душы. У 1894 г. адкрыта школа граматы; у 1897 г. 13 двароў, 110 жыхароў; у 1908 г. 22 двары, 158 жыхароў, 101 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў, 27 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 31 жыхар.



*Памятны знак «Біты Лог» у в. Каралеўцы.*



**КАРАЛЕЎЦЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 21 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 124 км ад Мінска. 75 гаспадарак, 121 жыхар (2008).

У 1781 г. вёска ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ўласнасць І.Няклюева. 24.5.1863 г. адбыўся бой паміж паўстанцамі і воінамі рус. арміі ў трохвугольніку, які ўтвараюць вёскі Каралеўцы, Любкі, Вуткі (пасля гэтых падзей мясц. назва «Біты Лог»). У 2008 г. ў гонар загінуўшых паўстанцаў пастаўлены памятны знак на ўскрайку вёскі. У 1878 г. ў вёсцы адбыліся сял. хваляванні з узброеным супраціўленнем уладам, якія зрабілі спробу спагнання нядоімкі на карысць памешчыка. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 108 двароў, 661 жыхар; капліца, царк.-прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне Вілейскага павета, 126 двароў, 591 жыхар, працавала пач. бел. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У 1940 г. створаны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 19 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 474 жыхары; у 1988 г. 120 двароў, 226 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне»; пач. школа, магазін, клуб, б-ка. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**КАРАНЁВА** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе РУП «Стайкі». За 42 км на У ад горада і 41 км ад чыг. ст. Вілейка, 101 км ад Мінска, на аўтадарозе Мацькаўцы—Альковічы. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2008).

У 1546 г. вядома як с. Станкевічы ў складзе маёнтка Вязынь, сумесная ўласнасць П.Служкі, С.Вайцяховіча і Ю.Дубровы. У 1600 г. ў маёнтку набыў грунт і сенажаць П.Есьман. Да 1613 г. ў маёнтку была набыта яшчэ частка зямель і склаўся асобны маёнтак Вязынь Есьманаўшчына. У 1626 г. яго купілі віленскія манашкі-бенедыкцінкі і далучылі да раней набытага маёнтка Вязынь. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска, засценак, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча, 14 двароў, 75 жыхароў. У 1886 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 двары, 178 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. ў складзе Вязынскай сельскай грамады тых жа воласці і павета, 13 двароў, 179 жыхароў, 138 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 31 двор, 169 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 12.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У ліп. 1948 г. створаны калгас «Светлы шлях». У 1960 г. ў вёсцы 186 жыхароў; у 1988 г. 49 двароў, 94 жыхары, у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў.

**КАРВЕЛІ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 7 км на Пн ад горада і 8 км ад чыг. ст. Вілейка, 111 км ад Мінска. 36 гаспадарак, 74 жыхары (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., сумесная ўласнасць Д.Радзівіла (10 двароў, 64 жыхары) і Касуцкага базыльянскага кляштара (2 двары, 11 жыхароў). У 1873 г. вёска ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска,




13 двароў, 113 жыхароў; фальварак, 3 жыхары. У 1908 г. вёска ў складзе Куранецкай сельскай грамады і вол., 18 двароў, 115 жыхароў, 63 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 20 двароў, 104 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 3.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Каловіцкім с/с, 100 жыхароў. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў.

**КАРДОН** — вёска ў Нарачанскім с/с, на р. Нарач. За 15 км на З ад горада і 14 км ад чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1836 г. фальварак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць В. Валодзькі, 14 душ; у 1897 г. вёска ў Вілейскіх вол. і павеце Віленскай губ., 6 двароў, 46 жыхароў; у пач. 20 ст. 33 жыхары, 62 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 62 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 48 жыхароў. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**КАРОТКІЯ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсэрвіс». За 16 км Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 119 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1800 г. в. Кароткі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць А.Сапегі, 4 двары, 34 жыхары. З 1842 г. таго ж павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 60 жыхароў. У 1938 г. 10 двароў, 61 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 62 жыхары. З 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары.

**КАРПАВІЧЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, сядзіба ААТ «Карпавічы». За 60 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 100 км ад Мінска, 41 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 100 км ад Мінска. 124 гаспадаркі, 317 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1480—90-я г. вотчына Я.Мілошавіча, баярына каралеўскага, які прадаў яе В.Івашкавічу. У 1536 г. ўласнасць баярына Вітохны, потым ваяводы віленскага Гаштольда. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Багдановіча, 17 двароў, 109 жыхароў. У 1842 г. ў маёнтку Забор'е Д.Козела. У 1873 г. вёска,

*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Карпавічы.*





цэнтр сельскай грамады ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Грыгаровіча, 86 рэвізскіх душ. У сельскай грамадзе лічыліся 370 сялян-уласнікаў, 1 аднадворац. У 1897 г. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (34 двары, 237 жыхароў), сядзіба (8 жыхароў). У 1908 г. 32 двары, 238 жыхароў, 336 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 57 двароў, 308 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Карпавіцкага с/с, 64 двары, 340 жыхароў. У сельсавет уваходзілі 32 населеныя пункты, у якіх было 2208 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы створаны калгас «Чырвоная Беларусь», у якім аб'ядналіся 24 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 вяскоўцаў. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў, у 1975 г. ў вёсцы пастаўлены помнік. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, з 6.9.1957 г. ў Хаценчыцкім с/с. У 1960 г. вёска, 239 жыхароў; у 1971 г. 97 двароў, 326 жыхароў, цэнтр саўгаса «Карпавічы», сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, ФАП, аддз. сувязі, швейная майстэрня, 2 магазіны. У 2009 г. дзейнічалі дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, ФАП, аддз. сувязі, магазін.

**КАРЫТНІЦА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 39 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 87 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 34 жыхары (2008).

У 1726 г. сяло ў маёнтку Ілья, уласнасць М.А.Савіцкага, пісара земскага віленскага. У 1794 г. вёска ў фальварку Абадоўцы, уласнасць Л.Багдановіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ўласнасць Пазнякоў, 11 двароў, 105 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ.; у 1843 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., сумесная ўласнасць І.Багдановіча і Ільскай плябаніі. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 двары, 171 жыхар, школа граматы. У пач. 20 ст. 163 дзес. зямлі, 138 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска і засценак, 37 двароў, 205 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 14.4.1949 г. створаны калгас «Чырвоны прамень». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума; магазін.

**КАРЭКАЎЦЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 21 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 124 км ад Мінска, каля шашы Вілейка—Докшыцы. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1789 г. двор, цэнтр войтаўства ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, уласнасць І.Куранецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. маёнтак Карэйкаўцы ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Ві-



*Капліца ў в. Карэкаўцы.*





ленскай губ., уласнасць Шустава, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 195 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. карнікі спалілі хутар за 1 км ад вёскі, у якім загінула яго жыхарка 72-гадовая Ю.Верамей. На франтах загінулі 8 жыхароў. У памяць і гонар жыхароў вёсак Карэкаўцы і Лявонавічы, якія змагаліся супраць ням.-фаш. захопнікаў, у пач. 2000-х г. пастаўлена капліца на ўскрайку вёскі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 4.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 6.1.1950 г. створаны саўгас імя Вышынскага. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Касцяневіцкім с/с, 83 жыхары; у 1988 г. 15 двароў, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Зара». Вёска — радзіма бел. паэта Эдварда Жалігоўскага (20.7.1816—28.12.1864).

**КАСІЧЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 20 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 123 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 36 жыхароў (2008).

У 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1766 г. ў складзе маёнтка Раруткі, уласнасць В.Валодзькі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 5 жыхароў. У пач. 19 ст. вёска, 13 двароў, 32 душы муж. полу; у 1853 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць В.Ходзькі. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 22 двары, 178 жыхароў; у 1908 г. 207 жыхароў, з 1904 г. працавала школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне, 36 двароў, 187 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Перад Вял. Айч. вайной 46 двароў, 145 жыхароў. З чэрв. 1941 да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У маі—чэрв. 1944 г. спалена гітлераўцамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 6.1.1950 г. створаны калгас імя Сталіна, яднаў 20 гаспадарак. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 163 жыхары. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 43 гаспадаркі, 75 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС; магазін.

**КАСТРЫЧНІЦКАЯ** (да 1964 г. Кабылле) — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе філіяла «Юнік-агра» ААТ ГМЗ № 2. За 45 км на У ад г. Вілейка, 148 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска Кабылі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 12 двароў, 72 жыхары, уласнасць Л.Гарайна; у 1801 г. дзярж. ўласнасць, 12 душ сялян. У 1908 г. вёска Кабылля ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Стаецкай сельскай грамады, 11 двароў, 145 жыхароў, 176 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак у Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 33 двары, 186 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У снеж. 1946 г. створаны калгас імя Калініна, які ў 1948 г. меў 1921 га ворыва, 20 гаспадарак. У 1960 г. 141 жыхар, у 1988 г. 29 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе саўгаса «За Мір», магазін. Вёска — радзіма бел. паліт. дзеяча Антона Аўсяніка (1888—1933?).

**КАСТЫКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 35 км на ПнУ ад г. Вілей-



ка, 20 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 138 км ад Мінска, на р. Вілія. 54 гаспадаркі, 84 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1613 г. сяло ў маёнтку Сэрвач, уласнасць капітулы віленскай і кн. Б. Войны — біскупа віленскага ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. У 1690 г. маёнтак С.Я.Слізня, пісара земскага ашмянскага. У 1756 г. маёнтак М.Слізня, падканюшага ВКЛ, які пабудаваў тут царкву ў імя Святых Сарака Мучанікаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. двор і вёска, 4 двары, 18 жыхароў; сяло, сумесная ўласнасць Р.Слізня (19 двароў, 157 жыхароў) і каталіцкай плябаніі (5 сялян); драўляная царква, млын. У 1886 г. сядзіба і сяло Кастыкі ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 двароў, 213 жыхароў, праваслаўная царква, млын. У 1897 г. вёска (33 двары, 216 жыхароў, царква) і сядзіба (4 двары, 23 жыхары), вадзяны млын. У 1908 г. 259 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне, вёска (69 двароў, 361 жыхар), маёнтак (6 двароў, 60 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Сушыцкім с/с. У 1940 г. б. маёнтак далучаны да зверасаўгаса «Сэрвіч». У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 12 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. 3.6.1949 г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг». З 16.7.1954 г. ў Жарскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 84 жыхары, з 1973 г. ў Касцяневіцкаім с/с. У 1988 г. 95 двароў, 199 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі» (з 1945 г.); магазін. У 2003 г. 65 гаспадарак, 106 жыхароў, магазін. Дзейнічае царква ў імя Сарака Мучанікаў Севасційскіх (2-я пал. 19 ст.). На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія археал. помнік — курганны могільнік 11—12 ст.



*Царква ў імя Сарака Мучанікаў Севасційскіх у в. Кастыкі.*

**КАСУТА** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 113 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. як маёнтак («имение в Куренцы») на землях Куранецкай вол. У 1499 г. ўласнасць Ядвігі Аляксандраўны, кня-



*Петрапаўлаўская царква ў в. Касута.*


*Капліца ў в. Касута.*

зёўны Гальшанскай, потым у часовым уладанні Я. Храптовіча. У 1518 г. Станіслаў Кезгайла, кашталян віленскі, атрымаў маёнтак ад жонкі Я.А.Судзімонтавіч. У 1529 г. маёнтак С.Кезгайлы, 103 сял. службы (206 дымоў). У 1554 г. 3 часткі маёнтка, што належалі Глябовічам, набыў кн. Венцлаў Вярбіцкі, біскуп жамойцкі, за 1500 коп грошаў літоўскіх. Пазней уласнікамі маёнтка былі А.Вішнявецкі, Г.Сапега; К.Сапега прадаў маёнтак С.Свяцкаму. Да 1622 г. Сапегі фундавалі тут базыльянскі манастыр. У 1638 г. згадваецца царква. У 1718 г. уласнасць Я.І.Лубянскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў сумесным уладанні Юзафа Ромера (17 двароў, 68 душ сялян) і Касуцкай плябаніі (3 двары, 21 жыхар). У 1836 г. ў маёнтку 551 жыхар. У 1868 г. пабудавана Петрапаўлаўская царква. У 1886 г. вёска ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 5 двароў, 53 жыхары, царква, карчма. У 1896 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. сяло (14 двароў, 92 жыхары), царква, капліца; вёска Касута 1 (8 двароў, 45 жыхароў), вадзяны млын; у Куранецкай вол. Вілейскага павета. На пач. 20 ст. ў сяле 79 жыхароў, 1339 дзес. зямлі. У 1-ю сусв. вайну падчас Свянцянскай наступальнай аперацыі 10-й германскай арміі (27.8—19.9. 1915 г.) занята немцамі. Акупацыя працягвалася да снеж. 1918 г. З жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. акупіравана польскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Вілейскім ваяводствах. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета, 21 двор, 135 жыхароў; хутары — 10 двароў, 74 жыхары; засценак — 8 двароў, 50 жыхароў; маёнтак — 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с, млын. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 17.7.1948 г. створаны калгас «Перамога». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 171 жыхар; у 1988 г. 13 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік». У вёсцы помнікі архітэктуры — Свята-Петрапаўлаўская царква (1868), капліца (19 ст.). На ўшанаванне памяці ахвяр палітычных рэпрэсій у лесе каля вёскі пастаўлены памятныя знакі. Вёска — радзіма ўкр. дзярж. дзеяча П.С.Орліка (22.10.1672—25.5.1742).

*Памятныя знакі ахвярам палітычных рэпрэсій каля в. Касута.*



**КАСЦЯНЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Касцяневіцкага с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 127 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Докшыцы. 90 гаспадарак, 83 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. У 1472 г. маёнтак у Ашмянскім па-



веце, уласнасць М.Данюшавіча, служэбніка кашталяна віленскага В.Манівідавіча. У 1567 г. сяло, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. У 1616 г. маёнтак, у склад якога ўваходзілі мястэчка Касцяневічы, цяглыя сёлы Сутокі, Малышкі і Добравічы, а таксама баярскае сяло Суцькі. У 1662 г. пабудаваны драўляны касцёл (у 1793 г. перабудаваны ў мураваны). У 1680 г. маёнтак у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Віленскага езуіцкага калегіума, у 1690 г. 58 дымоў; у 1765 г. належала віленскаму езуіцкаму касцёлу святога Яна, 15 двароў, 66 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. уласнасць Я.Гарайна, 403 душы; секвестраваны і падараваны брыгадзіру Бардакову, частка ў валоданні Касцяневіцкай плябаніі, 12 двароў, 115 жыхароў; 2 царквы, карчма. У 1800 г. мястэчка ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 13 двароў, 122 жыхары; маёнтак ген.-маёра П.Барзова. У 1886 г. мястэчка ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 9 двароў, 97 жыхароў; паштовая станцыя, касцёл. У 1897 г. 21 двор, 148 жыхароў; касцёл, паштовая станцыя, 2 крамы, піцейны дом. У пач. 20 ст. мястэчка, 129 жыхароў, 279 дзес. зямлі; паштовае аддз., нар. вучылішча. З лют. да снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. мястэчка, цэнтр гміны ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв., 47 двароў, 247 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Касцяневіцкага с/с, 47 двароў, 247 жыхароў; у складзе сельсавета 4427 жыхароў, 46 населеных пунктаў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, размяшчаўся варожы гарнізон. У вёсцы дзейнічала камсамольска-маладзёжная група на чале з К.А.Хаванскім. 20.12.1941 г. фашысты схапілі падпольшчыкаў М.С. Азончыка, Р.П.Мельніка і пасля жорсткіх допытаў расстралялі (у 1969 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых устаноўлена мемарыяльная пліта). 31.1. 1944 г. партызаны брыгады «Народныя мсціўцы» імя В.Т.Варанянскага (камандзір В.В.Сямёнаў) разграмілі варожы гарнізон (140 фашыстаў, 70 з іх знішчаны, 14 трапілі ў палон). У барацьбе з акупантамі загінулі 52 землякі. У вёсцы брацкая магіла партызан (4 чал.), якія загінулі ў барацьбе з акупантамі ў 1943 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас «Барацьбіт», працавала няпоўная сярэдняя школа. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 191 жыхар, у сельсавеце 38 нас. пунктаў, 3569 жыхароў. У 1971 г. 79 двароў, 269 жыхароў; камбінат быт. абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, ветпункт, аптэка, сталовая, 3 магазіны, аддз. сувязі. У 1988 г. 113 двароў, 297 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі»; лясніцтва, ветпункт, комплексны прыёмны пункт, сярэдняя школа, бальніца, клуб, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, 4 магазіны. У 2009 г. дзейнічалі бальніца сястрынскага догляду, амбулаторыя,



*Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Касцяневічы.*





клуб, магазін, лясніцтва. У вёсцы помнік архітэктуры — касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (1763).

**КАТЛОЎЦЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 35 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 131 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 1770 г. вёска і фальварак у складзе маёнтка Чашніцы, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., 5 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 8 двароў, 56 жыхароў, шляхецкая ўласнасць; у 1836 г. 50 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 120 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска, 20 двароў, 118 жыхароў; леснічоўка, 8 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Талуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.12.1948 г. створаны калгас імя І.В.Сталіна. З 16.6.1954 г. ў Кузьміцкім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 95 жыхароў. З 1982 г. ў Рэчкаўскім с/с; у 1988 г. 17 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**КАТОЎКА** — хутар у Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 38 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 141 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1923 г. фальварак Катоўшчына ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Навагрудскага ваяв., 9 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 1 двор, 1 жыхар, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**КАЎШЭВІЧЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 38 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 71 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 42 жыхары (2008).

У 1794 г. вёска ў маёнтку Ілья, уласнасць падскарбія ВКЛ Міхала Клеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну; у 1800 г. ўласнасць ген.-аншэфа М. Салтыкова, 13 двароў, 67 жыхароў; у 1828 г. ў складзе маёнтка Асцюкі І.Тукалы, 25 душ, у 1844 г. 53 душы. У 1897 г. вёска і сядзіба ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1905 г. 193 жыхары, побач была сядзіба Тукалаў, 8 жыхароў; у 1908 г. 178 жыхароў. У 1895 г. адкрыта школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 32 двары, 186 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 20.7.1957 г. ў Ільянскім р-не Маладзечанскай вобл. 26.3.1949 г. створаны калгас імя Я.Коласа. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 169 жыхароў, у 1988 г. 45 двароў, 102 жыхары, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума. Помнік археалогіі — курганны могільнік з 2 груп: адна — на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, другая — за 0,2 км на ПнУ ад першай.

**КАЧАНКІ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка,111 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).



У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у складзе маёнтка Рабунь, уласнасць віленскіх манашак-бернардзінак, 11 двароў; пазней належалі Сапегам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 10 двароў, 84 жыхары. У 1897 г. ў Вілейскіх вол. і павеце Віленскай губ., 17 двароў, 154 жыхары. У пач. 20 ст. 137 жыхароў, 155 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 26 двароў, 130 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 19.1.1949 г. створаны калгас «Стаханавец», у 1950 г. яднаў 20 гаспадарак, меў 1989 га ворыва; 28.3.1950 г. аб'яднаны з калгасам «Бальшавік». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 137 жыхароў; у 1988 г. 32 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**КЛАЎСЮЦІ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 23 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 126 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вядомы ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У пач. 19 ст. ў складзе маёнтка Равуткі, 3 двары, 7 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. засценак у Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 5 двароў, 23 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета, 8 двароў, 37 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 26 жыхароў. З 16.12.1985 г. ў Нарачанскім с/с, у 1988 г. 6 двароў, 12 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**КЛЕСІНА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 37 км на ПнУ ад г. Вілейка, 6 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 140 км ад Мінска, каля р. Сэрвач (2 км). 37 гаспадарак, 89 жыхароў (2008).

У 1897 г. маёнтак Клесін у Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. хутар у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у складзе саўгаса «Беларускі». У 1988 г. 54 двары, 115 жыхароў. Каля вёскі помнік архітэктуры — капліца (сярэдзіна 19 ст.).

**КЛОЎСІ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 15 км на ПнУ



*Капліца каля в. Клесіна.*

ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 51 жыхар (2008).

У 17 ст. сяло Клоўзевічы ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у складзе маёнтка Рабунь, 12 валок зямлі, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць А.Сапегі і каталіцкай царквы, 25 двароў, 280 жыхароў. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 49 двароў, 338 жыхароў. У пач. 20 ст. 358 жыхароў, 469 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 55 двароў, 272 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 18 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 18.11.1948 г. створаны калгас імя К.Варашылава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 241 жыхар, у 1988 г. 48 гаспадарак, 103 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік».

**КЛЫНІ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 6 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 1 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 109 км ад Мінска. 25 гаспадарак, 39 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як Пустка Клысаўшчына, уласнасць татар гаспадарскіх Цяньковічаў, у 1510 г. яе набыў М.М.Радзівіловіч, ваявода віленскі, канцлер ВКЛ. У 1690 г. фальварак Клінкі ў складзе маёнтка Касута ў парафіі Куранецкай уніяцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Клінцы ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 11 двароў, 46 жыхароў, ўласнасць Ю. Ромера; у 1853 г. ў Віленскай губ., уласнасць Ю.Герасімовіча. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета, вёска (14 двароў, 89 жыхароў) і 2 фальваркі (2 двары, 14 жыхароў). У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак і вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 33 двары, 186 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1946 г. створаны калгас «Чырвоны Сцяг». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 166 жыхароў, з 1968 г. ў саўгасе «Вілейскі». У 1988 г. 41 двор, 95 жыхароў. Каля вёскі за 0,5 км ад дарогі Куранец—Касута, ва ўрочышчы Паганскія магілы археал. помнік — могільнік. Вёска — радзіма Героя Сац. Працы К.Р.Вількоты (1915—2000).

**КРАЙСКІЯ ПАСЕКІ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе філіяла «Юнік-агра» ААТ «ГМЗ № 2». За 45 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 148 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак Пасека (Агурчанкі) у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 9 жыхароў, 20 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 9 двароў, 73 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с. З чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 82 жыхары; у 1988 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар; у складзе саўгаса «За Мір».



**КРАСНІЦА** – вёска ў Нарачанскім с/с. За 15 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска, на р. Нарач. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у 1766 г. ў Маркаўскім старостве, 5 зямянскіх дымоў; у 1789 г. засценак, 3 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска Высокая Красніца, казённая ўласнасць. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Берхмана, 3 двары, 32 жыхары. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вол. і павеце Віленскай губ., 4 двары, 36 жыхароў. У пач. 20 ст. 105 жыхароў, 63 дзес. зямлі. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 22 двары, 139 жыхароў. З ліст.1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Перад Вял. Айч. вайной 31 двор, 98 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі–чэрв. 1944 г. спалена. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 90 жыхароў. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**КРАСНЫ БЕРАЖОК** – вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіповічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 2 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 103 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска, дзярж. ўласнасць у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 10 жыхароў. У 1834 г. засценак Красны Бераг, у казённым маёнтку Вілейка. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. засценак у Вілейскіх гміне і павеце Віленскага ваяв., 6 двароў, 35 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. З чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 48 жыхароў; у 1988 г. 20 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава; у 2003 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў. На паўд. ускраіне вёскі брацкая магіла салдат рускай арміі (пахаваны 15 чал.), якія загінулі ў 1-ю сусв. вайну ў вер. 1915 г.

**КРАЎЧОНКІ** – вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 46 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск–Маладзечна, 80 км ад Мінска. 15 двароў, 23 жыхары (2008).

У 1873 вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ.; 22 рэвізскія душы, уласнасць Грэгаровіча. У 1897 г. 14 двароў, 76 жыхароў. У 1908 г. 19 двароў, 129 жыхароў, 128 дзес. надзелаў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 24 двары, 138 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. спалены карнікамі, былі загублены 3 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 94 жыхары.

**КРУПНІКІ** – вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 51 км на ПнЗ ад г. Вілейка, 11 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна–Полацк, 154 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Даўгінава ў Ашмянскім павеце, уласнасць Б.Каменскага, 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У




1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 15 двароў, 73 жыхары. У 1897 г. вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 38 двароў, 262 жыхары. З 1884 г. школа граматы. У 1905 г. 239 жыхароў, 482 дзес. зямлі; у 1908 г. ў складзе Шымкаўскай сельскай грамады, 16 двароў, 217 жыхароў, 261,1 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 57 двароў, 279 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У снеж. 1949 г. створаны калгас імя Суворава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 247 жыхароў. З 4.4. 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 36 двароў, 54 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна. У 2003 г. 13 гаспадарак, 18 жыхароў.

**КРЫВАЗНАКІ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім с/с), у складзе філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напіткаў». За 51 км на ПнЗ ад г. Вілейка, 32 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 145 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у маёнтку Даўгінава, уласнасць Б.Каменскага, 8 двароў. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 11 двароў, 74 жыхары. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 25 двароў, 164 жыхары. У 1908 г. 189 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 32 двары, 182 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагосцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Пагосцкім, з 1954 г. ў Даўгінаўскім сельсаветах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 137 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У сак. 1949 г. створаны калгас імя Леніна. У 1988 г. 23 двары, 44 жыхары, у складзе калгаса «Праўда»; у 2003 г. 13 гаспадарак, 18 жыхароў.

**КРЫВОЕ СЯЛО** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска.137 гаспадарак, 336 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Куранец Ю.Ромера, 22 двары, 118 жыхароў. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 46 двароў, 309 жыхароў; у 1908 г. вёскі Крывое Сяло 1 (330 жыхароў), Крывое Сяло 2 (72 жыхары). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 79 двароў, 473 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-

*Помнік у в. Крывое Сяло на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.*





фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 32 жыхары. У вёсцы на ўшанаванне памяці 137 жыхароў вёсак Грыцукі, Камары, Касута, Качанкі, Крывое Сяло, Ліпневічы, Малмыгі, Міхнічы, што загінулі ў барацьбе супраць акупантаў, у 1975 г. пастаўлена стэла. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 17.7.1948 г. створаны калгас «Бальшавік». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 426 жыхароў, у 1972 г. 116 гаспадарак, 386 жыхароў; у 1988 г. 149 гаспадарак, 379 жыхароў, цэнтр калгаса «Бальшавік». Гаспадарка яднала 17 вёсак, мела 5134 га с.-г. угоддзяў, з іх 2352 га ворыва; комплексны прыёмны пункт, дзіцячыя яслі-сад, 8-гадовая школа, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічалі б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт.

**КРЫНІЦА 1** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 38 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 141 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць К.Агінскага, 3 двары, 33 жыхары. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 88 жыхароў. У пач. 20 ст. было 98 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў, 15 двароў, 85 жыхароў; у 1938 г. 19 двароў, 116 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Суднікоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 6.9.1957 г. ў Ільянскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 90 жыхароў; у 1988 г. 19 двароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**КРЫНІЦА 2** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 32 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 135 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Вілейскім ваяводствах, у Вілейскім павеце. У 1923 г. вёска ў Ільянскай гміне, 10 двароў, 66 жыхароў; у 1938 г. вёска Крыніца Забарская, ці Батракі, 13 двароў, 75 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Суднікоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 33 жыхары; у 1988 г. 6 двароў, 13 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**КРЫНІЧЫНА** — хутар у Альковіцкім с/с. За 46 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 149 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1871 г. фальварак Крынічын у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у 1897 г. пасяленне, 1 двор, 6 жыхароў. У пач. 20 ст. паселішча (Галаўні), 8 жыхароў, 1 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., засценак, 12 двароў, 73 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 23 жыхары; у 1988 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Стайкі».

**КУЗЬМІЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 14 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка,





117 км ад Мінска, каля аўтадарогі Вілейка—Паставы. 32 гаспадаркі, 45 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Менчаняты ў Ашмянскім павеце, уласнасць Зянковіча, 20 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 32 двары, 241 жыхар, уладанне тайнага саветніка А.Церскага. У 1-й пал. 19 ст. дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1873 г. вёска, цэнтр сельскай грамады Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 127 рэвізскіх душ сялян і 3 аднадворцы. У 1897 г. вёска, 63 двары, 400 жыхароў, адкрыта школа граматы, быў хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў вёсцы 65 двароў, 422 жыхары, 342,2 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 70 двароў, 389 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Кузьміцкага с/с, 70 двароў, 389 жыхароў, у складзе сельсавета 26 населеных пунктаў, 823 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 346 жыхароў, у сельсавеце 27 населеных пунктаў, 2816 жыхароў, 7-гадовая школа (з 1949 г.). З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 42 гаспадаркі, 64 жыхары, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**КУЗЬМІШКІ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 22 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 125 км ад Мінска, на р. Нарач. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1853 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., сумесная ўласнасць В.Ходзькі і Войстамскай сельскай грамады. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 11 двароў, 96 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне Віленскага ваяв., 13 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 54 жыхары. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 9 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**КУЛІХА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 29 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 132 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак у Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 15 жыхароў. У пач. 20 ст. 15 жыхароў, 21 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяв. У 1921 г. 2 двары, 12 жыхароў; у 1923 г. засценак у Іжскай гміне, 93 двары, 513 жыхароў, у 1938 г. засценак у Вішнеўскай гміне Вілейскага павета, 19 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскіх павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 19 двароў, у 1988 г. 5 двароў, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**КУЛЬШЫНО** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 14 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Мядзел. 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2008).



У 1765 г. частка маёнтка Сегянёва ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўласнасць ген.-маёра Берхмана ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 12 жыхароў; у 1841 г. вёска, уласнасць І.В.Любанскага, 8 двароў, 62 жыхары. З 1842 г. ў тым жа павеце Віленскай губ. У 1873 г. вёска ў складзе Капацкоўскай сельскай грамады Куранецкай вол., 47 рэвізскіх душ. У 1908 г. ў вёсцы 24 двары, 151 жыхар, 155,1 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Кульшыно (Буракі) у Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 39 двароў, 204 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1 944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 13 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Каловіцкім с/с, 176 жыхароў. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 31 гаспадарка, 64 жыхары. Радзіма бел. мовазнаўца, засл. работніка адукацыі Беларусі, д-ра філал. навук, праф. Л.І. Бурака (23.3.1930—24.12.1996).

**КУЛЯШЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 26 км на ПнУ ад Вілейкі, 129 км ад Мінска, 9 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк. 10 двароў, 12 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Сэрвач, шляхецкая ўласнасць, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць В.Козела, 10 двароў, 54 жыхары. У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 двароў, 78 жыхароў. У 1908 г. 122 жыхары. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 19 двароў, 113 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас імя Ракасоўскага. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска, 103 жыхары; у 1988 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**КУЛЯШЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 49 км на ПдУ ад г. Вілейка, 22 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 75 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

У 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Грэгаровіча, 24 рэвізскія душы. У 1897 г. ў вёсцы 10 двароў, 100 жыхароў; у 1908 11 двароў, 75 жыхароў, 149 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 98 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 74 жыхары.

**КУМЕЛЬШЧЫНА** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 40 км на ПнУ ад г. Вілейка, 26 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 120 км ад Мінска, на р. Вілія. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).





У 1765 г. вёска ў маёнтку Сэрвач Э.Радзевіч, у Ашмянскім павеце, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Кастыкі Варвары Козел у Вілейскім павеце Мінскай губ., 7 двароў, 98 жыхароў; у 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 двары, 194 жыхары. У пач. 20 ст. 209 жыхароў, 268 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 43 двары, 229 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сцешыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., у ліп. 1950 г. створаны калгас «Сталінскі шлях». З 16.7.1954 г. ў Жарскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 240 жыхароў; у 1988 г. 48 двароў, 89 жыхароў, у складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага.

**КУПЛЯ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 25 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска, на аўтадарозе Ярмолічы—Мішуты. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 70 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне, 8 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 35 жыхароў. З 16.12. 1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**КУРАНЕЦ** — вёска, цэнтр Куранецкага с/с і СВК «Вілейскі». За 8 км на Пн ад г. Вілейка, 1 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 111 км ад Мінска, на скрыжаванні аўтадарог Вілейка—Докшыцы. 442 гаспадаркі, 1052 жыхары (2008).

У гіст. крыніцах вядомы з 15 ст. У 1435 г. гаспадарскае сяло, цэнтр воласці, у 1509 г. згадваецца як мястэчка; у 1493 г. маёнтак (вотчына) А.А.Рымавідавіча і яго брата Скабейкі. Чвэрць маёнтка набыў Я.Забярэзінскі, кашталян трокскі. У 1539 г. засн. касцёл. З 1542 г. цэнтр Куранецкай парафіі, выдзеленай з парафіі Вязынскай. З 1509 г. згадваецца мяст. Куранец, быў млын. У 2-й пал. 16 ст. ўласнасць М.Радзівіла, Войнаў. У 1567 г. Куранецкая дзяржава. За пазыку грошай Жыгімонт II Аўгуст дараваў яе Мальхеру Сноўскаму, маршалку гаспадарскаму, пазней кашталяну віцебскаму. У гэты час тут была засн. праваслаўная царква, з 1596 г. царква уніяцкая Свята-Троіцкая. Пасля смерці Сноўскага ўладальнікам маёнтка стаў Леў Сапега, двор з мястэчкам і валасць ён далучыў да Маркаўскага староства (1589). У 1617 г. Куранец на Вяллі (дзяржава, двор, мястэчка) у прывілеі Яна Сапегі брату Крыштафу на права валодання названы Вілейскім. У 2-й пал. 18 ст. ўладанне Храбтовічаў (да 1760 г.), Сафіі Саванеўскай. У 1765 г. ў мястэчку 29 двароў, 80 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 75 двароў, 356 жыхароў, уладанне Рамцовых; царква Раства Багародзіцы, касцёл, яўр. школа, 3 кірмашы штогод. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. Пад час нац.-вызв. паўстання 1863—64 гг. загінулі 18 яго ўдзельнікаў у сутычках з царскімі войскамі (у 1923 г. на магіле пастаўлены бе-



тонны крыж). У 1897 г. мястэчка, цэнтр воласці і Вілейскага павета Віленскай губ., 286 двароў, 2387 жыхароў, 2 царквы (касцёл у 1866 г. ператвораны ў царкву), 5 малітоўных дамоў, нар. вучылішча, 2 хлебазапасныя магазіны, 60 крам, 9 піцейных дамоў; 2 маёнткі: Куранец (6 двароў, 42 жыхары) і Новы Куранец (41 жыхар). У мястэчку адбываліся таржкі, 4 штогадовыя кірмашы. У пач. 20 ст. 2368 жыхароў, царк.-прыходская школа, 2 царквы. У 1905—07 гг. дзейнічалі сял. к-ты. У лютым—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка ў Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў Польшчы, цэнтр гміны. У 1938 г. быў 301 двор, 1765 жыхароў; фальварак — 7 жыхароў, чыг. ст. — 5 двароў, 23 жыхары, леснічоўка — 2 двары, 14 жыхароў, хутары Новы Куранец — 13 двароў, 82 жыхары, смалакурня — 3 двары, 10 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1. 1940 г. цэнтр раёна Вілейскай, з 20.9. 1944 г. Маладзечанскай абласцей. З 12.10.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр сельсавета Куранецкага р-на. У 1940 г. 368 жылых дамоў, 1840 жыхароў, саматужнае прадпрыемства кафлі, лесапільня, гарбарня, маслабойня, смалакурня, паравы млын, спажывецкае т-ва, кавальска-слясарныя майстэрні, райпрамкамбінат; паштова-тэлегр. агенцтва, створана МТС, пры якой былі гасцініца, амбулаторыя, лазня, кузня, працавала няпоўная сярэдняя школа, выдавалася газ. «За сацыялістычнае жыццё». У сельсавет уваходзілі 35 населеных пунктаў (5165 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 14.10.1941 г. фашысты расстралялі паблізу Куранца 54 чал. 9.9.1942 г. расстраляны і спалены 803 жыхары (у 1995 г. на магіле ім пастаўлены абеліск). У ліп. 1941 г. на вуліцы Даўгінаўскай быў створаны лагер ваеннапалонных, у якім знішчана каля 400 чал. У 1944 г. фашысты загубілі 973 жыхароў, пасёлак быў часткова спалены. У ліп. 1941 г. па ініцыятыве члена КПЗБ А.І.Валынца была створана падп. група на чале з Н.М.Мацюкевічам, якая хутка ператварылася ў баявую арг-цыю. З 17.10.1944 г. дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, працавала падп. друкарня, выдавалася газ. «Народный мститель». Падпольшчыкі праводзілі дыверсіі ў варожых гарнізонах, спалілі мост цераз р. Вілія, вызвалілі з фаш. лагера 300 ваеннапалонных і пераправілі



*Гомсін камень у в. Куранец.*



*Царква ў гонар Раства Багародзіцы ў в. Куранец.*




іх да партызан. У партыз. барацьбе загінулі 42 землякі, 32 жыхары не вярнуліся з фронту. А.І.Валынцу было прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У гонар удзельнікаў Вілейска-Куранецкага падполля і на ўшанаванне памяці загінуўшых у 1966 г. пастаўлены помнік. На ўсх. ускраіне вёскі брацкая магіла сав. воінаў і партызан (295 чал.), якія загінулі ў 1941—44 гг. на тэр. сельсавета, у 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. цэнтр раёна, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-не Маладзечанскай вобл., цэнтр сельсавета. З 1954 г. вёска. У 1950 г. створаны калгас «Шлях Леніна». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 1345 жыхароў, у складзе сельсавета 24 вёскі, 4024 жыхары. З 1968 г. цэнтр сельсавета і саўгаса «Вілейскі». У 1972 г. ў вёсцы 446 двароў, 1427 жыхароў; у 1988 г. 517 двароў, 1238 жыхароў, працавалі лясніцтва, лесазавод, Вілейская дзярж. племянная станцыя, смалакурня, швейнае атэлье, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, б-ка, 6 магазінаў, саўгас аб'яднаў 12 вёсак, меў 2810 га с.-г. угоддзяў. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, 4 магазіны, амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт, аддз. сувязі. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі захоўваецца самы вял. валун на Вілейшчыне (Гомсін камень), прынесены ледавіком 220—150 тыс. гадоў таму са Скандынавіі. У вёсцы архіт. помнік — царква ў гонар Раства Багародзіцы (1870, на месцы храма 1539). Вёска — радзіма бел. мастака Л.А.Альпяровіча (4.12. 1874—1913); бел. гасп. дзеяча, лаўрэата Дзярж. прэміі СССР Дз.І.Сыраквашы (5.3.1933—1992), бел. дзярж. і гасп. дзеяча А.А.Мількоты (н. 17.6.1946); бел. скульптара, лаўрэата Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь А.Я.Арцімовіча (н. 26.9.1940). У вёсцы жыў і працаваў Герой Сав. Саюза А.С.Азончык (10.8. 1908—8.2.1995).

*Помнік ахвярам фашызму ў в. Куранец.*



**КУРНІКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 28 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 131 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1789 г. засценак у Маркаўскім старостве, зямянская ўласнасць. У пач. 20 ст. засценак у Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах. У 1938 г. калонія ў Вішнеўскай гміне Вілейскага павета, 5 двароў, 28 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска, 48 жыхароў і хутар — 23 жыхары. У 1988 г. 6 двароў, 14 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**КУТНАЕ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 62 км на ПнЗ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 160 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак у Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ.,



4 двары, 35 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 9 двароў, 56 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Мільчанскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 48 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 18.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 3 двары, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік».

**КУХТЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 29 км на ПдУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Маладзечна, 103 км ад Мінска, каля р. Ілія (2 км). 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў фальварку Ляўкова маёнтка Вязынь, уласнасць Міхаіла Клеафаса Агінскага, потым дзярж. ўласнасць. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 11 двароў, 86 жыхароў, потым Тышкевічаў. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны, у 1897 г. 25 двароў, 167 жыхароў, у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 167 жыхароў, 200 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 40 двароў, 215 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У снеж. 1949 г. створаны калгас «Ударнік». У 1960 г. 221 жыхар; у 1988 г. 64 двары, 122 жыхары, у складзе саўгаса «Вілія». У 2003 г. 33 гаспадаркі, 50 жыхароў.

**КУЦЬКІ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Бермана, 3 двары, 24 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. засценак у Вілейскай гміне Віленскага ваяв., 3 двары, 22 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, каля дарогі Вілейка—Маладзечна магіла ахвяр фашызму, дзе пахавана 80 сав. ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў — вязняў Вілейскай турмы, якіх жывымі спалілі гітлераўцы ў 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 15 жыхароў, у 1988 г. 5 двароў, 18 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў.

**КУЧКІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 80 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1643 г. сяло Кучкавічы ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча, у 1800 г. ў складзе маёнтка Вязынь, 4 двары, 34 жыхары; у 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 8





двароў, 52 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 12 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 109 жыхароў; у 1988 г. 22 двары, 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў. За 0,1 км на ПнУ ад вясковых могілак, у лесе археал. помнік — курганны могільнік (мясц. назва Французскія могліцы).

**ЛАЕЎШЧЫНА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 24,5 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 102 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1636 г. вёска Ланеўшчына ў маёнтку Вязынь, уласнасць манашак-бенедыкцінак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. канфіскавана ў казну, у 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 33 жыхары, уласнасць ген.-маёра Горыча. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 81 жыхар. У пач. 20 ст. 88 жыхароў, 106 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне, 12 двароў, 69 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.12.1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 81 жыхар; у 1988 г. 22 двары, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 6 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ЛАЗАВЫЯ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 40 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 4 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 112 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска Лазавец у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць К.Агінскага. У 1897 г. ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 3 двары, 17 жыхароў; у пач. 20 ст. 21 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 73 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у складзе саўгаса «Беларускі». У 1988 г. 11 двароў, 23 жыхары.

**ЛАТЫГАЛЬ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 29 км на ПдУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Маладзечна, 103 км ад Мінска. 54 гаспадаркі, 104 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 15 ст. У 1473 г. сяло, уласнасць Ю.А.Саковіча, у 1567 г. маёнтак М.Цяпінскага, у 1608 г. належала К.Дарагастайскаму. У 1771 г. Б.Салагуб заснавала тут Мікалаеўскую царкву (драўляную). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло ў маёнтку Ілья, сумесная ўласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова і латыгальскай плябаніі, 19 двароў, 153 жыхары. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць казны, карчма. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. сяло



ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 двароў, 191 жыхар, праваслаўная царква, нар. вучылішча, карчма. У 1897 г. сяло, 50 двароў, 308 жыхароў, хлебазапасны магазін, нар. вучылішча. У пач. 20 ст. 337 жыхароў, 316 дзес. зямлі. Побач была сядзіба, 40 дзес., 7 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, з 4.12.1921 г. ў Вілейскім павеце Навагрудскага, з 22.12.1925 г. Віленскага ваяводстваў, у Вязынскай гміне. У 1938 г. вёска Латыгаль 1 (26 двароў, 154 жыхары), Латыгаль 2 (34 двары, 177 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Віленскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета ў Ільянскім р-не, сяло, 68 двароў, 340 жыхароў. У сельсавеце 20 населеных пунктаў, 2425 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У снеж. 1949 г. створаны калгас «Праўда». З 6.9.1957 г. вёска ў Вязынскім с/с. У 1960 г. вёскі Латыгаль 1 (171 жыхар), Латыгаль 2 (157 жыхароў); у 1988 г. 82 двары, 173 жыхары, у складзе саўгаса «Вілія», сярэдняя школа, клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічалі базавая школа, магазін. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на ўскраіне лесу археал. помнік — каменныя магілы. У вёсцы помнік архітэктуры — Мікалаеўская царква (1771).



*Мікалаеўская царква ў в. Латыгаль.*

**ЛЕЙЛАВА** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 102 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у складзе маёнтка Куранец, уласнасць С.Саванеўскай, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. (в. Лейлі), 6 двароў, 31 жыхар, уласнасць В.Гецэвіча. У 1897 г. засценак (4 двары, 42 жыхары) і фальварак (9 жыхароў) у Куранецкай вол. Вілейскага павета, у 1899 г. адкрыта школа граматы, у 1911 г. засценак, 16 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 44 жыхары; у 1988 г. 10 двароў, 21 жыхар, у складзе калгаса «Бальшавік».

**ЛЕСНІКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 30 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 11 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 45 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне Вілейскага павета, 8 двароў, 47 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і





вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 29 жыхароў, у 1988 г. 10 двароў, 21 жыхар; у складзе калгаса імя Кірава.

**ЛЁПАЎШЧЫНА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 29 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у складзе маёнтка Ілья, уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, падскарбія ВКЛ; канфіскавана ў казну. У 1800 г. ўласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 11 двароў, 83 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1828 г. ў маёнтку Асцюковічы І.Тукалы, 11 душ сялян. У 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Хаценчыцкай вол., 8 двароў, 53 жыхары, побач быў фальварак, уласнасць Тукалы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (12 двароў, 59 жыхароў); фальварак (3 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 73 двары. У 1988 г. 14 двароў, 29 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**ЛІПНЕВІЧЫ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 115 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1622 г. сяло, у 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, уласнасць І.Куранецкага; фальварак Ф.Невяровіча (2 двары, 18 жыхароў). У 1897 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 108 жыхароў, 194 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. хутары ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 32 двары, 188 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 17 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1946 г. створаны калгас «Чырвоны партызан», 14.2.1957 г. аб'яднаны з калгасам «Бальшавік» Рабунскага с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 44 жыхары; у 1988 г. 32 двары, 68 жыхароў.

**ЛІТВІНКІ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 12 км на ПнУ ад г. Вілейка, 0,5 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 115 км ад Мінска, на аўтадарозе Любань—Куранец. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў (2008).

У 1690 г. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, царк. ўласнасць, 3 двары; у 1765 г. 6 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў складзе маёнтка Куранец, шляхецкая ўласнасць, 8 двароў, 45 жыхароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 89 жыхароў, 157 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (29 двароў, 192 жыхары), пасёлак (10 двароў, 57 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кура-



нецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі больш за 20 землякоў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 142 жыхары; у 1988 г. 42 двары, 104 жыхары; з 1968 г. ў складзе саўгаса «Вілейскі».

**ЛОЎЦАВІЧЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 59 км на ПдУ ад г. Вілейка, 23 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 65 км ад Мінска, на р. Канатопка (прыток р. Ілія). 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 10 двароў, 110 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Рабцоўскай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Багдановічаў, 59 рэвізскіх душ. У 1897 г. 29 двароў, 183 жыхары; маёнтак, 61 жыхар; сядзіба, 3 жыхары; у 1908 г. ў вёсцы 28 двароў, 191 жыхар, 195,7 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 40 двароў, 209 жыхароў; фальварак, 16 двароў, 110 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 182 жыхары, хутар, 15 жыхароў. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**ЛОЦЕВІЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 31 км на ПнУ ад г. Вілейка, 11 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 134 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 44 жыхары (2008).

У 16 ст. вёска ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1661 г. ў складзе маёнтка Касцяневічы, уласнасць суддзі браслаўскага гродскага Уняхоўскага, у 1765 г. ўласнасць віленскага езуіцкага касцёла святога Яна, 26 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 23 двары, 157 жыхароў, млын. У 1897 г. вёска Лоцавічы (Лотавічы), 40 двароў, 315 жыхароў, у Касцяневіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ.; у 1908 г. 411 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 34 двары, 169 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1988 г. ў вёсцы 56 двароў, 111 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі», пач. школа, клуб, магазін.

**ЛУГАВЫЯ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 32 км на ПдУ ад г. Вілейка, 22 км ад чыг. ст. Маладзечна, 100 км ад Мінска, каля р. Ілія. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1853 г. вёска ў маёнтку Вінцантова Стафана Будрэвіча ў Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1866 г. ўласнасць Ю. Фельбера. У пач. 20 ст. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 18 двароў, 99 жыхароў; у 1938 г. 24 двары, 139 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч.





вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёскі Лугавыя 1 (69 жыхароў) і Лугавыя 2 (58 жыхароў); у 1988 г. 25 двароў, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Вілія». У 2003 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары.



*Капліца ў в. Лукавец.*

**ЛУКАВЕЦ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, цэнтр. сядзіба ААТ «Кафэ Палессе», аграфірмы «Лукавец». За 60 км на ПдУ ад г. Вілейка, 31 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 70 км ад Мінска, на р. Ілія. 124 гаспадаркі, 311 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў сярэдзіне 16 ст. як маёнтак Р.Рагозы, частка Хаценчыцкага маёнтка Радзівілаў, другі аднайменны маёнтак належаў П.Гальшанскаму, біскупу віленскаму. Пасля 1555 г. ўласнасць М.Ю.Осціка, Л.А.Кашырскага, у 1620—30-я гг. ўласнасць Ратамскіх, Пацаў. У 1644 г. два маёнткі — Лукавец Ратамскага і Лукавец Гаўрановіча, аб'яднаны Я.Свалынскім у адзін, які да канца 17 ст. належаў Касакоўскім. У 18 ст. ўласнасць Шумскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. маёнтак Б.Шумскай (двор і сяло), драўляная уніяцкая царква. У 1897 г. маёнтак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 46 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 маёнтак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 97 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У лютым 1940 г. створаны жывёлагадоўчы саўгас «Лукавец» (1182 га угоддзяў); вінакурня, лесапільня. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. за-

*Рэшткі сядзібнага комплексу каля в. Лукавец.*







хопнікамі. У маі 1943 г. спалена карнікамі (14 двароў). На ўшанаванне памяці 78 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў, у 1968 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1972 г. 112 двароў, 408 жыхароў; цэнтр саўгаса «Лукавец», 8-гадовая школа, клуб, б-ка; дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, швейнае атэлье, сталовая, 3 магазіны. У 2009 г. дзейнічалі дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, магазін. У вёсцы помнік архітэктуры — капліца (1905).

**ЛЫЦАВІЧЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 35 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 140 км ад Мінска, каля воз. Вішнеўскае (1,5 км). 175 гаспадарак, 469 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Вілейскай губ., 62 двары, 389 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 376 жыхароў, 387 дзес. зямлі. У 1-ю сусв. вайну ў 1915 г. і ў сак. 1916 г. ў ваколіцах вёскі ішлі ўпартыя баі рус. войск з герм. захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Вішнеўскай гміне Свянцянскага павета. У 1938 г. ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв., 74 двары, 383 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Чурлёнскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 39 вяскоўцаў (10 з іх не вярнуліся з фронту), на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У ліп. 1948 г. створаны калгас імя Сталіна. З 20.1. 1960 г. ў вёсцы 323 жыхары; з 24.4.1959 г. ў Іжскім с/с. У 1972 г. 97 двароў, 318 жыхароў, цэнтр калгаса «Радзіма»; 8 гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі, ветпункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня, магазін. У 1988 г. 166 двароў, 462 жыхары, цэнтр калгаса імя Кірава, які аб'яднаў 13 вёсак, меў 6178 га с.-г. угоддзяў, ветпункт, пошту, швейную майстэрню, гандл. цэнтр, 8-гадовую школу, дзіцячы сад, клуб. У 2009 г. Чурлёнская сярэдняя школа-сад, Чурлёнская б-ка, муз. школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін.

**ЛЮБАНЬ** — вёска, цэнтр Любанскага с/с, сядзіба СВК «Новая Любанія». За 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 108 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Мядзел. 440 гаспадарак, 1068 жыхароў (2008).

У 1836 г. маёнтак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Любанскага; у 1857 г. бровар, у 1862 г. вінакурны з-д. У 1880 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Куранецкай вол. У 1897 г. 66 жыхароў, бровар, карчма, саладоўня. У пач. 20 ст. 66 жыхароў, 8,2 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак у Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1939 г. разам з фальваркам Тураўшчына меў 11 тыс. га, былі аранжарэя, лесапільня, вінакурня, паравы млын, маслазавод, сталярная майстэрня. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г.



*Млын у в. Лыцавічы.*





ў Каловіцкім с/с. У 1940 г. створаны саўгас «Любань», меў 1800 га зямлі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; 3 жыхары вёскі не вярнуліся з фронту. На ўшанаванне памяці 139 землякоў, што загінулі ў барацьбе з акупантамі, у 1969 г. на паўд. ускраіне вёскі каля шашы Вілейка—Мядзел пастаўлены пілон, 2 стэлы. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 740 жыхароў, у 1972 г. 309 двароў, 1036 жыхароў; спіртзавод, агародніна-кансервавы з-д, вінзавод, швейнае атэлье, сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 3 магазіны. У 2003 г. 445 гаспадарак, 1091 жыхар; сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, 2 магазіны. Пры Доме культуры з 1960-х г. дзейнічае гурт нар. песні (з 2002 г. ўзорны). У 2009 г. працавалі сярэдняя школа, дзіцячая муз. школа мастацтваў, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, 5 магазінаў, сталовая, камбінат быт. абслугоўвання; царква ў імя Сабора бел. святых. У вёсцы жыў і працаваў Герой Сац. Працы, засл. аграном БССР Я.Ф.Мірановіч (7.11.1917— 25.1.1980).

*Царква ў імя Сабора беларускіх святых у в. Любань.*



**ЛЮБКІ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 22 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 125 км ад Мінска, каля р. Нарач (2 км). 37 гаспадарак, 66 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1561 г. сяло, каралём Жыгімонтам I Аўгустам падаравана Войстамскай парафіі. У 1612 г. ўласнасць Станкевічаў, потым Карэйваў. У 1766 г. вёска ў маёнтку Войстам у Свянцянскім павеце. У 1789 г. ўласнасць старосты браслаўскага Бужынскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета. У 1908 г. 344 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв., 59 двароў, 271 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с Куранецкага р-на Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл., 5.4.1950 г. створаны калгас імя Сталіна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 240 жыхароў, у 1988 г. ў складзе калгаса «Світанне», 55 двароў, 104 жыхары, магазін.

**ЛЮБОЎШЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 24 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 129 км ад Мінска, на р. Вузлянка, каля аўтадарогі Вілейка—Мядзел. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1789 г. засценак у Маркаўскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ, 2 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г.



вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Берхмана, 2 двары, 19 жыхароў, у 1841 г. ўласнасць І.Любанскага, 5 двароў, 34 жыхары. З 1842 г. ў Віленскай губ. У 1873 г. вёска ў складзе Астроўскай сельскай грамады Куранецкай вол. Вілейскага павета, адносілася да маёнтка Любань І.Любанскага, 21 рэвізская душа. У 1908 г. ў складзе Іжскай сельскай грамады Іжскай вол., 9 двароў, 74 жыхары, 76 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 15 двароў, 95 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Кузьміцкім с/с, 58 жыхароў. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 8 двароў, 10 жыхароў. За 1 км на ПнУ ад вёскі археал. помнік — курганны могільнік, на левым беразе р. Вузлянка, у лесе, ва ўрочышчы Горкі (Капцы).

**ЛЮДВІНОВА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, цэнтр. сядзіба раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 30 км на ПнУ ад г. Вілейка, 18 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска. 336 гаспадарак, 845 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у складзе маёнтка Ілья Міхала Агінскага. У 1897 г. старожка ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета, 9 жыхароў; у пач. 20 ст. мела 3 дзес. зямлі. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 гг. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. фальварак у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета, у 1938 г. маёнтак таго ж павета Віленскага ваяв., 2 двары, 14 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У 1940 г. на базе былога маёнтка створаны зверасаўгас «Сэрвіч», дзе вырошчвалі чорных лісіц. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1945 г. саўгас «Сэрвіч» перайменаваны ў «Беларускі». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 308 жыхароў, у 1972 г. 173 двары, 587 жыхароў, лесапільня, млын, сярэдняя школа, клуб, б-ка, ФАП, дзіцячы сад, швейнае атэлье. У 1988 г. 262 двары, 694 жыхары, цэнтр саўгаса «Беларускі», які аб'ядноўваў 26 вёсак, меў 8207 га с.-г. угоддзяў, у т.л. 4337 га ворыва. Дзейнічалі клуб, сярэдняя школа, музей, лесапільня, млын, б-ка, дзіцячы сад, швейнае атэлье, сталовая, 4 магазіны, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, філіял Даўгінаўскай муз. школы, б-ка, ФАП, аддз. сувязі, Дом культуры, 3 магазіны, 2 комплексныя прыёмныя пункты, аддз. «Беларусбанка».

**ЛЯВОНАВІЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунсовая зара». За 20 км на ПнУ ад г. Вілейка, 17 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 123 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 11 двароў. У 1789 г. ў Карэкаўскім войтаўстве, 14 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1802 г. ўласнасць І.Куранецкага, 11 двароў, 85 жыхароў; у 1833 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., дзярж. ўласнасць, 14 дымоў; у 1897 г. ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 33 двары, 211 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 43





двары, 243 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 11 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас імя Молатава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 223 жыхары. З 1973 г. ў Касцяневіцкім с/с. У 1988 г. 40 двароў, 75 жыхароў, у складзе калгаса «Зара», клуб, магазін. Вёска — радзіма Героя Сац. Працы В.П. Паклікуха (20.5.1920—1999).

**ЛЯДА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1867 г. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ., у 1897 г. ў Іжскай вол. таго ж павета, 11 двароў, 114 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вішнеўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 12 двароў, 88 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Віленскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 91 жыхар; у 1988 г. 17 двароў, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне».

**ЛЯДЗВЕНІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 48 км на ПдУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 80 км ад Мінска. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Забор'е, уласнасць Багдановічаў, 8 двароў, 54 жыхары. У 1873 г. ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Грыгаровіча, 30 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 16 двароў, 108 жыхароў, магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 167 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. спалены карнікамі, былі загублены 3 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 122 жыхары.

**ЛЯСКІ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 23 км на Пн ад г. Вілейка, 21 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, на р. Вузлянка, 126 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1789 г. вёска ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ, 2 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, уласнасць генерал-маёра Берхмана, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 14 жыхароў. У 1841 г. ўласнасць І. Любанскага, 3 двары, 32 жыхары. У 1873 г. вёска ў складзе маёнтка Любань у Куранецкай вол. таго ж павета Віленскай губ., 20 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Іжскай вол. Вілейскага павета, 11 двароў, 78 жыхароў; хутар, 14 жыхароў; у 1908 г. вёска, 10 двароў, 77 жыхароў, 92 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 15 двароў, 91 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захоп-



нікамі. За 3,5 км на Пд ад вёскі, у лесе ў гонар Вілейскага падп. гаркома КП(б)Б і гаркома ЛКСМБ, Куранецкага райкома КП(б)Б і райкома ЛКСМБ, партыз. брыгад імя Л.М.Даватара і «За Савецкую Беларусь», якія тут базіраваліся ў Вял. Айч. вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла і адноўлены зямлянкі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.01. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 64 жыхары. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў.

**ЛЯСНАЯ** (да 1964 г. Пузава) — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 11 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 95 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1794 г. ў складзе маёнтка Паняцічы, уласнасць кухмістра К. Агінскага. У 1800 г. засценак у маёнтку Маладзечна ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 22 жыхары. У 1847 г. засценак у Віленскай губ., уласнасць С.Радзевіча. У пач. 20 ст. 59 жыхароў, 42 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 62 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14.4.1943 г. карнікі расстралялі 10 жыхароў (у 1974 г. на магіле пастаўлена стэла); у чэрв. 1944 г. спалена, загінулі 12 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 52 жыхары, у 1988 г. 9 двароў, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь», у 2003 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў.

**ЛЯЎКОВА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 25 км на ПдУ ад горада і 26 км ад чыг. ст. Вілейка, 101 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У гістарычных крыніцах вядома з 16 ст. У 1538 г. маёнтак Вязынь (Вязынь Слушчынская), уласнасць Служкаў, пасля Шванскіх. У 1595 г. дварэц Ляўкоўскі ў складзе маёнтка Селішчы, уласнасць князя П.Збаражскага, у 1697 г. ў заставе ў ігуменні віленскага бенедыкцінскага манастыра Грузеўскай, у 1712 г. маёнтак Ляўкова, уласнасць Я.Коцела. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак у маёнтку Ілья, уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, драўляная капліца. Да сярэдзіны 19 ст. маёнтак Тышкевічаў. У 1886 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., бровар. У пач. 20 ст. маёнтак памешчыка Умястоўскага, 71 жыхар, 5613 дзес. зямлі, млын. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія (20 двароў, 126 жыхароў) і пасёлак каля млына (3 двары, 18 жыхароў) у Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с, вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 129 жыхароў, у 1988 г. 3 двары, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь»; у 2003 г. 1 двор, 1 жыхар.

**ЛЯХАЎШЧЫНА** — вёска ў Нарачанскім с/с, за 13 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 116 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

У 18 ст. засценак у Ашмянскім павеце ВКЛ, у 1789 г. ў Маркаўскім старостве, 2 зямянскія дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. ім-





перыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Берхмана, 3 двары, 35 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце і вол. Віленскай губ., 6 двароў, 78 жыхароў. У пач. 20 ст. 53 жыхары, 91 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 15 двароў, 95 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 25 двароў, 86 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. спалена. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 Мінскай абласцей. У 1960 г. 85 жыхароў. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**ЛЯХІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ РУП «Кафэ Палессе». За 51 км на ПдУ ад г. Вілейка, 31 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 90 км ад Мінска, 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2008)

У пач. 20 ст. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв.; у 1921 г. 9 двароў, 60 жыхароў; у 1938 г. 12 двароў, 61 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, у Хаценчыцкім с/с, 63 жыхары.

**МАКАРЫЧЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чырлёны». За 37 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 140 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак у Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 39 двароў, 234 жыхары, магазін, вятрак. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З сак. 1921 г. вёска ў Іжскай гміне Вілейскага павета Навагрудскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Вішнеўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 38 двароў, 204 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Віленскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Чурленскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 13 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У студз. 1949 г. створаны калгас імя Леніна. З 18.5.1959 г. ў Іжскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 118 жыхароў; у 1988 г. 25 двароў, 48 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**МАЛЫШКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 37 км на ПнУ ад г. Вілейка, 11 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, на р. Сэрвач, 140 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

Вядомы з 17 ст. У 1616 г. сяло ў маёнтку Касцяневічы ў Ашмянскім павеце. У 1765 г. вёска, 15 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 16 двароў, 98 жыхароў, царква, карчма, уласнасць генерал-маёра П.Бардакова. У 1897 г. вёска ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 29 двароў, 227 жыхароў, у 1908 г. 282 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 53 двары, 268 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Жарскім с/с. У Вял. Айч. вайну



з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай вобл. 2.6. 1950 г. створаны калгас імя Кутузава. З 20.12.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 196 жыхароў. З 4.4.1973 г. ў Касцяневіцкім с/с. У 1988 г. 32 двары, 72 жыхары, у складзе саўгаса «Беларускі». За 0,1 км на З ад вёскі на левым беразе р. Сэрвач археал. помнік — гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі (1—4 ст. н.э.).

**МАЛЬКЕВІЧЫ** (да 1964 г. Кішкарэпы) — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 34 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, на р. Чорная (прыток р. Вузлянка), 137 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1794 г. в. Кішкарэпішча ў Губскім старостве Ашмянскага павета; у 1833 г. засценак Кішкарэпа, дзярж. уласнасць, 11 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 47 жыхароў, 86 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Кішкарэпы ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 74 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 4.12.1948 г. створаны калгас «Свабода». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с, 60 жыхароў. У 1988 г. 10 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**МАЛЯВІЧЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 42 км на ПдУ ад г. Вілейка, 30 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 77 км ад Мінска. 84 гаспадаркі, 163 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1473 г. як сяло ў складзе маёнтка Ілья Багдана Саковіча. У 1715 г. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 10 двароў, 19 жыхароў мужчынскага полу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. ўласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну; у 1800 — генерала-аншэфа М. Салтыкова, 26 двароў, 131 жыхар, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1852 г. ў складзе Рабунскай сельскай грамады, у Вілейскім павеце Вілейскай губ.; у 1886 г. вёска ў Вязынскай вол., 27 двароў, 214 жыхароў, царква, піцейны дом; у 1897 г. 55 двароў, 340 жыхароў, магазін, царква; у 1908 г. 378 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (22 двары, 107 жыхароў), калонія і засценак (68 двароў, 358 жыхароў), фальварак (4 жыхары), лясная старожка (4 жыхары), фальварак Малявічы Скарбовыя (4 двары, 24 жыхары). З



*Помнік ахвярам фашызму на месцы былой в. Боркі.*





ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 13 вяскоўцаў. За 2,5 км на У ад вёскі пахаваны 98 жыхароў (21 двор) в. Боркі, за 2 км на У — 93 жыхары (23 двары) в. Любча (знаходзіліся на гэтых месцах і пасля не адрадзіліся), якіх 5.5.1943 г. спалілі ням.-фаш. карнікі. У 1955 г. на магілах пастаўлены абеліск і стэла. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., у Хаценчыцкім с/с, 429 жыхароў. У 2009 г. дзейнічалі б-ка, клуб, магазін, Дом сац. паслуг. У вёсцы археал. помнікі — курганны могільнік (мясц. назва Паганскія могілкі) і каменныя магілы.

**МАМАІ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс», падсобная гаспадарка Асіпавічы. За 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 121 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

З 1897 г. вёска ў Вілейскай вобл. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 54 жыхары. У 1908 г. было 75 жыхароў, 9 двароў, 46,5 дзес. надзелаў, у складзе Баранскай сельскай грамады. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне, 15 двароў, 96 жыхароў; у 1923 г. ў Вілейскай гміне, 81 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 15 двароў, 49 жыхароў. У Вял. Айч. вайну спалена, у маі 1944 г. карнікі знішчылі 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 72 жыхары, у 1988 г. 23 двары, 41 жыхар, у складзе калгаса імя Суворава. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.



*Помнік ахвярам фашызму на месцы былой в. Любча.*

**МАНІХІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе РСУП «Першы Беларускі». За 30 км на ПнУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, каля р. Сэрвач (2 км), 133 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

Вядомы з 17 ст. У 1661 г. вёска ў складзе маёнтка Сэрвач, шляхецкая ўласнасць; у 1765 г. ўласнасць Нарушэвіча, 7 двароў, у Ашмянскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 7 двароў, 41 жыхар; у 1833 г. засценак у Губскім старостве (Манішына). У 1897 г. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 5 двароў, 48 жыхароў. У 1921— 1939 гг. у складзе Польшчы; у 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 13 двароў, 76 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 48 жыхароў; у 1988 г. 10 двароў, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі».



**МАРАЗЫ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе філіяла «Юнік-агра» ААТ «Гарадскі малочны завод» № 2. За 40 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 143 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Леана Герайна, 3 двары, 21 жыхар; чыншавай шляхты — 2 двары, 12 жыхароў. У 1867 г. засценак у Віленскай губ. У 1897 г. фальварак у Крайскай вол., 2 двары, 28 жыхароў. У 1905 г. фальварак Маразы (Каляды), 7 жыхароў, 40 дзес. зямлі. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. засценак у Альковіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 58 жыхароў; у 1938 г. 2 аднайменныя засценкі, 8 двароў, 49 жыхароў і 4 двары, 26 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, у 1943 г. карнікі расстралялі ў вёсцы 4 жыхароў (у 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск). З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У ліп. 1949 г. створаны калгас «Беларусь», які ў 1950 г. аб'яднаў 20 гаспадарак. У 1960 г. 76 жыхароў; у 1988 г. 15 гаспадарак, 23 жыхары; у складзе саўгаса «За Мір».

**МАРГІ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 18 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 121 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1848 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І. Любанскага, 15 жыхароў; у 1864 г. $^1/_2$ двара, 13 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета, 15 двароў, 59 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 52 жыхары. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 12 гаспадаркі, 30 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**МАРДАСЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 22 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 125 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 19 ст. вёска ў Свянцянскім павеце, у 1897 г. ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 12 двароў, 61 жыхар; у 1908 г. 89 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне 2 вёскі, 103 жыхары і 2 двары, 7 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 52 жыхары. У 1960 г. вёска ў Бараўцоўскім с/с, 81 жыхар; у 1988 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**МАРДАСЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 56 км на ПдУ ад г. Вілейка, 27 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 74 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. Уладанне Б.Шумскай і Б.Нарушэвіча, 7 двароў, 39 жыхароў. У 1873 г. ў Крамянецкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 41 рэвізская душа; у 1897 г. ў вёсцы 17 двароў, 163 жыхары; у 1908 г. 29 двароў, 198 жыхароў, 155 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Поль-

шчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 45 двароў, 214 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, 160 жыхароў.

**МАТЧЫЦЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 17 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1551 г. сяло ў маёнтку Вязынь, уласнасць Я.Насілоўскай. У 1625 г. сяло манашак-бенедыкцінак. У 1794 г. сяло канфіскавана ў казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, уласнасць генерал-маёра Горыча, 13 двароў, 91 жыхар, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 23 двары, 205 жыхароў, царква. У 1908 г. 243 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 46 двароў, 267 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с, паравы млын. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 12 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёскі Матчыцы 1 (118 жыхароў) і Матчыцы 2 (92 жыхары); у 1988 г. 28 двароў, 54 жыхары, у складзе саўгаса «Вязынь».

**МАЦАВІЧЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 24 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 127 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 39 жыхароў (2008).

Вядомы з 18 ст., вёска ў Ашмянскім, потым у Вілейскім паветах Мінскай губ. У 1800 г. 12 двароў, 124 жыхары, сумесная ўласнасць В.Казея і царквы. У 1897 г. вёска ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета, 26 двароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне, 15 двароў, 74 жыхары; фальварак, 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1960 г. 63 жыхары; у 1988 г. 24 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**МАЦЬКАЎЦЫ** — вёска ў Альковіцкім с/с, цэнтр. сядзіба рэсп. УП «Стайкі». За 35 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 138 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Плешчаніцы. 152 гаспадаркі, 371 жыхар (2008).

У 1794 г. вёска ў фальварку Стайкі, уласнасць Л.Багдановіч, у Ашмянскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. ў складзе маёнтка Старынкі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 8 двароў, 62 жыхары. У 1897 г. фальварак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 78 жыхароў; у 1905 г. фальварак (Багдановіча), 41 жыхар, 991 дзес. зямлі, млын. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Альковіцкай гміне Вілейскага павета, 12 двароў, 77 жыхароў; у 1938 г. маёнтак (7 двароў, 59 жыхароў) і ўчастак (2 двары, 15 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.



1940 г. ў Альковіцкім с/с, паравы млын. У Вял. Айч. вайну ў барацьбе з ворагам загінуў 31 жыхар (на ўшанаванне іх памяці ў 1972 г. пастаўлены помнік), у 1943 г. і 1944 г. былі загублены 18 жыхароў. З 20.9.1944 г. да 12.7.1957 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1949 г. створаны саўгас «Ільянскі», у студз. 1975 г. перайменаваны ў «Стайкі». У 1960 г. 389 жыхароў; у 1988 г. 172 гаспадаркі, 439 жыхароў, цэнтр саўгаса «Стайкі», які аб'ядноўваў 10 населеных пунктаў, меў 4150 га с.-г. угоддзяў; дзейнічалі сярэдняя школа (пры ёй гісторыка-краязнаўчы музей), дзіцячы яслі-сад, камбінат быт. абслугоўвання, Дом культуры, б-ка, сталовая, 2 магазіны, паштовае аддз. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, вучэбна-пед. комплекс школа-сад, клуб, амбулаторыя, магазін, аддз. сувязі. Вёска — радзіма бел. дзярж. і гасп. дзеяча В.С.Уладыкі (н. 2.2.1949).

**МЕЧАІ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 25 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска, на р. Ганутка (прыток р. Вілія). 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 2-й пал. 18 ст. вёска ў Ашмянскім, з 1795 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета, 19 двароў, 104 жыхары; у 1908 г. 149 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне, 27 двароў, 155 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «1 Мая», аб'ядноўваў 19 гаспадарак, меў 1900 га ворыва. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 172 жыхары. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**МІКУЛІНА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 51 км на Пн ад г. Вілейка, 13 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 116 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Даўгінава ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., шляхецкая ўласнасць, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 15 двароў, 64 жыхары. У 1905 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Віленскай губ., 156 жыхароў, 250 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскага ваяв., 49 двароў, 254 жыхары; калонія — 13 двароў, 63 жыхары; маёнтак — 2 двары, 9 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. Крывіцкага р-на, з 12.10.1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г.

*Рэшткі сядзібнага комплексу ў в. Мацькайцы.*







акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 195 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с, у 1988 г. 2 двары, 51 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна. У 2003 г. 23 двары, 32 жыхары. Вёска — радзіма польскага літаратуразнаўца-славіста, фалькларыста, д-ра філалагічных навук Францішака Сяліцкага (29.11.1923—2.9.2001).

**МІЛЬЧА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, цэнтр. сядзіба СВК «Барэц». За 52 км на ПнУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, каля р. Вілія (1,5 км), 160 км ад Мінска. 128 гаспадарак, 298 жыхароў (2008).

У гістарычных крыніцах вядома з 16 ст. У 1522 г. вёска, былое ўладанне Мікалая Мікалаевіча Радзівілавіча, ваяводы віленскага, канцлера ВКЛ, 34 жыхары. У 1581 г. сяло, 14,5 службаў, пазней — маёнтак. У 1600 г. мястэчка, у 1643 г. мястэчка (гандл. плошча, 2 вуліцы, завулак, царква, карчма, млын, 53 двары, 119 жыхароў мужчынскага полу) і сяло (71 двор). У 1752 г. мястэчка, маёнтак, які належаў Жабам, потым віленскаму жаночаму бернардзінскаму манастыру), фальварак. У 1765 г. маёнтак, уласнасць Белазораў; мястэчка, уласнасць Агінскіх (19 двароў), і вёскі Мільча (24 двары), Слабада, Сіўцы, Карпееўцы, Хоцень, Саланое, Чысць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. маёнтак, уласнасць Тышкевічаў; сяло (33 двары, 254 жыхары), драўляная царква, вадзяны млын. У 1839 г. на сродкі графа Тышкевіча пабудавана новая драўляная царква. У 1857 г. маёнтак, уласнасць Ардынца. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча; у 1866 г. пабудавана мураваная царква Раства Багародзіцы. У 1886 г. сяло, цэнтр воласці ў Барысаўскім павеце Мінскай губ., 27 двароў, 268 жыхароў; царква, школа. У 1897 г. сяло, 68 двароў, 469 жыхароў; царква, нар. вучылішча, магазін, лаўка, піцейны дом. У лют. — снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (100 двароў, 602 жыхары); калонія (8 двароў, 60 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Мільчанскага с/с Вілейскай вобл. У вёсцы 108 гаспадарак, 662 жыхары. У 1940 г. створаны калгас «Перамога». У складзе сельсавета 15 населеных пунктаў, 2842 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1950 г. створаны калгас «Іскра». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 556 жыхароў. З 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с, у 1972 г. працавалі сярэдняя школа, комплексны прыёмны пункт, клуб, б-ка, ФАП, ветэрынарны пункт, аддз. сувязі, магазін, цэнтр калга-

*Царква Раства Прасвятой Багародзіцы ў в. Мільча.*





са «Барацьбіт» (яднаў 8 вёсак, меў 5209 га с.-г. угоддзяў). У 1988 г. 163 двары, 397 жыхароў; працавалі сярэдняя школа, дзіцячы сад, камбінат быт. абслугоўвання, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі. У 2003 г. 143 двары, 364 жыхары; сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, ФАП, клуб, магазін. У 2009 г. вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—базавая школа, б-ка, клуб, ФАП, аддз. паштовай сувязі, магазін. У вёсцы помнік архітэктуры — царква ў гонар Раства Прасвятой Багародзіцы.

**МІХНІЧЫ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 117 км ад Мінска, на аўтадарозе Сліпкі—Ліпневічы. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

У 1622 г. сяло Міхневічы, у 1765 г. вёска, у Губскім старостве Ашмянскага павета ВКЛ, 8 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны, 9 двароў, 47 жыхароў; у 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 12 двароў, 133 жыхары; у 1900 г. адкрыты школа граматы; у 1908 г. 142 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 200 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 25.5.1949 г. створаны калгас імя Жданава. З 14.2.1957 г. ў складзе калгаса «Бальшавік» Рабунскага с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 181 жыхар; у 1988 г. 31 гаспадарка, 59 жыхароў. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**МІШУТЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 24 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 127 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у 1897 г. ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 21 двор, 159 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне, 28 двароў, 138 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 15 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 130 жыхароў. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС. На зах. ускраіне в. Мішуты захоўваецца вялікі камень з ямкамі, прынесены ледавіком прыкладна 220—150 тыс. гадоў таму ў часы дняпроўскага зледзянення. Штучныя выемкі на валуне зроблены чалавекам у 1-м тыс. да н.э.

**МЛЕЧКІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 54 км на ПнУ ад г. Вілейка, 30 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 112 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

*Валун у в. Мішуты.*






У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Жары ў Ашмянскім павеце, уладанне Я.Вазгірда, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 10 двароў, 59 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 15 двароў, 94 жыхары; фальварак, 4 двары, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. 111 жыхароў, 136 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 103 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сіўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з чэрв. 1963 г. ў Даўгінаўскім с/с Вілейскага р-на. У 1960 г. 101 жыхар; у 1988 г. 12 двароў, 22 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна. За 0,7 км на Пн ад вёскі археал. помнік — курганны могільнік.

**МУЛЯРЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 29 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 132 км ад Мінска. 36 гаспадарак, 77 жыхароў (2008).



*Могілкі ў в. Муляры, дзе пахаваны воіны расійскай і германскай армій, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну.*

У 1781 г. вёска Муляргі ў Ашмянскім павеце, уласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 24 жыхары. У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 22 двары, 122 жыхары; вятрак. У 1908 г. 151 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Вішнеўскай гміне Свянцянскага павета Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў, у 1938 г. вёска той жа воласці Вілейскага павета, 28 двароў, 129 жыхароў, участак (3 двары, 19 жыхароў), фальварак (8 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Куранецкім павеце, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Чурленскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 3.9.1949 г. створаны калгас імя С.Будзённага. З 18.5.1959 г. ў Іжскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 111 жыхароў; у 1988 г. 40 двароў, 87 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**МЯДЗВЕДЗІНА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс», падсобная гаспадарка Асіпавічы. За 6 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 104 км ад Мінска, каля р. Вілія (2 км). 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1800 г. паселішча ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 15 жыхароў (в. Мядзведзішкі), уласнасць генерал-маёра Берхмана, у 1852 г. вёска ў Віленскай губ., уласнасць Любанскага. У 1897 г. ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 6 двароў, 58 жыхароў. У 1908 г. Мядзведзеўшчына, у Баранскай сельскай грамадзе, 10 двароў, 75 жыхароў, 33,8 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Мя-



дзведзяня ў Каловіцай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 102 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 22 двары, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. спалена, карнікі знішчылі 3 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 94 жыхары; у 1988 г. 25 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава; у 2003 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**НАБЕРАЖНАЯ** (да 1964 г. Дзёхаўка) — вёска ў Нарачанскім с/с, на р. Нарач, за 17 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 116 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1514 г. згадваецца як пустка Дзяхаўшчына ў Ашмянскім павеце, падараваная вял. кн. Жыгімонтам Маркаўскаму баярыну Вачку Багданавічу. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Ашмянскім, з 1842 г. ў Свянцянскім павеце Віленскай губ. У 1873 г. засценак у Войстамскай вол., у складзе Ганунцкай сельскай грамады, у Свянцянскім павеце Віленскай губ., 13 рэвізскіх душ. У 1908 г. 8 двароў, 46 жыхароў, 23,5 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1922 г. ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. 11 двароў, 48 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у Рускасельскім с/с, 48 жыхароў. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**НАВАДУБАВА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак у Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, з фронту не вярнуліся 12 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 14.11.1949 г. створаны калгас імя Суворава. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., вёска Нова-Дубава, 36 жыхароў. У 1988 г. 6 двароў, 10 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 22 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 125 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 29 двароў, 183 жыхары; у 1908 г. 252 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У



*Памятны знак на месцы маёнтка Дзевятні ў в. Навасады, дзе жыў І.Ходзька.*





1938 г. вёска ў Вайстамскай гміне, 40 двароў, 220 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей. У 1960 г. 165 жыхароў. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС. Каля вёскі размяшчаўся маёнтак Дзевятні, дзе жыў пісьменнік, мемуарыст Ігнацій Ходзька [29.9.1794 (паводле іншых звестак 1795) — 1.8.1861]. На месцы маёнтка пастаўлены памятны знак.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 48 км на ПнУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, на р. Сэрвач, 144 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. У 1651 г. сяло ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Крывічы, уласнасць Я.Кішкі, 13 дымоў. У 1765 г. вёска ў маёнтку Мільча, шляхецкая ўласнасць, 5 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 5 двароў, 31 жыхар. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 7 двароў, 67 жыхароў. У пач. 20 ст. 57 жыхароў, 80 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 13 двароў, 66 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Крывіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У снеж. 1949 г. створаны калгас імя Заслонава. З 28.6.1958 г. ў складзе Крывіцкага пасялковага савета, з 25.12.1962 г. ў Даўгінаўскім с/с Вілейскага р-на Мінскай вобл. У 1960 г. ў Даўгінаўскім с/с, 57 жыхароў; у 1988 г. 33 двары, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Даўгінава». У 2003 г. 19 гаспадарак, 24 жыхары.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 40 км на ПнУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 143 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 23 жыхары (2008).

У 16 ст. вёска ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць, у 2-й палавіне 17 ст. ўласнасць М.Кішкі, затым С.Альшэўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць суддзі І.Вазгірда, 9 двароў, 77 жыхароў; у 1897 г. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 22 двары, 141 жыхар; у 1908 г. 180 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 38 двароў, 200 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у складзе саўгаса «Беларускі». У 1988 г. 33 двары, 58 жыхароў.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 9 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 113 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У 1800 г. вёска ў складзе маёнтка Куранец, уласнасць Ю.Ромера, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 12 двароў, 62



жыхары. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 фальваркі, 30 жыхароў. У пач. 20 ст. фальварак, уласнасць князя Гогенлое, 18 жыхароў, 60 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. хутары ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 10.8.1948 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 31 жыхар, з 14.3. 1973 г. ў складзе калгаса «Бальшавік». У 1988 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 48 км на ПдУ ад г. Вілейка, 27 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 74 км ад Мінска, на аўтадарозе Мядзел—Мінск. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў складзе маёнтка Лукавец, уласнасць Б.Шумскай, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 19 жыхароў. У 1873 г. ў складзе Крамянецкай сельскай грамады Хаценчыцкай вол. Віленскай губ., 11 двароў; у 1897 г. 6 двароў, 48 жыхароў; у 1908 г. 7 двароў, 48 жыхароў, 63 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 9 двароў, 57 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943—44 гг. у вёсцы базіраваліся Ільянскі падп. райком КП(б)Б і штаб партыз. брыгады імя М.В.Фрунзе (у гонар іх у 1965 г. пастаўлена стэла); за 1 км на З ад вёскі базіраваўся партыз. атрад імя К.Я.Варашылава гэтай брыгады (у 1973 г. адноўлены зямлянкі партызан і створаны музей атрада). З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, 99 жыхароў.

**НАВІКІ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 33 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 136 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., у Губскім старостве, 7 жыхароў; у 1833 г. 2 дымы. У пач. 20 ст. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 54 жыхары, 89 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 69 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Рэчкаўскім с/с таго ж раёна Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 86 жыхароў; у 1988 г. 19 гаспадарак, 41 жыхар; у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**НАВІКІ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 10 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Паставы. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

У 1523 г. вёска, гаспадарская ўласнасць у Ашмянскім павеце; у 1789 г. 9 двароў, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 1 двор, 7 жыхароў. У 1873 г. засценак у Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у складзе Губскай сельскай грамады, 10 рэвізскіх

душ; у 1908 г. вёска, 6 двароў, 54 жыхары, 87,9 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 110 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 2003 г. ў вёсцы 13 гаспадарак, 17 жыхароў.

**НАРАЧ** — вёска, цэнтр Нарачанскага с/с, сядзіба СВК «Нарачанскія зоры». За 17 км на ПнЗ ад горада і 19 км ад чыг. ст. Вілейка, 123 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Смаргонь, на р. Нарач. 274 гаспадаркі, 790 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. мястэчка ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у 1692 г. мястэчка ў Маркаўскім старостве, уласнасць І.Служкі; у 1766 г. ўласнасць Тышкевічаў, 26 дымоў, карчма, млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1800 г. мястэчка і двор, уласнасць генерал-маёра Берхмана, 29 двароў, 200 жыхароў; у 1801 г. 241 жыхар; у 1802 г. пабудавана Ільінская царква; у 1860 г. сяло ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць І.Любанскага. У 1886 г. сяло ў Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 28 двароў, 302 жыхары, 2 праваслаўныя царквы, нар. вучылішча, з 1885 г. царк.-прыходская школа. У канцы 19 ст. 65 двароў, 366 жыхароў; магазін, 2 кузні, карчма, заезны двор; побач сядзіба (3 двары, 30 жыхароў) і вадзяны млын (4 жыхары). У пач. 20 ст. 479 жыхароў, 451 дзес. зямлі; сядзіба Любанскай — 30 жыхароў, 40 дзес. зямлі. У вер. 1915 г. і сак. 1916 г. на тэр. сучаснага сельсавета другая руская армія вяла ўпартыя крывапралітныя баі з германскімі захопнікамі, у якіх панесла вялікія страты, паселішчам было нанесена вялікае спусташэнне. З лют. да пач. снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне, 88 двароў, 505 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с; лесапільны з-д, млын. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. арг-цыя. У лют. 1943 г. фашысты знішчылі 12 жыхароў, у чэрв. 1944 г. вёска часткова спалена; 17 жыхароў не вярнуліся з фронту. На ўшанаванне памяці 118 жыхароў в. Бараўцы, Жарсцвянка, Заброддзе, Кардон, Мардасы, Навасады, Нарач, Папоўцы, Урэчча, у т.л. Героя Сав. Саюза К.М.Зубовіча, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены помнік. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 3.11.1948 г. створаны калгас імя Жданава, які аб'яднаў 62 гаспадаркі. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 343 жыхары, вёска ў Бараўцоўскім с/с. З 11.9.1975 г. цэнтр с/с і калгаса імя XXI з'езда КПСС, былі 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, ФАП, магазін. У 1988 г. 226 двароў, 673 жыхары, калгас


*Ільінская царква ў в. Нарач.*



аб'яднаў 35 вёсак, меў 9930 га с.-г. угоддзяў; гандл. цэнтр, Дом культуры, дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячы яслі-сад, ФАП, ветучастак, комплексны прыёмны пункт, б-ка, 3 магазіны, сталовая. З 1975 г. пры Доме культуры працуе дзіцячы тэатр «Ялінка» (з 1978 г. ўзорны). У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, дзіцячая муз. школа мастацтваў, б-ка, амбулаторыя, Дом культуры, гандл. цэнтр, аддз. сувязі, аддз. ААТ «Беларусбанк», лясніцтва, комплексны прыёмны пункт, пажарна-аварыйна-выратавальны пост. У вёсцы помнік архітэктуры — Ільінская царква (1877).

**НЕВІНЯНЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 47 км на ПнУ ад г. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 140 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Даўгінава Б.Каменскага, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 11 двароў, 47 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Даўгінаўскай вол., 22 двары, 122 жыхары. У 1908 г. 185 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 32 двары, 204 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У чэрв. 1949 г. створаны калгас «31-я гадавіна Савецкай Арміі». З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 173 жыхары; у 1988 г. 16 двароў, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Даўгінава».

**НОВАЯ ГУТА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 16 км на ПдУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 76 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Ілья, уласнасць генерал-аншэфа М.Салтыкова, 26 двароў, 110 жыхароў, шклозавод, 3 млыны; у 1847 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у дзярж. маёнтку Ілья. У 1873 г. вёска ў складзе Ільскай сельскай грамады Вязынскай вол. таго ж павета, 58 дзярж. сялян. У 1886 г. вёска ў Вязынскай вол., 25 двароў, 197 жыхароў, праваслаўная царква. У 1897 г. 37 двароў, 253 жыхары, адкрыта школа граматы. У 1908 г. 353 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 у Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 45 двароў, 242 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. цэнтр Навагуцкага с/с, 62 двары, 250 жыхароў. У складзе сельсавета 27 населеных пунктаў, 2279 жыхароў, была смалакурня. У 1941 г. 42 двары, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1943 г. спалена карнікамі, былі загублены 9 жыхароў. З фронту не вярнуліся 7 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. З 6.9.1957 г. ў Хаценчыцкім с/с, у 1960 г. 158 жыхароў.

**НОВЫЯ ЗІМОДРЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 14 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Паставы. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1558 г. сяло Юхавічы ў Маркаўскай дзяржаве Ашмянскага павета ВКЛ; у 1690 г. ў Маркаўскім старостве.





Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Берхмана, 20 двароў, 130 жыхароў. У 1851 г. вёска ў Куранецкай парафіі таго ж павета Віленскай губ. У 1873 г. вёска Зімодры ў складзе Журыхскай сельскай грамады Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 рэвізскіх душ; у 1908 г. ў складзе Касуцкай сельскай грамады, в. Новыя Зімодры, 3 двары, 45 жыхароў, 59,9 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 11 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 48 жыхароў. З 13.4. 1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў.

**НЯБЫШЫНА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барацьбіт». За 57 км на ПнУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 160 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 1581 г. вёска, па некаторых сведчаннях, была падаравана вял. кн. Стэфанам Баторыем Хмялеўскаму за ваенныя заслугі. У 1778 г. вёска і фальварак, уладанне Л.Пазняка, пазней уласнасць Л.Агінскага, М.Тышкевіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. 9 двароў, 54 жыхары. У 1897 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 19 двароў, 156 жыхароў. У лютым—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1921 г. ў Даўгінаўскай гміне, 32 двары, 204 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У сак. 1949 г. створаны калгас імя Будзённага. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. 189 жыхароў; у 1988 г. 24 двары, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Барацьбіт». У 2003 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў.

**НЯСЦЁРКІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 30 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Маладзечна, 103 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў складзе фальварка Ляўкова, у Ашмянскім павеце, уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага; канфіскавана ў казну. У 1800 г. ўласнасць генерал-аншэфа Мікалая Салтыкова, 12 двароў, 84 жыхары; у 1808 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уладанне графа Юзафа Тышкевіча. У 1905 г. вёска ў Вязынскай вол. таго ж павета Віленскай губ., 220 жыхароў; у 1908 г. ў складзе Латыгальскай сельскай грамады, 16 двароў, 237 жыхароў, 125,2 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 42 двары, 220 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У снеж. 1949 г. створаны калгас «Пераможац», з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У 1960 г. 211 жыхароў; у 1988 г. 44 двары, 82 жыхары, у складзе саўгаса



«Вілія». У 2003 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў.

**НЯСЦЁРКІ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 14 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 113 км ад Мінска, каля Вілейскага водасховішча. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

У 1794 г. вёска ў складзе фальварка Ляўкова Міхаіла Клеафаса Агінскага, у Ашмянскім павеце, канфіскавана ў казну. З 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 12 двароў, 84 жыхары; у 1808 і 1840-х гг. уласнасць Тышкевічаў. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 30 двароў, 213 жыхароў, піцейны дом. У 1908 г. 237 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 42 двары, 220 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобласці, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 8.1.1949 г. створаны калгас імя С.М.Кірава. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 206 жыхароў, у 1988 г. 45 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**ПАБЯДЗІЦЕЛЬ** (да 1964 г. Сморкава) — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе філіяла «Юнік-агра» ААТ «Гарадскі малочны завод № 2». За 40 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 143 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

У 1756 г. вёска ў складзе маёнтка Кастыкі, уласнасць Міхаіла Рафала Слізня, у Вілейскім старостве Ашмянскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, сумеснае ўладанне Слізня (1 двор, 3 жыхары) і Аляксандры Гарайн — 8 двароў, 22 жыхары, у Віленскім павеце Мінскай губ. У пач. 20 ст. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 211 жыхароў, 199 дзес. зямлі. У 1908 г. ў складзе Старынскай сельскай грамады той жа валасці, 9 двароў, 159 жыхароў, 162 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы: у 1923 г. вёска, 36 двароў, 160 жыхароў, у Альковіцкай гміне Вілейскага павета Навагрудскага, у 1938 г. вёска Віленскага ваяводстваў, 38 двароў, 194 жыхары; засценак, 4 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ракшыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 3 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У сак. 1950 г. створаны калгас «Чырвоны сцяг». З 16.7.1954 г. ў Альковіцкім с/с. У 1960 г. 148 жыхароў; у 1988 г. 29 гаспадарак, 56 жыхароў.

**ПАВЯЗЫНЬ** — вёска ў Хацечыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 36 км на ПдУ ад г. Вілейка, 22 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 83 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1770 г. вёска Павязын, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, 28 двароў, 78 жыхароў, бровар, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., в. Павязына, 20 двароў, 122 жыхары, уласнасць Валадкевіча; у 1873 г. засценак Падвязынь у складзе Заборскай сельскай грамады Хаценчыцкай вол. таго ж павета Віленскай губ., 9 рэвізскіх сялян; у 1897 г. 3 двары, 39 жыхароў; у 1908 г. вёска, 4 двары, 17 жыхароў, 28 дзес. угоддзяў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 7 двароў, 35 жыхароў. З ліст.




1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1940 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Ільянскім с/с, 36 жыхароў.

**ПАГОСТ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім с/с), цэнтр філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напіткаў». За 54 км на ПнУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Крывічы на лініі Маладзечна—Полацк, 157 км ад Мінска, на аўтадарозе Даўгінава—Жардзяжжа, на р. Вілія. 108 гаспадарак, 263 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1567 г. сяло, гаспадарскі дварэц, у складзе маёнтка Даўгінава, уласнасць Юрыя Харкевіча. У 1765 г. ўладанне Каменскага, 20 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. фальварак і вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 33 двары, 131 жыхар. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 72 двары, 413 жыхароў. У 1899 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 542 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. 86 двароў, 518 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Пагосцкага с/с, 105 двароў, 518 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. На ўшанаванне памяці 22 жыхароў вёсак Грышкавічы, Жызнава, Крывазнакі, Пагост, Стахі, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены помнік. Пасля вызвалення ў 1944 г. створаны калгас імя Сталіна. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях; з 16.7.1954 г. ў Даўгінаўскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 448 жыхароў; у 1988 г. 118 двароў, 291 жыхар, цэнтр калгаса «Праўда», аб'яднаў 7 вёсак, меў 4339 га с.-г. угоддзяў; пач. школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт. У 2009 г. дзейнічалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—базавая школа, б-ка, ФАП, клуб, аддз. сувязі, магазін.

**ПАГРАБІШЧА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 46 км на ПдУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 76 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 11 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Ілья, уласнасць М.Салтыкова, 5 двароў, 38 жыхароў. У 1829 г. выдзелена з маёнтка ў асобны ўчастак у валоданне М.Пашкоўскага, 46 душ сялян; у 1865 г. фальварак таго ж павета Віленскай губерні; у 1873 г. засценак у Хаценчыцкай вол., у Залескай сельскай грамадзе, 9 рэвізскіх душ. У 1897 г. былі 2 засценкі той жа назвы, у якіх 6 двароў, 42 жыхары; у 1908 г. 2 двары, 25 жыхароў, 11 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 4 двары, 22 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей. У 1960 г. вёскі Пагрэбішча 1 (104 жыхары) і Пагрэбішча 2 (53 жыхары) у Хаценчыцкім с/с.

**ПАДБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 29 км на ПнУ ад г. Вілейка, 16 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 132 км ад Мінска, на р. Сэрвач. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2008).



У канцы 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, у 1765 г. ў складзе маёнтка Касцяневічы, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. засценак, уласнасць ген.-маёра П.Бардакова, 26 жыхароў, у 1897 г. вёска Падбярэззе 1, 6 двароў, 74 жыхары, у Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., у 1908 г. 128 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у 1938 г. вёска Падбярэззе Касцяневіцкае ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 22 двары, 129 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў складзе саўгаса «Беларускі», 99 жыхароў; у 1988 г. 25 двароў, 52 жыхары, магазін.

**ПАДКЛЁННЕ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 17 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 120 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У сярэдзіне 19 ст. засценак, уласнасць В.Стафаноўскага, у Свянцянскім павеце. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 4 двары, 23 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Вайстамскай гміне, 5 двароў, 23 жыхары. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. в. Падклёны, 23 жыхары. З 16.12. 1982 г. ў Нарачанскім с/с.

**ПАЖАРНІЦА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 50 км на ПнУ ад г. Вілейка, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 158 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1634 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць А. Агінскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць А.Агінскай, 2 двары, 14 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1908 г. 51 жыхар. У 1-ю сусв. вайну восенню 1915 г. спалена германскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 61 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Мільчанскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 56 жыхароў. З 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 2 двары, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Даўгінава».

**ПАЛЯНКА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 52 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 79 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 1 двор, 16 жыхароў. У 1921—39 г. ў складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў, 25 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў

Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 Мінскай абласцей, вёска ў Хаценчыцкім с/с, 24 жыхары.

**ПАЛЯНЫ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 43 км на ПнУ ад г. Вілейка, 22 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 133 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1634 г. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць Агінскага. Да 1643 г. сяло ў маёнтку Мільча Януша Кішкі, гетмана польнага ВКЛ, затым Яна Рудаміна-Дусяцкага, кашталяна наваградскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. вёска ў маёнтку Жары, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Міхаіла Валовіча, пісара ВКЛ, 3 двары, 19 жыхароў; Антаніны Агінскай — 11 двароў, 74 жыхары; ваколіца Палянь (3 двары, 18 жыхароў). У 1860 г. ў складзе маёнтка Сасноўшчына. У 1908 г. ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Даўгінаўскай вол., 225 жыхароў, 291 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне, 41 двор, 244 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Сцешыцкім с/с Крывіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У сак. 1949 г. створаны калгас імя Чкалава. З 16.7.1954 г. ў Жарскім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 246 жыхароў; у 1988 г. 34 двары, 76 жыхароў, у складзе калгаса імя Чарняхоўскага.

**ПАНКРАТЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 58 км на ПнУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у маёнтку Будслаў Марціна Аскеркі, 9 двароў, 69 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 114 жыхароў. У 1908 г. 137 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 36 двароў, 172 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 139 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 27 двароў, 51 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Язні), магазін; у 2003 г. 18 гаспадарак, 32 жыхары.

**ПАНЯЦІЧЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд», за 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 27 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 69 жыхароў (2008).

У 1497 г. зямля ў маёнтку Вязынь, якую купіў ваявода трокскі Рыгор Станьковіч Осцік. У 1526 г. маёнтак, у 1556 г. с. Панятычы, 6 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1585 г. Я.Осцік прадаў маёнтак падскарбію земскаму, пісару ВКЛ Я.Глябовічу разам з іншымі сваімі маёнткамі за 8 тыс. коп літоўскіх грошаў. У 1630-х гг. уласнасць Аляксандра Корвін-Гансеўскага, ваяводы смаленскага. У 1794 г. фальварак і сяло (Паняцічы Старыя і Новыя), уладанне Ксаверыя Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло і двор таго ж уладальніка, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 20 двароў, 153 жыхары, царква, карчма. У 1886 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілей-



скага павета Віленскай губ., 70 двароў, 204 жыхары, у 1897 г. 44 двары, 297 жыхароў, царква, магазін, карчма (8 жыхароў), маёнтак (18 жыхароў), сядзіба (3 жыхары). У 1898 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 291 жыхар, 31 дзес. зямлі; побач — маёнтак і сядзіба Валадковіча. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Польшчы, вёскі Паняцічы 1 (36 двароў, 197 жыхароў), Паняцічы 2 (19 двароў, 109 жыхароў), фальварак (16 двароў, 68 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Рэдзькавіцкім с/с. У 1941 г. створаны калгас «17 Верасня» (56 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 11 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска Паняцічы, 433 жыхары; хутар, 8 жыхароў; у 1988 г. 104 двары, 204 жыхары, у складзе саўгаса «Вязынь», пач. школа, б-ка, клуб, магазін. У 2003 г. 67 гаспадарак, 101 жыхар.

**ПАПОЎЦЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 19 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 122 км ад Мінска, на р. Нарач. 44 гаспадаркі, 81 жыхар (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1781 г. шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. вёска Папоўшчына ў Вілейскім павеце Мінскай губ.; 3 двары, 12 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 26 двароў, 194 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай гміне, 47 двароў, 244 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 22.4.1950 г. створаны калгас «Краіна Саветаў», які аб'яднаў 22 гаспадаркі. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска, 144 жыхары і хутар, 166 жыхароў. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 67 гаспадарак, 151 жыхар, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, магазін. За 0,5 км на Пн ад вёскі, абапал дарогі ў в. Іжа, у лесе, ва ўрочышчы Капцы археал. помнік — курганны могільнік. Каля вёскі помнік на брацкай магіле салдат рус. арміі, якія загінулі ў 1-ю сусв. вайну. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза К.М.Зубовіча (1904—28.12.1944); на доме, дзе ён жыў, у 1962 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.



*К.М.Зубовіч.*

**ПАРАМЕЦ 2** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 18 км на З ад г. Вілейка, 121 км ад Мінска, на р. Нарач. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1860 г. засценак, дзярж. ўласнасць у Вілейскім павеце Віленскай губ., 4 двары, 35 жыхароў. У пач. 20 ст. засценак, 2 двары, 14 жыхароў, у Вілейскай



*Помнік на брацкай магіле салдат расійскай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну, каля в. Папоўцы.*

вол. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Вілейскай гміне і павеце, засценкі Парамец 1 (3 двары, 19 жыхароў), Парамец 2 (6 двароў, 34 жыхары); у 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Вілейскага ваяв. вёскі Парамец 1 (7 двароў, 39 жыхароў), Парамец 2 (4 двары, 19 жыхароў). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 11.9.1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1960 г. хутар, 15 жыхароў; у 1988 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**ПАРТЫЗАНСКІ** (да 1969 г. Залессе) — пасёлак у Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 44 км на ПдУ ад г. Вілейка, 27 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 88 км ад Мінска. 293 гаспадаркі, 719 жыхароў (2008).



*Помнік землякам у пас. Партызанскі.*

У 1855 г. паселішча пры шклозаводзе «Залессе», сядзіба Васнеўскіх, у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 8 двароў, 66 жыхароў. У 1908 г. вёскі Шчарочыха 1 і Шчарочыха 2. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. фабрычны пасёлак Залессе ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў, 26 двароў, 149 жыхароў. У 1938 г. фабрычны пасёлак Гута Залессе, 14 двароў, 60 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 у Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Навагуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 43 землякі (на ўшанаванне іх памяці ў 1968 г. пастаўлены помнік). З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 5.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 21.1.1969 г. ў Ільянскім с/с. У 1988 г. ў вёсцы 316 двароў, 826 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, шклозавод «Залессе» (дзейнічаў да 2003 г.), сярэдняя школа, дзіцячы яслі-сад, б-ка, магазіны, Дом культуры, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі Залесская сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, ФАП, клуб, аддз. сувязі, магазін; царква ў імя святога велікамучаніка Георгія Перамаганосца.

**ПАСЕКІ 1** — хутар у Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 46 км на ПдУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 86 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

У 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 9 рэвізскіх душ; у 1897 г. засценак, 5 двароў, 29 жыхароў; у 1908 г. было 3 двары, 27 жыхароў, 54 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак Пасека Казлоўская (Катоўка) у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 3 двары, 13 жыхароў. З ліст.



1939 г. ў БССР; з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар у Хаценчыцкім с/с, 17 жыхароў.

**ПАСЕКІ 2** — хутар у Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 43 км на ПдУ ад г. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 90 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1897 г. засценак у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 2 двары, 22 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1938 г. Пасека Карпавіцкая, у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 6 двароў, 41 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР; з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у Хаценчыцкім с/с, 20 жыхароў.

**ПЕТРАШОВА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 32 км на ПнУ ад Вілейкі, 12 км ад чыг. ст. Маладзечна, 101 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1828 г. вёска ў маёнтку Асцюковічы ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Тукалы, 3 мужчыны, у 1843 г. засценак. У пач. 20 ст. вёска. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 7 двароў, 43 жыхары. У 1938 г. вёска, 11 двароў, 53 жыхары; пасёлак, 8 двароў, 46 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобласці, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 53 жыхары; у 1988 г. 7 двароў, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілія». У 2003 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў.

**ПЛІКАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 8 км на ПнУ ад г. Вілейка, 1,5 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 111 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1556 г. сяло ў складзе маёнтка Касута, у Ашмянскім павеце ВКЛ, 7 дымоў, 8 валок зямлі; у 1718 г. 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ромераў, 13 двароў, 59 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 23 двары, 167 жыхароў; побач былі 3 фальваркі (13 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяненцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 31 двор, 160 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У студз. 1949 г. створаны калгас імя Будзённага. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 145 жыхароў, з 1968 г. ў саўгасе «Вілейскі»; у 1988 г. было 25 двароў, 53 жыхары.

**ПЛЯБАНЦЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 46 км на ПнУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 141 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1704 г. вёска ў маёнтку Даўгінава, уласнасць Друцкага-Сакалінскага, бы-

ла падаравана Даўгінаўскаму касцёлу Святога Станіслава, 4 душы сялян. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уладанне К.Даўганоўскага, 8 двароў, 20 жыхароў. У 1897 г. вёска Плябанцы (Плябанічы) у Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 14 двароў, 28 жыхароў; сядзіба Плябанцы, 2 двары, 16 жыхароў. У 1908 г. 97 жыхароў, 91 дзес. зямлі. У лют.— снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Віленскага павета, 14 двароў, 69 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У жн. 1948 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 94 жыхары, у 1988 г. 14 двароў, 27 жыхароў, у складзе саўгаса «Даўгінава». У 2003 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў.

**ПЛЯШЧАНЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 56 км на ПдУ ад г. Вілейка, 27 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 66 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 6 двароў, 28 жыхароў. У 1873 г. ў складзе Рабцоўскай сельскай грамады Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 32 рэвізскія душы, уласнасць Багдановічаў. У 1897 г. 13 двароў, 81 жыхар; сядзіба, 4 жыхары. У 1908 г. вёска, 15 двароў, 95 жыхароў, 80 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 17 двароў, 124 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, у 1942 г. яны расстралялі тут 4 жыхароў (пахаваны на паўн. ускраіне вёскі; у 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск). У кастр. 1943 г. часткова спалены карнікамі, былі зні- шчаны 12 двароў, 20 жыхароў (напярэдадні вайны 30 двароў, 140 жыхароў). У жн. 1943 г. — ліп. 1944 г. ў вёсцы базіраваліся Маладзечанскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, у гонар якіх у вёсцы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 97 жыхароў.

**ПОНЯ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 65 км на ПнУ ад г. Вілейка, 21 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 154 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1690 г. вёска, уласнасць ксяндза



*Капліца ў в. Поня.*



Б.Шымкуна, доктара тэалогіі, у Вілейскім старостве Віленскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, шляхецкая ўласнасць, 13 двароў, 71 жыхар; капліца. У 1897 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 32 двары, 231 жыхар; часоўня. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска, 43 двары, 264 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Бубнаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 16 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У ліп. 1949 г. створаны калгас «Чырвоны кастрычнік». З 16.7.1954 г. ў Ваўкалацкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 4.4. 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1960 г. хутар (у Мільчанскім с/с), 222 жыхары; у 1988 г. 39 двароў, 79 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны кастрычнік», магазін. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 32 жыхары.

**ПОРСА** — вёска ў Любанскім с/с, сядзіба Вілейскай сортавыпрабавальнай станцыі. За 3 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Паставы. 137 гаспадарак, 322 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1567 г. маёнтак, шляхецкая ўласнасць у Ашмянскім павеце ВКЛ, у 1580 г. ўласнасць зямян В.І.Рашацілы і Г.Аляксандравіча, у 1615 г. — Я.В.Рашацілы і Л.Качаноўскага. У 1690 г. сумесная ўласнасць Я.Ф.Качаноўскага і К.Гарадзецкага, у 1755 г. — Юзафа Кашыца, які прадаў маёнтак Пацам за 24 тыс. злотых польскіх, у вёсцы 10 дымоў; у 1765 г. 13 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1836 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 191 селянін; у 1849 г. вёска і двор. У 1873 г. вёска і маёнтак, цэнтр Парсянскай грамады ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Суднікавай, 74 рэвізскія душы. У 1897 г. ў вёсцы 29 двароў, 236 жыхароў, у маёнтку 14 жыхароў. У 1908 г. 50 двароў, 301 жыхар, 254 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (59 двароў, 321 жыхар), калонія (5 двароў, 30 жыхароў), маёнтак (2 двары, 13 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 0,3 км на ПдУ ад вёскі пахаваны жыхары, якіх 13—14.1.1943 г. спалілі акупанты (у 1972 г. на магіле пастаўлена стэла). З фронту не вярнуліся 18 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1949 г. пач. школа. У 1960 г. ў Каловіцкім с/с, 279 жыхароў. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 128 двароў, 296 жыхароў, б-ка, магазін. Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза У.С.Лаўрыновіча (1913—31.1.1945), у 1972 г. на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.



*У.С.Лаўрыновіч.*

**ПРЫАЗЁРНЫ** — пасёлак у Асіпавіцкім с/с, у рыбгасе «Вілейка», за 8 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 109 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 34 жыхары (2008).

Засн. ў 1969 г. як пасёлак рыбгаса. У 1988 г. 14 двароў, 31 жыхар; у 1993 г. 16 двароў, у 2003 г. 14 гаспадарак, 34 жыхары.

**ПРЫНТА** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 18 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 121 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1789 г. засценак у Маркаўскім старостве Ашмянскага павета, 1 зямянскі дым. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г.





вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Берхмана, 11 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вол. і павеце Віленскай губ., 15 двароў, 97 жыхароў. У пач. 20 ст. 142 жыхары, 88 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 148 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны было 27 двароў, 91 жыхар. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. спалена, былі загублены 7 жыхароў. З фронта не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 18.9.1950 г. створаны калгас «Радзіма», які аб'яднаў 25 гаспадарак. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 113 жыхароў, з 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 20 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, магазін.

**ПУЙТАВА** — хутар у Хаценчыцкім с/с. За 62 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 83 км ад Мінска, 22 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. фальварак (9 жыхароў), сядзіба (2 жыхары) у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., фальварак, 3 двары, 15 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР; з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, хутар у Хаценчыцкім с/с, 13 двароў.

**ПУТРЫЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 25 км на ПнУ ад г. Вілейка, 10 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 128 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў; у 1770 г. вёска Пурычы, 3 двары, 12 жыхароў, уласнасць Л.Прысецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць І.Куранецкага, 7 двароў, 46 жыхароў. У 1897 г. ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 двароў, 103 жыхары. У пач. 20 ст. 127 жыхароў, 76 дзес. зямлі; школа граматы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 21 двор, 107 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 15.7.1949 г. створаны калгас імя Будзённага. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 169 жыхароў; у 1988 г. 21 гаспадарка, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол», ёсць магазін.

**ПЯТРЫЛАВА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 59 км на ПдУ ад г. Вілейка,24 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 86 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 6 рэвізскіх сялян; у 1897 г. вёска (5 двароў, 29 жыхароў) і засценак (1 двор, 3 жыхары); у 1908 г. вёска, 8 двароў, 40 жыхароў, 35 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 59 жыхароў. З ліст.



1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, 42 жыхары.

**РАБУНЬ** — вёска, цэнтр Рабунскага с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 12 км на У ад горада і 15 км ад чыг. ст. Вілейка, 119 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Плешчаніцы. 160 гаспадарак, 311 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1552 г. маёнтак Рабынскае, уласнасць князя С.Збаражскага. У 1579 г. маёнтак Рабыня, уласнасць Н.Збаражскай, князёўны мсціслаўскай; у 1616 г. маёнтак Рабунь, уладанне віленскага жаночага бернардзінскага кляштара святога Міхаіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. ў Сапегаў, у 1800 г. двор, сяло, 41 двор, 307 чалавек, 20 яўрэяў-мяшчан; царква, карчма. У 1845 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1863 г. пабудавана мураваная Успенская царква . У 1886 г. сяло, цэнтр воласці Вілейскага павета Віленскай губ., 51 двор, 542 жыхары, царква, капліца, нар. вучылішча, вадзяны млын, піцейны дом. У 1897 г. 108 двароў, 616 жыхароў. У 1908 г. 822 жыхары. У 1-ю сусв. вайну восенню 1915 г. на тэрыторыі вол. адбываліся ўпартыя баі рускай арміі з германскімі захопнікамі. У лют.—снеж. 1918 г. сяло акупіравана германскімі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Навагрудскім, з 1925 г. ў Віленскім ваяводствах. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне ў Вілейскім павеце, 143 двары, 759 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. цэнтр Рабунскага с/с, 143 двары, 759 жыхароў. У сельсавеце 4083 жыхары, 23 паселішчы. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук карнікаў загінулі 17 жыхароў. З фронту не вярнуліся 42 жыхары. На ўшанаванне землякоў, якія загінулі ў барацьбе з акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 4.11.1948 г. створаны калгас імя Жданава, у 1950 г. аб'яднаў 23 гаспадаркі, пра-



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Рабунь.*



*Успенская царква ў в. Рабунь.*

цавала няпоўная сярэдняя школа. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёскі Рабунь (399 жыхароў) і Новая Рабунь (241 жыхар). У складзе сельсавета было 26 вёсак, 3868 жыхароў. У 1973 г. Рабунь — цэнтр калгаса «Іскра», дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, ФАП, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, магазін, лесапільня. У 1988 г. 239 гаспадарак, 542 жыхары, у складзе калгаса «Бальшавік», сярэдняя школа (пры ёй працаваў гісторыка-краязнаўчы музей), комплексны прыёмны пункт, ФАП, клуб, б-ка, магазін. У складзе сельсавета 17 вёсак (у 1993 г. ўсяго 755 гаспадарак, 1618 жыхароў). У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, б-ка, ФАП, клуб, аддз. сувязі, магазін. У вёсцы помнік архітэктуры — Успенская царква (1862).

**РАБЦЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 54 км на ПдУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 69 км ад Мінска. 11 гаспадарак, 27 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Хаценчыцы, уласнасць А.Высоцкага, 8 двароў, 72 жыхары. З 1842 г. ў Віленскай губ. У 1873 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хаценчыцкай вол. таго ж павета, 33 рэвізскіх селяніна, уласнасць Свідзерскай. У сельскай грамадзе лічыліся 248 сялян-уласнікаў, 1 аднадворац. У 1897 г. вёска ў Хаценчыцкай вол., 22 двары, 140 жыхароў; у 1908 г. 30 двароў, 185 жыхароў, 103 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 145 жыхароў. Напярэдадні вайны ў вёсцы 28 двароў, 112 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. карнікі спалілі 20 двароў, загубілі 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, вёска ў Хаценчыцкім с/с, 110 жыхароў.

**РАЗДОРЫ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 110 км ад Мінска, на р. Вілія. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2008).

У 1789 г. засценак у Маркаўскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв., 1 дым. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Берхмана, 8 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. уласнасць казны, у 1852 г. засценак Любанскага. У 1897 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., 7 двароў, 48 жыхароў. У пач. 20 ст. 40 жыхароў, 39 дзесяцін зямлі. У 1908 г. ў Баранскай сельскай грамадзе, 2 двары, 40 жыхароў, 29 дзес. надзелаў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяв. ў Польшчы. У 1923 г. ў Вілейскай гміне, засценак, 7 двароў, 41 жыхар; у 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне, 7 двароў, 40 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 11 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. спалена карнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 47 жыхароў; у 1988 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары; у складзе калгаса імя Суворава.

**РАКШЫЦЫ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе філіяла «Юнік-агра» ААТ «Гарадскі малочны завод № 2». За 41 км на У ад горада і 40 км ад чыг. ст. Вілейка, 143 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў (2008).

У 1756 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета, 18 двароў, 50 сялян мужчынскага пола, млын, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы



Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., сумеснае ўладанне Р.Слізня і А.Гарайн. У 1897 г. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 28 двароў, 255 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 280 жыхароў, 276 дзес. зямлі, у 1908 г. ў складзе Старынкаўскай сельскай грамады, 17 двароў, 253 жыхары, 243 дзес. зямлі. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі, у жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 48 двароў, 279 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Ракшыцкага с/с, 61 двор, 300 жыхароў; у сельсавеце 2368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 2 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях; з 16.7.1954 г. ў Альковіцкім с/с. У 1960 г. 156 жыхароў; у 1988 г. 36 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе саўгаса «За Мір».

**РАМЭЙКІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 29 км на ПдУ ад г. Вілейка, 13 км ад чыг. ст. Маладзечна, 99 км ад Мінска. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2008).

У 1608 г. сяло ў маёнтку Ляўкова, уласнасць Крыштафа Дарагастайскага, у 1794 г. — Міхаіла Клеафаса Агінскага, пасля канфіскавана ў казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска (яна ж Сакалоўцы), 4 двары, 30 жыхароў, уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў фальварку Цырылянвіль, уласнасць Клімантовіча, рэгента межавога мінскага, затым дзярж. ўласнасць (4 двары). У 1897 г. вёска ў Вязынскай вобл. Віленскай губ., 9 двароў, 76 жыхароў. У 1898 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 76 жыхароў, 64 дзес. зямлі. У лют. — пачатку снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі, са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. ў Вілейскім павеце Віленскага ваяв. Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.01.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У 1960 г. 87 жыхароў, у 1988 г. 19 двароў, 45 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілія».

**РАСПОЛЛЕ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 12 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 99 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У пач. 20 ст. фальварак Ляспаль памешчыка Гячэвіча ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 49 жыхароў, 135 дзес. зямлі. У 1921—1939 гг. ў складзе Польшчы, у 1938 г. ў Вязынскай гміне Вілейскага павета, пасёлак (21 двор, 126 жыхароў), смалярня (2 двары, 8 жыхароў), леснічоўка (6 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с; смалакурня. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей; вёска (46 жыхароў) і хутар (26 жыхароў); у 1988 г. 13 двароў, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 12 гаспадарак, 14 жыхароў.





**РОГАВІЧЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 32 км на ПдУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Маладзечна, 98 км ад Мінска. 23 гаспадаркі, 35 жыхароў (2008).

У 1608 г. сяло ў маёнтку Ляўкова, уласнасць Крыштафа Дарагастайскага, у 1794 г. ў фальварку Ляўкова, уласнасць Міхаіла Ксеафаса Агінскага, пасля канфіскавана ў казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць М.Салтыкова, 8 двароў, 72 жыхары. У 1897 г. вёска ў Вызнянскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 двары, 175 жыхароў, сядзіба (2 жыхары). У 1898 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 188 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне, 53 двары, 317 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. 20.5.1950 г. створаны калгас «Новы шлях». У 1960 г. 225 жыхароў; у 1988 г. 36 двароў, 73 жыхары, у складзе саўгаса «Вілія», ёсць магазін.

**РОДЗЕВІЧЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 25 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У пач. 19 ст. вёска ў Завілейскім павеце, 29 двароў, 74 жыхары; у 1858 г. ваколіца; у 1897 г. ваколіца ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 20 двароў, 113 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ваколіца ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскага ваяв., 27 двароў, 108 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў вёсцы 84 жыхары; з 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1988 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**РОЛІЧЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны». За 32 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 135 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2008).

У 1893 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ.; у 1897 г. 38 двароў, 210 жыхароў, з 1893 г. дзейнічала школа граматы. У пач. 20 ст. ў вёсцы 282 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Вішнеўскай гміне Свянцянскага павета, у 1938 г. вёска Вілейскага павета Віленскага ваяв., 36 двароў, 191 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Чурлёнскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 14.2.1949 г. створаны калгас імя Кірава. З 18.5.1959 г. ў Іжскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 178 жыхароў; у 1988 г. 48 двароў, 121 жыхар, у складзе калгаса імя Кірава.

**РУСКАЕ СЯЛО** — вёска ў Нарачанскім с/с, у складзе СВК «Нарачанскія зоры». За 24 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 127 км ад Мінска, на аўтадарозе Рускае Сяло—Касічы. 54 гаспадаркі, 117 жыхароў (2008).



У пач. 17 ст. фальварак у Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1622 г. згадваецца як фальварак Роскасельскі ў складзе маёнтка Лоск Я.Кішкі, які перадаў яго ў заставу П.Асіноўскаму, зямяніну ашмянскаму на 3 гады за 10 тыс. польскіх злотых. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1858 г. вёска ў Свянцянскім павеце Віленскай губерні; у 1897 г. вёска ў Вайстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 37 двароў, 284 жыхары; побач быў маёнтак, 20 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1938 г. ў Войстамскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв., 52 двары, 267 жыхароў; маёнтак, 2 двары, 38 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Рускасельскага с/с. У 1940 г. створаны калгас «Чырвоная зорка», у якім аб'ядналіся 58 гаспадарак, у вёсцы 49 двароў, 275 жыхароў, у сельсавеце 3575 жыхароў, 38 населеных пунктаў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1941 г. дзейнічала падп. камсам.-маладзёжная група. У барацьбе з акупантамі загінулі 54 землякі, 21 жыхар не вярнуўся з фронту. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1968 г. ў вёсцы пастаўлена стэла. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У ліст. 1948 г. створаны калгас «Чырвоная зорка». З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл., з 16.12. 1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1960 г. 225 жыхароў, у складзе сельсавета 31 населены пункт, 3154 жыхары. У 1988 г. ў вёсцы 93 гаспадаркі, 179 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, ФАП, ветучастак, магазін, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі бібліятэка-клуб, ФАП, магазін. За 2 км на ПнЗ ад вёскі ў 2002 г. ўстаноўлены помнік на брацкай магіле салдат рас. арміі, якія загінулі ў 1-ю сусв. вайну.

**РУЧАВЫЯ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 102 км ад Мінска, на р. Вілія. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак у Вілейскай вол. таго ж павета Віленскай губ., 3 двары, 16 жыхароў. У 1908 г. 42 жыхары, 2 двары, 19 дзес. угоддзяў, у складзе Вілейскай сельскай грамады. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў. У 1923 г. вёска ў Вілейскай гміне, 7 двароў, 46 жыхароў, у 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне, 7 двароў, 40 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с Куранецкага раёна. У чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 42 жыхары; у 1988 г. 9 двароў, 15 жыхароў.

**РУЧЧО** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барацьбіт». За 50 км на

*Помнік каля в. Рускае Сяло на брацкай магіле салдат расійскай арміі, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну.*







ПнУ ад г. Вілейка, 24 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 153 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў складзе маёнтка Мільча М.Тышкевіча, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 12 двароў, 56 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 22 двары, 145 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 31 двор, 217 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 у Мільчанскім с/с. У чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На паўд. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 6 партызан, якіх закатавалі акупанты 27.5.1944 г. (у 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск). З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У снеж. 1948 г. створаны калгас імя Молатава. У 1960 г. хутар, 210 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 26 двароў, 50 жыхароў; у складзе саўгаса «Даўгінава». У 2003 г. 19 гаспадарак, 29 жыхароў.

**РУЧЫЦА** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 13 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска, на р. Нарач. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска Ручыца (Гануты) у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць князя К.Агінскага, 20 двароў, 184 жыхары; пазней уласнасць Лапацінскай, Равуцкага. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вобл. і павеце Віленскага ваяв., 46 двароў, 299 жыхароў; хлебазапасны магазін, піцейны дом, 2 лаўкі. У пач. 20 ст. 311 жыхароў, 224 дзес. зямлі; побач была сядзіба Ржэвуса (10 жыхароў, 20 дзес. зямлі). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 69 двароў, 308 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Перад Вял. Айч. вайной 78 двароў, 230 жыхароў. У Вял.

*Успенская царква ў в. Ручыца: 1 — знешні выгляд; 2 — інтэр'ер.*



1



2



Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. спалена, загублены 4 жыхары. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.5.1949 г. створаны калгас «17 Верасня». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 254 жыхары. З 16.12. 1982 г. ў Нарачанскім с/с, у 1988 г. 58 гаспадарак, 121 жыхар, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, магазін. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі археал. помнік — каменныя магілы. У вёсцы помнікі архітэктуры — 2 капліцы (1765, у цэнтры і на паўн. ускраіне), Успенская царква (1868).

**РУШЧЫЦЫ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе рэсп. УП «Стайкі». За 45 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 148 км ад Мінска, каля аўтадарогі Вілейка—Плешчаніцы. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў маёнтку Старынкі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Багдановіч, 10 двароў, 68 жыхароў. У 1829 г. належала В.Багдановічу. У 1897 г. пасёлак у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 15 двароў, 90 жыхароў. У пач. 20 ст. ў пасёлку 85 жыхароў, 60 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Віленскім павеце Навагрудскага, потым Віленскага ваяв. У 1938 г. ў Ільянскай гміне, фальварак Вялікія Рушчыцы, 5 двароў, 41 жыхар; засценак Малыя Рушчыцы, 13 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с Ільянскага р-на Вілейскай вобл. З чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуўся 1 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска Рушчыцы Вялікія (47 жыхароў) і хутар Рушчыцы Малыя, 20 жыхароў; у 1988 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Стайкі».

**РЫБЧАНКА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 32 км на ПдУ ад г. Вілейка, 22 км ад чыг. ст. Ма-





*Капліцы ў в. Ручыца.*





ладзечна, 101 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1699 г. згадваецца царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска Рыбчын, у складзе фальварка Ляўкова ў Ашмянскім павеце, уласнасць Міхаіла Ксеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну. У 1800 г. належала М.Салтыкову, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 2 двары, 19 жыхароў. У 1908 г. вёска ў Ялоўскай сельскай грамадзе Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 29 двароў, 544 жыхары, 207 дзес. надзелаў. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Вязынскай гміне Вілейскага павета, 10 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей., з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У 1960 г. 41 жыхар; у 1988 г. 5 двароў, 8 жыхароў; у складзе саўгаса «Вілія». У 2003 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары.

**РЭДЗЬКАВІЧЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 15 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 109 км ад Мінска. 47 гаспадарак, 87 жыхароў (2008).

У 1473 г. сяло ў маёнтку Вязынь, уласнасць Юрыя Саковіча. У 1625 г. сяло, уласнасць Яна Вітуньскага, затым Валовічаў, віленскага бенедыкцінскага манастыра. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. канфіскавана ў казну. У 1800 г. вёска Рэцкавічы, уласнасць казны, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 122 жыхары, 13 двароў. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 46 двароў, 308 жыхароў. У пач. 20 ст. 308 жыхароў, 328 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 53 двары, 317 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Рэдзькаўскага с/с Ільянскага раёна Вілейскай вобл., 60 двароў, 329 жыхароў; у сельсавеце 20 населеных пунктаў, 1894 жыхары. У чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У лют. 1950 г. створаны калгас «Чырвоны Азярэц». У 1988 г. 98 двароў, 178 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынскі», 8-гадовая школа, клуб, б-ка, магазін. У 2003 г. 65 гаспадарак, 117 жыхароў, ФАП.

**РЭЧКІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барацьбіт». За 53 км на ПнУ ад г. Вілейка, 26 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 150 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У канцы 18 ст. вёска ў Ашмянскім павеце, уласнасць графа Л.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў складзе



*Пячора з «калонамі» ў гары Замчыстая побач з в. Рэчкі.*



маёнтка Мільча М.Тышкевіча, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 45 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 22 двары, 130 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 двароў, 145 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Мільчанскім с/с, створаны калгас імя Леніна. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У ліст. 1949 г. новаўтвораны калгас імя Леніна. У 1960 г. хутар, 130 жыхароў, З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 21 двор, 40 жыхароў, у складзе калгаса «Барацьбіт». У 2003 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў.

**РЭЧКІ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 16 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 119 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Докшыцы. 50 гаспадарак, 118 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1520 г. ў Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць Нарушэвіча, які даў зямельны фундуш у Рэчках Кавалеўскай царкве. У 1664 г. мястэчка, уладанне У.Шмелінга, старосты вількамірскага. У 1765 г. мястэчка ў Губскім старостве, 5 двароў, 34 жыхары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. мястэчка ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 12 двароў, 96 жыхароў; засценак (1 двор, 4 жыхары), уласнасць казны; яўрэйская школа, царква. У 1857 г. мястэчка, 21 двор, 206 жыхароў. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. мястэчка ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 26 двароў, 234 жыхары; праваслаўная царква, сінагога, школа, ветраны млын, 2 піцейныя дамы. У 1897 г. 39 двароў, 266 жыхароў, царква, нар. вучылішча, сінагога, 2 лаўкі, 3 піцейныя дамы. У пач. 20 ст. сяло, 253 жыхары, 322 дзес. зямлі; сядзіба — 13 жыхароў, 33 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. мястэчка, цэнтр Рэчкаўскай гміны ў Вілейскім павеце Ві- ленскага ваяв., 50 двароў, 269 жыхароў. У 1938 г. ў Куранецкай гміне, 60 двароў, 295 жыхароў, працавала польска-бел. пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. цэнтр Рэчкаўскага с/с (з 20.9. 1944 г. ў Куранецкім с/с, 60 двароў, 300 жыхароў; працавалі млын, вапнавы і цагельны з-ды, ганчарны і рыбны промыслы. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. фашысты загубілі 71 жыхара. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 43 землякі. На ўшанаванне іх памяці, а таксама 79 воінаў Чырв. Арміі і партызан, што загінулі ў барацьбе супраць акупантаў у 1941—44 гг., у 1957 г. пастаўлены помнік на ўсх. ускраіне вёскі, каля шашы Вілейка—Даўгінава. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас імя М.І.Калініна, які ў 1950 г. аб'яднаў 20 гаспадарак, працавала сярэдняя школа. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 270 жыхароў, у складзе сельсавета 17 вёсак, 2619 жыхароў. У 1988 г. 82 гаспадаркі, 193 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол», 8-гадовая школа, ФАП, цэх кафлі, комплексны прыёмны пункт, Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі клуб, магазін. Каля ўсх. ускраіны вёскі помнік прыроды — Рэчкаўскія пагоркі, на ПдУ ад вёскі яго самая высокая града-ўвал — гара Замчыстая.





**САВІНА** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 7 км на Пн ад г. Вілейка, 2,5 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 110 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 3 двары, 29 жыхароў; у 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. вёска (7 двароў, 38 жыхароў), фальварак, 15 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (8 двароў, 43 жыхары) і фальварак (4 двары, 32 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У вер 1948 г. створаны калгас «17 Верасня». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 81 жыхар; у 1988 г. 9 двароў, 15 жыхароў. З 1968 г. ў саўгасе «Вілейскі».



*Помнік прыроды — елка ніцая ў в. Сакавічы.*

**САКАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 10 км на Пн ад г. Вілейка, 3 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 113 км ад Мінска, каля аўтадарогі Маладзечна—Докшыцы. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 16 ст. У 1555 г. сяло, шляхецкая ўласнасць, у Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1576 г. ў складзе маёнтка Куранец, уласнасць Г. Война. У 1765 г. 11 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 21 жыхар. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. вёска (15 двароў, 79 жыхароў), фальварак (7 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (19 двароў, 96 жыхароў); фальварак (2 двары, 12 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У 1950 г. створаны калгас «Перамога». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 109 жыхароў; у 1988 г. 23 двары, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Вілейскі» (з 1968 г.).

**САКАЛОЎКА** (да 1969 г. Чарвякі) — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 50 км на ПдУ ад г. Вілейка, 32 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 91 км ад Мінска. 57 гаспадарак, 76 жыхароў (2008).

У 1738 г. сяло ў Калачыцкім старостве Ашмянскага павета, 6 двароў; у 1765 г. 8 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мін-



скай губ., сумесная ўласнасць Б.Шумскай (11 двароў, 59 жыхароў) і С.Клацоцкага, старасты Калачоўскага (7 двароў, 45 жыхароў), 7 двароў чыншавай шляхты; млын. У 1865 г. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1873 г. вёска ў Крамянецкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., казённая (20 рэвізскіх сялян) і ўласніцкая (32 рэвізскіх душы). У 1908 г. ў дзярж. вёсцы 17 двароў, 105 жыхароў, 120 дзес. надзелаў; у прыватнай — 22 двары, 152 жыхары, 117 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (52 двары, 328 жыхароў), маёнтак (8 двароў, 68 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., вадзяны млын, рыбная гаспадарка. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с вёскі Чарвякі 1 (311 жыхароў) і Чарвякі 2 (50 жыхароў). У 2003 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2009 г. дзейнічалі магазін, Дом сац. паслуг.

**САКАЛЫ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 45 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 81 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1800 г. вёска Сакалова ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць К.Агінскага, 3 двары, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета, 4 двары, 24 жыхары, у 1938 г. 29 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 у Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ільянскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 5.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 21 жыхар; у 1988 г. 3 двары, 7 жыхароў; у складзе саўгаса-тэхнікума Ільянскага.

**САКОЛЛЕ-ВУГАЛ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 40 км на ПдУ ад г. Вілейка, 30 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 92 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2008).

У 1851 г. засценак у складзе маёнтка Баброўка, у Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць Я.Халецкага. У 1873 г. вёска ў складзе Залескай сельскай грамады Хаценчыцкай вол., 14 рэвізскіх сялян. У 1897 г. вёска (7 двароў, 37 жыхароў), 2 фальваркі (3 двары, 27 жыхароў); у 1908 г. вёска, 10 двароў, 75 жыхароў, 50 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска, 14 двароў, 114 жыхароў; засценак, 14 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 134 жыхары.

**САЛАНОЕ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барацьбіт». За 55 км на ПнУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 163 км ад Мінска, на аўтадарозе Вардамічы—Мільча, каля р. Вілія. 50 гаспадарак, 82 жыхары (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1643 г. сяло ў складзе маёнтка Мільча, уласнасць Яна Рудаміна-Дусяцкага, 22 валокі, 46 двароў. У 1765 г. вёска, уладанне Агінскіх, 21 двор. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у





Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Салані, М.Тышкевіча; 27 двароў, 124 жыхары, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 67 двароў, 385 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскай губ., 82 двары, 466 жыхароў; у 1938 г. 94 двары, 536 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с. У 1941 г. створаны калгас імя Молатава. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 46 землякоў (9 з іх не вярнуліся з фронту), на ўшанаванне якіх на зах. ускраіне вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У студз. 1950 г. створаны калгас «Парыжская камуна» (да 1977 г. цэнтр калгаса). З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 74 двары, 176 жыхароў, у складзе калгаса «Барацьбіт», працавалі пач. школа, б-ка, магазін, лесапільня. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**САСНОЎШЧЫНА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 48 км на ПнУ ад г. Вілейка, 29 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 135 км ад Мінска, каля аўтамабільнай дарогі Вілейка—Докшыцы (1,5 км). 60 гаспадарак, 124 жыхары (2008).

У 1800 г. фальварак у маёнтку Даўгінава, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Каменскага, 1 двор, 1 жыхар. У 1860 г. маёнтак у Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць Казлоўскага. У 1897 г. сядзіба ў Вілейскім павеце Віленскай губ., у Даўгінаўскай вол., 4 двары, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. 29 жыхароў, 830 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак (14 двароў), засценак (8 жыхароў), у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Даўгінаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 283 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 89 двароў, 241 жыхар, у складзе саўгаса «Даўгінава», магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**САЧЫЎКІ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод» № 2 філіяла «Юнік-агра». За 42 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 145 км ад Мінска, на р. Вілія. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць А.Агінскай, 7 двароў, 47 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 16 двароў, 195 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска, 190 жыхароў. У 1908 г. ў складзе Рагозінскай сельскай грамады той жа воласці, 10 двароў, 202 жыхары, 150 дзес. надзелаў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. ў Даўгінаўскай гміне, 41 двор, 254 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Ракшыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 1.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Альковіцкім с/с. У студз. 1950 г. створаны калгас імя Матросава, які аб'яднаў 20 гаспадарак, меў 2010 га ворыва. У 1960 г. хутар, 122 жыхары; у 1988 г. вёс-



ка, 31 гаспадарка, 59 жыхароў, у складзе саўгаса «За Мір», магазін.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Вязынскім с/с, цэнтр. сядзіба Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 32 км на ПдУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Маладзечна, 93 км ад Мінска, на аўтадарозе Маладзечна—Ілья. 86 гаспадарак, 250 жыхароў (2008).

У гістарычных крыніцах вядома з 15 ст. У 1473 г. маёнтак Багдана Саковіча, у 1546 г. — Ф.Сапегі, у 1567 г. — С.Збаражскага, ваяводы трокскага. У 17—18 ст. маёнткам валодалі Дарагастайскія, Сямашкі, Шэметы, Валканоўскія, Салагубы і інш. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У канцы 18 ст. уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, падскарбія ВКЛ; канфіскавана ў казну, пазней падаравана графу ген.-аншэфу М.І.Салтыкову. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 19 жыхароў, млын. У 1843 г. маёнтак, уласнасць памешчыкаў Козелаў. У 1897 г. вёска (8 двароў, 75 жыхароў); засценак (2 двары, 10 жыхароў) у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1905 г. вёска, 75 жыхароў, 77 дзес. зямлі, побач засценак, 9 жыхароў, 24 дзес. зямлі. У лют.—снеж. 1918 г. вёска акупіравана германскімі, з жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы ў Вілейскім павеце Вілейскага ваяв. У 1938 г. ў Вязынскай гміне, хутары — 18 двароў, 108 жыхароў; лесьнічоўка (9 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у 1941—1943 гг. ў прадмесці вёскі былі расстраляны 48 жыхароў з вёсак сельсавета. З фронту не вярнуліся 4 жыхары. На ўшанаванне памяці загінуўшых у барацьбе супраць акупантаў пастаўлены абеліск у 1973 г. за 0,3 км на У ад вёскі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У студз. 1964 г. створаны саўгас «Вілія» (цэнтр в. Селішча). У 1960 г. 103 жыхары; у 1971 г. працавалі 8-гадовая школа, б-ка, ФАП, ветучастак, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, сталовая, магазін. У 1988 г. 65 двароў, 166 жыхароў, гаспадарка саўгаса аб'яднала 15 вёсак, мела 5028 га ўгоддзяў; працавалі КПП, швейная і шавецкая майстэрні, вячэрняя і 8-гадовая школы, дзіцячы сад, ветучастак, клуб, пошта, магазін, сталовая. У 2003 г. 83 гаспадаркі, 249 жыхароў, базавая школа, б-ка, ФАП. У 2009 г. дзейнічалі пач. школа, б-ка, ФАП, клуб, аддз. сувязі, 2 магазіны. Каля вёскі ў 2007 г. пастаўлены помнік воінам напалеонаўскай арміі, якія загінулі ў час адступлення ў 1812 г.



*Помнік воінам напалеонаўскай арміі ў в. Селішча.*

**СІЎЦЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе філіяла «Бубны» УП «Мінгаз». За 62 км на Пн ад г. Вілейка, 19 км





ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 152 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Мільча, уласнасць М.Тышкевіча, 10 двароў, 62 жыхары (9 двароў займала чыншавая шляхта). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 300 жыхароў, карчма. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. 18 двароў, 109 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Крывіцкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Сіўцоўскага с/с, у якім было 2376 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У лют. 1950 г. створаны калгас «Герой працы». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 232 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 8 двароў, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік».

**СІЎЦЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 25 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 28 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета Вілейскага ваяв., 7 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Берхмана, 10 двароў, 88 жыхароў; у 1841 г. ўласнасць І.Любанскага, 17 двароў, 138 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Талуцкай сельскай грамадзе Куранецкай вол., у складзе маёнтка Любань, уласнасць І.Любанскага, 78 рэвізскіх сялян. У 1908 г. вёска ў Іжскай вол. Віленскай губ., 39 двароў, 261 жыхар, 2606 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 49 двароў, 245 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., быў створаны калгас «Чырвоны Сцяг» (50 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жн.—вер. 1943 г. спалены карнікамі (перад вайной было 52 двары, 209 жыхароў), з фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Кузьміцкім с/с, 176 жыхароў. З 16.8. 1973 г. ў Журыхаўскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 29 гаспадарак, 43 жыхары.

**СКАБЕРАЦ** (С к а б я р э ц) — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 47 км на ПдУ ад г. Вілейка, 24 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 85 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1814 г. фальварак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Караліны Валадковіч, потым П.А.Сутовіча; у 1836 г. 147 сялян. У 1856 г. фальварак у Віленскай губ., уласнасць Ліпскіх; у 1897 г. маёнтак Скабержац у Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 36 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 2 двары, 35 жыхароў; засценак, 6 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, вёска (61 жыхар) і хутар (12 жыхароў).



**СКАЛБІШЧА** – вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 50 км на ПдУ ад г. Вілейка, 25 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 72 км ад Мінска. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска Скалубішча ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., у складзе маёнтка Забор'е, уласнасць Людвікі Багдановіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 35 жыхароў; у 1829 г. засценак, у 1850 г. ўласнасць Грэгаровіча, у Вілейскім павеце Віленскай губ.; у 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол., 36 рэвізскіх душ; у 1897 г. 14 двароў, 119 жыхароў. У 1908 г. 21 двор, 158 жыхароў, 136 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Скалбішча ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 31 двор, 163 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, 196 жыхароў.

**СКАРАДА** – вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод № 2» філіяла «Юнік-агра». За 43 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 146 км ад Мінска. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2008).

У 1867 г. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., пражывала 1 сям'я чыншавага шляхціца Яна Шумеля. У 1897 г. ў вёсцы 21 двор, 169 жыхароў. У пач. 20 ст. 186 жыхароў, 130 дзес. зямлі. У 1908 г. 179 жыхароў, 126 дзес. надзелаў, у Рагозінскай сельскай грамадзе. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. Даўгінаўскай гміне, 36 двароў, 203 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ракшыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім р-не, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У ліп. 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё». З 16.7.1954 г. ў Альковіцкім с/с. У 1960 г. 131 жыхар; у 1988 г. 38 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе саўгаса «За Мір».

**СЛАБАДА** – вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Барацьбіт». За 55 км на ПнУ ад г. Вілейка, 26 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 155 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1651 г. сяло ў складзе маёнтка Крывічы Я.Кішкі, 18 дымоў. У 1765 г. вёска ў маёнтку Мільча Агінскіх, 7 двароў. У 1794 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць графа А.Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. належала М.Тышкевічу. 14 двароў, 75 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Мільчанскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 118 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 145 жыхароў; у 1938 г. 25 двароў, 150 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Мільчанскім с/с. У 1941 г. створаны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.1.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. хутар, 142 жыхары. З 25.12.1960 г. ў Вілейскім р-не, з 17.3.1977 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 12 двароў, 17 жыхароў, у складзе калгаса «Барацьбіт».

**СЛАБАДА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 28 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 131 км ад Мінска. 53 гаспадаркі, 86 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Лоск, уласнасць Я.Лапацінскага, біскупа жмудскага, 25 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Слабада Закушанская ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Слізава, 32 двары, 294 жыхары. У 1894 г. вёска ў Іжскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 81 двор, 632 жыхары; капліца, хлебазапасны магазін, 2 кузні, школа граматы. У пач. 20 ст. 589 жыхароў, 585 дзес. зямлі, нар. вучылішча. Побач была сядзіба Алешы (яго уласнасць). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Вішнеўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 100 двароў, 546 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. фашысты расстралялі 5 жыхароў — сям'ю партызана Я.С.Трубача (у 1974 г. на магіле загінуўшых пастаўлена стэла). З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.8.1949 г. створаны калгас «Перамога». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 451 жыхар; у 1988 г. 101 двор, 178 жыхароў; у складзе калгаса «Світанне», клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічалі магазін, Дом сац. паслуг. Каля вёскі археал. помнікі: за 3 км на ПдУ, на паўд.-зах. беразе воз. Слабадское неалітычная стаянка, на паўн. беразе — 2 стаянкі каменнага веку; за 0,4 км на ПдУ, на левым беразе р. Нарачанка, пры ўтоку Старой Рэчкі — паселішча бронзавага часу; за 1 км на У, на зах. беразе воз. Слабадское — селішча раннефеадальнага часу.

**СЛІПКІ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 19 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 121 км ад Мінска, на аўтадарозе Міхнічы—Рабунь. 23 гаспадаркі, 32 жыхары (2008).

У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Куранец у Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць С.Саванеўскай, 27 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўласнасць Ю.Ромера, 28 двароў, у Вілейскім павеце Мінскай губ., у 1897 г. ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 40 двароў, 268 жыхароў; 2 хлебазапасныя магазіны, царква; у 1908 г. вёскі Сліпкі 1 (176 жыхароў) і Сліпкі 2 (120 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 58 двароў, 271 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 248 жыхароў; у 1988 г. 43 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе калгаса «Бальшавік», магазін. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг.

**СНЕЖКАВА** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 4 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 107 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Докшыцы. 63 гаспадаркі, 170 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска Снешкі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Н.Салтыкова, 2 двары, 18 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вілейскай гміне, 11 двароў, 69 жыхароў; у 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 76 жыхароў. З ліст.



1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. вёска ў Каловіцкім с/с, 99 жыхароў. У 1993 г. вёска ў Любанскім с/с, 52 двары, 153 жыхары; у 2003 г. 58 гаспадарак, 164 жыхары; магазін. У 2009 г. ў Снежкаве ўстаноўлены мемарыял зніклым вёскам Вілейшчыны.

**СОСЕНКА** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе СВК «Пунцовая Зара». За 20 км на ПнУ ад г. Вілейка, 123 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Плешчаніцы. 44 гаспадаркі, 83 жыхары (2008).

У канцы 18 ст. сяло ў складзе фальварка Абадоўцы ў Ашмянскім павеце, уласнасць Людвігі Багдановіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска і прыстань у Вілейскім павеце Мінскай губ., 26 двароў, 90 жыхароў, капліца. У пач. 20 ст. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскай губ., 266 жыхароў, 251 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 75 двароў, 414 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 31.1.1949 г. створаны калгас «XIX з'езд КП(б)Б». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 241 жыхар; у 1988 г. 69 двароў, 156 жыхароў. З 1979 г. ў Касцяневіцкім с/с, у калгасе «Зара»; магазін. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Вілія (зараз востраў Вілейскага вадасховішча) археал. помнікі — селішча банцараўскай культуры (6—7 ст.) і курганны могільнік (8—9 ст.).

**СПЯГЛА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Іжа». За 39 км на ПнЗ ад горада і 38 км ад чыг. ст. Вілейка, 142 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1503 г. воласць Спягла (Спяглянцы) у Крэўскім павеце, якую вял. кн. літоўскі Аляксандр падарыў кн. М.І. Мсціслаўскаму. У 1542 г. сяло Спяглянцы ў Ашмянскім павеце Навагрудскага ваяв., уласнасць Р.Осціка, ваяводы навагрудскага. У 1758 г. пабудавана драўляная царква, была карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета, 22 двары, 93 жыхары, царква, капліца, нар. вучылішча, 2 піцейныя дамы. У 1897 г. 4 лаўкі, піцейны дом, 2 штогадовыя кірмашы. У ліст. 1915 г. ў ваколіцах вёскі адбываліся крывапралітныя баі 2-й рускай арміі з германскімі войскамі, у якіх рускія войскі панеслі вялікія страты. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Вішнеўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., мястэчка, 24 двары, 43 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з

*Мемарыял вёскам Вілейшчыны, якія зніклі, у в. Снежкава.*





*Успенская царква ў в. Спягла.*

12.10.1940 г. ў Чурлёнскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З восені 1942 г. ў вёсцы базіраваўся партыз. атрад «Знішчальнік» брыгады імя Варашылава. 23.3.1943 партызаны разграмілі карны атрад паліцыі, які налічваў каля 40 чалавек. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Кураненцкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 22.6.1949 г. створаны калгас «Ударнік». З 18.5.1950 г. ў Іжскім с/с. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 125 жыхароў; у 1988 г. было 27 двароў, 47 жыхароў; у складзе калгаса імя С.М.Кірава, магазін. У вёсцы помнік архітэктуры — Успенская царква (1923).



*Былая сядзіба Багдановічаў у в. Стайкі.*

**СТАЙКІ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе рэсп. УП «Стайкі». За 43 км на У ад горада і 42 км ад чыг. ст. Вілейка, 146 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Плешчаніцы. 88 гаспадарак, 162 жыхары (2008).

У 1-й пал. 18 ст. двор Стайкі, уласнасць Багдановічаў герба «Багорыя», першы з якіх быў Севярын Багдановіч Дварэцкі; у 2-й пал. 18 ст. яго нашчадкам. У 1794 г. вёска і фальварак у Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць Людавікі Багдановіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Старынкі, у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Багдановічаў, 14 двароў, 94 жыхары; у 1836 г. вотчынны маёнтак В.Багдановіча, 411 сялян; у 1865 г. ў Крайскай вол., 288 сялян, 31 аднадворац; фальварак, 26 жыхароў. З 1886 г. працавала школа граматы. У 1897 г. вёска, 46 двароў, 437 жыхароў; хлебазапасны магазін; маёнтак (4 двары), пасёлак (4 двары, 13 жыхароў). У 1902 г. засн. вінакурны з-д. У 1908 г. цэнтр сельскай грамады ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 27 двароў, 343 жыхары, 354 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце; у 1938 г. вёска, 91 двор, 483 жыхары, маёнтак Міхаіла Багдановіча, 4 двары, 43 жыхары, у Ільянскай гміне Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с, створаны калгас імя Чырвонай Арміі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 15 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У ліст. 1945 г. створаны калгас імя К.Варашылава, які ў 1947 г. аб'яднаў 22 гаспадаркі, 2010 га ворыва. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 506 жыхароў; у



1988 г. 139 гаспадарак, 296 жыхароў, у складзе саўгаса «Стайкі», пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**СТАНЬКІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 61 км на ПнУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 153 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Будслаў М.Аскеркі, 6 двароў, 27 жыхароў. У 1897 г. ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 18 двароў, 114 жыхароў. У пач. 20 ст. 114 жыхароў, 186 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска, 23 двары, 112 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сіўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1962 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. 95 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не, з 8.6.1963 г. ў складзе Крывіцкага пасялковага савета, з 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 16 двароў, 29 жыхароў, у складзе калагаса імя У.І.Леніна.

**СТАРАДУБАВА** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СПК «Чурлёны». За 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 133 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1789 г. засценак Дубава ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета, уласнасць зямян, 3 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 113 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Дубава Старое ў Вішнеўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 8 двароў, 54 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Іжскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 14.11.1949 г. створаны калгас імя Суворава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска Стара-Дубава, 58 жыхароў; у 1988 г. 9 двароў, 20 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М. Кірава.

**СТАРЫНКА** — хутар у Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 48 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 18 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 79 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Лукавец, уласнасць Б.Шумскай, 2 двары, 21 жыхар. У 1873 г. ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Грыгаровіча, 28 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Хаценчыцкай вол. У 1908 г. 15 двароў, 102 жыхары, 207 рэвізскіх сялян. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Старынкі Лядзвенскія ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 26 двароў, 130 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Віленскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Жарскім с/с, 94 жыхары.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе рэсп. УП «Стайкі». За 36 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, на аўтадарозе Вілейка—Плешчаніцы, 139 км ад Мінска. 88 гаспадарак, 162 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц упамінаецца ў 16 ст. У 1582 г. мястэчка і маёнтак




Памятны знак у в. Старынкі з датай першага яе ўпамінання.

у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць князя Стафана Збаражскага, ваяводы трокскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. сяло і маёнтак Л.Багдановіч, 26 двароў, 121 жыхар. Знаходзіліся ў Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1812 г. была царква (спалена французамі). У 1890 г. фальварак і вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Тукалаў, 23 двары, 286 жыхароў, капліца. У 1897 г. 36 двароў, 367 жыхароў; хлебазапасны магазін, капліца. Побач аднайменны маёнтак, 51 жыхар. У пач. 20 ст. Старынкі (вёска) у Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 324 жыхары, 319 дзес. зямлі; у 1908 г. цэнтр сельскай грамады, 18 двароў, 315 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны германскімі войскамі. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў. У 1938 г. ў Ільянскай гміне: 62 двары, 377 жыхароў; маёнтак — 4 двары, 66 жыхароў, капліца. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ракшыцкім с/с Ільянскага р-на. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У крас. 1948 г. створаны калгас «8 Сакавіка», які аб'яднаў 23 гаспадаркі. З 16.7.1954 г. ў Альковіцкім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. в. Старынкі 1 (310 жыхароў) і в. Старынкі 2 (70 жыхароў). У 1988 г. 122 гаспадаркі, 272 жыхары, у складзе саўгаса «Стайкі», пач. школа, Дом культуры, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічалі клуб, магазін.



Сядзіба 19 ст. ў в. Старынкі.

**СТАРЫНКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 50 км на ПдУ ад г. Вілейка, 35 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 96 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., шляхецкая ўласнасць, 4 двары, 55 жыхароў. У 1873 г. ў Крамянецкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. таго ж павета Віленскай губ., 20 рэвізскіх сялян. У 1894 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёскі Старынкі 1 (17 двароў, 118 жыхароў), Старынкі 2 (8 двароў, 89 жыхароў). У 1908 г. вёска, 17 двароў, 150 жыхароў, 96 дзес. надзелаў.



У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Старынкі Брыгідаўскія, у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 20 двароў, 116 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У 1941 г. 26 двароў, 112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. За 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе, брацкая магіла партызан (4 чалавекі), якія загінулі ў 1943 г. ў баі супраць акупантаў (у 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск). 5.5.1943 г. спалена карнікамі, загінуў 101 жыхар (у 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск, на паўн. ускраіне вёскі). З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, вёска (111 жыхароў) і хутар (35 жыхароў).

**СТАХІ** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Даўгінаўскім), у складзе філіяла «Вілія» ЗАТ «Мінскі завод безалкагольных напіткаў». За 52 км на ПнУ ад г. Вілейка, 33 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 150 км ад Мінска. 29 гаспадарак, 44 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 18 ст. У 1765 г. вёска ў складзе маёнтка Даўгінава, уласнасць Б.Каменскага, 3 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Людвіга Каменскага, 12 двароў, 95 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Віленскай губ., 28 двароў, 219 жыхароў, у Даўгінаўскай вол. У пач. 20 ст. 239 жыхароў, 187 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., у 1938 г. 45 двароў, 253 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагосцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У 1949 г. створаны калгас «Барацьбіт», з 16.7.1954 г. ў Даўгінаўскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 203 жыхары. З 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1988 г. 49 двароў, 103 жыхары; у складзе калгаса «Праўда»; магазін.

**СТРАЖЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Балашы». За 33 км на ПнУ ад г. Вілейка, 16 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 136 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2008).

У 1765 г. вёска ў Губскім старостве Ашмянскага павета, 7 двароў і аднайменная вёска ў Вілейскім старостве, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., вёска ў Губскім старостве (9 двароў, 58 жыхароў) і ў Вілейскім старостве (3 двары, 34 жыхары); у 1833 г. вёска ў Губскім старостве, дзярж. ўласнасць, 6 дымоў. У 1897 г. вёска Стрэжы ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 11 двароў, 92 жыхары. У 1908 г. 108 жыхароў. У пач. 20 ст. 88 жыхароў, 157 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскай губ., у 1938 г. 21 двор, 135 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 18.9.1950 г. створаны калгас «Перамога». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. вёска ў Рэчкаўскім с/с, 131 жыхар, хутар, 20 жыхароў; у 1988 г. 27 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**СТУДЗЁНКІ** (Сцюдзёнкі) — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 12 км на Пн ад





Вілейкі, 115 км ад Мінска, 7 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1690 г. вёска ў Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць С.Слізня, 5 дымоў. У 1766 г. аднайменныя вёскі ў Маркаўскім старостве (3 дымы) і ў маёнтку Дзядзілавічы. У 1789 г. ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета, вёска і засценак, уласнасць Слізня, 4 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., вёскі Студзёнкі 1, уласнасць генерал-маёра Берхмана (2 двары, 6 жыхароў), Студзёнкі 2, уласнасць М.Слізня (10 двароў, 43 жыхары). У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1873 г. вёска ў Куранецкай вол., у складзе маёнтка Стары Княгінін Мікульскага, 40 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Віленскай губ., 18 двароў, 114 жыхароў, часоўня; у 1908 г. вёска ў Кузьміцкай сельскай грамадзе, 18 двароў, 116 жыхароў, 131 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 20 двароў, 132 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 101 жыхар; з 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У 2003 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў. За 0,5 км на З ад вёскі археал. помнік — курган.

**СТУДЗЯНЕЦ** (С ц ю д з я н е ц) — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 45 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 81 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

У 1843 г. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ. ў складзе маёнтка Асцюковічы, уласнасць І.Тукалы. У 1873 г. вёска ў Заборскай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол., 20 рэвізскіх душ. У 1897 г. 7 двароў, 65 жыхароў; у 1908 г. вёскі Студзянец 1 і Студзянец 2, у якіх 10 двароў, 82 жыхары, 59 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 19 двароў, 91 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Ільянскім с/с, вёскі Студзянец 1 (45 жыхароў), Студзянец 2 (19 жыхароў), Студзянец 3 (51 жыхар).

**СУБАЧЫ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 39 км на ПнУ ад г. Вілейка, 5 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 142 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2008).

У 17 ст. вёска Субачы Падкрывіцкія ў Ашмянскім павеце. У 1690 г. ўласнасць Казіміра Глухоўскага, 2 дымы, у 1781 г. вёска, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., вёска (13 двароў, 67 жыхароў), засценак і фальварак. У пач. 20 ст. ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. Вёскі Субачы 1 (36 жыхароў), Субачы 2 (83 жыхары). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 38 двароў, 222 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Крывіцкім р-не Маладзечанскай, з 20.1.



1960 г. Мінскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. З 1973 г. ў Касцяневіцкім с/с. У 1988 г. ў вёсцы 22 двары, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларускі».

**СУДНІКІ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 28 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 83 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1625 г. сяло ў маёнтку Вязынь у Ашмянскім павеце, уладанне Яна Вітуньскага, пазней віленскіх манахіньбенедыкцінак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. канфіскавана, у 1800 г. вёска ў маёнтку Вязынь у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Горыча, 12 двароў, 74 жыхары. У 1897 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 39 двароў, 272 жыхары. У пач. 20 ст. 318 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 48 двароў, 246 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 14.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 у Ільянскім р-не, з 12.10.1940 цэнтр сельсавета, 58 двароў, 262 жыхары; у сельсавеце 1929 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронта не вярнуліся 9 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 5.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 12.7.1949 г. створаны калгас імя Дзімітрава. З 6.9.1957 г. ў Ільянскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 205 жыхароў; у 1988 г. 56 двароў, 88 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, ФАП, аддз. сувязі, магазін. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 34 жыхары; магазін.

**СУХАРЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 12 км на Пн ад г. Вілейка, 8 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 115 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска Куранецкай парафіі, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў складзе фальварка Кульбачына ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць А.Мацкевіча, 5 двароў, 51 жыхар. У 1873 г. вёска ў Куранецкай вол. Віленскай губ., уласнасць Каверскага, 32 рэвізскіх сялян; у 1896 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 143 жыхары; у 1908 г. вёска ў Кузьміцкай сельскай грамадзе Куранецкай вол., 22 двары, 165 жыхароў, 147 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 37 двароў, 167 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кузьміцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 вяскоўцаў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 160 жыхароў. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4. 1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У 2003 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў.

**СУЦЬКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 33 км на ПнУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 136 км ад Мінска, на р. Сэрвач. 29 гаспадарак, 53 жыхары (2008).

У 1616 г. баярскае сяло ў маёнтку Касцяневічы ў Ашмянскім павеце, у 1765 г. 12 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць П.Бардакова, 12 двароў, 107 жыхароў, пазней уласнасць казны. У 1897 г. ў Княгінінскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 18




двароў, 188 жыхароў; у 1908 г. 223 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Касцяневіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. У 1938 г. 47 двароў, 266 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 4.6.1949 г. створаны калгас «Дружба». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., у складзе саўгаса «Беларускі», 181 жыхар; у 1988 г. 46 двароў, 94 жыхары.

**СЦЕБЕРАКІ** (Сцебяракі) — вёска ў Любанскім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 24 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 126 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Паставы, каля р. Вузлянка. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Маркаўскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ, у складзе фальварка Талуць, 9 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце, уласнасць казны, 117 двароў; у 1841 г. уласнасць І.Любанскага, 10 двароў, 97 жыхароў. З 1842 г. ў Віленскай губ. У 1873 г. вёска ў Талуцкай сельскай грамадзе Куранецкай вол., у складзе маёнтка Любань, уласнасць І.Любанскага, 67 рэвізскіх сялян. У 1890 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Іжскай вол., 33 двары, 203 жыхары; у 1908 г. 30 двароў, 193 жыхары, 241 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 37 двароў, 210 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Талуцкім с/с. У 1941 г. 49 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жніўні-вер. 1943 г. спалена карнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Кузьміцкім с/с, 134 жыхары. З 16.8.1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У 2003 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. За 2 км на Пд ад вёскі ва ўрочышчы Сівіха культавы помнік — група з 5 валуноў (мясц. назва «Каменныя быкі»), на якіх выбіты знакі.


*Валуны каля в. Сцеберакі.*

**СЦЕШЫЦЫ** — вёска, цэнтр Сцешыцкага с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), цэнтр СВК «Сцешыцы». За 42 км на ПнУ ад г. Вілейка, 28 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 139 км ад Мінска, каля р.Вілія (0,3 км). 145 гаспадарак, 400 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. З 1643 г. сяло ў складзе маёнтка Мільча ў Ашмянскім павеце, уласнасць Я.Рудаміна-Дусяцкага, 64 валокі зямлі, 19 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Жары Агінскіх, 17



двароў, 121 жыхар. У 1897 г. вёска ў Крайскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 28 двароў, 263 жыхары. У пач. 20 ст. 304 жыхары, 310 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 61 двор, 304 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Сцешыцкага с/с, 64 двары, 304 жыхары; у сельсавеце 2891 жыхар. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінуў 31 жыхар (на іх ушанаванне ў 1967 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск). З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., у ліп. 1950 г. створаны калгас «Сталінскі шлях». З 16.7.1954 г. ў Жарскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12. 1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 321 жыхар. У 1988 г. 115 двароў, 281 жыхар, лесапільня, млын, Дом культуры, камбінат быт. абслугоўвання, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа-сад, б-ка, Дом культуры, ФАП, аддз. сувязі, магазін, камбінат быт. абслугоўвання; касцёл Праабражэння Гасподняга.

**СЭРВАЧ** (В я л і к а я  С э р в а ч) — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 31 км на ПнУ ад г. Вілейка, 18 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 131 км ад Мінска. 18 гаспадарак, 51 жыхар (2008).

Паводле гістарычных крыніц вядомы з 16 ст., маёнтак, выдзелены з Кураnецкай вол. У 1505 г. Я.Ю.Забярэзінскі, ваявода трокскі, маршалак земскі атрымаў каралеўскі прывілей на 5 сёл даннікаў над Сэрвачам. У 1555 г. маёнтак, уласнасць Ю.Ванькевіча, першае ўпамінанне пра мястэчка, царква. У 1626 г. ўласнасць М.Войны, каралеўскага сакратара. У 1744 г. маёнтак Гяцэвічаў, суддзяў браслаўскіх, царква. У 1765 г. маёнтак Э.Радзевіч; у мястэчку 15 двароў, 96 жыхароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. двор, сяло Сэрвач Вялікая — сумесная ўласнасць В.Козел (14 двароў, 100 сялян) і Сэрвачскай каталіцкай





*Касцёл Праабражэння Гасподняга ў в. Сцешыцы.*

*Фрагмент сядзібнага дома ў в. Сэрвач.*




плябаніі (19 двароў); касцёл. У 1886 г. сядзіба Вялікі Сэрвач у Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., касцёл, капліца. У 1897 г. маёнтак, 5 двароў, 39 жыхароў; карчма, касцёл. У пач. 20 ст. маёнтак, 39 жыхароў, 620 дзес. зямлі; вінакурны з-д. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Касцяневіцкай гміне: маёнтак Вялікі Сэрвач (5 двароў, 62 жыхары), маёнтак і калонія Малы Сэрвач (12 двароў, 73 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Касцяневіцкім с/с Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у складзе саўгаса «Беларусь». У вёсцы архіт. помнікі — 2 капліцы (1-й пал. 19 ст.), адна з іх паўзруйнавана.

**СЯДЗІЦА** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 32 км на ПдУ ад г. Вілейка, 12 км ад чыг. ст. Маладзечна, 94 км ад Мінска. 42 гаспадаркі, 80 жыхароў (2008).

У 1625 г. фальварак у маёнтку Вязынь, уласнасць Я.Вітуньскага, пазней Я.Валовіча, які падарыў яго віленскім бенедыкцінкам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. канфіскаваны ў казну. У 1800 г. вёска Седліца ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-аншэфа Горыча, 13 двароў, 85 жыхароў. У 1897 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., вёска — 31 двароў, 201 жыхар; фальварак — 2 двары, 8 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 201 жыхар, 143 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне, 45 двароў, 238 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У 1960 г. 264 жыхары. У 1988 г. 82 двары, 155 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілія», б-ка. У 2003 г. 49 гаспадарак, 113 жыхароў.

**ТАЛУЦЬ** — вёска ў Любанскім с/с, сядзіба падсобнай гаспадаркі Талуць ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 25 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 128 км ад Мінска, каля р. Вузлянка (1 км), на аўтадарозе Вілейка—Паставы. 51 гаспадарка, 77 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1622 г. ў маёнтку Лоск, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, уласнасць ваяводы полацкага Я.Кішкі. У 1766 г. вёска ў Кішчынскай вол., належала Я.Лапацінскаму, біскупу жмудскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1798 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 153 селяніны. У 1800 г. вёска Талутцы, уласнасць генерал-маёра Слізава, 22 двары, 126 жыхароў, карчма; у 1836 г. фальварак у маёнтку Любань І.Любанскага. У 1873 г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Куранецкай вол., у складзе маёнтка Любань, уласнасць І.Любан-


*Капліца ў в. Сэрвач.*



скага, у Вілейскім павеце Віленскай губ., 96 рэвізскіх душ. У 1886 г. быў бровар. У 1896 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска ў Іжскай вол., 45 двароў, 308 жыхароў, млын, 2 кузні, хлебазапасны магазін, фальварак (6 жыхароў), вадзяны млын (4 жыхары). У 1908 г. 47 двароў, 247 жыхароў, 300 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 48 двароў, 287 жыхароў; пасёлак (6 двароў, 37 жыхароў), калонія (2 двары, 15 жыхароў); працавала бел. пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. цэнтр Талуцкага с/с. У вёсцы 48 двароў, 289 жыхароў; у сельсавеце 24 населеныя пункты, 1852 жыхары. У 1940 г. створаны калгас «1 Мая» (61 гаспадарка). У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жніўні—вер. 1943 г. спалена карнікамі, загінулі 4 жыхары. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў. На ўшанаванне памяці 57 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі ў барацьбе з ворагам, у 1957 г. пастаўлены абеліск на паўн. ускраіне вёскі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Кузьміцкім с/с, 298 жыхароў. З 16.8. 1973 г. ў Журыхскім, з 13.4.1981 г. ў Любанскім сельсаветах. У пач. 1970-х гг. швейная і шавецкая майстэрні, лясніцтва, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, ФАП, аддз. сувязі, 2 магазіны; цэнтр калгаса «Чырвоны Сцяг». У 2003 г. 58 гаспадарак, 108 жыхароў, б-ка, Нар. дом, ФАП, магазін.

**ТАРАСАВІЧЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлёны» За 39 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 142 км ад Мінска, на аўтадарозе Спягла—Макарычы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1567 г. сяло ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 51 двор, 298 жыхароў. У пач. 20 ст. 381 жыхар. У вер. 1915 г. і ў сак. 1916 г. ў наваколлі вёскі ішлі кровапралітныя баі рускіх войскаў з германскімі захопнікамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Вішнеўскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв., у 1938 г. Вілейскага павета, 46 двароў, 244 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Чурлёнскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 15.7.1949 г. створаны калгас «Перамога». З 18.5.1959 г. ў Іжскім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1988 г. 32 двары, 48 жыхароў.

**ТАТАРАЎШЧЫНА** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 115 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2008).

У сярэдзіне 19 ст. фальварак у Вілейскім павеце Віленскай губерні. У 1897 г. маёнтак у Куранецкай вол., 7 жыхароў, уласнасць Свідзінскага; у 1905 г. 237 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. хутары ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 65 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас «Чырвоная зорка», у 1950 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак. З 14.2.1957 г. ў Рабунскім с/с, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 47

жыхароў. У 1988 г. 6 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».

**ТОНКАВІЧЫ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 54 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 157 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 5 двароў, 41 жыхар. У пач. 20 ст. вёска таго ж павета, 53 двары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска Томкавічы ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 13 двароў, 69 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сіўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У чэрв. 1950 г. створаны калгас «Перадавік». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. З 8.6.1963 г. ў Крывіцкім гарадскім пасялковым Савеце, з 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 6 двароў, 8 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна.

**ТРАПАЛАВА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 15 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 120 км ад Мінска, на аўтадарозе Красніца—Шылавічы, на правым беразе р. Вілія. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2008).

У 1857 г. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. вёска, 4 двары, 24 жыхары. У пач. 20 ст. 58 жыхароў, 31 дзес. зямлі. У 1908 г. Перавоз Трапалава, 2 двары, 8 жыхароў, 19,5 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяв. У 1923 г. вёска ў Вілейскай гміне, 8 двароў, 53 жыхары; у 1938 г. ў Каловіцкай гміне, 9 двароў, 62 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с; 10 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у р-не вёскі дзейнічаў партыз. атрад «За Радзіму» партыз. брыгады імя М.Ф.Фрунзе. У маі 1943 г. карнікі спалілі вёску, загубілі 15 жыхароў. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Аляксееў Перавоз, на 3 магілах партызан (5 чал.), якія загінулі ў баях супраць акупантаў, пастаўлены 2 стэлы і абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 49 жыхароў. У 1988 г. 13 двароў, 25 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава.

**ТРАПАЛАВА** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 11 км на Пн ад г. Вілейка, 0,5 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 113 км ад Мінска. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2008).

У 1620 г. фальварак Трапалаўшчына ў Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 32 жыхары. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ.: маёнтак Вайцаховіча (9 жыхароў) і 3 фальваркі (17 жыхароў). У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (7 двароў, 43 жыхары), хутары (3 двары, 22 жыхары); чыг. будка (2 двары, 8 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 22 жыхары; з 1968 г. ў саўгасе «Вілейскі». У 1988 г. 4 двары, 11 жыхароў.



**ТРЫГУЗІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе Мінскага абл. с.-г. УП «Новая Вілія». За 33 км на ПдУ ад г. Вілейка, 16 км ад чыг. ст. Маладзечна, 95 км ад Мінска. 26 гаспадарак, 46 жыхароў (2008).

У 1611 г. сяло ў маёнтку Ляўкова, уласнасць Аляксандра Сямашкі, у 1794 г. — Міхала Клеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ўласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 9 двароў, 59 жыхароў; у 1840-х гг. ўласнасць памешчыкаў Козелаў; у 1850 г. — памешчыка Гячэвіча. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 32 двары, 211 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. ў Вязынскай гміне, 57 двароў, 267 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 16 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. З 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с; з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 266 жыхароў. У 1988 г. 51 двор, 95 жыхароў, у складзе саўгаса «Вілія», б-ка. У 2003 г. 37 гаспадарак, 61 жыхар.

**ТУРАЎШЧЫНА** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 13 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 116 км ад Мінска. 45 гаспадарак, 67 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц згадваецца ў 17 ст. У 1690 г. паселішча ў Куранецкай уніяцкай парафіі, уласнасць К.Сягеня, 2 дымы. У 1750 г. вёска Турлы, у Ашмянскім павеце, шляхецкая ўласнасць, 8 двароў. У 1765 г. фальварак, 10 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1799 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 6 двароў, 40 жыхароў, уласнасць царквы. У 1836 г. маёнтак, уласнасць Яна Клячкоўскага, 118 душ. У 1897 г. ў Куранецкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., фальварак Любанскай, 1 двор, 13 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 64 двары, 324 жыхары; фальварак (2 двары, 27 жыхароў), хутар (4 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 15 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Каловіцкім с/с, 286 жыхароў. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 1988 г. ў складзе саўгаса «Стайкі», 43 гаспадаркі, 96 жыхароў, працавалі пач. школа, магазін. У 2003 г. 64 гаспадаркі, 100 жыхароў.

**УЛАДЫКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 62 км на ПдУ ад г. Вілейка, 33 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 72 км ад Мінска. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2008).

У 1794 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., у складзе маёнтка Ілья, уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-аншэфа М.Салтыкова, 13 двароў, 74 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1836 г. ўчастак, які ў 1827 г. выдзелены з маёнтка Ілья, уласнасць К. Капусцінскага; 78 сялянскіх душ. 16.5. 1863 г. ў прадмесці вёскі рускімі войскамі разбіты атрад паўстанцаў атрада В.І.Козела (у лесе, паблізу вёскі, пахавана

больш за 100 паўстанцаў атрада; у 1933 г. на іх магіле ўстаноўлена пліта). У 1873 г. ў Залескай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол., уласнасць Капусцінскага, 59 рэвізскіх душ. У 1897 г. 28 двароў, 213 жыхароў, пачала дзейнічаць школа граматы. У 1908 г. 34 двары, 211 жыхароў, 238 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 41 двор, 202 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, пахаваны 80 сав. грамадзян, якіх расстралялі ням.-фаш. карнікі 26.5.1944 г. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў Хаценчыцкім с/с, 210 жыхароў.



*Магіла паўстанцаў 1863 г. з атрада В.І.Козела ў в. Уладыкі.*

**УРЭЧЧА** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 13 км на ПдЗ ад г. Вілейка, 116 км ад Мінска, на аўтадарозе Вілейка—Нарач, каля р. Нарач (2 км). 38 гаспадарак, 48 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц згадваецца ў 1473 г., урочышча, уласнасць Ю.Саковіча. У 1514 г. ўрэцкі востраў у Маркаўскай вол., у якім вял. кн. падараваў баярыну маркаўскаму Багдановічу пустку Матычэўшчыну. У 1558 г. сяло Урачаны ў Маркаўскай дзяржаве Ашмянскага павета. У 1579 г. ў Ашмянскім павеце, уласнасць П.Збаражскага, потым Н.Мсціслаўскай. У 1694 г. сяло ў Маркаўскім старостве, каралеўская ўласнасць; у 1703 г. каралеўскае сяло, уласнасць С.М.Амбражэвіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1796 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., на сродкі старосты ўрэцкага В.Валодзькі пабудавана Свята-Мікалаеўская царква. У 1800 г. вёска







пры фальварку Касічы В.Валодзькі, 19 двароў, 123 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 51 двор, 288 жыхароў; у пач. 20 ст. 297 жыхароў, 419 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 76 двароў, 363 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. група на чале з А.І.Ахрэмам. На фронце загінулі 18 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 21.6.1949 г. створаны калгас «Маладая гвардыя», які аб'яднаў 25 гаспадарак. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 11.9. 1975 г. ў Нарачанскім с/с. У 1960 г. вёскі Урэчча, 131 жыхар; Урэчча-Старына, 130 жыхароў; Урэчча-Навіны, 55 жыхароў; у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС. У 2003 г. 49 двароў, 66 жыхароў. Вёска — радзіма бел. хіміка-біяарганіка, акад. НАН Беларусі, засл. дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі (1988) д-ра хім. н., праф. А.А.Ахрэма.

**УСЦІНАВІЧЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 26 км на ПнУ ад г. Вілейка, 11 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 129 км ад Мінска. 14 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў Ашмянскім павеце, у Губскім старостве, 8 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., вёска (6 двароў, 33 жыхары) і засценак (5 жыхароў); уласнасць казны. У 1888 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. вёска ў Рабунскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 двароў, 191 жыхар, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 183 жыхары, 236 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (41 двор, 324 жыхары), лясная старожка (10 жыхароў), чыг. будка (7 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рэчкаўскім с/с, працавала ганчарнае прадпрыемства. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. На могілках брацкая магіла сав. воіна і партызана, якія загінулі ў баі з ворагам у 1944 г. (у 1975 г. пастаўлена стэла). З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 30.8.1949 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 199 жыхароў. У 1988 г. 35 гаспадарак, 74 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі камсамол».

**ФАЛЬКІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 22 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 101 км ад Мінска. 39 гаспадарак, 64 жыхары (2008).

У 1770 г. вёска ў маёнтку Ляўкова ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча, 5 двароў, 34 жыхары. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 36 двароў, 216 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1905 г. 216 жыхароў, 286 дзес. зямлі. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне, 47 двароў, 267 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. У 1941 г. ство-

раны калгас, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 7 жыхароў вёскі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. 12.9.1945 г. створаны калгас «Чырвоная Армія». У 1960 г. 288 жыхароў. У 1988 г. 64 двары, 123 жыхары, у складзе саўгаса «Вязынь», магазін. У 2003 г. 50 гаспадарак, 90 жыхароў.

**ХАДАСЫ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод № 2» філіяла «Юнік-агра». За 38 км на У ад горада і 39 км ад чыг. ст. Вілейка, 141 км ад Мінска. 57 гаспадарак, 124 жыхары (2008).

У 1794 г. вёска ў фальварку Стайкі, уласнасць Л.Багдановіч, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Старынкі ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 10 двароў, 59 жыхароў, уласнасць М.Алацэуса. У 1857 г. вёска ў маёнтку Касута, уласнасць І.Тукалы, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. 17 двароў, 161 жыхар, у Крайскай вол. Вілейскага павета. У 1894 г. адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. вёска, 157 жыхароў, 125 дзес. зямлі, 1-класнае нар. вучылішча. У 1908 г. ў складзе Старынскай сельскай грамады, 9 двароў, 154 жыхары, 108 дзес. надзелаў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 28 двароў, 182 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ракшыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Альковіцкім с/с. У сак. 1949 г. створаны калгас «Савецкая Армія». З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 186 жыхароў. У 1988 г. 72 гаспадаркі, 169 жыхароў, у складзе саўгаса «За Мір», 8-гадовая школа, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**ХАЛЯНІНА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 7 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 108 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2008).

У 1897 г. засценак (ён жа Халопкі) у Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 3 двары, 34 жыхары. У 1905 г. 21 жыхар, у 1908 г. ў складзе Баранскай сельскай грамады, 31 жыхар, 16 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1925 г. засценак у Вілейскай гміне Вілейскага павета, 5 двароў, 37 жыхароў; у 1938 г. ў Каловіцкай гміне таго ж павета Віленскага ваяв., 6 двароў, 41 жыхар. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 7 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; у маі 1944 г. фашысты спалілі вёску, знішчылі 2 жыхары. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 49 двароў. У 1988 г. 10 двароў, 16 жыхароў; у складзе калгаса імя Суворава.

**ХАМЯНЦЫ** — вёска ў Куранецкім с/с, у складзе СВК «Вілейскі». За 15 км на ПнУ ад г. Вілейка, 5 км ад чыг. ст. Куранец на лініі Маладзечна—Полацк, 120 км ад Мінска, каля аўтадарогі Вілейка—Докшыцы. 32 гаспадаркі, 57 жыхароў (2008).

У пісьмовых крыніцах згадваецца ў 16 ст. У 1558 г. дварэц Хамінскі ў складзе маёнтка Куранец у Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць ваяводы віленскага князя М.Радзівіла. У 1768 г. вёска Ха-



мякі, 2 двары; у 1793 г. 8 двароў, 55 жыхароў, уласнасць Ф.Невядовіча. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. З 1795 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., з 1842 г. Віленскай губ. У 1897 г. вёска ў Куранецкай вол., 18 двароў, 158 жыхароў. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 32 двары, 176 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Куранецкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі больш за 20 вяскоўцаў, з іх 8 не вярнуліся з фронту. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У ліп. 1949 г. створаны калгас імя Варашылава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 213 жыхароў. У 1988 г. 52 двары, 92 жыхары. З 1968 г. ў складзе Расаўгаса «Вілейскі».

**ХАРКІ** — вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе ААТ «Гарадскі малочны завод № 2» філіяла «Юнік-агра». За 43 км на У ад горада і 42 км ад чыг. ст. Вілейка, 146 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2008).

У 1775 г. вёска ў Вілейскім старостве Ашмянскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ, 11 двароў, 68 жыхароў, уласнасць П.Лабачэўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1832 г. фальварак, уласнасць Станіслава Станкевіча, у Вілейскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 26 двароў, 166 жыхароў, маёнтак — 9 жыхароў, у складзе Вяліка-Сэрвачскай сельскай грамады. У 1908 г. 186 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921— 1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 36 двароў, 202 жыхары; лясніцтва — 1 двор, 10 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Ракшыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. З 16.1.1954 г. ў Альковіцкім с/с. У 1960 г. 166 жыхароў. У 1988 г. 72 гаспадаркі, 169 жыхароў, у складзе саўгаса «За Мір».

**ХАЦЕНЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Хаценчыцкага с/с, у складзе аграфірмы «Лукавец» ААТ «Кафэ Палессе». За 52 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 23 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 70 км ад Мінска, на р. Жучок (левы прыток р. Ілія). 36 гаспадарак, 55 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 15 ст. Каля 1470 г. маёнтак Мікалая Радзівіла (Старога) па пасагу ад жонкі Сафіі Янаўны Манівід. У 1526 г. згадваецца «дворац», у якім 21 дым. У 16 ст. належаў Рагозам. У 1595 г. частка маёнтка ва ўласнасці мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Міхаіла Рагозы. У 17 ст. маёнтак часткамі належаў Пракаповічам, Мілеўскім, Свалынскім, Касакоўскім і інш. У 1681 г. А.Касакоўскі, стольнік мінскі, за 25 тыс. злотых польскіх прадаў сваю частку, у т. л. фальварак Хаценчыцы, Т.Рымшы. У 1783 г. Хаценчыцкі маёнтак у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, складаўся з вёсак Дварэц (4 дымы), Рабцы (6 дымоў), Хаценчыцы (2 дымы). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 8 двароў, 63 жыхары, уласнасць А.Высоцкага; царква, карчма. У 1871 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. мястэчка, цэнтр воласці Вілейскага павета Віленскай губ., 28 жыхароў; царква, нар. вучылішча. У 1897 г. сяло (13 двароў, 87 жыхароў, лаўка, піцейны дом), маёнтак

(34 жыхары). У вер. 1915 г. на тэрыторыі воласці адбываліся ўпартыя баі рускіх войскаў з германскімі захопнікамі. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана германскімі, у жн. 1919 — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. цэнтр Хаценчыцкай гміны Вілейскага павета Віленскага ваяв., 31 двор, 190 жыхароў; маёнтак, 4 двары, 57 жыхароў, вінзавод. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Хаценчыцкага с/с. У 1939 г. сяло, 32 двары, 210 жыхароў. У 1940 г. ў складзе сельсавета 40 населеных пунктаў, 2505 жыхароў; працавалі маслабойня, гарбарня, паравы млын, кааператыў, 4 прыватныя крамы, аддз. саўгаса «Лукавец». Напярэдадні вайны 42 двары, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, у 1941 г. загублена 18 жыхароў. Тут размяшчаўся варожы гарнізон, які налічваў 100 салдат і афіцэраў. 23.6. 1943 г. партызаны брыгады імя М.В. Фрунзе (камандзір А.М.Захараў) знішчылі гарнізон. У чэрв. 1942 г. вёска спалена карнікамі, загублены 28 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 160 жыхароў, у складзе сельсавета 78 населеных пунктаў, 6168 жыхароў. У пач. 1970-х гг. працавалі лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 2009 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аптэка, аддз. сувязі, лясніцтва, магазін. Каля вёскі археал. помнікі: за 1,5 км на ПдЗ, у лесе, ва ўрочышчы Казлоўшчына — курганны могільнік, ва ўрочышчы Капішча — каменныя магілы. За 1 км на У ад вёскі і 0,3 км справа ад дарогі ў в. Зачарная, у лесе — каменныя магілы 2.

**ХРАМЦОВА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 49 км на ПдУ ад г. Вілейка, 21 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 82 км ад Мінска. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1790 г. вёска ў Ашмянскім павеце Віленскага ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Забор'е Багдановічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 4 двары, 28 жыхароў. У 1873 г. ў Хаценчыцкай вол., у складзе Карпавіцкай сельскай грамады Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Грыгаровіча, 26 рэвізскіх душ. У 1897 г. 13 двароў, 113 жыхароў; у 1908 г. 14 двароў, 86 жыхароў, 100 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 16 двароў, 88 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Хаценчыцкім с/с, 64 жыхары.

**ЦАГЕЛЬНЯ** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 39 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 79 км ад Мінска. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1832 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ігнація Багдановіча. У 1897 г. 2 засценкі (2 двары, 17 жыхароў) у Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 5 двароў, 33 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Суднікоўскім с/с, цагельня. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. да 5.7.1957 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл., з 6.9.1957 г. ў



Ільянскім с/с; з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. было 64 жыхары. У 1988 г. ў складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума, 10 двароў, 21 жыхар.

**ЦЁСНЫ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 60 км на ПдУ ад г. Вілейка, 23 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 67 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2008).

У 1858 г. засценак у Вілейскім павеце Віленскай губ., 1 двор, 2 жыхары. У 1873 г. ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол., 5 рэвізскіх душ. У 1897 г. 2 двары, 18 жыхароў. У 1908 г. 2 двары, 17 жыхароў, 15 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. засценак у Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 3 двары, 18 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. вёска ў Ільянскім с/с, 22 жыхары.

**ЦНА** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 112 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2008).

У 1897 г. засценак у Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 31 жыхар. У пач. 20 ст. 20 жыхароў; у 1908 г. ў складзе Ручыцкай сельскай грамады, 1 двор, 19 жыхароў, 13,6 дзес. надзелаў. У 1-ю сусв. вайну ў час контрнаступлення 2-й рускай арміі з мэтай ліквідацыі Свянцянскага прарыву герм. войскаў (9.9—2.10.1915) у засценку размяшчаўся штаб ударнай групоўкі рускіх войскаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў Вілейскай гміне і павеце, 6 двароў, 20 жыхароў. У 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (5 двароў, 28 жыхароў), калонія (4 жыхары), леснічоўка (1 двор). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 11 жыхароў. У 1988 г. вёска, 4 двары, 8 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава.

**ЦНА** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 11 км на Пн ад горада і чыг. ст. Вілейка, 114 км ад Мінска. 3 гаспадаркі, 10 жыхароў (2008).

У 1873 г. засценак у Ручыцкай сельскай грамадзе Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 6 рэвізскіх сялян. У 1908 г. вёска, 3 двары, 19 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар у Кузьміцкім с/с, 16 жыхароў. З 16.8. 1973 г. ў Любанскім с/с. У 1993 г. вёска, 8 двароў, 17 жыхароў. У 2003 г. 5 гаспадарак, 13 жыхароў.

**ЦЫНЦАВІЧЫ** — вёска ў Любанскім с/с, у складзе СВК «Новая Любанія». За 9 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 112 км ад Мінска. 84 гаспадаркі, 144 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц згадваецца ў 16 ст. У 1579 г. сяло ў Ашмянскім павеце ВКЛ, уласнасць князёўны Настассі Мсціслаўскай, потым яе мужа, ваяводы трокскага Стафана Збаражскага, які далучыў сяло да маёнтка Рабунь. У 1765 г. ўласнасць віленскага жаночага

бернардзінскага манастыра, 36 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць А.Сапегі і каталіцкай царквы, 76 двароў, 543 жыхары, карчма. У 1873 г. вёска ў Бароўскай сельскай грамадзе Вілейскай вол. і павета Віленскай губ., у складзе дзярж. маёнтка Рабунь, 192 рэвізскіх дзярж. сялян. У 1886 г. вёска ў Вілейскай вол. і павеце Віленскай губ., 51 двор, 512 жыхароў. У 1897 г. 95 двароў, 646 жыхароў, кузня, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 121 двор, 687 жыхароў, 609,5 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Каловіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 130 двароў, 628 жыхароў, працавала бел. пач. школа. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронта не вярнуліся 19 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. З 1949 г. працавала 7-гадовая школа. У 1960 г. вёска ў Каловіцкім с/с, 453 жыхары. З 28.7.1980 г. ў Любанскім с/с. У 2003 г. 91 гаспадарка, 183 жыхары, магазін. Вёска — радзіма бел. мастака Н.Ю.Сілівановіча (25.12. 1834 г. — 1918 ці 1919); бел. дырыжора, педагога, засл. дзеяча мастацтваў Беларусі, нар. артыста Беларусі М.А.Казінца (н. 18.5.1938).



*Памятны знак у гонар Н.Сілівановіча ў в. Цынцавічы.*

**ЦЯПІНЦЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Новая Вілія». За 30 км на ПдУ ад г. Вілейка, 20 км ад чыг. ст. Маладзечна, 102 км ад Мінска. 20 гаспадарак, 25 жыхароў (2008).

Паводле гістарычных крыніц вядома з 16 ст. У 1575 г. «добра» Цяпіншчына ў маёнтку Латыгаль (3 валокі зямлі), падаравана князем Мікалаем Радзівілім Васілю Цяпінскаму (Амельяновічу). У 1593 г. сяло Амельянавічы ў маёнтку Вязынь Слушчынская. У 1608 г. вёска Цяпінцы, з 1762 г. вёска Цяпіншчына, уласнасць Станіслава Цяпінскага, Брыгіды Салагуб і інш. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. ўласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, канфіскавана ў казну. У 1800 г. вёска, 16 двароў, 142 жыхары, уладанне М.І.Салтыкова ў маёнтку Ляўкова. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Юзафа Тышкевіча, потым Пятра Грынкевіча. У 1870 г. фальварак у Вязынскай вол. таго ж павета Віленскай губ., уласнасць Зянона Грынкевіча. У 1897 г. вёска (39 двароў, 264 жыхары), фальварак (6 жыхароў), маёнтак (7 жыхароў). У пач. 20 ст. 264 жыхары, 213 дзес. зямлі. У 1908 г. вёскі Цяпінцы 1, Цяпінцы 2, Цяпінцы 3. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г. — ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1923 г. вёска і фальварак ў Вязынскай гміне, 62 двары, 339 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Латыгальскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з



20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У студз. 1950 г. створаны калгас «Камунар»; з 6.9.1957 г. ў Вязынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 257 жыхароў. У 1988 г. 52 двары, 83 жыхары, у складзе саўгаса «Вілія». У 2003 г. 33 гаспадаркі, 50 жыхароў.

**ЦЯРЭШКІ** — вёска ў Касцяневіцкім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Першы Беларускі». За 32 км на ПнЗ ад г. Вілейка, 5 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 135 км ад Мінска, на р. Сэрвач (2,5 км). 27 гаспадарак, 43 жыхары (2008).

У 17 ст. сяло Чарэшкі ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1639 г. 14 дымоў, 16 валок зямлі, уласнасць Радзівілаў. У 1690 г. вёска, 10 дымоў, уласнасць Дамініка Цеханавецкага, стольніка Мсціслаўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Варвары Козел, 17 двароў, 114 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 26 двароў, 219 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 219 жыхароў, 360 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 47 двароў, 294 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Касцяневіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 17 землякоў (7 з іх не вярнуліся з фронту), на ўшанаванне іх памяці ў 1968 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-не Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. Да 1971 г. цэнтр калгаса імя Калініна, камбінат быт. абслугоўвання, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, ФАП, аддз. сувязі, магазін. У 1988 г. ў складзе саўгаса «Беларускі», 45 двароў, 86 жыхароў, магазін, б-ка. У 2009 г. дзейнічалі аддз. сувязі, ФАП, магазін, комплексны прыёмны пункт.

**ЧАРОМУШКІ** (да 1978 г. Хамутнае) — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 55 км на ПнУ ад г. Вілейка, 15 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 151 км ад Мінска, каля аўтадарогі Крывічы—Даўгінава. 51 гаспадарка, 115 жыхароў (2008).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў складзе маёнтка Крывічы, уласнасць Яна Ходзькі, 3 двары, 30 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 250 жыхароў. У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 45 двароў, 223 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 у Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Сіўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 16 землякоў (9 з іх не вярнуліся з фронту), на ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. ў вёсцы пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. З 25.12.1962 г. ў Мядзельскім р-не, з 8.6.1963 г. ў складзе Крывіцкага пасялковага савета, з сак. 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с Вілейскага р-на. У 1960 г. 67 жыхароў. У 1988 г. 65 двароў, 157 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (у 1952—82 гг. цэнтр калгаса імя Леніна), дзіцячы сад, лесапільня, млын, клуб, б-ка, магазін.

**ЧЫЖЭВІЧЫ** — вёска ў Рабунскім с/с, у складзе с.-г. філіяла ААТ «Вілейскі камбікормавы завод». За 7 км на У ад горада і чыг. ст. Вілейка, 117 км ад Мінска, на паўн. беразе Вілейскага вадасховішча, на аўтадарозе Вілейка—Плешчаніцы. 53 гаспадаркі, 88 жыхароў (2008).

У 1718 г. вёска ў маёнтку Касута, уласнасць Яна Лубянскага, які перадаў яе ў заставу Хмялеўскім (5 службаў цяглых сялян, 4 — баяр, 5 — баяр зямянскіх), у Ашмянскім павеце ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў маёнтку Куранец у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Ромераў, 15 двароў, 94 жыхары. У 1842 г. ў складзе маёнтка Касута таго ж павета Віленскай губ., уласнасць І.Тукалы. У 1897 г. ў Куранецкай вол. тых жа павета і губ., вёска (33 двары, 282 жыхары) і хутар (12 жыхароў). У 1908 г. 322 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Куранецкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 58 двароў, 309 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Рабунскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 16 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 17.7.1948 г. створаны калгас імя Чапаева. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 249 жыхароў. У 1988 г. 112 гаспадарак, 248 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік», магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**ЧЭХІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 105 км ад Мінска. 24 гаспадаркі, 38 жыхароў (2008).

У гістарычных крыніцах вядомы з 16 ст. У 1549 г. згадваецца маёнтак Вязынскі (Чэхаўшчызна), уласнасць Б.Чэха, баярына гаспадарскага, затым яго ўдавы Г.Багданавай-Чэхавай. У 1636 г. паселішча Чэхі ў маёнтку Вязынь Чэхаўшчына. У 1771 г. аколіца, уладанне Б.Салагуб. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска ў фальварку Ляўкова, уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, пасля канфіскавана ў казну. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., 15 двароў, 77 жыхароў, уласнасць М.І.Салтыкова. У 1-й пал. 19 ст. ўласнасць казны. У 1897 г. вёска ў Вязынскай вол. таго ж павета Віленскай губ., 24 двары, 145 жыхароў; сядзіба (7 жыхароў), млын (11 жыхароў), фальварак (9 жыхароў). У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 193 жыхары. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. ў Вязынскай гміне, 42 двары, 203 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. З вер. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7. 1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У снеж. 1949 г. створаны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 192 жыхары. У 1988 г. 49 двароў, 98 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь», магазін. У 2003 г. 56 двароў, 91 жыхар. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**ШВЯДЫ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 18 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 129 км ад Мінска. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2008).

У 1852 г. ў складзе маёнтка Тэклінапаль, у Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць З.Любанскага. У 1901 г. вёска Швяды ў Вілейскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 36 двароў, 197 жыхароў. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., у жн. 1919 г.—ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1923 г. ў Вілейскай гміне, 36 двароў, 197 жыхароў; у 1938 г. вёска ў Каловіцкай гміне, 39 двароў, 208



жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Асіпавіцкім с/с, 45 двароў, 141 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў маі 1944 г. спалены фаш. карнікамі, загінулі 2 жыхары, з фронту не вярнуліся 13 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7. 1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У чэрв. 1950 г. створаны калгас «Бальшавік» (20 гаспадарак). У 1960 г. было 144 жыхары. У 1988 г. 34 двары, 65 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава, магазін, б-ка. На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія археал. помнік — курганны могільнік.

**ШЛЯПЫ** — вёска ў Іжскім с/с, у складзе СВК «Чурлеёны» За 38 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 141 км ад Мінска. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска, дзярж. ўласнасць, у Вілейскім павеце Мінскай губ., 9 двароў, 47 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Вішнеўскай вол. Свянцянскага павета Віленскай губ., 38 двароў, 230 жыхароў. У 1-ю сусв. вайну ў час Нарачанскай наступальнай аперацыі рускіх войскаў (18—28.3.1916) у вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Вішнеўскай гміне Свянцянскага павета Віленскага ваяв.; 1938 г. 42 двары, 244 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Чурлёнскім с/с. У 1940 г. створаны калгас «Чырвоная Армія», які аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 8 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл.; 14.2.1949 г. створаны калгас імя Горкага. З 18.5.1959 г. ў Іжскім с/с, з 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. У 1988 г. 18 двароў, 36 жыхароў, у складзе саўгаса імя С.М.Кірава.

**ШЧАРАЧЫХА** — вёска ў Ільянскім с/с, у складзе аграфірмы «Ілья» ЗАТ «РОСТЭМ». За 39 км на ПдУ ад г. Вілейка, 36 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 97 км ад Мінска. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1897 г. вёска ў Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 420 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Навагрудскага, з 1925 г. Віленскага ваяводстваў, 10 двароў, 71 жыхар. У 1938 г. 2 аднайменныя вёскі, у якіх 11 двароў, 67 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Навагуцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 5.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. ў вёсцы 54 жыхары. З 21.1.1969 г. ў Ільянскім с/с. У 1988 г. ў вёсцы 14 двароў, 26 жыхароў, у складзе Ільянскага саўгаса-тэхнікума.

**ШЧАРКА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 42 км на ПдУ ад г. Вілейка, 19 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 80 км ад Мінска. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2008).

У 1829 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Забор'е, уласнасць К.Багдановіча. У 1873 г. вёска ў Карпавіцкай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 9 рэвізскіх сялян. У 1897 г. засценак (8 двароў, 41 жыхар), млын (2 двары, 15 жыхароў). У 1908 г. вёска, 9 двароў, 61 жыхар, 51 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1921 г. вёска Шчарка 1, былы млын стаў засценкам Шчарка 2. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 2 засценкі, у якіх 14 двароў, 79 жыхароў і фальварак — 9 жыхароў. З

ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не; быў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з 25.6. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар у Хаценчыцкім с/с, 18 жыхароў.

**ШЧОКАЎШЧЫНА** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 48 км на ПдУ ад г. Вілейка, 23 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 84 км ад Мінска, на аўтадарозе Партызанскі—Карпавічы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., у складзе маёнтка Забор'е, уласнасць Л.Багдановіч, 4 двары, 31 жыхар; засценак Б.Шумскай, 2 двары, 5 жыхароў. У 1873 г. вёска ў Заборскай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 19 рэвізскіх сялян. У 1897 г. вёска (9 двароў, 64 жыхары), фальварак (17 жыхароў). У 1908 г. вёска, 12 двароў, 80 жыхароў, 91,6 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (16 двароў, 94 жыхары) і маёнтак (4 двары, 22 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Хаценчыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 63 жыхары.

**ШЧУКІ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 101 км ад Мінска. 41 гаспадарка, 62 жыхары (2008).

У 1600 г. сяло ў складзе маёнтка Вязынь (Ляўкова), у Вілейскім старостве Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска ў фальварку Ляўкова, уладанне Міхала Клеафаса Агінскага, пасля канфіскацыі перададзена графу, ген.-аншэфу М.І.Салтыкову, 23 двары, 188 жыхароў. Пазней уласнасць Тышкевічаў, Астроўскіх. У 1897 г. ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ. вёскі Шчукі 1 (36 двароў, 236 жыхароў), Шчукі 2 (7 двароў, 59 жыхароў). У 1898 г. ў в. Шчукі 1 адкрыта школа граматы. У пач. 20 ст. 236 жыхароў, 161 дзес. зямлі. У лют.—снеж. 1918 г. акупіраваны герм., са жн. 1919 г. да ліп. 1920 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вілейскім павеце Віленскага ваяв. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне, 61 двор, 339 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 у Вілейскім павеце Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Вязынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў вёскі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. У крас. 1949 г. створаны калгас імя Молатава. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 329 жыхароў; у 1988 г. 84 двары, 166 жыхароў. У складзе саўгаса «Вязынь», б-ка, магазін. У 2003 г. 56 гаспадарак, 91 жыхар.

**ШЫЛАВІЧЫ** — вёска ў Асіпавіцкім с/с, у складзе падсобнай гаспадаркі Асіпавічы ААТ «Вілейскі райаграсервіс». За 5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 106 км ад Мінска. 224 гаспадаркі, 626 жыхароў (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. У 1514 г. «селцо» ў Маркаўскім стане, пры р. Уша («сельцо» Шаловіцкае), разам з сёламі Канонавічы і Вежуны (84 дымы) з перавозам Шаловіцкім падаравана Глебу Доманту за перамогу над татарамі «которых за Слуцком побил». У 1558 г. сяло ў Маркаўскай дзяр-



жаве, уласнасць Маркаўскага дзяржаўцы Юрыя Валошкі. У 1766 г. сяло ў Маркаўскім старостве, 38 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць генерал-маёра Берхмана, 36 двароў, 257 жыхароў. У 1905 г. маёнтак Тэклінаполь у Вілейскай вол. і павеце Віленскай губ., уласнасць Скірмунта, 29 жыхароў, 477 дзес. угоддзяў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. маёнтак Тэклінаполь (Шалавічы), уласнасць Скірмунтаў, 4 двары, 38 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Асіпавіцкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 2.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1960 г. 201 гаспадарка, 686 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава, комплексны прыёмны пункт, яслі-сад, Дом культуры, б-ка, магазін, сталовая, аддз. сувязі. У 2009 г. дзейнічалі пач. школа-сад, б-ка, ФАП, Дом культуры, аддз. сувязі, аддз. ААТ «Беларусбанк», 3 магазіны, сталовая.

**ШЫПКІ** — вёска ў Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 40 км на ПдУ ад г. Вілейка, 22 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск—Маладзечна, 83 км ад Мінска, на р. Ілія. 48 гаспадарак, 72 жыхары (2008).

У 1794 г. вёскі Шыпкі і Шыпкі Зарэчныя (Зарэчча) у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., уласнасць Міхала Клеафаса Агінскага, канфіскаваны пазней у казну. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-аншэфа М.Салтыкова, 35 двароў, 246 жыхароў, млын, сукнавальня; у в. Шыпкі 2 было 3 двары, 22 жыхары. У 1828 г. вёска ў складзе маёнтка Асцюковічы І.Тукалы, 20 чалавек мужчынскага полу. У 1866 г. фальварак таго ж павета Віленскай губ. У 1873 г. вёска ў складзе Заборскай сельскай грамады Хаценчыцкай вол., 37 рэвізскіх сялян, другая частка двароў ва ўласнасці Капца (39 рэвізскіх сялян), Пашкоўскага (45 рэвізскіх сялян), Свентаржыцкага (24 рэвізскіх сялян). У 1897 г. вёска, 62 двары, 482 жыхары, хлебазапасны магазін, царква, 2 фальваркі (22 жыхары), сядзіба (3 жыхары). У 1908 г. ў вёсцы 69 двароў, 453 жыхары, 402 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Хаценчыцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 79 двароў, 456 жыхароў; маёнтак, 4 двары, 22 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуўся 21 жыхар. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей, у Ільянскім с/с, 502 жыхары. У 2003 г. 64 гаспадаркі, 118 жыхароў, магазін. У 2009 г. дзейнічаў Дом сац. паслуг. Каля вёскі археал. помнікі — курганныя могільнікі за 0,5 км на Пн і за 0,5 км на З ад вёскі.

**ЮДЗЕЎШЧЫНА** — вёска ў Сцешыцкім с/с (да 8.2.2010 г. ў Жарскім с/с), у складзе СВК «Сцешыцы». За 41 км на ПнУ ад г. Вілейка, 34 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 125 км ад Мінска. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2008).

У 1765 г. вёска ў маёнтку Жары Яна Вазгірда, у Ашмянскім павеце, 2 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць суддзі Іосіфа Вазгірда, 6 двароў, 22 жыхары. У 1897 г. вёска Юдзеўшчына (яна ж Юзеўшчына), у Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 41 жыхар. У пач. 20 ст. 39 жыхароў, 57 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай





гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 10 двароў, 52 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Жарскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл., у вер. 1949 г. створаны калгас імя Берыя. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 42 жыхары. У 1988 г. 7 двароў, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя І.Д.Чарняхоўскага.

**ЮНЦАВІЧЫ** – вёска ў Альковіцкім с/с, у складзе рэсп. УП «Стайкі». За 45 км на У ад горада і 44 км ад чыг. ст. Вілейка, 147 км ад Мінска, на аўтадарозе Альковічы–Хадасы. 49 гаспадарак, 98 жыхароў (2008).

У 1744 г. сяло ў Вілейскім старостве Аршанскага павета Віленскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска і маёнтак Юнцавічы ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Аляксандры Гарайн, 15 двароў, 86 жыхароў. У 1830–60-я гг. ўласнасць Бароўскіх, у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1897 г. вёска (17 двароў, 214 жыхароў), маёнтак (41 жыхар), млын (7 жыхароў) у Крайскай вол. Вілейскага павета. У 1908 г. ў складзе Старынскай сельскай грамады, 11 двароў, 166 жыхароў, 184 дзес. надзелаў зямлі. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Ільянскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёска (57 двароў, 269 жыхароў) і маёнтак (6 двароў, 33 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Альковіцкім с/с. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. З 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-не, з 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. 20.8. 1944 г. створаны калгас «1 Мая». У 1988 г. 81 гаспадарка, 168 жыхароў, у складзе саўгаса «Стайкі», пач. школа, б-ка, магазін. У 2009 г. дзейнічаў магазін.

**ЮРКАЎЛЯНЫ** – хутар у Хаценчыцкім с/с, у складзе ААТ «Карпавічы». За 55 км на ПдУ ад г. Вілейка, 24 км ад чыг. ст. Уша на лініі Мінск–Маладзечна, 84 км ад Мінска. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2008).

У 1873 г. засценак у Рабцоўскай сельскай грамадзе Хаценчыцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., уласнасць Стралкоўскага, 6 рэвізскіх сялян. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Стралкоўскіх, 4 двары, 17 жыхароў. У 1897 г. засценак, 14 жыхароў, і аднайменны засценак (ён жа Пуцілава), 3 двары, 19 жыхароў, 17 дзес. надзелаў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. фальварак (2 двары, 13 жыхароў) і засценак (2 двары, 15 жыхароў). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9. 1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1. 1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. хутар, 20 жыхароў, у Хаценчыцкім с/с.

**ЮШКАЎКА** – вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе СВК «Язні». За 50 км на ПнУ ад г. Вілейка, 31 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна–Полацк, 132 км ад Мінска. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2008).

У 1800 г. вёска ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Л.Камінскага, 5 двароў, 25 жыхароў. У 1860 г. вёска ў маёнтку Сасноўшчына Казлоўскага. У 1897 г. вёска Юшкаўка (яна ж Нешкаўка) у Даўгінаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 17 двароў, 67 жыхароў. У пач. 20 ст. 115 двароў, 204 жыхары. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Даўгінаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 30 двароў, 162 жыхары. З ліст. 1939 г. ў



БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сіўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай вобл. У студз. 1950 г. створаны калгас імя Горкага. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 106 жыхароў. З сак. 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 22 двары, 46 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна.

**ЯЗНІ** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, цэнтр СВК «Язні». За 53 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Княгінін на лініі Маладзечна—Полацк, 150 км ад Мінска, на р. Сэрвач. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 17 ст. У 1606 г. сяло ў Ашмянскім павеце, уласнасць Радзівілаў, 14 валок зямлі, 14 дымоў. У сярэдзіне 17 ст. сяло Язін, уласнасць Я.Кішкі, 28 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска Язна ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць Яна Ходзькі (13 двароў, 108 жыхароў) і каталіцкай царквы (2 двары, 15 жыхароў), карчма. У 1897 г. вёска ў Крывіцкай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 48 двароў, 314 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1899 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. 387 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. калонія ў Крывіцкай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 83 двары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12. 1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Сіўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 20.9. 1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях. У 1960 г. ў складзе калгаса імя Леніна, 401 жыхар. З сак. 1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. З 1982 г. цэнтр калгаса імя Леніна, які аб'ядноўваў 13 вёсак, меў 5567 га с.-г. угоддзяў. У 1988 г. 146 двароў, 379 жыхароў, працавалі вячэрняя і 8-гадовая школы, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, магазін. У 2009 г. дзейнічалі вучэбна-пед. комплекс дзіцячы сад—базавая школа, б-ка, ФАП, клуб, магазін, аддз. сувязі, Дом культуры.

**ЯЛАЖЫЧЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с. За 15 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 118 км ад Мінска. 22 гаспадаркі, 33 жыхары (2008).

У пач. 19 ст. вёска ў Завілейскім павеце Мінскай губ., 24 двары, 84 селяніны мужчынскага полу; у 1832 г. ўласнасць Равуцкага. У 1897 г. вёска ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 44 двары, 274 жыхары; у 1908 г. 310 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Войстамскай вол., 58 двароў, 310 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Рускасельскім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 65 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У маі—чэрв. 1944 г. спалены, загінулі 8 жыхароў. З фронту не вярнуліся 13 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 13.6.1950 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. З 20.1. 1960 г. ў Мінскай вобл. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с. У 1960 г. 283 жыхары. У 1988 г. 43 гаспадаркі, 100 жыхароў, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС.

**ЯРМОЛІЧЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязынскі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Вілейка, 83 км ад Мінска. 53 гаспадаркі, 73 жыхары (2008).

У 1625 г. сяло ў складзе маёнтка Вязынь, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяв., уласнасць Я.Вітуньскага, якую ён прадаў Я.Валовічу, біскупу віленскаму. Апошні падарыў сяло віленскаму жано-





чаму бенедыкцінскаму манастыру. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1800 г. вёска, сумесная ўласнасць ген.-маёра Горыча (20 двароў, 156 жыхароў) і чыншавых шляхцічаў (1 двор, 3 жыхары), у Вілейскім павеце Віленскай губ. У 1873 г. ў Вязынскай вол., у складзе Ялоўскай сельскай грамады таго ж павета Віленскай губ., 112 рэвізскіх сялян. У 1886 г. вёска Ярмолічы Старыя, 24 двары, 233 жыхары, царква. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1908 г. вёскі Ярмолічы 1 (62 двары, 373 жыхары, 381 дзес. надзелаў), Ярмолічы 2 (6 двароў, 32 жыхары, 44 дзес. надзелаў). У 1921—1939 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., вёскі Ярмолічы 1 (72 двары, 408 жыхароў) і Ярмолічы 2 (9 двароў, 42 жыхары). З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобласці, з 15.1. 1940 г. ў Ільянскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с. У 1941 г. створаны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з 25.6.1941 г. да 3.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 12 жыхароў. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У 1960 г. 459 жыхароў; у 1988 г. 98 двароў, 179 жыхароў, у складзе саўгаса «Вязынь». У 2003 г. 67 гаспадарак, 99 жыхароў, магазін.

**ЯРМОЛІЧЫ** — вёска ў Нарачанскім с/с, за 17 км на З ад горада і чыг. ст. Вілейка, 120 км ад Мінска. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2008).

З 16 ст. сяло ў Ашмянскім павеце ВКЛ. У 1569 г. ў складзе маёнтка Ганута, 12 дымоў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1801 г. ў Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць казны, 157 жыхароў, царква. У 1852 г. вёска ў Вілейскім павеце Віленскай губ., уласнасць Равуцкага. У 1897 г. ў Войстамскай вол. Свянцянскага павета, 28 двароў, 167 жыхароў, хлебазапасны магазін; у пач. 20 ст. 203 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. ў Войстамскай гміне, 47 двароў, 272 жыхары. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Куранецкім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бараўцоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 4.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў, 80 землякоў загінулі ў барацьбе з ворагам. З 20.9.1944 г. ў Куранецкім, з 5.7.1946 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай вобл. 23.3.1948 г. створаны калгас імя С.Будзённага, аб'яднаў 19 гаспадарак. З 20.1.1960 г. ў Мінскай вобл. У 1971 г. 64 гаспадаркі, 192 жыхары, у Рускасельскім с/с, цэнтр калгаса «Дружба», працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка, ФАП, аддз. сувязі, магазін. З 16.12.1982 г. ў Нарачанскім с/с; у 1988 г. 78 гаспадарак, 194 жыхары, у складзе калгаса імя XXI з'езда КПСС, б-ка, клуб, 8-гадовая школа, аддз. сувязі.

**ЯСЬМАНАЎЦЫ** — вёска ў Вязынскім с/с, у складзе с.-г. філіяла «Вязын-



*Капліца ў в. Ярмолічы.*



скі» КУП «Мінскаблдарбуд». За 23,5 км на ПдУ ад горада і 23 км ад чыг. ст. Вілейка, 115 км ад Мінска, на р. Вязынка. 27 гаспадарак, 55 жыхароў (2008).

У 1546 г. вядомы як сяло Станкевічы ў складзе маёнтка Вязынь, сумесная ўласнасць Паўла Служкі, Себасцьяна Вайцяховіча і Юхны Дубровы. У 1600 г. ў маёнтку набыў грунт і сенажаці Павел Есьман. Да 1613 г. тут была набыта яшчэ частка зямель, такім чынам склаўся асобны маёнтак Вязынь Есьманаўшчызна. У 1626 г. яго купілі віленскія манахіні-бенедыкцінкі і далучылі да раней набытага маёнтка Вязынь. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1794 г. вёска, у 1800 г. засценак у Вілейскім павеце Мінскай губ., уласнасць ген.-маёра Горыча, 14 двароў, 75 жыхароў. У 1886 г. вёска ў Вязынскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 24 двары, 178 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы, у 1908 г. ў складзе Вязынскай сельскай грамады тых жа воласці і павета, 13 двароў, 179 жыхароў, 138 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Вязынскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 31 двор, 169 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Ільянскім р-не Вілейскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Вязынскім с/с. З чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Ільянскім, з 20.7.1957 г. ў Вілейскім р-нах Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. Мінскай абласцей. У ліп. 1948 г. створаны калгас «Светлы шлях». У 1960 г. 186 жыхароў. У 1988 г. 49 двароў, 94 жыхары, у складзе калгаса «Вязынь». У 2003 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў.

**ЯСЮКОЎКА** — вёска ў Даўгінаўскім с/с, у складзе раённага с.-г. УП «Даўгінава». За 59 км на ПнУ ад г. Вілейка, 14 км ад чыг. ст. Будслаў на лініі Маладзечна—Полацк, 162 км ад Мінска, за 2 км ад р. Зуйка (прыток р. Сэрвач). 14 гаспадарак, 24 жыхары (2008).

У 1897 г. вёска ў Будслаўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ., 21 двор, 130 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1908 г. вёска ў складзе Зосінскай сельскай грамады той жа вол., 8 двароў, 126 жыхароў, 124 дзес. надзелаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1938 г. вёска ў Будслаўскай гміне Вілейскага павета Віленскага ваяв., 23 двары, 115 жыхароў. З ліст. 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Вілейскім павеце і вобл., з 15.1.1940 г. ў Крывіцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ваўкалацкім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 3.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Маладзечанскай, з 20.1.1960 г. ў Мінскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Вілейскім р-не. У 1960 г. 144 жыхары. З 4.4.1973 г. ў Даўгінаўскім с/с. У 1988 г. 25 двароў, 57 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны Кастрычнік».

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4п, воп. 1, спр. 15419, 15421; ф. 30, воп. 5, спр. 6767.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 27, воп. 6, спр. 58; ф. 76, воп. 1, спр. 61, 228; ф. 299, воп. 1, спр. 106; ф. 333, воп. 4, спр. 689; ф. 646, воп. 1, спр. 1, 20; ф. 937, воп. 3, спр. 5; ф. 1727, воп. 1, спр. 8, 13, 17; ф. 1732, воп. 1, спр. 12; ф. 1769, воп. 1, спр. 5, 9, 20; ф. 1776, воп. 1, спр. 3, 4.

Дзяржаўны архіў Мінскай вобл. ў Маладзечне, ф. 229, воп. 1, спр. 143; ф. 581, воп. 1, спр. 2, 5, 9, 26, 31, 32, 43—45, 47, 48, 58, 60, 61; ф. 618, воп. 1, спр. 10, 11, 13, 14, 18—20, 42; ф. 1323, воп. 1,





спр. 1; ф. 1326, воп. 1, спр. 1; ф. 1383, воп. 1, спр. 9, 14—19, 44; ф. 1388, воп. 1, спр. 16, 17; ф. 1389, воп. 1, спр. 18; ф. 1425, воп. 1, спр. 1; ф. 1426, воп. 1, спр. 8; ф. 1429, воп. 1, спр. 1; ф. 1433, воп. 1, спр. 1; ф. 1448, воп. 1, спр. 9; ф. 1489, воп. 1, спр. 1; ф. 1505, воп. 1, спр. 6; ф. 1571, воп. 1, спр. 89; ф. 1669, воп. 1, спр. 1, 10; ф. 1689, воп. 1, спр. 12; ф. 2222, воп. 1, спр. 69;
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 151, 196, 1300; ф. 1350, воп. 312, спр. 89.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 3774, 3789.
Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 20, воп. 1, спр. 67.
Корева А. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. Санкт-Петербург, 1861.
Сборник историко-статистических материалов по Виленской губернии. Ч. 1. Вильна, 1863.
Список волостей и сельских обществ по мировым участкам Виленской губернии на 1873 г. Вильна, 1873.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. Санкт-Петербург, 1886.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892].
Сапунов А., Друцкий-Любецкий В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896.
Булгак В.А., Кебец Л.И., Клемантович Н.Н. Вилейка: историко-эконом. очерк. Минск, 1984.
Памятная книжка Виленской губернии на 1904 г. Вильна, 1904.
Гошкевич И.И. Виленская губерния: полный список насел. мест со стат. данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям. Вильна, 1905.
Памятная книжка Виленской дирекции народных училищ за 1905/06 учебный год. Вильна, 1906.
Виленский временник. Кн. 3. Крестьянское землевладение Виленской губернии. Вильна, 1909.
Русская историческая библиотека. Т. 33. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3. Книги публичных дел. Петербург, 1915.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 2—3. Минск, 1940—53.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Минск, 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Минск, 1966.
Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Минск, 1975.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3. Минск, 1983—85.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Минск, 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Мінская вобл. Кн. 1. Мінск, 1987.
Памяць: Вілейскі р-н. Мінск, 2003.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 7, cz. 2. Warszawa, 1923.
Ziemie Pólnocno-wschodnie rzeczpospolitej. Wilno, 1933.
Wykaz miejscowosci rzeczypospolitej Polskiej. T. 1. Województwo Wileńskie. Warszawa, 1938.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ НА КАРТАХ РАЁНАЎ

### НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

**Паводле адміністрацыйнага значэння**

 Цэнтр вобласці

 Цэнтры раёнаў

 Цэнтры сельсаветаў

**Паводле тыпу паселішча**

| | |
|---|---|
| КЛЕЦК | Гарады |
| Івянец | Пасёлкі гарадскога тыпу |
| *Слабада* | Сельскія населеныя пункты |
| ⊙ Забалацце | Аддаленыя часткі населеных пунктаў |
| *Шчэпічы* | Населеныя пункты, назвы якіх супадаюць з назвамі чыгуначных станцый |

### МЕЖЫ

 дзяржаў

 абласцей

 раёнаў

 заказнікаў

### ШЛЯХІ ЗНОСІН



Чыгункі, чыгуначныя станцыі, прыпыначныя пункты

Аўтамабільныя дарогі

 Аўтамагістралі

 з удасканаленым пакрыццём

 з пакрыццём

 без пакрыцця

 Грунтавыя дарогі

 Палявыя і лясныя дарогі

 Масты, плаціны

**Скарачэнні, прынятыя на картах раёнаў**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| вдсх. | вадасховішча | запав. | запаведнік | Нов. | Новы |
| Верх. | Верхні | кан. | канал, канава | р-н | раён |
| вобл. | вобласць | Красн. | Красны | Стар. | Стары |
| воз. | возера | Мал. | Малы | Чырв. | Чырвоны |
| Вял. | Вялікі | Ніж. | Ніжні | | |

абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
быт. — бытавы
в. — вёска (пры назве ў адз. ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі

гарсавет — гарадскі Савет
гасп. — гаспадарчы
гв. — гвардзейскі
геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве ў адз. ліку)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)
засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — кааперацыйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н.с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р.п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве ў адз. ліку)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік

*сапр. — сапраўдны*
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
СВК — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў
СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве ў адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
стараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк.— царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр.— яўрэйскі

## ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**ГАРАДЫ І ВЁСКІ БЕЛАРУСІ**

Энцыклапедыя

Том 8

МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

Кніга 1

Рэдактары: *В.В. Грынявецкі, В.А. Кавальчук, Ю.У. Каласоўскі, Дз.В. Кашавар, Л.В. Кірыленка, І.Б. Клепікаў, В.М. Лапцева, С.У. Несцярэнка, М.Г. Нікіцін, Т.І. Нішт*

Мастацкае афармленне
*Н.У. Кузьмянковай* пры ўдзеле *Р.У. Кондрада, М.Г. Раманенкавай*

Мастацкія рэдактары: *І.А. Грынь, М.Г. Раманенкава*

Картографы: *А.А. Лукашоў, Г.Р. Шыкунова*

Літаратурныя рэдактары: *В.М. Лапцева, Д.Дз. Лемехава*

Карэктары: *В.А. Кульбіцкая, Д.Дз. Лемехава, Т.І. Нішт, В.М. Чудакова*

Камп'ютэрны набор: *Н.М. Зубкевіч, Т.М. Саленік*

Камп'ютэрная вёрстка *А.Л. Шалканаўцавай*

У выданні выкарыстаны гістарычныя звесткі аб населеных пунктах, якія прадставілі: *Я.К. Анішчанка, А.Р. Бухавец, В.В. Гарбачова, В.Ф. Голубеў, Л.С. Іванова, А.Г. Каралёва, У.П. Крук, С.А. Кузняева, П.А. Лойка, М.А. Марцюхова, У.І. Пашкевіч, М.Ф. Спірыдонаў, А.М. Філатава, З.В. Шыбека*



Падпісана да друку 09.06.2010. Фармат 84×108[1]/[16]. Гарнітура Пецярбург. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 77,28. Ул. выд.-арк. 74,59. Тыраж 2000 экз. Заказ 208.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009. Зав. Калініна,16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку». ЛП № 02330/0494156 ад 03.04.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ISBN 978-985-11-0520-1

